# Пiлiп Пестрак

## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ПЯЦІ ТАМАХ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

# Піліп Пестрак

ТОМ

4

СЕРАДЗІБОР

Раман

Рэдактар тома

Я. Р. ЛЕЦКА

Падрыхтоўка тэксту і каментарыі

С. В. ЗАБРОДСКАЙ

МІНСК

«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

1985

Бел 2
П 28

**Пестрак П.**

П 28 Збор твораў. У 5-ці т. Т. 4. Серадзібор. Раман.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 432 с., 4 л. іл.

У пер.: 1 р. 90 к.

У чацвёрты том Збору твораў Піліпа Пестрака ўваходзіць раман «Серадзібор».

П $\frac{4702120200-147}{М 302(05)-85}$ падпіснoе

ББК 84Бел7
Бел2

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## Раздзел першы

### ВЫПАДКОВАЯ СУСТРЭЧА

Гэтыя тры чалавекі сустрэліся выпадкова ў купэ пасажырскага поезда ў Маскве. Адзін — шчуплы, сярэдняга росту і сярэдніх год, з простым адкрытым тварам. З яго шэрых вачэй, здаецца, увесь час не сыходзіла шчырая ўсмешка. Ён увайшоў у купэ і застаў там грамадзяніна ў ваенным мундзіры без пагонаў, які сядзеў пры століку і чысціў акуляры. Абодва пасажыры некаторы час сядзелі моўчкі і, як гэта бывае, непрыкметна аглядалі адзін другога. Прыцемак асядаў у вагоне і ў наваколлі. На пероне на пасадку спяшаліся людзі. Радыёрупар гучаў у аддаленні і даносіў весткі аб удалай бамбёжцы Берліна.

Дагаралі апошнія дні вайны...

Пасажыры ў купэ слухалі паведамленні з рупара ў нейкім глыбокім, насцярожаным маўчанні. У кожнага ў адзін гэты момант прайшло праз душу ўсё тое цяжкае, гаротнае, што перажыла ўся краіна за вайну. І пад гэтыя набалелыя глыбіні цяпер падплывала ўжо к сэрцам асвяжаючым струменьчыкам радасць.

Недзе з самага пачатку поезда прабралася ў купэ святло, і кожны ўбачыў адзін другога змякчэлым, лагодным на твары. Тады шчуплы грамадзянін, што прыйшоў другім, нешта заўважыў у сваім акулярыстым суседзе. Бо прыўстаў і загаварыў:

— Выбачайце, ці не будзеце вы Жарнавік?

— Так, я — Жарнавік. А вы, калі не памыляюся, таварыш Кляновіч?

— Правільна. Пазналі,— адказаў Кляновіч і працягнуў руку.

Пасля прывітання Жарнавік сказаў:

— Я вас адразу пазнаў, але, як кажуць, з начальствам...— і ўсміхаўся.

— Ну што вы? Глупства... Ды я ўжо і не начальства.

Жарнавік зірнуў на Кляновіча, але запытаць, чаму і як, не адважыўся. Гэта адчуў Кляновіч:

— Зараз я вам раскажу...

Поезд рушыў, і разам з тым Кляновіч пачаў расказваць... Але тут жа дзверы расчыніліся і праціснуўся з чамаданам задыханы, спатнелы малады чалавек у паношаным цёмна-сінім асеннім паліто і такога ж колеру капелюшы. Ён, нават не зірнуўшы на пасажыраў, знайшоў свой палок, засунуў чамадан высока ў бакоўку, туды ж паклаў паліто і капялюш і, абцягваючы цёмна-сіні пінжак, сеў побач з грамадзянінам у акулярах.

Вочы Кляновіча сустрэліся з вачыма маладога чалавека, у якога русыя, крыху хвалістыя валасы былі зачэсаны назад.

— Каго бачу? — аж ускрыкнуў Кляновіч.— Ці ж гэта ты, Платон Грушка?

— Я... Я... Павел Кандратавіч...— адказаў пачырванелы, узрадаваны Грушка. Ён устаў і павітаўся з Кляновічам.

А Кляновіч, у сваю чаргу, звярнуўся да Жарнавіка, жэстам паказваючы на Грушку:

— Прапаную вашай увазе... Мой малады акадэмік, як я яго называю, аспірант Платон Грушка... Гэта будзе здольны аграном. Сустрэліся мы з ім і пазнаёміліся ў час вайны ў Омску. Ён там канчаў сваю сельскагаспадарчую адукацыю, свой апошні практычны год. Цяпер піша дысертацыю. Я — яго кіраўнік па дысертацыі...

— Хопіць, Павел Кандратавіч, хопіць,— пачаў прасіць Грушка.— Нашто вы?..

— Ах, вось як! — усклікнуў Жарнавік і, паправіўшы акуляры, пільна глянуў на Грушку. Потым устаў і ветліва паціснуў яму руку.— Вельмі рад... Вельмі рад... Журналіст Жарнавік.

Пасля гэтага радаснага знаёмства выпадковая тройка на момант змоўкла.

Ужо звечарэла. Поезд імчаў праз ноч на захад...

Пасля кароткага маўчання Кляновіч устаў і шчыльна

зачыніў дзверы, потым, расхінуўшы пінжак, зняў гальштук і павесіў яго на вешалачку.

— Раю і вам расшпіліцца. Ноч наперадзе, дарога яшчэ далёкая,— сказаў Кляновіч.

Сябры паслухаліся яго парады.

— Што ж, таварышы...— пачаў Кляновіч і, звяртаючыся да Грушкі, дадаў: — Я вось хацеў расказаць Аляксею Сцяпанавічу гісторыю сваіх перамен у жыцці...— пры апошніх словах Кляновіч усміхнуўся.— Але давайце будзем вячэраць і адначасова расказваць. Згода?

Вядома, усе згадзіліся, і кожны палез у свой чамадан, каб дастаць адтуль маскоўскага хлеба, атрыманага на картკі, бляшанку рыбных кансерваў і іншыя «прысмакі», каму дзе што ўдалося дастаць. Кляновіч, напрыклад, палажыў на стол вэнджанага селядца, Грушка — кавалак салёнай кеты, а Жарнавік — кавалак каўбасы і пяць цыбулін, купленых на рынку.

Кляновіч, апрача таго, паставіў на столік бутэльку «маскоўскай».

— Я пастараюся расказаць вам як мага падрабязней,— пачаў ён.— Вы, таварыш журналіст, можа, калі-небудзь гэта апішаце. Тры гады, як вам вядома, я працаваў наркомам сельскай гаспадаркі... Працаваў як мог. Як кажуць, ад душы... І вось: век жыві, век вучыся і дурнем памрэш. Я, аказваецца, быў такі наіўны, што ніколі не думаў, каб людзі фальсіфікацыяй маглі здабываць сабе славу...

Жарнавік паварушыўся і адкінуўся да сцяны, відавочна заінтрыгаваны. Расказ Кляновіча набіраў цікавасці.

Жарнавіку пачынаў падабацца гэты чалавек з сялянскім тварам, які ў расказе выліваў свае скаргі на незаслужаную крыўду.

Платону Грушку справа Кляновіча была крыху знаёмая, хоць і здалёк, таму ён слухаў і маўчаў.

Кляновіч гаварыў:

— А ўсё праз гэтую дысертацыю.

— Дысертацыю? — спытаўся Жарнавік і, папраўляючы акуляры, вымавіў адзін гук: — Гм...— і дадаў: — Цікава...

— Так. Яна, дысертацыя, напісана на тэму: «Аб урадлівасці глебаў БССР». Мне думаецца, што такая кніжка патрэбна для Беларусі, як паветра. Аднак... Камусьці гэта не спадабалася — і пачаліся подступы.

— Якія?

— А такія... Быў склікаваны форум...— Пры апошнім

слове Кляновіч усміхнуўся.— Прыйшлі прафесары, кандыдаты — ну, вядома, і я. І пачалі. Большасць выказвалася, па сутнасці, за кнігу, хоць і ў абцякаемай форме. Толькі адзін слініў... Казаў, што кніга не вытрымлівае крытыкі.

— Ну, і ўрэшце што з кніжкаю? — запытаўся Жарнавік.

— Што? Захрасла. Да друку не дайшла. Што ты зробіш,— і Кляновіч развёў рукамі.

Потым ён расказаў, як выйшлі з гэтай прафесарскай нарады на вуліцу. Была ўжо ноч. Падышоў да яго акадэмік Капля — выдатны вучоны па сельскай гаспадарцы. Ён крануў Кляновіча за плячо і паціху сказаў: «Які вы дзіўны чалавек, які вы наіўны! Вы так і не здагадаліся, што каму трэба... А трэба, каб вы ў сваёй кніжцы напісалі, што ў леташнім годзе ўраджайнасць на палях рэспублікі пабольшала на столькі-та працэнтаў у параўнанні з пазалеташнім. І ўсё было б у парадку. А вы ўчапіліся за гэтае Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне...»

— Паверце, я анямеў ад такой нечаканасці, доўга маўчаў і думаў — няўжо гэта ўсё так? Потым дома не спаў, разважаў і прыйшоў да вываду, што акадэмік Капля разгадаў сакрэт...

— Так... гм... сакрэт...— павольна і неяк панура сказаў Жарнавік. Па твары яго прайшлі цені. Ён крэкнуў і аблакаціўся на стол. У вачах бліснулі злавесныя агеньчыкі.— Едзьце ў Маскву і ратуйце кнігу! — рашуча сказаў ён.

— Вось заеду на месца прызначэння, і тады...

— На якое прызначэнне?! — ускрыкнулі адначасова і Жарнавік і Грушка.

Кляновіч сказаў, што едзе цяпер з Масквы, з ЦК, дзе прапанавалі яму пасаду першага сакратара абкома на Паволжы. Але ён папрасіў, каб не зрывалі з Беларусі, што ён, як аграном, хоча свае веды аддаць той зямлі, якую найлепш ведае. «Лепш пайсці на паніжэнне, чым пакідаць, будучы аграномам, сваю зямлю». З ім ахвотна згадзіліся. І вось Кляновіч, які скончыў Ціміразеўскую акадэмію, едзе ў адзін з абласных цэнтраў рэспублікі на пасаду загадчыка аблза — пайшоў на паніжэнне. Так дамовіліся з кіраўніцтвам у Маскве.

Нягледзячы на тое, што крыўда раз-пораз загаралася ў душы Кляновіча, яго цешылі перспектывы, што вось ён зоймецца даследаваннем глебаў; што будзе арганізоўваць севазвароты, адкрываць розныя курсы; што ён наладзіць справу ўпарадкавання гною; што ён едзе ў такую вобласць,

дзе яшчэ не звялася мясцовая чырвоная парода кароў, аб якой Кляновіч даўно думае; што гэтую пароду няслушна закінулі; што ў свой час знаходзіліся і такія разумнікі, што ў мэтах падрыву прадукцыйнасці жывёлагадоўлі гэтую пароду назвалі «нацыяналістычнай».

— Гэтая пародка — гэта наша гісторыя. Прыстасавацца да саламянай трасянкі, да кіслых траў, да мокрых лугоў і даваць малако з такім працэнтам тлушчу, што адгадаваныя ў панскіх кароўніках розныя тыролькі нават і блізка не могуць стаць упоравень,— гэта ж не жарты.

І Кляновіч адчувае ў гутарцы з сябрамі, што крыўда павoлі гасне ў яго грудзях.

Жарнавік, непрыкметна для Кляновіча, углядаецца ў яго сціплы твар з крыху задзірыстым даўгаватым носам, слухае яго павольную сялянскую гутарку і радуецца, што вось ён, Кляновіч, выхадзец з беларускай земляробчай масы, скончыў «ціміразеўку», меў шчасце слухаць лекцыі вялікіх вучоных-патрыётаў і цяпер гарыць жаданнем палепшыць зямлю Беларусі.

— Вы яшчэ маладыя,— гаворыць яму Жарнавік.— Вы яшчэ сваё дакажаце. Калі вы не паехалі на Паволжа, вы нічога на гэтым не страцілі.

— Можа быць, можа быць...

— Ну і, вядома, пра кароўку чырвоную не забывайце,— уставіў сваё Грушка.

— Акадэмік Капля моцна стаіць за гэтую кароўку. Давайце вып'ем за яе! — падняў чарку Кляновіч.

І сябры чокнуліся.

За акном цямнела вясновая ноч. З-за прарэджаных хмар часам на адно імгненне выбліскваў месяц, каб потым схавацца зноў і даць цемры панаваць над прасторамі.

Поезд ішоў сваёй аднастайнай хадою, і закалыханыя пасажыры, здаецца, забылі пра яго.

— Бачыў я Каплю,— сказаў Грушка.

— Бачыў? — схамянуўся Кляновіч.— Ну і што?

— Сустрэўся з ім на вуліцы, якраз перад гасцініцай «Масква». Ён мяне зачапіў першы, паклікаў: «Грамадзянін Грушка». Павітаўся і падхапіў пад руку...

— Гэта ў яго прывычка,— дадаў Кляновіч,— браць пад руку, гутарыць. Але ён не кожнага бярэ пад руку. Ёсць у нас такі кандыдат у кандыдаты сельскагаспадарчых навук — Зашчаміла. З ім ён гаворыць толькі нахмурыўшыся. Як сапраўдны пракурор... Выбачай, што перабіў,— звярнуўся Кляновіч да Грушкі,— расказвай далей...

Гутарка гэтых аграномаў пачынала цікавіць, уцягваць і Жарнавіка. Усё больш і больш сталі праяўляцца перад яго вачыма іх, аграномаў, спецыфічныя справы. Ён пачынаў адчуваць іх атмасферу, сваімі думкамі ўключаўся ў плынь адкрытай, жвавай гутаркі былога ціміразеўца і нядаўняга студэнта Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

— Вельмі хваліў Капля маю тэму для дысертацыі. «Юнача, вы на харошай дарозе, тэма, выбраная вамі,— небывалая, скажу вам. Жадаю поспеху... Хочацца ў вас верыць. А вось Зашчаміла піша дысертацыю: «Заканамернасці каровячай жвачкі». Вы сябе паказалі ў акадэміі як таленавіты студэнт... Я помню, помню...» Я пачаў пратэставаць супроць такой пахвальбы, а ён усміхнуўся і, панізіўшы тон, сказаў: «Ну-ну, не буду, не буду...» Захапіўся стары... Працягнуў руку на развітанне, спытаўся, дзе жыву...

— Можна ведаць канкрэтна, на якую тэму вы пішаце дысертацыю? — спытаўся Жарнавік.

— Тэма? Рух і пераўтварэнне супескаў на Беларусі.

— І я скажу ўслед за вашым Капляй — небывалая тэма. Гэта геалагічна-геахімічна-агранамічная тэма... Так?

Грушка спыніў позірк на Жарнавіку з адценнем здзіўлення і прытакнуў кіўком галавы. Кляновіч, глянуўшы на Грушку, даў, як кажуць, даведку:

— Аляксей Сцяпанавіч мае шырокія агранамічныя веды... Так што мы можам лічыць і яго аграномам.

— Згода, згода...— жартаваў і Жарнавік і, звярнуўшыся да Грушкі, сказаў, расцягваючы словы, зноў-такі пра дысертацыю:

— Ваша дысертацыя складаная і генеральная.

— Вось бачыце, як ён нам...— прамовіў, усміхаючыся, Кляновіч і закруціў галавою.— Нічога, наша возьме, мы з беларускай зямлі яшчэ не тое зробім. Куды ж цяпер, студэнт? — звярнуўся ён да Грушкі.

— Еду з Омска ў свой Серадзібор. Там жыве маці, трэба адведаць. Там, думаю, і скончу дысертацыю... І наогул, хочацца пабачыць Беларусь пасля вызвалення...

— Пахвальна,— сказаў Кляновіч.— Калі будзе якая замінка ў працы, прыязджай да мяне.

Сябры яшчэ доўга гаварылі пра ўсялякія справы. Жарнавік расказаў, як ён адведваў свой палітаддзел арміі ў Маскве, дзе ён служыў ваенным карэспандэнтам. Ён ужо дэмабілізаваны і таксама едзе дахаты ў Мінск, каб потым адведаць спаленую вёску і маці з сям'ёю. Гаварылі, што

хутка канец вайны, пра вялікую работу аднаўлення. Ляглі адпачыць і хутка заснулі — кожны з цёплымі надзеямі на будучыя дні.

* * *

Поезд, не спяшаючыся, стомлена рухаўся — набліжаўся да Беларусі. З Мінска ён пойдзе далей на захад. Напэўна пойдзе. Бо ён ужо сапраўдны пасажырскі, з далёкім маршрутам на захад, вязе людзей па адноўленай пасля вайны чыгунцы, усюды праверанай і дагледжанай. Небяспека бамбёжак адышла далёка. Фашысцкага звера грамілі ў яго логаве — у Берліне.

Толькі па абочынах яшчэ сустракаліся ямы-варонкі, асабліва на балотных месцах, дзе яны былі поўныя вады. Дзе-нідзе валяліся, яшчэ не падабраныя, тэлеграфныя правады.

Поезд ішоў па расчышчанай ад вайны дарозе...

Толькі станцыі тырчалі абломкамі сцен, змрочным голлем абгарэлых прысад. На іх садзіліся панурыя адзінокія вароны. У гарадах відпеліся пратаптаныя сцежкі на гурбах руін, яны ішлі да станцыі ў глыбіню горада сярод абгарэлых сцен і «каробак» з прабоінамі вокан.

Вайна ўжо далёка, можна спакойна паглядзець на свет з вагоннага акна, паглядзець на сваю любімую, цярплівую і гераічную радзіму, на прасторы — то ў лясных гушчарах, то ў лугавых палянах, то ў знаёмых, здаецца, да кожнага пагорка палях, што аддаляюцца да лясных небасхілаў.

Рух поезда адчуваецца па лёгкім, нетаропкім перастуку на стыках рэек. Такі яго рух закалыхвае, супакойвае. І гэта не дзіва. За вокнамі — на палях і над лясамі —ззяе пагодлівы сонечны дзень. Адзіночныя белыя хмаркі застылі ў праменнях сонца — яны не хочуць плысці, яны хочуць разам з людзьмі пацешыцца сонцам, якога ўжо не засцілае парахавы дым...

Сонечны дзень. Першыя подыхі ўжо сапраўднай вясны, калі лісце на дрэвах і кустах, каб сустрэцца з сонцам, выплыла напалавіну. Шыбіны ў вокнах нагрэтыя, і праз іх у вагоны не сочыцца, а льецца вясняная сонечнасць. Людзі ахвотна падстаўляюць сябе гэтым праменням, каб адчуць іх лагодную цеплыню.

Прайшоўшы праз вялікую рускую раўніну, поезд набліжаўся да Смаленска. Кляновіч ужо не спаў. Як толькі

адчуў, што сцішаецца ход, устаў і зараз жа пабудзіў Жарнавіка і Грушку, якія яшчэ драмалі. Чацвёрты пасажыр не прыйшоў, і адзін палок пуставаў.

Поезд спыніўся перад часовым вакзалам, пабудаваным з круглага бярвення. Кляновіч, гледзячы ў акно крыху здалёк, нават ускрыкнуў:

— Хлопцы, гляньце на Смаленск!

І тры галавы стуліліся, прыпаўшы тварамі да шыбіны.

Вачам адкрыўся спустошаны дарэшты горад. Толькі царква на гары панавала над суцэльным наваколлем руін, сярод якіх нават не тырчала абломкаў сцен. Руіны, ціхія, спакойныя, грэліся пад сонцам.

Дзе-нідзе паміж гурбаў цэглы цягнуліся непрыкметна, як з-пад зямлі, кучаравыя дымкі. Там у цагляных бакоўках знайшлі сабе прытулак людзі.

Сябры, як ашаломленыя чымсьці, углядаліся ў поле руін гераічнага Смаленска — гэтую гістарычную браму на Маскву, як назвалі горад генералы-стратэгі яшчэ ў першую Айчынную вайну. А вось сляды другой вайны — таксама Айчыннай... Біліся тут, сплывалі крывёю савецкія дывізіі пад чырвоным сцягам сярпа і молата, біліся з драпежным фашыстам — і Смаленск некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі...

Тры галавы не адрываліся ад акна ў нейкім пафасным маўчанні. Урэшце прагучаў гудок у дарогу. Сябры яшчэ больш прыпалі да шыб, каб агледзець да канца панараму руін.

Перад акном вагона не мільгалі вокны з фіранкамі, не звісалі над бляшанымі стрэхамі зялёналістыя галіны дрэў, як гэта было да вайны, не цешылі вачэй акуратныя пафарбаваныя плоцікі — вочы бачылі прастору ▪ наваленай, пабітай, пакрышанай цэглай, з-пад якой сям-там вытыркаліся то жалезная рэйка ад столі, то драцяныя пераплёты, то пагарэлыя, пакарэжаныя жалезныя ложкі... Вочы без перашкод сягалі далёка за руіны — за ўвесь Смаленск.

...Поезд мінуў Краснае, з размаху ўварваўся ў лес, і пад адхонам застракацелі маладой зелянінай бярозавыя кусцікі. Яны выскачылі з лесу і, як тыя малыя дзеці, усміхаліся поезду.

— Палосы партызанскія зарастаюць патроху...— сказаў, як сам сабе, Кляновіч, гледзячы ў акно.

— Тут знікаюць сляды гітлераўскай работы... Не ўдалося...— абазваўся задумна Жарнавік.

Лес мінуўся. Пачаліся забалочаныя хмызы, з якіх яшчэ

не сыпла вада. Усе трое глядзелі на іх нахмурана, нездаволена.

— Зямля наша чакае вялікага ўпарадкавання,— сказаў Грушка такім тонам, нібы дакараючы каго.

— Чакае...— адазваўся Кляновіч.— Яна яго жадае. Добра, што ты малады, а ўжо хварэеш за зямлю. А ёсць такія, якіх у партызанах празвалі тарбахватамі...

Кляновіч чагосьці не дагаварыў і, махнуўшы рукою, зноў пачаў глядзець у акно...

Прыехалі ў Мінск. Ён з перспектывы выглядаў, як нейкая Пампея. Малая розніца ў руінах са Смаленскам. Тут больш тырчала абсмаленых, абламаных сцен, горы пакрышанай цэглы таксама запаўнялі двары і вуліцы...

З поезда сышоў толькі адзін Жарнавік. Кляновіч мог бы таксама сысці, бо сям'я жыла ўжо ў Мінску. Але... у душы закрэп гнеў. Не хацелася пакуль што бачыцца ні з кім. Спярша хацеў уладкаваць свае новыя службовыя справы на новым месцы, а тады будзе чарга і на справы сямейныя.

Поезд ужо далёка адышоў ад Мінска. Кляновіч стаяў у калідоры вагона і праз акно пільна ўглядаўся ва ўсходы жыта, якія зялёнымі лапінамі праплывалі прад вачыма. Глядзеў на роўнядзь, на ўзгоркі, даліны, пазарастаныя бур'янам, запушчаныя за час вайны. Прыйшло на памяць слова — упарадкаванне. Кляновіч усміхнуўся сваім думкам і сам сабе сказаў: «Нічога, зямля, яшчэ ты падружыш з маёй дысертацыяй...»

А поезд нібы падхопліваў і нёс гэтыя думкі разам з гаспадаром усё на захад і на захад...

## У ШУМЕ АДНАЎЛЕННЯ

Гэтае «свята», па сутнасці, пачалося яшчэ ў лясной гушчэчы, калі толькі што адгрымелі апошнія раскаты вайны на Беларусі і ачышчаная ад гітлераўцаў зямля натужвала свае жылы і, здаецца, упершыню набірала паветра ў свае стомленыя грудзі.

Вайна пакацілася на захад — з бразганнем танкаў, з пранозлівым гулам самалётаў, свістам і разрывамі бомбаў, да якіх ужо нават дзеці былі папрывыклі, з шумам грузавікоў з салдатамі, матацыклаў і іншых машын — адкрытых і закрытых,— так, што на магістралі ад Масквы і аж

да Брэста цягнуўся гэты бясконцы паход. І калі па якой-небудзь прычыне спынялася адна машына, паступова спыняліся ўсе — адна за другой, як звенні аднаго ланцуга... Тады абочынамі прарываліся наперад машыны з генераламі. На цьмяных зігзагах пагонаў значыліся зорачкі — у каго адна, у каго дзве і тры. А на скрыжаванні шашы-магістралі з другімі дарогамі стаялі дзяўчаты-рэгуліроўшчыцы ў салдацкіх гімнасцёрках і пілотках і сваім пярстомпалачкай у дзявочай руцэ камандавалі гэтым магутным патокам машын і людзей. Кожны салдат ці афіцэр — усё роўна — праводзіў вачыма па такой рэгуліроўшчыцы з усмешкай. А сёй-той не выцерпліваў і кідаў уголас:

— Грабеньчык папраў, бо зараз упадзе!

Дзяўчына акідвала (нават грозна) вачыма салдат, але ўсё ж ніяк не магла схаваць усмешкі і, уміг паварочваючыся на адной пяце ў другі бок, усё-такі дакраналася рукой да грабеньчыка.

Вось тады і надышоў час канчаць лясную барацьбу — трэ было расфарміроўваць партызанскія злучэнні. З таго дня і пачалося тое калгаснае свята, якое можна было б назваць вяртаннем да сваіх мірных вогнішчаў. Вядома, не ўсіх. Бадай што палова самых дужых пайшла з фронтам на захад, а ўся рэшта — на мірны фронт, да фабрык, заводаў, а ў першую чаргу да зямлі, па якой затужылася душа народа. Не вярнуліся зусім і не пайшлі на фронт тыя, што загінулі...

Нялёгка было заваяваць гэтае свята. Усе былі рады, што вярнуліся на сваё селішча, да пакінутых амаль тры гады таму назад хат. Вядома, вярталіся людзі, але не ўсе... Так было і ў Серадзібары. Вяртаўся той, хто быў у лесе з партызанамі. Былі і такія, што пры набліжэнні нашай арміі адыходзілі разам са сваімі панамі — уцякалі на захад. Такіх было нямнога, але... былі.

Паліцэйскі ўчастак месціўся ў былой старой карчме. Яна падабалася паліцаям тым, што была вялікая, даўжэзная, мела адзін вялікі пакой з доўгім сталом на покуце. Ля сцяны пры дзвярах месціўся стаяк для вінтовак. Тут паліцэйскае начальства рабіла першыя допыты затрыманых людзей. За печчу былі два невялікія пакоі. У адным сядзеў камендант гарнізона Мацей Гусак. Яго адны рыжыя шчацiністыя валасы, як людзі казалі, нагадвалі чорта з пекла. А калі паварушваў рыжымі навіслымі брывамі і з-пад іх паводзіў пачырванелымі ад самагону вачыма, затрыманыя людзі чакалі чарговага паліцэйскага пачастун-

ку — кулака па скіўіцы. Пры гэтым агрызак гітлераўскай эрзац-сігарэты ўсё роўна вісеў на губе, як прыклееены,— не падаў.

Другі, меншы, пакойчык быў адведзены пад катоўню. Адтуль паліцаі прабілі дзверы ў хлеў, куды і кідалі звязаныя ахвяры пасля катавання. У гэтым пакойчыку заўсёды размяшчаліся эсэсаўцы, калі прыязджалі начаваць. І яшчэ адным колішняя карчма дагаджала паліцаям. З яе праз сенцы быў уваход у цёмную камору са склепам. У каморы паліцаі хавалі сваю амуніцыю, у прыватнасці патроны, а ў склеп кідалі самых небяспечных для іх — асабліва калі трапляў у рукі партызан.

Пасля вызвалення зямлі ад гітлераўскай нечысці не ўсе паліцаі, кажучы проста, уцяклі з гітлераўцамі. Некаторыя за два-тры тыдні да прыходу Савецкай Арміі, а некаторыя і раней, перайшлі ў лагер партызан. Не многа яны што зрабілі там, каб ачысціцца ад ганьбы,— ды ім і не было давер'я. Але хто з іх больш злачынца, хто менш, партызаны пакінулі на вырашэнне часу. Сярод такіх, якія не ўцяклі з гітлераўцамі, а асталіся, быў і дзяцюк год трыццаці Міхась Гойдала-Гайдалевіч, які нават даводзіўся нейкім далёкім родзічам рыжавалосаму Мацею Гусаку. Усе думалі, што Гусак уцёк з гітлераўцамі, як і трэба было чакаць, але потым аказалася, што ён па нейкіх прычынах не здолеў уцячы і хаваўся дзе толькі мог — па хутарах і па лесе.

Першы, каго сустрэў Платон Грушка на царкоўнай плошчы ў Серадзібары, быў іменна Міхась Гойдала-Гайдалевіч. Вышэй сярэдняга росту, у доўгім паношаным шэрым асеннім паліто, ён стаяў на плошчы з засунутымі ў кішэні рукамі і пазіраў навокал. Цераз плячо вісела рамённая торба, з якою пачалі часта бачыць Гойдалу, а потым і адгадалі яе сакрэт. У торбе заўсёды ляжала адна або дзве бутэлькі самагону, кавалак сала з хлебам. Міхась Гойдала лавіў патрэбных яму людзей і клікаў у чайную або і проста да знаёмага ў хату. Большасць такім чынам злоўленых, вядома, ішла на Гойдалава запрашэнне. Бо чаму ж не выпіць, калі чалавек прапануе, тым больш што Міхася Гойдалу не чапаюць органы бяспекі, а значыць, ён у парадку перад людзьмі. Але пранізлівы позірк Гойдалы спыняўся найбольш на аўтарытэтных людзях. Сярод іх ён шукаў патрэбных сабе. Ад іх многа залежыць — трэба наладзіць з імі добрыя адносіны. Яго трохмесячны побыт у партызанах, ён лічыў, дае яму права набліжацца да такіх

людзей. Трэба сказаць, што Гойдала ў гэтых «набліжэннях» меў некаторы поспех.

Платон Грушка даведаўся ад сваёй маці, што павінны прыехаць з раёна сакратар райкома Малашкін Сцяпан і старшыня райвыканмома Бабёр Харытон, каб аднавіць калгас.

Падзея вельмі важная не толькі для Серадзібора, але і для ўсяго раёна, бо Серадзібор выбраны першым калгасам для аднаўлення, а значыць, каб даць прыклад усім вёскам.

Гойдала ўсё стаяў, пазіраў то ў адзін бок, то ў другі, але не мог ніяк доўга спыніцца вокам на царкве, якая месцілася крыху на ўзвышшы сярод бярозаў і таполяў. Як толькі гляне на званіцу — зараз жа адводзіць вочы ўбок. Чагосьці баяўся ён. Можа, таго, каб хто не адгадаў яго думак і не падышоў і не прыпомніў, як ён, Гойдала, памагаў Мацею Гусаку цягнуць кулямёт на званіцу, што павінен быў страляць у партызан і ў насельніцтва. Урэшце страх авалодаў Гойдалам, і ён скрануўся з месца — падаўся да чайной.

Платон Грушка ішоў у цэнтр па пясчанай вуліцы, якая выходзіла на таксама пясчаную плошчу.

— А, Платон Максімавіч! — ускрыкнуў Гойдала, сутыкнуўшыся пры ўваходзе ў чайную з Грушкам. Нават улёт і кепку зняў, якая сядзела на яго высокай галаве як блін — ужо старая, заношаная.

Серадзібор не быў раённым цэнтрам. Чайная ў ім з'явілася яшчэ перад вайною, бо Серадзібор — вялікае сяло, свайго роду падмястэчка. А галоўнае — Серадзібор быў адным з перадавых калгасаў, падаваў надзеі ў сваім росце.

Сюды часта наведваліся партыйныя і іншыя работнікі не толькі з абласнога цэнтра, але і з самой сталіцы. Сюды ахвотна прыязджалі нават акадэмікі — прачытаць лекцыю аб меліярацыі, аб культуры канапель і іншым. Тут намерваліся нават пабудаваць гасцініцу. Яна, вядома, была, але ў звычайнай сялянскай хаце. У дадатак да ўсяго недалёка ад Серадзібора, можна сказаць, на ўскраіне, праходзіла вузкакалейка, а пры ёй у лясным гушчары за тры кіламетры пачаў працаваць лесапільны завод. У былым маёнтку пана Пагарэльскага, таксама недалёка, працавалі курсы трактарыстаў.

Вось чаму і адбылося рашэнне раённых і вышэйшых улад — адкрыць у Серадзібары чайную, каб людзям, што сюды прыязджалі, было дзе паесці.

Адкрылася чайная і пасля вызвалення Беларусі ад гітлераўцаў. Тут, вядома, былі спецыяльныя намаганні раённых улад, каб вярнуць Серадзібору яго даваенную славу. З яго ж рашылі пачаць і аднаўленне калгасаў у раёне.

Платон Грушка крыху сумеўся ад сустрэчы з Гойдалам і на момант разгубіўся. Але калі чалавек працягвае руку, нельга ж яму не падаць сваю.

— Добры дзень, добры дзень!..— адказаў Грушка.— Даўно не бачыліся, Міхась Васільевіч. Ну, як жывецца?

— Ды вось чакаем сакратара з раёна. Трэба ж нейкі лад рабіць з зямлёю. Сяўба на носе.

— Трэба,— адказаў Грушка.— Вось я таксама іду на сход. Значыць, сакратара райкома яшчэ няма?

— Людзі ўжо сядзяць у праўленні,— праінфармаваў Гойдала і ў тракце гэтай даведкі ледзь не спаткнуўся. Ах, каб яго... Замест праўлення хацела сарвацца з языка «ў камендатуры». У былой жа карчме была яна, гэтая, так знаёмая Гойдалу, камендатура, а цяпер там будзе праўленне калгаса. Так ужо намечана. І большасць людзей на пытанне, дзе адбудзецца сход, казала — «у праўленні», толькі некаторыя старыя яшчэ па звычцы казалі — «у карчме», бо некалі сходы сапраўды адбываліся ў гэтым сельскім «вінапольным завядзенні».

Так вось і сталі перад ганачкам гэтай запаветнай чайной, сустрэўшыся, Гойдала і Грушка, аж пакуль першы не сказаў:

— То чаго ж мы будзем стаяць? Зойдзем у чайную. Сёння піва прывезлі.

Піва яшчэ было навінкаю. Пасля ўцёкаў гітлераўцаў яно з'явілася ў Серадзібары першы раз.

Грушка, нейкі задуманы, зірнуў з-пад капелюша на невялічкую блакітную шыльдачку з чырвоным словам «Чайная». Спыніў на хвілінку вочы на белым чайнічку, што фыркаў з дзюбкі дымком на літару «Ч», і працягнуў руку да сходак, запрашаючы Гойдалу ісці першым.

У даволі прасторнай чайной за буфетным прылаўкам стаяла чырванашчокая Алеся, былая баявая партызанка-разведчыца. На яе высокіх грудзях, шчыльна атуленых цёмна-зялёнай кофтай з белым каўнерыкам, вісеў партызанскі медаль першай ступені. Белай наколкі з карункамі яна яшчэ не мела — на галаве з залацістымі валасамі была жаўтаватая хустка ў зялёныя кветкі, завязаная вузлом на патыліцы.

Пры ўваходзе ў чайную шэра-бурыя вочы Гойдалы не-

прыкметна каўзнуліся па Алесі. Ён, не спыняючыся, накіраваўся ў далейшы куток, ведучы за сабою Грушку.

Алеся, сваім чынам, павольна, нават здзіўленымі вачыма, правяла гэтую пару, і нешта нервовае перасмыкнула яе твар. Вярнулася да свае працы, узброіўшыся нажом.

У чайной сядзела мала людзей, і яны больш раздумвалі — хто над чаем, а хто над куфлем піва. Некаторыя закусвалі — відаць, рабочыя з недалёкага леспрамгаса, бо серадзіборцы стараюцца больш есці дома. Хіба толькі ў выхадныя, каб крыху, як кажуць, пабыць на людзях, ды яшчэ часам і гармонік паслухаць. Толькі амаль кожны дзень заходзіць сюды Архіп Каўдун, якога ў Серадзібары празвалі лежабокам. Ён заўсёды просіць у знаёмых закурыць або яшчэ чаго-небудзь. А калі няма нагоды — стаіць ля печы, залажыўшы рукі за спіну, і сціпанымі, нібы прыхаванымі, вачыма паглядае на сталы. Алеся спачатку яго выганяла, але Архіп так умеў лісліва-ласкава прасіць, што не было змогі слухаць яго маленні. Алеся махала рукою — стой, што з табою зробіш. І Архіп стаяў.

Архіп — інвалід яшчэ першай «германскай» вайны — крыху прыкультваў на адну, карацейшую, нагу. Толькі цераз гэта выбачалі яму людзі, а ён і рад старацца: у аднаго папросіць на цыгарку тытуню, у другога — паперкі, а ў чайной толькі і сочыць, каб «заатакаваць» каго-небудзь сваім жабрацтвам.

Алеся і не згледзела, як пасля нейкага дзядзькі стаў перад ёю Міхась Гойдала. Ён крыху пачакаў, пакуль яна паляскала костачкамі на лічыльніку, і нейкім упрашальным, прыцішаным тонам папрасіў:

— Дай, Алеся, пару шклянак і крыху хлеба. Вось талончык.

Тая моўчкі дала яму і шклянкі і хлеб. І зноў-такі паглядзела ўслед.

І тут якраз увайшоў нязменны Архіп і стаў на сваю «вахту» ля печы. Павесялелі яго вочы, калі ўбачыў Гойдалу і Грушку, але з месца не крануўся. А яны — Гойдала і Грушка — ужо вялі нават жвавую гутарку, гаварылі пра даўняе, старое. Між іншым, Платон успомніў, што яго маці часам расказвае, як некалі, яшчэ пры царызме, яна ганяла карову да быка да тых самых Гойдалаў і як Міхасёў бацька ніяк не хацеў пусціць быка, бо не хапала дваццаць пяць капеек да рубля.

— Старое, дурное...— махнуў рукою Міхась.

— Вось такое раней жыццё было,— кончыў успамінаць

Грушка і пасля ўстаў, каб падысці да Алесі і папрасіць піва.

— Не хадзіце, я... не хадзіце,— пратэставаў Міхась Гойдала.

Але Грушка пайшоў. Там павітаўся з Алесяй, як са сваёй, перакінуўся некалькімі словамі.

Алеся наліла два куфлі, паставіла, каб піва адстаялася, а сама перагнулася цераз прылавак да Грушкі і потайкам прамовіла:

— Чаго гэта ўчапіўся да вас гэты паліцай?.. Я ж ад яго ўцякала, хавалася пры немцах. А цяпер бачыш? Ён жа мяне бізуном біў, прымушаў, каб я вярнула бацьку з лесу. Сілаю хацелі ўцягнуць людзей у паліцаі...

Хто, можа, сказаў бы: а чаму ж гэта Алеся маўчыць, чаму не павыдзірае вачэй Гойдалу? Такія пытанні могуць быць і былі. Але, з другога боку, трэба ведаць і Алесю. Яна не належала да тых крыкух, што распінаюцца ў сварцы цераз плот да суседкі або выбягаюць на вуліцу і ўзнімаюць рукі да неба ў праклёнах. Не, Алеся такая не была. Хоць кіпела ў яе на сэрцы не раз, хоць часам скардзілася сваім блізкім і гаварыла, чаму Гойдалу не судзяць, але крычаць... не. Ісці ў райком збіралася — гэта праўда. Але стрымаў яе ад гэтага не хто іншы, як камандзір атрада, у якім яна была. Былы камандзір сказаў: «Пачакай, яшчэ паспееш... Ён жа ўсё-такі ў партызанах быў. Пра такіх — асобная гаворка...»

І Алеся паслухалася, чакала, хоць не адзін з серадзіборцаў раіў ёй не чакаць.

А сам Міхась Гойдала разумеў, што з ім могуць быць «непрыемнасці», і таму праз доўгі час жыў у сваёй цёткі, далёка, у другім раёне. Людзі доўга не ведалі, дзе ён, а бацькі Міхася казалі, што паехаў у Мінск на работу. Вярнуўшыся ў Забівачкі, Міхась гаварыў усім, што працаваў на ачыстцы горада ад бамбёжнага друзу і што цяпер гэтыя работы скончыліся.

Платон Грушка, спакойны юнак, далёкі ад мясцовых спраў, слухаў Алесю і чырванеў, сам не ведаў, што казаць і што рабіць. Душа не была падрыхтавана да пратэсту, а наадварот — да прыемнай, таварыскай гутаркі.

— Ну што ты зробіш? Няёмка пакінуць яго і пайсці... Чаму ты раней не сказала? — урэшце адказаў ён і панёс піва ў куток.

Ад печы зараз жа адарваўся Архіп і пакланіўся Грушку.

— Як здароўечка, Платон Максімавіч?
— А-а... Архіп...
Калі Грушка дайшоў да стала, Міхась Гойдала сказаў:
— Трэба гэтаму Архіпу даць чарку. А то стаіць і сліну каўтае...
А Архіп, відаць, пачуў здалёк словы Гойдалы — тут як тут, прыкульгаў да стала і стаў з усмешкай на цёмных спеклых губах.
— На, выпі за наша здароўе,— гаварыў Гойдала,— мацней стаяць будзеш ля печы.
— Каб вам здароўечка ўсюды служыла, каб вашы ручкі-ножкі...— пачаў літанію Архіп, але Гойдала перапыніў:
— От, ні... Даволі енчыць, мы ж табе не іконы якія.
Архіп выпіў. Гойдала працягнуў яму кавалак сала і хлеба.
Атрымаўшы гойдалаўскі пачастунак, Архіп пераламаўся напалавіну ў паясніцы, кланяючыся і мармычучы: «Дзякую, Міхаська».
Не паспеў Архіп стаць на сваё месца, як у чайную ўвайшоў у паношанай камандзірскай шапцы з чорным аколышам былы камандзір партызанскага атрада Васіль Чаравака. Ухабісты ў паходцы, жвавы, ён, павітаўшыся з Алесяй, патрымаў у пальцах яе медаль. Кінуўшы на хаду: «Піва»,— прайшоў у залу. Архіп не прамінуў, каб не пакланіцца і яму. Чаравака паблажліва паляпаў Архіпа па плячы і, ступіўшы крок наперад, спыніўся. Вочы яго загарэліся, на губы ўсплыла ўсмешка і застыла — Чаравака заўважыў Міхася Гойдалу. Доўга не думаючы, падышоў да яго, павітаўся, пазнаёміўся з Грушкам і, не чакаючы запрашэння, прысунуў са скрыгатам крэсла і сеў.
— Значыць, ваюем, Міхась Васільевіч? — звярнуўся да Гойдалы.— Цяжкавата было дастаць піва, але дабіліся. Каб не леспрамгас побач, не далі б...
— Мы ж... Васіль... гм... Пятровіч, здаецца, з вамі, так сказаць, ваяваць вучыліся...
— Так... было дзела... было... Помніш, як там пры вузкакалейцы... фрыцы бухнулі пад адкос...
— Дзіва што помню! Я тады ўсе патроны з аўтамата пастраляў.
Гойдала паклікаў Архіпа і загадаў, каб той прынёс яшчэ адну шклянку.
І тады стала перад Чаравакам поўная, як вока, шклянка самагону.

— Вы ўсё гаворыце, Васіль Пятровіч... Перакуліце... А то выпшыкаецца...

Васіль Пятровіч крыху прыгнуў галаву, стаў углядацца ў шклянку. Потым узяў яе ў руку, крыху прыўзняў і паставіў з прыстукам, глянуў неяк канфідэнцыяльна на Гойдалу і спытаўся:

— Што — пяршак?

— Вядома,— адказаў Гойдала, хоць ад таго першака несла, як ад памыйніцы.

Адзін узмах рукі — і шклянка апусцела. Чаравака нават і не крэкнуў, толькі некаторы час трымаў перад сабою шклянку, разглядаў яе, пакручваў, нібы дзівячыся, як гэта шклянка, што вось хвіліну таму назад была поўная горкай вадкасці, раптам стала пустая-пусценькая...

— Нічога, нічога...— урэшце пахваліў Чаравака.

Жуючы сала з хлебам, ён ужо гаварыў, што атрымаў новае прызначэнне на пасаду.

Пасля доўгай паўзы Гойдала адважыўся спытацца:

— Можна ведаць на якую?

— Можна. На пасаду другога сакратара райкома партыі. Падзяка Малашкіну. Прыехаў сюды, у Серадзібор, зайшоў у нашу кантору райспажыўсаюза і сказаў: «Ты тут працаваць не будзеш...» Вось так...

Васіль Пятровіч і не згледзеў, як перад ім стала другая напоўненая шклянка. Аказваецца, у Гойдалы ў раменнай торбе знайшлася трэцяя бутэлька смярдзюхі.

Платон Грушка пачынаў адчуваць сябе, як сам не свой — не то яму сядзець, не то ісці адгэтуль. Успомніў, што ішоў на сход, і спытаўся ў Чараваpermission:

— А сход у нас будзе?

— Не, сёння не будзе. Будзе заўтра ўвечары. Малашкіна выклікалі ў вобласць.

Грушка ўстаў.

— Дазвольце з вамі развітацца...

— Сядзелі б яшчэ...— для прыстойнасці сказаў Гойдала.— Яшчэ рана.

— Не, дзякую... У мяне работа.

Грушка пайшоў. Гэта дагаджала Гойдалу. Ён цяпер без ніякіх сведак будзе поўным валадаром над былым партызанскім камандзірам. Справа ў тым, што Міхась Гойдала дагэтуль не мог знайсці сабе ніякай працы, «не мог нікуды ўлезці». Паколькі Васіль Пятровіч будзе другім сакратаром райкома, зручны выпадак цяпер выкарыстаць яго — гэтага мо крыху ветранага, але даверлівага чалавека. І до-

бра, што пайшоў гэты вучоны, які наогул някемісты ў жыццёвых справах. Але... галава — усё ж такі галава. Яго нядаўняя гутарка з сялянамі ў «карчме» пра тое, з чаго трэба пачынаць на нашай зямлі, каб мець ураджай, прымусіла не аднаго задумацца і ціха зірнуць на яго з-пад казырка шапкі. Яго ведае Малашкін, Бабёр заязджае. Але ўсё ж такі добра, што пайшоў.

Шклянка «гаручага», поўная як вока, зноў стала перад расчырванелым Васілём Пятровічам. Вайна навучыла яго піць.

— Значыцца, вып'ем, душу павесялім, а заўтра — на новую работу. Гэта нібы як перад постам.

— Харошы ты хлопец, Міша... Для такіх мне, як кажуць, і душы не жаль...

— Харошы то харошы,— уздыхнуўшы неяк збеднена, пачаў гаварыць Міхась,— вось хаджу без работы. Стукнуўся сюды-туды. Нідзе няма месца.

— Гэтаму паможам... Гэта ў нашых руках. Прыязджай заўтра ў райцэнтр. Я там буду. Пагаворым з кім трэба...

* * *

Хто ідзе ці едзе гэтым пясчаным шырачэзным шляхам, які сцелецца з поўначы і хутка хаваецца ў серадзіборскіх вуліцах, той не міне, каб не глянуць на хатку ля абочыны ўздоўж шляху, што адным пярэднім акенцам глядзіць на Серадзібор. Другое акно ў падоўжанай сцяне ўглядаецца цераз шлях на сасновы стары лес, які тоўстымі чырвонымі стваламі падступае да сядзіб самога Серадзібора, не сціхаючы густа шумець нават тады, калі над наваколлем запануе непарушная цішыня. Калі зайсці на падворак, то там убачым два акенцы. Адно з іх адабрала куханька з печчу. Праз гэтыя акенцы вачам адкрываецца шырокі краявід палёў, акаймаваных лесам, а там далей пабліскавае — калі сінню, калі залацістым россыпам — серадзіборскае возера.

Гэта — хатка маці Платона Грушкі, Аляксандры, якую па-суседску завуць яшчэ Максіміха. Утульная, чыстая хатка, але ўжо старая, падрубамі асела ў зямлю. Гладкая пабеленая тынкоўка лягла па сценах і пакрывае, скрадвае старасць хаткі, не дае ўцякаць цяплу зімою, якое патыхае ад старанна пабеленай печы. На пярэдняй сцяне за галінкаю лапушыстага фікуса праглядаюць сямейныя фота-

здымкі, асаджаныя ў адну памаляваную начорна рамку, абвешаную ручніком. Тут жа, побач, цікае невялікі насценны гадзіннік мастацкай работы — колішні падарунак пана Пагарэльскага бацьку Платона Грушкі, Максіму, за тое, што ён яшчэ пры царызме выратаваў з пажару, калі гарэў панскі дом, панскую дачку і вось гэты гадзіннік — адну рэч, як казалі тады мастакі на слова, з жывой душой, а другую — са штучнай.

Лесніком тады служыў бацька ў пана. Пра бацьку Платон нічога не помніў, бо калі Максім Грушка перастаў жыць, трэцяму дзіцяці пасля дзвюх дочак, маленькаму Платону, было толькі два гады. Тады быў той цяжкі час пасля рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, калі беларусы вярталіся з бежанства з розных куткоў Расіі. Захварэлі ў дарозе бацька і сын. Калі эшалон спыніўся ў Оршы, медыцынска-санітарная камісія загадала несці бацьку на насілках да машыны, якая і павезла яго ў бальніцу, а малога — у дзіцячую лячэбніцу. Назаўтра дазволілі астацца ў Оршы ўсёй сям'і. Максім Грушка не вытрымаў крызісных дзён тыфусу — памёр, і ўдава Аляксандра на некалькі год пайшла працаваць прачкай у тую дзіцячую бальніцу, дзе лячылі яе малога сына. Калі старэйшая дачка Ганна скончыла сямігодку, Аляксандра па знаёмству перабралася ў вёску на Магілёўшчыне — добра, што не так далёка. Адтуль вось і пайшоў Платон, скончыўшы сямігодку, у сельскагаспадарчы тэхнікум. Так пражыла Аляксандра з дзецьмі аж да верасня 1939 года — да вызвалення Заходняй Беларусі, калі юнак Платон Грушка быў ужо студэнтам чацвёртага курса сельскагаспадарчай акадэміі. Можа, не варта было б ужо і вяртацца — прыжыліся, прывыклі, ды і людзі там такія ж, як і тут. Дочкі, падумаўшы, згаджаліся астацца, хоць і ў іх, асабліва ў старэйшай, Ганны, былі нейкія няўпэўненасці — свайго роду, як кажуць, ваганні — астацца не астацца. Для Платона ваганняў не існавала — на Магілёўшчыне прыжыўся ён, як на радзіме. І поле, і неба, і сябры — усё было ўжо такое, якога замяняць не трэба. Аляксандра слухала дзяцей, якія больш схіляліся, каб астацца, і доўга маўчала. Ёй і самой прывыклася на Магілёўшчыне, можна было б і жыць. Ці ж не ўсё роўна? Але нешта ўсё ж такі карцела, нешта штурхала. Ведала Аляксандра, што Ганна звязалася з хлопцам, што, можа, хутка трэба будзе вяселле спраўляць, але ўсё ж такі сказала:

— Калі паміраў ваш бацька — прасіў, каб мы вярну-

лiся дахаты.— Памаўчала хвiлiнку i дадала: — На падворку закапаны ў зямлi часы i дубальтоўка. Прасiў, каб вярнулiся i дасталi гэтыя рэчы. Вось што ён сказаў...

Тады ўсе дзецi спынiлi свае вочы на мацi, нiбы да чаго прыслухоўвалiся. Першы падышоў студэнт Платон i сказаў:

— Мама, паедзем... паедзем...

А мацi ў сваю чаргу расказала гiсторыю пра гадзiннiк. Гэты расказ i запавет бацькi перахiлiлi дзяцей к таму, каб вярнуцца на бацькоўскую радзiму.

Так вось i вярнулiся, хоць не ўсе. Ганна ўсё ж такi асталася — выйшла замуж. Хоць паплакалi крыху мацi i дачка, развiтваючыся, але сказалi, што адлегласць ад Магiлёўшчыны да Серадзiбора не такая ўжо вялiкая — заўсёды можна сесцi на поезд i хутка прыехаць — цi ў адзiн бок, цi ў другi.

Так i вярнулiся, прыехалi, засталi ў сваёй хатцы сям'ю, нейкую далёкую радню з другога сяла. Вядома, сям'я выбралася, i Грушкi сталi жыць у сваёй старой хаце, у сваiм родным Серадзiбары.

I вось цiкае гадзiннiк на сцяне, як некалi, даўно, i напамiнае маладому сыну Платону, якi не ведае бацькi, аб бацькоўскiм подзвiгу. Вiсiць i дубальтоўка з патранташам над студэнцкiм ложкам, якi ён чамусьцi вельмi любiць. Можа, таму, што ён напамiнае студэнцкi iнтэрнат, цi таму, што над iм, апрача дубальтоўкi, распластаў крылы палескi ястраб, побач з якiмi вiсiць яго, Платонава, гiтара. Мацi забрала абразы да сябе на кухню, i покуць заложаны радамi кнiжак на палiчках, над якiмi там, угары, дзе мясцiлiся багi, асталiся жмуты, вязаначкi рознага пахучага зелля. Платон папрасiў мацi, каб яна пакiнула iх там. Ля кнiжак, перад акном, гледзячы ўздоўж шляху на Серадзiбор, стаяў пiсьмовы столiк, звычайны, добры столiк з дзвюма шуфлядкамi, накрыты паперай. На стале займаў невялiчкае месца пiсьмовы прыладунак, мастацка выпiлаваны пляменнiкам-школьнiкам Колем з фанерных дошчачак. Паабапал ляжалi стосiкi патрэбных кнiжак, ля iх — невялiкiя партрэцiкi Ленiна, Цiмiразева. Рэштку стала займалi спiсаныя i недапiсаныя паперы. Рыхтавалася кандыдацкая дысертацыя... Але гэта яшчэ не ўсё. Калi сесцi за пiсьмовы стол аспiранта Платона Грушкi i глянуць уверх направа, вочы з уцехай спыняцца на клетцы, у якой скачуць, шчабечуць, пырхаюць шчыглы, а на палiчцы пад ёю стаiць некалькi глiняных гаршчочкаў з рознымi гатункамi

палескай зямлі. Пры сцяне ад шляху стаяла старая канапа, засланая даматкапай коўдрай.

Ужо вечарэла, калі Платон прыйшоў з чайной дахаты. Ды ісці немалы кавалак тою галоўнаю вуліцай, што, пачынаючы ад шляху, працінае праз плошчу ўвесь Серадзібор, бегучы падковай з поўначы на ўсход так, як прадыктаваў бераг серадзіборскага возера.

Маці сядзела ў кухні на нізенькім услончыку і перабірала папрарастаную бульбу — рыхтавала насенне. У печы ўжо вялікім, гарачым полымем палалі дровы, нешта варылася. Платон увайшоў і з прыемнасцю глянуў у печ. Яго абдало жарам, як дзе-небудзь ад агню ў полі, і ён спытаўся ў маці:

— Што варыш, мама?

— Тое, што ты прасіў... Забыўся?

Платон зморшчыўся, прыпамінаючы, а потым, спахапіўшыся, нахіліўся да маці і спытаў:

— Няўжо квас з грыбамі?

— Ён самы, ён,— адказала маці і пільна паглядзела ў крыху мутныя Платонавы вочы. Памаўчаўшы, спыталася: — Дзе ж ты хапянуў гэтай гáры?

Платон стаў, як злоўлены, і твар зрабіўся вінаваты, як у дзіцяці.

— Што ты, мама? Няўжо чуваць?

— Яшчэ як... Нясе, як з кадушкі... Хто ж цябе частаваў?

Платон пастаяў з момант, апусціў галаву, а потым пайшоў у чыстую палавіну. На хаду сказаў:

— Зараз распрануся і раскажу.

Платон вярнуўся з чыстай палавіны, па дарозе ненарокам скінуў локцем кубак са століка, што стаяў у кутку пры дзвярах, і сеў на табурэтцы. Маці, падымаючы кубак, і тут не прамінула, каб не сказаць:

— От бачыш... І кубкі ляцяць...

Платон расказаў маці ўсё, як было.

Маці слухала, не перапыняла Платона, адкладала бульбінку за бульбінкай і, слухаючы, ні разу не глянула на сына. Гэта трывожыла Платона. Чаму яна маўчыць, хоць бы галаву падняла, а то ўтаропілася ў бульбу, як быццам не можа адарваць ад яе вачэй.

Платон змоўк. На пастарэлы твар маці, падобны вельмі да сынавага, наплыла турботлівасць з налётам ледзь прыкметнага гневу. Відаць, яна стрымлівала яго ў сабе. Пла-

тон уздыхнуў, таксама стрымана. Тады маці зірнула на сына і прамовіла:

— Каб ты быў меншы, сынок, ды не вучоны, я цябе пачаставала б як трэба. Дзе твой розум, што ты пайшоў піць з гэтым талалаем? Яны ж ніколі людзей не любілі... Яны ўсё грызлі, ім было ўсё мала.

— Гэта было тады, пры царызме, пры панах — ну, а цяпер другі, не той свет і людзі не тыя.

Маці дакорліва паківала галавою.

— Людзі... другія... Ідзі пагавары з Алесяй, з буфетчыцай, яна табе скажа, якія яны другія. Ідзі пагавары з Кацярыніным Данілам — яны ж у партызанах ваявалі. Яны табе раскажуць...

— Мама, я не думаю, каб Міхась Гойдала быў дрэнны, ён жа пісьменны хлопец і, бачыш, у партызаны ўцёк, таксама ваяваў супроць немцаў...

— Яго вайна, як у таго воўка: прытварыўся сабакам, можа лізаць руку чалавеку і раптам адкусіць.

— Ну, мама, я так не думаю. Няўжо з людзей могуць быць такія?

— От вы, вучоныя, чытаеце, вывучаеце, а праўды, як на свеце жыць, і не ведаеце...

Платон маўчаў, абхапіўшы шчокі далонямі. Маўчала і маці.

— Пажывеш, сынок, пабачыш...— прамовіла яна ўрэшце, перайшла на другі тон, які гаварыў, што між ёю і сынам не было нічога непрыемнага. Яна глянула на сваё апошняе, ужо дарослае дзіця і ласкава спыталася:

— Можа, баліць галава? Ідзі ляж, крыху засні, зварыцца квас — я збуджу...

* * *

Усе чакалі сходу — адны, каб нарэшце ўчапіцца ўжо за калгас, вярнуць яму даваенную славу, калі можна было пахваліцца не толькі жытам, але і валамі, коньмі, каровамі, а найбольш, здавалася ўсім, валамі. Валы — цягавітая, пакорлівая скаціна, корму ёй дабіраць не трэба, а работы адзін вол зробіць за трое коней. Нават на мяса здавалі волікаў. Другія чакалі з затоенай надзеяй, што, можа, людзі яшчэ не згодзяцца, каб у гэтым годзе перайсці на арцельную апрацоўку зямлі. Так ці інакш, сход адкрыўся ў той доўгай «гістарычнай» будыніне з седлаватай гонтавай

страхою, пазялёненай мохам, у якой з далёкіх, даўніх дзён вырашаліся агульныя справы серадзіборцаў.

Тая вялікая, калі можна так яе назваць, «пярэдняя», з доўгімі лавамі ля сцен, была запоўнена людзьмі. За сталом на покуце сядзеў сакратар райкома Сцяпан Малашкін, з ім побач — старшыня райвыканкома Харытон Бабёр. Пакуль што больш не сядзела нікога. Людзі гаманілі той незразумелаю гаманою, калі нельга выхапіць нават аднаго выразнага слова. Такая гамана сведчыла аб ажыўленні, аб тым, што ў кожнага на сэрцы ляжалі інтарэсы Серадзібора, інтарэсы калгаса. Недалёка ад стала ў шапцы-кубанцы, чырвоны верх якой выцвіў ад дажджу і сонца і пертварыўся ў цьмяна-белы, сядзеў таўставаты чалавек у чорным воскураным паліто. Ён вылучаўся сярод усіх не толькі впраткай, але і тварам — шырокім і крыху гарбаносым. Чалавек, самкнуўшы тонкія губы, паводзіў шэрымі, амаль белымі, вачыма навыкаце і час ад часу папраўляўся на сядзенні, быццам спаўзаў з лавы і зноў садзіўся, бо лава і сапраўды была вузкаватая. Побач з ім, абапёршыся на кій, сядзеў стараваты дзядзька з дабрадушным жвавым тварам. Пасівелыя валасы раскідаліся над маршчыністым ілбом і тырчалі на галаве, як лапушысты прыдарожны кусцік. У вачах, якія глядзелі з глыбокіх арбіт, адчуваліся розум і неспакой. Чалавек часта нешта шаптаў Платону Грушку, а потым зноў знаёмым і нейкім загадкавым позіркам паглядаў на людзей. А людзі стаялі, як лес,— усё больш моладзь, сярэдняга веку; старых пракідалася мала. Асобнае месца, збоку, ля печы, займалі жанчыны. Сярод іх было, можа, больш жвавей, чым сярод мужчын. Дзяўчаты ў новых хустках увесь час расплываліся ўсмешкамі, жартавалі з хлопцамі.

Малашкін і Бабёр перакінуліся словамі і знялі шапкі — першы паношаную цёмна-сінюю кепку з пупком, другі — ваеннага пяхотнага неданоска з чырвоным аколышам. Сакратар устаў і падняў руку. Гамана паволі стала заціхаць, аж пакуль не заціхла зусім.

— Таварышы, пачнём наш першы сход пасля вызвалення...

Такі ўступ аказаўся дарэчы, і людзі добрымі вачыма паглядзелі на сакратара. Кожнаму на момант дыхнула ў душу сваімі жахамі перажытая вайна.

Сакратар гаварыў далей:

— Грымяць ужо апошнія раскаты пад Берлінам і ў Берліне. Хутка будзе канец вайне, канец усім гітлерам і

іх памочнікам. А нам трэба хутчэй брацца за зямлю, аднаўляць калгасы. Ведаем, што гэта нялёгка, што мы бяромся цяпер за аднаўленне, як кажуць, з голымі рукамі, але брацца трэба. Сабраць усе магчымасці, якія ёсць, і брацца за зямлю. Перш за ўсё адкрыць кузню, наладзіць плугі і гэтак далей.

Сакратар спыніўся, глянуў па людзях і сказаў:

— Давайце выберам прэзідыум, каб весці сход.

З натоўпу жанчын падняла руку буфетчыца Алеся і папрасіла слова.

— Я прашу, каб былі выбраны дзядзька Несцер Падкова, Платон Грушка і цётка Тацяна Карпец.

— До-о-бра!..— загаманілі ўсе.

Пасівелы дзядзька з кіем замахаў рукамі, нібы ад чаго абараняючыся.

— Каго яшчэ? — пытаецца сакратар.

Стала ціха. Людзі паглядалі адзін на аднаго і шэптам і моўчкі пыталіся:

— Каго ж яшчэ? — і не знаходзілі такога.

Тады ўстаў Харытон Бабёр і запрапанаваў выбраць у прэзідыум Кастуся Вераб'я. Ну што ж — раз начальства прапануе, значыць, так і павінна быць. Усе ў Серадзібары ведалі, што Верабей і Бабёр — дружбакі. Сакратар запрасіў выбраных за стол. Чалавек у кубанцы, гэты самы Верабей, які сядзеў найбліжэй да стала, устаў першы і сеў з правага боку сакратара. За ім падняліся дзядзька з кіем, той, якога Алеся назвала Несцерам Падковай, і Платон Грушка.

Калі ўсе ўселіся, сакратар запрапанаваў, каб сход вёў Харытон Бабёр. Той устаў і абвясціў парадак дня.

На парадку дня было толькі два пытанні: першае — прыём заяў ад сялян, якія хочуць быць у калгасе. Хоць калгас і аднаўляецца, усё роўна патрэбна згода кожнага. Другое пытанне было — выбары праўлення. Калі Бабёр абвясціў гэты скупы парадак дня і на пытанне, хто што мае яшчэ дадаць, не атрымаў адказу, тады падняў руку стары Несцер Падкова. Ён устаў энергічна, як падскочыў на спружыне, і прыўзняў галаву, ад чаго сіваватая бародка зарысавалася клінком. Абапіраючыся на кій, пачаў гаварыць па-свойму, па-сялянску, як да добрых суседзяў.

— Перажылі, дзякуй богу, вайну, партызанамі палазілі па лясах, паплавалі і на лодках... Усяго было. Ці ж не радавацца нам, што мы не ўсе пагінулі, што зноў вярну-

ліся да зямлі, каб яе засяваць, засаджваць, ураджаі мець, спажываць, дзетак гадаваць...

І пайшоў стары Несцер гаварыць у склад, у лад і сам ледзь мог стрымліваць сваё хваляванне.

— Можа, хто думае, што зямля калгасная — не мая зямля. А чыя ж яна? Мая, і твая, і яго. Гэта — наша зямля. Што на ёй дабудзем, ад нас не ўцячэ. Што будзе нам, а што і каму. Можа, хто-небудзь хоча, каб усё, што мы прыдбаем у калгасе, ды было толькі нам? А рабочы што будзе есці? Камені вырываць з вуліцы і грызці? А рабочы робіць крамніну, адзежу, швейныя машыны, і сеялкі, і трактары і дае нам, а мы яму даём хлеб...

Нехта з натоўпу кінуў: «Даволі... ведаем пра гэта».

— Ну, калі ведаеце, гэта добра. Я, якога вы празвалі «сазнацельны», першы падаю заяву ў калгас. Старшыня, давай паперу.

Бабёр падняў з лавы свой партфель, выцягнуў адтуль стос паперы і палажыў на стол.

Несцер паклікаў з натоўпу свайго сына Данілу і сказаў, як загадаў:

— Сядай, пішы мне і сабе. На адной — падпішамся.

За Данілам пачалі браць паперу і другія. Бабёр пастараўся сказаць на часе, што заявы можна пісаць і алоўкам. Усе месцы за сталом былі заняты. Жанчыны прасілі найбольш Данілу, калі ён скончыў пісаць сваю, каб напісаў і ім. Некаторыя ўкленчвалі на падлозе і пісалі на лаве. Людзі пачалі гаварыць між сабою пошапкам, шалясцелі паперы, адзін у другога прасіў алоўка. Адзін усё ж такі здагадаўся спытацца, на імя каго пісаць заяву. Яму сказалі, што датычыла і ўсіх, што можна пісаць на імя райвыканкома. Памагалі пісаць заявы Кастусь Верабей і Платон Грушка. Заявы кляліся на стол, стос рос, павялічваўся. І вось урэшце, чаго ніхто не чакаў, недзе з-пад парога стаў працісквацца наперад да стала Архіп, абапіраючыся на кій. Натоўп зашумеў — і ўсклікамі здзіўлення і смехам. А Архіп «смірэнна», сцяўшы губы, стаяў перад сталом і чакаў, пакуль яму сам Бабёр не дасць паперы. Можна было меркаваць, што Архіп быў апошні з падаўшых заявы.

Калі пісарскі рух спыніўся, Бабёр пералічыў заявы, якіх аказалася нешта больш за шэсцьдзесят, і сказаў:

— Хто падаў заяву, няхай астаецца ў хаце, а хто не — няхай выйдзе. Будзем выбіраць праўленне.

Выйшлі толькі тры чалавекі і з імі чацвёрты, як не

серадзіборскі, Міхась Гойдала. Вочы старога Несцера сачылі, хто ж выйшаў.

Адзін з іх быў сваяк Гойдалы, другі — хутаранец-шляхцюк Мількевіч, які пры немцах казаў на вуліцы перад гэтай «карчмою» — тады паліцэйскай камендатурай, што трэба ў адзін дзень пабраць усіх камуністаў у Серадзібары. Ніхто яму не забыўся гэтага. Мількевіч — дружбак Міхася Гойдалы.

Несцер, мяркуючы пра гэтую тройку, што выйшла, пашкадаваў толькі трэцяга. Праўда, багаты быў хутаранец, і паны абціраліся каля яго, але чалавек ён харошага розуму, ніколі яго не траціў, стараўся дружыць з народам. Гэта — Вайткевіч Мікалай. Бургамістрам быў пры немцах у раёне, у Азярышчы, і многа вырataваў ад смерці людзей. «Але ён яшчэ будзе з намі,— падумаў Несцер,— мы яго вернем».

Прысутнасць на сходзе Мікалая Вайткевіча была для серадзіборцаў неспадзяванай. Вайткевіч... так далёка жыве... па той бок Азярышча — і прыйшоў на сход. А Вайткевіча пацягнула сюды не абы-якая цікаўнасць. Серадзібор — першае сяло ў раёне, дзе аднаўляецца калгас. Яму цікава, як людзі ўспрымуць гэтае аднаўленне. Можа, з неахвотай, а можа, і зусім не захочуць? У залежнасці ад гэтага, відаць, будаваў свае планы на будучыню былы бургамістр у Азярышчы. Уступіць у калгас ці пачакаць? — вось што стала праблемай для Вайткевіча. І, як бачна, усё ж такі вырашыў пачакаць...

У праўленне калгаса выбралі пяць чалавек. Сярод іх — Кастусь Верабей, Алеся і Несцераў сын — Даніла. Калі выбіралі Алесю (па прозвішчу — Грынчык), адна з калгасніц задала пытанне:

— А хто будзе працаваць у чайной?

Бабёр адказаў:

— Мы хочам, каб Алеся Грынчык пакінула там працаваць, і яна згадзілася. Ёсць у вашым Серадзібары пяць цялят пад доглядам дзядзькі Несцера. Вось яна і будзе іх даглядаць, нанова аднаўляць серадзіборскі статак.

Усе змоўклі і глянулі на Алесю. Няўжо так? А Алеся стаяла ўбаку ля печы сярод дзяўчат. Шчокі яе заружавеліся яшчэ больш, і яна выступіла наперад, каб папрасіць слова.

— Так,— пачала яна,— са мной пагаварылі, і я згадзілася. Буду гадаваць цялят, каб з іх вырас статак на ўсю вобласць.

— Ого-оо! — падхапілі ўсе ў адзін голас.— Во гэта махнула! Ну, тады няхай ідзе ў праўленне!.. А то мы думалі: буфетчыца — і ў праўленне.

Некаторыя прапанавалі, каб увесці ў праўленне старога Несцера і Платона Грушку. Несцер адказаў, што ён конікаў дагледзіць і так, не патрэбна яму праўленне. Нездарма так сказаў Несцер, бо конікі прыйшлі ў Серадзібор найбольш дзякуючы яму. Усяго дзесяць іх удалося выправіць, вымаліць у генерала, калі расфарміроўвалі партызанскае злучэнне. Тут сапраўды была немалая заслуга старога Несцера, партызанскага конюха ў злучэнні. Ён хадзіў, тупаў услед за генералам і даводзіў, што калгаснікі загінуць без коней, што коні ў большасці старыя, для войска непрыгодныя. Генерал, хоць і свой, тутэйшы чалавек, доўга не згаджаўся з партызанскім конюхам, але потым усё ж такі частку коней аддаў старому.

— На тваю адказнасць, бацька,— сказаў ён,— даглядай іх у калгасе, каб карысць была, каб не знайшліся якія разбазарнікі.

Як на свет нарадзіўся дзядзька ад такіх слоў. Набраўшы духу, ён з прасвятлелым тварам, нават заікаючыся, адказаў:

— Я... я дагледжу. У мяне нічога не прападзе. Будуць цэлыя конікі. Дзякуй вам, дарагі наш камандзір, усё ж такі ты свой чалавек...

І сапраўды, коней даглядаў Несцер адзін, без нічыйнага загаду. Добра, што асталіся цэлыя гаспадарскія будынкі — стайня, кароўнік, свінарнік і іншыя.

Яшчэ чатыры калгаснікі далучыліся да Несцера і мінулым летам памаглі накасіць сена, каб як-небудзь прастрымаць жывёлін да вясны. Малашкін пазваніў у леспрамгас, каб адпусцілі пару пудоў аўса. Дзяліў кубкам час ад часу гэты авёс дзядзька Несцер, каб расцягнуць на ўсю зіму. І вось прыйшла яна — вясна,— ва ўсіх калгаснікаў жыве надзея, што ёсць за што, як кажуць, хоць рукі зачапіць.

Платон Грушка адмовіўся ад удзелу ў праўленні — ён жа там часовы жыхар, у Серадзібары.

Усё, здаецца, вырашана, можна было б Харытону Бабру абвясціць канец сходу. Але не... яшчэ чагосьці начальства адцягвае, перагаворваецца між сабою. Сярод людзей пачулася гамонка. Вось урэшце Бабёр нахіліўся да Платона Грушкі, нешта яму гаворыць, той ківае галавою —

значыць, з чымсьці згаджаецца. Людзі гутараць патрошку, чакаюць слоў ад свайго начальства.

Харытон Бабёр, выцершы свае чорныя тапклявыя вусы, крыху закручаныя ўверх, пастукаў алоўкам аб стол. Усе заціхлі.

— Вось,— пачаў Бабёр, паказваючы на Грушку,— наш паважаны Платон Максімавіч скажа нам некалькі слоў.

Платон Грушка ўстаў. Крыху саромеючыся, павёў рукою па галаве, прыгладжваючы валасы, і пачаў гаварыць аб зямлі.

— У часе вайны я сярод вас не жыў. Быў я ў арміі, ішоў праз Беларусь пры адступленні нашых войск у першыя дні вайны, але ішлі мы на Мінск, і праходзіць тут таксама не давялося. Потым мяне, як студэнта, дэмабілізавалі, і я паехаў вучыцца аж у Омск. Вось толькі цяпер вяртаюся адтуль. Што мне вам хочацца сказаць, таварышы?

Грушка спыніўся ўсхваляваны, чагосьці паглядзеў у закураную дымам і пылам старую карчомную столь:

— Мы вось, маладыя, вучымся, як пазнаваць зямлю, як яе абрабляць, каб мець як мага большыя ўраджаі,— загаварыў ён далей.— Вам ваша зямля вядома — са свайго жыццёвага вопыту вы ведаеце, дзе што расце, а што не расце. Навука аграномія ставіць так пытанне, каб зямлю падпарадкаваць волі чалавека. Трэба ўсюды, куды дасягае рука земляроба, каб зямля радзіла. Бачыце, якая яшчэ вялікая праца патрэбна нашаму народу, каб да гэтага дайсці.

Прамоўца крыху супакоіўся і пачаў гаварыць павольней, пачаў адчуваць ды бачыць, што людзі слухаюць з зацікаўленасцю. Гэта яго падбадзёрыла.

— На вашай зямлі за вайну стала многа аблог, ці, як у нас кажуць, ялавін. Гэта і дрэнна і добра. Дрэнна таму, што цяпер няма сіл, каб іх узараць, ды вясною ялавіна не дае такой ураджайнасці, чым калі б яна была заарана ўвосень на зіму. А добра таму, што аблогі маюць ужо нямала запасу азоту, без чаго ніякая расліна расці не можа.

Грушка зноў спыніўся, хацеў тлумачыць, што такое азот, але перадумаў — складаная гэта будзе для слухачоў гісторыя — і перайшоў да практычных парад на першую пасляваенную вясну свайго Серадзібора.

Калі сам Грушка не захацеў тлумачыць, што такое азот, то некага са слухачоў усё-такі зацікавіла, што гэта

за пуд. Ці хацеў пажартаваць дзядзька, ці сапраўды не ведаў, але спытаўся ўсё ж такі крыху з іроніяй:

— А што гэта, скажыце, такое — гэты самы... гмм... ну, гэты самы мурзот, ці як?

Смех выбухнуў неспадзявана. Грушка сумеўся і чакаў, калі ўсе сціхнуць.

— Гэта вы, відаць, пра азот? — перапытаў Платон так, каб паставіць гутарку на сур'ёзны лад.— Дык вось... дзе толькі што гніе, перагнівае, там і ёсць азот... Вось вам і мурзот,— скончыў прамоўца і не вытрымаў — сам засмяяўся. Не ведаў ён, што слова «азот» ужо надоўга западзе ў памяць серадзіборцаў і, валкуючыся, здабудзе іншы сэнс.

Сакратар Малашкін штурхае Бабра — пара канчаць, бо яшчэ ж трэба раздзяліць функцыі паміж членамі праўлення, ды сам ён махры накурыўся. У галаве памутнела, і, можа, ад гэтага раскідалася яго кучаравая чорная чупрына.

— Таварышы,— напомніў Бабёр,— яшчэ адно маленькае пытанне, яго толькі трэба зацвердзіць сходам. Як жа мы назавём наш калгас? Трэба ж неяк назваць.

Усе маўчалі. Вядома ж, трэба.

Бабёр нахіліўся да Малашкіна, яны перакінуліся словамі, тады старшыня запрапанаваў:

— Можа, назавём — імя Леніна?

Натоўп заціх, быццам задумаўся.

— Ну, як? — спытаўся старшыня.

Людзі маўчалі. Тады слова ўзяў стары Несцер.

— Я так думаю. Калі мы будзем расці, усё ў нас будзе на добры лад, будзем багацець — вось тады і можам назваць наш калгас — Леніна. А ці ж варты мы будзем Леніна, калі ў нас, скажам, толку не будзе, зямля радзіць не будзе. Не, я думаю, пакуль што трэба пачакаць з гэтым...— закончыў дзядзька Несцер і сеў, ускідваючы вачыма на начальства.

Малашкін устаў і сказаў, як адрэзаў:

— Пакінем гэтае пытанне адкрытым да наступнага сходу.

— Няхай астаецца Серадзібор! — крыкнуў жаночы голас.

Па прапанове Бабра старшынёй абралі Кастуся Вераб'я, намеснікам — Кірылу Баркуна, селяніна больш шасцідзесяці год, плячыстага і маўклівага, і трох брыгадзіраў — для поля, для жывёлагадоўлі, для агарода і саду.

Людзі выйшлі, за імі стаў выходзіць і махорачны дым і яго едкі пах.

Верабей пасля пасяджэння запрасіў усіх да сябе на вячэру.

## АЛЕСЯ

Пяць цёлачак, што падораны былі на рукі Несцеру серадзіборцамі, сталі для Алесі найпершым яе клопатам. Як жа добра будзе, калі яны вырастуць, і гэта будзе яе, Алесіна, заслуга. «Буду хадзіць па хатах, прасіць хоць якога корму, але даб'юся таго, што цёлачак выгадую»,— гаворыць сама сабе Алеся. І думае, думае бесперапынку. Успамінае, хто мае карову ў Серадзібары, а хто не мае. Тыя, што не маюць, няхай бы хоць бульбяныя лушпайкі аддавалі ў кароўнік. Алеся думае нешта зрабіць для гэтага. Няхай Верабей скліча сход, пагаворым з людзьмі; знойдуцца такія, што адклікнуцца.

Нешта на трэці дзень пасля выбарчага сходу Алеся, перадаўшы буфетную гаспадарку сваёй напарніцы Юлі, пайшла паглядзець кароўнік. Там на падворку сустрэла дзядзьку Несцера, які рыдлёўкаю падгрэбваў гной каля парога стайні.

— Хадзем, пакажу табе гэтых калгасніц,— сказаў дзядзька і павёў Алесю.

Цяляткі стаялі ў загарадцы і задзіралі ўверх свае мызачкі. Карыта было чысцютка вылізана. Нехта ім прыносіў есці, але, відаць, замала. Цяляткі прасілі больш. Але дзе возьмеш? Дзядзька Несцер адабраў крыху аўса ад коней, змалоў у жорнах на пойла, і вось усё, чым можна было падтрымаць гэтую малечу. Дзядзька Несцер з Алесяй агледзелі кухню кароўніка. Там ляжала вязаначка дроў і пуставаў умураваны ў цэглу кацёл. Запушчанасцю, бяздомнасцю веяла ад сцен, ад бруднага, павітага павуціннем акна. Выйшлі на двор і паглядзелі адно на аднаго.

— Гэта вы, дзядзька, дакладалі сваіх рук?

— Не заўсёды. Часта і Кацярына наша падбягала. Мы ўжо такая, можна сказаць, сям'я. Можа, хто і смяецца з гэтага, дурнямі нас называе. Хай называе. Прыйдзе час — падумае іначай. Пакарміць сяк-так гэтых пяць цялят — на гэта часу і сіл многа не трэба.

— Вясна настае, будзе лягчэй, выжывуць і цяляты. Больш разжывемся,— разважала Алеся.

— Вось і ты... Пакінула даходную станцю — буфет — і пайшла сюды. Значыць, ёсць у нас людзі, якім вось гэтае дабро,— тут дзядзька павёў рукою наўкруг,— на сэрцы ляжыць.

Алеся паглядзела ўніз, нешта думаючы, і павольна, нібы між іншым, сказала:

— Ёсць такія, ёсць... Але ёсць і другія... Не такія...

— Ну, хоць глядзі, Алеся, ужо ты. На́ табе ключы ад кухні. Па аўсянку прыйдзеш заўтра рана.

Алеся ішла дахаты той галоўнай вуліцай, назву якой аднавілі нядаўна, назваўшы так, як была названа перад вайной,— Серадзіборскай, і бачыла, як у вокнах з'яўляліся найбольш дзявочыя і наогул жаночыя твары. Яна ведала, што гэтыя вочы праводзяць яе, Алесю, якая пакінула буфетны прылавак дзеля тых пяці цялят. Адны казалі, што Алеся здурнела, робячы так, а другія меркавалі, што яна хоча выйсці ў вялікія начальнікі. Але не ўсе гаварылі так. Многія проста маўчалі, не хочучы словам крыўдзіць такую харошую дзяўчыну. Што ж — ёй так захацелася, няхай. А ну ж ды з гэтага і будзе толк. Алесю, як-ніяк, крыху калолі тыя позіркі з-за шыбін, і яна інстынктыўна туліла свой свежы расчырванелы твар у вязаную хустку. Алесю ведала ўся акруга як партызанскую разведчыцу, як вясёлую ўвішную дзяўчыну, што якому хочаш мужчыну можа, як кажуць, «даць ціць».

Бацька Алесі, Іван Грынчык, загінуў на фронце, і старэйшы яе брат Андрэй таксама загінуў, але як? Гэта была адна з тых баявых трагічных гісторый, якія напаткалі нашых людзей на іх слаўным баявым шляху. Будучы сакратаром падпольнага антыфашысцкага камітэта ў раёне, брат сабраў групу сваіх хлопцаў і накіраваўся ў лес на злучэнне з атрадам. Калі група набліжалася да лесу, адтуль выйшлі паліцаі, чалавек дваццаць, і адкрылі страляніну. Перастрэлка адбылася на чыстым полі. Было ўсё ж такі забіта два паліцаі. З боку партызан упала таксама два — адзін насмерць, а другі паранены. Гэтым другім і быў Алесін брат — Андрэй. Ён адстрэльваўся да апошняга. А паліцаі пад камандай Мацея Гусака кінуліся на Андрэя — рады былі, што ўпаў сам камандзір. Мацей Гусак некалькімі ўзмахамі прыклада разбіў галаву яшчэ жывому Андрэю, не толькі разбіў, але і адцяў яе, і тады паліцаі пад свіст партызанскіх куль пачалі ўцякаць. Андрэя таварышы падабралі і пахавалі на ўзлессі, пахавалі без галавы.

Алеся асталася адна, хавалася па знаёмых, перадавала

ўсякія весткі, якія толькі ўдавалася здабыць. Прыходзіла часам дахаты. І калі аднаго разу застаў яе дома Міхась Гойдала, то прымушаў ісці ў лес і вярнуць адтуль яе бацьку. Алеся не пайшла, за што атрымала ад Гойдалы пякучых бізуноў. Біў ён яе ў сенцах — усё ж такі баяўся, каб не бачылі людзі. Алеся, закрываючы твар рукамі, закрычала. Гойдала не звяртаў увагі, пярэсціў з пляча, пасек плацце на спіне, на плячах, паласнуў па шыі, і чырвоная бялізна, налітая крывёю, павілася за патыліцу. Урэшце Алесі ўдалося зашыліцца за нейкую бочку, і тады Гойдала выйшаў з сенцаў, гукнуўшы запенены:

— Яшчэ ты пападзешся не так... Мы цябе пачастуем яшчэ не так...

— Адсохне табе рука, кат! — крыкнула з-за бочкі Алеся.

Яна пайшла ў лес, расказала камандаванню атрада пра сябе і наогул пра тэрор паліцаяў, што збіраюцца будаваць шыбеніцу. Прыязджаў нейкі немец афіцэр і патрабаваў, каб была шыбеніца.

Камандаванне пачало распрацоўваць план разгрому паліцэйскага гарнізона, але хутка наехала многа эсэсаўцаў, і аперацыя ўскладнілася. Трэба было адкласці на нейкі час разгром паліцаяў, каб узважыць свае сілы. Разгром паліцэйскага гарнізона прайшоў шмат пазней аб'яднанымі сіламі некалькіх партызанскіх атрадаў.

І вось гітлераўцаў прагналі з беларускай зямлі. Алеся разам са сваімі таварышамі па зброі, пры ўдзеле сакратара райкома Сцяпана Малашкіна, адкапала брата Андрэя, каб перанесці яго на серадзіборскія могілкі. Быў вялікі мітынг тады.

...Алеся вярнулася з кароўніка ў сваю пустую хату. Як увайшла, так і стала пасярэдзіне, не кранаючыся з месца. Гэта рабілася з ёю не раз у апошнія часы, і яна сама сабе не магла вытлумачыць, чаму находзіць такое ўтрапенне. Праўда, хата была прыбрана — і фіраначкі на вокнах, і кветкі. Чыста падмецена падлога, лавы выскаблены. На сцяне, пад фотаздымкамі, вісела чорная макетка з вышытай галінкай бэзу. Што ж, звычайная сялянская хата. Добра было ў ёй жыць сям'і, якой цяпер няма. За вокнамі ад вуліцы — садочак з вішань і некалькіх яблынь. Але наўкола, як у хаце, так і на двары, неяк вельмі ціха, пуста. Алесю ад некаторага часу прыгнятае адзінота.

Чаго ж стаяць пасярод хаты? Трэба нешта рабіць. Скінула хустку, павесіла на старую жэрдачку над ложкам,

распранулася, глянула ў люстэрка. Адтуль зірнулі на яе шэрыя вочы з цёмнымі брывамі. Нешта пакрыўджанае мільганула ў вачах, такое маўкліва-задумнае. Выцерла засохлыя губы і пайшла да вядра — памыць рукі. Выцірала іх і глядзела на фотаздымкі. З-за шкла пазіраў з усмешкай брат Андрэй. Фотаздымак быў яшчэ з часоў белапольскай акупацыі, якраз па выхадзе брата з турмы, недзе ў 1935 годзе. Як жывы, глядзеў на Алесю і, здавалася, пытаўся: «Ну, а калі пойдзем у лес па грыбы?» Ці ж можна пра гэта забыцца? Як жа ты, братка, цяжка загінуў... Побач — старэйшая сястра Грыпа з прыгожай мяккай усмешкай. Дзе яна цяпер — невядома. З нямецкіх канцлагераў вярнуцца цяжка.

Глядзеў на Алесю яшчэ адзін хлопец у форме лейтэнанта пяхоты, які заляцаўся да яе ў партызанстве. Хацеў браць замуж. Адмовіла Алеся, бо вельмі ўпадабаў сівуху, так упадабаў, што не было ніякага стрыму. Камандаванне ўжо не давярала яму адказных заданняў. Алеся спынілася позіркам на хлопцы і недзе ў глыбіні душы крыху пашкадавала, што адмовіла. А можа, перамяніўся б? Не было б так пуста ў хаце. Адышла ад фотаздымкаў, дастала з палічкі сшытак з алоўкам і, сеўшы за накрыты абрусам столік на покуце, пачала запісваць свае ўжо наспеўшыя ў галаве меркаванні пра гадоўлю цялят і наогул калгасныя справы. Па-першае, трэба старшыні паказаць гэтых цялят, абмеркаваць з ім, адкуль узяць корму. Па-другое, трэба склікаць сход калгаснікаў і пагаварыць, можа, хто схоча прадаць карову калгасу. Па-трэцяе, трэба прасіць пазыкі ў урада, і іншыя якія справы.

Тыя пакуты, якія давялося перажыць ад ворагаў, загартавалі Алесю, і яна рана стала ставіцца да жыцця сур'ёзна, адчуваць у ім свой абавязак. Яна ўжо зразумела, што яшчэ многа ў нас людзей, якія абыякава адносяцца да грамадскіх спраў. Тое, што Андрэй сядзеў у польска-фашысцкай турме, і наогул тыя ўсе паліцэйскія здзекі з народа, смерць маці, потым смерць бацькі на вайне і, наастатку, такая страшная пагібель брата ўмацавалі веру ў тое, што ёй, Алесі, не трэба шукаць іншай дарогі, што дарога ўжо ясная, зразумелая — рабіць тое, што рабілі бацька і брат. І Алеся заўсёды, гаворачы пра свае сельскія, калгасныя справы, ацэньвала людзей, хто чаговарты. І трэба сказаць, што ацэнкі яе рэдка міналіся з праўдай. Вось і цяпер запісала ў свой сшытак групу людзей, на якіх, па яе разуменню, можна і трэба абапірацца ў калгаснай рабоце. Невя-

дома, каго Верабей паставіць кладаўшчыком, а ў Алесі ўжо ёсць чалавек на прыкмеце. На другім лістку спытка запісала такіх, ад каторых у калгасе можа быць толькі шкода. Яшчэ хаваецца галоўны паліцай, забойца яе брата — Мацей Гусак. Ён склаўшы рукі сядзець не будзе. Ён яшчэ мае нямала памагатых. Як ад іх бараніцца? Яны ж будуць усякімі спосабамі пралазіць у нашу ўладу, у нашу душу...

* * *

Праз некалькі дзён Алеся павяла старшыню Кастуся Вераб'я паглядзець цялят. Старшыня ішоў за Алесяй у насунутай на лоб кубанцы, якая ад заношанасці выглядала на галаве здалёк як тое цёрла, у якім труць мак, у тым жа нязменным чорным скураным паліто і абыякава азіраў кароўнік, не вымаючы рук з кішэняў. Паглядзеў на цялят, скрывіўся, потым улез у загарадку, злавіў адну цялушачку і пачаў пальцамі ціскаць ёй пад горлам.

Цялушачка вякнула раз, другі і пачала вырывацца.

Алеся крыкнула:

— Навошта вы гэта? Задушыць можна!..

— Я гляджу, можа ёсць залозы.

Тым часам у цялушачкі пацякла сліна, яна пачала кашляць, нібы чым папярхнулася.

Алеся ўстрывожылася не на жарты.

— Мусіць, у яе залозы,— прамовіў Верабей.— Можа, паклікаць ветфельчара...

— Вось на першых днях і такая турбота,— забедавала Алеся.

— Яшчэ не такія турботы мець будзеш, дзяўчына,— сказаў Верабей і выразна паглядзеў у вочы Алесі.

— Нічога, адолеем. Не такое было...

Верабей усё ж такі прывёў свайго знаёмага старога канавала, які сцвердзіў, што быццам у цялушкі растуць залозы.

Цялушачку перавялі ў другі хлеў, старшыня прынёс вотрубі, памог Алесі распаліць пліту. Пачалі маладую жывёліну даглядаць, нават сянца лугавога старшыня знайшоў.

Нешта праз тыдзень, якраз у нядзелю, прыйшла да Алесі свайго роду дэлегацыя ад моладзі з просьбай, каб у яе хаце зрабіць вечарыну. Алеся ахвотна згадзілася. Няхай моладзь пагуляе, дый самой крыху трэба разварушыцца ад гэтых яшчэ да канца не перажытых смуткаў і спраў.

Хата напоўнілася моладдзю, ды і старыя пачалі пры-

ходзіць, найбольш, вядома, жанчыны, і займалі месца ў кутку каля печы. Гарманіст пад бубен пачаў «рэзаць» полькі, вальсы. Алеся не адставала ў скоках, нават, можа, хто сказаў бы, што ўжо залішне брала ўдзел. Недзе ў самым разгары вечарыны ў сенцы з групай моладзі ўвайшоў сакратар райкома Малашкін. Яго газік стаяў перад праўленнем і лыпаў у цемры шклянымі вачыма. Паколькі хата была адчынена насцеж, сакратар нейкі час глядзеў з сенцаў на ўвесь карагод у хаце. Махорачная папяроса бліпчала вугальком у зубах.

Сакратар не толькі з цікавасці зайшоў на вечарыну. Ён прыехаў у Серадзібор, каб абмеркаваць справу заснавання партыйнай ячэйкі. А дзеля гэтага трэба было пагаварыць з Алесяй, хоць яна была на воку як будучы сакратар ячэйкі камсамольскай. Нікога нельга вылучыць на сакратара — толькі яе.

У старога Несцера гутарка адбывалася з яго сынам — Данілам. Данілу Малашкін хацеў зрабіць сакратаром партыйнай ячэйкі. Інструктара ён прышле пасля, калі сам упэўніцца, што ячэйку ўжо можна стварыць.

Сакратар быў чалавек вясёлы, таварыскі і не рабіў парогаў між сабою і людзьмі, асабліва моладдзю, за што яна яго любіла. І вось ён стаіць сярод яе, крывіцца ад махорачнага дыму і вачэй не спускае з пар, якія кружацца і кружацца. Яму і самому хацелася б зрабіць некалькі кругоў, прытупнуць нагой або прайсці «барыню», як гэта было там, на Паволжы, на радзіме, здзівіць усіх чачоткай, але... відаць, несалідна цяпер. А Алеся кружылася, расчырванелая, прыгожая. І Малышкін выразна цешыўся з яе і наогул з серадзіборскай моладзі. Нездарма ён выбраў Серадзібор першым сялом для аднаўлення калгасаў. Тут ёсць на каго абаперціся.

Сакратар кінуў недакурак, расцёр яго нагой і сказаў па суседству хлопцам:

— Выйдзем на двор...

Пяць хлопцаў, адзін за адным, рушылі за ім. На двары адышліся бліжэй да хлява і спыніліся пад страхой.

— Чаму да гэтага часу не прыехалі атрымаць зброю? — спытаўся ціха сакратар.— Быў жа наказ. Коля, павінен быў прыехаць ты.

Коля, завадатар групы моладзі, сказаў, што чакаў, можа, хто будзе з машынай з Азярышча.

— Вось табе раз. А яшчэ выхваляешся, што ўцёк ад паліцаяў у партызаны ў расхрыстанай сарочцы.

Так, гэта праўда. Коля Мілаш уцёк у свой час з паліцэйскай «карчмы» ў расхрыстанай сарочцы. Чаму расхрыстанай? Бо той самы Мацей Гусак як ірвануў яго за грудкі, дык гузікі і паляцелі на падлогу. Гусак ад такой нечаканасці стаў углядацца ўніз, думаючы, што можа якія патроны пападалі, а Коля тым часам толькі дзвярыма бахнуў...

— Сцяпан Пятровіч, вы тут не стойце,— прамовіў Коля.— Побач з намі ў сенцах стаяў ведаеце хто? Міхась Гойдала. Чаго яго прынесла сюды?

— Асцярожна, хлопцы...— прамовіў сакратар, мацаючы ў кішэні «ТТ»,— я пайду ў праўленне да Вераб'я. Памятайце, што ў Серадзібары ўчастка міліцыі яшчэ няма. Міліцыя тут — вы самі. Як відаць па ўсім, прыйдзецца і тут яго стварыць.

Не ведалі сакратар і яго маладзёжная дружына, што за яблыняй на падворку за парканам туліўся не хто іншы, як сам Мацей Гусак. Ён прыйшоў з нейкіх схованак да сваіх старых бацькоў, што жылі ў хутарской хаце паміж Серадзіборам і Забівачкамі. Некалі гэта быў хутар нешта дзесяцін на пяцьдзесят. У доўгім хляве ў свой час месцілася трыццаць кароў, цяпер стаяла ўсяго адна. Як толькі Серадзібор занялі немцы, бацька, Трахім Гусак, загадаў сынам зарэзаць дзве каровы на пачастунак гітлераўцам. Гітлераўцы елі, заліваліся шнапсам і хвалілі гаспадара, ворага бальшавікоў. Старэйшы сын быў адпраўлены пасля гебітскамісарыятам у Берлін у распараджэнне беларускай фашысцкай агентуры, другога прыстрэлілі партызаны, а апошні, Мацей, узначаліў гарнізон паліцаяў. Бацька быў характару свірэпага — страшны і для сыноў і для суседзяў. Пры савецкай уладзе стаў яшчэ больш пануры. Адна старая Хвядора яго не баялася і асаджвала, калі ён вельмі грымеў на Мацея — чаму той не ўцёк з немцамі. І вось гэты Мацей пасля выгнання гітлераўцаў з Беларусі нечакана для бацькоў прываловся ўначы дахаты. Бацька яго выгнаў:

— Ідзі, чорце, сабакам сена касіць, калі не змог уцячы! Будзеш тут парогі абіваць людзям, пакуль бальшавічкі не паласуюцца табою...

Мацей маўчаў і шамкаў упоцемку, еў тое, што наліла маці. А тая таўклася каля печы і ўрэшце сказала сваё:

— Вось каб у той Сібір дастацца, тады...

Мацей частавата наведвае бацькоў, бярэ з сабою прадукты і па-за хлявамі, прыгінаючыся, уцякае ў лес.

Калі пачуў, што Алесю выбралі ў праўленне калгаса, прыйшоў спярша ў Забівачкі да Гойдалаў і вёў з Міхасём доўгую гутарку. Усё ішлося к таму, што Мацей Гусак яшчэ павінен прашумець над Серадзіборам. І вось ён стаіць за яблыняй, назірае ўвесь рух моладзі. Сам сакратар райкома ходзіць у яго пад носам. Ці ведаў Гойдала, што за яблыняй туліцца азвярэлы Мацей? Невядома. Зразумела толькі тое, што, каб і ведаў, то сакратару райкома пра гэта не сказаў бы. Гойдала толькі падумаў: «Няхай плыве звярынае ліха, куды яно намерылася плыць. А калі што патрэбна будзе, раменная торба заўсёды можа напоўніцца тым ласым для многіх напіткам, хоць ад яго прэ, як памыйніцы. Гэты напітачак, як відаць, мае немалую моц, асабліва калі падсаладзіць яго нізкай анекдотаў. Смех — рэч для людзей прыемная, чаму ж яго не выклікаць, каб яшчэ больш памутнела ў мазгах».

Заўважыўшы сакратара Малашкіна і рух моладзі ля яго, Гойдала пастараўся, як кажуць, сысці з вачэй і, выбраўшы зручную хвіліну, вынырнуў з сенцаў. На вуліцу не пайшоў, а, туляючыся ля сцяны хлява, падаўся ў агароды. З прыемнасцю ён убачыў бы Васіля Чараваку, але той ужо ў райкоме...

Пасля вечарыны Алеся старанна падмяла хату і пайшла ў камору, каб узяць хлеба, галоўку капусты на вячэру. У сенцы ўвайшоў сакратар Малашкін з хлопцамі. Сустрэўшыся з Алесяй, тут жа спыніў яе і без ніякіх прадмоў сказаў:

— Алеся, апранайся і пойдзем з намі.

Алеся паглядзела на сакратара і на хлопцаў, нешта зразумела і, хутка апрануўшыся, выйшла, замкнула за сабою хату.

— Хлопцы, праверце двор,— загадаў сакратар.

— Нашто? — пашапкам спыталася Алеся.

— На ўсякі выпадак... Знаеш...

Хлопцы вярнуліся і сказалі, што ўсё ў парадку — нідзе нікога няма.

Уся група дайшла да газіка, села, і лыпатыя фары павялі яго за сабою па серадзіборскай вуліцы.

Пад яблыняй лыпалі другія фары — воўчыя. Мацеева рука то сціскала рэвальвер, то выпускала яго, калі Малашкін з групай праходзілі па падворку. Можна было б страляць — яны ж ішлі за крокаў пяць-шэсць. Але... іх шэсць і могуць быць узброеныя, ёсць апаска, што можна прамахнуцца, а яны адкрыюць страляніну, і можна астап-

ца тут, на гэтым агародзе. Мацей вырашыў не страляць. Перачакаўшы некаторы час, змяніў пазіцыю — перайшоў да хлява і сеў пад страхою. Добра, што ноч, хоць ужо мяккая, вясновая, але такая цёмная, як воўчая...

Туляецца Мацей Гусак па лесе, па хутарах у знаёмых аднадумцаў і ўсё нечага чакае. Уцячы з гітлераўцамі не ўдалося, бо задалёка ад сяла схаваўся тады ў лесе, калі грымоты Савецкай Арміі агалашалі яго сваім набліжэннем. А яшчэ к таму ў адубелай яго душы жыла думка — а можа яшчэ адаб'юцца гітлераўцы? Але мары Гусака не збыліся. Асталося толькі туляцца і далей рабіць з людзьмі тое, што рабіў пры гітлераўцах — забіваць іх, рэзаць і шукаць такіх, як сам, каб нішчыць, нішчыць гэтых бальшавікоў...

Вось чаму Мацей Гусак стаяў з рэвальверам у руцэ пад яблынькай перад хатаю Алесі.

У хаце старшыні калгаса Кастуся Вераб'я гаварылі доўга. Многа было сказана харошых слоў і пажаданняў. Калі давялося гаварыць Алесі, яна вяла сваю «лінію», што ёсць людзі, якія крывым вокам глядзяць на калгас, што асталіся і такія, якія могуць знішчаць нашых людзей, і таму патрэбны і ячэйка, і міліцыя, і варта. Варту павінна ўзяць на сябе моладзь. Бо наняты вартаўнік не справіцца, дый плаціць яму яшчэ няма чым. Так і парашылі: з заўтрашняга дня ўстанавіць варту.

Даўгавата цягнулася вечарына, ды яшчэ к таму гэтая асаблівая гутарка, так што давялося ўсім ісці на адпачынак позна. Нямнога ўжо асталося да ранку. З гутаркі склалася ўяўленне, што ячэйку стварыць у Серадзібары ёсць з каго. Гэта і трэба было ведаць самому Малашкіну.

Сакратарскі шафёр завёз Алесю дахаты пад «ахоўваю» двух хлопцаў. Ля парога хлопцы развіталіся з Алесяй, пастаялі, паслухалі, ці што не патрывожыць веснавую ноч. Не пачулі нічога. Цішыня і цемра агортвалі ўвесь вялікі Серадзібор.

* * *

Серадзібор доўгі і раскідзісты. Ёсць дзе пахадзіць вартавым. І яны ходзяць. То сыходзяцца ў дамоўленым месцы, то зноў разыходзяцца ў свае канцы. І так дайшло да залатога рання, калі свежая траўка па абочынах вуліц заіскрылася расою і на палях пачаў павольна плыць і павольна гінуць мяккі, як воўна, туман. Сышліся яны —

маладыя вартаўнікі — апошні раз на двары кароўніка. З маладых твараў глядзелі глыбокія вочы, запалыя ад начной пільнасці. Кароўнік быў замкнёны — там жа стаялі чатыры цялушкі. Ну, а пятая, хворанькая, як казала Алеся, стаіць у асобным хляве, таксама замкнёная. Ключы — у Алесі. Хлопцы падышлі і да гэтага хлеўчыка, які перад вайною служыў за склад для мякіны, і спыніліся перад дзвярыма з замком, але... адамкнёным.

Зазірнулі ў хлеўчык. Ён быў пусты. Сыры свежы пясок адляпіўся ад чыхсьці падэшваў і ляжаў строчкай на падлозе... Ён вёў ад дзвярэй у глыбіню хлеўчыка і назад.

Нехта забраў цялушачку.

— Хадзем да Алесі,— сказаў Коля.

А другі дадаў:

— Не, спачатку трэба да старшыні, а потым разам ужо...

Так і пайшлі да Алесі ўжо з Вераб'ём.

Збудзілі Алесю стукам у акно. Яна хутка адзелася і ўпусціла ў хату неспадзяваных ранніх гасцей.

— Алесечка,— пачаў вельмі ўжо ласкава старшыня,— прапалі нашы з табой турботы... Вось,— ён паказаў на хлопцаў,— прыйшлі і заявілі, што цялушачкі нашай, якую мы лячылі, няма.

— Як няма?

Алеся нахмурылася. Пераняла позірк ад старшыні на хлопцаў, а потым спынілася на акне. Думкі пайшлі шукаць нейкія ніці.

— Уночы нехта хадзіў ля маіх акон,— сказала ўрэшце.— Хадзем паглядзім яшчэ, можа, знойдзем які след.

— Дзе ты знойдзеш след там, дзе многа натаптана слядоў?

Пабедавала Алеся і сказала Колю:

— На хлявы патрэбен асобны вартаўнік.

Пасля абеду пад'ехаў другі сакратар райкома Васіль Чаравака. Ён героем выскачыў з машыны, абцягнуў гімнасцёрку, разгладзіўшы зборкі, і малайцавата скочыў па трох сходках у праўленне калгаса. Кастусь Верабей паспеў ужо абаснавацца ў асобным пакоі. На дзвярах, на прыклеенай паперцы, былі напісаны гадзіны прыёму. У першым, вялікім, пакоі сядзеў сакратар, а ў другім, невялікім, мелася быць скора бухгалтэрыя.

Чаравака спыніўся перад дзвярыма кабінета старшыні і, нахмураны, чытаў гадзіны прыёму. Скончыўшы чытаць, падкалупнуў «прыёмачную» паперачку пазуром і паволь-

на, не спяшаючыся, садраў яе. Тады ўвайшоў у кабінет. Верабей сядзеў за сталом у той жа прапацелай кубанцы і нешта пісаў.

— Слухай, Верабей, нашто ты разводзіш канцыляршчыну?

— Якую? Дзе?

Чаравака паказаў садраную з дзвярэй паперку. Верабей нахмурыўся, пазнаючы справу рук сваіх.

— А, гэта... Ну дык што тут грэшнага? Ці варта было здзіраць? Усё ж такі я старшыня, заводжу свае парадкі, а ты прыйшоў і робіш, што табе падабаецца. Нягожа, таварыш Чаравака, нягожа...

— Хіба ж з гэтага трэба заводзіць парадкі, з гэтай паршывай паперкі? Ці мы дзеля таго ваявалі ў партызанах, каб карміць народ бюракратыяй?

— Ну добра, добра! Але табе ўсё ж такі не варта было б здзіраць. Сказаў бы мне...

— Не, брат, не выцерпела душа...

— Ну, сядай, чаго стаіш? Кажы, з чым добрым прыйшоў?

— Па-першае, парадую цябе. Гэтымі днямі атрымаеце пазыку ў банку. Гэта — раз. Па-другое, як — па канале ўжо можна будзе праехаць? Вось паедзем з табою, зараз падыдзе Бабёр, ён зайшоў да Грушкі, каб паклікаць і яго. І яшчэ прыехаў з намі журналіст Жарнавік, спыніўся ў Грушкі. Вось бачыш, колькі я табе нагаварыў. Паедзем па канале і памяркуем, з якога месца пачынаць капаць абводны канал.

Старшыня, штурхануўшы вялікім пальцам правай рукі сваю кубанку да патыліцы, увесь час паўтараў: «Ага... ага...»

Калі Чаравака скончыў і пачаў закурваць, Верабей устаў і пацягнуўся, развёўшы рукі, прычым грудзі яго выпукліліся пад шэрай гімнасцёркай і здаваліся панцырнымі.

— Што ж, нядрэнна. Калі прыязджаць па пазыку?

— Спярша збярэш праўленне і абмяркуеце, што ў першую чаргу трэба калгасу набыць — ці жывёлы больш, ці машын. Адным словам...

За дзвярыма пачуўся гоман — відаць, увайшло некалькі чалавек. Дробны стук у дзверы кабінета, і паказаліся — кароткі нос і чорныя вусы Харытона Бабра. Па ўсмешцы можна было зразумець, што ён стукаў для жарту.

— Заходзь, заходзь! — крыкнуў старшыня Бабру, як свайму дружбаку.

За Бабром увайшлі Грушка і Жарнавік.

Верабей вітаўся з усімі, а найбольш прыглядаўся да акулярыстага Жарнавіка, як да чагосьці, чаго трэба баяцца. Ён увішна запрасіў усіх садзіцца такімі падкрэсленымі жэстамі, намагаючыся на тое, каб мець у вачах журналіста патрэбнае, як яму думалася, уражанне.

Усе селі, маўчалі. Не ведалі, з чаго што пачаць. Кубанка на галаве ў Вераб'я спаўзла на лоб, і рука пачала змятаць нейкае смецце са стала.

— Пагодка харошая,— прамовіў ён урэшце.— Вось сеяць збіраемся, каб укласціся ў план...

Карэспандэнт Жарнавік сядзеў, палажыўшы свой «партфель» — ваенную сумку — на калені. У апошніх словах Вераб'я адчуў, што яны сказаны для яго. Разумеў гэта і Харытон Бабёр, яму нават хацелася падміргнуць Вераб'ю: «Давай больш у такім жа духу... Бо гэтыя пісакі — ого! Пападзіся толькі ім на язык...» Але падміргваць не было як, і ён толькі палічыў патрэбным дадаць:

— Ты, хлопец, не ўломак у нас — вывезеш...

Кастусь Верабей, якога некаторыя — хто, можа, каб прыдобрыцца, а хто і для жарту — называлі Канстанцінам Верамеевічам, быў іменна Бабровай кандыдатурай на пасаду старшыні калгаса. Сакратару Малашкіну Харытон Бабёр сказаў пра Вераб'я:

— Гэта такі чалавек, які з дна мора дастане, калі што трэба. Нам жа і важна мець такога чалавека, асабліва на пачатак, каб у яго падэшвы гарэлі пад нагамі.

І вось сядзіць ён за сталом, гэты чалавек з «гаручымі падэшвамі», крыху пукатымі шэрымі вачыма паводзіць па прысутных, зацягваючыся махоркай, і ўжо думае, як наладзіць вячэру. Усе, хто ні прыедзе, любяць пачаставацца ў калгасе, і, вядома, у старшыні. Гэта яму на выпадак чаго ў будучыні залічыцца.

Неспадзявана ўвайшла Алеся. Павітаўшыся, зараз жа расказала Чараваку і Бабру аб прапажы цялушачкі.

— Вось міліцыі няма. Трэ было б пашукаць.

— Дзе ты яе ўжо знойдзеш? — махнуў рукою Бабёр.— Хто ўзяў, той і хаваць умее.

Платон Грушка абурыўся на нечы такі подлы ўчынак. Заварушыўся ў крэсле і Жарнавік, паправіў акуляры, пасля выняў маленькую кніжачку і звярнуўся да Алесі:

— Вы што — загадчыца жывёлагадоўчай фермы?

— Ат, якой там фермы? Было пяць цялят, і вось адно ўжо нехта ўкраў...

— Як ваша прозвішча?

Жарнавік пачаў пісаць. Верабей неспакойна зірнуў на аловак Жарнавіка і падумаў: «Вось надарыла якраз гэтага пісьменніка». Журналіст і пісьменнік для Вераб'я было адно і тое самае.

— Ды яно, таварыш пісьменнік, можа, яно і знойдзецца. Будзем шукаць...— не вытрымаў Верабей.

Жарнавік маўчаў. Каб чым-небудзь сарваць яго пісаніну, Верабей сказаў, устаўшы, што можна ехаць на канал.

Усе ўсталі і выйшлі.

Машына ішла асцярожна, хоць дарога была прыбітая. Алеся сядзела побач з шафёрам і, гледзячы на прасторы, успаміпала партызанскія часы. Направа, як глянуць, сцелюцца хмызы, якія пачалі ўжо забалочвацца. Сярод іх, калі прыслухацца, яшчэ недзе цурчала вада. Відаць было, як з гэтых перапоўненых вясновай вадою нетраў сям-там у канал збягалі ручаінкі — то большыя, то меншыя. Сам канал, хоць і стары, але яшчэ шырокі і поўны вады, паабрастаны кустамі лазняку, сваёй прамiною адплываў удаль і прападаў у далёкім лесе. Па другі бок канала прасціралася поле, на якім мясцінамі блішчала вада. Яшчэ нельга было да яго даступіцца — ні з трактарам, ні з канём. Дарогу раптам загарадзіў вялікі ручай, амаль рэчка, які, пераліваючыся вясёлкавымі бляскамі, з шумам уліваўся ў канал. Усе выйшлі з машыны і пачалі разглядацца па наваколлі. Люба было слухаць вясновы імклівы шум.

Чаравака прыклаў руку казырком над вачыма і паварочваўся ва ўсе бакі, быццам шукаючы, на чым прыпыніцца. Потым сказаў:

— Ага, вось яна, тая мясціна... Хадзі сюды, Алеся. Вунь той грудок, на якім мы сустрэліся з табою і зрабілі прыпынак. Помніш?

— Помню, як не помніць! Але вось грудка ніяк не знайду. На ім тады ляжала крыху сена.

Алеся з Чаравакам потым знайшлі тую мясціну, куды прыбылі да яе, разведчыцы, на трыццаці лодках партызаны на разгром серадзіборскага нямецка-паліцэйскага гарнізона. Вось па гэтай рэчцы, што шуміць цяпер, лодкі былі пахаваны ў лазняках, а партызаны пайшлі за Алесяй кружной дарогай.

Жарнавік з ваеннай сумкай цераз плячо плюшчыў акулярыстыя вочы пад казырком шэрай кепкі, углядаючыся

ў наваколле і ў самае сонца. Кніжачка ўвесь час тырчала ў руцэ. Ён час ад часу падыходзіў да машыны, клаў кніжачку на радыятар і пісаў, пісаў... Верабей і тут падазрона зіркаў на яго і думаў: «Ну што ён там усё запісвае?» Нельга сказаць, што Жарнавік у якой-небудзь меры не разгадаў Вераб'я. Так, разгадаў і цешыўся, што вось выяўляецца нейкі тып. Ён унутрана ўсміхаўся, сузіраючы Вераб'я, як хітрага, прытоенага.

Жарнавік падышоў да Алесі, узяў яе пад руку і, нахіліўшыся, папрасіў прайсціся. Алеся дапытліва зірнула яму ў вочы і, крыху нібы азадачаная, кіўнула галавою ў знак згоды. Яны пайшлі павольна. Жарнавік, ідучы, заглядаў у вочы Алесі, у яе малады насцярожаны твар, распытваў пра яе жыццё, а пасля і пра тых, што асталіся стаяць ля рэчкі. Алеся расказвала, але не да канца. Асабліва гэта датычыла Вераб'я. Яна не сказала, напрыклад, таго, як Кастусь Верабей, будучы ў партызанскім атрадзе загадчыкам гаспадарчай часткі, зазлаваў за нешта на адну кабеціну. Будучы пад хмяльком, уварваўся ў яе хлеў і адрэзаў язык карове. За гэта камандаванне яго пакарала — зняло з пасады і адправіла насіць ваду з ручаіны на партызанскую кухню. На такой «пасадзе» ён і прабыў да канца партызанства і не атрымаў ніякай узнагароды. Вось гэтага Алеся не сказала Жарнавіку, хоць яно і набягала ў галаву, прасілася. Але не сказала. Ці варта абы-што расказваць кожнаму? Яго ж, Кастуся, выбралі старшынёй калгаса. Гэта — не жарты.

Жарнавік пачынаў набіраць сімпатыі да гэтай крыху суровай дзяўчыны з такім свежым тварам: ёй толькі і стаяць сярод гэтых вось прастораў, што дыхаюць навізной першабытнасці, якая адкрыла сябе сонцу. У Жарнавіка наплываў такі настрой, быццам ён ужо закахаўся ў гэтую дачку балот і лясоў, якая душой сваёй так многа гаворыць аб іх.

Платон Грушка тым часам таксама рабіў сваё. Ён прыглядаўся, ці многа ілу нясе канал у серадзіборскае возера. Там яго за гады назбіралася многа. Калі ісці ад берага, дзе ўліваецца канал, на сярэдзіну возера, чалавек адразу грузне ў іл і можа ў ім утапіцца. «Гэта — вялікае багацце для нашых пяскоў. Будзе трактар,— думае Грушка,— тады трэба выдумаць чарпалку, пагружаць яе ў возера і трактарам выцягваць іл...» А гэты надканальны раўнінны прастор палёў здзіўляе сваёй прыроднай свежасцю, першай свежасцю зямлі, якая, здаецца, вось толькі ўчора вызвалі-

лася ад тых геалагічных леднікоў і прагна дыхае паветрам і сонцам новага часу.

Начальства таксама займала час па-свойму — той ці другі працягваў руку і паказваў які-небудзь пункт, прыкідваючы, якую плошчу зоймуць асушаныя хмызнякі, калі будзе праведзены канал. Чаравака прапанаваў базіравацца вось на гэтай, цяпер шумлівай рэчцы, што азначала прадоўжыць яе каналам аж да Вострай Гары — прыкметнага месца сярод серадзіборскіх палёў. Ён выняў з такой жа ваеннай сумкі, як у Жарнавіка, блакнот з алоўкам і, укленчыўшы на адну нагу, пачаў чарціць трасу будучага канала. Бабёр і Верабей сачылі за яго рукой. Калі планіроўка была скончана, Бабёр, як заўзяты рыбак, спытаўся ў Чаравакі:

— Ну, а дзе ж мы пабудуем рыбацкую хату? Я думаю, вось тут, дзе стаім. Тут скрыжоўваюцца дзве плыні... Ніводная рыбіна не ўцячэ...

— Табе гэтая рыба сніцца, як мядзведзю мёд,— уставіў Верабей.

— Калгас азалаціць можна...

— Рыба ў рацэ, але не ў руцэ,— прамовіў Чаравака.

Верабей, узяўшыся ў бокі, паглядаў удоўж канала на тую пару, якая аддалялася і не хацела вяртацца.

— І што ён там ёй тарочыць? — з нейкім роздумам сам сабе прамовіў ён.

Назад паехалі толькі Чаравака, Бабёр, Верабей і Алеся. Грушка і Жарнавік асталіся. Яны яшчэ хацелі пацешыцца прасторамі, падзяліцца, як кажуць, уражаннямі.

— Якая цудоўная гэтая дзяўчына,— сказаў Жарнавік.— Гэта цэлая легенда.

— Вы пра Алесю?

— Так... Якія людзі выхоўваюцца ў народзе!

Грушка ўсміхнуўся і сказаў:

— Гэта наша парода, яе сфарміравалі час і людзі.

— Гаворыце аб людзях, як аб зямлі... Цікава... А чым больш сфарміраваная — людзьмі ці часам?

— Для нашай зямлі, відаць, часам.

— Гэта значыць — і людзі нашы сфарміраваны больш цячэннем часу, чым...

Жарнавік спыніўся, шукаючы адпаведнага слова, а Грушка дадаў:

— Чым навукай... А навука — гэта і ёсць актыўны наступ на прыроду, ад чаго і мяняецца жыццё грамадства, а значыць — і сам чалавек.

— Во-во-во! — падняўшы палец уверх, падхапіў Жарнавік. Ён спыніўся і задумаўся, гледзячы праз акуляры ўдаль хмызоў, на якіх выпырснулі маладыя, здавалася, першыя ў іх жыцці, зялёныя лісточкі. За акулярамі ў цёмных вачах Жарнавіка іскрылася натхненне.— Мудра гэта. Пазнавальна і тут жа непазнавальна. У гэтым плынь жыцця для чалавека. Гм... Прыгожа!

— ...Плынь жыцця для чалавека, якая... патрабуе — чаго? — задаў пытанне Грушка і адказаў: — Якая патрабуе актыўнасці чалавека, умяшання яго ў прыроду. У гэтым уся соль... Інакш чалавек загіне.

— Але актыўнасць бывае розных тэмпаў.

— Так яно і ёсць. Алеся наша і ёсць прадукт актыўнасці данага асяроддзя за нейкі час.

— Скажу шчыра, Платон, я не хацеў бы інакшай Алесі...

— Гэта значыць, што вы — паэт, што вам шкада закончаных, адшліфаваных форм. Яны — ваша база... А пры руху наперад мяняецца і форма. Шкада з ёю расставацца, але... думаю, што Алеся яшчэ больш пахарашэе.

Жарнавік натхнёна рассмяяўся і крыкнуў у цішыню сонечных прастораў:

— Ты перамог мяне, галілеянін!

...Вячэра ў Вераб'я была багатая. Жарнавіка пасадзілі паміж гаспадаром і Алесяй, і гэта было зроблена знарок, бо Верабей не давяраў Алесі, баяўся, каб яна не нагаварыла чаго-небудзь пра яго грахі. Грушка сядзеў таксама побач з Алесяй. З левага боку гаспадара селі Чаравака і Бабёр, брыгадзір Даніла і свінарка Тацяна. Бабёр падкручваў вусы, чакаючы пачастунку, і ўвесь час запрашаў сесці жонку Вераб'я Сцепаніду, дзябёлую жанчыну з расчэсанымі ў просты радок цёмнымі валасамі. Сцепаніда насіла стравы хутка, ставіла іх на стол з прыстукам. У першую чаргу пайшлі ў ход куры. Верабей дзяліў «гаручае» і першы падымаў шклянку за гасцей, у прыватнасці за «пісьменніка», Жарнавіка, які «не пагрэбаваў намі, простымі людзьмі, прыехаў у нашу палескую глуш». Жарнавіку моташна было ад такога прывітання, але ж сварыцца з гаспадаром не будзеш, няхай гаворыць. І так пачалася бяседа, спачатку памяркоўная, а пасля з грымучай гутаркай, са смехам ад жартаў Жарнавіка і іншых. Жарнавік частаваў Алесю, яна яго, і можна было падумаць, што бяседзе не будзе канца. Дзе там канец, калі на стале з'явілася све-

жая, духмяная цяляціна, якая так смачна дыхнула ўсім у душы, што Бабёр стаў энергічна падкручваць вусы.

Ён падняў тост за старшыню калгаса Кастуся Вераб'я і выказаў упэўненасць, што старшыня яшчэ сваё дакажа, і што калгас «Серадзібор» будзе прыкладам для другіх. Калі асушылі шклянкі, Верабей пацалаваў Бабра.

Усё было добра, усё было прыемна на вячэры, але нікому не прыйшло ў галаву спытацца — адкуль у Кастуся Вераб'я з'явілася на стале цяляціна?

* * *

— Платон... Платон... сынок, устань... Устань...

Аляксандра кранала сына за плячо, будзіла. На канапе хроп Жарнавік. Яны нешта дзве гадзіны таму назад прыйшлі ад Вераб'я, правёўшы Алесю аж да парога яе хаты. Жарнавік па дарозе ад Алесі расказаў Платону пра Паўла Кляновіча, якога наведаў, едучы сюды. Кляновіч складае план севазваротаў па вобласці. Магчыма, што прыедзе ў Серадзібор. Перадаваў прывітанне і г. д. Яны ляглі спаць, стомленыя пасля вячэры, і вось маці будзіць сына. Платон нешта мармыча, пераварочваецца на другі бок і засынае зноў. Урэшце маці даштурхалася — Платон расплюшчыў вочы і спытаўся:

— Чаго, мама?

— Страляюць, сынок... Недзе тут, недалёка. Устань!

Платон прыўзняў галаву.

— Страляюць? Хто? Дзе? Мо табе здалося?

Ён пачаў прыслухоўвацца. Так, пачуўся глухі стрэл, за ім другі — недзе на сяле. Платон усхапіўся з ложка. Не будзячы Жарнавіка, пачаў абувацца. Не надзеючы кашулі, накінуў паліто на плечы, уздзеў кепку, схапіў са сцяны дубальтоўку і выскачыў.

Пачынала днець. Ранак павольна вылазіў з туману ціхім світаннем. Са страхі хаты зрэдку падалі цёплыя буйныя кроплі. Платон стаяў на шляху і слухаў. Стрэлаў больш не паўтаралася, і ён накіраваўся ў сяло. Калі дайшоў да Алесінай хаты, спыніўся і ўбачыў — там, дзе канчаецца хлеў, на агародзе, ля невялікага стажка сена стаялі два хлопцы. Грушка падаўся туды, каб спытацца пра стрэлы. Хлопцы — адзін з іх быў Коля Мілаш — стаялі, як на варце, адзін супроць другога на адлегласці двух крокаў.

— Чаго стаіце? — спытаўся, падышоўшы, Грушка.

Засмучаныя хлопцы моўчкі кіўнулі на зямлю.

— Бачыце?.. Вось... ляжыць...

— Хто?! — амаль ускрыкнуў Грушка і тады толькі заўважыў, што ля стажка ляжыць тварам у зямлю жанчына, прыкрытая вялікай хусткай. Хусткі не хапіла на ўсё цела, і відны былі босыя ногі, да падэшваў якіх прыліпла шэрая вільготная зямля. Платон Грушка прыадкрыў хустку з галавы і зноў ахнуў, ужо скрывіўшыся ад болю:

— Гэта... Алеся? Алеся?!

Хлопцы моўчкі кіўнулі галовамі.

— Яна...— сказаў Коля.

Платон адхінуў хустку далей і ўбачыў падраную на шматкі сарочку, якая адкрывала вачам Алесіна маладое, дужае, прыгожае цела з чырвонай меткай ад кулі ў левым баку пад лапаткай. Можна было адразу здагадацца, што барацьба Алесі з забойцам была немалая. Ён драў на ёй сарочку, калі яна вырывалася з яго драпежных лап. А потым уцякала на агарод, і тады нагнала яе куля вось тут, ля стажка. Вартавыя камсамольцы беглі на крык Алесі і не паспелі. Забойца ўцякаў у напрамку лесу, прыгінаючыся. Камсамольцы яго заўважылі і адкрылі страляніну — пазналі, што гэта быў Мацей Гусак.

Хутка Коля Мілаш скакаў верхам на кані ў райцэнтр з балючай весткай, што ўжо не жыве сакратар камсамольскай ячэйкі — прыгожая Алеся Грынчык. Жахнуўся і засумаваў увесь Серадзібор. Вось ідуць жанчыны, мужчыны, групамі валіць моладзь — туды, пад стажок...

У абедзенную пару пад'ехалі таварышы з райцэнтра. Першы выйшаў з машыны і пайшоў наперадзе сакратар райкома Сцяпан Малашкін — засяроджаны, са сціснутымі губамі. З ім побач ішоў начальнік дзяржаўнай бяспекі раёна капітан Рыбін, высокі, прыгожы мужчына. Следам — Чаравака, Бабёр і яшчэ нейкія работнікі, сярод якіх быў і начальнік раённай міліцыі. За ім паспяшала ўрач — маладая жанчына. За ёю ступала медсястра.

Моўчкі аглядалі Алесю. Паціху гаварыла мілавідная доктарка пры аглядзе. Сястра запісвала. Органы бяспекі рабілі сваё — пісаўся пратакол. А Алеся ляжала тварам да зямлі, якую любіла і за якую змагалася. Калі павярнулі яе тварам да неба, бліснулі белыя, моцныя, як крамень, зубы...

Вялікі мітынг адбыўся на могілках, калі хавалі Алесю, хавалі побач з яе братам Андрэем. Прамоўцы кляліся пакласці ўсе сілы, каб знішчыць варожую заразу. З вогненным пафасам гаварыў Жарнавік. Ён казаў аб пільнасці,

аб ахове народнага жыцця, аб выкараненні пошасці. Стары Несцер, абапёршыся на кій, стаў на жоўты пясок каля магілы і чулымі, простымі словамі, па-бацькоўску пашкадаваў Алесю.

## ДЗЕНЬ НАДЫШОЎ

Якія нечаканыя павароты прыносіць нам час у плыні штодзённага жыцця! То абдасць прылівамі радасці, надзеі, то наадварот — напоўніць глыбокім смуткам. Вось так было ў Серадзібары пасля пахавання Алесі. Моладзь не магла апамятацца, не знаходзіла, за што зачапіць рукі, як, з чаго пачаць сваю новую маладзёжную працу. У хатах людзі пабойваліся ўспамінаць пра гэты страшны выпадак, каб не раз'ятрыць сваіх сэрцаў. Толькі старшыня Верабей сядзеў у сваім кабінеце, не скідваючы кубанкі з потнай галавы, і разглядаў план палявых работ, запрапанаваны Грушкам. Калі што не падабалася — крывіўся, і тады аловак пачынаў выстукваць па пераноссі. А тое, што не падабалася, якраз было найлепшым, што ведаў і сам Верабей, але... Чаму гэта яму, Вераб'ю, не прыйшлі такія думкі ў галаву? «Не, ён мною не пакамандуе, гэты студэнцік. Мы самі з вусамі...» Нягледзячы на такія пратэсты, прагляду плана перашкаджала, як заноза, неадчэпная думка аб адным «вельмі важным» мерапрыемстве. Верабей глянуў на ручны гадзіннік і ўстаў. Прачыніў дзверы, загадаў сакратару Валодзю:

— Пашлі ў чайную каго-небудзь, няхай прыйдзе сюды Юля...

Валодзя адказаў, што зараз пашле, і дадаў, што на полі ўжо чакаюць яго, старшыню.

— Пачакаюць. А Кірыла дзе?

— На полі. Несцер не хоча, каб садзілі бульбу там, дзе вы сказалі. І вось...

— Разбяромся. Пашлі хутчэй.

Вераб'ю была патрэбна Юля, каб даведацца, ці робіцца асобны пакой у чайной, пры глухой сцяне, што ад агародаў, з асобнымі дзвярыма. «Чаго мяшацца з простым людам — і так брахні многа бывае...» Так аргументаваў Верабей патрэбу ў асобным пакоі ў чайной «не для ўсіх». Ну што ж... кантора райспажыўсаюза згадзілася. Пабудова запаветнага пакоя павінна была пачацца неўзабаве. Чаму ж

не распачаць? Нічога ж тут грэшнага няма... А чаму аб гэтым турбуецца іменна Верабей, гэта справа яго.

Верабей, разглядаючы план, чакаў Юлю. Урэшце Валодзя ўвайшоў і сказаў, што чайная замкнёна.

— Замкнёна? Гм...— прамычаў Верабей і дадаў: — Ну добра... Другім разам...— Хутка падняўся і выйшаў на вуліцу.

Цераз дзве хаты ад праўлення месцілася чайная. Верабей не вытрымаў і падышоў. Так, на дзвярах вісеў замок, навокал было ціха, бязлюдна, і сама чайная выглядала як даўно пакінутая, асірацелая.

Юля не магла звыкнуцца са смерцю Алесі, плакала кожны дзень, нават злегла ў пасцель — не хацелася нічога ні рабіць, ні наогул жыць. Юля была Алесінай таварышкай па партызанству — варыла партызанам есці, латала ім гімнасцёркі, курткі. Як таварышка Алесі, яна замяніла яе ў чайной, і вось таму гэтая чайная зачынена.

Верабей глянуў на неба, на сонца, якое ўзнялося высока, і, не спяшаючыся, пайшоў вуліцай, каб дайсці да хлявоў — паглядзець падрыхтоўку да пасадкі бульбы.

Той дзень надышоў хутка пасля смерці Алесі, надышоў неспадзявана, хоць яго чакалі народы краіны і свету ад самага пачатку вайны. І ён надышоў, сапраўдны, не выдуманы, у сонечным бляску — Дзень перамогі над ворагам, над нямецкім фашызмам. Вестка аб канцы вайны, аб разгроме фашысцкага звера ў яго логаве, як паўтаралі тады, даляцела ў Серадзібор у поўдзень. Прыехала пошта з газетамі, і тады захадзіла, зазвінела сяло. Беглі групкамі і па адным, беглі моладзь і старыя да праўлення калгаса. Газеты расхватвалі на ляту, і чытачы, як тыя радыёперадатчыкі, пачалі гаварыць аб вялікай падзеі для ўсяго свету. Верылася, што вайны ўжо няма, бо хацелася верыць. Але за плячыма адчуваліся яе страшлівыя цені, прымушалі азірацца. Здавалася, што цені ў седлаватых шапках, у партупеях, са свастыкамі на рукавах заварушацца, і з імі — рыжавалосы, шчаціністы Мацей Гусак з адвіслай губой, да якой прыляпіўся агрызак гітлераўскай эрзац-сігарэты. Ён недзе яшчэ гойсае. Напэўна, верыў, што гітлераўцы стрымаюць наступ савецкіх войск, яшчэ павернуць усё назад, і ў «карчме», дзе цяпер ладзяць мірнае жыццё, павісне на сцяне ў рамках цемрашальскі Гітлер з вусікамі і вар'яцкімі вачыма.

Не, Гітлер знішчаны, фашысцкаму зверу зламаны хрыбет!.. Пра гэта чытаюць грамацеі на ўвесь голас на плошчы перад калгасным праўленнем. Пра гэта гаворыць усхвалявана Платон Грушка, і маці яго, Аляксандра, шкадуе Алесі, голасна гаворыць:

— Чаму ж яна, няшчасненькая, не дачакалася гэтага дзянёчка?

З паўночнага боку, з азярышчанскай дарогі, загудзела машына, і хутка з вуліцы на плошчу вынырнулі два грузавікі, расквечаныя чырвонымі сцягамі. На першым стаяў Сцяпан Малашкін, на другім — Васіль Чаравака. З імі ехалі райкомаўцы, райвыканкомаўцы і іншыя — мужчыны, жанчыны; ехалі з радаснымі крыкамі і ўзмахамі рук. Такое рашэнне прынялі райком з райвыканкомам — пасля ўрачыстасці ў Азярышчы праехаць па раёне, каб разам з народам пацешыцца радасцю перамогі. Машына Чаравакі паехала ў Забівачкі. Малашкін са сваёй групай астаўся ў Серадзібары. Адкрыўся той, усім вядомы здаўна, яшчэ ад часоў рэвалюцыі, ад грамадзянскай вайны, мітынг, дзе выказваліся людзі — кіраўнікі і некіраўнікі — не чытаючы з паперы, і на ўсю душу слухачы ўспрымалі кожнае слова.

Верабей, які так і не дайшоў да поля, з амаль урачыстай усмешкай шаптаў Юлі, каб адчыніла чайную. Тая сказала, што трэба параіцца з Малашкіным, але Верабей нахмурыўся і дакорліва прамовіў:

— Нашто табе яшчэ сакратара ўцягваць у такія справы? Гэта можна зрабіць без яго.

Але хутка людзі пераканаліся, што памочнікам Вераб'я ў такой ініцыятыве вылучыўся не хто іншы, як Архіп, бо ўбачылі яго на ганку чайной з кіем у руцэ, якім ён бахаў па дзвярах і па замку, каб звярнуць увагу людзей. Усе мімаволі звярнулі ўвагу, і тады галасы многіх зліліся ў адно слова: «Адчыняй!» Верабей не адставаў ад Юлі і ўжо шаптаў:

— А што? Я табе казаў, што трэба...

Але натоўп не даў дакончыць Вераб'ю, бо панёс і яго і Юлю да чайной. Юля, распіхаючы мужчын у куртках, ватніках, ледзь дабралася да дзвярэй.

Сакратар Малашкін, бачачы такі паварот справы, падняў руку і крыкнуў:

— Хочаце адзначыць Дзень перамогі? Хочаце?

— Вядома, хочам! — пачуўся нечы голас.

— То заходзьце ў чайную парадкам. Нашто ламацца? Жадаю вам удачы!

Грузавік завуркатаў і павёз райкомаўцаў на забівачкаўскую дарогу, у другія вёскі. А ля дзвярэй чайной ужо стаяў Коля Мілаш і за рукаў адцягваў Каўдуна. Юля вымала ключ з кішэнькі свайго жакецiка.

* * *

У вёсцы Забівачкі «пераможны рэйд» вёў другі сакратар райкома Васіль Чаравака і памагаў яму старшыня райвыканкома Харытон Бабёр. Тут святкаванне Дня перамогі адрозвівалася ад серадзіборскага тым, што кожны частаваўся не ў чайной, бо яе не было, а ў пустой вялікай хаце, у якой перад вайной было праўленне калгаса. І яшчэ адным — тут не было Архіпа.

Але там быў Гойдала-Гайдалевіч, якога не было ў Серадзібары. Чаравака запрасіў яго за стол. Гойдала з тою ж раменнаю торбай цераз плячо сеў і пазнаёміў Чараваку з русавым ягамосцем у цёмна-сінім касцюме, год трыццаці, у якога валасы на галаве былі намазаны маслам. І — галоўнае — завітушка, прыклееная да лба, вісела, як каўбаска,— такая сакавітая, мокрая ад масла. Гэта быў грамадзянін вёскі Забівачкі, хоць яго правільней было б назваць пан, Габрыэль Станіслававіч Духмуровіч-Куцілоўскі.

Трэба сказаць, што невялікая вёска Забівачкі ўяўляла з сябе своеасаблівае з'явішча. Нягледзячы на тое, што яна была невялічкая, усё роўна мела пасярэдзіне пярэрву. Чым абумовілася такая з'ява, можа, нават цяжка і сказаць. Ці тым, што вузкую вуліцу наўскрыж перацінала дарога, якая вяла з захаду на ўсход праз лясныя і балотныя нетры да вёсак, азёр і мястэчак, ці тым, што трэба было паставіць два драўляныя крыжы, і паставіць іх не плячом к плячу, як, скажам, салдатаў, а твар у твар — адзін насупроць другога. Вось гэтыя крыжы так і стаялі. У першага перакладзінка адна, у другога — дзве, і другая, ніжэйшая, крыжуецца насукос. Гэта — адна розніца. А другая — у тым, што прыбіты Хрыстос на першым крыжы металічны, а на другім — кімсьці мастацка зроблены — драўляны.

Так і стаяць крыжы непарушна ўжо многа год, глядзяць адзін аднаму ў твар, не хочуць зварухнуцца з месц. Сакрэт у тым, што за плячыма першага крыжа палавіна вёскі, што цягнецца на поўдзень,— каталіцкая, а за плячыма другога — паўночная частка, меншая — праваслаў-

ная. Працэс акаталічвання на Палессі, як відаць, сустрэўся ў свой час з сур'ёзнымі перашкодамі ўсякага характару, і таму нават невялікую вёску Забівачкі не адолелі папскія сілы да канца.

Хоць дзве палавіны вёскі жылі на адной зямлі, пад адным небам, аднак адзінства між імі не было. Праваслаўная частка вызначалася прастатой у побыце, у той час як каталіцкая перахоўвала ўсе шляхецкія бразготкі, пялася на пальчыках, як кажуць, са скуры вылазіла, каб быць падобнай у манерах да паноў — гэта значыць, да памешчыкаў, і таму называла праваслаўных мужыкамі. Гэта і былі тыя забівачкаўскія засцянкоўцы, якім польскія каралі некалі надалі шляхецкіх тытулаў, каб наблізіць іх да сябе, але не дадалі самага галоўнага — зямлі. І вось стварылася шляхта на палосках, хоць у загноеных, але ў ботах; умела жыць на квасе, які ела па-шляхецку: хліснуў раз — і кладзі лыжку на стол, нават з прыстукам, не трымай у руцэ, бо гэта непрыстойна. І так за кожным разам. Прышыў сам латку да бота, але ў гэтым не прызнавайся, бо суседзі могуць прыраўняць да якога-небудзь местачковага шаўца Моўшы, што ў вачах шляхты было таксама непрыстойна. У некаторых хатах на покуцях пад абразамі «найсвентшых езусаў і матак» стаялі, як таўкачы, гіпсавыя статуі рымскага папы, прыўзнятая «святая ручка» ў якога благаслаўляла пацямнелыя ад плесні хатнія куткі. Гэтыя статуі прывезены ў свой час з Чанстахова, калі на ашчаджаныя грошы некалькі сем'яў адважваліся ехаць у «пілігрымку», каб і свой мазольны, але шляхецкі грош кінуць у манастырскую машну. Лапцяў шляхта не насіла, хіба толькі ў сенакос у балотах, бо тут ужо нічога іначай не зробіш. Можна было бачыць шляхціца босага дома ці на полі, а ў лапцях — не. Але што датычыць працы на зямлі, то кожны засцянковы шляхціц гатоў быў запрэгчыся разам з канём, каб вывернуць глыбейшую баразну, каб больш зямлі было на паверхні, бо напрыворваць лішніх бароznaў ушыркі перашкаджалі суседскія межы. Вось чаму, здаецца, нідзе не было столькі сварак за межы, як у засцянковай шляхты. Мералі пугаўямі, крычалі на ўсё поле, склікалі сведак і адзін аднаго запрашалі ісці да ксяндза па справядлівасць. Сварыліся на сакавітай беларускай мове, хоць называлі яе мужыцкай, часта ўстаўляючы слова «пане» — ды так, каб яно гучала праз нос. Так наказваў шляхецкі этыкет. У сварцы секлі адзін другога вострымі славечкамі,

прыпаміналі мінулыя крыўды, з якіх заўсёды выяўлялася адна — заломы ў жытах. І тады вылятаў з вуснаў ёмкі праклён: «Каб табе, пане, каўтун звіўся на галаве, як ты мне столькі жыта зглуміў заломамі».

Час ад часу сварыліся ўсе, але нікому не было сакрэтам, што кожны наравіў хоць паўбаразёнкі адхапіць у суседа. І калі сусед маўчаў, то наступным разам — яшчэ паўбаразёнкі. Як жа добра пашырыць свой загон! Усё ж такі хоць нейкая жменя зярнят прыбудзе. Гэтых запаветных баразёнак кожны намагаўся прыхапіць усюды, дзе толькі ўдавалася, і таму палявыя дарогі ў шляхецкіх палетках былі самыя вузкія, таму і вуліца ў шляхецкай частцы вёскі, відаць, самая вузкая на свеце. Калі гаспадары разміналіся, едучы на калёсах, рэдкая з'ява была, каб восі не чапляліся адна за адну. І тут зноў-такі ўзнікала сварка. «Куды ты едзеш? Ці табе вочы павылазілі, пане?» Другі адказваў: «А можа, табе, пане...»

Так шляхта грызла вуліцу, так усе шляхтуны грызлі адзін аднаго як толькі маглі. У адным яны былі ў згодзе — у прыкрыванні свайго фальшу і ўбоства. У гэтым шляхта ішла на розныя вынаходствы, асабліва каб паказаць сябе перад чужымі. Бо што, напрыклад, азначае слова «бодка», як называе «змужычэлая» частка Забівачак частку шляхецкую. Так і кажуць, махаючы рукой на поўдзень: «Там жывуць бодкі». «Гэта едуць бодкі». Калі, бывала, шляхта едзе на сваіх нядошлых клячах цэлым абозам на кірмаш у Азярышча, то, праязджаючы праз вёскі, нешта такое робіць сваім коням, што яны ўзнімаюць галовы, як жарабцы. Безумоўна, гэта быў толькі шляхецкі фокус для «дурных мужыкоў». Але «дурныя мужыкі» даўно разгадалі яго, і карчма Серадзібора часта грымела ад смеху. Фокус гэты, трэба сказаць, не без хітрасці, як і кожны фокус. Дастаткова ў пугаўё, там, дзе прывязваецца пуга, убіць завостраную драцінку або цвік — вось гэта і будзе бодка. Дастаткова, бывала, шляхціцу, едучы праз якую-небудзь вёску, нацягнуць лейцы і непрыкметна парнуць бодкаю каню пад хвост, як апушчаная галава жывёліны ўздрыгвала, падымалася, і капыты пачыналі выбіваць амаль што чачотку. Людзі, не ведаючы сакрэту бодкі, праводзілі шляхціца позіркамі здзіўлення, не адрываючы вачэй ад каня, потым казалі: «Во якія коні шляхецкія, лейцамі ледзь стрымаеш». Нездарма ў народзе і да нашых часоў асталіся прымаўкі-параўнанні, як напрыклад: «Конь не хоча бег-

чы, хоць ты яго бодкаю [1] пары». У дачыненні да чалавека: «Ой, ты, як той конь, якога трэба бодкаю пароць».

За доўгае і сталае сужыццё дзвюх частак вёскі Забівачкі, падзеленых пярэрвай і крыжамі, адбыліся паступова пэўныя ўзаемныя ўплывы адной часткі на другую. Паўночная, змужычэлая, частка шляхты праваслаўнай не пагналася за каталіцкай, каб так абвузіць вуліцу, не ганьбавала лапцямі, а наадварот — рыхтавала цэлыя вешалы скруткаў лазы, як і сяляне, пра запас. «Мужыкі» елі таксама бульбу і квас, але трымалі лыжкі ў руках праз увесь час яды, не клалі за кожным хлістам на стол, ды яшчэ з прыстукам. Наадварот, смяяліся з гэтага панскага рытуалу, і кожны, трымаючы лыжку ў руцэ, наравіў падперці яе кавалачкам хлеба, каб з лыжкі не капала на стол або на падлогу, каб увабралася мякішам. Мужыкі ў гаспадарцы больш напіралі на валоў, чым на коней, а шляхта шмат раней перайшла на коней і ўзброілася «бодкамі», каб не траціць форсу. Мужыцкія дзяўчаты ткалі спадніцы, каптаны і доўга не квапіліся агольваць рукі, лыткі, як гэта пачыналі рабіць шляхцянкі, дзе трэба, а дзе і не трэба. Ці ж не смех — пасвіць свіней у чаравіках і пальчатках, што высмеяў у свой час яшчэ Міцкевіч. Мужыкі не маглі глядзець на такія дзівы — высмейвалі, аплёўвалі і называлі дурнямі. Хіба ж можна дазволіць сабе такое марнатраўства?

Якая б ні была розніца, усё ж такі змужычэлая шляхта, гэта значыць з праваслаўных, старалася стаяць у царкве асобна, у сваіх адметных шляхецка-парадных даматканых куртках, сярмягах. Але і гэтая адзнака з часам пачала сціранца.

Адным словам, нямала граніц сцерлася паміж раздвоенымі забівачкаўцамі, але адна так і не магла сцерціся. Гэта — глыбокая розніца характараў, душэўных напрамкаў, калі можна так сказаць. Бо чым жа можна вытлумачыць, што калі пілсудчыкаўскі ўрад пачаў праводзіць хутарызацыю, дык уся шляхта — і багатая і бедная — пайшла на хутары, а сярод «мужыкоў» згадзілася толькі некалькі гаспадароў. Барацьба супроць хутарызацыі там была вострая. Вядома, тут не абышлося без камуністаў, без падмогі Серадзібора. А пасля 1939 года вёска Забівачкі апошняй у раёне ўзялася за калектывізацыю. Пад час нямецка-фа-

---

[1] Гэтае характэрнае слова «бодка», трэба думаць, паходзіць ад рускага слова «бодать». («Бодливой корове бог рог не дает».)

шысцкай няволі найбольш паліцаяў у серадзіборскім гарнізоне было з Забівачак, сярод якіх вылучаліся асабліва такія, як Мацей Гусак і Міхась Гойдала.

Перайманне манернічання ад паноў вышэйшага рангу адбілася і на прозвішчах засцянковай шляхты, якія часта-густа мелі дзіўоснае гучанне. Ну, хіба ж да твару шляхціцу насіць, скажам, такое прозвішча, як Лопух? Гэта ж для яго абразліва. Тады шляхта ператварала абразлівасць у панскасць, і з Лопуха рабіўся Лопух-Лапуховіч, з Дмуха — Дмух-Дмухоўскі, Сыч-Сычоўскі, Мышка-Мышкевіч і гэтак далей. Падвойныя прозвішчы падабаліся шляхце, закручвалі ёй галовы. Гэта ж кожны незнаёмы, пачуўшы не адно з такіх прозвішчаў, можа падумаць, што забівачкаўцы безумоўна патомкі княжацкага роду. Хіба ж гэта, пане, не гонар?

Так вось і стаў перад былым камандзірам партызанскага атрада Чаравакам у дзень перамогі над фашысцкай Германіяй, адставіўшы назад ніжнюю палавіну свайго тулава, парэкамендаваны Міхасём Гойдалам, такі вось «патомак княжацкага роду» Духмуровіч-Куцілоўскі. Ён, прыстукваючы абцасікамі блішчастых жоўтых туфляў, віўся перад Чаравакам, як уюн, і асаблівую рухавасць выяўляла ніжняя палавіна тулава. Здавалася, што яна была наогул незалежная і магла віляць ва ўсе бакі. Чаравака нахмурыўся і з ноткай жарту «грозна» прамовіў:

— Што вы так? Сесці не ўмееце?

І, тыцнуўшы пальцам на крэсла, дадаў:

— Сядайце!

Духмуровіч-Куцілоўскі сеў, і, нягледзячы на гэта, ніжняя частка тулава віляла, коўзалася па крэсле. «Патомак княжацкага роду» не спускаў вачэй з Чаравакі, прыгінаўся і, пакручваючыся, дзіўосна ўсміхаўся, паўтараючы:

— Што? Так? Так-так-так...

І рука зараз жа цягнулася да гальштука, да чырвонага гальштука, і далікатна пальчыкамі падцягвала яго ўверх, хоць патрэбы ў гэтым не было.

Васіль Чаравака грымнуў прамову, усе заляскалі ў далоні. Духмуровіч-Куцілоўскі так ляскаў, што здавалася — нехта хлопае па кажусе, і перахіляўся ва ўсе бакі, зноў жа не зводзячы вачэй з Чаравакі.

Тостаў тут было менш, чым у Серадзібары, бо ўсхваляваныя перамогай забівачкаўцы не ведалі, як іх выказваць. Лепш няхай будзе ціха, а то хто-небудзь пасля чаркі прыпомніць выслугацтва шляхты перад немцамі. Няхай

будзе ціха. Выпіць чарачку для парадку — і дахаты. З тых нямногіх тостаў прагучалі тосты Гойдалы і Куцілоўскага. Слухаючы Гойдалу, Куцілоўскі не мог уседзець спакойна. То коўзаўся па крэсле, то падцягваў штаны, каб не выпучваліся ў каленях, то без дай прычыны перашпільваў гузікі ў пінжаку. А Гойдала гаварыў круталоба, даводзіў, трымаючы шклянку з «гаручым», што на свеце ёсць самае дарагое слова — чалавек, ён узвышаецца над усімі, і што гэты чалавек — паважаны Васіль Пятровіч Чаравака.

— Здорава ты закаціў, здорава,— хваліў Гойдалу Чаравака.— Галоўка ў цябе, брат... Знай нашых!

Тады ўстаў Духмуровіч-Куцілоўскі.

— Я вельмі,— пачаў ён,— я вельмі... у гэты ўрачысты для ўсіх дзень хачу... хачу падняць гэтую шчаслівую чарку за прысутнага тут, усімі любімага сакратара райкома партыі Васіля Пятровіча Чараваку!

Воплескі загрымелі па ўсіх кутках.

Чаравака, жуючы хлеб з салам, устаў і працягнуў руку Духмуровічу-Куцілоўскаму.

— Дзякую... Хоць, знаеце, я... не заслугоўваю такога тосту.

Духмуровіч-Куцілоўскі ўжо разам з Гойдалам-Гайдалевічам пачалі асаджваць Чараваку:

— Што вы? Што вы? Васіль Пятровіч...

А Васіль Пятровіч і не згледзеў, як з бяздоннай торбы Гойдалы вылезла новая бутэлька смярдзючага самагону і стала на стале. Чаравака сеў і не звярнуў на яе ўвагі.

Бутэлька чакала рукі Гойдалы і, вядома, дачакалася. Дно яе перакулілася ўверх, і з горлачка палілася вадкасць, забулькала ў шклянку Чараваківі.

Хата паволі пачала пусцець. Аглядныя шляхтуны, каб не дай бог чаго не было, палічылі за лепшае адарвацца ад начальства. А то вунь Харытон Бабёр ходзіць ад стала да стала і нешта нашэптвае людзям на вуха. Калі ж да ўсіх дайшло, што Бабёр гаворыць аб падрыхтоўцы агульнага сходу ў Забівачках, каб аднавіць калгас, забівачкаўцы пастараліся абмінуць «гэтае ліха». У хаце асталася невялікая група з Васілём Чаравакам.

Хацелася астацца яшчэ аднаму чалавеку, год пад шэсцьдзесят, па прозвішчу Махаед Пракоп. Ён быў самы бедны гаспадар у каталіцкай частцы Забівачкаў і жыў на канцы вёскі. Шляхта здзекавалася з яго як толькі магла, а сусед, бацька Міхася Гойдалы, абворваў яго і абкошваў, біў яго дзяцей, калі тыя забягалі ці то ў агарод, ці то на

сенажаць. Як можна было жыць Пракопу з такім няпанскім прозвішчам сярод гэтых паноў? А чым жа ён вінаваты, што яму нехта некалі даў такое прозвішча? Пракоп і веру сваю пакінуў, перайшоў у каталіцтва, думаў — мо адчэпяцца. Праўда, некаторыя адчапіліся, а тыя, найгоршыя злыдні, не пераставалі здзекавацца. Адганялі яго карову ад гурту, як і раней. Гойдала яго самога адганяў ад студні, і трэ было хадзіць па ваду аж у рэчку, калечылі яму свіней, парасят. Выжывалі яго, Пракопа, усімі сіламі. Такое жыццё было, што хоць ты вешайся! Не, Пракоп Махаед не павесіўся. Ён дачакаўся трыццаць дзевятага года, дачакаўся чырвонай зорачкі, аб якой марыў, і што яшчэ — на злосць усім Гусакам-Гусаковічам і Гойдалам-Гайдалевічам атрымаў ад савецкай улады зямлю, ды якраз Гусакову. Трыумфаваў замучаны багацеямі, ды яшчэ «панскімі», Пракоп, упэўнена хадзілі яго ногі. Сыны пайшлі ў навуку. Прыйшлі гітлераўцы — Пракоп з сям'ёю пайшоў у партызаны: ён сам, жонка, тры сыны і дзве дачкі. Вярнуліся з партызанства ўсе жывыя, некаторыя з узнагародамі. І зноў Пракоп радасны — змеі прыціхлі, не адважацца падняць галоў. Усё бачыць Пракоп, чуе, як яны шыпяць, усё хочацца расказаць яму сакратару, які сядзіць вунь за сталом, пасярэдзіне. Яны знаёмыя з партызанства, але ён цяпер яго, Пракопа, бачыць не хоча — прышылі да сябе Гойдалы і Куцілоўскія. Пракоп пасядзеў у кутку адзін, нават цыгарку скруціў з самасаду, задыміў, думаў — можа, Чаравака заўважыць яго. Дзе там! Засланіў усё сабою гэты Куціла, як у скароце звалі Куцілоўскага, так, што Васіль Пятровіч і свету не бачыць. Пракоп устаў, уздыхнуў і, насунуўшы шапку на вочы, выйшаў.

Доўга яшчэ чокаліся чаравакаўцы, пакуль не апусцела раменная торба Міхася Гойдалы-Гайдалевіча. Ён мог бы пастарацца яшчэ «смярдзючага напітку», але «патомак княжацкага роду» Духмуровіч-Куцілоўскі здаў пазіцыі. Лёгшы галавой на стол, ён захроп, і тая завітушка валос, як каўбаска, адвалілася ад ілба і лягла на беражок талеркі. Усе сцвердзілі, што пара канчаць.

* * *

Першая ноч пасля перамогі скончылася ціхім лагодным світаннем. Лёгкі вясняны туман плыў павольна, туліўся да зямлі, асядаў па балотных кустах і ля падножжа баравых сосен. Ніхто не парушаў яго і на вуліцах Серадзібора і

Забівачак. І, можа, таму так ціха, асцярожна ехаў грузавік — як стомлены, знясілены конь. Калі колы западалі ў выбоіны, ён са скрыпам, як засопшыся, з неахвотай вырываў іх. Здаецца, яму хацелася запасці ў тыя выбоіны і заглухнуць, перачакаць стому. У кабінцы, побач з шафёрам, сядзеў Сцяпан Малашкін. І хоць намагаўся глядзець на свет адкрытымі вачыма, яны зліпаліся неміласэрна. У кузаве мужчыны і жанчыны стуліліся ў куткі, пераплячіся і ляглі галовамі адзін на другога — старэйшыя і маладзейшыя,— спалі нявінным сном стомленых людзей, і ніякія штуршкі не маглі іх разбудзіць. Відаць, шафёр таму і вёў машыну так павольна — не хацеў трывожыць сон пасажыраў. Не даязджаючы да Забівачак, там, дзе рэчка Пагулянка робіць паварот у баравую гушчу, Малашкін не сказаў, а даў знак шафёру — спыніцца. Выскачыў з кабінкі, падбег да рэчкі, скінуў кепку — і давай прыгаршчамі паліваць ваду сабе на твар, на галаву. Пасля выняў з кішэні хустачку, выцерся, пакрэктваючы. Услед за ім тое самае зрабіў і шафёр. Малашкін глянуў у кузаў, усміхнуўся і шэптам сказаў шафёру:

— Глядзі, што за светапрадстаўленне... Трэба іх неяк будзіць.

Першай абудзілася ўрач Вера Ігнатаўна Лукашэвіч, тая, што абследавала Алесю, забітую Мацеем Гусаком ля стажка ў агародзе. Яна ўмомант стала на ногі, ускрыкнула тонам папроку. «Ой!..» — і стала прыгладжваць свае раскіданыя цёмныя валасы, якія рассыпаліся па спіне.

— Ой-ой, як жа мы выглядаем...— гаварыла яна, як быццам перапрашаючы каго, і, разгладзіўшы сваё цёмнасіняе плацце, пачала памагаць Малашкіну будзіць усіх. Уся група, абудзіўшыся, прыняла параду Малашкіна — асвяжыцца ў рэчцы, што і было зроблена з вялікай прыемнасцю. Тады пераехалі мосцік, які хаваўся ў лозах і вольхах, і накіраваліся проста ў Забівачкі.

Забівачкі танулі ў лёгкім тумане, агорнутыя сном, калі Малашкін са сваёй групай уехалі ў вуліцу. Малашкін думаў, як адшукаць тут Чараваку, і таму наказаў шафёру ехаць як мага цішэй, каб дзе ўбачыць чаравакаўскі грузавік. Вось і канчаецца вёска. За апошняй хатай — Пракопа Махаеда — пачынаецца пярэрва з крыжамі. Малашкін раптам схапіў шафёра за руку і сказаў: «Стой!» Пагледзеўшы ўважліва праз акенца кабінкі на падворак Пракопавай хаты, Малашкін выскачыў, падышоў да весніц, абапёрся на іх локцямі і пачаў глядзець туды, дзе цямнеў

прастакутнік адчыненых дзвярэй. Там ляжала перавешаная цераз парог валасатая галава самога Пракопа. Што за прычына? Мо дзядзька падгуляў залішне і замест падушкі палажыў галаву на парог? Малашкін асцярожна адчыніў веснічкі і ціхімі крокамі падаўся да дзвярэй. І толькі дайшоў да іх, толькі нагнуўся над Пракопавай галавой, і адразу адскочыў, пабег назад, нахмураны, збялелы. Загадаў усёй групе выйсці з машыны. Паслаў некаторых будзіць суседзяў, каб прыйшлі. Між іншым, наступная хата, крыху воддаль, была Гойдалы-Гайдалевіча. Пасланцы пайшлі і туды. Там на падворку стаяў грузавік Чаравакі, а людзі, відаць, размясціліся ў хаце.

Калі суседзі-забівачкаўцы прыйшлі, Малашкін адчыніў веснічкі і запрасіў усіх зайсці. Людзі ахнулі ў адзін голас — перавешаную цераз парог Пракопаву галаву ледзь трымала на скуры перарэзаная шыя... Кроў сцякла з парога на сярэдзіну падворка і там сабралася лужынкай. Ад хаты веяла мёртвай цішынёй. Можна б зазірнуць у вокны, але яны былі завешаны.

Першыя ўвайшлі ў хату Малашкін і начальнік дзяржбяспекі Рыбін. Асцярожна адчынілі дзверы і сталі насцярожаныя. Стаялі доўга, анямелыя ад такой нечаканасці. Яны ўбачылі, што нейкі злачынца перарэзаў усю сям'ю. На падлозе ляжалі дзве дачкі, пад лавай — сыны, маці-гаспадыня звешвалася акрываўленай галавой з ложка. Малашкін і Рыбін вярнуліся на падворак параіцца. Вырашылі запрасіць следчыя органы з вобласці. Справа прымала абласное значэнне, ды не толькі абласное. Пасланцу ў вобласць Рыбіну было даручана, каб захапіў з сабою медыцынскага эксперта ў дапамогу Веры Ігнатаўне, якую папрасілі, каб зараз жа абследавала ахвяры і зрабіла свой пратакол.

Раздзел другі

## НЕЗВЫЧАЙНЫ ПЛЕНУМ

Той вечар для Сцяпана Малашкіна быў, можа, самы сур'ёзны і адказны за ўвесь час яго партыйнай працы. Гэта было пасля пахавання сям'і Махаедаў. Цяпер ён бачыў, што ворагі не спяць, што іх нямала, што яны тым ці ін-

шым спосабам — дзе патаемна, а дзе і адкрыта — шкодзяць і будуць шкодзіць. А навокал іх, вядома, уюцца падгалоскі.

Малашкін хадзіў па кабінеце адзін і думаў, думаў. Часам станавіўся перад сталом, сашчэпліваў пальцы і выцягваў рукі наперад, так што пальцы патрэсквалі ў суставах. Гэта ўвайшло невядома чаму ў прывычку, і калі трэснуць пальцы, рабілася на душы лягчэй. Адхлынала навалач ценяў, якія, як прывіды, усё наступалі і наступалі на розум і сэрца. Часам падыходзіў да цёмнага акна, адхінаў фіранку і некаторы час глядзеў на цьмяныя адзінокія ліхтары недалёкай чыгункі, якая заўсёды прывозіла яго да вырашэння сваіх і іншых спраў — то ў абласны цэнтр, то ў сталіцу. Сесці б цяпер няхай на якую дрызіну і пад'ехаць да сакратара абкома, хоць у душы ён яго не любіў. Малашкін пачаў хадзіць па кабінеце, заклаўшы рукі назад. На душы было то вельмі цяжка, то рабілася лягчэй, калі раптам душу абдавала цеплынёю «адчуванне локця». Гэта — прыходзіла партыя, яе сіла і ласка, партыя — сапраўдны друг. «Так, Сцёпа, трэба ўмець быць партыйным да канца, трэба ўмець вырашаць самому, на званках Гугновіча далёка не заедзеш. Званіў учора, загадваў: «Сабраць усе рэсурсы і злавіць бандыта Гусака!» Ах, як лёгка вымаўляць слова «рэсурсы»! А я, малы Малашкін, адважыўся папрасіць дапамогі, каб у адзін дзень і ноч прачасаць навакольныя лясы і хутары. Высмеяў мяне таварыш Гугновіч, назваў адарваным ад народа. Як гэта ўсё лёгка! А без дапамогі Гусака не зловіш. Новаствораная міліцыя па сёлах — гэта недастатковая сіла. Што ж... будзем шукаць «рэсурсаў», а за гэты час Гусак заб'е яшчэ не аднаго... Так, Сцёпа, неўгамонны камсамольчык з дваццатага года, які ўжо тады ўмеў браць у рукі любімую рэвалюцыйную вінтовачку, мусіш вырашаць сам... Капітан Рыбін пайшоў па раёне ствараць разведку. Рыбін разумны, талковы, мера ў ім на ўсё харошая... вытрымка. Яго ўжо ў народзе палюбілі. Гэта — добра. Але боязна, каб не здарылася чаго з Рыбіным. Заўтра ён павінен рабіць даклад Малашкіну — перад пачаткам бюро... адзін на адзін.

Вецер зашалясцеў за вокнамі маладым вішняком, пасля чаго стала вельмі ціха, і Малашкін на ўсю глыбіню душы, не прызнаючыся перад сабою, адчуў, што стала не толькі ціха, але і тужліва. Глуха праз драўляныя простыя дзверы, што вядуць у прыёмную, данеслася цакатанне пішучай машынкі. Можа, пара паклікаць яе — сакратарку Сашу? Што яна паспела зрабіць? Саша — густавалосая,

прыгожая, ужо ў гадах, дзяўчына. Сапраўдны арэол ільняных валасоў над чыстым ілбом і ціхімі ўдумлівымі вачыма — чорнымі вугалькамі. Яна ўмее маўчаць, умее многага хацець і нікому не прызнавацца ў гэтым. Жыццёвая лірыка ў грудзях яшчэ мала растрачаная.

Думка пра Сашу неяк шарахнула з месца Малашкіна. Ён амаль што падбег да стала, стаў на сваё сакратарскае месца перад крэслам, глянуў на дзверы і націснуў званок. Праз момант — знаёмыя крокі за дзвярыма, і ўвайшла Саша ў жоўтай кофце і ў чорнай спадніцы. Такі дабор убрання рабіў яе зусім сонечнай.

— Як справы, Саша? Скора скончыш?

— Скора, Сцяпан Пятровіч,— адказала яна сціпла і чакала далейшага — можа, якіх надзвычайных указанняў.

— Стамілася, бачу? — сказаў Малашкін, лёгкая ўсмешка мільганула на вуснах.

— Нічога... Трэба...

— Так... трэба,— паўтарыў Малашкін не то толькі самому сабе, не то каму другому.— Ты праўду кажаш, Саша... Трэба,— дадаў яшчэ сакратар і мімаволі скрануўся з месца, каб ісці. Але схамянуўся і спыніўся:— Ніхто не прыходзіў?

— Не. Толькі Чаравака заглянуў і, нічога не сказаўшы, пайшоў.

Саша адчула нешта трывожнае ў вачах, у постаці Малашкіна, у чорнай пасме, што стомлена апала на лоб, і ўпершыню, як увайшла, узняла вочы і турботліва паглядзела ў твар Малашкіну, схілены няўзнак над адкрытым томам Леніна.

— А з Чаравакам ніхто не быў?

— Ззаду мільгануў нейкі чалавек, але я не пазнала, хто гэта.

— Гм... Правер, Саша, ці дома ён. Калі дома, трубку перадасі мне. Добра?

— А як няма? — падняла пад пытанне Саша.

Малашкін не спяшаўся з адказам. Павольна правёў рукою па сваіх блішчастых віхрах і тады адказаў:

— Паспрабуй спытацца ў жонкі, дзе ён. Але зрабі гэта ўмела, каб ён, чаго добрага, не западозрыў, што мы яго шукаем.

— Добра, Сцяпан Пятровіч, зраблю.

— Ну, ідзі канчай, Саша... Справы, як бачыш, надышлі немалыя. Заўтра пасля бюро адпачнеш уволю.

Саша, не спяшаючыся, яшчэ раз турботліва глянула

ў твар сакратару, пасля павярнулася і выйшла. Сакратар толькі тады глянуў на дзверы, калі яны ціха зачыніліся. Потым павольна апусціўся ў крэсла, аблакаціўся на стол і, падпёршы лоб рукою, паглыбіўся ў чытанне. Цікаў гадзіннік на сцяне, час ад часу шапацеў за акном вішняк, а думкі Малашкіна паплылі ў тое баявое і грознае мінулае, калі пачынаў кавацца новы свет, які Малашкін і сотні, тысячы малашкіных, ідучы па шляху Леніна, прадаўжаюць каваць і цяпер, і пачынала часам здавацца, што гэты жаданы і дарагі новы свет адплывае з-пад ног. Дзе ж тыя краты́, што шнуруюць пад зямлёю? Ці бачыць іх Чаравака? Гэтае пытанне раптам, як з засады, уварвалася ў ніць чытання Малашкіна і перарвала яго. Малашкін устаў знецярплівены. «Толькі падумаць, я тут хаджу, перажываю, а ён, відаць, недзе залівае за каўнер... Трэба палажыць гэтаму нейкі канец... А як ты паложыш? Ты ж сам прывёў яго ў райком... Так, прывёў... правільна... бо глянуў на чалавека павярхоўна, не падумаў, што чарка завядзе ў ліхі бок. Партыя патрабуе ад нас вывучаць людзей і выкарыстоўваць іх па іх здольнасцях...— Малашкін раптам засмяяўся.— Та-ак... Вось вам і здольнасці! Ні богу свечка ні чорту качарга. Аднак... Смех смехам, а рабіць нешта трэба. Само не прыйдзе... Вывучаць чалавека — трэба час, а ў нас яго...» — Малашкін махнуў рукою некуды ў прастор.

Увайшла Саша і сказала, што зараз прыйдзе Чаравака.

— Што? Ён быў дома?

— Калі я званіла першы раз, дома не было. Жонка сказала, што пойдзе пашукае. Яна яго недзе знайшла. І ён пазваніў, сказаў, што зараз прыйдзе.

— Добра, Саша... будзем чакаць.

Саша пайшла, а Малашкін, стоячы за сталом, хутка накідаў алоўкам на паперы нейкіх пару сказаў. Таямнічая ўсмешка з хітрынкай застыла на яго твары. Здавалася, што справа з Чаравакам пачынала яго нават забаўляць. «Вясёлы ён... бравы і...» Малашкін шукаў яшчэ слова, каб акрэсліць Чараваку, і ўрэшце дадаў, чаго не хацеў дадаць: «...харошы». І з сэрцам выдушыў з сябе: «Каб яго чорт!» Ніці сімпатыі да Васіля Чаравакі былі яшчэ цэлыя, непарваныя. Перад вачыма ў Малашкіна стаў ён, Чаравака, тады, калі вывеў каня з райкомаўскага хлява, і людзі, якія стаялі на падворку, і не згледзелі, як ён, дакрануўшыся злёгку пальцамі да конскага хрыбта, у адзін міг пераскочыў цераз яго. А за другім разам — сеў зухавата на

каня. Так вось ён выглядаў перад атрадам у лесе, і партызаны рады былі ісці за ім, як кажуць, у агонь і ваду. Прамоўца з Чаравакі быў жывы, гарачы, нават часам залішне гарачы. Словы «трэба біць па фундаменту» сталі ў яго як канпрымаўка. І вось цяпер... Няўжо ў гэтага чалавека да канца скалечылася душа? «Не, не можа быць...» — думае Малашкін.

У дзвярах пачуўся дробны стук, пасля якога яны адразу расчыніліся насцеж з нейкім нават шумам, і, як заўсёды, выкідваючы ногі на ўвесь размах, увайшоў Васіль Чаравака. Першае, што зрабіў,— павесіў тую неданашаную камандзірскую шапку на вешалку, што стаяла налева ў кутку. Потым абцягнуў гімнасцёрку і пайшоў да стала, крыху апускаючы вочы. Прабор русых валасоў быў паблытаны, на што не мог не звярнуць увагі Малашкін.

— Здароў, Вася,— звярнуўся ён да Чаравакі, паказваючы на крэсла, каб той сеў.

— Здароў, Сцяпан Пятровіч. Ты мяне выклікаў? — спытаўся Чаравака, сядаючы.

— Ну што значыць выклікаў? Ты рабі так, каб цябе не выклікалі. Прыходзь сам.

Малашкін сеў і ціха засмяяўся, хоць па-таварыску, але крыху іранічна.

— Ну, расказвай, дзе быў праз цэлы дзень? Як табе вядома, заўтра ў нас пленум. Як ты падрыхтаваўся да справаздачы, як ідзе сяўба, як працуюць старшыні калгасаў? Якія заўтра скажаш нам заўвагі пра старшынь? Сам ведаеш, што гэта важна.

Васіль Чаравака моцна ўздыхнуў праз нос, падняў руку, каб махнуць на ўсіх і на ўсё, але рука толькі паднялася і тут жа лягла на стол.

— Ды нічога асаблівага я заўтра не скажу. Сяўба яшчэ па раёне не закончана. А пра старшынь — хто іх там разбярэ.

— Разбіраць трэба, і нам, не каму-небудзь іншаму.

Малашкін, вядома, ведаў пра становішча калгасаў, але павёў такую гутарку з Чаравакам знарок, каб праверыць, што ён робіць і ці наогул што-небудзь яго цікавіць.

Чаравака адчуваў сябе няёмка. Як мог, стараўся пры гутарцы адварочваць галаву ад Малашкіна, і на гэта, відаць, у яго трацілася найбольш увагі. А тут, як на злосць, Малашкін раптам:

— Папахвае ад цябе, Вася...

— Нюх маеш востры... Так, не таюся — папахвае.

— Трэба пра гэта падумаць нам ужо сур'ёзна, Вася... Мы ўсе людзі жывыя, часам любім пабавіцца з чарчынай, але... на ўсё час і мера.

Настала маўчанне. Чаравака сядзеў, апусціўшы галаву, як сам не свой, і раз за разам зацягваўся махорачнай папяросай. Курыў і Малашкін, і часам былі такія моманты, што яны адзін аднаго ледзь бачылі праз дым.

Урэшце Чаравака заварушыўся так, што затрашчала крэсла. Ён на нешта адважыўся.

— Вось што мне хочацца сказаць, Сцёпа. Не магу ўпарадкаваць душы. Пасля пахавання сям'і Махаедаў грызе злосць і туга...— І Чаракава прыстукнуў кулаком па стале і надоўга нахмурыўся.

Малашкін скручваў наступную папяросу, неяк зачэплены за жывое апошнімі словамі Чараваісі.

Верыў, што так можа быць, як кажа Вася, але... нешта тут і не так.

— З кім жа ты гэтую злосць і тугу развяваеш, можна ведаць? — спытаўся Малашкін з адценнем пэўнай напорыстасці і чахнуў запалкай па карабку. Прыкурваючы, не спускаў вачэй з Чараваісі.

А Вася толькі пасля такога пытання прачнуўся ад хмурасці і абыякава перапытаў:

— З кім? — Тут жа махнуў рукою і таксама абыякава дадаў: — Ці ж не ўсё роўна? Злосць і туга ад гэтага не паменшалі.

— Аднак... казаць не хочаш...

— Што ж... трэба казаць, калі ты так настойваеш. Асуджаць мяне будзеш... Але... паглядзім. Знаеш Гойдалу Міхася?

— Трохі чуў, знаю.

— Ну вось, найбольш з ім...

— Та-ак... Таварыства, Вася, не зусім удалае. Падумай, прааналізуй...

— Гэта — хлопец нядрэнны і не дурны. Вось работы не мае. Ён пісьменны. Яму варта было б дзе-небудзь даць добрую работу.

— Дзе, напрыклад?

— Ну... можа, у райвыканкоме ці ў другой установе. Нельга ж, каб чалавек хадзіў дагэтуль без работы.

— Так, правільна, нельга... Падумай, які павінен быць наш падыход да людзей, якіх мы хочам браць на работу ў апарат, і на гэтым, Вася, давай гаворку на сёння скончым.

Пасля бюро зоймемся гэтымі справамі больш падрабязна — вядома, не без Рыбіна...

Пасля апошніх слоў Чаравака ўставіўся вачыма на Малашкіна.

— Што ты гэтым хачаш сказаць? — не сказаў, а рвануў Чаравака.

— Тое, што сказаў, Вася... Мы людзі партыйныя і пагаворым пра ўсё пасля бюро... дасканальна, дасканальна... А цяпер пойдзем на адпачынак.

Малашкін глянуў на гадзіннік на сцяне і дадаў:

— Бачыш, позна ўжо... дванаццатая.

Чаравака пакашліваў, круціўся на крэсле, пераўжоўваў становішча, як конь цуглі.

— Я галавы не страціў і ведаю, што раблю! — прамовіў з адценнем гневу.

— Ды цябе, Вася, ніхто ні ў чым не абвінавачвае і не збіраецца абвінавачваць. Што ты?

Чаравака пачаў паволі астываць. Урэшце ўстаў, падаў руку і моўчкі выйшаў. Малашкін пaглядзеў яму ўслед і адчуў, што Чаравака пайшоў нездаволены і, галоўнае,— неспакойны... Цяжка. Прыйдзе дахаты і вып'е яшчэ. У нейкія нетры па чыёйсьці волі трапіў адной нагой... І вось...

Ніяк не можа зразумець такіх паводзін Малашкін. Ды яно і зразумець, відаць, нялёгка. Ён думае: «Быў Чаравака камандзірам, славу меў. Хлапец, здаецца, адважны, зухаваты, за што, уласна, я і палюбіў яго і зрабіў другім сакратаром. Чаму не працаваць і не паводзіць сябе як след? А ён сплёўся. Ды з кім? — з падазроным чалавекам. Два ці тры месяцы партызанства Гойдалы яшчэ не гавораць, што ён ужо наш чалавек. На гэта патрэбна доўгая праверка. Няўжо ў людзей ёсць свае нейкія магніты, якія прыцягваюцца ўзаемна?»

Малашкін падумае-падумае і адкажа з усмешкай: «Так, магніты, відаць, ёсць. Бо ў мяне самога знайшоўся нейкі магніт да Чаравакі... Ці трэба з гэтым лічыцца? Вядома, што не. Аднак час ідзе, і толькі ён робіць сваё. А мы? Ну што ж, будзем яшчэ прыглядацца».

Увайшла Саша і палажыла на стол у папцы надрукаваны на машынцы даклад аб гаспадарчым і палітычным становішчы не толькі ў раёне, але і ва ўсёй краіне. Рэспубліка рыхтуецца да сяўбы, можна сказаць, з аднымі рыдлёўкамі ў руках, а па лесе яшчэ ходзяць ворагі, як ваўкі...

Саша стаяла, пакуль Малашкін перагортваў даклад. Можна было б падумаць, што ён і забыўся на яе прысутнасць. Хто ведае, можа і так, бо Малашкін неяк раптам глянуў на Сашу і замітусіўся:

— Выбачай, Саша, што цябе затрымліваю... Ідзі адпачывай... А я трохі перагледжу — можа, дзе зраблю якія папраўкі. Ідзі адпачывай... Дзякую...

Саша сказала: «Да пабачэння»,— і выйшла.

Малашкін яшчэ даўгавата перагортваў даклад, рабіў заўвагі на палях, нешта запісваў на асобнай паперцы. А гадзіннік на сцяне ўсё цікаў і цікаў. Урэшце ў гэтую гадзіннікавую цішыню ўварвалася прыпевачная мелодыя гармоніка. Яна набліжалася. Гэта моладзь вярталася з клуба, з вечарыны. Яна прашумела за вокнамі райкома з тупатам, смехам і сарвала з крэсла самога Малашкіна. Ён падышоў да акна, адхінуў крыху фіранку і правёў моладзь вачыма.

Ужо далёка заціх гармонік, а Малашкіну гучала ў вушах другая прыпеўка. Яна даносілася аж з Паволжа, з шырокага роднага сяла:

Ты подгорна,
Ты подъёмна,
Широкая улица,—
Научила, как любить,
Дорогая умница...

«Аднак дзе ж мой партфель? Няўжо яго дзе палажыла Саша?»

* * *

Пленум павінен быў пачацца ў 11 гадзін. Маглі б пачаць раней, але трэба, каб прыехалі запрошаныя з раёна. А запрошаных было нямала. Гэта пераважна сакратары навастворaных партарганізацый, камуністы з актывістаў і старшыні калгасаў — вядома, партыйныя. Скліканне такога шырокага пленума гаварыла аб вастрыні пытанняў — наогул аб палітычнай напружанасці. Яе адчувалі ўсе, хоць рэдка хто пачынаў гаварыць аб ёй. Людзі, павучаныя вопытам барацьбы і жыцця, у большасці сваёй лічылі за лепшае больш назіраць, чым гаварыць. «Слова — серабро, маўчанне — золата»,— вучыць даўняя прымаўка. І другое прыходзіла на думку: «У чужую душу не ўлезеш...» Вывад з гэтага напрошваўся адзін — сцеражыся ворага, умей разгадаць яго. Перамога над нямецкім

фашызмам, якая стала перамогай і пад фашызмам у сусветным маштабе, прынесла народам вызваленне, ясныя далягляды. Але... можна сказаць, што на заўтрашні дзень пасля перамогі звяругі пачалі выпаўзаць з логаваў і паскудзіць зямлю. Яны як з'яўляліся, так хутка і знікалі перад праменнямі мірнага сонца. Але ўсё ж такі выпаўзалі і наводзілі на змрочныя роздумы людзей. Вось пра іх і будзе гаворка на пленуме райкома.

Людзі любяць ездзіць у свой райцэнтр. Некалі праз стагоддзі ездзілі «на места» што-небудзь прадаць, купіць. Адбываліся вялікія кірмашы, прастольныя царкоўныя святы — заўсёды было шумна «на месце». Людзі абміналіся, пхаліся, таўкліся, як у віры,— і ўсё каб шчасце далісь гадзіла ў куплі, у продажы. Людзі ехалі цэлымі абозамі, устаўшы яшчэ да ўсходу сонца... Але ніхто тады не клікаў людзей у сваё мястэчка на якую-небудзь нараду, каб палепшыць жыццё гарапашніка-селяніна. Не ішла да зямлі навука, і араты маліўся не толькі на абразы, але і на зоры начамі, каб зямля ўрадзіла, каб можна было насыпаць поўныя кадушкі жыта, каб можна было адпасвіць свіней, каб пратрымаліся кароўкі з цялятамі да вясны, да той бясплатнай зялёнай травы... Людзі хрысцілі свае палоскі, апоўзвалі іх каленьмі, розным святым аддавалі ахвяры, складалі песні пра гаротнае шчасце... Так змагаўся хлебароб за ўзровень свайго жыцця, за культуру зямлі-карміцелькі. А яна на такія незвычайныя старанні адказвала — як бог даў. А найбольш — капуста і пуста.

А цяпер, без цара, і народ пайшоў у пашану. Клічуць яго прадстаўнікоў не «на места», дзе некалі тырчаў лес паднятых аглабель, а ў райцэнтр. Самае слова «раён» увайшло ў побыт глыбінных мас, хоць спачатку было сустрэта з неўразуменнем, а таму і з недавер'ем. Што гэта за такі рай і чаму рай? Слова раён асацыявалася з царкоўным словам «рай». А калі ў свой час надакучылі праднарыхтоўкі, то людзі сатырыкавалі: «Нехта, мусіць, праткнуў той рай, бо ніяк яго не напоўніш». Цяпер і ценю няма таго мінулага, кожнае дзіця скажа, што мама з татам паехалі ў раён.

На шырокім двары Азярышчанскага райкома стаяла некалькі фурманак. Адпрагаліся коні з тою сонечнай ранняй турботлівасцю, якая перажывае асалоду пачатку дня і прадчувае, што ён павінен быць у працы ўрачысты. Людзі задаволены, што іх запрасілі, што з імі лічацца, што іхняе слова таксама ўпадзе ў гушчу другіх і недзе зойме

сваё пачэснае месца. Што ж тут урэшце дзівавацца,— гэта ж і ёсць наша ўлада, якую мы называем — савецкая. Гэта і ёсць мы — самі распарадчыкі жыцця. З некаторымі мужамі прыехалі і жонкі, умытыя, прычэсаныя, у белых хустках, прасвечаных сонцам. Яны пойдуць па сваіх хатніх справунках, а едучы дахаты, будуць пытацца ў сваіх мужоў, пра што ж гаварылі ў райкоме. Мужы будуць расказваць, а жонкі не з усім будуць згаджацца, што вырашана на пленуме. Яны б хацелі самі выступіць па тым ці іншым пытанні і давесці сваё. І зараз жа накінецца каторая-небудзь на старшыню свайго калгаса або на брыгадзіра і запытаецца з гневам: «Чаму гэтага чорта не скідаюць, ён жа хутка разнясе ўсю гаспадарку!»

Райкомаўскі гадзіннік на сцяне паволі, не спяшаючыся, прабіў адзінаццаць. Людзі, якія ледзь месціліся ў кабінеце Малашкіна, па яго ж камандзе рушылі на вуліцу, каб прайсці квартал да клуба, зробленага «наскара» ў памяшканні былой польска-паліцэйскай казармы. Там былі зняты перагародкі, і такім чынам зала змяшчала ў сабе нешта каля чатырохсот чалавек.

Стол на сцэне стараннямі Сашы ўжо быў падрыхтаваны — засланы чырвоным палатном, ад якога слізгаліся чырванаватыя бляскі на графіне з вадою. Над сцэнай відаць толькі адзін лозунг: «Перамаглі на вайне — пераможам і ў мірнай працы!» Саша паставіла на стол букет яшчэ не зусім расцвіўшай чаромхі. На залу з вышыні лозунга глядзеў Ленін.

Людзі селі, дзе каму прыйшлося, і змоўклі, як па камандзе, сталі глядзець на людзей, што былі за сталом прэзідыума. Са словам, каб адкрыць пленум, выступіў Чаравака. Ён, паголены, пасвяжэлы, з вострынкай у цёмных вачах, даў харошы, крыху ўзвышаны тон для слухачоў. Успомніў пра Алесю, пра сям'ю Махаедаў. Пры гэтым пачуўся голас з залы: «Гэта чуваць і па другіх раёнах!» Малашкін зараз жа нешта запісаў у разгорнутым блакноце.

Калі слова было дадзена Малашкіну, зала прывітала яго воплескамі. Харошая звычка Малашкіна — пры чытанні даклада даваць, як кажуць, каментарыі, устаўкі, адступленні — праявілася тут асабліва.

Памагаючы гаворцы жэстамі, Малашкін нават адступаў ад трыбуны, выходзіў наперад, перасмыкваў рукою па поясе цёмна-сіняй гімнасцёркі, не заўважаючы гэтага, і гаварыў... Пра што? Пра мабілізацыю людзей раёна на

аднаўленне гаспадаркі, на тое, каб не даць ліхім людзям каламуціць чыстую ваду ў нашым народным моры. «Што ж пакінулі нам фашысты?» — задае пытанне Малашкін і адказвае, ужо чытаючы з даклада. «У раёне было сорак вёсак, асталося дзевятнаццаць, дваццаць адна спалена. Коней маем пятнаццаць, не лічачы серадзіборскіх, кароў — трыццаць адну, свіней яшчэ менш — толькі пятнаццаць. Калёс таксама пятнаццаць, асталося трыццаць працэнтаў абложнай задзірванелай зямлі, а дзе параслі і кусты. Гітлераўцы разбурылі гідратэхнічную сістэму нашага галоўнага канала. Уся зямля паранена — перакапана акопамі, траншэямі, перарыта танкамі, пасыпана асколкамі, патронамі і г. д. Нам трэба на такой зямлі пачаць здабываць хлеб, зямля чакае чалавечых рук — нашых рук, таварышы... Цяпер падлічваем плугі, дзе якія асталіся. Плугоў мала. Асноўны пакуль што ратунак на гэты год — рыдлёўкі. Вядома, што кожная сям'я ўжо абзавялася рыдлёўкай. Гэта добра. Будзем ваяваць рыдлёўкамі. Сярод калгасаў нашага раёна найлепш вылучаецца калгас «Серадзібор». Чаму? Бо там знайшліся свядомыя патрыёты калгаснай справы і загадзя пастараліся, дзе што прыдбаць. Трэба тут успомніць старога Несцера Падкову, які ў партызанах быў конюхам і пры расфарміраванні партызанскага злучэння выпрасіў у камандзіра-генерала дзесяць коней. Мы іх тут ужо агульнымі сіламі, як маглі, пратрымалі зіму, і цяпер калгас мае за што рукі зачапіць і памагчы суседнім калгасам...»

Пры апошніх словах як ветрык прайшоў па зале — кожны заварушыўся, у кожнага імгненна асвятліўся твар уцешнай усмешкай. Усе былі рады за Серадзібор, усе хацелі б пабачыць таго дзядзьку Несцера, такога стараннага гаспадара. Расплыўся ва ўсмешку і твар Кастуся Вераб'я, старшыні серадзіборскага калгаса, аж нос яго прыгнуўся. Ён сядзеў недзе ў трэцім радзе, без кубанкі. Яна ляжала блінам у яго на каленях на партфелі. Хоць на свеце ўжо май маяваў, аднак Вераб'ёва кубанка яшчэ не злазіла ў яго з галавы. Верабей часта сустракаўся вачыма з Харытонам Бабром, які сядзеў за сталом прэзідыума побач з Чаравакам. І калі Малашкін пачаў гаварыць пра Серадзібор, яны — Бабёр і Верабей — не спускалі вачэй адзін з аднаго, абодва з усмешкай, ад якой у Харытона варушыліся падкручаныя тонкія вусы. Побач з Вераб'ём сядзеў Несцераў сын Даніла, сур'ёзны, цяжкі на ўсмешку. Ён добра ведаў цану ўсяму, аб чым тут гаворыцца, бо до-

ма пра ўсе справы калгаса не змаўкае няўрымслівы стары бацька. Праводзячы сына на пленум, настаўляў: «Глядзі, вядзі лінію, раскажы пра тое, што не там пасадзілі бульбу дзе трэба, што спрачаліся, раскажы, што старшыня вельмі позна выходзіць на работу, раскажы, што людзі трывожацца, як будзе з працаднямі, бо ацэнкі работ яшчэ не ўхваляліся сходам. Верабей носіць іх у кішэні. Усё, Даніла, раскажы, не палохайся. Трэба да зямлі падыходзіць па-чалавечы, тады і яна табе аддзякуе... Пра чайную раскажы, што няма таго дня, каб Верабей там не прападаў. А людзі бегаюць, шукаюць яго — і тое трэба, і тое... Усё раскажы, няхай гневаецца. Як паправіцца — будзе госцем і другам, а як не — падлізнікамі яму не будзем. Калі скончыцца ваш сход, пайдзі да Малашкіна, перадай яму паклон, скажы, каб не мінаў нас, калі будзе ў Серадзібары, і перадай адзін на адзін пра тое цялятка, што прапала яшчэ пры жыцці Алесі. Яго ўзяў ён сам — Верабей. Людзі бачылі, як жонка вешала шкурку на плоце за хлявом. Масць такая самая. Калі Верабей будзе гаварыць пра школу, падтрымай, а як не — скажы сам. Няхай лясніцтва дае лесу, і будзем рабіць школу...

Многа чаго нагаварыў стары Несцер сыну, і ўсё перасыпаў аднымі і тымі ж словамі: «Пастой, каб не забыцца... Яшчэ вось...» Нагаварыў столькі, што не панесці. Сын слухаў уважліва, паслухмяна. Даніла быў бацькаў сын, лічыўся з бацькам, раіўся. Але, калі дайшло да цялятка, Даніла ўсміхнуўся і закруціў галавою:

— Ну, пра гэтае цялятка хіба не трэба. Ужо мінула, прайшло. Чорт яго бяры. Вось калі другі раз што-небудзь зробіць такое, тады...

Несцер развёў рукамі.

— Вось табе маеш. Вось табе і брыгадзір, палявод. Які ж з цябе гаспадар?! Не — трэба! Каб не панадна было. Гэта не жарты — здабылі на пачатак пяць цялушачак, а ён у такую галадзечу, як злодзей, падкраўся і забраў. Не... выбачаць такое нельга...

Апрача ўсяго іншага, Данілу не хацелася гаварыць пра гэтае пагібельнае цялятка яшчэ і таму, што ён сам, як вядома, удзельнічаў у яго спажыванні за сталом у Вераб'я ў той супольнай бяседзе, дзе сядзелі і Алеся, і Платон Грушка, і той акулярысты журналіст. Ёсць на свеце штукары — вадзіць добрых людзей за нос. Вось такі штукар Верабей павадзіў разам з іншымі і Данілу. Даніла не можа сабе дараваць гэтага, здавалася б, не так ужо грэшнага

ўчынку — калі ўспомніць, дык адплёўваецца, аглядае сябе, ці няма дзе-небудзь якой плямы на кашулі ці на штанах. Не, ён нічога не будзе гаварыць Малашкіну пра гэтае няшчаснае цяля.

Даклад Малашкіна ўсё больш і больш прымаў форму непасрэднай гутаркі з людзьмі. Людзі слухалі яго ўсё больш і больш з цікавасцю, калі дайшоў да людзей раёна, да бацькоў і дзяцей, цёплыя зрабіліся вочы ў слухачоў, бо Малашкін не абышоў нікога — ніводнай вёскі і вёсачкі, успомніў многа імён, носьбітаў якіх ужо няма на свеце. У раёне немцамі і паліцаямі знішчана каля дзесяці тысяч чалавек, з якіх многа спалена жыўцом. Тут пастараліся паліцаі, выслугоўваючыся перад эсэсаўцамі. «Ганьба ім і пракляцце, таварышы!» — ускрыкнуў Малашкін. У зале адгукнуліся: «Ганьба!»

«Вайны ўжо няма. Але ходзяць яшчэ ля нашых вуглоў недабіткі. Туляюцца галаварэзы — паліцаі — і нападаюць на нашых людзей. Нядаўна...» Тут Малашкін расказаў аб забойстве паліцаем Мацеем Гусаком сакратара камсамольскай ячэйкі ў Серадзібары, былой слаўнай партызанкі Алесі Грынчык, і аб забойстве ўсёй партызанскай сям'і Пракопа Махаеда. Малашкін заклікаў усіх устаць і ўшанаваць мінутным маўчаннем верных савецкіх людзей, што загінулі ад рукі ворага. Людзі ўсталі і, пасумнелыя, паніклі галовамі... Каб хтоназіраў спецыяльна, то заўважыў бы, што неяк вінавата слізганулі па людзях вочы Васіля Чаравакі і хутка ўставіліся ў чырвоны стол. Яму ўспомнілася ўчарашняя вячэрняя гаворка з Малашкіным, ад якой ён уцёк і ад якое не мог доўга заснуць дома. Ён сядзеў за сталом прэзідыума, а думкі часам, як тыя птушкі, ляцелі ўразброд, і ўсё ўставаў перад вачыма неадчэпны Гойдала з неадчэпнай раменнай торбай цераз плячо. Фатальная торба — бяздонная, непрамакальная! І знаёмыя пахі гэтай торбы даляталі сюды за стол да Чаравакі, казыталі ў носе, што ён аж вымушаны быў не раз вымаць хустачку з кішэні, без патрэбы чысціць нос і сам сабе казаць: «Фу, чорт вазьмі! Адкуль што бярэцца?» Тады левае вока няўзнак паглядвала крыху ўбок і ўпіралася ў маладжавы, даўгаваты профіль капітана Пятра Рыбіна. Яго валасы, зачэсаныя назад, шчыльна прылягалі да галавы, адтапырваючыся на скронях тонкімі завітушкамі. Капітан засяроджана глядзеў на залу, трымаючы на каленях папку. Ён будзе выступаць апошні на гэтым пленуме і будзе гаварыць пра важнае, неадступна важнае —

пра ахову народнага жыцця. Ён дасць нямала прыкладаў злачынстваў, у першую чаргу з боку паліцаяў, потым скажа пра замаскаваных ворагаў, якіх не адразу распазнаеш, будзе гаварыць таксама аб зямлі, аб хлебе...

Капітан Рыбін любіць сваю работу, верыць у яе, верыць, што народ не можа не памагаць справе аховы народнага жыцця. Рыбіна любіць Малашкін і трывожыцца за яго, бо ў сумленным розуме заўсёды прысутнічае нейкая доля наіўнасці, якая часта крыецца ў павышаным давер'і да людзей. Давер'е да народа ў цэлым, відаць, нельга на ўсю паўнату распаўсюджваць на кожнага паасобку, знаёмага ці незнаёмага. Мудрая рэч — праца сярод людзей і для людзей. І сапраўды, яшчэ малады капітан Рыбін вылучаўся свежым, цвярозым розумам адкрытага рускага чалавека, які прыйшоў на Беларусь недзе з прастораў Тамбоўшчыны і прынёс з сабою рускую непасрэднасць. Пільна ён насіў у сабе дбайнасць аб цэласнасці, непарушнасці савецкай улады, у якой бачыў любімыя народныя масы, якія можа пакрыўдзіць вораг. Пры такой думцы рука апускалася на меч. Традыцыі чэкістаў Дзяржынскага былі ўспрыняты рускай душой капітана Рыбіна. А гэта якраз і дадавала трывогі сакратару райкома Малашкіну за Рыбіна. Недзе будзе адстойваць, змагацца за нашу праўду, і некаму гэта не спадабаецца. І тады... усё, што хочаш,— могуць пайсці ўсякія доказы, каб абвінаваціць. Перад пленумам Рыбін сказаў Малашкіну адзін на адзін, што настроі ў народзе стабільныя, харошыя, нашы настроі. Аднак ёсць нямала грымас-людзей, апанаваных пракулацкімі настроямі. У вёсцы Жарабкі, дзе калгас яшчэ не адноўлен, кулакі не хочуць пускаць у калгас беднякоў. Вось як павярнулі. Гэта — вельмі небяспечная вылазка, якую выкрыць будзе нялёгка. «Я заходзіў па дарозе да бацькі Міхася Гойдалы, і ў гутарцы, між іншым, спытаўся: «Ну, а як, стары, будзе з калгасам? Пойдзеш ці не?» Ён адказаў: «Калі ў калгасе будзе такі ўраджай, які быў у мяне на хутары, тады я запішуся ў калгас!» Бачыш! Як хітра павярнуў, а сам увесь дрыжыць ад нянавісці. А пасля прамармытаў: «Вось невядома, як будзе ў Жарабках...» Класавая пераклічка ў іх існуе дакладная, нахраплівая». Многа яшчэ гаварыў Рыбін Малашкіну пра асобных людзей — моцных і слабых, верных і сумніўных — і закончыў, што работа органаў бяспекі развіваецца нядрэнна.

Вось ужо канчае Малашкін свой даклад. Пасля Ма-

лашкіна меўся выступаць Чаравака, як другі сакратар. Па сутнасці, яго выступленне і павінна было быць садакладам к дакладу Малашкіна. Калі Малашкін сеў за стол і сказаў Чараваку, каб ён зараз выступіў, той раптам адмовіўся, сказаўшы, што не падрыхтаваны. Малашкін не чакаў такога павароту, нават абурыўся, але што зробіш — за сталом пленума сварыцца не будзеш. Выступаць пайшоў Харытон Бабёр, а Малашкін зараз жа гарачым шэптам кінуўся ў перапалку з Чаравакам.

— Я шкадую, што не патрабаваў ад цябе падрыхтаванага выступлення для праверкі. Апошні раз. Я — завялікі дэмакрат, аказваецца.

А Чаравака тарочыў сваё:

— Я валачыўся ўвесь час па сёлах. Калі мне было рыхтавацца?

— Гэта не адгавор,— адказаў Малашкін. Ён здагадаўся, што Чаравака, ездзячы ў сёлы па аднаўленню калгасаў, большую ўвагу аддаваў смярдзючаму пітву, чым сходам і людзям. Пачынала злосна наспяваць рашэнне — паставіць на бюро паводзіны Чаравакі. Але... потым. Трэба паслухаць Бабра.

Харытон Бабёр, сюд-туд прыгладжваючы вусы, гаварыў пра колькасць адноўленых калгасаў у раёне і пра тое, колькі яшчэ асталося аднавіць. Вялікай закавыкай, як казаў Бабёр, стаіць сяло Жыліны са 150 гаспадаркамі. Гэта — каталіцкая вёска, з якой ласуецца ксёндз...

— Але думаем,— кажа Бабёр,— што мы адолеем гэтую крэпасць так, як адолелі Забівачкі, і па рэкамендацыі таварыша Чаравакі старшынёй там выбралі нават мясцовага маладога чалавека Духмуровіча-Куцілоўскага.

Як толькі прагучала гэтае прозвішча, нехта ў зале не то ахнуў, не то войкнуў. Нават Бабёр у тракце гутаркі крыху спыніўся, паглядзеў уважліва ў залу. Але, нічога не заўважыўшы, гаварыў далей. Затое не мог не прыкмеціць Чаравака, і ён прыкмеціў. Недзе на задніх месцах сядзела свінарка Тацяна Карпец з Серадзібора. Гэта — маці двух сыноў, якія загінулі яшчэ ў польска-фашысцкіх турмах: адзін памёр ад катаванняў у дэфензіве, другі — ад сухотаў. Тацяне ўжо год пяцьдзесят, яна мае дзвюх дачок і шалапутнага мужа-веселуна, які любіць часценька такі прыпасці да чаркі. Пачуўшы прозвішча Духмуровіч-Куцілоўскі, Тацяна войкнула. Гэта заўважыў і капітан Рыбін. Ён нават крыху прыўзняўся, каб лепш разгледзець гэтую Тацяну Карпец, якая, так глыбока

ўздыхнуўшы, паказала, што добра ведае Духмуровіча-Куцілоўскага і ёй цяжка згадзіцца, што такі чалавек стаў старшынёй калгаса.

Калі пасля выбараў праўлення ў Забівачках Чаравака, вяртаючыся, спыніўся ў Серадзібары перад праўленнем, яна, Тацяна, не выцерпела, падышла да яго і сказала:

— Каго вы там выбралі? Гэта ж азот, той азот, пра які гаварыў Грушка на сходзе. Ён пагноіць усё...

— Нічога, нічога, цётка... А мы нашто! Не дамо, каб пагнаіў...— паблажліва адказаў Васіль Пятровіч.

Тацяна, няўрымслівая крыкуха-барацьбітка за праўду, зажадала быць камуністкай і з гэтым звярнулася была ў свой час да Малашкіна.

— Мае сынкі загінулі за гэта, за нас... Я ўсё ведаю, як і што, за несправядлівасць нікому не папушчу... Я дачулася ад Алесі, што вы хочаце тут зрабіць ячэйку...

Малашкін стаяў сярод хаты старога Несцера, узяўшыся ў бокі, і твар яго то сур'ёзнеў, то ўсміхаўся. Ён нібы не ведаў, што рабіць, як рэагаваць на такую з'яву. Яму хацелася ад душы рассмяяцца не то ад здзіўлення, не то ад захаплення.

Так Тацяна Карпец стала членам партыі. І вось сядзіць яна сціпла на пленуме райкома і не вытрывала, войкнула, калі пачула прозвішча — Духмуровіч-Куцілоўскі.

Харытон Бабёр пачаў гаварыць пра вёскі-зямлянкі, пачаў даваць лічбы ад вёскі да вёскі, і яны мераліся ўжо тысячамі зямлянак. Урад выпрацоўвае вялікі план адбудовы вёсак.

Бабёр закончыў сваё выступленне пахвалой Серадзібору, сказаўшы, што там калгас пад кіраўніцтвам Кастуся Вераб'я не павінен страціць свайго перадавога месца і што на гэта ў райвыканкоме ёсць надзея.

— Слова мае загадчык райаддзела аховы здароўя Вера Лукашэвіч,— аб'явіў Чаравака.

На трыбуну выйшла яна — мілавідная, у белай кофце, раскрыла свае нататкі не спяшаючыся, з тою вытрымкай урача, які збіраецца агледзець хворага, ужо з першага погляду адгадваючы яго хваробу. Яна расказала, што ўсе радзільныя дамы і медпункты або спалены, або папросту ліквідаваны гітлераўцамі. У раёне былі дзве вялікія бальніцы — адна ў райцэнтры, другая ў Серадзібары. Асталася толькі ў райцэнтры. Гітлераўцы не паспелі яе спаліць. А ў Серадзібары цяпер толькі папялішча. Паўстае пытан-

не, каб аднавіць бальніцу ў першую чаргу ў Серадзібары, а потым намеціць пункты пабудовы новых бальніц, медпунктаў і г. д. Калі ж Вера Лукашэвіч пачала гаварыць аб стане здароўя насельніцтва раёна, перад слухачамі паўставала жудасная карціна. Усе дзеці хворыя на жываты, бо ядуць пакуль што адну бульбу, распаўсюджваюцца хваробы вачэй, у некаторых вёсках масавыя ўспышкі каросты... Медыцынскага персаналу яшчэ мала, каб эфектыўна змагацца, асабліва з каростай і бягункамі. Вера Лукашэвіч расказала, колькі раздадзена лякарства на лячэнне каросты ды бягункі ў дзяцей. Але лякарстваў яшчэ не хапае. Яна абяцае пленуму прыкласці ўсякіх старанняў, каб як найхутчэй аздаравіць народ, і выказвае надзею, што нашы ўлады зробяць усё што можна, каб злавіць разбойніка Мацея Гусака, каб такія нашы людзі, як Алеся Грынчык, як сям'я Махаедаў, жылі і працавалі на карысць народа.

Не паспелі заціхнуць воплескі, як у залу ўвайшоў пастаўы міліцыянер. Ён падышоў да стала і падаў Малашкіну запіску, а сам стаў на «смірна» ў чаканні. Малашкін хутка прабег па запісцы вачыма, жвава ўсміхнуўся і сказаў: «Няхай праходзіць».

Цераз хвіліну ў зале з'явіўся чалавек з плашчом на руцэ, у запыленых ботах, з капелюшом у другой руцэ, абветраны, здарожаны.

Малашкін устаў яму насустрач і жэстам запрасіў прайсці да стала.

— Таварышы, да нас завітаў найгалоўнейшы аграном вобласці Павел Кандратавіч Кляновіч. Прашу прывітаць.

Усе прывіталі Кляновіча воплескамі, пасля чаго Малашкін запрапанаваў запрасіць Кляновіча ў прэзідыум, што ўсе аднадушна падтрымалі. Кляновіч павалі, як з роздумам, падняўся па сходках на сцэну і сеў побач з капітанам Рыбіным. Аднак Малашкін запрасіў яго сесці побач, і такім чынам Кляновіч заняў месца паміж Малашкіным і Бабром.

— Слова мае начальнік райупраўлення дзяржбяспекі капітан Рыбін,— абвясціў Чаравака.

Энергічнай хадою падышоў Рыбін да трыбуны, разгарнуў сваю папку, узяўся рукамі за краі трыбуны, нібы хацеў дужацца з ёю, і тады зірнуў на ўсіх. Кашлянуў. Адчувалася, што Рыбін усё ж такі хвалюецца. Было відаць, што пытанні, пра якія мае быць тут гаворка, ён шчыра бярэ да сэрца і па-сур'ёзнаму, не паверх рук, хоча іх вы-

рашыць. Ён такім, можна сказаць, заклікальным тонам і пачаў гаварыць.

Цікавасць у слухачоў асабліва завастрылася тады, калі капітан Рыбін загаварыў пра варожыя сілы ў раёне, пра недабіткаў, якія імкнуцца шкодзіць савецкай уладзе, не перабіраючы ў сродках. Капітан сказаў, што Алеся Грынчык у Серадзібары забіта былым камендантам гарнізона паліцаяў стрэлам з рэвальвера, а вось сям'я Пракопа Махаеда выразана нажом.

— Мы не высветлілі яшчэ,— гаварыў далей Рыбін,— ці бандыт Гусак забіў сям'ю Махаеда адзін, ці з кім. Улічваючы тое, што ноч была пасля Дня перамогі і людзі, натуральна, ляглі спаць крыху вясёлымі і таму моцна заснулі, можна прыпушчаць, што бандыт Гусак мог замардаваць Махаедаў адзін. Тут, вядома, выкарыстаны бандытам момант нечаканасці. А з другога боку, калі б хто адзін з сям'і і ўбачыў бандыта, яму, магчыма, не ўдалося б уцячы. Пасля даследавання забойства схіляюся к таму, што бандыт Гусак разбойнічаў адзін.

Пасля капітана Рыбіна да трыбуны падышоў Кляновіч. Іменна падышоў. Бо не спяшаючыся ступіў гэтых пару крокаў з нейкім роздумам. Ён абапёрся локцямі на трыбуну і паволі агледзеў залу. Потым пачаў:

— Чым жа я вас парадую, таварышы? Яшчэ дыміцца вайна на нашым полі, на якім мы з вамі павінны здабываць хлеб. І як бы яно ні было, зямлі пакідаць нельга. Хоць з рыдлёўкай, а ўсё роўна рабіць каля яе трэба...

Доўга яшчэ гаварыў Кляновіч пра тое, што навука павінна прыйсці да зямлі і прыйдзе абавязкова, каб па-сапраўднаму заняцца ёю. І зноў паўтарыў:

— Ну, чым жа я вас парадую?

Аднак Кляновіч усё ж такі парадаваў, сказаўшы, што хутка адкрываюцца курсы трактарыстаў у былым маёнтку пана Пагарэльскага ля Серадзібора і што будзе створана доследная балотная станцыя. Кляновіч прывычным рухам правай рукі правёў па сваіх крыху нібы запыленых валасах і на момант спыніўся з прамовай.

— Мм... так...— прамовіў пасля,— работы ў нас з вамі непачаты край...

І загаварыў пра запушчанасць зямлі, неўпарадкаванасць, пра многія мерапрыемствы, якія чакаюць вопытных, старанных рук. Закончыў Кляновіч словамі, што недалёка той час, калі на сацыялістычных палях будзе нармальным здабываць сто цэнтнераў збожжа з гектара.

Слухачы ўсміхнуліся, пераглянуліся паміж сабою. Была тут і ўспышка радасці, а разам з тым аднолькава і сумненне. Ого! Па сто цэнтнераў! Цяжка паверыць, хоць і хочацца. Кляновіч ведаў, што не павераць, але ведаў і другое, што слоў яго пра сто цэнтнераў з гектара ўжо не забудуць.

Не паспеў Кляновіч, як кажуць, закругліцца, як у залу ўбег разам з міліцыянерам Коля Мілаш. Ён наблізіўся да стала і падняў руку, гледзячы на Малашкіна. А той у сваю чаргу спытаўся:

— Што такое, Коля?

— Нехта падпаліў торф ля Вострай гары... Гарыць... Вось я і прыехаў сказаць...

Увесь прэзідыум стаў на ногі. Малашкін коратка, пераскокваючы ад слова да слова, сказаў аб здарэнні і запытаўся:

— Што будзем рабіць? Торф трэба ратаваць?!

Усе пленумаўцы крыкнулі: «Трэба!» — і ўсталі.

...Пажарная каманда рушыла першай. За ёю на двух грузавіках паехалі пленумаўцы.

Разам з усімі паехаў і Кляновіч.

## ДЫМ...

Некалькі дзён валокся дым па серадзіборскіх лясах і па самім Серадзібары — ён валокся павольна, тулячыся паміж ствалоў шурпатых сосен, паміж кустоў альхоўніку, арэшніку, маліннiку, парэчак, што густа звісалі над рэчкай Пагулянкай, над каналам; слаўся, не спяшаючыся, па далінах палёў, едкі, цягучы, горкі. Ён асядаў у душах людзей невымоўнай згрызотай, як быццам хто ўбіў стрэмку ў сэрца. Гэта быў дым ад серадзіборскага тарфяніку, падпаленага злачынцам. Гэты дым асаджвалі ранкавыя туманы, але як толькі ўздымалася сонца над лесам, едкія выпарыны цягнуліся зноў.

Выгарала немалая яміна ў серадзіборскіх хмызах. Агонь зачапіўся за іх лёгка, бо грунтовыя воды ўжо апалі, і ў старым сівым канале ўжо не акуналі сваіх кучаравых галін лазнякі. Яны толькі глядзелі зверху ў паніжаныя струмені, якія сталі больш празрыстыя і дзе-нідзе ўжо адкрывалі вачам пясчаныя залацістыя рызцы. Такім чынам, сонца цалкам узяло тарфянікі пад сваю ўладу —

стала іх высушваць. Гэта заўважыў і зразумеў падпальшчык.

Калі пленумаўцы прыехалі ратаваць тарфянік, дымнавогненная бура ўжо шугала над ім, хоць яшчэ на невялікай плошчы. Там ваявалі ўжо серадзіборцы з рыдлёўкамі ў руках. Але не было каму як след пакіраваць, і людзі, як у спалоху, перабягалі з аднаго месца на другое часта без толку, і кожны камандаваў. Стары Несцер не мог перакрычаць усіх і заняў пазіцыю процi дыму, які вецер гнаў на хмызавыя прасторы. Крычаў: «Сюды, да мяне!» І толькі нявестка Кацярына, калі згледзела свёкра, прыняла з сабою некалькі жанчын з мужчынамі, і тады яны, топячыся ў дымнай заслоне, пачалі капаць канаўку напераэз дыму і агню.

Прыехалі пленумаўцы, і тады, здаецца, і сіл ва ўсіх прыбавілася. Падзяліліся ўсе на дзве групы: адну — большую, другую — меншую. Большая з Малашкіным пайшла туды, дзе расхрыстаны стары Несцер ажно абліваўся потам, а меншая пад камандай Чаравакі пайшла бліжэй да лесу, дзе змагаліся пажарнікі, каб хоць крыху пакуль што стрымаць агонь, які так ці інакш набліжаўся да лесу. Трэба было і абліваць вадою і капаць.

Пачалі прыбываць людзі з суседніх вёсак, але апошнія прыйшлі ўсё ж такі забівачкаўцы. Нечакана для ўсіх прыйшоў Мікалай Вайткевіч, што быў бургамістрам пры немцах. Ён жа далёка жыве — і раптам... Відаць, быў у Азярышчы, пачуў — і паспяшаўся з нейкай машынай...

І так — людзі працавалі сабе, а агонь — сабе. І доўга яшчэ невядома было, хто каго адолее. Усё залежала ад глыбіні агню. Калі ён паспее прабіцца ў ніжэйшыя пласты — тады бяда! Перамога над агнём можа быць не дасягнута. Гэта людзі ведалі і на ўсю сілу рвалі рыдлёўкамі тарфяныя скібы. Некалькі разоў Малашкін праходзіў навокал вогнішча, каб праверыць, і вяртаўся на сваё месца, пачынаў капаць. Нягледзячы на спешку, ён заўважыў Мікалая Вайткевіча і падаў яму руку. Усе бачылі гэтае прывітанне і зразумелі яго цану. Капітан Рыбін неяк з роздумам, загадкава ўсміхнуўся. Што азначала такая ўсмешка — адабрэнне ці наадварот,— скажа некалі Малашкіну сам Рыбін. Харытон Бабёр таксама ўсміхнуўся, але інакшай — шырока і з падмігам, нібы памагаючы Рыбіну. Павел Кляновіч, нягледзячы на дым, капаючы, перакідваўся словамі са старым Несцерам пра калгас «Серадзібор».

Недзе блізка пад поўдзень ратавальнікі торфу пера-

крылі подступ агню да глыбінных пластоў. Агонь паступова прарываўся праз сцяну канаўкі і знікаў. Тады запрацавалі пажарнікі. Аднак людзі без абеду яшчэ тупалі навокал пажарышча амаль што да вечара, пакуль не была дадзена каманда — канчаць. Па загаду сакратара Малашкіна на месцы астаўся Коля Мілаш з некалькімі хлопцамі — вартаваць, і з імі — пажарная каманда. А ўсе пайшлі — хто на канал, хто на возера, каб у карычневай, але чыстай вадзе ачысціцца ад сажы і балотнай руды.

Увечары Малашкін з сябрамі паехалі ў райцэнтр, каб заўтра канчаць пленум. Астаўся ў Серадзібары Кляновіч, ён паехаў да маці Платона Грушкі, каб там пераначаваць, а назаўтра агледзець серадзіборскія землі.

Назаўтра рана ўсе трое — Кляновіч, Грушка і Жарнавік — хадзілі па серадзіборскіх палях. Узабраўшыся на Вострую гару, яны ўбачылі, што па далінах гнядой смугою яшчэ поўз дым...

## ЦІХАЕ РЭХА

На серадзіборскіх могілках, абгароджаных ужо замшэлым плотам, пануюць сосны і магільная цішыня. Толькі часам, не пакідаючы старадаўняга звычаю, прыходзяць сюды ў вольны ад працы дзень і парушаюць цішыню старыя маткі, нават і маладзіцы старэйшага веку — прыходзяць паплакаць над магіламі сваіх родзічаў. Ды як паплакаць? Вядома, уголас — з прычытаннямі, са шкадаваннем. Здараюцца і такія, што плачуць ціхімі, шчодрымі слязьмі, і толькі часам напаўголасу вырываецца слова разам са стогнам.

З такою вось жалобай прыйшла на серадзіборскія могілкі сястра забітых гітлераўскімі паліцаямі Андрэя і Алесі Грынчыкаў — Агрыпіна. Яна нядаўна вярнулася з гітлераўскай, ужо разгромленай, Германіі з варожым кляймом на левай руцэ ніжэй локця ў выглядзе лічбы 22560, вытатуіраванай галаварэзамі назаўсёды.

Яшчэ ўлетку 1942 года яна за ўдзел у падпольнай рабоце разам з братам і сястрой была схоплена гітлераўцамі ў часе масавых арыштаў і саслана на паняверку ў Асвенцім, у канцлагер. Там перажывала голад, холад, катаванні, бруд, хваробы і бачыла тысячы і тысячы смерцяў такіх жа жанчын і мужчын — сваіх, савецкіх, і многіх народаў Еўропы. Яна не толькі перажывала фашысцкую

катаргу ў Асвенціме, але і брала актыўны ўдзел у падпольнай рабоце ў канцлагеры, рызыкуючы жыццём кожную хвіліну. Агрыпіна вызначалася там вынаходлівасцю ў канспірацыі, уменнем ашукаць, адолець ворага. Яе потым пагналі ў глыбіню катаўскай Германіі — недзе там прафесійныя галаварэзы рыхтавалі ёй, як і іншым, смерць. Але не ўдалося. Надышло вызваленне. Каты паразбягаліся, каб схавацца ад святое помсты. І Агрыпіна вярнулася ў Серадзібор, у хату, дзе некалі нарадзілася, вырасла, з якое паехала ў пятнаццатым годзе з сям'ёю ў бежанства ў Расію. Там вывучылася на настаўніцу і выйшла замуж. Ужо з далёкай Сібіры слала пісьмы бацькам на радзіму. Пісьмы ішлі праз непатрэбную нікому граніцу, што праходзіла за Стоўбцамі, часта спатыкаліся аб яе і вярталіся назад, але некаторыя даходзілі.

Надышоў верасень 1939 года — вызваленчы верасень для пакутнікаў былой Заходняй Беларусі. Брат Андрэй выйшаў з турмы. Пацягнула Агрыпіну дахаты, у Серадзібор. І Агрыпіна прыехала пабыць, пажыць з братам, сястрою, палюбавацца радзімай. Пражыла месяц, і застала яе тут вайна. Потым была разам з братам і сястрой у падполлі, а пасля — пакутніцкая дарога праз гітлераўскія канцлагеры...

І вось вярнулася зноў у тую самую хату, адкуль яе забралі гестапаўцы, вярнулася, каб нікога ў ёй не застаць. Серадзіборскі сельсавет налажыў пячатку на дзверы хаты, бо ніхто не хацеў сяліцца ў ёй, як і ў хаце Пракопа Махаеда. Людзі не хацелі, каб душу кожны дзень гняло вялікае чалавечае гора.

Агрыпіна ўжо ў Азярышчы, калі толькі сышла з поезда, пачула пра лёс брата і сястры. І таму, падышоўшы да дзвярэй хаты, не здзівілася сельсаветаўскай пячатцы. Толькі зазірнула ў адно акно, у другое. Доўга глядзела ў іх, а вочы заплывалі слязьмі. Гэтыя знаёмыя з маленства куткі былі пустыя, асірочаныя. Адразу пайшла на магілы.

Прывяла яе на могілкі буфетчыца Юля. Прывяла і, заплакаўшы, пакінула адну. Няхай пажурыцца, пагутарыць з імі на адзіноце, не трэба перашкаджаць. Агрыпіна не затрымлівала Юлі. Адразу, прачытаўшы імёны на помніках, укленчыла перад братавай магілай, абняла і прыпала тварам, а потым таксама перад сястрынай, села паміж іх магіл і зарыдала — глыбока, ціха, а рэха несла яе плач у цішыню панавісаных над магіламі сосен. Гэта быў плач вялікай чалавечай нядолі...

Выплакаўшыся, Агрыпіна ўстала з аблегчаным сэрцам, выцерла хустачкай вочы, направіла кветкі на магілах і пайшла да выхаду. Толькі ступіла некалькі крокаў, яшчэ нічога не бачачы перад сабою, як яе спынілі тры мужчыны, ёй незнаёмыя. Гэта былі Кляновіч, Грушка і Жарнавік. Толькі Грушка мог чым-небудзь давесці сякое-такое знаёмства. І крыху давёў. Агрыпіна ведала і помніла сям'ю Грушкаў, тым больш што хата іх прыкметная: пры шляху — адна.

На словы Платона Грушкі яна амаль механічна адказала:

— Ага... Ага...— Азірнулася назад і папрасіла: — То, можа, падыдзеце да магіл маіх?..

— Мы ўжо былі там перад вамі,— адказаў Грушка,— а потым наогул захацелася пахадзіць па могілках...— Грушка спыніўся і дадаў: — А потым пачулі ціхае рэха і пайшлі на яго...

Жарнавік не спускаў вачэй з Агрыпіны, неяк сумна і разам з тым урачыста-задумана. Ён услухоўваўся ў гавар душы гэтай жанчыны з жывымі шэрымі вачыма, зацягнутымі тугою. Гладка прычэсаныя назад пасівелыя валасы зграбна ўзвышаліся над ілбом, парэзаным маршчынамі, на якім кіпнем застыла пячаць доўгага цярпення і чалавечай годнасці. І, нягледзячы на суровасць гэтага жаночага твару, невялікі, зграбны, крыху задзёрты носік на ім гаварыў аб нейкай маладжавасці, напамінаў задзёрыстае дзяцінства.

Жарнавік маўчаў, бліскаў акулярамі, а ў душы асядалі словы пяшчоты і гневу. І калі Грушка сказаў, што «пачулі ціхае рэха і пайшлі на яго», Жарнавік дадаў з унутранай насцярожанасцю:

— Гэта было рэха плачу... Гэта — плакалі вы...

Агрыпіна зірнула на Жарнавіка доўгім позіркам і, уздыхнуўшы, адказала:

— Так... Я плакала... Я не саромеюся гэтага свайго плачу...

— Не-не-не, мы пра гэта не думаем... Што вы? — адказалі ўсе ўтрох.

Кляновіч падступіў бліжэй да Агрыпіны, пачаў гаварыць:

— Мы не хочам кранаць вашага смутку, хоць мы і перажываем вашае гора разам з вамі. Што ж? Гэта гора ўсяго нашага народа. Важным астаецца тое, што вось вы перажылі такія пакуты і вярнуліся.

Гэтымі словамі, па сутпасці, Кляновіч імкнуўся стварыць сякую-такую разрадку. Але Агрыпіна з выразам нейкай недаўмёнасці паглядзела ў вочы Кляновічу.

— Вораг жа пакараны... Я не разумею...

— Гэта адбылася вялікая бітва, пасля якой барацьба не заціхла. Яна будзе ісці і далей, у другой сферы. І мы павінны не траціць сіл.

— Ну, вядома, што так... Вядома...

Было відаць па яе твары, што ў душу прыйшла палёгка. Суровы, збалелы, ён паволі стаў распагоджвацца.

Яна глянула на гэтых трох добразычлівых людзей і ўжо з ноткай бадзёрасці прамовіла:

— Ну што ж... Вы туды? — і паказала вачыма на выхад.

— Мы думаем зараз наведаць дзядзьку Несцера Падкову — ёсць тут такі цікавы дзядзька... А вы? — запытаўся Грушка.

Агрыпіна ўскінула пашарэлымі бровамі і з раптоўнай радасцю адказала:

— Вось гэта супадзенне!.. І не дамаўляліся... Я таксама думала туды. Сын Несцера Даніла дружыў з маім братам Андрэем, разам былі ў партызанах...

Тройка сяброў пераглянулася між сабою здзіўлена і кіўнула галовамі.

— Пойдзем разам,— закамандаваў Грушка.

І мужчыны, ветліва прапусціўшы наперад Агрыпіну, травяністай сцежкаю адзін за адным пайшлі да амшэлых могілкавых веснічак, каб выйсці на вуліцу.

## У ЗАПАВЕТНЫМ КУТКУ

Серадзіборскія сады пачала ўжо ўкрываць белая духмяная квецень. Разам з вясной да людзей прыйшлі супакаенне, уцеха ад хараства прыроды, ад чакання, што заўтра будзе лепш. Жыццё ўваходзіла ў свае нормы, і пачынала здавацца, што яно так было і ўчора і заўсёды. Гэта тыя нормы, калі сонечныя дні ў росквіце прыроды напаўняюць людзей ахвотай да працы і сваёй цеплынёю супакойваюць, абнадзейваюць, клічуць.

Асалода серадзіборскіх ранкаў прыйшла да людзей, як даўняя знаёмая ўцешніца, якой не ўбачыш і не злові́ш, а толькі адчуеш, і пра якую нікому не скажаш. Бо, здаецца, нідзе няма такога чыстага неба ў пагодлівыя

вясновыя і летнія ранкі, як у Серадзібары. Даволі толькі ўстаць на світанні і прайсціся па яго вуліцах і вулачках, каб, нібы першы раз у жыцці, паслухаць сапраўдную мядовую цішыню.

Сонца толькі пачынае сваё шэсце, яно ўжо недзе купаецца праменнямі далёка ў росным лесе. А тут не зварухнецца ніводзін лісточак нават на трапяткіх высачэзных таполях або на тагіх жа грушах на агародных узмежках. Серадзібор, прабіўшыся веерам некалькіх вуліц у лясныя гушчары, спіць у світальнай сіняй цішыні. Можна ўбачыць сям-там прачыненыя весніцы і веснічкі — здаецца, вось зараз нехта выйдзе з хаты і зачыніць іх. Прачынены не толькі весніцы і веснічкі, але і дзверы з клямкамі. Серадзібор можа нават пахваліцца, што там ніхто не замыкае дзвярэй нанач. Так павялося здаўна. Так гэты запаветны звычай пачаў вяртацца і пасля вайны. Бо ўся нязнісаная надзея была на лес. Ён заўсёды сцярог тут чалавечае жыццё, некалі непрыступны, перарэзаны ў сваіх глыбінях балотнымі далінамі, старымі канавамі, пазарастанымі лазняком. Лес па старой даўнасці сцеражэ сваіх тубыльцаў і цяпер, калі ўжо вуліцы, выбягаючы з Серадзібора, пераходзяць у сапраўдныя дарогі, што хаваюцца ў лесе і вядуць удалечыню — да блізкіх і далёкіх сёл і гарадоў. Серадзіборскія домікі і хаты тонуць у старым садаўі. Але ніхто, нават вецер, не кранае панавісаных над платамі галін яблынь і груш у белай раскошнай квецені, а ўвосень абцяжараных плёнамі. Тут бы толькі туліцца ружовашчокім дзяўчатам. Ды яны і туляцца ўдзень і вечарамі, асцярожна падымаючы панавіслыя галіны.

Серадзіборцаў з вясны аж да позняй восені будзяць пастухі, хоць, па праўдзе сказаць, мог бы будзіць той, хто раней устае не толькі ўлетку, але і зімой. Гэта — стары Несцер Падкова. Але ён не можа гукаць на ўвесь Серадзібор, каб людцы ўставалі з непалоханага сну. Затое гукаюць пастухі і пастушкі. Яны трубяць у берасцяныя трубы і б'юць пугаўём па варотах, весніцах, па платах перад вокнамі.

Старога Несцера ніколі не будзіць ніхто. Ён першы выходзіць з хаты ў серадзіборскую садовую цішыню, падыходзіць да студні, да якой дацягнулася адна галіна самай блізкай яблыні Несцеравага густога садка. Тут ён апалосквае свой памаршчынелы, з пасівелай бародкай твар, пырскае ва ўсе бакі і пырхае так, што аж рэха аддаецца недзе на вуліцы. Найчасцей бярэ з плота ручнічок

і выціраецца, спакойна, паважна разгладжваючы маршчыны.

Так было і ў той ранак пасля ночы, ці, дакладней кажучы, вячэры, калі старога Несцера адведалі хоць нечаканыя, але жаданыя госці — Кляновіч, Грушка, Жарнавік і Агрыпіна, па мужу Сцепаненка.

Стары Несцер толькі што павесіў на плот свой ручнік, як у цішыні рыпнулі гуменныя вароты. Дарожка да гумна вяла праз сад-агарод, і таму Несцер крыху прыгнуўся, каб з-пад галін садаўя, панавіслага над дарожкаю, убачыць, хто ж там выйшаў так рана з гумна. Убачыў, што боты ў хадзе набліжаюцца, а твару яшчэ не відаць...

— Ага... аграном,— сам сабе прамовіў Несцер, пазнаўшы Паўла Кляновіча, самага галоўнага агранома вобласці.

«Рана ўстае,— падумаў Несцер,— адразу пазнаць, што чалавек настаяшчы...»

Стары Несцер быў рад учарашняй гутарцы з Кляновічам і казаў, што каб такіх вучоных было больш, то быў бы вялікі толк у калгасах.

«Гэта — мужыцкі сын, наш сын, як наш Платон Грушка...» — меркаваў сабе Несцер.

Доўга не чакаючы, ён пайшоў насустрач Кляновічу, узрадаваны, што гэты вучоны мае мужыцкую натуру, бо рана ўстае. І зноў паўтарыў учарашняе: «Хто ля хлеба ходзіць, той павінен уставаць рана».

— Добры ранак, Несцер Іванавіч! — спалахнуў садовую цішыню Кляновіч.

Несцер адказаў на прывітанне і сказаў насуперак таму, што толькі-толькі падумаў:

— Ранак то добры, але чаго ж вы так рана ўсталі? Трэба яшчэ паспаць...

— Не... Якраз цяпер і трэба ўставаць, як дзень пачынаецца. Прырода кліча — паглядзець на яе. Яна ранкам самая прыгожая... І лёгка думаецца...

— Пра ўсё ў вас клопат...— закруціў галавою Несцер.— Ну, то ідзіце памыйцеся ля калодзежа, я вам чыстага ручніка прынясу.

— Гэта можна...

Калі Кляновіч усмак памыўся і выцерся, стары Несцер паднёс яму шклянку малака.

— І гэта можна! — бадзёра адказаў Кляновіч.

Выпіўшы малака, крэкнуў, падзякаваў, уцёр губы ху-

стачкай, выняў расчоску з кішэнькі касцюма і пачаў прычэсвацца.

Тонкія туманы яшчэ ляжалі, нібы сонныя, пры зямлі, ад чаго цішыня здавалася больш густою, глыбокаю. Сонца паволі падымалася за лесам, і край неба пачынаў ужо зіхацець празрыстым зарывам.

— Ну, Несцер Іванавіч, пагаварыліся мы ўчора з вамі,— павёў гутарку Кляновіч, канчаючы прычэсвацца.— Вас трэба зрабіць у Серадзібары інспектарам па якасці зямлі, то, можа, ваш старшыня тады будзе больш паслухмяны...

— Чорта ён будзе... Не веру...— адказаў Несцер.— Гаспадар патрэбен, гаспадар...

— Няўжо ў нас гаспадары звяліся?

— А от бачыце... Не гаспадар, а бярэцца...

— Добра, Несцер Іванавіч, яшчэ пагаворым, а зараз я схаджу на ваш канал, пагляджу вашыя падзолы і тарфянікі. Можа ўдасца іх перамяшаць... Пайду...

І Кляновіч без капелюша, з адкрытай галавой, выйшаў на вуліцу. З ім разам выйшаў і Несцер і з выразам не то захаплення, не то здзіўлення, а можа, таго і другога разам, паглядзеў Кляновічу ўслед. Губы нешта шапталі, і добразычлівая ўсмешка не сыходзіла з твару. «Аграном... гаспадар...» Хацелася, невядома чаму, вярнуцца на вуліцу і паглядзець яшчэ раз яму ўслед. Але хлеў адчынены пасля каровы, якая пайшла ўжо на пашу, і трэба зачыніць вароты. У хаце, як і ўсюды, яшчэ панаваў сон. Несцер учора палажыў гасцей спаць — мужчын у гумне, Агрыпіне паслалі на лаве ў хаце. Сам Несцер прымаставаўся на ложку ў каморы, у якой любіў спаць нават зімою. Бо Несцерава хата хоць і вялікая, але яшчэ старасвецкая — без ніякіх перагародак. Падлога, праўда, накладзена, хоць не да канца, не да парога. Так у свой час настаяў стары, бо навошта яна, гэтая падлога, ля печы, з якой гаспадыні выцягваюць гаршкі, чыгуны з варывам сабе і свінням? Пад лавай, насупроць печы, стаяць цэбры. У іх з чыгуноў сыплюць вараную бульбу і таўкуць яе таўкачамі. Можа, і добра сказаў стары Несцер, што не месца тут падлозе. Яна кожны дзень будзе мокрая, будзе хутка гнісці. Няхай на гэтым кавалачку хаты перад печчу астаецца яна — матка-гліна, на якой пражылі век і нікому нічога ад гэтага не сталася. Так даводзіў сямейнікам стары Несцер, адваёўваючы кавалак глінянай падлогі. Казаў, што калі, напрыклад, зімою ў мароз ацеліцца карова

або акоціцца авечка,— куды ж ты папясеш гэты набытак, каб абагрэць яго? Толькі ў хату. І як ты яго будзеш грэць на драўлянай падлозе? Гэта ўжо пеяк людзям непрыемна. Падлога няхай будзе толькі для людзей. Сюды, па гэты кавалачак такой адмысловай хатняй тэрыторыі, ён, Несцер, можа без ніякіх аглядак прынесці народжанае зімою цяля, ягня, парася, сюды ён наносіць дроў, сюды ён зімою ў марозныя дні можа смела прынесці з-пад павеці калодку і, па старому звычаю, секчы смалякі на лучыну. Печ жа асталася старая — з камінкам. Як жа ты будзеш секчы лучыну на падлозе? Ад гэтага ж будзе такі дурны стук, што ўсе паўцякаюць з хаты.

Было б недакладна сказаць, што Несцерава хата не мела перагародак. Была адна перагародка, калі можна так яе назваць. Там, дзе шырокія дошкі падлогі сутыкаліся з глінянай пляцоўкай, працягнулася на шнурку каляровая посцілка і такім чынам падзяляла хату на «пярэднюю» і «кухню». Не хацеў гэтай перагародкі стары Несцер. Ён прывык, увайшоўшы ў хату, адразу бачыць яе ўсю — з чатырма вокнамі, сталом на покуце, з лавамі, з чучалам каршуна пры сцяне і белымі вышытымі ручнікамі. А тут на́ табе — як цёмная заслона на вочы. Увайшоў у хату і тыц носам у посцілку. Але тут стары не мог адстаяць свайго: уперліся сямейнікі, нават з крыкам. І што горш — старая Тэкля далучылася да маладых. Тады стары Несцер махнуў рукою. Няхай гэтая навалач вісіць — неяк абыдземся.

І ўсё ж такі, калі ўчора ў хату зайшлі ўпершыню такія паважныя госці, старому Несцеру стукнула ў грудзі адчуванне нейкай няёмкасці, нават сораму, і ў галаве бліснула думка, што патрэбна хата новая і інакшая. Нават неяк спалохаўся стары такое думкі, але што зробіш, калі яна ўварвалася так неспадзявана. Падумалася — як жа добра было б пасадзіць гасцей у вялікай светлай хаце, за харошым сталом! Стары замітусіўся, не ведаючы, дзе пасадзіць гасцей. Дзе ж? Толькі на лаве, каб прытуліцца спіною да пабеленай крэйдай шурпатай сцяны. На стале, засланым белым саматканым абрусам, стаяла драўляная сальнічка з соллю. Стары схапіў яе і перадаў нявестцы Кацярыне, якая і шмыгнула з ёю за каляровую «перагародку». Старая Тэкля сядзела ля печы на лавачцы і калыхала ўнука ў драўлянай гушкалцы, якая пагруквала аб падлогу сваімі «палазамі». Сонца схілялася к захаду, прабіралася праз галлё яблынь, груш і лыпала зайчыкамі па

шыбах вокнаў. Хутка ўслед за гасцямі ўвайшоў сын Даніла, старому Несцеру палягчэла, стала спакайней. Узрадаваўся Даніла гасцям, а асабліва Агрыпіне, бо абняў яе, пацалаваў, як сваю родную. Зараз жа падаўся за перагародку да Кацярыны, і хутка на прыпеку засквірчэла сала...

І вось ужо ранак у сініх туманах. Уся сям'я спіць, спяць і госці. Толькі старому гаспадару калгаса не спіцца, бяруць турботы.

І не ўспаўся гаспадар другі, на плячах якога многа-многа калгасаў. Ношка цяжкая, як тая пакутлівая думка, што імкнецца да радасці, але думка пачэсная. Яна будзіць рана-рана...

* * *

Кляновіч ішоў у цішыні сініх туманаў, а побач з ім па канале дрымотна струменілася ў смузе цёмная вада. Яна не спяшалася, быццам каб не парушыць агульнай сімфоніі наваколля, якое пачынала павольна абуджацца ад сну. Паабапал канала прасціраліся серадзіборскія палі. Гэта — старыя палі, як і сам канал, выкапаны некалі пры царызме па праекту генерала-географа Жылінскага. Хадзілі тут інжынеры, абмяралі, запісвалі, намячалі месцы для капцоў-слупкоў, каб адгарадзіць памешчыцкае ад сялянскага, і пакапалі каналы. Ад іх на непраходных палескіх прасторах найбольш патварыліся асакова-чаротныя сенажаці, куды ўжо можна было ступіць чалавеку з касою. Такія каналы ўсё роўна вод палескіх не ўвабралі, і ў веснавыя паводкі лугі ператвараліся ў мора, тады чоўны палешукоў плылі ў рыбныя прасторы ў якім хочаш напрамку.

Серадзіборцаў «жылінскі» канал найбольш надзяліў такімі палямі, з якіх больш палавіны займалі супескі і падзолы, менш тарфянікаў, на якіх серадзіборцы схільны былі гадаваць траву, бо канал не ўсмактаў да канца забалочанасці. У сухія гады, вядома, можна было і араць тут, але хто спадзяваўся на такія гады? Больш трэба было чакаць клубкаватых чорных хмар, якія заўсёды гатовы пачаставаць навальніцай.

Кляновіч мінаў палі — засеяныя і незасеяныя. Палосы лёгкіх тарфянікаў змяняліся палосамі супескаў і падзолаў. Добра відаць, як маладыя ўсходы аўса буйней зелянеюць на тарфяных гарбах, чым побач — на палосах

пясчаных, а асабліва на падзолістых. Вучоны аграном Кляновіч адчуваў гэтую зямлю, як даўнюю знаёмую пакутніцу, бо на ёй біўся земляроб. Араў, сеяў, нічога не мяняў у гэтай першабытнай зямлі, якая, здаецца, толькі ўчора вызвалілася ад старога воднага покрыва, і ніхто не прыходзіў да яго са словам парады. Навука жыла далёка ад земляробства. Толькі адзінкі ішлі на ратунак — такія, як Дакучаеў, Ціміразеў. Пайшлі адны і, азіраючыся назад, яшчэ не бачылі тады за сабой паслядоўнікаў. Але... ішлі. Вачыма бяздольнага селяніна-земляроба глянулі яны на зямлю. Бо сяляне гінулі з году ў год: дзе ад сушы, дзе ад вады, а наогул — ад бездапаможнасці і цемры. І яны, піянеры-асілкі, не пабаяліся, што будуць адны ў гэтым,— пайшлі, церпячы знявагу, інтрыгі, насмешкі. Кляновіч любіў Ціміразева за яго дэмакратызм, за народнасць, пра што не раз ахвотна гаварыў. Просты стыль, краса эрудыцыі і яна — народнасць! Слава!

Кляновіч спыніўся. Перад ім цягнулася аж да далёкіх хмызоў выключна падзолістая палоса. Тут падзол цалінаю выходзіў наверх сінявата-белаватымі баразнамі. Кляновіч выняў ножык з кішэні, адчыніў яго і нагнуўся да зямлі. Ён не любіў падзолу не толькі таму, што ён найбольш неўрадлівы ў параўнанні з другімі глебамі, але яшчэ і за нешта такое, што адварочвала ад яго, як ад мокрай ямы, дзе поўзаюць жабы. А ён жа, гэты пан падзол,— гэта не жарты — цягнецца шырокай палосаю між тундрамі і поўднем Азіі ад Ціхага акіяна аж да нашых заходніх граніц. Вось які магутны падзол, якога не любіў аграном Кляновіч! І вось ён гэтую нелюбімую падзоліну, як назолу, вырэзвае з зямлі, кладзе на руку, узважвае. І сінявата-белаваты кавалак, халодны, непрыхільны, ляжыць на руцэ і змушае адчуць ледавітае дыханне нейкага там трагічнага перыяду фармавання нашай матухны-зямлі. Амаль няма ў ім за што зачапіцца карэньчыку зярняці... Далёкая, сівая даўніна, што нават торф не паспеў адкласціся на ім, чаго трэба было чакаць. Але вось гэты канал спыніў пострп забалочвання, аддаў падзол і супескі пад уладу чалавеку. А ён, чалавек, сярод хмызоў і пушчаў не мог мець ніякай улады над ім.

Кляновіч доўга нёс у руцэ халодны кавалак падзолістай зямлі, потым загарнуў яго ў лопух, абвязаў лазовым дубчыкам і пайшоў далей. Мог бы ўжо вярнуцца, але дайшоў да лесу і стаў. Спакойныя сосны страмінаю цягнуліся ўвысь да нябеснай сінечы, на якой дзе-нідзе маленькія

празрыстыя хмаркі плылі, як расчэсаныя верхавінамі. Понізу прытаілася найбольш кустоў ядлоўцу — рослага, з завостранымі верхавінамі, як у кіпарысаў. Гэта — патомкі ледавіковых ядлоўцавых лясоў, якія некалі раўняліся цяперашнім соснам. Кляновіч павольна прайшоў далей і ўсё больш і больш пад навіссю разгалістых дрэў пачынаў адчуваць сябе як у нейкай ціхай велікапышнасці храма. Пачынала абуджацца птаства. Туманы адплывалі пад сонцам. Стары пачарнелы пень у абхваты два, блізка ля дарогі, трапіў на вочы Кляновічу. Ён змёў з яго далоняй шпіллё і сеў. Прад вачыма ўдалечыню, аж да небасхілу, прасціраліся па той бок канала асакова-чаротныя сенажаці з купкамі лазнякоў, што паасядалі сям-там па неаглядчай прасторы. І больш — нічога і нікога. Кляновіч паводзіў вачыма наўкруг, і ў душы яго расло пачуццё загубленасці — адзінокага яднання з прыродай. І раптам усмешка прабегла па твары. Вусны прашапталі, можна сказаць, са стогнам: «Вось сюды б гэтага Зашчамілу, няхай тут напісаў бы дысертацыю хоць бы на тэму, як дадаць вось гэтай асацэ бялка! А то абдарыў нас сапраўды зашчамілаўскім вынаходам: «Заканамернасці каровячай жвачкі». Няхай бы адначасова напісаў і пра сваю зашчамілаўскую жвачку, бо зубы мае, як у каня...»

Перад Кляновічам стаў ён — Фёдар Зашчаміла. Вільготныя ў кутках губы застылі ў зняважлівай усмешцы. З шэрага падпухлага твару глянулі шэра-мутныя вочы... Кляновіч плюнуў убок, цапнуў па кішэні пінжака, выняў партсігар і закурыў. У балотна-лясной напалоханай цішыні дымок ад папяросы віўся роўна, як шнурочак. Зашчаміла ніяк не выходзіў з галавы. На гэта была свая прычына. Зашчаміла назначан намеснікам міністра сельскай гаспадаркі. Добра, што хоць не міністрам. І вось ён стаіць перад Кляновічам, сваёй ссутуленай постаццю заміпае глядзець на палескія сенажаці. Стаіць і з усмешкай гаворыць Кляновічу: «Ну што, цімірazевец?.. Далёка ж ты заехаў са сваёй цімірaзеўкай! А мы, дзякуй богу, не такія вучоныя, і вось будзем камандаваць вамі... вучонымі... чэснымі... Дык частуйся, брат, сваёй чэснасцю і глядзі на нас, як мы будзем есці і дзяліць хлеб, як захочам... Ты будзеш у нашых руках, будзеш залежаць ад нас. Калі будзеш аскірзацца, праўды дабівацца — сагнём у крук так, што не разагнешся... Зразумеў?»

Складана ўсё, вельмі складана... А перашкодаў, здаецца, навала...

Кляновіч закруціў галавою. Нешта шарахнула ў верхавінах сосен, і ў вушы Кляновічу неспадзявана даляцела звонкае: «Ку-ку, ку-ку...» На душы прасвятлела, і думкі павярнуліся на другое. Трэба ўжо вяртацца, ісці да старога палескага земляроба Несцера — неўгамоннага, якога ў сяле называюць «сазнацельны». Ён ведае душу зямлі. Ён увесь у клопатах па ёй. Трэба паказаць старому яго родную зямлю і спытацца, якія ён лекі мае на яе.

Добра тут сядзець сярод глухой неакультуранай прыроды, ды яшчэ такому вучонаму аграному, як Кляновіч, і думаць, думаць аб будучыні, каб намацаць, дзе з чаго пачаць.

Трэба самому знайсці звяно, каб за ім пацягнуўся ланцуг, а не чакаць, што нехта, невядома хто, прынясе гатовае. З ініцыятываў нашых складаецца рашэнне, правяраецца, каб потым ісці да выканання. Толькі дармаеды чакаюць манны з неба.

Кляновіч задумаўся глыбока, акунуўшы позірк у дрымотную плынь канала. І раптам да вушэй, як далёкія перазвоны, данесліся чалавечыя галасы. Ён глянуў направа, пасля прыўстаў і, прыклаўшы руку казырком над вачыма, пачаў углядацца. Па надканальнай, ужо залітай сонцам дарозе ішлі трое. Сярод іх адна жанчына.

Кляновіч адразу больш здагадаўся, чым пазнаў, што ідуць яго сябры па начлегу ў Несцера. Так, гэта былі яны — Платон Грушка, Аляксей Жарнавік і Агрыпіна. Яны вясёлым гоманам павіталіся з Кляновічам, і ў гэтым гомане тонкім шчэбетам вылучаўся голас Агрыпіны, прасветлены, пасвяжэлы твар якой ніяк не нагадваў учарашняга змрочнага смутку на могілках ля магіл брата і сястры.

— Ох, як жа тут цудоўна! — увесь час паўтарала Агрыпіна.— Я так даўно была тут...

Жарнавік не расставаўся са сваёй палявой сумкай, якая і цяпер вісела ў яго цераз плячо. Ён вымаў з яе то адзін блакнот, то другі і адыходзіў у лес, каб там без чужога вока штосьці запісаць. Потым сябры доўга моўчкі глядзелі на росныя прасторы сенажацяў. Глядзець сапраўды было на што. Здавалася, што ўсе колеры вясёлкі ўпалі кропінкамі на неабсяжныя далі і пераліваюцца, граюць, зіхацяць. Многа чаго прайшло праз душы сяброў у гэтыя нібы малітвенныя хвіліны. Ніхто не прызнаецца ў такіх пачуццях. Бо каб прызнацца, то трэба было б сказаць, што на нейкую хвіліну ўсім захацелася заплакаць ад пачуцця хараства, ад усведамлення, што гэты свой край,

яшчэ запушчаны, глухі, чакае сумленных, здольных розумаў, старанных рук.

Калі сабраліся вяртацца, Жарнавік паправіў акуляры, падняў руку і сказаў, паказваючы на яркае, свежае сонца:

— Што ж мы скажам сонцу на адыход?

— Будзем мацаваць навуку, каб зрадніцца з сонцам,— адказаў Грушка.

— Будзем выкрываць зашчамілаў, каб даць дарогу талентам, верным нашым людзям,— сказаў Кляновіч.

— Будзем сцерагчы сваю краіну ад напасцяў розных ворагаў, будзем выкрываць іх,— сказала Агрыпіна.

— Будзем складаць песні працы нашага народа, яго подзвігу,— закончыў Жарнавік.

Усе сказалі: «Будзем!» — і без ніякай каманды, кіруемыя пафасам, скрыжавалі свае рукі, сцвярджаючы гэтым свой сяброўскі няпісаны саюз.

...Калі сонца, прабіўшыся праменнямі праз вокны Несцеравай хаты, асвяціла яе ўсю нібы святочным святлом, Несцер зноў адчуў непрыемнасць. Учора, калі дзень хіліўся да вечара і па кутках асядаў прыцемак, не было відаць парэпін гэтай так вядомай праз жыццё хаціны. А сягоння? Сям-там паабсыпалася замазка, павыціраны спінамі лапіны на сценах, пад столлю ў прамежках дошак асела павуцінне. Не, не такая павінна быць хата. «Як жа я ўвяду сюды гасцей? — разводзіць рукамі Несцер і дадае: — Сорам, адзін сорам...»

— Кацярына, Даніла! — гукае Несцер.— Давайце занясем стол за гумно, будзе лепш. Ну, куды людзей тут саджаць у хаце, калі такая брыдота па кутках?

— Ты толькі цяпер убачыў? — буркнула Тэкля.

— А я табе скажу, што толькі цяпер і ўбачыў...— адказаў крыху збянтэжаны Несцер.

Так і зрабілі — вынеслі стол за гумно пад грушу, якая застыла ў квяцістай белі. Там, пад страхою, прыпёрлася да сцяны гумна лава — шырокая, як тапчан. Седзячы на ёй, стары Несцер часам ладзіць свае венцеры, пляце лапці, дый добра тут прылегчы адпачыць у вольны ад працы дзень. Тут заціша. А перад вачыма адкрываецца серадзіборскае возера, якое сваёй блакітна-цёмнай шырынёю аддаляецца на поўнач, як недзе ў падвоблачную першабытнасць.

Госці прыйшлі да гатовага стала. Стары Несцер з сынам, з нявесткай пасадзілі іх з ветлівасцю, зычлівасцю. Госці адчулі сябе шчаслівымі. Жарнавік зноў, паказваючы

жэстам на возера і на ўсё серадзіборскае наваколле, як там над каналам на сонцы, патэтычна прамовіў:

— Глядзіце! Ці ж мы не ў запаветным кутку?

Раздзел трэці

## НЕЧАКАНЫЯ ПОДСТУПЫ

Над Азярышчам засвяціла ціхае вясёлае сонца. Паплылі цёплыя чэрвеньскія дні з рэдкімі дажджамі. Пасля іх усё ў прыродзе маладзела, усміхалася, расло. Чорнай звілістай стужкай пракладаў сабе сцежку ў паветры дымок з коміна спіртавога завода. Глуха за чыгункай пры лесе чахкала лесапільня. Дым з яе коміна клубіўся паважна, насуплена. Крыху на адселі ад пасёлка бразгалі малаты ў МТС, у былых маёнткавых будынках. Адчувалася, што жыццё набірала свой рытм, які стаў штодзённым у яшчэ неўнармаваным пасля ваеннага жыцці. Калі ў гэты рытм урывалася якая-небудзь навіна, падзея, то ён на момант нібы спыняў свой бег, каб потым ужо з большым імпэтам рухацца далей. Так было, напрыклад, калі Азярышча абабегла вестка, што Міхась Гойдала-Гайдалевіч прыняты на работу на спіртавы завод. Нягледзячы на захады Васіля Чаравакі перад першым сакратаром райкома, каб Гойдалу пасадзіць за канцылярскі стол аднаго з аддзелаў райвыканкома, Малашкін адказваў аднымі і тымі ж словамі:

— Ніякім чынам... Ніякім...

Часта Міхась Гойдала лавіў Васіля Чараваку ў розных месцах на розных дарогах і, вядома, не з пустою торбаю. Яны перасталі сустракацца ў Азярышчы, і Чаравака пасля той памятнай гутаркі перад незвычайным пленумам паабяцаў першаму сакратару, што ён, Чаравака, пастараецца пазбягаць пачастункавых сустрэч. Праўда, пасля таго не відаць было, каб ён прыходзіў у райком у «сваёй норме», і Малашкін быў ужо супакоіўся. Але сустрэчы Чаравакі з Гойдалам адбываліся ў вёсках, а найчасцей у хаце самога Гойдалы паміж Серадзіборам і Забівачкамі. Там пякліся аладкі, смажылася сала, «гаручага» было ўдосталь. Там Міхась Гойдала распінаўся ў анекдотах, розных былях, каб даць Чараваку як мага больш прыемнасці, асалоды. Чаравака рагатаў, увіхаўся з відэльцам

каля смажанага сала з аладкамі, чокаўся шклянкаю, запрашаў Міхасёвых бацькоў і быў поўны задавальнення, тым больш што хата Гойдалаў не ў сяле і што шчыльна завешаны вокны.

Міхасёў бацька — пануры стары Васіль з рудымі вачыма і з грыўкай пасівелых валасоў над карычневым ілбом — выпіваў толькі адну шклянку, закусваў і сядаў ля печы. Маці — Ганулямя — не брала ў рот горкай, сядзела побач са старым і паглядала, калі паднесці цікаваму госцю тушанай бульбы з мясам.

Васіль Чаравака піў. Здаецца, рады быў таварыству Гойдалы, але часам раптоўна рабіўся сур'ёзны, няўзнак пaглядаў на вокны, на момант цверазеў. На душы паскрэбвалі кошкі. І тады хацелася ўстаць і выйсці, каб сюды больш ніколі не заходзіць. Але зрабіць гэтага не ўмеў. Нейкі цяжар скоўваў не толькі ногі, але і мазгі. Назіральнае вока Міхася Гойдалы заўважала такое праясненне ў Чараваці, і тады ў шклянку зноў булькала горкая. Чараваку клалі спаць на драўляны ложак з высокімі падушкамі. Ён засынаў і хроп да самага ранку.

Аднаго разу Міхась Гойдала прачнуўся ад яго храпу на світанні і ўбачыў, як з-пад ложка, на якім спаў Чаравака, вылез не прывід, а сапраўдны Мацей Гусак. Міхась не ведаў, што тут у хаце хаваецца Гусак, а бацькі не казалі — баяліся і за сябе і за бандыта. Міхась атарапеў, а Мацей вострым, нейкім звярыным не то шэптам, не то хрыпам сказаў Міхасю, як загадаў:

— Правер на двары...

Міхась выйшаў. У сенцах ляжаў у кутку падрыхтаваны мяшок з харчамі. Міхась вярнуўся і сказаў:

— Выходзь і больш так не рабі, як зрабіў сёння.

— Нічога. Няхай твой Чаравака будзе спакойны, яго забіваць не будзем.

Гэта адбылося неўзабаве пасля падпалу торфу.

На Чараваку той незвычайны пленум усклаў заданне — стварыць баявыя групы, каб злавіць бандыта, былога гітлераўскага паліцая Мацея Гусака. Чаравака групы стварыў, але ў поспех іх не верыў. Правёў аперацыю два разы, але звер у пастку не трапіў — ён меў сваю разведку, да якой належаў і Міхась Гойдала. Абмагніціў ён Чараваку з галавы да ног.

* * *

Міналі дні, тыдні, месяцы. Ужо нічога не чуваць стала пра бандыта Гусака. Толькі аднаго разу прасачылася чутка, што ён падаўся да граніцы Заходняй Украіны, там яшчэ арудавалі бульбаўцы — фашысцкія ўкраінскія недабіткі. У такую чутку можна было паверыць, бо неўзабаве інжынеры з рабочымі, што аднаўлялі Днепра-Бугскі канал пад Брэстам, мелі бой з бандай былых паліцаяў і бульбаўцаў, якія руйнавалі нанова зробленыя шлюзы. Інжынеры загінулі ў гэтай няроўнай барацьбе.

Трапіўшы на спіртзавод, Міхась Гойдала вонкава перайначыўся. Ужо не насіў на сабе працёртага да нітак паліто і зашмальцаванай потам кепкі. Не насіў ужо і той неад'емнай раменнай торбы цераз плячо, з якою прывыклі бачыць яго людзі. Не, Міхась Гойдала з'явіўся на вуліцы Азярышча ў чорным касцюме, пад гальштукам і ў чорнай новай кепцы. Як жа! Ён жа нейкі там табельшчык на тым градусным заводзе. Ідучы з папкаю пад рукою, упэўнена бохаў туфлямі па бетонных плітах тратуара, гледзячы ўдаль шэра-бурымі вачыма.

Некаторыя з азярышчан, а асабліва з серадзіборцаў, гаварылі між сабой, што Міхась Гойдала прыдбаў нейкага заступніка і што цяпер яму мора па калена — будзе панаваць і смяяцца з «нас, дурных». Панаваў пры немцах бізуном, пасля выратаваў сябе раменнаю торбаю, а цяпер будзе ваяваць спіртам. Ён цяпер і цар і бог. Калі гаварылі пра Гойдалаву раменную торбу, намякалі на Чараваку, але ўголас яго імя ніхто не вымаўляў. Адны баяліся, каб не папасці на вока, як кажуць, начальству, а другія не хацелі верыць, каб другі сакратар райкома мог папусціцца перад нейкім там Гойдалам.

Меркаванні людзей былі дарэчы. Гойдалаўская хватка брала «мішэні» на прыцэл па выбару. Першай такой мішэнню аказаўся не хто іншы, як старшыня серадзіборскага калгаса Кастусь Верабей. У выхадныя дні Міхась Гойдала заўсёды спяшаўся ў Серадзібор, у свае і не свае Забівачкі, каб там паступова ўгрунтавацца. Спіртзавод для свае гаспадаркі меў пару добрых коней, калёсы, нават спраўную брычку на рысорах. Брычкай гэтай і адным гнядым канём завалодаў Гойдала. Уважліва-тактоўны з людзьмі, хоць і скрытны, Міхась хутка займеў сімпатыю дырэктара завода Перапяліцы, які прыбыў у Азярышча невядома адкуль.

Гэта быў чалавек хоць і абмежаваны, але таварыскі, паважаў людзей пісьменных і любіў з добрым чалавекам, што называецца па-казацку, перакуліць часам шклянку градуснага. Ці ведаў ён, што Міхась Гойдала быў гітлераўскім паліцаем? Ведаў. Але слова Чаравакі для яго было словам аўтарытэтным, і Ігнат Перапяліца абмеркаваў сабе так, што ўрэшце, калі што, дык апорай будзе Васіль Пятровіч. Ён вывезе. Мінуў нядоўгі час работы Міхася Гойдалы на спіртзаводзе, а дырэктар ужо быў ім задаволены. Хлопец робіць акуратна, чыста, хоць ты любуйся. Да таго і парады часам дае дырэктару нядрэнныя. Што ні кажы — хлопец разумны. І часам дабрадушнаму ад прыроды Перапяліцу мімаволі прыходзіла ў галаву пытанне: «Як такі хлопец мог быць паліцаем?» Перапяліца паціскаў плячыма і заспакойваўся сваім жа адказам: «Рознае бывае ў жыцці, усяго адразу не разгадаеш». Такім чынам, Гойдала моцна сеў у крэсла за сталом табельшчыка на азярышчанскім спіртзаводзе. Ад гэтага стала пачалі цягнуцца невідочныя ніці, як кажуць, ва ўсе канцы.

Аднаго разу, калі Гойдала, ужо сваім звычаем, у выхадны дзень гнаў гнядога ў напрамку Серадзібора, падскокваючы сам у рысорнай брычцы, напаткаў ён Архіпа Каўдуна — таго вядомага ўсім Архіпа, які выстойваў «на вахце» ў чайной, падпіраючы спіною печ, калі за прылаўкам стаяла нябожчыца Алеся. Цяпер Архіп ужо не выстойвае «вахты» ў чайной. Не, цяпер ён частавата з якім селянінам садзіцца за стол панам. Яго частуюць. Бо як жа не частаваць, калі на галаве ў Архіпа міліцэйская шапка, а між каленьмі стаіць вінтоўка. Няважна, што расхрыстана, бо без гузікаў, цёмна-шэрая кашуля, а на ёй шэры ў бела-цьмяныя пасачкі пінжак. На нагах — кірзавыя боты, гэта нейкі яшчэ «ваенны трафей». Не было тады яшчэ абмундзіравання ў дастатку. Дый міліцэйскія пасты па сёлах лічыліся як тымчасовая мера. Такім чынам, Архіп — міліцэйская ўлада ў Серадзібары, так што жартаваць з ім няма чаго. Ну, а зайсці ў чайную ці ў нядаўна адкрыты магазін спажыўсаюза — калі ласка!

Паколькі такі паліцэйскі недабітак, як Мацей Гусак, туляўся ў ваколіцы Серадзібора, то раённая ўлада вырашыла стварыць у Серадзібары міліцэйскі ўчастак з трох чалавек — два з Серадзібора, а адзін з Жарабкоў — недалёкай лясной вёскі. За старшага гэтай тройкі быў назначан сакратар камсамольскай ячэйкі — Коля Мілаш. Так

запрапанаваў сам Малашкін. У міліцыю ў той трывожны час, тым больш у сёлах, людзі ісці яшчэ пабойваліся. А вось Архіп пайшоў. Кожны дзень Архіп даваў справаздачу Колю Мілашу і, пачынаючы гаварыць, адразу бажыўся:

— Дальбог, табе кажу, нічога там такога не было... Трошкі падрапаліся, але я развёў...

Гэта пра гулянку на вечарыне, дзе і сам Архіп у хаце сядзеў і стаяў з асалавелымі вачыма.

Коля патрабаваў, каб Архіп дыхнуў яму ў нос. І здаралася так, што «страж парадку» дыхаў, але дыхаў не з сябе, а ў сябе. Коля заўважаў і запісваў у свой дзённік. Даваў заданне Архіпу на заўтра і на развітанне гаварыў:

— Паляціш ты са службы, Архіп. Трымайся...

Архіп убіраў галаву ў плечы і моргаў вачыма.

— Не выдумляй, Коля. Хіба ж я адмаўляюся ад чаго? Куды ты мяне пасылаеш, туды і іду...

— Пойдзеш заўтра на цэлы дзень у сельсавет. Нейкія валачашчыя людзі заходзяць. Вось будзеш іх правяраць і, калі што не так, затрымліваць. Зразумеў? Калі даведаюся, што быў у чайной, пастаўлю ў раёне пытанне, каб звольнілі цябе са службы.

Нервовасць авалодвала Архіпам пры гэтых словах. Ён стукаў прыкладам вінтоўкі аб падлогу і бараніўся:

— То як жа? Я ўжо і паесці зайсці не маю права? Што ты робіш са мною?

— Ціха, ціха... Хай жонка прынясе...

— Жонка... Што яна — за мною будзе ўслед хадзіць? — ужо амаль плаксівым голасам бараніўся Архіп.

— Добра, добра. Ідзі, пабачым...

Вось якраз у гэтым сельсавеце і пашчасліліла Архіпу. Туды зайшоў у падраным паліто даўно не голены чалавек і папрасіў, каб яму далі пераначаваць. Дакументаў гэты чалавек не меў ніякіх. Старшыня сельсавета Карчэня званіў у райвыканком Харытону Бабру. Гаворка вялася доўга. Прышляцу здалося нешта падазронае ў такой доўгай размове, і ён падняўся, каб выйсці. Ля парога затрымаў яго Архіп.

— Куды? Сядзь на месца!

Прышлец, замест таго каб сесці, выскачыў на вуліцу і пусціўся наўцёкі. Архіп, прыкульгваючы, подбегам пагнаўся за ім з крыкам: «Стой! Страляць буду!» Уцякач бег. І тады... тады Архіп адважыўся: серадзіборскую цішыню парушыў вінтовачны стрэл. Уцякач адразу ўпаў і

скурчыўся пад плотам. Архіп, збялелы, як труп, паклікаў Карчэню. Аказалася, што прышлец быў не толькі жывы, але нават і не паранены. Ён проста ўпаў ад страху. З якой жа гордасцю вёў яго назад Архіп! З вінтоўкай напагатове, падаваў арыштаванаму каманду за кожным крокам:

— Куды вернеш? Проста! Мы паглядзім зараз, якая ты птушка. Не спяшайся!

Праз два дні было вядома, што гэта ўцякач недзе з Курскай вобласці, быў гітлераўскім паліцаем і ўцёк ад мясцовых улад. Радасці ў Архіпа не было меры. Ён стаў героем дня! Пайшоў у Жарабкі да другога паставога і там пачаставаўся. Вяртаючыся назад, выйшаў на серадзіборскую дарогу, што вяла ў Азярышча, не вытрымаў — лёг пад бярозай, і ўжо спакойна зацікаўленыя вароны і сарокі маглі аглядаць яго з дрэва.

Вось тут і ўбачыў Архіпа Міхась Гойдала, едучы на спіртзаводскай брычцы.

— Гэй, чалавеча, уставай! — крыкнуў ён, штурхаючы Архіпа пугаўём.

Архіп падняў галаву, праз крывавыя вочы глянуў на свет. Пазнаў:

— А-а-а... Міхасечка, гэта ты? Даў бог мне...

— Уставай,— прамовіў Гойдала.

Архіп устаў. Казырок міліцэйскай шапкі вісеў над вухам.

— Папраў шапку! — крыкнуў Гойдала.

— Ой, ой...— паўтараў Архіп і пачухваў бакі.

Гойдала ўлёт падумаў: «Дзе маё не прападала!» — і з брычкі, напханай саломай, выняў белага шклянога паўлітра.

— На, каўтані,— прамовіў зычліва.

— Ах, Міхасечка, век буду бога маліць...— сказаў, праціраючы вочы, Архіп і схапіў белую бутэльчыну.

Гойдала з усмешкай не спускаў вачэй з бутэлькі, што тырчала ўверх дном у Архіпавых руках.

— Хопіць, а то зноў сарокі будуць капаць табе ў рот,— засмяяўся ён.

Адабраў, а замест яе выняў другую белую бутэльчыну.

— Вось гэтую, прашу цябе, перадай Вераб'ю — старшыні.

— Старшыні?

— І не ўздумай паспытаць, бо здохнеш. Гэта — спірт, атрута. Так і скажы Вераб'ю.

— Атрута? — спалохана спытаўся Архіп.

— Сцеражыся, кажу табе,— сказаў Гойдала і тузануў лейцамі.

Кастусь Верабей — і той нават здзівіўся такому падарунку, хоць і ўзрадаваўся. Панюхаўшы, на ўсякі выпадак схаваў бутэльчыну ў камору, бо такая рэч бывае не штодзённа. Яшчэ будзе для яе свята.

Свята доўга чакаць не давялося. Прыехаў Харытон Бабёр правяраць нарады ў лясніцтве і, вядома, заехаў да Вераб'я.

На вячэры Харытон Бабёр аж зжахнуўся ад такой павіны і надоўга ўтаропіўся вачыма ў Вераб'я. Вочы загадкава пыталіся: «Ну дзе ж ты ўзяў такую цацу?»

А потым паўтарыў тое самае ўголас.

— Адгадай...— дражніўся Верабей.

Калі ўрэшце Бабру стала вядома крыніца «гэтай цацы», ён толькі мармытнуў:

— Ммугу..

— Гойдала перадаў,— удакладніў Верабей.

Харытон Бабёр зноў раздумна паўтарыў:

— Ммугу...

У яго галаве пачалі складацца нейкія меркаванні.

— Як хочаш, то і табе даставіць,— палічыў патрэбным сказаць Верабей.

Харытон махнуў рукою:

— А... Няхай яго...

— Ён сам табе не прынясе, не... Ён знойдзе людзей...

Харытон маўчаў.

А Гойдала тым часам рабіў сваё. Ён завёз у Забівачкі Духмуровічу-Куцілоўскаму цэлую бутлю. Адкуль і як ён браў гэты «градусны», ніхто не ведаў на заводзе. Ведаў толькі адзін кладаўшчык. Відаць, з ім і зладзіў Гойдала гэтую градусную хеўру. Трымаць спірт у сябе Гойдала не хацеў — баяўся. І таму выбраў месца для склада ў Духмуровіча-Куцілоўскага. Там надзейна. Ды няхай і сам Васіль Чаравака пакуль што не ведае, адкуль гэтае пітво.

Чаравака стаў бываць у Куцілоўскага, частаваўся ўжо не смярдзючай самагонкай.

* * *

Праца ў райкоме ішла сваім парадкам. Прыціхлі турботы ў сакратара Малашкіна аб тым, каб як злавіць бандыта Мацея Гусака, бо ён недзе выбраўся з серадзібор-

скіх ваколіц. Дый сакратар абкома Гугновіч сказаў па тэлефоне Малашкіну: «Раз яго не чуваць — значыць, няма. Ну і чорт яго бяры...» Гаварылі больш пра ўраджай і пра арганізацыйнае ўмацаванне калгасаў. Асабліва патрабавалі ўвагі ў раёне два калгасы: у Забівачках і Жарабках. З гэтых вёсак выходзілі розныя страхі. То ў нейкай цёткіўдавы абнавіўся «святы абраз», то нехта гукае ў лесе па начах, то на могілках устаюць душы, пабітыя немцамі. То нехта пусціў пагалоску, што прыйдуць амерыканцы і зноў будзе вайна. І тады ўсе людзі спяшаліся ў магазіны, куплялі мыла, соль. Фабрыкай вось такіх і падобных навін былі Забівачкі і Жарабкі. Моцна меў на воку гэтыя вёскі капітан Рыбін.

Другой турботай была патрэба ў аграномах. Раскіданыя і абрабаваныя гітлераўцамі калгасы патрабавалі ўпарадкавання зямлі хоць у нейкай ступені на навуковых асновах. Самацёк у зямельных парадках цяжарам клаўся на розум і сэрцы тых кіраўнікоў, якім сапраўды хацелася давесці калгасную гаспадарку да ладу. Да такіх належаў сакратар Малашкін, сын рускага селяніна. Хоць ён паходзіў з чарназёмнай паласы, але, дзякуючы яго прыхільнасці да мясцовага народа, усе, хто яго ведаў, думалі, што ён тутэйшы. Ён хутка ўвайшоў у курс мясцовага жыцця — чалавек не сухі, а з гумаркам і роздумам,— чым здабыў агульнае прызнанне. Частыя гутаркі з Паўлам Кляновічам яшчэ больш навучылі яго правільна і турботліва глядзець на зямлю. Ён ведаў лёс Кляновіча і ад душы яму спачуваў. Хацелася б з такім чалавекам працаваць і ісці праз жыццё. Але... многа «але» стаіць на дарозе не толькі яму, Малашкіну, але і самому аграному вобласці.

Малашкін часта думаў пра Платона Грушку. «Мае лоб — нічога не скажаш. Але возьмуць потым і закінуць у які-небудзь інстытут ці ў акадэмію, і мы зноў астанемся без агранома, які па-сапраўднаму любіць зямлю... Але... яшчэ паглядзім. Ды ён сам за сябе пастаіць. Ён любіць сваё Палессе, свой Серадзібор».

Так часам разважаў Сцяпан Малашкін, ходзячы для перадышкі па кабінеце. А вішні дрыжалі за вокнамі ў сонечных бліках і часам клікалі недзе пайсці.

Малашкін прыходзіў на кватэру абедаць у тры або ў чатыры гадзіны. Пазней даводзілася прыходзіць толькі тады, калі зацягвалася бюро. У той дзень, які можна было назваць «днём з падзеяй», можа, крыху смешнай, але з падзеяй, Малашкін прыйшоў абедаць нармальна.

Невялічкі пастарэлы домік пры вуліцы туліўся ў яблыневым садку. Яблыні згіналі кучаравыя галіны над платамі і стваралі зацененае зацішак. Над ганачкам павісаў гірляндамі плюшч — ён разросся так густа і нізка, што зусім закрыў дзверы.

Веснічкі з тоненькім кароткім скрыпам адчыніліся ад штуршка, і Малашкін увайшоў на падворак свае кватэры. Першая яго сустрэла дачка, дзяўчынка гадоў пад тры. Яна ручкамі абняла тату за ногі не вышэй калень. Шэрымі вачанятамі, гуллівае смеючыся, пазірала знізу ўверх і тупала ножкамі. Адзін міг — і яна ўжо была на руках у таты, абвівала яго шыю, церлася дзіцячай шчочкай аб шорсткую бацькаву шчаку. А бацька туліў яе, гушкаў і называў «балерынкай».

— Ах, балерынка ты мая, Любачка... Мама дома?

— Тома...— вымавіла маленькая Любка і паказала пальчыкам на адчыненыя ў сенцы дзверы.

— Хадзем, хадзем да мамы...

Сенцы былі невялікія. Направа ў прыцемку — дзверы ў кладоўку, а ля сцяны — лавачка, дзе стаялі і каструлі, і вядро з вадой, і нейкая шкляная пасуда. Але вось... што гэта за рэч стаіць крыху ўбок ад дзвярэй — ці жывая яна, ці нежывая? Такой тут не было. Бо як толькі Малашкін яе ўбачыў, яму раптам падумалася, што сядзіць нешта, падобнае да бураватага медзвядзяткі, або, скажам, якаянебудзь лясная птушка, якая растапырылася і села на гняздо. Малашкін усё ж такі даўгавата прыглядаўся да гэтай незнаёмай рэчы, а потым ступіў крок і мацнуў рукою. Вочы ўжо асвойталіся ў прыцемку і пачыналі адгадваць гэтую неспадзяванку. Нешта шырокае, увышкі па калені, аплеценае дубцамі. Гладзенька, хораша аплецена. З дубцоў тырчыць шыракаватае шкляное горлачка, заткнутае коркам, абкручаным белай тканінай з парастапырванымі краямі. «Гм...» — усміхнуўся Малашкін і апусціў дачушку на падлогу.

— Стань, Любачка... Я пагляджу.

Так, гэта была яна — самая сапраўдная бутля, аплеценая дубцамі. Дубцы ўжо высахлі, пабурэлі. Значыць, бутля служыла ўжо даўно сваю службу. Малашкін адаткнуў корак і нюхнуў. Разагнуўся, узяўся ў бокі і разрагатаўся на ўвесь голас — з гарлячка ўдарыў яму ў нос, як лацяністы і ўрачы называюць,— «спірытус віні». Адкуль ён? Якім чынам? Але вось з кухні адчыніліся дзверы і выйшла жонка, Марыя Пятроўна, расчырванелая ад кухоннай плі-

ты, у фартуху. Гэта была невысокая, тоўсценькая жанчынка з хворымі вачыма. Такія вочы і шырокія сківіцы на тонкім бялявым твары гаварылі, што род Марыі Пятроўны мае нейкую блізкасць да чувашоў. Здавалася, што яна вечна завіхалася на гэтай кухні — усё нешта варыла, пякла, мыла бялізну, падлогу. І ад гэтага вочы рабіліся яшчэ больш запалёныя.

— Чаго ты рагочаш? — было першае яе пытанне.

— Чаго? Адкуль гэтая бомба тут?

— Якая бомба?

— Што — не бачыш? Вось яна...— і Малашкін тыцнуў пальцам у бутлю.

Марыя Пятроўна паглядзела на бутлю і змоўкла. Асцярожна абышла яе навокал. Урэшце глянула на мужа з нямым пытаннем і паціснула плячыма.

— Не ведаю... Адкуль яна — не ведаю...— усё пацiскаючы плячыма, гаварыла жонка.

— Не прыкідвайся... Кажы, хто прынёс... Ці прывёз, бо гэтай бомбы не панясеш.

— Дальбог, не ведаю... Ты думаеш, што я не хачу казаць? Не ведаю...

Сцяпан Пятровіч зарагатаў зноў.

— Вось гэта штука дык штука!

Малая «балерынка» паглядала то на тату, то на маму. Нешта часам бліскала ў вачанятах асэнсаванае і ўмомант знікала. Маленькая маршчыначка з'яўлялася над маленькай пераносічкай, як мігценне праменьчыка, і тады вачаняты намагаліся, прасіліся нешта сказаць. І ўрэшце малая стала заікацца:

— ...Ы ...ы ...ы...

— Што, што, Любачка? — перапытаў, прыгнуўшыся да малой, Малашкін.

Малая пачала з неймаверным намаганнем выказваць свае думачкі. Пальчык паказаў за дзверы на двор. Язычок залепятаў:

— Мм... мм... дзядзя... дзядзя... ету... цацу...

Бацькі слухалі прытаіўшыся.

Марыя Пятроўна перапытала дачку яшчэ і яшчэ раз, памагла ёй здагадкамі. Тая пацвярджала кіўком русавалосай галоўкі або не пацвярджала. З усяго вынікала, што нейкі «дзядзя» прынёс бутлю і паставіў у сенцах.

Малашкін, узяўшы дачку на рукі, падзякаваў ёй дотыкам вуснаў да шчочкі і сказаў сваёй Мані:

— Правільна. Інакш і не магло быць. З неба ж яна не

зляцела. Нічога, мы даведаемся, хто прынёс. На, вазьмі Любу, я адстаўлю гэтую цацу крыху ўбок, а то стаіць на самай сярэдзіне. Відаць, баяўся, чорт, каб хто не ўбачыў. Спяшаўся...

...Малашкін абедаў і думаў пра гэтую злавесную бутлю. Здагадкі адна за адною прыходзілі і знікалі. Імі Сцяпан Пятровіч не быў задаволены. Усё паўтараў сам сабе: «Не, не тое... Не да канца... Тут справа глыбей...»

На каленях сядзела русавалосенькая і ела піражок з тварагом. Малашкін не заўважыў, як дачачка насыпала на яго калені крошак тварагу — ён еў гарачую капусту, зусім сапраўдную волжскую капусту і нават не клікаў жонкі, як заўсёды, каб абедала разам. Жонка ўсё корпалася недзе на кухні. Толькі скончыўшы есці, угледзеў, што абсыпаны крошкамі:

— Ах ты, балерыначка, што ж ты мне нарабіла? Ідзі да мамы...

«Балерыначка» патупала на кухню.

Сцяпан Пятровіч, астаўшыся адзін, спахмурнеў, задумаўся. Думкі, як па ланцужку, паплылі, чапляючыся адна за адну, і, здавалася, даходзілі да нейкага сакрэту і выкрывалі яго. Тады па твары, як бліскавіца, прабягала ўсмешка. Малашкін устаў, глянуў у люстэрка на сцяне, правёў грэбенем па валасах. Быў падрыхтаваны «да бою», які павінен адбыцца з тым жа самым Васем Чаравакам, бо думка па ланцужку дайшла да яго. Сцяпан Пятровіч падышоў да тэлефона і зняў трубку.

— Саша?.. Ты ўжо абедала? Ага... Чаравака ў сябе? Ага, у сябе... Дасканальна. Скажы яму, няхай пачакае мяне...

Трубка лягла на сваё месца, і тут жа ўвайшла Марыя Пятроўна.

— Хто званіў? — спыталася яна.

— Не, я званіў у райком. Сашы сказаў пра адну справу.

— Нешта ты зачаста звоніш гэтай Сашы...

Малашкін глянуў на расчырванелую жонку нейкімі чужымі вачыма і хуценька прамовіў:

— Давай другое. Няма часу. Што ў цябе на другое?

Марыя Пятроўна замест таго, каб падаць другое, пачала яму прыпамінаць розныя выпадкі яго паводзін з гэтай Сашай. Напрыклад, Першага мая замнога танцаваў з ёю, паднёс ёй букет кветак, да Мані падышоў толькі раз... І пайшло, і пайшло... Малашкін маўчаў, чакаў «другога».

Думаў — праміне бура, будзе ціха і ўсё. «Наогул, пра гэта потым. Пагаворым дасканальна».

— Маня, ну перастань... Няма часу. Работы многа. Вось трэба знайсці таго жуліка, што бутлю прывалок у сенцы.

Маня выцерла фартухом свой маладжавы твар, недзе ўнутры горка ўздыхнула, прыгладзіла расчахраныя цьмяна-жоўтыя валасы і, супакоеная, пайшла на кухню. Сцяпан Пятровіч паглядзеў ёй услед і прыжмурыў вочы. Убачыў на імгненне роднае сяло і за сялом той Яр, дзе гулялі ў гарэлкі і дзе ў рукі на бягу трапіла яму рухавая маленькая Маня... Цяпер здаецца, што гэта было вельмі даўно, што, можа, яго і зусім не было... Дзіўныя справы чалавечыя.

...У кабінеце Малашкіна стаяў, трымаючы кепку ў руцэ, грузны Ігнат Перапяліца, дырэктар спіртзавода. Вочы яго былі палахліва ўтаропleны ў твар сакратара, нібы хацелі закамянець на ім. На крэсле ля стала, заклаўшы нагу на нагу, сядзеў Васіль Чаравака.

— Дык вы кажаце, што не ведаеце, хто правёў у сенцах мае кватэры гэтую аперацыю?

— Бажуся богам, што невядома,— голасам цярпліўца адказваў Перапяліца.

— Цікава... Нехта робіць, што хоча, у вас на заводзе, а вы і не ведаеце.

— Ну што я зраблю? Я ж... Я ж... не магу за ўсім даглядзець.

Малашкін трымаў аловак у правай руцэ, стукаў па стале няўзнак і пры гэтым крывіўся. На Чараваку быццам і не хацеў глядзець. Затое той, пакусваючы пазногці, намагаўся штосьці вычытаць з твару свайго друга Сцяпана Пятровіча, часам траціў вытрымку і тады выглядаў асавелым. Яму хацелася, каб Малашкін хутчэй канчаў гэтую праклятую спіртавую цырымонію. А Малашкін, наадварот, усё цягне і цягне.

— Кажыце чэсна, таварыш Перапяліца, інакш справу перадам следчым органам.

Перапяліца збялеў.

— Магу на калені ўпасці перад вамі, таварыш сакратар, што гэта справа мне невядомая.

— Абяцаеце мне ўсё разблытаць, даведацца?

— Абяцаю,— сказаў Перапяліца, а потым са стогнам запытаўся: — А як я нічога не знайду, тады што? Вы мне не паверыце?

— Спрабуйце пра ўсё даведацца... Вось і ўсё...
— Магу ісці?
— Можаце.
Ігнат Перапяліца выйшаў. У кабінеце асталіся сакратары — першы і другі. Малашкін адразу ўстаў, абцягнуў гімнасцёрку, узяў парттабачніцу, адкрыў і працягнуў Чараваку. Той узяў папяросу і асцярожна глянуў у вочы Малашкіну. Абодва закурылі. Праз момант Малашкін, страсаючы попел у попельнічку, запытаўся ў Чаравакі спакойным таварыскім тонам:
— Што ты думаеш, Вася, пра гэтую справу? Хто мне падкінуў такую свінню?
Чаравака паціснуў плячыма. Памаўчаў.
— Таямнічая справа, брат...
— Ты нікога не падазраеш?
— Ну, як я магу падазраваць?
Маўчанне надышло зноў. Малашкін прайшоўся ўздоўж стала і, павярнуўшыся, зноў спытаўся:
— А як ты думаеш, Вася, варта гэтую справу разблытваць? Ці, можа, яе...— і Малашкін махнуў рукою.
Васіль Чаравака глянуў, нібы між іншым, на акно, паціснуў адным плечуком і адказаў:
— Хто яго знае...— А потым, непрыкметна для сябе, тонам з ноткай жвавасці сказаў: — А можа, і сапраўды яе прыкрыць? Падумаеш — спірт...
— Добра, Вася, мы падумаем, а ты пакуль што на правах сакратара займіся людзьмі, што ў апараце на спіртзаводзе. Добра?
— Гм... Ну, добра... Займуся.
— Вазьмі тэрмін — два тыдні.
— Можа, мала?..
— Арыентуйся на два тыдні...
Калі Чаравака выйшаў, Малашкін вычакаў хвіліну, напружана думаючы — што ж рабіць з гэтым Васем? Можа, як заўсёды, паклікаць капітана Рыбіна і параіцца?
Малашкін мог бы яго і не выклікаць. Ён мог бы адзін абвінаваціць свайго Васю ў саўдзеле... І справа была б закончана. Але... гэта быў бы для Чаравакі такі падрыў, канфуз, ад якога ён згарэў бы, у адзін дзень перастаў бы існаваць у апараце. «Ці варта ісці па такой лініі? Такая лінія не ідзе ад розуму. Мы маем права і павінны затрымаць гэтага зуха Васю для апошняй, так сказаць, праверкі»,— падумаў Малашкін і зняў трубку тэлефона, каб паклікаць капітана Рыбіна.

# АСЕННЯЕ ПАВУЦІННЕ

Месца пад бальніцу выбрана ўдалае, ля самага бору, у закутку, крыху наводшыбе. Недалёка праз бор прабіраецца, прасвечвае бляскамі стары канал. Вера Ігнатаўна думае пра многае, чаго пакуль што ніхто не ведае. Што бальніца будзе, можна сказаць, у бары — гэта адна люба-та. А другое... тое свеціць яшчэ толькі марай. Вера Ігнатаўна марыць, каб гразёю лячыць рэўматычных. І вось сталася ўжо так, што яна не то жыве, не то не жыве ў Азярышчы. Не сядзіцца там — усё цягне ў Серадзібор, каб прыспяшаць пабудову бальніцы. Машыны свае Вера Ігнатаўна не мае. Прыязджае з кім-небудзь і як прыйдзецца. То на эмтээсаўскім грузавіку побач з шафёрам, то на райкомаўскім газіку, па які частавата прыходзіць да Малашкіна. І той не шкадуе — абы толькі быў не заняты.

Вера Ігнатаўна саскоквае з машыны ў лёгкім зеленаватым плашчыку нараспашку. На зграбнай галаве павязана хусцінка вузлом на патыліцы, у руцэ — абавязкова партфель. Вера Ігнатаўна спяшаецца на месца, прызначанае на пабудову лекарскага дома. Там паволі, раздумна абходзіць пляц, пастойвае, глядзіць на высокія сосны бору, зойдзе ў яго на момант і вернецца з кветкамі ў руцэ — адна ў зелені, прасвечаная сонцам.

Хоць лета — час такі, што ўсе людзі найбольш заняты ля зямлі і мала аддаюць увагі іншым справам, аднак Вера Ігнатаўна некалькі разоў пабывала ў Серадзібары і за лета. Але вось надышла восень. Турбота пра бальніцу нахлынула ў душу яшчэ мацней, і Вера Ігнатаўна прыехала ў адзін ціхі асенні дзень, калі дарога ўпоперак ужо засноўвалася серабрыстым павуціннем. Яно перад задуманымі вачыма то засцілала дарогу, то недзе знікала, каб праз момант павіснуць у ціхім паветры зноў. Добра ехаць увосень і акунацца ў думы, якія ткуцца, снуюцца, як тое серабрыстае мяккае павуціннс.

Вера Лукашэвіч была жанчына ўжо не першай маладосці, але ўсё ж такі маладосці, той, якая ведае сабе цану. Жыла ўдавою, гадавала дачку Валю. Муж, настаўнік, загінуў на фронце. Сама Вера правяла вайну ў ваенных шпіталях — спярша на фронце, а потым, пасля ранення, у тыле, аж у Казахстане. Яна паспяшалася вярнуцца ў Беларусь яшчэ тады, калі наша армія гнала гітлераўцаў па польскай зямлі. Знайшла жывою сваю маці ў палескім дрымучым сяле і брата — інваліда. Другога брата

і бацьку спалілі гітлераўцы ў канюшні, дзе знайшло сабе смерць больш за трыста чалавек. Пабыўшы на радзіме тыдні два, Вера Ігнатаўна паехала ў Мінск у Міністэрства аховы здароўя, дзе і атрымала прызначэнне ў Азярышча. І вось жыве ў гэтым ціхім, благаслвёным Азярышчы, і турботы разрываюць яе. Ад каросты раён ужо ачышчаны. Прыходзіць і прыязджае ў бальніцу многа людзей, што скардзяцца найбольш на боль галавы. Гэта — новыя, дагэтуль невядомыя хваробы. Урачы называюць такіх хворых гіпертонікамі. Тэрапеўт Вера Ігнатаўна ў гутарцы з вясковымі цёткамі перасыпае рускую мову беларускай, выслухвае, аглядае старых, маладзіц, пытаецца і потым думае — ну як памагчы, калі яна, гэтая маці, не можа выканаць рэжыму дома? Бальніца занята цяжкахворымі. Вера Ігнатаўна на момант самкне вочы над сваім дзённікам, і перад ёю стане новая, доўгая бальніца ў бары, дзе можна было б хоць на два тыдні змясціць гэтых разбітых вайною цётак. Хутчэй, хутчэй рабіць бальніцу ў Серадзібары, каб мець сякую-такую разгрузку, каб можна было гэтым цёткам, маладзіцам даць лекарскі адпачынак ад вайны.

Вера Ігнатаўна належала да такіх жанчын, якія ўмеюць абыходзіцца са сваёю красою. Галоўнае ў гэтым — адсутнасць паказнасці. Здаецца, што Вера Ігнатаўна не ведае, якая яна, як выглядаюць, напрыклад, яе цёмныя бровы, якія можна назваць не інакш, як гарачымі. А з-пад броваў глядзяць ціхія, з адценнем задуменнасці цёмна-шэрыя вочы. Можна б назваць такую задуменнасць не то штодзённай заклапочанасцю, не то непрыкметным для нікога роздумам над тым, што лягло ў душы і патрабуе свайго месца ў жыцці. Многа чаго лягло — і горкага і салодкага, але больш горкага. Нездарма на чыстым прыгожым ілбе — там, дзе хацелі сустрэцца бровы, тоненькай рыскай намецілася яна — маладая маршчынка. Хто-небудзь з тых патрабавальных, напудраных сказаў бы, глянуўшы на Веру Ігнатаўну, што яна не глядзіць за сабою, што яна не мае права так выглядаць, калі з-пад хусцінкі вырываюцца на скроні цёмныя шаўкавістыя пасмы, калі на белай шыі ляжыць звычайны каўнерык звычайнай кофты або плацця. Няўжо яна наўмысна хавае сваю красу? Так, Вера Ігнатаўна заўсёды спяшалася, і люстэрка ў яе не займала многа часу. Бывала і так, што яна сябе быццам і не бачыла ў ім. Рукі закручвалі доўгія валасы ў куксу, а думкі ўжо былі ў спра-

вах — бальнічных і іншых. Серадзібор падабаўся ёй, можа, больш, чым само Азярышча. Серадзібор нездарма так называўся — у кагосьці некалі ўпершыню вылецела з вуснаў гэтае слоўца і было падхоплена, не толькі людзьмі, але, здаецца, і самой прыродай, бо лес і да сённяшняга дня не адступіўся ад сяла. А возера гаворыць людзям свае сказы і былі і лашчыць вока кожны дзень. Вось чаму, апрача ўсяго, Вера Ігнатаўна настояла ў райвыканкоме, каб бальніцу будаваць толькі ў Серадзібары. Сюды яна едзе з вялікай ахвотай, як на адпачынак. І сапраўды — пабываўшы ў Серадзібары, яна адчувае, што адпачыла, адчувае паўнату душы, чаго не хапае ў Азярышчы.

У той свежы ранак першай восені пасля вайны, калі Вера Ігнатаўна выйшла з райвыканкомаўскага газіка ў Серадзібары, услед за ёю выкаціўся, як качулка, і — хто б падумаў! — сам сваёй персонаю Духмуровіч-Куцілоўскі, старшыня калгаса ў вёсцы Забівачкі. Першым чынам, падцягваючы, паправіў калошыны адпрасаваных пад востры кант цёмна-сініх штаноў. Потым абцягнуў такога ж колеру пінжак і памацаў шэры ў белыя кропінкі гальштук. Шэрая кепка была сцягнута на патыліцу, і з-пад казырка, такім чынам, выглядала ўся, як на паказ, прыліплая да лба каўбаска русых бліскучастых валасоў. Духмуровіч-Куцілоўскі быў у поўнай форме, але ўсё дапаўняў яшчэ жоўты скураны партфель, якім ён сюд-туд памахваў. Ён падышоў да Веры Ігнатаўны і зачасціў у паклонах.

— Калі ласка... Гм... Я вас магу правесці...— прамовіў ён, падкрэсліваючы, вядома, элегантнасць.

— Не, дзякую. Я зайду сама. Тут жа недалёка. Шкада мне вашых ног.

— Гм... Дазвольце... Ногі... пры чым тут ногі? Ды яны ў мяне няўрокам...

— Ну, бывайце. Дзякую за таварыства. Я пайду.

Вера Ігнатаўна накіравалася ў праўленне калгаса. Духмуровіч-Куцілоўскі так і застыў, разявіўшы рот. Ён паглядзеў услед Веры Ігнатаўне, потым азірнуўся навокал і падаўся па вуліцы да канала. Збянтэжанасць адбілася на яго круглым і пульхным твары. Аднак, дайшоўшы да канала, ён змяніў напрамак. Яму трэба было перайсці мост і ісці далей у свае Забівачкі, а ён вось раптам узяў і спыніўся. Нешта ж спыніла яго. Ён паглядзеў направа ўздоўж па канале і, доўга не думаючы,

пайшоў надканальнай дарогай. Мінаў садкі, платы, агароды, хаты, хлявы, ішоў паволі — не спяшаўся — і праз некаторы час увайшоў у лес. Понізу ў густой траве раслі кветкі розных колераў — белыя, чырвоныя, сінія званочкі. Духмуровіч-Куцілоўскі задумаў даказаць сваё — пачаўірваць кветкі. Нагінаўся над кожнай і рваў, рваў... Букет вырастаў у левай руцэ, на якой пабліскваў гадзіннік. Духмуровіч-Куцілоўскі час ад часу паглядаў на яго. Нарэшце, звязаўшы букет сцяблінай травы, падаўся ў глыбіню лесу і хутка выйшаў да доўгага зруба будыніны, які расцягваўся ўздоўж сосен на травяністай паляне. Спыніўся, нясмела аглядаючыся, зірнуў па сцяне зруба ўверх, глянуў з асцярогай за вугал, хаваючы букет за спіною. «Каб толькі яна была тут, я паднясу ёй раптам, я ашаломлю яе...» Пачаў ціхенька прабірацца ля сцяны да другога канца будынка, раз-поразу пастойваючы — ці не пачуе чаго. Можа, хто тут загаворыць? Калі будзе з ёю хто іншы, прыйдзецца падацца назад. Непрыстойна. Трэба свае пачуцці хаваць. І вось нешта зашархацела за сцяною. Прыпаў вухам да смаловага габляванага берванa. Так, гэта яе крокі. Смялей, рыцар Духмуровіч-Куцілоўскі! Нездарма бацька любіў расказваць, як «рыцэжэ тысёнц золнезы заваявалі» і сярод тых рыцэжы быў продак Духмуровіча-Куцілоўскага, якога «круль» абдарыў сваёй ласкай. Так што смялей, пане Габрыэль! Ён глянуў адным вокам у прахон дзвярэй і ўбачыў, як Вера Ігнатаўна аглядала зруб, пераступіла цераз трэскі, потым стала на парог. Вось тут і вырашыў наступаць Духмуровіч-Куцілоўскі. Ён раптам пераступіў цераз парог, і букет закрасаваўся ў яго руцэ.

— Вы... Вы мне выбачайце...— заікаючыся, прамовіў пан Габрыэль.— Вы... вы...

Вера стаяла на парозе, і на твары яе адбіліся і ледзь прыкметны смех і абурэнне. Яна чакала. Тонкая зморшчынка над пераноссем насцярожана насупілася. Духмуровіч-Куцілоўскі ішоў, трымаючы букет у выцягнутай руцэ, ішоў, таптаў трэскі. Вось ужо блізка мэта. Букет будзе ў яе руках. Але — ах, усякае бывае на свеце, а найгорш тое, чаго не чакаеш. Нейкі невідочны паміж трэсак пянёк. Духмуровіч-Куцілоўскі ўдарыўся нагою з размаху ў яго. Вера Ігнатаўна толькі прыадкрыла рот, крыху ахнуўшы. «Патомак княжацкага роду» ляжаў распластаны, зарыўшыся носам у сасновыя духмяныя трэскі. Букет

і партфель як ветрам адкінула — адно ўправа, другое ўлева...

Яна памагла яму падняцца і сказала, каб больш не рабіў такога глупства, а потым спакойна пайшла ў сяло, пакінуўшы пана Духмуровіча-Куцілоўскага збянтэжанага. Ён старанна стаў абтрасаць штаны і чамусьці ўсё падцягваць іх за каленкі ўверх.

Трэба сказаць, што залёты пана Габрыэля да Веры Ігнатаўны пачаліся ўжо даўнавата. Ён быў так упэўнены ў сваім поспеху, што спачатку і не цырымоніўся. Бываючы ў райвыканкоме, сустракаў яе. І пры ўсіх работніках, што сядзелі за сталамі, прапаноўваў ёй свае паслугі:

— Я магу павандраваць з вамі? Я буду вашым апекуном. Я не выпушчу вас са сваіх рук.

Вера Ігнатаўна намагалася рабіць выгляд, што не чуе гэтых слоў, або адмахвалася адной якой-небудзь фразай. Аднак, калі выходзіла з райвыканкома, Духмуровіч-Куцілоўскі спяшаўся за ёю. Што з ім рабіць? Вера спынялася і прасіла яго не ісці. Духмуровіч-Куцілоўскі, звычайна хапіўшы ўжо некалькі азярышчанскіх чарак, на нагах стаяў нямоцна. Гэта бянтэжыла Веру Ігнатаўну, і яна раптам заходзіла на чый-небудзь падворак і зачыняла за сабою веснічкі на кручок. Залётніку заставалася толькі пастаяць разгублена, абапёршыся барадою аб плот.

Аднак нездарма ёсць руская прымаўка: «Нет худа без добра». Непатрэбныя і непрыемныя залёты Духмуровіча-Куцілоўскага, як гэта ні дзіўна, абудзілі ў Веры Ігнатаўны думку — паглядзець на сябе. Здзівілася такому пачуццю, якое здалося ёй не то ўжо старым, не то, наадварот, маладым. Подзьмухі яго адчуваліся часам ужо даўно, але... глушыліся навалай спраў, спраў неадкладных, вельмі чалавечных. Занятасць, маўклівасць, насцярожанасць забіралі ўсё. Калі, напрыклад, ехала ў вагоне, сядала ў цёмным кутку, каб падумаць і потым падрамаць. Калі ехала ў грузавіку — сядала з шафёрам, і ёй было прыемна сядзець з гэтым Ванем. Ён толькі гляне часам нясмелым і такім чыстым вокам і гатоў зрабіць для яе ўсё, нічога за гэта не патрабуючы. Тут Вера Ігнатаўна адчувала сябе найлепш. І калі, бывала, загразала машына, то яна цясней захутвалася плашчыкам і бралася за кола памагаць. Ваня прасіў, каб яна не краналася, што, значыць, сам дасць рады. А яна не слухалася. І потым шафёр знаходзіў чыстую анучку і даваў ёй, каб выцерла мокрыя плямы на сваім плашчы. Ехалі далей, і калі ша-

фёру трэба было звярнуць улева на Жарабкі, ён гаварыў: «Я вас давязу да Серадзібора». Калі, бывала, на пасяджэнні райвыканкома яна сядзела ў заднім кутку, то часам Харытон Бабёр, разгладзіўшы вусы, запрашаў: «Вера Ігнатаўна, давайце бліжэй...» І вось цяпер трэба глянуць на сябе. Няўжо дзеля гэтага марцыпана, якога яна нават не хацела заўважаць? Калі яна прыехала ў Серадзібор у першую восень пасля вайны паглядзець, наколькі вырас зруб бальніцы, зноў напаткаў яе гэты неадступны амур з каўбаскай на лбе і з хлуслівай прэтэнзіяй на нейкую далікатнасць. І вось ён расцягнуўся на трэсках.

Як толькі Вера Ігнатаўна выйшла на вуліцу, яе спыніў з паклонам стары Несцер.

— Міленькая дахтарыца, я пачуў, што вы тут, і вось паспяшаўся, каб вас пабачыць.

Вера Ігнатаўна глядзела на старога Несцера, як ён, абапёршыся абедзвюма рукамі на кій, гаварыў, чаго хоча «пабачыць», і ёй здалося, што яна ўжо недзе бачыла гэтага старога з добрым тварам. Нечым падобным да яе бацькі Ігната павеяла ад Несцера, і, можа, ад гэтага стала на душы неяк па-свойску: і лягчэй і радней.

— Дык што ж там сталася з вашай старою? — перапытала яна.— Што ёй баліць?

— Вось тут... сярэдзіна...— паказаў рукою сваю сярэдзіну стары.— Гэта яшчэ з партызан. Як валачыліся па лесе, дык застудзіла. І вось з таго часу — не-не дый схопіць яе...

— Ляжыць яна ці ходзіць?

— Больш ляжыць. От, узвалачэцца на якую хвіліну і зноў кладзецца. Стагната адна, міленькая дахтарыца...

Вера Ігнатаўна глянула на неба, а дакладней — на сонца, потым на свой гадзіннік, падумала нешта і сказала старому Несцеру:

— Вось мне патрэбен старшыня сельсавета. Заходзіла — яго не было. Мне здаецца, што не ўсё дзерава вывезена на бальніцу.

— А гэта мы ведаем, што не ўсё. Наглядалі за гэтым. Не думайце. Хоць я не член сельскага савета, але мы ўжо тут як-небудзь... Старшыня наш, праўда, гультаяваты, але бальніцы ў крыўду не дамо.

Вера Ігнатаўна ледзь прыкметна ўсміхнулася, глянуўшы на старога Несцера. Было відаць, што яго словам не паверыла. Не ведала яна, што ў сяле празвалі Несцера «сазнацельным».

— Мне вельмі патрэбен яшчэ ваш Верабей... Бачыце, пачынае ўжо вечарэць. Прыйдзеце праз гадзіну ў праўленне калгаса, тады сходзім паглядзім вашу старую.

Верабей, як-ніяк, меў, як кажуць, рэспект да Веры Ігнатаўны, і яна не помніць, каб у чым-небудзь ёй адмаўляў. Іншая справа, ці ўсё выконвалася. Але Верабей заўсёды на ўсё знаходзіў апраўданне: то брыгадзір быў вінаваты, то конь закульгаў, і чамусьці пры гэтым Верабей у адрас каня дадаваў: «...каб ён здох». Відаць, каб гэтая рупная і да таго прыгожая дактарыца сапраўды магла паверыць у старшынёву шчырасць. Развітаўшыся з Несцерам, Вера Ігнатаўна натрапіла на «пераканаўчую абарону» Вераб'я. Ён валіў на лясніцтва, на леснікоў і не шкадаваў ім нядобразычлівых пажаданняў.

— Але дзерава, таварыш Лукашэвіч, будзе... Не сумнявайцеся. Зробім. Паможам. Я навалюся на Карчэню. Ужо другі дзень няма яго ў сельсавеце. Халера яго ведае, дзе ён ходзіць.

Размова з Вераб'ём праходзіла не больш як паўгадзіны. Вера Ігнатаўна выйшла з праўлення калгаса і ўспомніла пра Несцера. Яго не было. Тады зайшла ў чайную выпіць шклянку чаю. За прылаўкам стаяла Юля і ветліва сустрэла яе. Павітаўшыся, Вера Ігнатаўна аж уздрыганула ад стуку, якому адгукнуўся звон шклянак. Яна глянула налева ў залу і ўбачыла двух мужчын, з якіх адзін быў знаёмы ёй пан Габрыэль Духмуровіч-Куцілоўскі, а другі — шыракаплечы, з загарэлым да чарнаты тварам ягомасць у леснікоўскай шапцы. Васіль Пятровіч Чаравака, напрыклад, прызнаў бы ў ім не каго іншага, як Міхася Гойдалу-Гайдалевіча.

— Нешта ты не тое... вярзеш, брат,— гаварыў Гойдала, не верачы ў нейкія запэўніванні Духмуровіча-Куцілоўскага.

— Не верыш? — ускрыкнуў ён, і стук кулака паўтарыўся зноў. Духмуровіч-Куцілоўскі наблізіўся бліскучым ілбом да Гойдалы і паўтараў тое, чаму Гойдала не хацеў верыць: — Вер... Так... Я ёй паднёс букет, і яна, брат, узяла... Узяла... Вось... А ты...

— Ну, няхай бярэ, чорт з ёю, толькі не стукай па стале,— гаварыў раўнамерна, нават манатонна Гойдала і падліваў гáры Духмуровічу і сабе.

Веру Ігнатаўну забіраў смех, яна сказала Юлі, што баіцца п'яных, тая правяла яе ў бакоўку і зачыніла.

— Ці не яна гэта прайшла? — спытаўся Гойдала ў Духмуровіча.

— Што? Дзе? — замітусіўся Духмуровіч, але не паспеў нічога ўбачыць.— З букетам? Не?

— Відаць, аддала каровам на пачастунак.

— А ты не смей так! — ударыў кулаком зноў пан Габрыэль.

Сабутэльнікі і не пачулі, як прад імі стаў сваёй уласнай персонай Кастусь Верабей.

— Чаго не падзялілі? — кінуў ён.— Можа, дактарыцы? Яна недзе прайшла сюды. Бабка, што анцік, варта ўвагі...

Кастусь Верабей сеў, павесіўшы кепку на рог спінкі крэсла. Звярнуўся да Гойдалы:

— Буду мець да цябе інтэрас...

Потым паклікаў Юлю.

...Ужо сшарэла парадкам. Вера Ігнатаўна, выйшаўшы з падворка чайной на вуліцу, сустрэла старога Несцера, і ён павёў яе шырокай вуліцай-падковай, што агінала возера, у глыбіню зборышча хат, садкоў — большых і меншых, розных платоў, пачынаючы ад пазеляненелых ад старасці і канчаючы белымі новымі штакетамі. З некаторых комінаў ужо віўся ціхі вячэрні дым. Праходзілі маладзіцы з вёдрамі, на лаўках або на бярвеннях сядзелі старыя, прытуліўшы спіны да платоў. Недзе рохкала свіння, лямантавала дзіця і дакараў некага старэчы жаночы голас...

Вера Ігнатаўна ішла, і спакой усё больш і больш агортваў яе душу. Яна маўчала, бо хацелася маўчаць у гэтай сельскай цішыні, якая навявала шмат такіх пачуццяў і думак, якія ў штодзённых клопатах там, у Азярышчы, не наведваюць душы. А тут ідзеш сапраўды ў народную гушчу, адчуваеш яе цёплы дотык і позірк. Пахне сырадоем і ветрам з поля, з лесу...

— Ну вось мы і прыйшлі...— прамовіў стары Несцер, а потым раптам схамянуўся і паказаў пальцам уздоўж завулка, што, як чарвяк, аддзяляўся ад вуліцы і кіраваўся да канала.

— Забыўся вам сказаць... Думаў і забыўся... Вунь ляжыць груд дзерава. Бачыце?

— Бачу.

— Гэта наш старшыня ўжо павазіў сабе на хату... І яшчэ возіць. Моладзёж аксплатуе. Усё каб задарма. А конікаў у генерала выпрасіў я... Вось як. Праходзьце.

Вера Ігнатаўна прайшла падворкам да парога і тут

неспадзявана сутыкнулася з маладым чалавекам у капелюшы, у цёмным касцюме, пад гальштукам. Пад рукою была папка. Ён адступіўся ўбок, даючы прайсці Веры Ігнатаўне. А яна, уражаная, толькі адной нагой пераступіла цераз парог, рукою абаперлася аб вушак і глядзела ўслед маладому чалавеку, які, нібы нічога не заўважаючы, падаўся на вуліцу, бестурботна бразнуўшы старасвецкімі веснічкамі.

«Хто ж гэта?» — карцела думка ў Веры Ігнатаўны. Толькі потым яна даведалася, што гэта быў нязнаны ёй Платон Грушка, і перад вачыма чамусьці павісла тканіна асенняга павуціння, што засноўвала дарогу, калі яна ехала ў Серадзібор.

## АБ ДАВЕР'І

Ужо інакш пашумлівае вішняк за вокнамі райкома — шуміць ён прытоена і глуха. І калі нават парывы ветру ўскалыхнуць яго, нахіляць долу, то і тады ён вяртаецца да прытоенага, раздумнага пошуму. Вішняк ужо шуміць паасенняму... Гэта адчула не толькі Саша Іванкевіч, але і сам першы сакратар. Саша паставіла на сваім стале букет верасу. Яго цьмяна-бэзавыя кветачкі напаміналі аб шуме баравым і яшчэ аб чымсьці прытоеным, не забытым, што хочацца затрымаць, каб не ўцякло, не адляцела ў развітальным крыку гусей, што спяшаюцца ў вырай. Малашкін, калі прыходзіў на работу, заўсёды дакранаўся рукой да гэтых сціплых кветак і потым казаў: «Дзіўныя кветкі! Нібы і не кветкі. Аднак яны — кветкі, і даволі-такі цікавыя». І таму верасовую восень ён адчуваў, можна сказаць, неспадзявана. Можа, і сапраўды верасовы букет дыхнуў у душу і паклікаў зірнуць на тыя сцежкі, дзе яшчэ не ступала нага.

Увосень Сцяпан Пятровіч любіў доўга сядзець у сваім кабінеце вечарамі. Ці слота, ці сухі вецер на двары — усё роўна ад вокан павявала прытульнасцю і настройвала душу на добры лад — спорылася праца, не чулася стомленасці, у гутарцы з людзьмі іскрыўся гумар. Але вось... на стале ў сакратаркі з'явіліся верасовыя кветкі, і цёмнымі вечарамі стала неяк не па сабе. Усё ішло сваім парадкам, нідзе нічога не адставала ў працы, нават у справах калгасных было нягорш, калі не лічыць Забівачак і Жа-

рабкоў, а на душу час ад часу находзіла закамянелае маўчанне. Сціскаліся зубы. І тады ад мерных крокаў па кабінеце, здаецца, стрымлівалася дрыготкае лісце ў вішняку за вокнамі. Тоненькі свіст праз зубы... а потым — круты паварот, і сакратар садзіцца па сваё месца, поўны рашучасці для сваіх спраў. Націснуў званок. Увайшла яна, з багаццем шаўкавістых валасоў і іскрынкамі вачэй-вугалькоў.

— Саша... Пачынай перадрукоўваць даклад... Гэта ўступ.— Малашкін глянуў на Сашу і дадаў: — Збяры ўсе матэрыялы: колькі паднята зябліва, колькі пасеяна, колькі ў нас магазінаў, чайных, бальніц... і дзе што ўжо будуецца... Зразумела?

— Зразумела... Але вось ніяк не магу дагэтуль атрымаць матэрыялаў аб трох спаленых вёсках.

— Чаму? — здзівіўся Малашкін.

— Матэрыялы то ёсць, але яны супярэчлівыя. У адной і той жа паперцы гаворыцца, што ў гэтых трох вёсках спалена дзвесце семдзесят хат, а ў канцы стаіць лічба — дзвесце дваццаць...

— О, розніца немалая. Распачнем жа аднаўленне вёсак — патрэбны дакладныя матэрыялы для планавага аддзела. Я ўжо гаварыў з Чаравакам, ён павінен табе даць іх. Пазвані, каб ён зайшоў да мяне.

Саша плаўнаю хадою пайшла да дзвярэй. Малашкін адчыніў шуфляду ў сваім стале і мітусліва пачаў нечага ў ёй шукаць.

Васіль Чаравака ўвайшоў неўзабаве. Ён заўсёды, калі яго клікаў Малашкін, прыходзіў хутка, як дысцыплінаваны салдат. Пры ўсім, што можна і трэба было крытыкаваць у ім, гэтай акуратнасці нельга было адняць. Абцягваючы зборкі на гімнасцёрцы па дарозе ад парога кабінета да стала, ён спыніўся перад Малашкіным, як чакаючы якога-небудзь рашучага загаду. Хоць Васіль Чаравака заўсёды і хадзіў, і вітаўся з людзьмі, і кідаў, як па дарозе, кароткія сказы вельмі зухавата, але былі некаторыя прычыны, якія пагражалі, як кажуць, яго палітычнаму жыццю. Ледзь не забіла яго тая аплеценая лазовымі дубцамі бомба-бутля, якая таямніча трапіла ў сенцы кватэры Малашкіна. Чаравакавы роспыты, па загаду Малашкіна, сярод работнікаў спіртзавода, каб выкрыць магчымага злачынцу, распачаліся з Міхася Гойдалы-Гайдалевіча і... на ім скончыліся. Гойдала-Гайдалевіч сказаў Чараваку:

— Не я ўкінуў бутлю Малашкіну, але ведаў, што яна будзе ўкінута.

— То, значыць, ты не ведаеш, хто ўкінуў? — такім пытаннем накіраваў Васіль Пятровіч на належную дарогу свайго дружка, і той, падхапіўшы, адказаў:

— Ну вядома, што не ведаю.

Гутарка адбывалася ў кабінеце Чаравакі ў райкоме. Васіль Пятровіч барабаніў пальцамі па стале, шукаючы такога выйсця, якое завецца: каб козы былі сытыя і сена цэлае.

— Ці каму з апарату перападала спірту?

— Перападала, чаму не? — адказаў Гойдала.— І не аднаму...

Сябры пераглянуліся, разумеючы адзін аднаго. Чаравака ўстаў і, сашчапіўшы пальцы рук, залажыў іх на патыліцу. Цягнула на пазяханне. Хацелася кінуць аб стол усю гэтую справу, каб яна, як пустая бутэлька, разбілася ўдруз, адчапіцца, абтрэсціся ад яе. Чаравака адчуў, што яна зацягвае, як балота... Так, нехта ўжо стварыў яго — гэтае балота. Трэба як-небудзь скончыць з ім і не зачапіць людзей. Ён сеў у крэсла ўжо з нейкім рашэннем.

— Гэтая бутля, па-твойму, прынесена ці прывезена?

— Толькі прынесена. Хто будзе везці — што ты!..

Чаравака канчаткова зразумеў, хто мог прынесці бутлю, і асцярожна сказаў:

— Ці не мог бы той, хто прынёс, забраць яе назад?

Гойдала ўзмахнуў вейкамі, і на момант шэра-бурыя вочы заплюшчыліся.

— Падумаем,— адказаў ён, тушачы папяросу ў попельнічцы.

— Падумай. Заўтра ўвечары ў гадзін дзевяць зойдзеш сюды. Добра?

— Добра.

Калі Чаравака дакладваў Малашкіну пра бутлю, ён сказаў, што ў спіртсправу, як яе паспелі ўжо назваць, замешаны некаторыя людзі з апарату — Харытон Бабёр і іншыя.

— Адкуль табе гэта вядома? — спытаў Малашкін.

— Гмм... вядома з добрай крыніцы...— адказаў, не ўдакладняючы, Чаравака.

— Хаваеш нешта, Вася,— усміхнуўся Малашкін.— Дазволь запытацца ў цябе: ты сам не замешаны ў гэтую, як ты кажаш, спіртсправу?

Чаравака маўчаў.

— Маўчыш?
— Ну што табе казаць?..
— Твая добрая крыніца, якую ты хаваеш, цябе не напаіла ні разу?
— Ну, гэта ўжо было і прайшло. Ці варта варушыць? — выкручваўся Чаравака.
— Каго ты дапытваў з работнікаў спіртзавода?
— Ну, напрыклад, Гойдалу-Гайдалевіча...
— А больш?
— Хапіла аднаго, каб высветліць справу і забраць бутлю ў цябе з сенцаў.
Малашкін рассмяяўся коратка, абрывіста, усё роўна як выстраліў, і раптам спахмурнеў. Пахмурнымі ценямі азначыліся маршчыны на лбе, дзе навісла чорная стомленая завітушка. Ён выпрастаўся ў крэсле, узяў папяросу з адкрытага побач партсігара, прыкурыў і, выпусціўшы першы дымок, пачаў гаварыць халодным, чужым голасам:
— Мне, Вася, зразумела ўсё. Калі не выганіш свайго Гойдалу не толькі са спіртзавода, але і наогул з Азярышча, расстанемся, Вася. Справа стане на бюро. Я не хачу забягаць наперад, якія будуць ад гэтага для цябе вынікі. Магу толькі сказаць, што — цяжкія: ты ўжо заблытаўся ў нейкіх цянётах. Воляй-няволяй ты адным бокам свайго жыцця працуеш супроць партыі. Разам быць мы ўжо не можам. Апошняе табе папярэджанне — калі не выганіш гэтага тыпа Гойдалу з Азярышча, расстанемся...
Чаравака збялеў і доўга маўчаў, апусціўшы галаву. Можа, упершыню перад ім адкрылася цёмная яма. Малашкін таксама маўчаў, глядзеў убок, дзе за акном пакалыхваўся так ужо знаёмы малады вішняк. Папяроса між пальцаў ледзь дымілася... Скрыпнула крэсла — гэта паварушыўся Чаравака. Малашкін не павярнуў галавы. Чаравака кашлянуў, і Малашкін пачуў прапіты голас:
— Добра, я падумаю... я пастараюся...
Малашкін зірнуў на Чараваку добрымі вачыма.
— Пастарайся, Вася...
Чаравака пайшоў.
Пасля той гутаркі мінулі ўжо не адзін і не два месяцы. Нешта ў райцэнтры перайначылася ў лепшы бок, бо Харытон Бабёр, які ў душы абыякава ставіўся да Малашкіна, набраў да яго павагі, якую можна нават назваць дарагім словам, а іменна — давер'ем. Свой чалавек, памяркоўны, нефальшывы. Другі б на яго месцы... ого! А ў сувязі з такім перайначаннем недзе прыціхлі, перасталі весці свой

цёмны наступ патайныя, глухія сілы. Як надоўга — гэта справа іншая. Гэтыя сілы пагражалі і Харытону Бабру, але... Малашкін, можна сказаць, адным росчыркам пяра пераціяў цянёты, якія нехта наплёў, прыкрываючы ўсё добразычлівай усмешкай. Якога нахабства набраліся гэтыя сілы.

Цяпер яны прыціхлі, і лягчэй ад гэтага стала і Васілю Чараваку, які быў ублытаўся ў павуціине гэтых сіл. Таму ён, прыйшоўшы ў кабінет Малашкіна, ужо вядзе непрымусовую гутарку, пытаецца, раіцца, як роўны з роўным, і ў дадатак да ўсяго стараецца быць паслухмяным, акуратным. Малашкін разумее такія паводзіны і недзе ў глыбіні душы шкадуе Чараваку.

— Што ж загадаеш? — пасля некалькіх дзяжурных фраз спытаўся Чаравака.

— Загадваць табе, сам ведаеш, не ў маёй натуры... Проста — заменіш мяне на час ад'езду на пленум. Так што трымай тут лейцы добра.

— Ну, гэта мы зробім...

— Сам ведаеш, пачынаецца сяўба. Трэба за гэтым глядзець пільна. Не мінай Харытона Бабра, трэба раіцца з ім. Сам ведаеш... Веры Лукашэвіч не адмаўляй у помачы — трэба бальніцу ў Серадзібары да зімы скончыць. Была яна ў мяне днямі і гаварыла, што, магчыма, не хопіць дзерава — нехта ў лесе падкрадаецца да яго. Зразумеў?

Чаравака кіўнуў галавою і слухаў далей.

— Бабёр абяцаўся паехаць праверыць на месцы. Зрабіце гэта без адкладу. Паглядай на зямлянaчныя вёскі — ім найцяжэй. Ходзіць тут па раёне карэспандэнт Жарнавік. Знайдзі яго, пагавары, хлопец ён не дурны, трапна падмячае многа...

Малашкін устаў, каб крыху размяцца, прайшоўся ўздоўж стала і спыніўся. Глянуў ва ўпор на Чараваку, збіраючыся сказаць, здаецца, самае галоўнае.

— Ну, што яшчэ? Можа, ты што маеш? Кажы.

— Ды не... Здаецца, усё...

— Ах, вось... І, барані божа, Вася, каб не ўклюнуўся ў якую папойку, каб усё ішло на цвярозым ходу...

— Ну што ты! — запратэставаў Чаравака.

— Ну, добра... Не буду, не буду. Ты сам не маленькі. Дай, калі ласка, зараз Сашы матэрыялы, яна павінна сёння надрукаваць хоць палавіну даклада. Папхні справу гэтых трох спаленых вёсак. Што за чорт, нават падлічыць не могуць, колькі спалена там.

На развітанне Чаравака сказаў:
— Буду табе пазвоньваць.
— Абавязкова. Мы яшчэ пра гэта пагаворым.
Чаравака пайшоў, і хутка пасля яго з'явіўся на парозе капітан Рыбін.
З капітанам Рыбіным у Малашкіна заўсёды была гаворка асаблівая. Хараство, калі можна так сказаць, гэтай гаворкі грунтавалася на ўзаемным давер'і. Толькі адно насцярожвала абодвух: магчымасць неспадзяванага званку. Гэта разумелі абодва і аберагалі свае дасягненні. Гэта злучала абодвух з кожным днём мацней і мацней.
Калі капітан Рыбін увайшоў у кабінет і, павесіўшы шапку на вешалку ў кутку, наблізіўся да стала, Малашкін устаў і прывітаў яго поціскам рукі і цёплай усмешкай.
— Выглядаеш дасканальна. Сядай, Пётр Іванавіч,— сказаў тонам таварыскай непасрэднасці і жэстам рукі паказаў на крэсла.
Капітан сеў, выняў расчоску з кішэнькі гімнасцёркі і правёў ёю некалькі разоў па валасах ад ілба да патыліцы. Малашкін працягнуў яму партсігар з папяросамі.
— Адгадай, хто ў мяне быў перад табою?
Рыбін паціснуў плячыма.
— Хто? Можа, Чаравака?..
Малашкін засмяяўся і прамовіў:
— Як у ваду глядзеў. Так, ён... Ты, можа, здзіўляешся, што я ўжо не раз пасля гаворкі з Чаравакам званю і клічу цябе. Так, брат, складаецца...
— Нічога я не здзіўляюся, усё нармальна...
— Табе ўжо вядома, што паслязаўтра пачынаецца пленум абкома. Невядома, колькі ён будзе працягвацца. Арудаваць тут будзе Чаравака. Патрэбна тваё пільнае вока, бо з Чаравакі яшчэ не вырас сакратар райкома. Трэба яму памагчы, бо можа хлопец трапіць у пастку. Тады і мы з табою няхораша будзем выглядаць.
— Калі гаварыць пра пастку, то яна можа быць толькі ў двух пунктах,— сказаў Рыбін.
— На што ты намякаеш?
— На Жарабкі і Забівачкі...
— Чаравака пра гэта ведае. З гэтым тыпам Гойдалам ён цяпер не сустракаецца. З Азярышча мы Гойдалу выгналі. Адтуль ён сілы цяпер на яго не мае.
— Як сказаць? Хоць ён і ляснік цяпер, але...
— А што? Можа, ёсць якія прыметы?
— Здаецца, ёсць. Гэта не датычыць непасрэдна Чара-

вакі, але... Можа дайсці і да яго. Гойдала — часты госць чайной у Серадзібары. Не так даўно доўга сядзеў увечары з Вераб'ём. Ад Вераб'я можа пайсці рэакцыя па ланцужку...

Малашкін на некаторы момант задумаўся... Трэба гэтулькі траціць часу на аднаго былога паліцая. Аднак трэба...

Тут нельга не думаць пра Васіля Чараваку, які з'яўляецца другім сакратаром райкома. Яго трэба адцягваць ад гэтага паліцая і яму падобных. А тут пераплятаюцца інтарэсы, сувязі... Арыштаваць Гойдалу — не штука. Ёсць справы важнейшыя, а іменна — распазнаць самога Гойдалу і яго акружэнне, знайсці ключ, каб увайсці туды, паказаць народу, а значыць і Чараваку, іх аблічча. Рыбін ірваўся схапіць Гойдалу, але пераканаўся, што трэба пакуль што толькі пільнаваць. Перад вачыма стаў Харытон Бабёр са сваёй няхітрай усмешкай пад чорнымі вусамі. Бабёр... той, што бараніў Вераб'я яшчэ ў партызанах, калі камандаванне адправіла яго насіць з лясной ручаіны ваду для партызанскай кухні.

— Мы чакаем ад людзей лепшага. Павінны чакаць, працаваць у гэтым напрамку, што мы і робім. Але...

— Але нехта робіць насуперак нам,— падхапіў Рыбін.

— Так. Насуперак нам. І ў гэтым, Пётр Іванавіч, уся сутнасць і цяжкасць...

Абодва на момант змоўклі. Кожны па-свойму пачынаў вачыма душы бачыць гэтыя цяжкасці. Маўчанне перарваў Рыбін. Ён нават злёгку ўдарыў далоняй па поручні крэсла і сказаў:

— Гараваць не будзем, Сцяпан Пятровіч... Думаю, што мне трэба пасяліцца на час сяўбы ў Серадзібары і адтуль назіраць, рабіць разведку, як кажуць, ва ўсе бакі. Згодзен?

— Ну, як не згодзен? Вядома, што згодзен. Толькі глядзі добра... Дух Мацея Гусака яшчэ хаваецца па завуголлю.

— Ведаем. Разведка за ім пайшла далёка.

— Пайшла?

— Пайшла. Разведка добраахвотная. Хутка будзем нешта ведаць.

— Значыць, без Гугновіча?

— Пакуль што так... Ну, а потым будзе вядома і яму, калі справа ўдасца...— адказаў Рыбін і ўсміхнуўся толькі вачыма.

Гаворка, здаецца, на гэты вечар была вычарпана. Можна было б і разысціся. Але Малашкін не хацеў адпускаць сягоння гэтага ўдалага Рыбіна...

— За гэта ўсё, дарагі Пётр Іванавіч, я пачастую цябе навінкаю.

— Якою?

— Не здагадваешся?..

Малашкін адамкнуў незгаральную шафу, выняў адтуль кіпу нейкіх цвёрдых папераў і палажыў на стол. Прыкрываючы іх далоняй, пачаў гаварыць:

— Па нашым раёне ходзіць адзін карэспандэнт. Ты яго ў мяне адзін раз бачыў. Такі — у акулярах, па прозвішчу Жарнавік. Вось ён, ездзячы па Палессі, наздымаў краявідаў, сёл, дарог і цэлы стос падараваў мне. Іх многа. За вечар мы іх не пераглядзім. Вазьмі з сабою. Калі я вярнуся з пленума, пагаворым, што з імі рабіць. Можа, альбом для дома партасветы? Добра?

— Добра.

І на гэтым разышліся. Была ўжо дванаццатая гадзіна ночы.

Праз некаторы час у кабінеце асела ўстойлівая начная цішыня. Нават ледзь чутнае цакатанне пішучай машынкі за дзвярыма не парушала яе, а, наадварот, з часам пачало здавацца, што гэта недзе ў далёкім, глухім кутку падае голас цвыркун.

Малашкін заглыбіўся ў працу над дакладам. Гадзіны плылі адна за другою. Калі ўрэшце падняў галаву ад папераў і палажыў самапіску побач, стрэлка на гадзінніку паказвала ўжо на чацвёртую гадзіну. За дзвярыма не сціхаў цвыркун.

...Мяккай цемрай ахінулася Азярышча. Толькі каля вакзальчыка цьмеў ліхтарык. Лёгкі ветрык калыхнуў яго. Далёка, аж пад лесам, ледзь прыкметна блішчалі агні лесазавода.

Тратуарчык з бетонных пліт шаргацеў пад нагамі яго і яе. Яны ішлі, не спяшаліся і гаварылі шэптам, часам прарываўся смех. Спыніліся пад яблыняй, што навісла над плотам. Ён сказаў:

— Ну што ж... Спакойнай ночы, Саша.

— Спакойнай ночы. Я буду ў райкоме ў сем гадзін.

# СЦЕЖКАМІ РАЗВЕДКІ

Восень па свеце —
Восень на сэрцы...

*Янка Купала*

Кучаравісты малады сасновы лес сцяною стаў на абрывістым у гэтым месцы беразе Дняпроўска-Бугскага канала. Стромкія сосны — адна ў адну — густа наступалі на яго, каб убачыць сябе недзе да палавіны, як у люстры. Вада цякла далёка за паваротку, і з ёю разам ішоў, тоўпячыся, малады сасняк.

Ціха тут, ля шлюза, хоць стаіць і домік, прыхаваны сярод ліп і яблынь, хоць стаіць і яшчэ пара нейкіх будынкаў. Гэта пядаўна адноўленае ўпраўленне шлюза. Навокал доміка кусты бэзу, язміну, і побач у такіх жа кустах і кветках — магілы. Узвышаецца сярод іх помнік з цёмнага мармуру.

З плашчом на руцэ стаіць тут Агрыпіна Грынчык (яна адмовілася ад мужавага прозвішча, вярнулася да дзявочага, бацькоўскага, каб шчыльней, неразлучней быць з нябожчыкамі — братам Андрэем і сястрою Алесяй). Яна сустрэлася тут, на Днепра-Бугскім канале, з такімі ж самымі ахвярамі, і жаль і крык да помсты з новай сілай падступілі да сэрца. А надпісы гаварылі аб падзеях крывавых:

Сохраним светлую память
о строителях Днепро-Бугского канала,
погибших на своем посту
от руки немецко-фашистских наймитов.
Октябрь — декабрь, 1944 г.[1]

Гэта на помніку.

А на паасобных магілах:

Начальник отряда
ОБРЯДИН И. И.
Главный инженер отряда
ПАНОВ Л. К.
Начальник отряда
КУДЫШ В. Н.
Главный инженер строительства
ШАФРАН Г. И.
Начальник охраны гидроузла
БОЧКОВ И. М.[1]

Вось гэта — нашы патрыёты-будаўнікі, што загінулі ў

[1] Дакументальна.

няроўным баі ад нападу паліцаяў-бандытаў, якія гойсалі па лесе над каналам і не давалі яго аднаўляць. Амаль гатовы шлюз разбурылі, спалілі пасля бою. Пахаваўшы загінуўшых, нашы людзі распачалі будаваць шлюз нанава. Шлюзы адбудаваны ўсе, канал-пераможца плыве свабодна па шырокай палескай даліне, плыве праз лясы, імхі, чароты, прымае да сябе дарогі і сцежкі ад вёсак і вёсачак, вабіць старых рыбакоў і шчабятлівых дзетак. Часам жытнія палі падступаюць да яго. Пратаптанымі тарфянымі сцежкамі ідуць паўз канал дзяўчаты і маладзіцы з гоманам, са смехам, несучы граблі на плячах. Звоняць косамі касцы ў травах вышэй калень і час ад часу прыходзяць да канала, каб зачарпнуць берастовым чарпачком вады і напіцца. Мігатлівыя іх табарныя агні гараць на беразе вечарамі, калі апускаецца з зорамі глухая, поўная неспадзяваных таямніц, палеская ноч. А ля ног плыве ён, канал, плыве разам з зорамі. І ўцешна людзям вячэраць, гаманіць, спяваць і потым пад усплёскі хваляў спаць безмяцежна... Ён плыве, а там, недзе ў першых дзесятках кіламетраў плыні, спяць непрабудным сном героі, што аддалі сваё жыццё за тое, каб жыў канал. Яны чуюць, як праплываюць баржы з грузамі, як пераклікаецца служба — і ўдзень і ўночы. Яны ведаюць, што канал жыве.

Агрыпіна дайшла сюды рознымі дарогамі — і сухімі і па вадзе. Накіравала яе таварышка па Асвенціму з Кобрыншчыны — з глухой далёкай вёскі. Агрыпіна пераначавала ў яе і хутчэй падалася на канал, як быццам тут мелася адкрыцца нешта такое, што праклала б сцежкі да слядоў бандыта Мацея Гусака. І вось яна стаіць над магіламі будаўнікоў, забітых такімі ж бандытамі, якія забілі яе брата і сястру. Агрыпіна паволі ходзіць між магіл, схіляецца, каб паправіць сюю-тую кветку, вырваць непатрэбную траву. Лавачкі пад ліпамі, клёнамі — тут жа побач. Агрыпіна ўрэшце села, дастала з торбачкі блакнот і пачала запісваць прозвішчы загінуўшых. Недалёка праходзіць упоперак дарожка да шлюза. Па ёй з канторы ідзе яшчэ малады чалавек у форменнай шапцы рачной службы. Падышоў да Агрыпіны.

— Добры дзень,— прамовіў, дакрануўшыся да казырка шапкі.— Вы што, можа, радня гэтым загінуўшым?

Агрыпіна задумна пакруціла галавой і потым адказала:

— Не. Іх доля такая, як майго брата і сястры. Вось і спынілася тут.

Агрыпіна расказала, як мага карацей, пра сябе. Начальнік берагавой службы сеў побач і сказаў:

— Яны яшчэ тут бадзяюцца. Але да шлюза падыходзіць ужо баяцца, бо ў нас тут моцная ахова. Перастрэлка была ўлетку адзін раз. Дзейнічаюць яны і па адным. Нападаюць на нашых партыйных людзей і нават на іх сем'і.

Агрыпіна трывожна слухала: няхай гаворыць чалавек, можа, выплыве што патрэбнае, каб можна было ісці далей.

Начальнік закурыў і расказваў. Агрыпіна маўчала.

— Хадзіла тут адзін раз наша міліцыя з аблавай. Ды што яна зробіць — адна? Тут сіла трэба немалая.— Начальнік нават крыху ўсміхнуўся.— Асачылі аднаго — і той уцёк. Самога Гусака асачылі былі.

— Што гэта за Гусак? — перапытала Агрыпіна, не падаючы віду свае трывогі.

— Гэта бандыт, галаварэз. Ён найбольш нападае адзін. Яго тут ужо ведаюць. Спрабавалі ўлавіць, але... не ўдавалася. Дзве сям'і выразаў за лета тут — кіламетраў дзесяць ад канала: сям'ю лесніка, які паказаў міліцыі дарогу да іх табару, і сям'ю ўчастковага...

— А што — у іх у лесе табар?

— А як жа!..— нават ускрыкнуў начальнік.— Усё ёсць! Чорт іх не браў. Грабяць, бяруць у людзей, што хочуць.

Агрыпіна запыталася, ці не можна было б трапіць адгэтуль у тую вёску, адкуль яна прыйшла на канал, якнебудзь прасцей. Начальнік адказаў, што не, што дарога ёсць, але небяспечная.

— Могуць вас...— сказаў ён загадкава.— Трэба даваць кругу, нікуды не дзенешся. Вось хутка будуць ісці баржы, пасадзім вас на адну і паплывяце. А там — дарогу ўжо знойдзеце. Там бандыты не ходзяць.

Праз некаторы час Агрыпіна плыла. Стаяла на мосціку баржы і азірала наваколле. Пакідала стромкі малады лес, які так прывабна глядзеўся ў ціхія воды канала, а на другім беразе аддаляліся ліпы, клёны, яблыні, якія абступалі помнік з магіламі. Ціхая, задумная шэрасць клалася на поле, на балоты. Хацелася ісці ў гэтую шэрасць, у нязнаныя імхі, чароты, каб згубіць у іх свой вялікі, нязгасны смутак... І ў той жа час яшчэ не верылася, што ўжо няма вайны, не верылася ў гэтую благаславёную асеннюю ціш, якая да глыбіні вярэдзіць сэрца. Яна, відаць, патра-

буе — не то выплакацца над ёю, не то загукаць яе крыкам такім, каб ударыла агнявая бура...

* * *

На другі дзень пасля ад'езду Малашкіна на пленум абкома капітан Рыбін падаўся ў Серадзібор. Перад ад'ездам гутарыў з Чаравакам — сказаў яму, што ў Забівачках і ў Жарабках намячаецца нейкі сумесны сход...

Аб чым сход, няма яснасці. Адна чутка гаворыць, што кулакі хочуць аддзяліцца ад беднякоў і стварыць асобны калгас, а другая, што хочуць выбраць дэлегацыю, якая павінна паехаць у Мінск да ўрада і прасіць, каб павялічылі соткі. Што тут пэўнае, яшчэ невядома. Адным словам, трэба быць напагатове.

— Ты, Васіль Пятровіч, сядзі ў райкоме, а я табе, калі трэба будзе, паведамлю, што і як. Мне важна — выявіць там пару асоб.

— Дзе спынішся на кватэры? — запытаўся Чаравака.

Рыбін крыху сумеўся — выяўляць свайго адрасу яму ўсё ж такі не хацелася.

— Думаю... гм... Думаю, што ў Тацяны Карпец, самай старой камуністкі ў Серадзібары,— сказаў з усмешкай Рыбін і дадаў: — А калі ў Тацяны не прыйдзецца, то проста не ведаю. Да Вераб'я не пайду.

Газік імчаў Рыбіна па ціхай лясной дарозе. Дзень хіліўся на вечар і доўгія цені дрэў, што коса падалі на каляіны, ужо дыхалі вячэрнім халадком.

Папяроска паволі дымілася ў руцэ капітана Рыбіна. Ён нават часта забываўся на яе, бо думкі намагаліся прабіцца праз гушчу вось гэтага беларускага лесу і астойваліся ў яго тайніках. Ён сам, капітан Рыбін, едзе ў Серадзібор, каб пасля, усё разведаўшы, паслаць сюды работнікаў свайго штату. Рыбін мае ў Серадзібары добрую апору і сярод дарослых і сярод моладзі. Сувязь з людзьмі для яго была чымсьці большым, чым справа афіцыйная. Яна станавілася справай таварыскай.

Усмешка набегла на твар капітана. Перад вачыма стала Агрыпіна Грынчык, якую ён назваў «чысцейшы наш чалавек». Прайсці канцлагер, працаваць там падпольна, аддаваць сябе ўсю справе выратавання паняволеных людзей, перажыць голад, холад, нечуваныя здзекі, вярнуцца дамоў, сустрэць магілы брата і сястры, а потым... зноў жа кінуцца ў барацьбу — вынішчаць ворага. Прыйшла, за-



Піліп Пестрак з жонкай Анастасіяй Сцяпанаўнай
і дачкой Надзеяй. *1953 г.*



Піліп Пестрак.
*Мінск, 1954 г.*

прапанавала сябе на гэтую справу. Можа, хто назваў бы яе гэтым афіцыйным словам — разведчыца? Не, да яе яно ў поўнасці не падыходзіць. Яна пайшла і ідзе па закліку сваёй душы ў свае вялікія пошукі, каб адолець таго, хто зрабіў яе такою няшчаснай, адзінокай. Няхай хто як хоча называе яе ў гэтай дарозе — Агрыпіну вядзе яе, абпаленае горам, сэрца. У гэтым яе сіла. Можна пажадаць ёй толькі ўдачы. Ды яна не на тое пайшла, каб вярнуцца з пустымі рукамі. Яна знойдзе Гусака...

Не даязджаючы які кіламетр да Серадзібора, капітан Рыбін загадаў шафёру спыніць машыну і выйшаў з яе. Пясчаная дарога ішла якраз праз густы сасновы лес з кустамі арэшніку па абочынах. Рыбін прайшоўся ўпоперак дарогі, паслухаў цішыню, агледзеўся і сказаў шафёру павярнуць машыну і ехаць назад. Правёўшы вачыма газік, наколькі можна было ў вячэрнім лесе, капітан закурыў. Твар яго стаў лагодны — знікла заклапочанасць. Ён адпачываў сярод ціхага лесу. Потым павольнай хадою пайшоў у Серадзібор. Пакуль дайшоў туды, ужо сцямнела. Вуліца была пустая. Толькі часам прабяжыць дзяўчына з вядром або пройдзе з поля спознены пастух, гонячы перад сабою сваю чараду. Агні гараць толькі ў некаторых хатах, а дым валіць з коміна — у кожнай. Людзі дачакаліся бульбы — вараць яе, цешацца ёю і хваляць за сопкасць. А вось і чайная — святло акон з ценямі рам упала і на ганачак і на пратаптаную сцежку. Рыпнулі дзверы. Рыбін спыніўся ля плота — ён хоча ўбачыць, можа, выйдзе хто знаёмы. Высокая постаць высунулася з цёмных дзвярэй на ганак. За плячыма дубальтоўка. «Так — ён, Гойдала...» — адзначыў Рыбін. Але ён быў не адзін. За ім з грукатам, кашлем, гаманою вывалілася чалавек больш за дзесяць, і ўсе разам яны шпарка падаліся па вуліцы. Капітан Рыбін, пачакаўшы крыху, зайшоў у чайную. Там спытаўся ў Юлі пра тых, што шпарка пайшлі разам з леснікам Гойдалам.

— Чорт іх ведае, куды яны пайшлі. Пілі тут, крычалі і ўсё ляпалі Гойдалу па плячы. Нечым ён ім дагадзіў.

— А адкуль людзі — з Серадзібора?

— Не, з Забівачак.

— Ну, добра. Бывай, Юля, здарова,— сказаў капітан, кіруючыся да дзвярэй. А Юля стаяла за прылаўкам, як пунсовая ружа, і ўсміхалася ў свае пульхныя шчокі. Загледзелася на капітана, але ўсё ж такі здагадалася кіўнуць галоўкай, зграбна павязанай белай хусцінкай.

Рыбін паспяшыў да Таццяны Карпец. Ён ішоў у гэтую

старую хату ўжо не першы раз. Там ён знаходзіў і пачастунак і пачлег, а галоўнае — даведваецца пра ўсе навіны, якія адбыліся ў Серадзібары і ў наваколлі. Тацяна Карпец — гаваркая, бойкая жанчына — можна сказаць, ведае ўсіх навылёт, як ні вялікі Серадзібор. Капітан Рыбін мае ад яе немалую помач.

Калі капітан пераступіў парог насцеж адчыненай хаты, Тацяна якраз высмыкала з печы чыгунок з бульбай і вілачнікам загарадзіла капітану дарогу. Глянула і ахнула:

— Вось якая я. Не даю вам прайсці. Выбачайце, праходзьце.

— Добры вечар у хату! — сказаў капітан.

Ён прайшоў наперад за перагародачку, скінуў шапку, пашукаў у прыцемку цвіка на сцяне і, знайшоўшы, павесіў. Зняў плашч, таксама павесіў, абцягнуў гімнасцёрку і паправіў партупею. Насупроць — там, дзе стаіць ложак, сядзела пры акне Ніна, Тацяніна дачка, і лушчыла фасолю. Брала стручкі з кошыка, фасоліны сыпаліся з рук у рэшата, а лушчавіны заставаліся на каленях у фартуху. Капітан павітаўся з ёю за руку, як з даўняй знаёмай, а потым сеў на лаву ля стала і, залажыўшы нагу на нагу, пачаў закурваць.

— Як жывём, Ніна?

— Нічога, памаленьку.

— Хутка ў навуку?

— Праз тыдзень.

Ніна рыхтуецца здаць экзамены ў сельскагаспадарчы тэхнікум, які адкрываецца ў абласным цэнтры. Стаpанні Паўла Кляновіча даюць вынікі. Пра гэта нядаўна гаварыў у Несцера Платон Грушка і намаўляў дачку старога Любу паступаць таксама ў гэты тэхнікум, на што Люба згадзілася. Стары Несцер заклапочана пачухаў галаву, але не мог стрымацца, каб не ўсміхнуцца, бо нейкай раптоўнай радасцю дыхнула старому ў душу, што вось яго дачка пойдзе ў навуку, але... З другога боку, агортвала яго сумненне: ну што жанчыны могуць зрабіць з зямлёю? Ці ж яны яе асіляць? Але гутарка Платона Грушкі заўсёды для Несцера была залатою. Калі Платон раіць, значыць, добра, значыць, так трэба. Сам вось як вывучыўся: ведае не толькі зямлю — як і з чаго яна,— але кожны лісточак на дрэве, кожную травінку. Стары Несцер сам ведаў многа пра зямлю, пра лес, пра грыбы, пра пагоду і іншае, але каб там кожную траўку, кожную жылку ў дрэве — не, гэтага гала-

ва не схапіла за жыццё. Нават з гноем Несцер не так упраўляўся, як трэба, пакуль не пераканаўся сам (дый «грамацеі» падказалі), што трэба гной прыкрываць, калі не торфам, то зямлёю, каб ён не выпараўся. І вось яго дзіця — Люба — будзе ведаць усё пра зямлю. «Каб то ж так было, каб то ж так сталася»,— гаварыў сам сабе Несцер.

Ніна расказала капітану Рыбіну пра Любу, якую ён таксама ведаў.

— Добрыя справы, дзяўчаты,— пахваліў капітан,— вучыцеся хутчэй, каб свой Серадзібор сталіцаю зрабіць.

— Ой, сталіцаю! — здзівілася Ніна.— Каб хаця харошым сялом.

Тым часам Таццяна, нікому нічога не кажучы, ужо несла на стол міску сопкай бульбы. Свежая, гарачая пара ад бульбы дыхнула ў твар і нават заказытала ў носе. Рыбін — тамбовец пачаў прывыкаць да беларускай бульбы і заўсёды гаварыў:

— Цікава... Смачная бульба ў Беларусі. Дзе мне ні здаралася бываць, такога смаку ў бульбе я не чуў. Цікава, цікава...

— Ніна, пабяжы ў сенцы, прынясі агуркоў з расолам,— загадала Таццяна, а потым да Рыбіна: — Пятро Іванавіч, бліжэй да стала. Вось вам лыжачка, відэлец, хлеб. Суньцеся.

— Дзякую, Таццяна Кірылаўна. Сядайце самі. А дзе ж ваш гаспадар?

— Гаспадар мой недзе сабакам сена косіць. Як пайшоў пасля абеду лазу драць туды пад Жарабкі, то, бачыце, яшчэ няма. Недзе, мусіць, знайшоў сабе сябра і карчмуюць. Калі прывалачэцца ўночы п'яны — выганю, як сабаку...

— Ну, не будзьце ўжо такая строгая, Таццяна Кірылаўна,— з дабрадушнай жартаўлівай ноткай гаварыў Рыбін.

— Ой, надаеў, халера... Прывалачэцца калі во такой парою або пазней, дык спакою няма...

— А што ён робіць?

— Што? Танцуе. Аж посуд бразгае па паліцы.

— Гэта — нічога. Абы не біўся.

— Не, не б'ецца. Толькі лезе абдымацца, халера, і танцуе.

З агульнай міскі елі бульбу, а што датычыла агуркоў і расолу, дык капітану Таццяна паставіла ў асобнай місачцы.

Пад канец вячэры ўвайшоў у хату Коля Мілаш — серадзіборскі камсорг. Тады Тацяна адважылася запаліць лямпу, хоць гэта трэба было зрабіць раней. Тут быў і свой Тацянін спрыт — Коля ўдаваўся да Ніны, ну дык... як жа ўпоцемках глядзець на дзяўчыну? Рыбін нават прыўстаў, каб павітацца з Колем.

— Здароў, Коля, здароў...— з адценнем ласкі гаварыў Рыбін.— Сядай... Што парабляем?

— Раблю звеннявым па гнаі і торфе.

— Як гэта разумець?

— Ну... у нас ёсць такое звяно, што займаецца зборам гною і торфу. Мяшаем усё разам. Гэта нас навучыў Платон Грушка.

— Хто такі Грушка?

— Максімішын сын. Іх хата пры дарозе ў Азярышча — там, з краю. Ён — вучоны, гэты Грушка.

З-за перагародкі, з кухні, адазвалася Тацяна:

— Гэта, Пятро Іванавіч, вельмі вучоны. Некалі ён нам расказваў на сходзе пра нейкі азот, што жыве ў зямлі, там усё гніе, то мы ўжо так празвалі забівачкаўскага старшыню — сам гнілы, халера, і можа ўсю гаспадарку згнаіць.

— Значыць, празвалі яго азотам? — смяяўся Рыбін.— Можа, і правільна...

— Азот, азот, што ні кажыце,— рада была пажартаваць Тацяна.

— Вашага Грушку мы крыху ведаем...— сказаў, не дагаварыўшы нечага, Рыбін і потым звярнуўся да Колі: — Выйдзем, Коля, на двор, а то робіцца горача.

І яны выйшлі. Селі пад ясень на лавачку. Курылі і пекаторы час маўчалі. Урэшце Рыбін запытаўся, нібы між іншым:

— Ну... Коля, што чуваць?

— Нешта хочуць рабіць у Забівачках і ў Жарабках. Днямі збіраліся ў Гойдалы ў хаце.

— А што? Што яны хочуць зрабіць?

— Ніяк не дазнаемся, таварыш капітан. Куцілоўскі ўсё ведае, не можа не ведаць. У яго ж сяле робіцца.

Яны змоўклі. Здавалася, не ведаюць, што далей казаць і рабіць — ні капітан, а тым больш Коля. Змрок паволькна гусцеў над сялом. Рыбін курыў, паціху паводзіў вачыма па небе. Ноч мелася быць не месячная. Хмарнасць раўнамерна разаслалася, застыла ў непарушнай цішыні. Аднак што рабіць? Капітан глядзеў на профіль

Колі, у якога над невялікім носам павіс казырок кепкі, і ўрэшце сказаў:

— А можа, мы, Коля, зрабілі б з табою разведку — і ў Забівачкі і ў Жарабкі? Га? Як?

Коля прыўзняў дагэтуль задуманую галаву і адказаў не адразу:

— Зрабіць можна, таварыш капітан, але гэта трэба вельмі асцярожна...

— Правільна. Разведка заўсёды павінна быць асцярожная...

Капітан хацеў яшчэ нешта сказаць, але выйшла з сянец сама Тацяна і падышла да іх.

— Можа б ішлі ў хату. Пачынае халаднець.

Капітан як быццам зразумеў Тацяніну трывогу і падняўся з месца.

— Так... Можа, і праўда трэба ўжо ў хату. Хадзем, Коля.

У хаце Рыбін расказаў Тацяне Кірылаўне, што ён хоча рабіць.

Настала маўчанне. Гэта завастрыла насцярожанасць Рыбіна.

— Чаго маўчыш, Коля?

— Цяжка будзе паслаць камсамольцаў. Яшчэ людзі баяцца.

— От, баяцца, баяцца... Не выдумляй,— запярэчыла Тацяна.— Ідзі пакліч да сябе яшчэ трох хлопцаў, пойдзеце да Несцера, ён вам дасць коней, і верхам хуценька даскачаце: двое ў Забівачкі, а двое — у Жарабкі.

Было відаць, што Тацяна Карпец трывожыцца за капітана. Рыбін гэта разумеў і маўчаў, не спяшаўся на што-небудзь адважыцца, бо становішча было сапраўды цёмнае, як гэтая ноч за акном.

Пасля нядоўгай гутаркі Коля пайшоў. Капітан Рыбін, пачакаўшы, выйшаў на падворак і стаў пад разложыстым ясенем, зліўшыся з цемрай.

...Тым часам у Забівачках ніхто не збіраўся на адпачынак. Праўда, быў такі адзін, што сабраўся ўсё роўна як на начлег з коньмі, бо апрануў доўгі кажух і на галаву насунуў аж па вочы шапку-вушанку, з-пад якой на лбе тырчаў хвосцік валасоў. Гэта быў сам старшыня забівачкаўскага калгаса Духмуровіч-Куцілоўскі. Ён такі, развітаўшыся з Гойдалам-Гайдалевічам, хутка пайшоў пад павець, дзе па драбіне палез на вышкі. Тады маці, Каетана, якую праз смех звалі не Кайтанка, а Кайданка,

бразнула засаўкай у сенцах так, што бразгат аж ляснуўся аб платы, і хата «патомка княжацкага роду» апусцілася ў цішыню, зачыніўшы пачарнелую ад з'едлівай ганарыстасці і пасівелую шляхцянку на ўсю замглёную ноч.

Міхась Гойдала пайшоў на серадзіборскую дарогу пад крыжы — там яна перацінаецца другою, правы паварот якой вядзе ў лес, дзе леснікуе іменна ён — Міхась. Крыжы стаялі ўпоцемку як ветракі, панура гледзячы адзін на аднаго. Гойдала спыніўся і падумаў, ці нельга было б стаць тут ля каторага-небудзь. Хоць ён іх, як і ўсё навакол, бачыў на дзень некалькі разоў, але цяпер, у такую патрэбную хвіліну, нешта штурханула падысці да іх, агледзець падрабязна. У выніку агледзін аказалася, што каталіцкі крыж быў намнога танчэйшы за праваслаўны, стаяў, як фарсісты кавалер-свістун, у той час як праваслаўны сваёй таўшчынёй і наогул паставай нагадваў барадатага патрыярха. Гойдала прытуліўся спіною да яго. Пастаяўшы, падумаў, што, стоячы так, ён не заўважыць ніякага руху з боку Серадзібора, і ўраз перасунуўся пад крыж каталіцкі. І гэты танклявы крыж абдаў яго холадам між плеч, апраненых у леснікоўскі мундзір.

Але, нягледзячы на гэта, Гойдала стаяў даўгавата, пакуль не здалося, што ён стаіць быццам у голым полі на ветры, бачны для ўсяго свету. «Які ж з мяне вартавы, калі мяне можа кожная муха заўважыць? Прапусціш момант — тады не дагоніш...» — падумаў Гойдала, мяркуючы, куды адысці: ці на лясную дарогу і стаць ля плота, ці пад сваю хату.

Міхась Гойдала сказаў праўду — момант быў выбраны ўдала. Малашкін паехаў на пленум абкома, у райкоме «арудуе» Вася Чаравака, чалавек, заваёваны ім. Вася Чаравака выратаваў яго ад спіртавога арышту, ад усёй гэтай афёры, якая, па сутнасці, выкрылася. А цяпер, пакуль вернецца Малашкін з вобласці, можна многае зрабіць. Вася Чаравака, каб і хацеў, не перашкодзіць... Ён — свой...

Пасля такога роздуму Гойдала ступіў два крокі ад крыжа, каб ісці ў напрамку лесу, як раптам ад Серадзібора пачуўся тупат і хутка з цемры вынырнулі два коннікі.

Гойдала кінуўся назад і скаранька прытуліўся да таго ж каталіцкага крыжа. Выцягнуўся, прырос да яго. Коннікі, відаць, нешта заўважылі, бо ўзялі крыжы ў абхват,

і Гойдала не здолеў апамятацца, як дзве конскія морды павіслі над яго галавою. Павіслі і застылі. Першы падаў голас Коля Мілаш:

— Хто тут?

Адказу не было.

— Чаго маўчыш? Адказвай!

Постаць адарвалася ад крыжа і наблізілася да Колі.

— Чаго крычыш на ўсю вёску? Гэта я... Іду з лесу, спыніўся закурыць,— ужо трымаючы папяросу і запалкі ў руках, адказаў Гойдала.

— Дай папяросу,— папрасіў Коля.

Прыкурваючы ад запалкі з рук Гойдалы, ён зірнуў у яго асветлены мігатлівым агеньчыкам твар і заўважыў тое, што завецца страхам. Рукі, трымаючы ў прыгаршчах запаленую запалку, падрыгвалі.

— А цяпер куды пойдзеш? — спытаўся Коля.

— Куды? Трэба ж крыху перадыхнуць. Не ўсе ж суткі цягацца па лесе.

— Ці тут часам не праходзілі, не праязджалі якія людзі? — пытаўся далей Коля.

— Не, цішыня... нікога... А каму тут праходзіць?

Коля зразумеў апошнія словы Гойдалы як выклік і адказаў:

— Паведамілі з раёна, што ўцяклі два злодзеі...

Коннікі паехалі ў Забівачкі, пакінуўшы Гойдалу пад крыжам. Крыху пачакаўшы, ён паплёўся следам за імі, абдумваючы становішча. Папяроскай асвяціў гадзіннік на руцэ, і па твары забегала ўсмешка.

— Заўчасна прыехалі... Добра. Але нешта ведаюць. Асцярожна...

Разведка не любіць павярхоўнасці, не любіць... Разведка любіць глыбіню. Коля вярнуўся да Таццяны Карпец і расказаў, што ўсюды ціха, нічога нідзе не заўважылі. Толькі адзін Гойдала-Гайдалевіч стаяў пад крыжамі.

— Стаяў Гойдала? — перапытаў капітан і ўспомніў словы буфетчыцы Юлі пра тых забівачкаўцаў, што выпівалі ў чайной. Але ж Коля нічога такога не дазнаўся, што магло б спарадзіць трывогу. Думае Рыбін і час ад часу паўтарае: «Гм... Гм...» Урэшце сказаў:

— Коля, спаць усё роўна нельга. Пачакаем разведчыкаў з Жарабкоў.

А тыя разведчыкі прыйшлі неўзабаве і таксама сказалі, што ўсюды ціха. Толькі па дарозе ў Забівачкі пай-

шоў з Жарабкоў Цыпрыян Буйвалоцкі, якога некаторыя больш звалі па мянушцы Баран, бо ён смяяўся так, як бляе баран. Так, гэта той іменна Баран, які заявіў на сходзе, каб не пускаць беднякоў у калгас: «Яны не маюць інвентару такога, як я, не маюць такіх коней — яны не гаспадары».

Выслухаўшы жарабкоўскіх разведчыкаў, Рыбін яшчэ раз паўтарыў, што спаць нельга, што трэба разысціся на пасты і пільнаваць, ці не надумалі гэтыя гаспадары чаго ліхога. Могуць падпаліць праўленне калгаса або сельсавет, могуць падпаліць стайню. Ці мала што могуць зрабіць ворагі?

Праўда, падобнае штосьці яны могуць зрабіць у якую хочаш ноч. Але на тое і варта. Так іменна і было ў гэтую ноч, якая паклікала Рыбіна на пост у Серадзібор... І таму Рыбін пасылае адну пару пад крыжы, а другую на жарабкоўскую дарогу, сам збіраецца сядзець пад ясенем у Тацяны Карпец на падворку. Сядзець яму вельмі непрыемна. Ён нават пачынае адчуваць сябе вінаватым перад кімсьці. Хочацца ісці ў самую гушчу спраў. Але пакуль ісці нельга. І капітан сядзіць, ахутаны змрокам.

...Ноч можа быць пільная тады, калі пад яе покрывам не спіць сам чалавек. Тады яму можа памагчы ноч — ці дзе трэскам галінкі на дрэве, ці шорахам за плотам, ці далёкім конскім тупатам... А калі ў лесе гукне сыч, народнае паданне кажа: «Сцеражыся, чалавеча,— стань, замры на месцы і глядзі ў густую цемру, ці не блісне што, ці не загамоніць хто...»

Пасланцы-разведчыкі стаялі на сваіх пастах, а капітан Рыбін сядзеў пад ясенем і не адважваўся заснуць. Ноч вельмі доўжылася, ахутвала дрымотаю. Ледзь чутныя крокі наблізіліся да плота і паставілі Рыбіна на ногі. Правая рука апусцілася ў кішэню. Таямніча і павольна падышоў Коля, прашаптаў, што Баран пайшоў назад з Забівачкаў у Жарабкі, быў, відаць, у Куцілоўскага, бо ішоў з самай вёскі. Зноў зашарахцела за плотам, падышоў другі пастаvы і сказаў тое самае, што Баран пайшоў у Жарабкі. Капітан з сябрамі думалі, гадалі, што б то значыла і што цяпер рабіць далей.

— Пачакаем,— сказаў капітан,— ідзіце на свае месцы.

Хлопцы разышліся, капітан сеў на лавачку, адчуваючы стому ў вачах і ў галаве. А ноч ужо рассявала дрымоту на ўвесь свет. Недзе з лесу прыплыў першы подых свежасці, прадвесніка світання. Але ноч яшчэ драмала

і сваёй дрымотаю хіліла да сну і капітана Рыбіна, хоць ён не паддаваўся. Далёка з лесу даляцеў начны гук — таямнічы, адзінокі. Рыбін расплюшчыў вочы і нават устаў. «Чорт на яго, няўжо прыснілася?» Гук паўтарыўся. Тады капітан павёў рукою па твары і накіраваўся ў хату. Бразнула клямка ў сенцах, і выйшла Таццяна. Прыслухалася да таямнічагаляснога гуку. І там, адкуль плыў гук, раздаўся глухі стрэл. Капітан Рыбін абцягнуў гімнасцёрку і пайшоў у хату, каб узяць плашч. Ён на нешта адважыўся. Таццяна пабегла за ім. У хаце ўгаворвала:

— Не ідзіце... Пачакайце крыху... Гэта ж стрэльнула недзе далёка ў лесе, на канале. Коля ж там не стаіць. Перачакайце...

Аднак капітан Рыбін выйшаў на вуліцу і сутыкнуўся з Колем. Сапучы на ўсе грудзі, Коля расказаў, што забівачкаўцы пазапрагалі коней у калёсы і паехалі араць калгаснае поле... А гэтым «калгасным полем» быў налетак, з якога сённяшнім летам знялі жыта, яшчэ сеянае на палосках. Яны былі відны, вядома, і ноччу.

— Усе паехалі? — спытаўся капітан.

— Мабыць, усе... бо паехалі шумна.

Капітан глянуў на неба і не ўбачыў там ніводнай зоркі. Мазгі працавалі ліхаманкава, рука сутаргава сціскала рэвальвер у кішэні.

— Хто, па-твойму, страляў?

— Гэта недзе ў лесе. Няйначай, Гойдала-Гайдалевіч. Мусіць, падаваў сігнал.

— Ага... праўду кажаш... Дык вось што, Коля...

І капітан паслаў Колю Мілаша на поле ў Забівачкі, каб там усё дакладна агледзець, палічыць аратых, ці ўсе з вёскі пайшлі — можа, хто астаўся?

— Ну, Коля, спадзяюся на цябе...

Коля падаўся сваёй дарогай, а капітан, крыху пачакаўшы, пайшоў. Таццяна стаяла ля веснічак, аж пакуль крокі Рыбіна не заціхлі зусім. «На канал пайшоў»,— падумала яна і паціху паплялася ў хату.

Капітан ішоў, як яму здавалася, у пасцярожанай цішыні. Яго ўжо вабіла ідэя, ужо склаўся нейкі план. Тое, што забівачкаўцы паехалі араць палоскі, для яго стала ўжо на другім месцы. На першае месца выплыла справа — знайсці цяпер, хоць убачыць збоку таго, хто даў сігнал, хто, па сутнасці, і быў арганізатарам забівачкаўскага ворыва. Такі вывад зрабіў капітан са стрэлу. І мэта стала ясная. Уся яго істота набрала энергіі, імпэту.

Вось і ён — канал, які і ў цемры почы пе траціў свае самабытнасці. Кучаравы па берагах, ён сцішана туліўся пад лёгкаю, мяккаю імглою, паблісквaючы сваім люстрам. На яго зверху дыхаў цяплом цёмны стромы лес.

Тую паваротку канала, што павольнай дугой накіроўваецца да возера, уночы мала відаць, і таму капітан Рыбін нават крыху здзівіўся, калі ўбачыў, што дарога пашырэла. Ведаў, што хутка павінна быць лясніцтва. Ён спыніўся, паслухаў, стоячы ў лясной цішыні. Праз лес раптам бліснуў здалёк прамень. І знік. Бліснуў зноў. І знік... Капітан пачаў праціраць вочы. Працёр — і стала яшчэ цямней. А потым праменьчык лыпнуў зноў. Капітан прайшоў некалькі крокаў, не спускаючы вачэй з імглістага соннага блукання агеньчыка. Хто тут ходзіць і чаго? Нехта, відаць, з лясніцтва. Можа, вартавы? Агеньчык пачаў аддаляцца ад возера. Тады капітан пайшоў на поўны крок, каб дагнаць агеньчык. А ён, нібы ведаючы гэта, пачаў аддаляцца яшчэ хутчэй.

Здалёк, недзе ад Забівачак, пачулася, як забрахалі сабакі, і пасля брахалі несціхана. У лесе адазваўся адзінокі брэх, які паплыў за агеньчыкам.

Будынак лясніцтва стаяў на палянцы, крокаў за дваццаць ад возера, і быў дрымотны, закінуты. Возера пад покрывам туману было ціхае, нячутнае і нябачнае. Толькі ноч дыхала над ім, як і над шэрай гонтавай страхою лясніцтва. Рыбін прытуліўся спіною да ствала крайняй сасны, пачаў глядзець на гэты цёмны даўгаваты дом. Цішыня была нядоўгая. Высокая постаць вылезла з-за вугла, шарахнула ботамі ля сцяны па вільготным пяску. Потым зарыпелі дошкі ганачка і пачулася, як у замку павярнуўся ключ. Грукнулі дзверы, і постаць знікла.

Не набліжаючыся да дома, Рыбін пайшоў у абход і, урэшце, убачыў асветленае акно. Высокі цень туляўся па сценах пакоя. Рыбін з палёгкаю ўсміхнуўся — перад яго вачыма Міхась Гойдала-Гайдалевіч ачышчаў дубальтоўку ад выстраленых патронаў...

Больш Рыбіну нічога не трэба было. Ён павярнуўся і пайшоў на дарогу.

* * *

Паволі займалася на дзень. Коля Мілаш пайшоў у Забівачкі не адзін. Ён сабраў групу сваіх серадзіборскіх хлопцаў. Усе пайшлі ахвотна. Гэта ж цікава — тоячыся

ісці араць ноччу. Не можа быць, каб не пераблыталі палосак. Хлопцы смяяліся, прыдумлялі хто што і ішлі подбегам, каб застаць аратых на полі.

Вестка аб такім выламе забівачкаўцаў пачала будзіць і серадзіборцаў. І яны, як хто мог, беглі ў Забівачкі.

Выйшаў і стары Несцер на вуліцу. Абапіраючыся на кій, перш-наперш пабег у стайню. Дзве кабыліцы прыхварэлі, зачынены нанач — маглі і іх забраць якія злыдні. Але да іх не даступіліся. Несцер падкінуў ім канюшыны і пайшоў за ўсімі ў тыя каварныя Забівачкі.

Ужо амаль зусім развіднела. Толькі туман слаўся па лесе, яшчэ хаваў дарогі і абрысы хат. І таму адзіночныя галасы з поля даносіліся глуха, як недзе за далёкаю гарою. За кіламетры два ад вёскі на дарозе стаяў натоўп — маладыя і старыя, мужчыны і жанчыны. Уздоўж дарогі — на адлегласць аж да лесу — стаялі калёсы. На іх ляжала па бярэмю саломы. Абапёртыя аб колы, стаялі дугі. Словам, усё нагадвала нядаўні час, калі на свеце панаваў непарушны сялянскі гарапашны лад.

Па загонах, мокрыя ад поту і расы, за коньмі шнуравалі забівачкаўцы — маўклівыя, пазіралі ў мяккія карычневыя барозны. Ранак выводзіў іх з туману напаказ людзям, якія прыйшлі паглядзець і запытацца: «Ну і што з гэтага будзе?»

Стары Несцер стаяў, загледжаны на палетак, і нервова паціскаў плячыма. «Здурэлі людзі... Нехта ж іх падбухторыў...» А забівачкаўцы панура пагдядалі на людзей, не падаючы голасу. Несцер паспрабаваў загаварыць са знаёмым Юзікам Багацкім, што ў свой час ездзіў на гнядой худой кабыле і зімою жабраваў сена. Але той, хаваючы вочы, махнуў рукою і сказаў:

— Няма часу, трэба паспець да дня...

Людзей падыходзіла ўсё больш і больш, ужо не толькі з Серадзібора, а і з саміх Забівачкаў. Усё ж такі гэты худы Юзік не выцерпеў. Калі вяртаўся з чарговай баразною і дайшоў да Несцера, шапнуў на хаду:

— Хутка прыйдуць сюды амерыканцы і ўсіх будуць караць, хто ўступіў у калгас... Усіх да аднаго! — дадаў ён і пайшоў за плугам.

Несцер хацеў нешта яму адказаць, як раптам у світальную цішыню ўварваліся крыкі — недзе адтуль, з-пад лесу. Крыкі былі вострыя, заядлыя. Здавалася, што схапіліся два сабакі і гыркацелі, задыхаючыся. Зразумела, хто стаяў на дарозе — рушылі на крыкі. Якое ж было дзіва,

калі людзі ўбачылі самога Духмуровіча-Куцілоўскага, які ўзяўся загрудкі са сваім суседам-знахаром, панам Лапузоўскім. Нехта ж паспеў сцягнуць Куцілу з вышак. Што ж такое? Аказалася, знахар хацеў вярнуць старое-былое да астатку і ад палоскі пана Габрыэля адняў у свой бок некалькі баразён.

— А ты, пане, хіба не адворваў ад мяне?.. Я сваё назад бяру! — чырванеў ад натугі пасівелы знахар.

— Яшчэ, пане, твой чырвоны нос не дарос, каб ты ў мяне...— крычаў Духмуровіч-Куцілоўскі.

Абодва счапіліся. Ірвалі адзін аднаму грудзі, абдзіралі твары, хацелі адзін аднаго паваліць на зямлю. Ніхто не ўмешваўся ў гэты паядынак, ніхто не спагадаў шляхецкім адзінаборцам, усім было весела.

— Ты думаеш... што... пх... пх... што ты старшыня калгаса, то табе... пх... пх...— пыхцеў знахар.

— А тваёй мордзе да гэтага... не дабі... не дабіцца! — у сваю чаргу аддыхваўся Духмуровіч-Куцілоўскі.

«Бой» трываў доўга. Пачалі адыходзіць ад плугоў па адным забівачкаўцы — кожны з пугаю ў руцэ на ядлоўцавым пугаўі. Вось сярод іх і знайшліся такія, што развялі суседзяў, дакараючы ў непашане да бога і да саміх сябе.

Моладзь смяялася. Смяяўся разам з імі і стары Несцер. Ён махаў рукамі, як адганяючыся ад мух, і крычаў:

— Вось вам вашы палоскі! Наясцеся!

...Капітан Рыбін, са слядамі стомленасці на твары, прыпаў вухам да тэлефоннай трубкі ў будынку серадзіборскага сельсавета. Вартавы Дзям'ян сядзеў на лаве ля акна і баязліва пазіраў з-пад броваў на капітана. А той званіў у райком, дзе дзяжурыў інструктар аддзела прапаганды, сухарлявы маладзён Банадзюк. Капітан патрабаваў машыну і загадваў, каб на гэтай машыне ехаў у Забівачкі творца забівачкаўскага калгаса сам Васіль Чаравака.

Банадзюк тонкім галаском прапішчаў у трубку, сказаўшы, што зараз будзе ўсё зроблена.

— Пастарайцеся хуценька! — дадаў Рыбін.— Я зараз жа іду насустрач машыне!

Ноч пачынала здаваць павольна, не хочучы расставацца з абдымкамі замглёнай дрымоты. Капітан Рыбін шпарка крочыў ужо за Серадзіборам, пакідаючы на вільготным пясчаным узбоччы дарогі свежыя сляды абрэшаных ботаў. Ніхто яму насустрач не ішоў і не ехаў.

Васіль Чаравака не спяшаўся на месца падзей. Калі

даведаўся, што створаны ім калгас рассыпаўся за адну ноч, трывожна задумаўся. Пасля віхрам вылецеў з кватэры, накінуўшы на плечы паношаны шэры ваенны плашч, і амаль што пабег у райком. Мог бы званіць з дому. Не, трэба быць у райкоме. Можа хто, можа што... Там аператыўнасць стала прывычкай, само ўсё неяк укладаецца ў патрэбную каляіну. І вось Васіль Чаравака ўварваўся ў кабінет і, запаліўшы святло, сеў у крэсла Малашкіна. Адчуў супакаенне і нават упэўненасць у сваіх думках і рухах. Аднак... аблакаціўся на стол абедзвюма рукамі і сціснуў свой твар далонямі, сціснуў моцна, да болю. Галава ўсё ж такі была гарачая. І не дзіва — здарылася тое, чаго ён, Чаравака, не чакаў, ды яшчэ да ўсяго — пад час адсутнасці першага сакратара. Ну, цяпер пасыплюцца ўсе шышкі — трымайся, Васіль! А ў душы варушылася, як чарвяк, яно... Што ж такое «яно»? Можа, сумленне? Відаць, пачало грызці. Яно вылазіла з глыбінь, каб кінуць папрокі яму — былому храбраму партызанскаму камандзіру, які не здолеў быць храбрым перад шляхцюком Духмуровічам-Куцілоўскім, перад Міхасём Гойдалам-Гайдалевічам. Яны хвалілі яго, падымалі на шчыт, а потым?..

Чаравака адняў далоні ад твару, матнуў галавою і адважыўся на нешта — працягнуў руку да тэлефона.

— Даць Серадзібор! — сказаў катэгарычна, па-вайсковаму.

Даведаўшыся ў Вераб'я, што трактар у спраўнасці, загадаў падрыхтаваць яго ў наступ.

Трубка з ляскатам упала на сваё месца, а Васіль Чаравака адкінуўся на спінку крэсла так, быццам яму хто вырваў зуб. Выняў з кішэні хустачку і выцер пот з ілба. Потым закурыў, устаў з крэсла і захадзіў па кабінеце, думаючы, што Рыбін не спіць, што трэба ехаць насустрач яму. Ён жа пастараецца паставіць на вочную стаўку! «Але — пагаворым... Сакратар — я...»

Націснуў званок. З'явіўся сухарлявы Бападзюк.

— Зараз жа закажы машыну. Едзем у Серадзібор...

## ТРЫ ХАТЫ

Трывога ў душы ў Чараваке пачала ўлягацца толькі тады, калі газік, з грукатам пераехаўшы чыгунку, нырнуў нарэшце ў лес. Здавалася, што сама дарога, як рачная

плынь, панесла газік, а разам з ім і супакоенага, хоць задуманага, Васіля Чараваку. Мог бы ехаць так бясконца, але каб толькі ехаць, не спыняцца, даехаць да свае роднае сядзібы — туды, дзе некалі заўсёды быў прывязаны да алешыны над возерам дзедаўскі човен. Ён адплываў з плываком ці з плывакамі да невялікага вострава на глухім невялікім возеры Баравое. Яно не так далёка ад Серадзібора. Там на пясчаным наносным грунце стаялі тры хаты — трох братоў Чаравакаў. Па гэтым грунце некалі з году ў год хадзілі сохі, запрэжаныя рахманымі, цярплівымі валамі. А пазней такія ж валы замест сохаў цягалі плугі.

Шумела возера разам з лесам ва ўсе поры года, а асабліва ўвосень, і Чаравакі настаўлялі каўняры сваіх світак і, пяглядзячы на непагадзь, плылі ставіць венцеры на плодпую азёрную рыбу. А часта ў пядзелю гуртам, разам з валамі і калёсамі, плылі да берага на чоўнах, каб потым ехаць на кірмаш — везці на продаж плеценыя з лубу кораблы на збожжа, прыгожыя, яшчэ з пахам жывіцы, рашоты, а часам цэбры, кублы і кубельцы, дзежачкі і дзежы, верацёны, ясянёвыя лыжкі, апалонікі. Апрача ўсяго, здаралася з таго ж самага ясеню везці і кругі абадоў. Частым таварам быў мёд, заячыя шкуркі і іншыя рэчы свайго набытку.

З цягам часу зусім заглушылі хаты дзікія калючкаватыя грушы, такія ж дзікія, з калючкамі, сліўкі, і найбольш нарасло непераборлівых на глебу вішань. Пазней, разам з новымі вятрамі, засеяліся яблынькі, якія праз гады разрасліся ў разложыстых красунь.

На страсе кожнай хаты вадзіліся буслы.

Многа год ваду сабе і статку жыхары вострава чэрпалі з возера — ваду карычневую, настоеную на іле, з пахам перапрэлай сасновай ігліцы. Прасвяціць такую ваду на сонцы — і вачам пакажацца нейкі дзіўны, нязведаны нектар, дзе сонца перамяшалася з тарфянымі сокамі. Студня — на ўсе тры хаты адна — з'явілася потым, калі завялося многа кароў і ўжо зімою было цяжка нанасіць ім вады з палонкі.

Вось тут і вырас Васіль Чаравака. Часам хочацца яму завітаць туды, на тое востраўнае дзедаўскае седала, але нешта не пускае. Загарыцца душа, а потым кажа: «Не, не паеду!» Бо і чаго ж? На тым запаветным востраве асталіся толькі тры пахілыя старыя вярбы, пасаджаныя яшчэ імі — першымі навасёламі, трыма братамі Чаравакамі. Там толькі вецер гаспадарыць, удзень і ўночы нага-

няючы азёрныя хвалі на берагі. І тады долу гнуцца галіны адзінокіх вербаў...

Востраў спустошылі эсэсаўцы, ачысцілі ад хат і садовых дрэваў, а людзей — старых і малых — пагналі некуды ў няволю, адкуль яны не вярнуліся. Востраў быў добрай пазіцыяй партызанам. Доўга не маглі дастуціцца да яго гітлераўцы. Не адна паліцэйская банда знайшла сабе супакаенне на ілістым дне возера. І толькі ў дні блакады, калі трэба было пакінуць востраў, эсэсаўцы авалодалі ім. Васіль Чаравака страціў бацьку, маці і замужнюю маладую сястру. Так вось цяпер няма да каго і да чаго ехаць на гэты востраў. Ён часам толькі стане прад вачыма Васіля — з трыма хатамі ў садаўі і з буслямі на іх.

Некалі залівалася над вадою пастухоўская дудка хлопца ў лазовых лапцях, падстрыжанага «пад гаршчок». І сваволле і раздолле служылі яму — увішнаму Васілю. Надышоў час, калі часта ў нядзелю пад вечар Васіль на чоўне падаваўся на вечарыну ў бліжэйшую вёску, якая лічылася сваёю. Тры хаты былі прыпісаны да яе. З вострава ў вёску ішлі ў прымы «лішнія» браты, выходзілі замуж сёстры. Бацькі не маглі ўгледзець за сынам. Махалі рукою і казалі: «Вырасце, паразумнее...»

І Васіль паразумнеў так, што калі палескімі дарогамі праходзіла першая вайна з немцамі, аднае ночы на чоўне перарэзаў возера да салдацкіх агнёў на беразе і стаў салдацікам кавалерыйскага эскадрона. Бацькі знайшлі яго на трэці дзень, але ён уцёк зноў. Вярнуўся праз некалькі гадоў камандзірам узвода, які ў складзе дывізіі ішоў на польскі фронт. У стычцы пад Брэстам «ліхач Вася» быў паранены, і яго забралі ў палон. Пасля вайны — худы і абшарпаны — вярнуўся да бацькоў на востраў. Працаваў на гаспадарцы, доўга не хацеў жаніцца. Усё не верыў, што востраў падпаў пад панскую ўладу, бо неба над ім было такое самае, як некалі. Ад вялікай тугі пайшоў працаваць у сістэму сувязі — лазіць па слупах і прымацоўваць драты да белых кубачкаў. Гэта яго крыху супакойвала, бо тут было сваё таварыства — начлегі пры дарогах ля агню, песні, паходы ў вёскі на вечарыны.

Ажаніўся Васіль Чаравака толькі тады, калі стаміўся, чакаючы перамен на лепшае, на хуткае вызваленне ад панскага ярма. І было яму ўжо нешта за трыццаць. Камуністычная падпольшчына яго абмінула, хоць лістоўкі і траплялі ў рукі. Надышоў час, калі яго знялі з работы і

замянілі чалавекам з Польшчы. Гэта быў ужо час наступу фашызму.

Партыйны стаў Васіль Чаравака толькі ўжо ў партызанах, калі людзі атрада паклікалі яго быць камандзірам. Не часта мінулае трывожыць душу Чараваکі. А вось цяпер нешта заварушыліся яны — цені мінулага. Васіль Пятровіч уздыхнуў, паківаў галавою і падумаў: «Ужо сорак пяць гадкоў за плячыма. Можа, варта падумаць пра сябе! Мяне караюць за Міхася Гойдалу. А чым жа ён страшны? Ён жа не памешчык, не капіталіст...» Але, падумаўшы так, Чаравака адчуў, як недзе ў тайнічку душы скрабянула кошачка, і вочы праз акенца газіка ўгледзелі сароку, што сядзела на верхавіне прыдарожнай сасёнкі. Яна магла б яму сказаць на вуха, як тая знахарка: «Асабліва табе, сакратарык, нельга згладжваць розніцы паміж серадлячком і кулачком...»

Чаравака неяк зняважліва махнуў рукою недзе наперад і падумаў: «Нічога... Неяк будзе... Калі што не так, направіць Рыбін...» і ўсміхнуўся з агеньчыкам у вачах.

Але вось і капітан — крочыць, расчырванелы ад хады, размахвае шапкаю ў руцэ. Газік сцішыў ход і стаў, каб прыняць капітана.

* * *

Трактар грукатаў напагатове перад праўленнем калгаса ў Серадзібары, калі пад'ехалі Чаравака і Рыбін. Навокал трактара стаяла многа людзей. Капітан выйшаў з машыны і пачаў шукаць вачыма Колю Мілаша, але не знайшоў. Потым сакратар і капітан зайшлі ў праўленне. Там за сакратарскім сталом ужо сядзеў Верабей, ды з такою абыякава-насцярожанай мінаю, быццам на свеце нічога не здарылася. Ён запрасіў сесці ўсіх, хто зайшоў, недарэчна спытаўся, ці снедалі, і ні славечка не кінуў пра тое, што трактар гатовы да работы. Такую «чакальную» пазіцыю Вераб'я добра ведаў Рыбін. Але цікавіла яна Чараваку ці не — невядома.

— Значыць, трактар гатовы? — прамовіў урэшце Чаравака.

— Ну... гатовы... Так, як вы сказалі,— злёгку паціснуўшы плячыма, нейтральным тонам адказаў Верабей.

Чаравака глянуў у акно і хутка адхіснуўся. Сеў побач з Рыбіным. Неўзабаве ў праўленне ўкаціўся Духмуровіч-

Куцілоўскі. Ён, зняўшы кепку, фасоніста, з ляскатам абцасаў пакланіўся прысутным і паволі падышоў да стала.

Чаравака сустрэў яго нахмураным позіркам.

— Што ты парабіў? Нашто дапусціў развал калгаса? — пытаўся нахмураны Чаравака.

— Калі я быў у чым-небудзь вінаваты тут, то няхай мяне гром заб'е да вечара. Усё нарабілі: Жарабкі...— збянтэжана гаварыў Духмуровіч-Куцілоўскі.

На вочы Вераб'ю наплыў смех, але тут жа знік. Верабей зноў заняў свае «пазіцыі».

— Які тут гром, калі неба яснае?..

— Што ты пляцеш? — павысіў голас Чаравака і паказаў рукою ў акно.— Трактар бачыш?

— Бачу... Мабыць, Кастусь нешта хоча араць.

— Не Кастусь, а ты будзеш араць! Зразумеў? — нацставіўся вачыма на пана Габрыэля Чаравака.

— Я? — квола прамовіў Духмуровіч-Куцілоўскі.— Ну, то добра, хутчэй узаром. Дзякуем.

— Зараз жа ідзі, сядай на трактар і падавайся ў Забівачкі на тое поле, што ноччу аралі твае сябры.

— Ох, сябры...— прастагнаў пан Габрыэль і дакрануўся рукою да драпіны на шчацэ.

— І пад тваёю камандай няхай трактар заарэ тыя палоскі... ведаеш як?

— Адкуль я ведаю? — выкручваўся Духмуровіч-Куцілоўскі.

— Упоперак... Толькі ўпоперак!

— Як? Упоперак? — схамянуўся Духмуровіч-Куцілоўскі.

— А ты як думаў?

Духмуровіч-Куцілоўскі разгубіўся.

— Ідзі! — паказаў на дзверы Чаравака.

Куцілоўскі апусціў галаву, дакрануўся рукою да пацёртай каўбаскі валос на лбе, надзеў кепку і цяжка ўстаў...

Чаравака, Рыбін, а з-за іх спін Верабей назіралі праз акно, як Духмуровіч-Куцілоўскі гаварыў з трактарыстам, як потым стаў на падножку. Трактар загрукатаў і рушыў.

Сакратар і капітан пераглянуліся, і кожны апусціў вочы. А вочы ў Вераб'я сталі яшчэ больш пукатыя, сціснутыя губы яшчэ больш тонкія. Вочы не моргалі, а ўсё чагосьці чакалі, яшчэ не ведалі, ці смяяцца ім, ці крадком схавацца пад павекі.

Грукат трактара ўсё яшчэ чуўся ў праўленні...

Раптам дзверы адчыніліся рыўком, і ўвайшоў засапа-

ны Коля Мілаш. Ён пачаў расказваць не Чараваку, а Рыбіну, што ў Забівачках усе пахаваліся, калі пачулі, што прыехалі яны. І падаў Рыбіну спіс.

— Што за спіс? — спытаўся Чаравака.

— Спіс тых, хто араў.

— Ну... Няхай будзе,— сказаў ён нават тонам загаду. Потым звярнуўся да Вераб'я: — Тэлефон працуе?

— Працуе...— адказаў Верабей і крыху прыўстаў за сталом.

Чаравака прайшоў у старшынскі пакой Вераб'я, з дзвярэй якога вясною здзіраў бюракратычную паперку аб прыёмных гадзінах. Там сеў на табурэт і, зняўшы трубку, папрасіў абком.

...Паволі ехалі праз вёску Забівачкі, на канцы якой разміпуліся з Міхасём Гойдалам. Чаравака замітусіўся, зірнуў у акенца, пасля адхіліўся, а потым зірнуў зноў. Ці ён хацеў спыніць Міхася, ці паклікаць яго і пасадзіць у машыну? Не зрабіў ні таго, ні другога. Рыбін усё гэта бачыў і цяжка апусціў павекі на свае цёмна-шэрыя вочы. Толькі Коля Мілаш, што сядзеў побач з Рыбіным, не спускаў вачэй з Гойдалы, пакуль можна было яго бачыць. А Гойдала хутка ішоў з дубальтоўкай на плячы, гледзячы перад сабою, і нават не павярнуў галавы.

Выйшлі з машыны толькі там, на полі.

— Трэба ўсё-ткі насельніцтва сабраць,— сказаў Рыбін.

— Як удасца, то збяром,— неахвотна адказаў Чаравака і пачаў глядзець на трактар.

Рыбін пацісную плячыма.

Пяціплужны трактар упэўнена, павольна слаў глыбокія барозны ўпоперак. Яны лажыліся роўна, хаваючы гарапашныя палоскі пад сабою.

На дарозе ў аддаленні стаяў Духмуровіч-Куцілоўскі на тым месцы, дзе на світанні тузаўся загрудкі з суседам-знахаром, панам Лапузоўскім. Пан Габрыэль нагнуўся і падняў з зямлі гузік ад свайго каптана. Коля Мілаш расказаў пра нядаўнюю бойку і гэтым разагнаў напружанасць паміж Чаравакам і Рыбіным. Верабей глядзеў на ніву, узяўшыся за бакі і выпнуўшы шырокі жывот. А як пачуў, што расказаў Коля, копнуўся з месца, і на твары захадзілі зморшчыкі. Перапытваў Колю: «Як-як?» Усе закурвалі і смяяліся.

Гадзіннікі абкома прабілі дзевяць, калі Малашкін ступіў на мармуровыя сходкі ганка, над якім абапал звесіліся шаўкавістыя плакучыя вербы. Адчыніў масіўныя дзверы і сутыкнуўся з адным з інструктараў.

— Вы... таварыш Малашкін?

— Я...

— Вас да тэлефона. З раёна...

Малашкін бягом, сігаючы праз дзве-тры сходкі, падаўся ўверх.

Трубка прыліпла да вуха, і змрочная, нахмураная зморшчына застыла паміж бровамі. Ён слухаў Васіля Чараваку не з Азярышча, а з самога Серадзібора. Малашкава зразумеў усё. Хацеў вылаяць Чараваку апошнімі словамі, але стрымаўся. Слухаў далей. А потым загаварыў сам:

— З кім ты раіўся, каб пасылаць трактар на тыя палоскі? Як? Ні з кім? З капітанам Рыбіным? Ага... Ён не згаджаўся? Але потым уступіў... Ага... Вось што, брат... Перш чым пасылаць трактар, трэба было пагаварыць з людзьмі, з калгаснікамі. Магчыма, удалося б ліквідаваць гэтую, як ты кажаш, успышку спакойна, з розумам. Праз два-тры дні вярнуся. Пагаворым... Ага, стой! Я не знаходжу матэрыялаў аб тых трох спаленых вёсках. Ты ж абяцаўся мне аддаць. Іх няма...

Заціхла ў трубцы. Чаравака маўчаў. Потым збянтэжана сказаў, што пашукае сягоння і прышле пасланцом.

— Прысылай хутчэй — поездам!

Малашкін паклаў трубку і прашаптаў: «Яшчэ адна старонка ў даклад...» Машынальна прыгладзіў валасы і на момант задумаўся.

Спускаючыся ў цокальны паверх у сталоўку на снеданне, абураўся: «Ну, відаць, давядзецца развітацца з Чаравакам. Далей так нельга. Нават матэрыялы — і тыя завaліў...»

Назаўтра рана ў абком з матэрыяламі завітала Саша.

* * *

Абласная гасцініца яшчэ як след не абстаўлена. Ложкі ёсць, і то жалезныя, палавіна іх сабрана з папялішчаў. На ложках — сеннікі, набітыя саломаю, падушкі крыху

мякчэйшыя, бо шамацяць сенам. Добра, што ёсць салдацкія суконныя коўдры з просцінамі.

Добра, утульна ў нумары гасцініцы, мякка спіцца на саламяным сенніку і сеннай падушачцы. Прачнешся — на засланым звычайнай просцінаю століку стаіць у талерцы графін з вадою і побач — вазон з чырвонымі, вечна цвітучымі кветкамі паміж зялёных лісцяў. На графін і на вазон ранкамі падае праз акно востры, як страла, празрысты сонечны прамень, які столькі дае цяпла і радасці, што Саша з прыемнасцю ўстае з ложка і старанна прыбірае пакой, не чакаючы ніякай прыбіральшчыцы. Прыйшоўшы з умывальнай, прычэсвае перад уласным люстэркам сваё багацце шаўкова-ільнянiстых валасоў і потым ідзе да акна — паглядзець на тую свавольніцу-бярозку, што трапеча на абваленай цаглянай сцяне насупроць, па той бок вуліцы. Саша не можа адарваць сваіх цёмных і гарачых, як вугельчыкі, вачэй ад гэтай пястункі і дзівіцца з такога нябачанага цуда жыцця. У дзіваванні — уцеха, якую сама сабе Саша вытлумачыць не можа. Нешта цёплае, глыбокае, затоенае, неўсвядомленае.

Вось ужо трэці дзень, затрыманая Малашкіным, Саша жыве ў гасцініцы, ходзіць у абком перадрукоўваць на машынцы матэрыялы — то для абкома, то для абласной газеты. Аказваецца, Азярышчанскі раён лічыцца самым пагарэлым, і ён найбольш меў страт у людзях. Таму ўсюды і ўсе ім цікавяцца. Аднекуль з'явіўся і Аляксей Жарнавік, якому Саша таксама перадрукавала сёе-тое для мінскай газеты. Жарнавік — такі акулярысты і жартаўлівы. Скардзіўся Сашы, што вось няма яму ніякай змогі дабрацца да свае згарэлае вёскі, дзе жыве маці з братавай, дзе жыве і сястра. Даравaць сабе не можа гэтага Жарнавік — валацугам сябе называе, бяздомнікам. Але відаць, што і сапраўды няма, як ён кажа, змогі, бо вось і тут, на пленуме, выседжвае цэлыя дні, а начамі ўсё піша і піша... Допытваецца ў Сашы, калі будуць з Малашкіным вяртацца ў Азярышча.

А бярозка ўсё трапечацца на абломленай сцяне, усё дрыжыць і вабіць Сашу, томіць ёй сэрца нязведанымі жаданнямі.

Саша — ціхая мястэчковая красуня, адна з тых, якія растуць у сваіх ахайных кветніках, дзе разам з бэзам і язмінам стракацяць кветкі розных колераў, пачынаючы ад вясновых і канчаючы кветкамі позняй раскошы, як вяргіні, астры. Непрыкметны дамок хаваецца за кветкамі

ў садку, дзе ў хляве стаіць адна карова, кругіча падсвінак і сакочуць куры. Там заўсёды можна ўбачыць, як над падстрэшшам ідзе ўжо змаршчынелая жанчына з вядром або цэбрам. У хаце — прыбрана па-местачковаму: сціпла, проста, скупавата. У пакойчыку за перагародкай стаіць камода старая, як свет, паточаная шашалем, на ёй — люстэрка, побач фотакарткі ў адмысловых рамках і букеты засушаных кветак у вазачках. Усё звычайна і па-местачковаму ціха. А вось калі загляпуць у кладоўку ў сенцах, там на сцяне вісяць сталярскія прылады — пілка, долаты, ляжаць на паліцы гэблікі, фуганак.

Бацька ў Сашы быў сталяр і, напрыклад, камоду рабіў сам — да свайго вяселля. Даўно гэта было. У Сашынай маткі было дзесяць дзяцей, з якіх жывыя асталіся толькі трое — два сыны і яна, апошняя, Саша. Дзеці найбольш памерлі ў бежанстве ў Сібіры. Дахаты Іванковічы вярнуліся з сынам і дачкою, бо старэйшы сын ажаніўся з іркуцянкаю і астаўся ў Сібіры. Па прыездзе дахаты бацька пажыў некалькі год, ужо будучы хворым, і памёр. Саша найбольш помніць бацьку ў шэрай рабочай камізэльцы, да якой заўсёды прыліпалі стружкі. Як толькі камізэлька зношвалася, на плячах з'яўлялася новая, таксама шэрая. Шыла іх сама маці, Лізавета,— то з неданошанай суконнай спадніцы, то з каптана, то збірала з розных абрэзкаў. Але помніцца адно — камізэлькі былі шэрыя, ад чаго, відаць, гэтая шэрасць клалася і на бацькаў твар. Ён усё стругаў і стругаў, напружаны, спатнелы, і выкалупваў стружкі з гэбліка або з фуганка. Пасля вячэры хутка клаўся спаць, і толькі перад сном клікаў да сябе малую Сашу, каб пагладзіць яе па льняных валасках, заплеценых у дзве косачкі. Бацька нават і памёр у шэрай даматканай камізэльцы, лежачы на печы.

З таго часу мінула многа год. Сашы ўжо ідзе дваццаць пяты... Паўтара года яна працуе тэхнічнай сакратаркай у райкоме, куды трапіла па рэкамендацыі Харытона Бабра.

Пакуль што не крыўдуе на яго за гэта Сцяпан Малашкін. Наадварот, Саша прынесла яму ў райком не толькі сваю працавітасць, але і нечаканую ў такіх абставінах утульнасць. Абвеяны праз усё жыццё вострымі надволжскімі вятрамі, Малашкін ад прысутнасці Сашы адчуў нешта падобнае да цячэння маляўнічай рэчкі, якая ў сваёй ціхай плыні не імкнецца заяўляць аб сабе, а ўсё маўкліва пратторвае сабе рэчышча. І Саша, прыехаўшы так неспадзявана на пленум і трапіўшы ў гасцініцу, любіць неад-

рыўна глядзець праз акно на тую бярозачку, якая вырасла на абваленай цаглянай сцяне зруйнаванага вайною дома. Ёй хацелася б падняцца да бярозкі, пагладзіць яе і сказаць: «Адкуль у цябе такая сіла, што ты і цэглу разрываеш карэньчыкамі?»

У дзверы пастукалі. Саша адхінулася ад акна, яна ведала, хто стаіць там за імі. Стаіць той, хто кожны ранак і вечар прыходзіць адведаць яе з усмешкай і бляскам у вачах. Таму Саша не пыталася хто — павярнула ключ. У дзвярах стаяў Малашкін у цёмна-карычневым касцюме, у новай светла-жоўтай кашулі пад цьмяна-шэрым гальштукам. Саша прапусціла яго ў пакой і зірнула мелькам на касцюм, які ўчора, па просьбе Малашкіна, выпрасавала.

Паголены, крыху духмяны, Малашкін спытаў, як спалася. Пасля загаварыў пра спаленыя вёскі ў раёне, ці ўсе перапісаны. Ён сядзеў на крэсле, адставіўшы нагу на сярэдзіну пакоя, а Саша стаяла пры стале і адказвала на пытанні, як у Азярышчы ў яго кабінеце.

— Сядай, чаго стаіш,— звярнуў увагу Малашкін.

— Нічога... пастаю...

— Да дзвюх гадзін перадрукуеш?

— Перадрукую,— сказала Саша.

Малашкін устаў, глянуў на гадзіннік. Яму, як заўсёды, хацелася даўжэй пабыць з Сашай, але... гэта не трэба. А Саша адчувала кожны яго рух, кожны пагляд. Усё танула, асядала недзе на дне душы, і тады гарачая цяжкасць напаўняла яе. Правёўшы рукой па сваіх нядаўна прычасаных валасах, прайшла паўз Малашкіна і азірнулася на бярозку. Стала адразу лягчэй. Яна паклікала Малашкіна.

— Глядзіце... Вы бачылі такі цуд? — паказала яна на бярозку.

Малашкін зірнуў і ўжо не мог адарваць вачэй. Усміхаўся і ўсё паўтараў:

— Фу ты, чорт... Дзіўна... Дзіўна, Саша... Выдатна.

А потым, як спахапіўшыся, узяў Сашу за руку вышэй локця і горача прамовіў:

— Ты знаеш, што гэта, Саша? Гэта твая Беларусь падымаецца да жыцця, вырастае з руін... Ну, ці ж не так?

Сашы хацелася сказаць, што Беларусь не толькі яе. Можа б, і сказала, але моцная рука прыгарнула яе да сябе, а над гарачымі вуснамі навісла гарачае дыханне другіх вуснаў, якія потым зашапталі:

— Саша... Саша... друг...

Малашкін адскочыў, як абпалены, да дзвярэй. Кінуў, як наўздагон каму-небудзь:

— Ужо час на пасяджэнне...

Дзверы бахнулі, а Саша так і асталася стаяць нерухома, бачачы перад сабою зграбную плячыстую постаць. Пастаяўшы, адвярнулася да акна. І калі вочы знайшлі ўжо так знаёмую бярозку, разам з міжвольнай усмешкай па шчоках пацякла адна слязінка і другая... ад першага адчування шчасця.

## СЯБРЫ

Платон Грушка, закончыўшы ў асноўным дысертацыю, паспяшыў у сельскагаспадарчую акадэмію, каб у лабараторыі праверыць палажэнні аб жыцці раслін, зыходзячы з ціміразеўскага аналізу. У старога Несцера сабраў весткі аб розных характарах зямлі на серадзіборскіх палях і сам абышоў тую зямлю. Вырэзваў кавалкі яе, нёс дахаты. Толькі адным няўзброеным вокам ён даваў ацэнку гэтым гатункам, а трэба было дакладна праверыць іх у лабараторыі.

У геалагічнай і глебазнаўчай экскурсіі па серадзіборскіх палях і балотах асабліва здзівілі яго ў адным месцы профілі берагоў рэчкі Пагулянкі. Гэта ні рака, ні рэчка; яе можна назваць чорнай, змяінай там, дзе яна раскашуецца ў непралазных лазнякова-лясных і чаротавых нетрах, і цьмяна-сіняй там, дзе яна прарываецца праз узгоркавыя мясціны, а дзе нават і праз дзюны. Вось профілі высокіх берагоў гэтай Пагулянкі і здзівілі Грушку. Вякамі празвала рэчка сваё рэчышча, а людзі так і не дабраліся да тых багаццяў, якія яна адкрывала людскому воку. Гэта — напластаванні глін: зверху, пад пяском,— чырвоных, а чым ніжэй — усё сінейшых і сінейшых. Платон Грушка іх таксама павёз у лабараторыю.

Гэтых геалагічных знаходак набралася столькі, што старая Аляксандра, яна ж і Максіміха, за галаву ўзялася, збіраючы сына ў дарогу. Як жа ён заедзе, як завалачэ такія грузы? І нашто яму спатрэбіўся хоць бы гэты чарот? Ён жа доўгі — куды яго памесціш? Але ўсё роўна пучок чароту быў акуратна абкручаны чыстай палатнінай, абвязаны шнурком і стаяў напагатове, прыпёрты да сцяны, як той зажынкавы сноп. Давялося папрасіць грузавіка ў Вераб'я.

Рыхтаваць у дарогу і праводзіць Платона памагаў і стары Несцер. Усё тупаў па хаце, пастукваючы кіем, правяраў, каб чаго не забыліся, мацаў рукамі — то мяшэчкі з зямлёю, то чамаданы — і пытаўся, што яшчэ трэба. Дзівіваўся на снапок даўжэзнага чароту. Тут ужо яго сівая галава ніяк не магла дадумацца, што і да чаго. Нашто Платону гэты чарот? Глядзеў Несцер на яго, як на нейкія чары, закручаныя ў палатніну, маўчаў і паціскаў плячыма. Калі ўжо ўсё было сабрана і грузавік шумеў за плотам, чакаў шаноўных грузаў, Несцер, выносячы апошні чамадан, усё ж такі не вытрываў, спытаўся пра гэты таямнічы чарот.

— Ведаеце ж,— адказаў Платон,— мы зімою ў марозы выпальваем чароты на вялікіх прасторах нашых балот. А можа і не трэба было б выпальваць? Можа, з яго рабіць што можна?

— А што ты зробіш з яго? Акрамя страхі — нічога...

— Вось пабачым, даследуем. Можа, і хату зробім.

Несцер замахаў рукамі.

— От, выдумкі... З зямлёй рабі парадак... А з гэтым... Яшчэ лесу, дзякуй богу, маем на хаты...

Пакуль клалі грузы на машыну, маці сабрала на стол падсілкаванне з чаркай. Былі ў зборах і Даніла з Кацярынай, потым надышоў і сам Верабей.

Стары Несцер, трымаючы чарку ў руцэ, глядзеў па Платона і гаварыў:

— Глядзі, не забывай нас, дзе б ты ні быў. Наязджай панюхаць свайго карэння. Яно табе крыўды не зробіць. І спяшайцеся вы там, маладыя... Навучыла вас і яшчэ навучыць савецкая ўласць. Нясіце навуку сюды, каб зямля радзіла, каб статак рос, каб расло багацце. Век мучыліся мы па гэтай зямлі, то, можа, час ужо і перастаць мучыцца... Вось так, на здароўе, сынку, глядзі не забывай...

* * *

Сельскагаспадарчая акадэмія са сваімі карпусамі, паркам, вулачкамі, батанічным садам патанула ў цішыні пад асеннім сонцам. Не чуваць было ні чалавечых галасоў, ні якога стукату. Нават пеўні маўчалі, ходзячы клапатліва з курамі па градах, ужо ачышчаных ад гародніны. Толькі здалёк, там, дзе сонца барвовіла верхавіны лесу, што цёмнаю каймою атульваў поле, чулася мыканне каровы...

Платон Грушка пад'ехаў на грузавіку, які прыслала

яму к станцыі гаспадарчая абслуга акадэміі, да даўгаватага белага будыначка ў адзін паверх на вулачцы імяЦіміразева. Пры сцяне за невысокім плотам дацвіталі вяргіні і астры. У гэтым доміку кватараваў прафесарска-выкладчыцкі персанал — з сем'ямі і без сем'яў.

Разам з шафёрам здымалі серадзіборскія грузы і ставілі іх на нізкі ганачак і побач з ім на зямлю. У доміку жыў Грушкаў знаёмы, нават друг, Аляксандр Пакаціла, які быў старэйшы за Платона на некалькі гадоў. Сын селяніна з Магілёўшчыны, ён скончыў агранамічны факультэт акадэміі па аддзяленню фізіялогіі раслін і працаваў у лабараторыі. Жыў адзіночкам-летуценнікам. Нараджаліся ў яго ўсялякія намеры-фантазіі, якім пакуль што не суджана было збыцца. У чым была прычына такіх няўдач — цяжка сказаць. Аляксандр Пакаціла працаваў да поту. Скрыжоўваў, напрыклад, зярняты жыта рознага гатунку, каб атрымаць гібрыд, а выраслі каласы з маленькімі зярнятамі. Відаць, чагосьці недадумваў да канца Пакаціла. Не меў ён цярплівасці, каб прадоўжыць гэтую работу далей, і браўся за «новую ідэю».

Платону Грушку не то што падабаліся, а неяк забаўлялі няўрымслівыя пошукі Пакацілы, які хадзіў у запушчанай вопратцы, з доўгімі, ніжэй патыліцы, цёмнымі валасамі, расчасанымі больш пальцамі, чым грэбенем. З-за дыму папяросы, якую ён, здаецца, не выпускаў з зубоў, у вачах свяціла нейкая вечная дума аб чымсьці.

Вось ён і выйшаў на ганачак у белым лабараторным халаце, адразу выпрастаў рукі, абняў Платона Грушку. І ўсё прыгаворваў:

— Даўно, Платоне... Даўно... Помніш, як ты пакінуў мяне аднаго?..

— Помню. Як не помніць? Мяне забралі на вайну, а цябе эвакуіравалі...

— Я кажу пра тое, што ты нават не развітаўся са мною.

— Бо не знайшоў цябе ў парку і не было ўжо часу.

— Я жыву ў тым самым пакоі, дзе мы жылі з табою.— Пакаціла азірнуўся навокал і пацiснуў плячыма: — І чамаданы ў цябе і торбачкі... Што гэта такое? — А зірнуўшы на вязанку чароту, аж рукі растапырыў: — А гэта што за дзівосы?

— Потым скажу. Давай пашукаем месца, дзе пакуль што паставіць.

— Месца? Гмм... Месца...— пачаў гаварыць на розныя

інтанацыі Пакаціла.— Месца... Гэта, відаць, праблема. Чамаданы, клункі — яшчэ сяк-так. А вось гэтую дырду...— паказаў ён на чарот.

— Гэтую дырду, як ты кажаш, паставім у твой драўляны хлевушок.

— О, ідэя! Ідэя!

Пасля абеду ў студэнцкай сталоўцы сябры пайшлі ў лабараторыю. Прыемна было ісці па акадэміцкіх вулачках, алеях, між высокіх дрэў, пераважна ясянёвых, потым заглыбіцца ў гушчэчу парку, дзе неўгамонна гучыць, прыхаваная ў кустах, знаёмая рачулка. Прыглушанае доўгай адсутнасцю пачуццё любві да ўсяго, што тут ёсць, з нейкай новай сілай агарнула Грушку. Задумы і роздумы, смех, забавы, летуценні — усё, што завецца парывамі маладосці, усё тояць у сабе гэтыя алеі, сцежкі ў гушчарах, кожнае дрэва, кожны куст і вось гэтае, заўсёды маладое, лепятанне неўгамоннай рачулкі.

Перш чым зайсці ў лабараторыю, Пакаціла павёў свайго друга ў цяпліцу. Яна блішчала здалёк пад спектрам сонечных праменняў, блізка ля рачулкі. Нехта з прыгожым розумам нездарма даў ёй месца іменна тут. Бо як толькі пераступіш парог, адразу ўбачыш невялікую студнечку. Яна зроблена на месцы сапраўднай крынічкі, абкладзена цэглаю, і цагляны зрубік узвышаецца амаль на паўметра над паверхняй зямлі. Вада ў студнечцы пераліваецца крыху цераз верх. Так бывае амаль кожную восень, калі дажджы падымаюць грунтовыя воды.

З крынічнай студнечкі бяруць ваду паліваць расліны ў цяпліцы. Тут царства акадэміцкіх раслін, хоць іх яшчэ малавата, раслін не толькі дэкаратыўных з розных кліматычных паясоў, але і вопытна-агародных, садовых. Пакаціла вёў Грушку да свайго новага «вынаходства». Ён паказаў па расліну, якая расла ў гліняным гаршку, а збоку яе сцябла, знізу, вытыркнулася расліна іншая. Гэта прышчэпка памідора да сцябла бульбы. Мэта летуценніка Пакацілы — каб клубянькі перацвету бульбы мелі смак памідора і раслі такой жа велічыні, як памідор. У выніку — новы гатунак бульбы з перацветам памідорнага смаку і памідорнай велічыні.

— Ну як — трапна задумана, скажы, сын Элады Платон? — спытаўся Пакаціла, падняўшы галаву.

— Прывабная ідэя, сын Македоніі Аляксандр,— адказаў у тон Пакацілу Грушка.— Тут справа імунітэту, мой

дарагі... А ці можа быць з твайго эксперымента гібрыд, пакажа вопыт. Дзейнічай, дружа, абсалютна не пярэчу...

Вяртаючыся з лабараторыі, Грушка сказаў Пакацілу, што заўтра трэба зрабіць візіт рэктару акадэміі.

* * *

Фёдар Раманавіч Капля, рэктар акадэміі, радасна прывітаў Платона Грушку, калі той зайшоў да яго назаўтра зранку. Зычліва пацiснуў руку крыху ўсхваляванаму дысертанту і запрасіў сесці. Грушка сеў там, дзе доўгі стол для нарад, сутыкаючыся са сталом Каплі, робіць літару «Т».

— Ну, расказвайце, дзе вы вандравалі? — пачаў гаворку акадэмік Капля.

Грушка коратка расказаў пра свае вандроўкі па Палессі, пра сваю працу над дысертацыяй і дадаў, што прыехаў сюды, каб удасканаліць яе некаторымі вопытамі. Прасіў рэктара дазволіць папрацаваць у лабараторыі.

— Выдатна. Пахвальна,— сказаў рэктар.— Я вельмі зацікаўлены вашай тэмай. Пабачым, як вы яе вырашылі... Та-а-к... Дарэчы... дзе вы хочаце абараняць сваю дысертацыю — тут, у нас, ці ў Мінску?

— Мне б хацелася тут...— адказаў Грушка.

— Я ўхваляю...— сказаў рэктар і сягнуў рукою да настольнага календара. Там нешта запісаў, і твар яго, перад гэтым насцярожаны, распагодзіўся. Ён з ледзь прыкметнай усмешкай глянуў на Грушку і сказаў:

— Вы не забылі сваёй альма матэр... А вось у Мінску рыхтуецца бараніць дысертацыю ведаеце хто?

— Можа, і ведаю. Зашчаміла. Пра гэта мне пісаў Кляновіч.

— А-а... Кляновіч... Даўно яго бачыў... Як ён чуецца на паніжэнні? — запытаўся акадэмік Капля і, не чакаючы адказу, паспяшыў сказаць: — Так... Вы адгадалі. Зашчаміла... Ён самы... Але... Ён цяпер начальства... Асцярожна...— Рэктар пацiснуў плячыма і дадаў: — Я не разумею, як Зашчаміла мог стаць намеснікам міністра.

— Гэта талент на спрыт, — пачакаўшы, прамовіў Грушка.

— Вось іменна: гэта — спрыт...— адказаў Капля і на момант задумаўся, павярнуўшы пасярэбраную галаву да акна. Потым размахнуў рукамі, як крыламі, і, склаўшы іх зноў на стале, дадаў: — Ну што ж... Пажывём — пабачым...

І ўздыхнуў. Кінуў аловак на стол і ўстаў на ўвесь свой высокі рост.

— Я прашу вас, Фёдар Раманавіч,— пачаў, таксама ўстаўшы, Грушка,— пазнаёміцца з маёй дысертацыяй.

— Пазнаёмімся, а як жа. Бараніць яе будзем. Калі атрымаеце кандыдата — а вы яго атрымаеце, я ў гэтым не сумняваюся,— пераходзьце на працу сюды...

Грушка маўчаў.

— Як? — спытаў рэктар.

— Я не супроць, Фёдар Раманавіч.

— Ну і выдатна. Будзеце выкладаць агранамічныя дысцыпліны. Глебазнаўства... А можа, фізіялогію раслін. А можа, і тое і другое разам... Гэта будзе залежаць ад вашага пажадання.

— Я хацеў бы, Фёдар Раманавіч, запрасіць вас у лабараторыю паглядзець на мае палескія экспанаты — на гатункі глебаў, пяскоў, траў...

— Вы хочаце заняцца аналізам?

— Так...

— Абавязкова зайду... Заўтра...— рэктар выняў з кішэнькі гадзіннік на ланцужку і паглядзеў на яго,— так у гадзін дзесяць...

Грушка пакланіўся, паціскаючы руку рэктару, падзякаваў і выйшаў.

* * *

Вяртаючыся з акадэміі, можна сказаць, ужо толькі з адным партфелем, у якім адлежвалася яшчэ неблагаслаўлёная дысертацыя, мінаючы Азярышча, Грушка накіраваўся проста ў вобласць да Паўла Кляновіча. Ён жа ў яго кіраўнік дысертацыі. А тут якраз і пленум. Прыемна будзе пабачыцца і з Малашкіным.

Як толькі прыехаў у абласны цэнтр, пазваніў Кляновічу на кватэру. Той адгукнуўся радасна, бадзёра, сказаў, што даўно чакаў.

І вось Платон Грушка асцярожна звоніць ля дзвярэй недзе на трэцім паверсе, на якіх чарнее лічба «25» і на паштовай скрынцы цёмна-сіняга колеру прыклеена папяровая стужачка з прозвішчам — П. К. Кляновіч. Даўно бачыўся Грушка са сваім прафесарам, і таму сэрца міжвольна затахкала ў грудзях.

Дзверы адчыніў сам Кляновіч у расшпіленай цёмна-сіняй вышытай на каўняры касаваротцы.

— Заходзь, студэнт, валацуга палескі... Давай абнімемся, бо даўно бачыліся.

Гэта былі ў іх першыя ў жыцці абдымкі, ад якіх якніяк засаромеўся малады Грушка.

— Праходзь у кабінет,— запрасіў Кляновіч.

Грушка ніколі не быў па кватэры ў Кляновіча. Даводзілася сустракацца, можна сказаць, у дарозе — то ў Азярышчы, то адзін раз у самім Серадзібары. І калі ён увайшоў у кабінет, вочы яго разгубіліся, не ведаючы, на чым спыніцца. На кніжным стэлажы, там, пад столлю, сядзела вавёрка і стрыгла вушамі; на другой сцяне, ля акна, пры якім стаяў пісьмовы стол, у клетцы пырхалі шчыглы, а на другі бок, ля таго ж самага акна, у такой жа клетцы, скакалі канарэйкі. На другім кніжным стэлажы, таксама пад столлю, з кавалка галіны спускаў свой пышны хвост цецярук. Пры сцяне, процілежнай стэлажам, стаяла канапа, прытуленая да насценнага дывана, на якім паблісквала зграбная дубальтоўка з патранташам. На пярэдняй сцяне вісеў партрэт Леніна. Лявей дубальтоўкі з рамкі глядзеў Ціміразеў, а з другога боку — Дакучаеў і Костычаў.

На пісьмовым стале побач з прыладдзем стаяла статуэтка — Максім Горкі сядзіць, абняўшы сашчэпленымі рукамі калена.

— Начаваць будзеш у мяне,— катэгарычна заявіў Кляновіч.— Будзеш спаць вось тут, на гэтай канапе. А цяпер ідзі памыйся пасля дарогі і будзем шыкавацца да вячэры. Мая Пелагея недзе выйшла, але хутка прыйдзе...

Пасля вячэры гаворка паміж галоўным аграномам вобласці і аспірантам аграноміі ішла галоўным чынам пра глебазнаўства Беларусі. Гэтая невычэрпная тэма вяла гаваркіх аграномаў — старэйшага і маладога — да далёкіх вытокаў: зямных і водных, да гісторыі зямлі, на якой адкладаліся, дзе і як, своеасаблівыя фармацыі. Без вывучэння іх не толькі з боку марфалагічнага, а найважней — фізічна-хімічнага, значыла б хадзіць у пацёмках, дарма пражываць дні на тым, што здабыў векавы вопыт нашага гаротнага, непісьменнага сялянства. Гэта значыць — быць дармаедамі, сядзець на карку таго ж сялянства.

— Цяпер уяві сабе, Платоне, наш апарат па сельскай гаспадарцы: які ён вялікі! І ён робіць толькі адно — плануе пасевы, не лічачыся з глебамі і не хочучы нават іх ведаць. Гэта ж злачынства!

Кляновіч дастаў са стэлажа вялікую чорную папку, завязаную чорнымі матузкамі, і разгарнуў яе.

— Вось глядзі, чым я займаюся.

Гэта была карта глебаў вобласці, накрэсленая самім Кляновічам. Грушка ў захапленні пацёр рукі і сказаў:

— Якая чыстая, дакладная работа! Калі вы паспелі гэта зрабіць?

— Вось ваш Серадзібор,— тыцнуў пальцам у карту Кляновіч.— Маё бытаванне ў вашага гаваруна старога Несцера не прапала дарэмна. Як бачыш, у вас чатыры гатункі глебаў: дзярнова-балотныя, тарфяныя, падзолістыя і супескі, ці, дакладней сказаць, пяскі.

— Мая праверка ў лабараторыі паказала, што чыста пясчаных глебаў у нас няма. Хоць адзін працэнт гліны, а ўсё ж такі ёсць.

— Ну, гэта не мае практычнага значэння... Дык вось глядзі, пераважаюць у вобласці дзярнова-балотныя і супескавыя глебы. Адсюль і трэба пачаць танцаваць у пабудове севазваротаў, арыентуючыся ў асноўным на гэтыя глебы. Зараз пакажу табе пару схем канкрэтных севазваротаў. Тут ужо я адзін не працаваў — мне памаглі... Між іншым, ёсць у нас у аддзеле цікавы аграном Пяхота. Вось памагаў ён.

— Але мне здаецца,— амаль перапыніў Кляновіча Грушка,— што на Палессі павінны быць чыстыя, і на вялікую глыбіню, пяскі, бо Палессе — ранейшая геалагічная фармацыя ў параўнанні з поўначчу Беларусі. На поўначы ляглі напластаванні пазнейшыя, ад леднікоў. Як вядома, на Палессі каменняў няма.

— Ага... стой...— прыклаў палец да губ Кляновіч.— Вось што. Я заўтра займуся тваёй дысертацыяй, а ты сядзеш на маю машыну і паедзеш у адзін надзвычайна пескавы раён — я табе скажу куды. Там, калі вызвалілі сялян ад паншчыны, кожны гаспадар таго часу атрымаў па пяцьдзесят тры дзесяціны зямлі. Чуеш? Пяцьдзесят тры! Кулак — і ўсё! Але там жылі людзі бядней за найбяднейшых, яны не толькі не елі хлеба — яны яго не ведалі, бо гэтыя дзесяціны складаліся толькі з пяскоў. Калі селянін араў у ветраны дзень, то вецер услед за ім заносіў баразну. Вось набярэш пяску адтуль... Праверыш... Гэта будзе адгэтуль сто з лішкам кіламетраў. Устанеш рана, паснедаеш і падскочыш, дарога туды добрая, больш шашою...

Доўга гутарылі сябры — старэйшы з маладзейшым,— так што вымушаны былі яшчэ раз павячэраць па-халас-

цяцку ў кабінеце, па свойску, ціхенька, каб не збудзіць Пелагеі Пятроўны і дваіх яшчэ малых дзяцей — хлопца-школьніка і дзяўчынку. Кляновіч час ад часу ўсё ж такі гаварыў:

— Рыхтую прапановы ў міністэрства. Не ведаю, як яно будзе. Відаць, прыйдзецца... Але чорт яго бяры! За зямлю — можна... І трэба!

* * *

Рэстаран пад назваю «Хвалі» шумеў на ўсе галасы. Мешаніна іх часам давала той унісон, які можна назваць аднастайным, нават тонкім гулам. Але ён трываў нядоўга, бо вось той ці іншы з гасцей ускокваў з крэсла з паднятай чаркай у руцэ. І тады пачыналася імправізацыя на тэму... ды што тут тэма? Якая б яна ні была, усякая імправізацыя зводзілася толькі да аднаго, а іменна — да гераізму. Хто гаварыў пра ўчарашняе, мінулае або пра цяперашні дзень — гаварыў пра гераізм. Гарэлі твары, вочы бліскалі маланкамі ўсмешак. Людзі яшчэ жылі інерцыяй вайны і перамогі. Цешыліся з перамогі кожнай часцінкай сваёй душы. Усе шкадавалі Беларусь, любілі яе ў такі момант, можа, больш, як калі.

Апрача сакратароў райкомаў частаваліся ў сяброўскай бяседзе і іншыя людзі, якія не былі ўдзельнікамі пленума. Гэта — працаўнікі розных устаноў, таварышы па зброі і вайне. Пашукаўшы адны другіх, сядалі за стол, каб пацешыцца з перамогі над ворагам, прыпомніць былое, цяжкае, крывава-гераічнае.

Ля акна, амаль што ў кутку, за круглым сталом размясціліся азярышчанцы — Малашкін, Кляновіч, Грушка, Жарнавік, і ля самага акна, абапёршыся нават локцем на яго, сядзела Агрыпіна Грынчык, якая, не выпускаючы насавой хустачкі з рукі, часта выцірала свае затужаныя вочы і падоўгу глядзела ў акно. Яна сустрэлася на вуліцы з Жарнавікам, які і запрасіў яе сюды. Агрыпіна якраз вяртаецца са сваёй разведчай дарогі з грузам крыўды і абурэння. Усе толькі што селі за стол і чакалі падавальшчыцы. Малашкін устаў і прынёс адно крэсла да стала. Усе пераглянуліся з пытаннем — каму?

Малашкін зразумеў позіркі сяброў і сказаў:

— Павінен прыйсці яшчэ адзін чалавек... Нешта доўга няма.

З аддаленага кутка, як з покуця, падняліся з-за ста-

ла чатыры чалавекі і, развітваючыся ўзмахамі рук, пайшлі адзін за адным да дзвярэй. Наперадзе ішоў крыху сухарлявы чалавек з дробным тварам. У яго правільных рысах праступала водцень бялявасці, што рабіла яго нават арыстакратычным. Гэта быў першы сакратар абкома Гугновіч, знаёмы кожнаму прысутнаму сакратару райкома найбольш званкамі, а ў кабінеце — тытунёвым дымам з блішчастай люлькі, якую Гугновіч не выпускаў з зубоў. За ім ішлі яго сакратары. Яны пасядзелі, пагаварылі з удзельнікамі пленума, так сказаць, сімвалічна, сказалі тосты, выслухалі другіх і цяпер пайшлі. Ну што ж... Можа, так і трэба.

Уся група азярышчан прыйшла ў рэстаран крыху са спазненнем. Віна гэтаму — Платон Грушка. Ён толькі што вярнуўся з пескавога раёна і паказваў Кляповічу дзіўныя, бо не залацістыя, а, можна сказаць, серабрыстыя пяскі. На стале ў кабінеце Кляповіча засвяціла сваім бялява-сонечным бляскам класіка геалогіі — найчысцейшая, першародная фармацыя, нібы адкладзеная свядомай, дбайнай рукой у напластаваннях зямлі.

Кляновіч увесь час паўтараў адно і тое ж: «Гм... гм...» Ён перасыпаў гэты, здаецца, чысцейшы за ўсё на свеце пясочак, нюхаў яго, падносіў да вачэй, глядзеў праз лупу і бачыў толькі яго аднароднасць. А потым сказаў, звяртаючыся да Грушкі:

— Гэта, студэнце ты мой, і ёсць пачатак зямлі... Ты павінен апісаць гэтыя пяскі больш падрабязна, сказаць, якое месца яны займаюць у структуры зямлі. У цябе ў дысертацыі замала пра гэта сказана.

Званок тэлефона перарваў іх разважанні і захапленні. Званіў Малашкін, запрашаў на вячэру. Яны прыкрылі газетай рассыпаны роўненька па стале серабрысты пясочак і пачалі збірацца.

І вось сядзяць усе ў шуме, гомане, адпачываюць. Толькі адно незанятае крэсла кагосьці чакае. Малашкін нават паглядае ў акно, хоць з другога паверха мала што ўбачыш.

Саша ўвайшла павалі, нават баязліва. Спынілася ў дзвярах і азірала шумнае шматлюддзе — шукала вачыма свайго сакратара,— зграбная, у шэрай кофце, падпяразанай чорным блішчастым паяском, у цёмна-сіняй спадніцы з адпрасаванымі складкамі.

Вочы, урэшце, знайшлі сваіх, насустрач ішоў ужо Малашкін. Ён пазнаёміў Сашу толькі з Агрыпінай Грынчык,



У час адпачынку ў Каралішчавічах.
Злева направа: Васіль Бурносаў, Піліп Пестрак,
Мікола Ткачоў. *1956 г.*



Пілін Пестрак у санаторыі «Нясвіж».
*1958 г.*

бо з групы толькі яна не ведала Сашы. Але, нягледзячы на гэта, кожны з прысутных не мог не кінуць вокам на дзяўчыну, на яе жаўтаватую хустачку, якою злёгку прыкрывалася багацце льняных валасоў. Саша сарамяжліва абвяла ўсіх быстрым позіркам і села паміж Агрыпінай і Жарнавіком.

Падавальшчыца хутка прынесла халодную закуску — селядзец з цыбуляй і варанай бульбай. Хлеб быў крыху жаўтаваты, бо з дамешкай ячменнай мукі. Падавальшчыца пайшла, гаспадарыць пачаў Малашкін. Разліваў чыстую «маскоўскую» па чарках, а Саша тым часам упарадкавала ўсё на стале. Зняла вазончык з кветкамі і пераставіла на акно, бо ён, стоячы пасярод стала, замінаў бачыць адным другіх. Жарнавік, распраменены пачуццём таварыскасці, часта папраўляў свае акуляры і час ад часу са святой пашанай глядзеў на профіль Сашы, на яе апушчаныя вейкі, ад якіх падаў цень пад вачыма. Агрыпіна ўсё больш глядзела ў акно, і таму Жарнавік цішком пачаў расказваць Сашы пра Агрыпініну цяжкую, незвычайную долю. Саша, слухаючы, паглядала на яе, а потым спынялася на акулярах Жарнавіка, пад якімі бачыла чорныя, з карычневым адценнем вочы, поўныя іскраў захаплення чалавечым гераізмам.

Саша толькі дакранулася губамі да свае чаркі і паставіла назад, чаго не мог дапусціць акулярысты сусед. Ён усё ж такі прымусіў Сашу выпіць паўчаркі, у чым памагла і Агрыпіна. Малашкін, Кляновіч і Грушка ў сваю чаргу гаварылі пра Серадзібор. Свае меркаванні аб ім найбольш выкладаў Грушка.— «Серадзібор» мае ўсе ўмовы на тое, каб быць выдатнай гаспадаркай,— даводзіў ён,— бо там могуць і будуць расці не толькі зерневыя культуры, але і кармавыя. Багацце гліны дасць магчымасць мець цагельню, а можа, і не адну, рыбнае возера — рыбную гаспадарку, ды такую, што зможа задаволіць рыбай палавіну сталовых вобласці. Тэхнічныя культуры — такія, як каноплі, лён — могуць азалаціць калгас. Трэба арганізаваць здабычу ілу ў возеры і ім укрываць супескі...

Многа чаго гаварыў Грушка, а Малашкін усё паўтараў.

— Усё зробім... усё зробім...

— «Серадзібору» ўжо неабходны аграном... Толькі вопытны... Не лежабока, які пускае паверх рук,— гаварыў далей Грушка.

— О, добра, што напомніў,— амаль ускрыкнуў Кляновіч.— Даўно маю на думцы даць вам аграномa. Я яго на-

мецціў, ёсць такі. Я нават ужо гаварыў з ім. Ён сказаў, што ў палескі калгас пойдзе з ахвотай. Аграном — во!

Тым часам Агрыпіна вяла ціхую гутарку з Сашай, расказвала пра сябе; часам слязінка набягала на вока, яна яе змахвала хустачкай, а Саша ў такі момант глядзела Агрыпіне ў вочы з невымоўнай журботай, падзяляючы яе перажыванні.

— Так... гэта ўсё страшна і цяжка, аб чым вы гаворыце. Але што ж рабіць? Як памагчы такому гору?.. Трэба жыць, можа, яно разыдзецца...— гаварыла Саша, суцяшаючы Агрыпіну. А тая нават нахмурылася і адказала:

— Злачынцы павінны быць пакараны! Вось што! Тады... тады, можа, і палягчэе на сэрцы.

Жарнавік пачаў гаварыць пра зямлянкі, якіх у Азярышчанскім раёне нямала, і расказаў, што вось ён збіраецца дабрацца ў сваю спаленую вёску і аж дасюль не можа гэтага зрабіць. Зацягаўся зусім па свеце. Вайны ўжо няма, а ён, Жарнавік, усё яшчэ ходзіць па-ваеннаму — дзе спыніўся, там і выспаўся.

— Хачу папрасіць Сцяпана Пятровіча даць мне газік даехаць да свае вёскі, а то зноў абарвецца маё старанне. Маці турбуецца, ужо гневаецца...— гаварыў Жарнавік.

— Вось вернемся ў Азярышча, атрымаеш газік. Гэта, брат, злачынства з твайго боку: да гэтага часу не адведаць маці...

Жарнавік усміхнуўся, пачаў сатырыкаваць:

— Навошта мне адведваць? Там усё ў парадку, больш таго, рэдакцыя нашай газеты «Шлях» заклікае ўпрыгожваць нашы вёскі...

— Як упрыгожваць? — адначасова задалі пытанне і Малашкін і Кляновіч.— Што значыць упрыгожваць?

— Значыць, вы не чытаеце газет,— адказаў Жарнавік і выняў з кішэні газету «Шлях».

Разгарнуўшы яе, паказаў сябрам перадавую, чорны загаловак якой гаварыў: «Упрыгожым нашы вёскі».

Усе адчулі, што яны ў нейкім тупіку. Як гэта ўсё разумець? Якія вёскі? Як жа ты ўпрыгожыш зямлянкі?

— Залатая, залацістая — ах, ну, проста намыленая ідылія! — заліваўся, ахаючы, Жарнавік.

Малашкін калупаўся відэльцам у бульбе і шаптаў:

— Ідыёцтва... Ідыёцтва...

— Ці яны падурнелі там? — абураўся Кляновіч.

— Яны пішуць так, каб можна было пісаць і не думаць,— уставіў сваё Грушка.

— Гэта ўсё роўна,— сказаў Жарнавік,— як у нашай вёсцы быў некалі такі бедны легкадумны дзядзька. Недзе яму трапілі ў рукі белыя манжэты. Ён надзеў іх на рукі, пад зашмальцаваныя рукавы. Ішоў па вуліцы і, каб звярнуць на сябе ўвагу, мацаў манжэты і прыгаварваў: «Ах, манжэты запэцкаюцца, каб на іх халера...» Дык вось і рэдактар «Шляху» стаў такім манжэтнікам.

Смех набіраўся паволі, але кожны здушваў яго ў сабе. Аднак першы «зламаў фронт» Кляновіч, за ім пырхнуў у талерку Грушка. Не выцерпеў і Малашкін. Ён пачаў праз смех прыгаворваць:

— Спрытна! Дасканальна! — І, падымаючы чарку, прамовіў: — Ну, дык упрыгожым нашы зямлянкі!

Рогат стаў агульны.

— Не... гэтую газету буду хаваць. Павязу ў Мінск на нараду,— сказаў Жарнавік.

Агрыпіна сядзела якраз насупроць Малашкіна, і таму ён час ад часу пазіраў на яе, сачыў за тым сумам, што застыў на абліччы, за ўсмешкай, якая часам з'яўлялася, як той бляск сонца з-за хмары. Хацелася перакінуцца словам, але нешта перашкаджала — ці то не хапала адвагі, ці то было боязна зачапіць чалавечыя раны, бо гутарка з Агрыпінай не магла абысціся без таго, каб не крануць мінулага. Але пагутарыць трэба. І Малашкін, не знайшоўшы чаго другога, пачаў з крыху нібы далікатнага.

— Агрыпіна Іванаўна! — не сказаў, а клікнуў Малашкін.— Дзе вас так абагрэла сонца? У якім краі?

— У сваім краі, толькі ў сваім... А дзе ж? А што? Хіба я ўжо так загарэла?

— Не вельмі, але ёсць... Трэба сказаць, што сонца на Беларусі лагоднае. Пры такім сонцы толькі і расці дзяўчатам-красуням,— нібы разважаў, усміхаючыся, вясёлы Малашкін.

Саша вяла нейкую заўзятую гутарку з Жарнавікам і не пачула, што сказаў Малашкін.

— Вы не так даўно на Беларусі, Сцяпан Пятровіч, а ведаеце ўсе яе прыкметы,— ужо тонам жарту сказала Агрыпіна.

«Добры знак,— падумаў Малашкін,— можа, жанчына і распагаднее».

Прыслухоўваліся да гэтай гутаркі і Кляновіч з Грушкам.

І раптам, як згаварыўшыся, мужчыны, апрача Жарнавіка, з добразычлівымі ўсмешкамі працягнулі свае чар-

кі да Агрыпіны. Усім хацелася выказаць ёй некалькі шчырых, таварыскіх слоў.

— За вашае здароўе! За жыццё! — прамовіў Малашкін. Яна чокалася сваёй чаркай і дзякавала. Усе бачылі, як паволі адтайваў, сходзіў з твару той закамянелы сум, які так адрозніваў Агрыпіну ад другіх.

— Як бачу, то вам я магу трошкі што-небудзь сказаць... Загарэла я, як сказаў Сцяпан Пятровіч, на балоце і ў лесе... Пахадзіла доўга, магла б і загарэць. Была такая нагода...

Вядома, сябры, а ў першую чаргу Малашкін і Жарнавік, сёе-тое чулі пра разбойную работу бандытаў. Але іменна — толькі сёе-тое. Бо афіцыйныя звесткі былі скупыя. І таму з цікавасцю падрыхтаваліся слухаць Агрыпіну. А яна гаварыла:

— Банды былых паліцаяў і бульбаўцаў не сунімаюцца. У той акрузе ніхто ў сёлах не хоча быць нават старшынёю сельсавета. Баяцца. Расплачваюцца больш нашы разведчыкі — усё больш праз сваю неасцярожнасць. Іх сем'і бандыты проста вырэзваюць. Тая ваколіца, дзе я была, жыве ў пастаянным страху. Бандыты на адным месцы доўга не стаяць. Пераходзяць у заходнія вобласці Украіны. Там забіваюць нашых, тады ўцякаюць сюды, у Беларусь...

Агрыпіна на момант спынілася, перадыхнула і дадала:

— Мацей Гусак жывы, камандуе хеўрай галаварэзаў. Нядаўна група нашай міліцыі накрыла бандытаў, захапіла аднаго ў палон. Бандыт на допыце сказаў, што Гусак са сваімі галаварэзамі рыхтуецца перабрацца ў наш Азярышчанскі раён...

Пры апошніх словах усе пераглянуліся, паціснулі плячыма. Малашкін слухаў, не спускаючы вачэй з Агрыпіны. Думкі яго ўжо ляцелі ў свой раён, намацвалі вачыма дарогі, лясы, ставілі заставы, узбройвалі насельніцтва. Рыбін жа павінен нават начаваць у газіку.

Ці ў зале рэстарана так шумна, ці то лес шуміць на азярышчанскіх дарогах, абстраляных партызанскай вайной? І ён, той Серадзібор, што хавае столькі падзей у сабе, што ахоўвае сон такіх, як Андрэй і Алеся Грынчыкі, што абласквае і загойвае раны тых, што асталіся жывыя і шукаюць уцехі ад нечуванай крыўды — ходзяць па сваёй, адваяванай у ворага, зямлі з вялікім сумам у душы.

Яшчэ дзейнічае інерцыя вайны. Душа яшчэ чуе ворага... ужо на фронце працы...

— Супакойцеся, Агрыпіна Іванаўна,— сказаў Малашкін.— Адолеем усё, і Гусаку будуць канцы...

Шум у зале то прыціхаў, то ўзнімаўся з новай сілай. У вокны ўжо глядзела цёмная асенняя ноч... А людзі не хацелі заўважаць гэтага — шумелі, перагаворвалі многае, чаму і канца няма. Вельмі вялікія і цяжкія падзеі, справы ўпалі на плечы, на грудзі людзей, якія выкавалі ў сабе штодзённае, вялікае, імя якому — гераізм.

Так, вайна душ не спынілася. Пра гэта ведаюць усе.

І таму нічога няма дзіўнага ў тым, што з аддаленага кутка залы пачулася ўсім знаёмая, гераічная песня:

Пусть ярость благородная
Вскипает, как волна,
Идет война народная,
Священная война...

Ніхто не сказаў — устаць. Але ўсе, хто быў у зале, падхапілі песню і ўсталі. Не ўстаў толькі адзін чалавек. Гэта Агрыпіна Грынчык. Яна, наадварот, упала галавою на стол і заплакала. Ласкавая рука Сашы лягла ёй на плячо...

## НЕШТА НА ПАЧАКАННІ

Залацістыя тоны восені навокал. У іх застылі ўзгоркавыя палі, задумаліся пералескі, дзе паміж сосен рахмана туляцца ў сваім жоўтым убранні бярозы. А калі дарога нырне ў доўгі лес, густое, прыветнае зацішша лашчыць душу, гоіць яе раны...

Маўклівы і крыху насуплены едзе ў газіку Аляксей Жарнавік. Подступы трывогі і нейкага жалю час ад часу падплываюць да сэрца. І Жарнавік сам не ведае, чым вытлумачыць сабе такі настрой. Прахадзіў нямала ваенных дарог пад бамбёжкамі, абстрэламі — усюды брала верх вытрымка. Калі на допытах палонных гітлераўцаў перакладчык Жарнавік задаваў ворагу пытанні, яму здавалася, што ён дапытвае ўсю гітлераўскую Германію. А тут на родным, з дзяцінства знаёмым полі агортваюць трывога і жаль. Незабыўныя гукі дзяцінства! Яны ажываюць, і тады ласкаю поўніцца сэрца да ўсяго, што яго гадавала: і да таго, што аджыло і адышло разам з дзядамі, і да таго, што вырасла пасля і расце цяпер. Цягнецца канва жыцця беспярапынна, і ўсё новыя ўзоры з'яўляюцца на ёй. Ці не

капалі на іх жаночыя, мацярынскія слёзы? Так, капалі... Капалі ў думе жыццёвай, вялікай. Вось гэта яно, відаць, і ёсць, што цябе з глыбінь жыцця трывожыць. Пасумаваць над зямлёю на адзіноце — значыць, аблашчыць яе і даць ворагу яшчэ большы, яшчэ мацнейшы адпор...

Жарнавік едзе да маці, якая некалі вазіла яго ў беларускую гімназію ў Вільню. Пры ўваходзе на падворак Базыльянскіх муроў, дзе месцілася гімназія, дала сыну ў руку торбачку з хлебам і кавалкам сала, пагладзіла па галаве і са слязінкай у вачах адпусціла, благаслаўляючы: «Глядзі, добра вучыся, шануй настаўнікаў...» І яшчэ доўга глядзела ўслед.

Іншая справа, што не давялося шанаваць тых настаўнікаў да канца. Яны самі ў гэтым вінаваты. Месца пашаны заняла барацьба з імі... Мама... свая, добрая мама... А ён, Аляксей, народжаны вайною журналіст, пасля дэмабілізацыі не паспяшаўся да гэтай мамы, а пайшоў за гукамі жыцця пасляваеннай радзімы — з мястэчка ў мястэчка, з вёскі ў вёску — да розных сакратароў райкомаў, да старшынь калгасаў, да дзядзькоў пасівелых, да нястомных цётак і іх дочак-красунь. Дзе тыдзень, дзе два. Так і разабраў лета, у чым памаглі і ад'езды ў Мінск. Ах, якое ж багатае жыццё на дарогах радзімы, багатае на сілу, нястомнасць, на вялікую тугу па лепшым, заўтрашнім дні. Многа пра яго запісана ў незлічоных блакнотах Жарнавіка, і разам з тым недзе ў глыбінях душы расце думка, міжвольнае жаданне — апісаць гэтую вялікую плынь, як тую шырокую дарогу, якой і канца не відаць удалечыні...

Жарнавік ведаў, што яго вёска Падлессе спалена. Можа, і гэта неяк інстынктыўна затрымлівала яго не спяшацца дахаты, а паглядзець спярша на бяду іншых, каб лягчэй успрыняць сваю.

Малашкінскі газік імчаў на ўсю сваю моц — то спускаўся ў даліну, то ўзнімаўся на гару, і, гледзячы здалёк, можна было падумаць, што гэта паўзе вялікі жук.

Вёска Падлессе, ад якой асталася толькі назва, тырчала на лёгкім раўнінным узвышшы. Іменна — тырчала. Бо як жа інакш назваць, калі паабапал вуліцы тырчала ўсё — абламаныя коміны печаў, абгарэлыя ствалы дрэў і нават жураўлёў пры студнях. Дзе-нідзе паасталіся абсмаленыя шулы ад платоў — таксама тырчалі па адным. А там, дзе канчаецца вёска, у сасновым ляску, тырчалі крыжы. Многа іх там ужо новых — то па адным, то гурткамі, брацкіх...

Газік ехаў па вуліцы ціха, і Жарнавік меў магчымасць разглядаць папялішча і ўспамінаць, дзе што было. Спакойнае сонца прасвечвала гэтыя руіны, здавалася, аж да дробязей — да апошняга абломка цагліны, да апошняга каменьчыка. Яно паласкалася ў залацістых валосіках дзяцей, што, найбольш у адных сарочках, без штонікаў, групкамі корпаліся ў пяску. Паволі праходзілі жанчыны з падворка на падворак. Агароды не былі пустыя — людзі абсадзілі іх і бульбай, і капустай, і іншай гароднінай, ад чаго ў Жарнавіка нават усмешка зайграла ў душы. З кожнай зямлянкі пры самай зямлі цьмяна, як сляпое вока, глядзела адно акенца на вуліцу — з дзвюх шыбак або з адной. У некаторых цьмілася такое ж самае акенца ад падворка. Стрэхі зямляныя, пазарастаны ўжо травою, над імі — адмысловыя коміны, у каго з бляхі, у каго з дошак, а ў некаторых з сапраўднай цэглы. «Ці пазнаю зямлянку сваёй маці?» — падумаў Жарнавік, кіруючы позірк на левы бок вуліцы. Павінна быць пры вуліцы бяроза, а за хатай на ўзмежку старая груша. Няўжо і яна згарэла?

Жарнавік пазнаў сваю бярозу, хоць яна была з абгарэлым бокам, а другі — лісцісты — ужо губляў свае пажоўклыя блёсткі. Газік спыніўся супроць неширокай зямлянкі з акенцам на дзве шыбкі. На двухскатнай зямлянай стрэшцы была зжата трава з зеллем, ад якога тырчалі агузкі бадылля.

Жарнавік з шафёрам занеслі на падворак два чамаданы. Адзін асноўны — падарожны, у якім Жарнавік у строгім салдацкім парадку паклаў бялізну, боты, кепку і на самым дне — чысты ваенны мундзір з маёрскімі пагонамі, тры хусткі жанчынам, у якія была закручана бутэлька «маскоўскай». Другі чамадан Жарнавік купіў у абласным цэнтры, ад'язджаючы з пленума. У ім уклалася шэсць буханак хлеба і чатыры бляшанкі так знаёмай салдату свіной тушонкі.

Ляснулі дзіравыя дзверцы, і, сапраўды як з-пад зямлі, выйшла Жарнавікова маці — памаршчынелая жанчына з пасівелымі валасамі. Яна хутка, на хаду, завязвала хустку, заціскаючы вузел. Рослая і босая, выйшла і толькі крыкнула: «Сынок!» — усю рэшту слоў, што хацелі вылецець з затужанай душы, утапіла ў маўклівым абдымку і плачы. Вільготныя Жарнавіковы вочы блішчалі і моргалі пад акулярамі. Ён трымаў сваю маці ў абдымках і прасіў узмужнелым, нават крыху жорсткім голасам:

— Мама, ну даволі ўжо. Вядзі ў хату.

— Ой, якая тут хата. Бяда наша... Заходзьце,— адказала яна, запрашаючы і шафёра.

Жарнавік, увайшоўшы, вымушан быў зняць акуляры і працерці іх, каб агледзецца ў змроку. Сонца ўжо схілілася на поўдзень. Відаць, яно зранку прабіваецца праз зала на поўдзень... смучанае акенца, а пасля цэлы дзень пануе морак па кутках. Перад акенцам стаяў маленькі столік з дзвюх дошак і перад ім — услончык. Пры сценах — нешырокія лавы. На адной, ля самага століка, стаяла прыпёртая да сцяны прасніца з кудзеляй. Направа ў глыбіні — палок, які ўпіраўся ў печку з плітою. Над печкай віселі ўжо вязанкі цыбулі і нейкага зелля. Госці селі, а Жарнавікова маці, Аксеня, усё казала:

— Вось як мы жывём... Ледзь з душою асталіся. Марыля пайшла з дзецьмі па грыбы. Трэба ж насушыць трошкі на зіму. Сала ж няма... Ой, гора наша...

А потым маці супакоілася і пільна ўглядалася ў сына. Выціраючы вочы, ужо крыху супакоеная, гаварыла:

— Пастарэў ты, сынок. Зусім мужчынам стаў. Адзін ты і астаўся ў мяне. Усе мужчыны нашы загінулі. І Марылін і Ганнін. Пакінуў Ганне чацвёра — адно пад адным. І як мы вылезем з гэтай бяды, не ведаю...

— Цераз год, два...— сказаў Аляксей.

— Ого, каб праз два, гэта б яшчэ нічога... Ды нешта не верыцца, каб так хутка. Вельмі многа паніпчана ўсяго.

Пасля гэтых слоў Аксеня ўстала, можна сказаць, усхапілася.

— Чаго ж я сяджу? Загаварылася. Пачастую вас, чым магу. Ёсць капуста з грыбамі ў грубцы і камякі. Вось і ўся наша яда. Жывём без хлеба...

Тут Аляксей адчыніў чамадан і паклаў на столік шэсць фармавых буханак хлеба, якія напоўнілі гэту зямлянку нейкім даўнім хатнім пахам. Чатыры вялікія бляшанкі свіной тушонкі нават асвятлілі цёмныя куткі. Аксеня клала хлеб і ставіла тушонку на паліцу і гаварыла пра сон, што сніла ноччу. І вось — удача. Сын пачаў асвойвацца, як кажуць, з абстаноўкай і ўсміхаўся, слухаючы пра матчын сон аб... хлебе. Бедная мама...

Дзверцы глуха зарыпелі, і ў хату ўвайшла Ганна, старэйшая Аляксеева сястра, з ёю шуснулі адно за адным тыя чацвёра, пра якіх успамінала маці. Самае малое, у падраных штоніках, трымалася за Ганніну спадніцу.

— Ой, братка, што ж ты нас забыўся? Чакалі цябе, чакалі... А цябе ўсё няма і няма,— гаварыла Ганна.

Аляксей усяк адгаварваўся, казаў пра розныя прычыны і адначасова ўглядаўся ў яшчэ малады, але змучаны твар сястры.

А сястра ўсё сваё:

— То, можа, пажывеш у нас даўжэй?

— Пажыву, Ганна, пажыву,— адказваў неяк аўтаматычна Аляксей.

Паабедалі з хлебам, чаркай і тушонкай. Старая Аксеня дала па кавалачку хлеба дзецям і па кавалачку тушонкі, нібы тую колішнюю скварку, якой цяпер не было. Дзецi елі і не спускалі вачэй з двух добрых дзядзькоў, што прывезлі такога смачнага хлеба. Ганна выцірала дзецям тварыкі фартухом і крыху плакала, нічога не кажучы пра сваю жаночую асірацеласць. Усе разумелі прычыну і так.

Назаўтра, калі сонца паднялося высока і пачало абаграваць Аксеніну зямлянку, Жарнавік выйшаў на двор і падаўся на агарод пад высокую разложыстую грушу. Там сеў і расхінуў сарочку, каб даць сонцу палашчыць грудзі даўнім знаёмым цяплом, як некалі ў пастухоўскія, а пазней і ў студэнцкія гады. Пісаў у блакноце, курыў, а сонца не сыходзіла з грудзей — сваё, ласкавае сонца. Падышла маці і пачала пытацца: стаўчы камякі з бульбы ці няхай будуць адваранкі. Сын сказаў, што няхай будуць адваранкі, і пацікавіўся, ці дала яна Ганне хлеба.

— От, які ты дзіўны... Як жа не даць? Яна б'ецца, як тая рыба аб лёд. Дзеці яшчэ малыя, помачы няма...

Аксеня прыгледзелася да сынавай сарочкі, потым адвярнула каўнер і пакiвала галавою:

— Занасіў ты зусім сарочку, сынок. Скідай, памыю, кавалачак мыла ёсць. Давай усю бялізну, калі маеш... Пара б табе ўжо ажаніцца, сынок...

— Вайна яшчэ не дае...

— Я нагрэю вады, памыйся ў начоўках...

Аляксей разрагатаўся.

— Мама! Не хачу ў начоўках! Ой...— не сціхаў смяяцца Аляксей нават нейкім горкім смехам.

— А дзе ж ты памыешся? Лазні ж няма... Вунь Мікалай Вайткевіч не раўня нам — багач, і то мыецца ў начоўках. Іншай лазні і не хоча.

— Ну добра, нагрэй, памыюся ў тваіх начоўках... Што зробіш? А скажы, мама, як жыве і што робіць Мікалай Вайткевіч?

— Ён жа бургамістрам быў у Азярышчы пры немцах.

— Гэта я ведаю... Усё ведаю...

— Што робіць? — паўтарыла Аксеня і глянула ўдаль, за агароды, дзе за кіламетры тры віднеўся хутар з садам Мікалая Вайткевіча.— Нічога ён не робіць. Кажуць, хоча быць садоўнікам у калгасе... Але — невядома... Нешта ў яго ні туды ні сюды — як табе сказаць... Нешта па пачаканні...

Аляксей з пашанай глянуў на сваю такую разумную маму і ўстаў.

— Трэба мне заўтра да яго схадзіць,— сказаў ён.

* * *

Дзень выдаўся шэры і нават ветраны, калі Аляксей Жарнавік сабраўся ў недалёкую дарогу — адведаць Мікалая Вайткевіча. Ужо вечарэла, і ветраная шэрасць дня абяцала па-асенняму халодны і змрочны вечар.

Жарнавік ішоў паволі, углядаючыся ў разлогі палёў і шукаючы ў іх тую ці іншую з дзяцінства знаёмую прыкмету — прыдарожны камень, на які ўзлазіў хлапчуком, каб з яго гукнуць на ўсю даліну, як у лесе, прыдарожную грушу, да якой і ад якой мераліся вёрсты да шляху, пры якім стаяла сельская школа ў полі пад разгалістым ясенем — на некалькі сёл адна. Даўно гэта было і быллём зарасло. Гэтую старую, як даўнасць, школу, якая некалі туліла сялянскіх дзяцей, спалілі немцы. Пагаворваюць аб пабудове новай на тым самым месцы. На нейкую хвіліну захацелася Жарнавіку зрабіцца малым і паўтарыць дарожку ад свайго Падлесся да школы. З'явіліся перад вачыма заснежаныя палі і на іх завірухі і слоты, і той ціхі, радасны снег, ад якога, здавалася, цяплелі хаты і людзі. А ў школе — цішыня пры занятках. Ідзе чытанне пра сінічку, што ў зімовую сцюжу прыляцела, бедная, да акна сялянскай хаты... «Як часта ты мне снілася, мілая птушачка,— думае Жарнавік.— І на ваенных дарогах не раз прылятала ў сне, і я шкадаваў цябе дзіцячым сэрцам, як тады на школьнай лаўцы...»

Вось і вечар апускаецца, вельмі падобны на даўні, перажыты, з халоднымі меднымі бляскамі сонца, што заходзіла за хмары. Жарнавік ідзе праз вялікі Вайткевічаў сад — недагледжаны, абветраны, акінуты сад. З паўночна-заходняга боку яблыні задралі галіны, і яны тырчаць, прыўзнятыя, як бароды. У садзе пануе пустэча, адзінота. Ён цяпер ужо калгасны і яшчэ не мае садоўні-

ка. Пад парываннямі ветру дрэвы шумяць панура, ківаюцца і ківаюцца, наганяючы беспрытульнасць.

Вось і дзядзінец, які калісь, яшчэ як тут жылі не Вайткевічы, а іншыя гаспадары, называўся дзядзінцам фальваркавым. А потым, пры новых гаспадарах, гэтая назва паволі адпала. Бо новы гаспадар не быў шляхціцам, а звычайным селянінам. Не прыставала слова «дзядзінец» да селяніна, які б ён багаты ні быў. А цяпер можна было лічыць, што і дзядзінца няма. На ім параслі густыя кусты — дзе бэзу, дзе язміну, бузіны і яшчэ нейкіх раслін. Было відаць, што яны раслі, дзе хацелі і як хацелі. Іх нехта абгрызаў — можа, каровы, можа, коні, а найбольш, мабыць, козы, бо з густой лістоты шмат тырчала агузкаў. Кусты густа і змрочна шумелі, навяваючы нешта пустэльнае, здзічэлае. Асабліва дадаваў такога ўражання малады чысты бярозавы лясок побач з дзядзінцам, ужо нямала прарэджаны, дзе танкаствольныя бярозы гнуліся і гнуліся, нібы хацелі дакрануцца да зямлі і не маглі.

Жарнавік спыніўся, і яго абнялі глухія, нічым не стрыманыя шумы, сярод якіх стаяла старая бацькоўская хата з мутнымі шыбінамі ў невялікіх вокнах. Мікалаеў бацька, Вайткевіч Дарафей, загадаў накрыць хату саломай, хоць меў магчымасць накрыць не толькі гонтамі, але і чарапіцай або бляхай. Меркаванні бацькі пра гэта былі такія: салома — гэта не толькі таннасць, але і цяпло, а значыць, эканомія апалу. А што датычыць пажару, то гэта залежыць ад бога. Страха, вядома, ужо даўнавата паспела замшэць і грузна апускалася над вокнамі, якія люстравалі ў сабе тыя медныя блікі, што доўгай палосаю застылі далёка над цёмнымі палямі.

Жарнавік не чакаў такой запушчанасці. Пра Вайткевіча хадзіла слава як пра чалавека пісьменнага, нават свайго роду таўстадума. Гэта таўстадумнасць, трэба лічыць, ішла ад таго, што Вайткевічы нікуды не збіраліся з'язджаць са свайго хутара, са свае мясціны, і таму канвою іх паводзін і наогул жыцця былі мясцовыя інтарэсы. Адсюль Мікалай Вайткевіч вырас у мясцовага палітыка. Вядома, палітыку, якога б маштабу ён ні быў, заўсёды хочацца, дый трэба, заручыцца давер'ем і пашанай людзей, каб потым выйсці наперад і імі кіраваць. Лінія мясцовага палітыка, калі ён ім хоча быць,— гэта памяркоўнасць у адносінах да людзей. У памяркоўнасці няма пыхі, зазнайства, пераважае імкненне ўвайсці ў курс спраў чалавека. Тут, зусім натуральна, былі такія меркаванні,

значымасць якіх заключалася ў тым, што яны мелі ў сабе элементы грамадскіх матываў. Гэта ў вачах людзей рабіла лепшым Мікалая Вайткевіча. Нездарма яго бацька, Дарафей, любіў гаварыць часта: «Ніколі не сварыся з людзьмі, бо прайграеш». У гэтым свайго роду афарызме адчувалася здабытая жыццёвым вопытам тактыка маладой нацыянальнай буржуазіі, якая паволі вылуплівалася з закарэлага, лапцюжнага гнязда патрыярхальнасці. Гаспадарлівая эксплуатацыя наёмных рабочых ад цёмнага ранку да цёмнага вечара, потым выплата пад відам «каб не пакрыўдзіць», а то могуць, чаго добрага, спаліць. Ашчаднасць нельга было назваць эканоміяй, а толькі скупасцю. І, кіруючыся гэтай благаславёнай скупасцю, гаспадар, хоць тросся, але надбаўляў рабочаму капеечку, як той анучнік перцу. Усё гэта дзеля таго, каб не пасварыцца.

Мікалаеў бацька быў чалавек непісьменны. А сын, хоць і вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, насіў вопратку бацькаўскай спадобы. Гэта павінна было выклікаць пашану ў навакольнага сялянства. Саматканая сівая даўгавечная куртка з авечай воўны, саматканы гарнітур з чорнага сукна, штаны, засунутыя ў халявы простых ботаў, і кепка — вось тая нібы дэманстрацыя супроць беднацкага марнатраўства, хоць у беднякоў і не было чаго траціць.

Жарнавік не паспеў дакрануцца да клямкі, як дзверы адчыніліся і прад ім стаў высокі Мікалай Вайткевіч, галавой схаваны недзе ў поцемку падстрэшша.

— Вітаю вас, вітаю... даўно чакаў...— крыху нават заікаючыся, з нейкай доляй сарамлівасці прамовіў Вайткевіч.

— Вось... надумаў вас адведаць...

— Заходзьце ў хату.

Жарнавік пераступаў высокі парог і думаў: «Дык гэта ён ашукваў эсэсаўцаў, адводзіў бяду ад вёсак і ад людзей? Пагаворым...»

Па затаптанай падлозе гаспадар з госцем дайшлі да стала на покуце і селі. Жарнавік непрыкметна аглядзеўся навокал. Направа — пячная сценка-перагародка, запыленая, амаль чорная, і ўсюды — навала чымсьці напханых мяшкоў. Яны грудзіліся адзін на другім, нібы кінутыя да часу. Налева, пры сцяне, аж да самага стала ляжала пасечаная сякерай на шырыню лавы кулявая салома, ужо змятая і счарнелая. Відаць, на ёй спаў сам Вайткевіч. Павуцінне звісала са столі, яно запляло і два абразы на

покуце. Заплеснелая бацькаўская даўнасць. І ў ёй жыве высокага росту чалавек, які быў мясцовым палітыкам і які не хоча нічога мяняць у гэтай даўнасці.

Недзе з аддаленага кутка, з-пад кухні, прабіраючыся праз навалу мяшкоў, выйшла сястра-гаспадыня год пад пяцьдзесят — уся шэрая, у абносках з галавы да ног. Жонка Вайткевіча памерла даўно ад родаў, сын памёр ужо дарослы, захварэўшы на сухоты. Мясцовы палітык другі раз не жаніўся. «Няўжо так можна збяднець, апусціцца, значыць — страціць цікавасць да жыцця?» — думаў Жарнавік, седзячы ля стала насупроць Вайткевіча.

— Вось думаю... садаводам пайсці ў калгас,— гаворыць гаспадар аплеснелай даўнасці.

— Вас чакаюць, Мікалай Дарафеевіч... Людзі пра вас гавораць добразычліва.

— Хто ведае, хто ведае... У мяне з людзьмі, здаецца, сварак не было, стараўся, як мог. Падлесся вашага не было б на свеце, каб не я. Атрад эсэсаўцаў ужо ехаў расправіцца. Я сказаў камандзірам, што бяру на парукі ўсю вёску... А прычынай было тое, што ваша моладзь не захацела ісці ў паліцаі — у гэтую самую ахову. Душылі тэрорам увесь раён... ой, што тут было... Я сам ледзь астаўся жывы...

І Вайткевіч паківаў галавою.

Жарнавік глядзеў яму ў твар, яшчэ чырванашчокі, з рэдкімі маршчынамі. У русых валасах, зачэсаных угору, пракідалася па адной сівай валасінцы. Спытаўся, колькі Вайткевічу год.

Той усміхнуўся і сказаў:

— Мне ўжо семдзесят шосты... Парадкам, парадкам...

— Дазвольце вам сказаць,— што ж вы так апусціліся?

Вайткевіч адказаў не адразу. Паглядзеў у пацямнелае акно і пачухаў патыліцу, а потым, як вымушаны, сказаў:

— А... няхай... Варушыць усё гэта не варта... Нашто?

— Прабачце, вы ж проста, мне здаецца, гінеце,— развёў рукамі Жарнавік і дадаў: — Нашто гэта?

— Усяму свой канец...— махнуў рукою Вайткевіч і крыва ўсміхнуўся.

Жарнавік падумаў: «Не хоча казаць».

Так, Мікалай Вайткевіч сапраўды не хоча казаць. Ён тоіць свае думы, не хоча актыўнічаць, чагосьці чакае ў жыцці Мікалай Вайткевіч. Вось, напрыклад, з Несцерам Падковам ён меў бы іншую гаворку. А інтэлігентаў баіцца — не давярае. Але дарэмна думаць, што Несцер пахва-

ліў бы яго за апушчанасць. Не, не пахваліў бы, але і... не караў бы. Сказаў бы адно: «Хочаш пажыць на чаканні — пажыві... Ад людзей ты нікуды не дзенешся, вернешся. Дзверы табе адчынены, не грэбуй гэтым...»

Жарнавік вяртаўся дахаты і папракаў самога сябе: «Ну нашто я кінуўся дакараць яго ў запушчанасці? Папсаваў толькі гаворку. Дрэнны з мяне дыпламат. Але... з другога боку — праз гэта выявілася душэўная траўма мясцовага палітыка, які і цяпер не перастае ім быць... Ён ім хоча быць. У гэтым, відаць, сакрэт — «на пачаканні».

## ВЫЯЎЛЕННІ І РАШЭННІ

Перад ад'ездам з пленума Сцяпан Малашкін пабываў на прыёме ў сакратара абкома Гугновіча. Расказаў яму пра забівачкаўцаў, як яны ўночы аралі зямлю — кожны сваю палоску. Гугновіч не мог схаваць свайго хвалявання і хутка пачаў набіваць люльку тытунём, пасля чаго заснаваў уздоўж стала, раўнамерна, з прыпыначкамі. Гугновіч доўга маўчаў. Малашкін сядзеў выпрастаны, з посным тварам чакаў голасу сакратара. Урэшце Гугновіч кашлянуў і спыніўся ля стала.

— Вось што, Малашкін... Становішча няважнае. Як у цябе там з дзяржбяспекай?

— Начальнік у нас харошы, капітан Рыбін, справу сваю вядзе добра.

— Можа, каго варта было б за грыву? Як думаеш?

— А можа, мы, Міхаіл Міхайлавіч, утрасём гэтую справу без грывы.

— Упэўнен у гэтым?

— Мне здаецца, што справа тут не такая ўжо страшная. Трэба пагаварыць з людзьмі. Можа, змяніць старшыню калгаса?

— Во! Змяніць! Правільна! — нават ускрыкнуў усцешаны Гугновіч і напаўголасу, нібы сабе пад нос, дадаў: — Зняць яго, мярзотніка...

Потым твар яго зморшчыўся. Пыхнуўшы дымам з люлькі, Гугновіч быццам што прыпамінаў... Выкрык «Ага!» выявіў, што ў памяці злоўлена тое, што трэба.

— А што з сябе ўяўляе ваш Рыбін? Якія гэта ён там вядзе павучальныя гутаркі з моладдзю па сёлах? Што — ён прапаведнік? Нясе там нейкую адсябяціну.

Малашкіну часам думалася ў Азярышчы, што нешта

такое можа быць, як гэтыя пытанні Гугновіча, і ён баяўся іх. І вось яны з'явіліся. Ну што яму адказаць? Малашкін ведаў тыя стрункі Гугновіча, якія называюць слабымі. Гугновіч хацеў, каб яго называлі не афіцыйна «таварыш Гугновіч», а па імю і па бацьку, і другое — любіў, каб яго прасілі. Малашкін учапіўся за гэтыя «стрункі», нават устаў з месца і ступіў крок да стала. Трэба як мага ратаваць капітана Рыбіна — разумнага начальніка бяспекі і прапагандыста. Ён для савецкай улады робіць усё. Гэта ж ён пры дапамозе Колі Мілаша стварыў у Серадзібары гурток моладзі па вывучэнню палітграматы. І калі прыязджае туды, то часта збірае сваіх слухачоў у хаце Таццяны Карпец. Уся гэтая праца дамоўлена і ўпланавана з самім Малашкіным...

— Не, Міхаіл Міхайлавіч, ён не прапаведнік, ён харошы прапагандыст ленінскіх ідэй. У нас амаль што няма прапагандысцкіх сіл, каб гаварыць з народам, асабліва з моладдзю. Вось мы і вырашылі выкарыстаць капітана Рыбіна. Яго людзі паважаюць. Яго разведка дакладна даведалася аб месцы прабывання бандыта Мацея Гусака, і наогул ён мае нямала матэрыялаў пра паліцэйска-бульбаўскія банды, якія гуляюць на пагранiччы Беларусі і Украіны...

— Та-а-ак? Гм... А хто яму загадваў на сваю рызыку рабіць такую разведку. Хіба ён не ведае, што трэба ўзгадняць усё з вышэйшымі інстанцыямі?

Вось і зноў пастка. З Гугновічам трэба ўсё ўзгадняць, з вышэйшымі ўладамі. Правільна. Але не хоча і не захоча слухаць Гугновіч, што не ўсё ўкладаецца ў афіцыйныя нормы — тым больш разведка. Што ж яму сказаць? І Малашкін адказаў:

— Гэта, Міхаіл Міхайлавіч, адбылося выпадкова. Разведчыца з'явілася са сваімі паслугамі да Рыбіна сама. Яна ў гэтай справе зацікаўлена. Капітан Рыбін вырашыў адзін такі выпадак выкарыстаць. Ён збіраецца прыехаць сюды ў вобласць са справаздачай...

— Ах, збіраецца! — падхапіў Гугновіч.— Даўно пара.

Зірнуўшы няўзнак на твар Малашкіна, на якім спаважнела бледнасць, Гугновіч знізіў тон і, павольна топчучы тытунь у люльку, сказаў:

— Ну што ж... Няхай прыязджае, паслухаем...

І Малашкін тут жа коратка расказаў пра Агрыпіну Грынчык і яе разведку. Гэта насцярожыла Гугновіча, і ён прамовіў ужо тонам загаду:

— Няхай хутчэй прыязджае, бо, трэба прызнацца, нашы весткі пра банды скупаватыя. Па сутнасці, ведаем толькі пра забітых людзей... Робіцца нямала, але вынікі яшчэ слабыя.

Малашкін, ужо супакоены, адчуваючы, што не даў сябе ў крыўду, з усмешкай удзячнасці развітаўся з Гугновічам. Ён не ішоў, а бег па тратуары, а ў галаве паўтаралася адна фраза: «Усё-такі выратаваў я цябе, Пятро Іванавіч, яшчэ папрацуем...»

* * *

Нават такі невялікі час у нашым жыцці, як два месяцы пасля пленума, поўны напружанасці і небывалых намаганняў, значыць многае. Шмат чаго можа адбыцца і за кароткі час, і, вядома, адбываецца.

Надышлі маразы і снежныя завеі. Аголены ад лісцяў лес на палескіх нізінах патрэскваў мёрзлымі галінамі, а сасновы бор шумеў пранозліва, са свістам, разносячы свае шумы далёка ў навакольныя прасторы.

Але шумы ўсё роўна не данеслі да Серадзібора весткі пра пасяджэнне ў цёплым, напаленым кабінеце Сцяпана Малашкіна. Было прынята рашэнне аб ліквідацыі паліцэйска-бульбаўскіх бандаў на пагранiччы Беларусі і Украіны. У распараджэнне абкома даецца атрад. Патрэбен камандзір з вопытам партызанскай вайны і наогул вайны. Зноў-такі ўскладзена заданне на Азярышчанскі райком. Нешта налягае Гугновіч на Азярышча. Нешта яму не спадабалася тут.

Вастрыня гэтага адчулася асабліва пасля таго, як пабыў у Гугновіча капітан Рыбін. Чым жа зацікавіў яго гэты капітан? Можа, сваёй постаццю, адкрытым тварам, позіркам, ад якога Гугновічу рабілася ніякавата? А можа, дакладнасцю і стройнасцю вестак разведкі і вывадамі з іх? Няўжо спалохаўся іх Гугновіч? Бо спачатку не хацеў і гаварыць пра які-небудзь спецыяльны атрад па ліквідацыі бандаў. Казаў, што хопіць мясцовай міліцыі і мясцовай разведкі. А калі пачуў ад Рыбіна, што гэта дарэмная трата сіл, што існаванне бандаў пагражае, як гангрэна, задумаўся. Люлька ўміг была нанава напхана тытунём, раскурвалася доўга, а потым запанавала ў кабінеце маўчанне, якое парушалася толькі паходжваннем Гугновіча за сталом.

Капітан Рыбін адчуваў важнасць хвіліны і пільна са-

чыў за Гугновічам, стараючыся не паказваць гэтага. Ён, здавалася, услухоўваўся ў павароты думак Гугновіча, якія вагаліся на такой грані — адкінуць ад сябе гэтае пытанне, каб пазбегчы ўсякіх цяжкасцей, ці адважыцца ўзяць адказнасць за ўсю справу на сябе? Адна акалічнасць асабліва падказвала, што гэтым пытаннем трэба заняцца самому, бо калі, напрыклад, перадаць усю справу ваеннаму ведамству, то там могуць абвінаваціць абком у запушчанасці барацьбы з бандытызмам.

Гугновіч спыніўся перад Рыбіным.

— Добра,— сказаў ён.— Няхай будзе атрад. Тады вашаму райкому будзе задача — знайсці камандзіра. Копію рашэння абкома аб гэтай справе райком хутка атрымае.

Чакаць рашэння доўга не давялося.

Такім чынам, Азярышчанскі райком на сваім закрытым бюро, пад завыванне начной снежнай завірухі за акном, абмяркоўваў справу выбару камандзіра. Ён быў выбраны аднагалосна, і бюро ператварылася ў благаслаўленне ў дарогу... Васіля Чаравакі. Васіль Чаравака не супраціўляўся. Наадварот, падзякаваў за давер'е, паабяцаў выканаць заданне з гонарам. І рука яго, па салдацкай звычцы, папаўзла па поясе, разгладжваючы зборкі на гімнасцёрцы.

Пасля такога рашэння Васіль Чаравака адчуў, што нейкі камень, які замінаў яму ў жыцці, зваліўся з плеч. Лягчэй уздыхнулі грудзі. Думкі плылі ўжо ў іншым напрамку. Перад вачыма сталі лясныя сцежкі, гаспадаром якіх ён — Васіль Чаравака, зух-камандзір на кані.

«Ці ж мне корпацца ў гэтых калгасных справах, выслухваць нараканні мужчын і баб, павучаць іх і ледзь стрымлівацца, каб не выбухнуць абурэннем? Не настаўнік я ім, не...»

Так раздумваў Чаравака, едучы пасля бюро туды, дзе прайшло яго партызанства, едучы ў Серадзібор, каб развітацца з сябрамі.

* * *

Серадзібор, калі глянуць на яго з палёту птушкі, лёг сярод зялёнага заснежанага лесу, як узорыстая велічная галіна, што абвіла дугою скамянелае люстранае возера. Па сопкім снезе людзі пратапталі сцежкі ля платоў, а пасярэдзіне слізкія, бліщчастыя санныя сляды сям-там

пастракачаны гумавымі коламі машын. Па адной такой сцежцы ў доўгім саматканым шэрым паліто і шапцы-каўпаку, абапіраючыся на кій, як протадыякан у даўнасці, ішоў Мікалай Вайткевіч.

Ён раз-поразу пытаўся, сустракаючыся з людзьмі, дзе хата Несцера Падковы. Патрэба, што ні кажы, пільная, бо выклікалі Вайткевіча ў раённае ўпраўленне бяспекі і пыталіся — ці праўда, што ён, будучы бургамістрам у Азярышчы пры немцах, у ліпені сорак трэцяга года наслаў эсэсаўцаў на Серадзібор, каб спаліць яго, але нахапіліся партызаны, і эсэсаўцы былі разагнаны. Вайткевіч хоча даць упраўленню бяспекі такога сведку, як стары Несцер, з якім бургамістр Вайткевіч меў гутарку ў Серадзібары якраз у той ліпеньскі дзень, у які, як кажуць, павінны былі зрабіць налёт эсэсаўцы. Яны, гэтыя эсэсаўцы-галаварэзы, сапраўды хацелі зрабіць налёт на Серадзібор, але не ў той дзень, у які гаворыць чыйсьці данос. Мясцовы палітык Мікалай Вайткевіч, які хацеў ратаваць навакольных сялян, паспяшыў у Серадзібор сказаць, каб бераглiся, бо намячаецца тое і тое. І сказаў ён гэта толькі аднаму Несцеру. Вось іменна тады, пасля прыезду Вайткевіча, серадзіборцы з сем'ямі павалілі ў лес. З усімі пайшоў і стары з сям'ёю. Так гаворыць, праўда, Вайткевіч. А як яно было на самой справе, хто можа сказаць? Вядома, стары Несцер пацвердзіць тое, што казаў Вайткевіч Рыбіну. А што мог бы сказаць, напрыклад, Міхась Гойдала, які днём пазней біў Алесю бізуном у сенцах? Ён павінен нешта ведаць пра гэта...

Вайткевіч павольнай хадою вялікімі ботамі ўмінае сыпучы серадзіборскі снег, а людзі, хто ні сустрэне яго, не абмінаюць без паклону...

У запаветнай чайной развітваецца з серадзіборцамі Васіль Чаравака, які ўжо не другі сакратар райкома. Ён у новай вайсковай форме з маёрскімі пагонамі, наўскасяк цераз плячо перацягнута бліскучая партупея, а на галаве вазухавата заломлена шэрая, амаль генеральская шапка. Васіль Чаравака сярод сваіх партызанскіх дружбакоў, аглядае ўсіх за сталом, кагосьці шукае, а потым кажа, каб прывялі старога неўгамону Несцера — ён хоча і з ім развітацца. Пасланец хутка пайшоў. А Васіль Чаравака, як некалі, загадаў хлопцу, у якога з-пад задзёртага казырка кепкі валасы ўпалі аж на пераносіцу, каб той зайграў на гармоніку.

— Паўлік! Іграй! Знаеш што?..

І Паўлік зайграў гапака. Адно імгненне — і Чаравака ўстаў, абцягнуў гімнасцёрку, у другое — тупнуў нагою, сыпануў чачоткай і пайшоў упрысядкі.

Старому Несцеру ў апошні час усё больш выпадае праводзіць. Месяц таму назад правёў Кляновіча з Грушкам, якія паехалі ў акадэмію на абарону Грушкавай дысертацыі. Пазаўчора паехала ў Маскву Агрыпіна Грынчык. Яе выклікаў камітэт ветэранаў вайны. А цяпер і Васілёк, як называў яго Несцер, едзе не куды-небудзь, а на афіцэрскія курсы. Не пашкадаваў добрых слоў яму стары, прыпомніў партызанства і не прамінуў таго, каб не сказаць, што «цяпер гэтая ўсякая чарнота адчэпіцца ад цябе, Васілька, ачысцішся, будзеш наш, як і быў...».

Увечары таго ж дня адбылося развітанне ў райкоме з Малашкіным і капітанам Рыбіным. Васіль Пятровіч падаў руку капітану, хацеў абняць, але не адважыўся. А Рыбін не вельмі схільны да такіх абдымкаў. А вось з Малашкіным адразу абняліся, пацалаваліся. Малашкін, усхваляваны, бачыў Чараваку такім, якім яго любіў, і сказаў толькі два словы:

— Веру ў цябе, Вася...

— Дзякую, друг...

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## Раздзел першы

### МАРОЗНЫМ РАНКАМ

Вялікая вёска Нівы распаўзлася на прылессі так, што адным канцом, далёка на полі, упіралася ў пескавое ўзвышша, а другім — у лес. Тут, на агародах, садкі гаспадароў ужо змешваліся з ляснымі кустамі і дрэвамі. Аб сцяну крайняй хаты церліся галіны сосен і елак. У гэтай хаце і аблюбаваў кватэру для свайго штаба камандзір спецыяльнага атрада маёр Васіль Чаравака. Гаспадар з жонкаю і з двума дзецьмі перайшлі на кухню,— добра, што яна была немалая,— а ўсю чыстую палавіну заняў штаб, каб адгэтуль кіраваць аперацыямі ў лесе, дзе няшнна сябе адчувалі былыя паліцаі. Гаспадар, сярэдніх год мужчына, Іван Хацімчык, маўклівы і загадкавы на выгляд, баяўся гэтага штаба, прасіў у Чараваکі не займаць хаты, гаварыў, што хата з краю, што могуць спаліць бандыты. Але Чаравака спакойна і ўпэўнена паляпаў яго па плячы, ды гэтак зухавата, што дзядзька Іван усміхнуўся і ўсе страхі адхлынулі ад сэрца.

— Памагаць будзеш нам,— гаварыў яму Чаравака, як сапраўдны генерал,— узнагародзім... Ты не думай...

І адкуль тады ўзялася ахвота ў дзядзькі Івана — як мага хутчэй пачаў усё выносіць з чыстай палавіны. Усё мог бы вынесці на кухню, каб не спынілі байцы, якія яму памагалі. Бо навошта ж выносіць гадзіннік-хадунок, што стаяў за шклом у скрыначцы, павешанай на сцяну? Навошта выносіць услон, што стаяў ля пячной сцяны, якая вытыркалася з кухні?

— Ну, калі ўжо вызваляць, дык вызваляць...— гаварыў маўклівы гаспадар,— а ложак я магу і пакінуць...

— Не трэба... Знойдзем...

Так за аднаго паўдня чыстая палавіна хаты ператварылася ў штаб-кватэру. Раскладушкі паставілі пры сценах. Пасярэдзіне прыткнуўся да печкі столік. Гэта — для яды. А на покуце астаўся гаспадароў стол як штабны.

У дадатак да ўсяго хату перагарадзілі ўздоўж плашчпалаткамі.

Вось, бадай, і усе. Над хатаю і над лесам апусцілася марозная студзеньская ноч. Пасля вячэры два вартаўнікі, узброеныя аўтаматамі, сталі каля хаты — адзін ад лесу, а другі — ад вуліцы. Уключыўся ў вартавую службу і заўсёдны гаспадароў вартаўнік — чорны з белай грудзінкай сабака Рэкс. Ён некаторы час не хацеў прызнаваць гасцей, але ўгаворы гаспадара і саміх кватарантаў уміласцівілі яго так, што хутка яго гнеў перайшоў у ласку.

Ціха ў зімовым лесе. Чысты месяц нібы вандруе, ледзь прыкметна тулячыся да кожнай сасны, ад чаго бляскам поўніцца ўвесь лес. На трэск галінкі падымаецца ў будцы чорная Рэксава галава, сабака завурчыць, а часам і ўстане на пярэднія ногі.

А ў хаце за шчыльна завешанымі вокнамі таксама не спяць. У канцы стала перад лістом паперы сядзіць Васіль Чаравака, а з ім начальнік штаба Разумейка Аляксандр і начальнік разведкі Сяргей Паўлёнак. Чаравака вырашыў, што для ліквідацыі паліцэйскіх банд хопіць і такога штаба. А дзе ж байцы? Іх жа пяцьдзесят чалавек. Знайшлі месца і для іх. Яно было, можа, адной з найважнейшых прычын на тое, каб атраду размясціцца тут, у гэтых даўжэзных Нівах. Якраз сельскі савет перайшоў у новы будынак — меншы — на сярэдзіну вёскі, а стары, вялікі, меркаваўся пад клуб. Там і пасяліліся байцы. На двары — кухня і два грузавікі, а ў хляве паставілі трое коней. Падмялі, пачысцілі, навялі салдацкі парадак. Дзве першыя ночы спалі на падлозе — на ватоўках і шапках, падклаўшы рэчавыя мяшкі пад галовы, а на другі дзень з'явілася трэцяя машына, якая прывезла раскладушкі і сеннікі з коўдрамі. Машына ўжо назад не пайшла — асталася ў распараджэнні Чаравакі.

Чаравака вадзіў алоўкам па тапаграфічнай карце. Вывучаў вакольныя шляхі, дарогі, вёскі, рэкі і Дняпроўска-Бугскі канал. На нейкі час яму здавалася, што ён рыхтуе пастку не паліцэйскім недабіткам, а распрацоўвае план разгрому гітлераўскага гарнізона. Забываўся Чаравака — так вярталася да яго адчуванне перажытай не так даўно партызанкі...

Час ад часу пакідаў карту і запісваў патрэбнае на паперу. Самы блізкі канкрэтны план дзеяння — не даць разгледзецца паліцаям, не даць ім апомніцца.

Але... міналі дні і ночы, а Чаравака не пачынаў ніякіх дзеянняў. Найбольш актыўнічаў начальнік разведкі Сяргей Паўлёнак, былы начальнік падрыўной групы ў

атрадзе Чаравакі «Помста». Як толькі Васіль Пятровіч прапанаваў пайсці з ім на разгром паліцаяў, ён накінуў работу ў «Заготжывёле» і пайшоў. Паўлёнак узнагароджаны некалькімі ордэнамі. Апошні раз яго ўзнагародзілі ордэнам Леніна за ўдалы падрыў маста. Аляксандр Разумейка быў начальнікам штаба ў атрадзе Чаравакі, ён таксама меў узнагароды, хоць менш, чым Паўлёнак.

Тройка заклапочана схілілася над картай. Лямпа нізка звісала на дроце — старая, закураная гаспадарова лямпа, да таго яшчэ спавітая тытунёвым дымам. Цемнавата-русыя, як шэрая прыдарожная зямля, валасы Разумейкі прычасаны на правы бок, і пасма, што над вухам, ніяк не хоча ляжаць на месцы — усё апускаецца разам з доўгім закругленым носам аж да карты. Паўлёнак — чарнавалосы і чарнавокі. Вочы чыстыя і вострыя, драбнаваты нос, крыху скасабочаны,— усё здавалася насцярожаным, пільным.

— Та-ак...— працягнуў задуманы Чаравака,— вёскі навакольныя мы агледзелі і спыніліся ўсё ж такі на Нівах. Мы павінны быць блізка да базы бандытаў — гэта адно. Нам патрэбна жыллё для байцоў. Мы яго тут знайшлі. Гэта — другое. Але вось праходзіць ужо два тыдні, а яны — галаварэзы — не даюць аб сабе знаць. Базу іх мы ведаем, а вось іхняга маўчання, Паўлёначак, мы яшчэ не адгадалі.

Паўлёнак заморгаў сваімі быстрымі вачыма і глянуў на таварышаў, потым пацiснуў плячукамі.

— Апошняе, што данеслі разведчыкі,— бандыты з вёсак паўцякалі, адышлі ў лес. Гаспадар наш гаворыць, што яны няйначай як у лясніцтве. А яно стаіць пры лясной дарозе ля невялікага азярца — кіламетраў за трыццаць адгэтуль. Вось і ўсё пакуль што. Трэба арганізаваць новую разведку...

Назаўтра яшчэ далёка да світання, як толькі штабная тройка ўстала і збіралася памыцца на двары, раздзеўшыся па пояс, ды яшчэ пацерціся снегам, як гэта бывала ў партызанах, у дзверы пачуўся асцярожны стук. Пасля чаравакаўскага «можна!» праз дзверы прасунуўся вартавы.

— Дазвольце далажыць — да вас просіцца нейкая жанчына.

— Дзе яна? — спытаўся Чаравака.

— Стаіць на двары.

— Прапусціць...— сказаў ён вартавому, тут жа схапіў са сцяны ваенны пояс і стаў падпяразвацца.

— Відаць, наша апякунка,— прамовіў крыху загадкава сваім сябрам Чаравака.

Увайшла сярэдняватага росту жанчына, апраненая ў кароткі кажух, абутая ў валёнкі з галёшамі. Галава была абкручана шэрай вязанай хусткай. Жанчына неяк жартаўліва пакланілася ў пояс, засмяялася і падышла вітацца, здымаючы шэрыя шарсцяныя пальчаткі.

— Вось я вас напалохала!

— Не баязлівыя мы, Агрыпіна Іванаўна...— адказаў Чаравака.— Добры дзень, добры дзень... Раненька вы завіталі да нас.

Гэта сапраўды была Агрыпіна Грынчык, цяпер упаўнаважаная і сувязная абкома. Паўнамоцтвы яе былі немалыя — яна не толькі сувязны, разведчык, але, так сказаць, і кантралёр над чаравакаўскім штабам.

Яна прыходзіць ужо другі раз. Але тады ў штабе быў толькі адзін ён, Чаравака, а Разумейка з Паўлёнкам ездзілі ў лес, каб па свежым снезе ўпаляваць не толькі зайца, але, можа, і воўка — вядома, не на чатырох нагах. Разумейка і Паўлёнак віталіся з Агрыпінай, узрадаваныя. Яны ведалі, чулі пра яе.

— Распранайцеся, грэйцеся...— запрашалі сябры Агрыпіну і памагалі ёй здымаць кажух.

На снеданне гаспадыня паставіла на стол не толькі падсмажанае сала з блінцамі, але і бутэльку самагону, заткнутую самаробным коркам. Агрыпіна кінула загадкавы позірк на бутэльку і потым не ўзяла ні кроплі, як ні прасілі сябры. І таму сябрам зрабілася ніякавата. Нават гаворка перарвалася. Агрыпіна разумела гэтую ніякаватасць, але... Але трэба на ўсякі выпадак папярэдзіць ваякаў, каб самагоначка, чаго добрага, не заўладала імі. Каб паправіць становішча, яна схамянулася, загаварыла:

— А вы піце, на мяне не зважайце... Піце, піце...

Васіль Пятровіч паціху чмыхнуў і прамовіў:

— Дзякуем, Агрыпіна Іванаўна,— выбачайце, вып'ем, і вып'ем за ваша здароўе.

Разумейка з Паўлёнкам павесялелі.

Паснедаўшы, гэтыя два начальнікі, адзін — штаба, а другі — разведкі, пайшлі да байцоў. А Чаравака з Агрыпінай доўга гутарылі прыцішанымі галасамі. Справы ўскладняліся. Трэба было зрабіць разведку не толькі ў лесе, але і ў гэтым сяле. Ёсць прыкметы, што да бандыта Ма-

цея Гусака цягнуцца ніці з самага Азярышча. Каля райкома партыі дзень і ноч на варце міліцыянер — раней пост быў толькі ноччу, а потым і зусім не было. Таксама і ля аддзялення дзяржбяспекі. Капітан Рыбін не вылазіць з машыны. У Серадзібары над каналам нехта зрэзаў высокі дубовы крыж, пастаўлены на магілах салдат першай вайны як помнік. У вёсцы Жарабкі на жывёлу напаў сап. Аб'яўлены каранцін.

— Глухія гаворкі ходзяць пра вашага сухарлявага Банадзюка,— вяла нітку расказу Агрыпіна.

— Што за гаворкі? А што з ім? — устрывожыўся Васіль Чаравака.

Агрыпіна адказала не адразу. Мелькам глянула ў вочы Васілю Пятровічу, потым павярнула галаву да акна і нейкую хвіліну думала, ці гаварыць гэта Чараваку.

— Ды нічога такога...— прамовіла Агрыпіна.— Яшчэ нельга нічога пэўнага сказаць. Ён у райкоме ўжо не працуе.

— Як? Не працуе? Чаму?

Агрыпіна паціснула плячыма:

— Відаць, ёсць нейкія грашкі...

— Ну, не можа быць,— працягнуў Чаравака.— Ён жа ў нас быў у атрадзе, спраўляўся... І ордэн яму далі...

— Вось... і ордэн... і ўсё... Аднак...— развяла рукамі Агрыпіна і запыталася: — Ты яго, Васіль Пятровіч, параіў у райком?

— Я... Што ж — хлопец кніжны, газетны...

— Каб не было гэта тваёй памылкай... Але — пабачым. Заўтра ў нас нядзеля. Людзі з тутэйшых вёсак ездзяць па нядзелях на рынак у мястэчка Норава... Пятнаццаць кіламетраў...

— Былі мы там. Глухое, старое мястэчка. На вуліцу схіляюцца азёрныя чароты. Што там? Мы там нічога не ўбачылі.

— Не... Часам што-небудзь, можа, і бывае... Паспрабуем. Раз ты кажаш, што бандыты з вёскі перайшлі ў лес — можа, каго знаёмага пабачым там. Усякае бывае...

Чаравака сапнуў носам і пачухаў патыліцу.

— Няўжо гэтая хударлявінка што-небудзь... Розуму не дабяру...— прамовіў, як сам сабе, Чаравака.

— Гэта ты пра Банадзюка?

— Пра яго...

Марознае сонца ўжо слізгацела па верхавінах лесу і асобнымі промнямі прабівалася да шыбінак хаты маўклівага Івана Хацімчыка, калі Васіль Чаравака, устаўшы з раскладушкі, падышоў да акна і прыўзняў фіранку.

— О-о-о! — загудзеў ён пракураным голасам.— Марозінка нішто сабе. Запушыў вокны, што нічога не відаць.

Хата за ноч добра такі астыла. Значыць, памацнеў мароз.

— Хлопцы, пад'ём! — крыкнуў Чаравака.

У час снедання гаспадар заехаў на падворак у добрых лёгкіх санках, вымашчаных саломай. Наперадзе ляжаў мяшок, напханы сенам. Храпы вялікага гнядога каня дыхалі параю.

Надумалі выехаць крыху пазней, каб больш людзей застаць на рынку. У Нівах аставаўся Разумейка, Паўлёнак ехаў разам з Чаравакам і Агрыпінай.

Калі людзі з вёскі крыху схлынулі чародамі фурманак у аснежаны лес, двое мужчын і жанчына ўселіся ў санкі. Лейцы ўзяў у рукі Паўлёнак.

— Час добры! — крыкнуў на дарогу гаспадар.

Конь ахвотна бег з паднятай галавою, і снег з-пад капытоў разлятаўся ў бакі пырскамі камячкоў. Сасновы гонкі лес іскрыўся пад праменнямі сонца і разам з дарогаю ўцякаў назад. Сябры азіраліся, але за сабою нікога не бачылі. У ценевых месцах твары абдавала тужэйшым холадам. Паўлёнак з захапленнем нацягваў лейцы і вёў гнядога размашыстай, але раўнамернай рыссю, не дапускаючы да галопу.

Пятнаццаць кіламетраў — а тутэйшыя людзі яшчэ казалі вёрст — невялікая дарога. Вось і шлях, які вядзе да далёкае адгэтуль шашы.

Шлях вядзе да Норава. Адкрылася поле, больш стала чыстага сіняга неба і цяплейшага сонца. Чаравака зірнуў на гадзіннік. Пачыналася дванаццатая. Падумаў — пазнавата. І сапраўды — фурманкі па адной ехалі ўжо з Норава. Пачалі размінацца. Трое павярнулі галовы ўлева, і Чаравака схапіў Агрыпіну за руку ніжэй локця. Вочы бліснулі люта. Але вось і другая фурманка налятае. Там сядзелі ўчатырох. Пасярэдзіне... Агрыпіна ледзь не ўскрыкнула: пасярэдзіне сядзеў Мацей Гусак. Яго адпушчаныя рыжыя вусы папушыў мароз.

Калі размінуліся, Чаравака сказаў Паўлёнку:

— Сцішы каня...— А потым звярнуўся да Агрыпіны, якая прыкрыла твар рукамі:

— Ну, што? Пазнала?

Яна кіўнула галавою.

— Я таксама пазнаў,— сказаў Чаравака,— пазнаў і другога.

— Каго? — падняла галаву Агрыпіна.

— На першай падводзе ехаў паршывы сухарлявік Банадзюк.

— Няўжо?

— Ён...

— А я не заўважыла... Такі чула маё сэрца... Я ж вам гаварыла...

— А я пазнаў абодвух,— сказаў, павярнуўшыся да Чаравакі і Агрыпіны, Паўлёнак.— Можа, і не варта нам ужо ехаць да Норава. Заданне выканана.

Паўлёнак засмяяўся. Адказала Агрыпіна:

— Не, пад'едзем да Норава. Я ўвосень была ў гэтых ваколіцах, а ў Нораве не была. Трэба яго ведаць. Гэта не пашкодзіць.

## АБ «ГАРАЧЫХ ПАДЭШВАХ» І ГАРАЧЫХ СЛЯДАХ

У хаце Таццяны Карпец стала ціха. Людзі выйшлі — хто куды. Сама Таццяна пайшла, як звычайна кожны дзень, на свінаферму. Там ужо ёсць нешта каля трыццаці парасят, у большасці свінак. З іх Таццяна павінна выгадаваць гурт, і яна працуе дзеля гэтага. Мог бы астацца ў хаце яе Пятрусь, але згадзіўся навязаць для калгаса мётлаў, і таму пайшоў у лес. Дачка Ніна, ужо студэнтка сельскагаспадарчага тэхнікума, пяць дзён як прыехала на канікулы, пайшла да Несцеравай Любы.

Хату пакідалі, як мага цішэй. Першы пайшоў Пятрусь. Пасля глуха застукала па падлозе высокімі абцасамі галёшаў, ідучы да парога, Ніна. Ды так застукала неасцярожна, што аж Таццяна шапнула на яе: «Цішэй...»

Засланка шчыльна прытулілася да чэлюсці печы. І гэта быў апошні гук у хаце, бо дзверы Таццяна, выходзячы, прычыніла як мага цішэй.

І ў хаце стала ціха і нават нібы святлей. Ніхто не закрываў сабою невялікіх акон, якія прапускалі шэрае, нават мутнаватае святло ад зімовага нясонечнага дня.

Можа, таму капітан Рыбін, лежачы на лаве, злёгку нават захроп, прыпаўшы шчакою да падушкі. Барада

схавалася ў расшпілены каўнер гімнасцёркі, а рукі пераскрыжаваліся на грудзях. Паблісквау прозалаццю правы пагон, быццам прышыты да пляча. Сінія дыяганалевыя галіфэ краёчкам выглядалі з-пад саматканай коўдры, якою ён быў накрыты. Над ім на сцяне вісеў шынель разам з беленькім тонкім кажушком-безрукаўкай, вісела ваенная сумка і зімовая сівая шапка з зоркаю. Пад лаваю стаялі боты. Шкарпэтак не было відно. Іх падабрала цётка Тацяна, каб прасушыць. На рагу стала, тут жа пры галаве, ляжаў рэвальвер у расшпіленай кабуры, надзетай на шырокі рамень з бліскучай жоўтай спражкай, пяцікутную зорку на якой можна было бачыць з вуліцы праз акно. Тут жа ляжаў гадзіннік.

Яшчэ было цёмна, калі капітан заехаў на падворак да Тацяны на сваім газіку. Машыну паслаў у Жарабкі, дзе ў гэты час быў яго намеснік. Адтуль машына з намеснікам пойдзе далей, каб у Вялікіх Жылінах падабраць начальніка следчай часткі. Сап дабраўся і да амшэлых Жылін, якія вартуе чалавек у чорнай сутане — ксёндз Рагульскі. Саслужыўцы павінны не пазней як увечары прыехаць у Серадзібор на нараду з Рыбіным.

Не захацеў нічога есці капітан, як ні прасіла яго Тацяна. Толькі выпіў шклянку малака. Хацелася спаць, спаць...

І таму ўсе выйшлі з хаты, каб даць капітану бяспекі ўволю гэтага дарагога сну. Капітан заехаў у Серадзібор, каб знайсці старшыню райвыканкома Харытона Бабра. Ён недзе павінен быць тут. Павінен быць яшчэ новы другі сакратар райкома Чухноўскі, але штосьці пра яго не чуваць было, як Рыбін другі раз аб'язджаў вёскі. Дзіўнай здаецца Рыбіну такая павольнасць другога сакратара. Ён, відаць, не ўяўляе сабе небяспекі, якая ўварвалася ў сельскую гаспадарку.

На пярэдняй сцяне паміж вокнамі — плакаты. Адзін — з чырвоным сцягам. Сцягі трымаюць рабочыя, сяляне. Яны ідуць паходам насустрач сонцу. На другім плакаце трактар арэ поле, і за рулём не які там маладзён у кепцы, а дзяўчына — у каптане, у хустцы. Гэты плакат прывезла з абласнога цэнтра Ніна, і Тацяне ён вельмі прыйшоўся даспадобы. Калі шукалі месца, дзе яго прымацаваць, Тацяна сказала, што толькі тут, на пярэдняй сцяне, каб кожны, хто ўвойдзе ў хату, адразу яго ўбачыў. Можа, ёй здавалася, што гэта яе Ніна ўжо кіруе такою машынаю. Гэта ж не жарты — да чаго дайшоў свет! — дзяўчы-

на ды каб кіравала машынаю? Пасярэдзіне гэтай самай сцяны — партрэт Леніна ў рамцы. Гэта часовы чырвоны куток, зроблены Колем Мілашам. Ён і столік прынёс, паставіў пры гэтай сцяне, а на століку парадачкам пастаўлена некалькі кніжак. Брашурачкі ляжаць, побач сшытак з алоўкам. Усё тут — і кніжкі і брашуры — гаворыць пра сацыялізм, камунізм. Калі чытаюць іх, слухае часам і Тацяна і кажа, што вельмі цяжка яны напісаны. Мала што зразумееш. Апрача кніжак палітычных ляжаць брашуркі пра апрацоўку зямлі, пра асушку балот, пра гадоўлю кароў, свіней. Гэта — падарунак Платона Грушкі.

Капітан Рыбін, яшчэ кладучыся спаць, спытаўся ў Тацяны, ці ёсць у Серадзібары хоць сякі-такі ветэрынар. Тацяна сказала, што ёсць такі канавал, закалоць шылам карову можа, скуру садраць са здохлага каня таксама можа. Рыбін усміхнуўся і падумаў: «Трэба ўсё-такі праверыць...»

Нешта замінае Рыбіну ў сне, бо часам уздыхне глыбока і нібы застогне, і твар укрыецца хмарнай навалаччу, робіцца трагічны, збалелы. І здаецца, што і дыханне заціхае. Мучаць душу Рыбіна змрочныя вобразы. Вось цёмная доўгая канюшня доўгай вёскі Жыліны, і ў ёй адзін за адным паабапал праходу ляжаць і ляжаць з надзьмутымі жыватамі, адкінуўшы галовы, коні — гнядыя, буланыя, шэрыя, чорныя... Яны ўжо нежывыя... Рыбін грозны, маўклівы. Кідае час ад часу па адной фразе спалоханаму ветэрынару, які калупаецца са шпрыцам у руках — паварочвае яго то ўверх, то ўніз, паглядаючы на святло. Словы Рыбіна падаюць, як каменні...

Ветэрынар — толькі адзін, і таго прыслаў аблза. Загадчык райза — малады шчупленькі чалавек, стаіць пры капітане бездапаможна, усё хоча недзе не то ісці, не то бегчы. Ён носіць за ветэрынарам скрынку з медыкаментамі.

Пасля дэзінфекцыі канюшні Рыбін меў гутарку з мясцовым старшынёй сельсавета. Чакаў Чухноўскага. А яго ўсё няма і няма...

Рыбін павярнуўся на спіну і прачнуўся. Лыпнуў вачыма і раптам зморшчыўся. Дзе ён? Куды ён трапіў? Прад вачыма вось нядаўна была цемра, пахла гноем... А тут... Прыўзняў галаву. Калі ўбачыў сваю зброю на стале, зразумеў, дзе ён. Чаму ж тут нікога няма? Пры сцяне Колеў чырвоны куток. А там, на лаўцы пры печы... вочы спыніліся на прасніцы. Фу ты... якое замарочанне

галавы! Рыбін прыўзняўся на локаць і глянуў на гадзіннік. О, ужо... абедзенная пара. А мутнае святло, што сочыцца праз вокны, неяк рэжа вочы. Мароз, відаць, крыху адпусціў. Гаспадары недзе разышліся... Пакінулі аднаго...

Капітан усміхнуўся і ўстаў. Пацягнуўся з прыемнасцю, сеў на лаву, каб абуцца, і не знайшоў шкарпэтак. Доўга шукаў пад лаваю. Не знайшоў. Сеў і павёў вачыма па хаце. Сягнуў рукою да выцягнутай юшкі на коміне і ўзяў з яе ўжо сухія шкарпэткі. Твар адразу ж падабрэў.

* * *

Жыў дагэтуль на свеце Харытон Бабёр, здавалася, па той прымаўцы — як у Хрыста за пазухай. Не трывожыла Харытона жыццё, і ён сам стараўся ні ў што не ўмешвацца. Калі з'яўляўся да Малашкіна на ўзгадненне тых ці іншых пытанняў, сядзеў і больш слухаў, чым гаварыў. А што да прапаноў, рэдка гэта было. Любіў кінуць фразу, найчасцей Кастусю Вераб'ю: «Дзе ты ўсё дагледзіш?» І махаў рукою. Добра, напрыклад, ён ведаў, што з Духмуровіча-Куцілоўскага не можа быць ніякі старшыня калгаса. Аднак маўчаў. Няхай. Ён жа і сам прапанаваў на старшыню ў Серадзібор Кастуся Вераб'я, на якога людзі пазіралі дапытлівым вокам. Гэта ён замовіў за яго слоўца перад Малашкіным, сказаў, што ў Серадзібор патрэбен на старшыню такі чалавек, у якога б «падэшвы гарэлі пад нагамі». А схапіў ён гэтую «ісціну» ні ў каго другога, як у таго ж самага Вераб'я яшчэ ў часы партызанства. Завязалася паміж імі знаёмства найбольш па той прычыне, што ў бацькоўскай хаце Бабра мясцілася партызанская гаспадарчая частка, загадчыкам якой быў Верабей. Гэта сказала аб многім. Мінула ўжо вайна, а Харытонавыя бацькі ўдзячны і далей Кастусю за такое кватараванне. Кастусь Верабей сапраўды быў чалавекам «з гарачымі падэшвамі». Калі атрад перад блакадай перамясціўся за вялікае балота на поўдзень і Верабей ужо не быў загадчыкам ні мукі, ні хлеба, ні мяса, а насіў з лясное ручаіны ваду ў партызанскую кухню, Харытонавы бацькі дый сам Харытон так ці інакш стараліся яму памагаць. Бялізну яго, кашулі мыла і абшывала Харытонава маці — Макрына. Бацька Іван прысылаў харошы тытунь-самасад. Калі ж Харытон, ідучы з разведгрупай, забягаў у хату, маці клала ў яго мяшок сыру і Кастусю. Так і прыжыўся

Кастусь сярод мясцовых людзей і не захацеў вяртацца на сваю Магілёўшчыну, недзе пад Шклоў. Узяў дзябёлую адзеўку Сцепаніду з вёскі Ельнікі і астаўся. Вёска тая адным бокам тулілася да Яловай пушчы, а з другога боку, за гумнамі, пачыналася бяскрайняе балота.

Кастусь Верабей быў маладзейшы за Харытона нешта год на пяць. Харытон меў ужо за сорак. Але Верабей — гэта дрэва ў два абхваты, а Бабёр — высокенькая танклявая жэрдка. Так людзі і казалі пра іх.

Харытон Бабёр з невялікімі чорнымі вачыма, у салдацкай шапцы-недаюсцы з чырвоным, пацямнелым ужо аколышам, з-пад якога вытыркаліся завітушкамі, бо рэдка бывалі падстрыжаныя, чорныя валасы,— стаў чалавекам сваёй мясцовай жыццёвай цякучкі. Работы многа,— ці ж усё паробіш? Але часам аднекуль надыходзіла да Бабра пытанне на адзіноце: «А хто ж будзе рабіць?» Пытанне не адлятала — не, яно доўга вісела проста над галавою, а вочы Харытона Бабра бачылі перад сабою толькі імглу. Потым, аднак, нешта вырысоўвалася, і перад вачыма з'яўляўся не хто іншы, а ён — растаўсцелы Верабей са сваёй «ісцінай» аб «гарачых падэшвах». Сам Бабёр не належаў да людзей з «гарачымі падэшвамі» — не таму, што не хацеў прызнаваць гэтую Вераб'ёвую ісціну. Не, наадварот, ён меў да яе нейкую, нібы прыхаваную, таямнічую павагу. Ці ж не майстэрства — умець лавіць усё на ляту — і ўсё сабе, нікому — толькі сабе. І ніхто за гэта не карае — проста выгода. І адсюль Бабёр рабіў сам сабе вывады: «Вось толькі такія і жывуць па-сапраўднаму... А так — што?» І таму няхай жыве Кастусь Верабей — на яго можна спадзявацца, у яго ўсяго хопіць. Зробіць усё так, што і камар носа не падточыць. Так вось і паверыў Харытон Бабёр у Кастуся Вераб'я — не раўнуючы, як у бога. Райвыканкомаўская работа сваёй чаргой, а Кастусь Верабей — сваёй. Ці ж тут адно другому перашкаджае? Не... «Што там? — адмахваўся Бабёр.— Будзе жыць і райвыканком і Кастусь Верабей. Усім хопіць».

Густы вечар апусціўся на Серадзібор і запаліў цьмяныя агні ў хатах, калі Харытон Бабёр на добрых конях, запрэжаных у санкі, завярнуў на падворак сельсавета. Насустрач выйшаў вартаўнік Дзям'ян, каб прыняць коні ад фурмана.

Харытон Бабёр вылез з санак, абтрос на сабе свой доўгі кажух і, сказаўшы фурману: «Я пайду...», падаўся проста да Кастуся Вераб'я. Надзейнае цёплае месца там — нават

лепш, чым дом. Там жонка часам не ў толк гаворыць, адгаворвае Харытона, каб не нюхаўся з Вераб'ём, бо «гэта чалавек, якому на ўсё напляваць».

— Лізавета, сціхні, бо ты нічога не разумееш.

— Дзе мне разумець? Добра, што я ўмею табе навасыць ды падаць, дзяцей адправіць у школу. Больш я нічога, нічога не разумею...

Жонка сціхала, і на гэтым усё канчалася. Харытон ішоў у райвыканком, каб слухаць тэлефонныя званкі, праглядаць паперы, класці на іх рэзалюцыі і перадаваць работнікам апарата для выканання. Некаторыя паперы ён часам затрымлівае і кладзе ў асобную папку, у асобную скрынку стала і замыкае на ключ. Пра гэтыя паперы не ведае ніхто. Гэта пераважна скаргі калгаснікаў, адрасаваныя асабіста яму, старшыні. Калі прыходзяць пісьмы са скаргамі на імя наогул райвыканкома і, вядома, прачытваюцца сакратаром, вырашаць іх едзе ў калгас намеснік, які намагаецца вырашыць справу абяцанкам,— гэта значыць, так, як падказаў Бабёр. «Не займайся вельмі гэтымі справамі, ім не будзе канца — паабяцай там...»

Чаму ж Харытона Бабра абралі старшынёю райвыканкома? Прычына, безумоўна, была важная. Малашкін шукаў мясцовага чалавека, селяніна, каб ён умеў гаварыць з сялянамі. Перабіраючы па спісе партыйны актыў раёна, ён спыніўся на каларытным прозвішчы «Бабёр». «Якія цікавыя прозвішчы ёсць на свеце...» — прамовіў сам сабе. Тут жа было рэкамендацыйнае пісьмо камандавання партызанскай брыгады, у якім значыўся і Харытон Бабёр, «якога можна мабілізаваць для работы ў апараце». У кабінеце сядзеў і капітан Рыбін. Вырашылі разам выклікаць Харытона Бабра і пагаварыць з ім. На выгляд спадабаўся Малашкіну Харытон — мужыкаваты, сціплы, у вачах — адна паслухмянасць. Чаго ж жадаць лепшага? Пры рабоце выправіцца, калі што, прывыкне.

...Нагам так цёпла, так лёгка і суха, што і не чуваць ніякай стомленасці — яна ўсё роўна як выветрывалася. Гэта клопаты Сцепаніды, якая заўсёды стараецца пахадзіць за Бабром, як за незвычайным госцем. Яна дала яму на ногі ўсё сухое, цёплае і сказала асвяжыцца з дарогі, наліла з гаршка ў кубак цёплай вады, паліла на рукі, падала ручнік...

Сам Верабей, узяўшыся ў бокі, пахаджваў па хаце ў адных суконных шкарпэтках. Цёплы вязаны світэр аб-

лягаў яго жывот, і той выпучваўся, як напаказ. Дзецям (двум хлопцам) сказаў: «Акыш на кухню!» Няма чаго ім чут тырчаць і глядзець у вусаты рот Бабра, калі той перадае Вераб'ю раённыя навіны. Нашто ім гэта ведаць? Добра, што ў печцы з невялічкаю пліткаю пры боку яшчэ не згарэлі дровы. Сцепаніда засмажыла сала з каўбасою і яечкамі. Верабей выйшаў на кухню і вярнуўся з графінам, поўным свойскай гары, зачырвоненай вішнёвым сокам. Сцепаніда прынесла з каморы студзень у глінянай місцы — застылы, некрануты, нарэзала хлеб на драцяную хлебніцу і ўсё паставіла на стол. Харытон Бабёр стаяў перад люстрам і расчэсваў грабянцом свае рэдзенькія вусы.

— Ну, даволі табе прыхарошвацца ўрэшце,— звярнуўся Верабей да свайго дружбака,— усё роўна не адаб'еш у мяне Сцепаніды. Сядай, Харытон...

— Чорта ў цябе адаб'еш — я ж перад табою як той палец. Ну, а ты...

І Бабёр, усміхаючыся, растапырыў рукі. Водбліск полымя падаў з печы на расчырванелы, здаровы твар Сцепаніды, па якім прабегла ўсмешка і тут жа схавалася ў кутках губ.

— Не выкладай у міску гэтай смажаніны,— сказаў Верабей Сцепанідзе,— стаў з патэльняй. А то ў місцы хутка стыне... Ты згодны, Харытон?

— Згодны, згодны, чаму не? Нашы мацеры заўсёды ставілі з патэльняй. Ну, а цяпер, вядома, пайшло на культуру...

— Давай без культуры сягоння...

Так і пачалася вячэра...

Падвойныя шыбы ў вокнах запушыў мароз. Да таго ж яны завешаны.

Зацішна, утульна. Павольна цікае гадзіннік на сцяне. Ён меладычным звонам адлічыў дзесяць, калі Верабей наліваў першыя чаркі.

Пасля чарак пасыпаліся пытанні, што ж там новага чуваць у Азярышчы — прыемнага ці непрыемнага. Як жыве Малашкін? Што ён гаворыць? Да чаго рыхтуецца?

На ўсё адказваў Харытон Іванавіч і рабіў свае вывады — што і да чаго.

— Малашкін ходзіць задумёны, сумнаваты,— гаварыў ён,— нешта не ідзе ў яго з новым... другім сакратаром. Той, вядома, прысланы з абкома, хоча свой форс паказаць... Люльку смаліць, як стары... Фарсіць, фарсіць... Невядома, як яно... Малашкін вельмі дакарае цябе, што

ты не памог скончыць бальніцы... Так што будзь напагатове, як той казаў...

— Го! Не памог... Я ж не старшыня сельсавета... Гэта ж яго справа. Я — старшыня калгаса, як табе вядома.

— Так, яго справа... Але ты хоць бы для віду штонебудзь такое...

— А хіба я не рабіў? Хіба я коней не даваў на вывазку дзерава?

— Гэта ўсё так, але вось не скончылі да зімы.

Верабей заёрзаў на крэсле і, падымаючы вочы недзе пад лоб, загаварыў горача, падаўшы галаву наперад цераз стол:

— Што?.. Я яшчэ і дзерава павінен даць? Сам ведаеш — яго не хапіла.

Дружбакі замоўклі. Сцепаніда выбегла на кухню.

Бабёр, выціраючы вусы ручніком, сказаў павольна, прыцішана, нібы недзе ўбок:

— У цябе галава не дурная... Ведаеш, што трэба і туды і сюды. Інакш...

Верабей засоп і пачаў наліваць чаркі.

Сябры разумелі адзін аднаго. Верабей, падымаючы чарку, сказаў так, як праспяваў:

— Каб толькі большае бяды не было. А гэтага... Там дзерава... Будзь здароў!

— Кажаш, бяды... Бяды клікаць не трэба. Яна заўсёды сама прыйдзе. Чуў пра Гусака?

— Не... А што?

— Гуляе, сабака. Нішто яго не бярэ. Райком устрывожаны моцна. І тут яшчэ гэты сап. Адно да другога. Вось табе і бяда... Не адна.

— Дык Гусак гуля-я-е?.. Гм... Яшчэ, халера, можа сюды...

— Усё можа быць... На Банадзюка нешта ківаюць. Хутка яго знялі з райкома... За адзін дзень... Па ўласнаму жаданню...

— От і разбяры... Бяруць на працу ў райком, а потым...

— Не ўсё так проста...

— Я ве-едаю, што не ўсё так проста...— працягнуў Верабей.

Увайшла Сцепаніда, глянула на стол.

— Ну, як вы тут?

— Нічога, можам гадавацца без цябе... Мо што яшчэ маеш?

— Магу халоднага мяса нарэзаць, сыру...

— Во, во... Давай...

— А гэтай... Грыпы... тут няма? — спытаўся Бабёр.

— Грыпы? Няма. Ужо даўнавата. Хата на замку. Юля, буфетчыца, ходзіць прапаліць. Часам і начуе.

— Гэта — баба... вараціла. Усё недзе ездзіць... Да Рыбіна заходзіць... Можа, за Гусачком палюе...

— Звярок добры...

Сябры памаўчалі. Сцепаніда прынесла і мяса і сыру. Верабей падаў ёй графін і паказаў пальцам, што з ім зрабіць.

— Ведаю без твайго паказу,— сказала Сцепаніда і знікла за дзвярыма.

Бабёр прытуліўся да сцяны і, гледзячы развяселеным загадкавым позіркам з-пад брывоў на свайго сябра, крякнуў і сказаў:

— Рыхтуйся ў паездку...

— Куды?

— Па цяляты. Недзе пад Маскву. Яшчэ невядома. Набіраецца група старшынь лепшых калгасаў. Я прапанаваў ад нашага раёна цябе...

— А хто будзе плаціць за цяляты?

— Хто? Ты. Авансам запішуць. Не бойся. Возьмуць грошы пасля. Пакуль што заплаціць урад. А там — сышчуць.

— Ну, як так, то...— мармытнуў Верабей і на ляту выхапіў з рукі ў Сцепаніды, якая толькі што ўвайшла, жаданы графін. Настрой у яго ўзняўся.

— Заўтра дам табе гэтага канавала, пра якога ты пытаў. Ён жа ў нас ужо штатны ветфельчар. Яго смела можна... гм... куды хочаш...

— У Жыліны трэба адправіць, у Жарабкі. У Жарабках здохла дзесяць коней. У Жылінах яшчэ не ведаю, колькі чаго.

Сябры яшчэ доўга гутарылі. Абгаворвалі ўсякія людскія і нелюдскія справы, нават тое, што ў Малашкіна ў сям'і не зусім... Нешта жонка абураецца.

— Можа, урачыха там чаго нарабіла... Бабка — дай божа,— гулліва тоненькім голасам прамовіў Верабей.

— Яна ў цябе з языка не сходзіць! — крыкнула ўжо з-за перагародкі Сцепаніда, уклаўшыся спаць.

— Так, як і ты...— адбіўся Верабей.

— Не, мусіць, тут нешта другое... А! — запнуўся Бабёр і махнуў рукою. Пачакаўшы, дадаў: — З кожным днём

не лягчэй, а ўсё цяжэй. Усё больш клопатаў, больш спраў... Ды хто ўсё паробіць?

— Кладзецеся спаць! — гукнула Сцепаніда.

Гадзіннік меладычна празваніў два разы.

* * *

— Ну што? Вырашайце...— звярнуўся да сваіх падначаленых капітан Рыбін.

Саслужыўцы задумаліся. Што можна сказаць, напрыклад, пра Міхася Гойдалу-Гайдалевіча, які больш жыве ў лясніцтве, чым дома? Нават пакойчык там сабе дабраў. Абклаўся кніжкамі, хоча паступаць завочна ў лясны тэхнікум. Адносна Гойдалы-Гайдалевіча ва ўсіх была адна думка, што гэта недурны чалавек, хітры, нават вельмі хітры. Вось тут і тоіцца каварства. Арыштаваць яго, па сутнасці, было б зусім законна. Па сутнасці. Але фармальна няма наяўных прычын. Коля Мілаш перадаў, што Міхась Гойдала, відаць, вядзе перапіску з Платонам Грушкам, бо Грушкава маці перадала яму кніжку пра глебазнаўства. Коля Мілаш пабываў у Гойдалы ў лясніцтве, у яго пакоі, і бачыў гэтую кніжку. Заклеены ў канверце ліст, адрасаваны Грушку, ляжаў на стале.

Усе трое развялі рукамі — тут не ўваткнеш, не зачэпішся. Трэба чакаць, што пакажа час.

— Ну, а як з бацькам Гойдалы?

— Ляжыць хворы,— адказаў намеснік.

— А можа, прыкінуўся? — спытаўся Рыбін і дадаў: — Можа, варта было б паслаць яму ўрача для праверкі?

Вырашылі паслаць Веру Лукашэвіч.

Пра бацьку Мацея Гусака Трахіма гаварылі мала — ён нікуды не ходзіць, замкнуўся. Вядома, яму баяцца ёсць чаго, і трэба думаць, што нават яго супольнікі па думках стараюцца яго абыходзіць, каб не прыцягнуць на сябе лішняга падазрэння.

— Значыць, наша аперацыя будзе без ніякіх вынікаў? — задаў пытанне капітан Рыбін.

Усе змоўклі. На блакноты падала святло павешанай над сталом лямпы, а вокал панаваў паўзмрок. Рыбін глянуў на гадзіннік і сказаў, што пара ўжо гаспадароў паклікаць. Нарада задоўжылася, а вынікаў усё яшчэ няма.

— Ну дык адкуль жа з'явіўся сап? — паўтарыў пытанне Рыбін.— Чаму ён не з'явіўся ў Серадзібары, а імена спярша выбухнуў у Жарабках, а потым перанёсся ў

Жыліны? Гэта наводзіць на думку, што нехта са злачынцаў павінен быць там.

— Астаецца адзінае падазрэнне...— прамовіў следчы.— На прыкмеце Цыпрыян Буйвалоцкі. Бачылі людзі, як ён нядаўна выходзіў ад ксяндза ў Жылінах.

Падумалі... Вырашылі — заўтра яго дапытаць.

На гэтым нарада скончылася.

— Едзьце, сябры, зараз у Азярышча. Можа, за гэты час туды надышлі якія весткі. Я на адзін дзень астануся тут. Цікава, чаму дагэтуль няма новага сакратара райкома? Гэта проста недапушчальна. Пачакайце, я напішу запіску Малашкіну. Машыну прышліце пад вечар. Буду ў сельсавеце чакаць Чухноўскага.

Усе сабраліся ў сельсавет. Пракоп Карчэня ў кароткім кажушку, у старых пажоўклых суконных штанах свайго вырабу, у чорнай аўчыннай вушанцы аддаў свой кабінет Рыбіну, а сам перайшоў у большы пакой, куды заходзілі людзі па справах і дзе сядзеў сакратар.

Разбіраючы паперы тоўстымі нягнуткімі пальцамі, Карчэня час ад часу адрываўся ад іх і пачухваў шчокі, то адну, то другую.

На шчоках тырчалі рэдкія, злёгку пасівелыя валасы, якія, мусіць, ніколі не былі пад брытвай, бо Карчэня меў звычай прыхарошваць сваё аблічча толькі нажнічкамі. Не раз звяртаў увагу на яго бараду нават сам Харытон Бабёр. Казаў: «Каму прыемна глядзець на твае апоўзіны? Ты ж начальства, да цябе людзі прыходзяць».

Карчэня махаў рукою і казаў: «Справа не ў барадзе...»

— А ў чым? — падзадорваў Бабёр.

Карчэня ківаў галавою на акно і казаў:

— На полі нелады. Што есці будзем?

— Як ты хутка ладу хочаш. Толькі ўчора вайна скончылася... Не-не, не палохай людзей, галі бараду.

Капітан Рыбін ветліва запрасіў усіх сесці. Настала напружанае маўчанне.

— Коля,— сказаў Рыбін,— ідзі за стол, сядзь вось тут,— ён паказаў на месца з краю,— можа, спатрэбішся што-небудзь запісаць. Таварыш Карчэня, дайце нам трошкі паперы.

Карчэня прыўзняўся, падышоў да дзвярэй і, прачыніўшы іх, сказаў сваім нізкім голасам:

— Васіль, дай сюды трохі паперы.

Рыбін сеў і агледзеў усіх. Усе адчулі, што ён хоча нешта сказаць.

— Вы ведаеце, таварышы, нашто я вас паклікаў?

Усе маўчалі. Карчэня сказаў: «Не, не ведаем...», хоць сам паслаў ганца па Буйвалоцкага ў Жарабкі. Яго, відаць, брала цікавасць — нашто спатрэбіўся Рыбіну гэты Буйвалоцкі? Ён жа ў калгасе як мае быць, як усе... Што ж тут такое?

Рыбін растлумачыў прычыну нарады — расказаў, што трэба ў Буйвалоцкага, як былога саліднага гаспадара, распытацца, ад чаго захварэлі коні ў Жарабках. Магчыма, ён паможа выкрыць сакрэт і спыніць пагібель жывёлы.

— Ён па ветэрынарнаму дзелу разумее...— не ўтрымаўся Карчэня,— некалі сам сваіх коней лячыў.

Усе глянулі на Карчэню. Што і да чаго гэтыя словы?

— Значыць, сам лячыў, кажаце? Вось няхай і нас навучыць...

— А наш канавал Пратасавіцкі таксама мог бы,— цягнуў далей Карчэня, а потым дадаў: — Але страшэнны гультай...

Усе пырснулі смехам, апрача Рыбіна. Толькі ледзь прыкметная ўсмешка прабегла па яго твары.

— Ну бо чаго ж вы смеяцёся,— развёў рукамі Карчэня,— такі гультай, што хоць ты яго бодкаю пары, з месца не скранецца.

— Значыць, пачакаем вашага ветэрынара,— гаварыў далей Рыбін,— павінен яшчэ прыехаць таварыш Чухноўскі.

Зазваніў тэлефон. Рыбін узяў трубку.

— Ага... Здароў, Сцяпан Пятровіч...— гаварыў Рыбін.— Што? Не прыедзе? Чаму?.. Вось як. Гм... Ну што ж... Яго справа. Будзем пачынаць. Справаздачу атрымаеш дакладную. Бывай.

Рыбін спакойна палажыў трубку. Чухноўскі не можа прыехаць, бо заняты ўпарадкаваннем кватэры, хоча перавозіць сям'ю. Гм... Ну што ж... прычына важная...

У дзверы пастукалі, і ў кабінет увайшоў Архіп Каўдун. Ён сказаў «добры дзень» і звярнуўся да Карчэні:

—练Пракоп, дык я... прывёз.

— Прывёз? — адазваўся Карчэня.— А дзе ён?

— Вось за дзвярыма.

Карчэня перадаў Рыбіну, што Буйвалоцкі ўжо тут.

— Няхай увойдзе,— сказаў Рыбін.

Архіп адчыніў дзверы і паклікаў:

— Цыпрыян, хадзі... Тут цябе патрабуюць.

У кабінет праціснуўся праз дзверы чалавек у заноша-

ным доўгім шэрым кажусе — худашчокі, са скупым валоссем на барадзе. Цёмныя, непрамытыя маршчыны ля доўгага ўвагнутага носа, схіленага крыху набок, яшчэ больш дадавалі худашчавасці. Ён зняў вушанку і моўчкі пакланіўся. Рыбін тым часам сказаў Архіпу Каўдуну, што ён свабодны, і Каўдун выйшаў.

— Вы Цыпрыян Буйвалоцкі? — спытаўся Рыбін.

— Я...— адказаў Цыпрыян і крутнуў галавою, быццам нешта кусала шыю.

Рыбін умомант агледзеў Буйвалоцкага з галавы да ног. На галаве — кранутыя сівізною жосткія валасы, раскіданыя, раскудлачаныя. На нагах — валёнкі ў гумавых адмысловых галёшах, зробленых з аўтамабільнай шыны.

— Прашу... Сядайце — вось тут,— паказаў Рыбін на ўскрай стала.

Цыпрыян Буйвалоцкі асцярожна прайшоў наперад і заняў месца насупраць Колі Мілаша.

Рыбін узброіўся самапіскай і падсунуў да сябе паперу. Звярнуўся да Бабра:

— Харытон Іванавіч, што вы так далёка? Бліжэй да стала. Вы ж гаспадар раёна... І так... Коля, перасядзь сюды, бліжэй да мяне.

Бабёр перасеў і апынуўся насупраць Буйвалоцкага. Капітан Рыбін падсунуўся з крэслам да стала і сказаў:

— Ну, пачнем... Як ваша імя і па бацьку? — звярнуўся да Буйвалоцкага.

— Цыпрыян Кандратавіч...

Так па парадку Рыбін распытаў і год нараджэння, і сямейнае становішча Буйвалоцкага. Аказалася, што тры дачкі ўжо замужам, а з двух сыноў адзін вучыцца ў Азярышчы, у дзесяцігодцы, а старэйшы, жанаты, брыгадзірам у калгасе.

— Якой брыгады — паляводчай? — спытаўся Рыбін.

— Не. Ля жывёлы,— адказаў Буйвалоцкі і зноў крутнуў галавой. Вочы яго паглядалі на Рыбіна насцярожана і баязліва. І дзе тая яго саліднасць, пра якую гаварылі Рыбіну? Не саліднасць тут, не... можа прытоеная хітрасць.

— Мы вас паклікалі як старэйшага, саліднага гаспадара,— пачаў Рыбін,— каб вы нам адказалі на некалькі пытанняў. Скажыце, калі, у які дзень было заўважана на калгаснай канюшні ў вашых Жарабках, што коні ўжо захварэлі на сап?

— Тады заўважылі, як здох першы конь,— не задум-

ваючыся, адказаў Буйвалоцкі і смялей глянуў на Рыбіна.

— Калі гэта было, у які дзень?

Буйвалоцкі пацікнуў плячыма.

— Здаецца... тыдзень таму, ці што.

— Якога чысла — не помніш? — спытаўся Бабёр.

— Ды я ў гэтых чыслах — не вельмі...— неяк зняможана сказаў Буйвалоцкі.

— Хто пра гэта даведаўся першы — ваш сын?

— Ён...— ціха адказаў Буйвалоцкі, а потым з ноткай скаргі ў голасе загаварыў:— Чаго ж вы мяне дапытваеце? Я ж не брыгадзір, я ніхто ў калгасе, што я там значу? Клікалі б старшыню, брыгадзіраў, а то — мяне.

— Як трэба будзе, паклічам і іх. А пакуль што мы хацелі б пагутарыць з вамі. У нас на гэта ёсць прычыны...— сказаў Рыбін.

— Якія прычыны? Што за прычыны? — захваляваўся Буйвалоцкі.— Якія могуць быць прычыны?

— Не гарачыся, Цыпрыян,— прамовіў Бабёр,— ніхто тут цябе не ўкусіць. Цэлы будзеш...

Рыбін не пісаў, ён толькі вёў разведчую гутарку. Адчуваў, што «жыла допыту» ідзе правільна. Але да вытокаў «жылы» яшчэ далёка. Можна і не дайсці.

— Скажыце,— зноў пачаў Рыбін,— вы нікуды ў гэтым месяцы не выязджалі з свае вёскі?

— Адзін раз быў у Азярышчы ў міліцыі...

— Чаго? — спытаўся Бабёр.

— Адносна пашпарту. Замяняў.

— Даўно гэта было? — запытаўся Бабёр.

— Ды нешта... тыдні тры таму...

— І больш не выязджалі нікуды? — пытаўся Рыбін.

— Не! — цвёрда адказаў Буйвалоцкі.

— А можа, прыпомніце, калі вы смалілі свайго парсюка? — раптоўна кінуў Рыбін.

Буйвалоцкі замітусіўся. У галаве, як маланка, мільганула: «Усё бачаць...»

— Ой, ці ж я запісваю, дзе што раблю.

— Мусіць, пад хрышчэнне, га? — спытаўся Бабёр.

— Ну, няхай будзе пад хрышчэнне, але што з гэтага?

— Куды і каму вы насілі сала?

— Не насіў нікуды! — ужо голасам зацятасці адказаў Буйвалоцкі і крутануў галавою аж два разы, нібы хочучы вызваліць шыю з аўчыннага каўняра.

Рыбін чакаў адказу на апошняе пытанне. Чакалі ўсе. Карчэня нізка апусціў галаву. Даніла паблісківаў вачыма

і камячыў вушанку ў руках. Нешта хацелася яму сказаць, але стрымліваўся. Можа, яшчэ будзе час. Толькі Коля Мілаш нешта запісваў. А Буйвалоцкі глядзеў у стол і маўчаў:

— Можа, вы забыліся, пра што мы вас пытаем, дык напомнім: скажыце, куды і каму вы насілі сала?

Цыпрыян прыўзняў галаву, захістаўся на месцы і адказаў:

— Я ж вам казаў, што не насіў нікуды.

— Хто мае якія пытанні да грамадзяніна Буйвалоцкага? — звярнуўся Рыбін да сваіх памочнікаў.— Задавайце.

Стаяла маўчанне.

— То скажы, Цыпрыян, каму ты насіў тое сала? — спытаўся зноў Бабёр.— Можа, прадаваў каму?

— Але...— ачнуўся Карчэня,— мо прадаў каму? Ці мала што? Калі начальнік Рыбінаў пытаецца, значыць, яму нехта казаў пра тваё сала.

— Ці мала што могуць выдумаць? — ужо агрызнуўся Буйвалоцкі, а потым, перадыхнуўшы, прадоўжыў:— Пыталіся пра сап, а тут ужо пра сала. Што гэта і да чаго?

— Дзядзька Цыпрыян, калі насілі каму сала, кажыце,— далучыўся да ўсіх Даніла,— кажыце — і лепш будзе вам, кажыце тут. Усё роўна людзі ўсё ведаюць, каму вы насілі сала.

Буйвалоцкі маўчаў.

Тады капітан Рыбін устаў і, папярэдзіўшы яшчэ раз Буйвалоцкага, сказаў:

— Будзеце гневацца самі на сябе. Не хочаце адказваць — я буду вымушаны вас затрымаць. Паедзеце са мною ў Азярышча.

— У Азярышча? Чаго? У турму?

— Не... Чаго ў турму? Нам трэба даведацца праўду.

— Праўду? Я за праўду. Я ніколі...— замітусіўся спалоханы Буйвалоцкі.

Калі капітан Рыбін увечары таго ж дня вярнуўся ў Азярышча, то ў прыёмнай свайго ўпраўлення ўбачыў Агрыпіну Грынчык. Узрадаваўся і тут жа запрасіў яе ў кабінет. Зараз жа перадаў дзяжурнаму, каб прыняў ад міліцыянера Каўдуна затрыманага Буйвалоцкага і завёў яго ў спецыяльны пакой тут жа ва ўпраўленні.

Гутарка капітана Рыбіна з Агрыпінай дала яму ў рукі, апрача ўсяго, яшчэ адну нечаканую нават для яго дэталь, а іменна: Рыгора Бападзюка, які нядаўна працаваў

у райкоме, ёй, Агрыпіне Грынчык, разам з Васілём Чаравакам і яго сябрамі давялося сустрэць там, дзе павінен быць злоўлены Гусак.

Так, Банадзюк ехаў на першых санях, а Гусак — на другіх... Рыбін сядзеў у крэсле, нават не распранены, і некаторы час глядзеў на стол перад сабою, на свае рукі.

— Гм... Гэта навіна,— прамовіў урэшце.— Каб яны не абагналі нас. Банадзюк для іх — гэта сіла. Як відаць з усяго, Агрыпіна Іванаўна, тут нешта большае, чым мы думалі. Банадзюк з якое вёскі — з Жарабкоў?

— З Жарабкоў.

— Гэта пра многае гаворыць. Ён можа поўзаць тут, па нашых мясцінах. А ўцякаць туды...

Рыбін выняў з кішэні гімнасцёркі блакноцік і хутка запісаў: «Неадкладна дапытаць шэраг людзей аб паводзінах Банадзюка ў партызанскім атрадзе».

Капітан Рыбін ведаў, што такое гарачыя сляды. Ён спяшаўся...

## Раздзел другі

# У ПАЛОНЕ РОЗДУМУ

Не шуміць вішняк зялёным лісцем за вокнамі райкома. Ён стаіць аголены, прарэджаны снежным святлом. У чыстыя марозныя ранкі іграюць на ім сонечныя іскры. Тады Малашкін, прыйшоўшы на работу, перш чым сесці за стол, адхінае фіранку і, усміхаючыся, глядзіць у акно.

Лёгка ўздыхнуўшы, сядае ён за стол, адгортвае пару лісткоў настольнага календара і гэтым аднаўляе ў сабе плынь сваіх думак, а значыць, і працы. Галоўным ён лічыць выяўленне мясцовага актыву. Трэба знаходзіць, выхоўваць людзей для партыі. Тутэйшыя людзі павінны самі ўмець будаваць сацыялізм. Вось якая дума... Ну дык што ж, грунтуй, Малашкін, такую думу. Хто ж табе перашкаджае? Фашысты разгромлены ўшчэнт нават у сваім логаве, краіна ачышчана для мірнай працы, для выхавання людзей — будаўнікоў сацыялізма. Нічога не павінна перашкаджаць. Цяжкасці... Яны ўсюды ёсць і будуць. Вось што праўда. Ёсць розныя цяжкасці. Нашы павінны быць цяжкасцямі росту. А якія ж яшчэ ёсць?

Малашкін заўсёды думаў пра гэта. Але ці ж можна ўсякія цяжкасці падводзіць пад цяжкасці росту? Калі людзі коцяць каменную глыбу на гару, каб там, скажам, пачаць будаваць палац, то перашкодай будзе страміна мёртвай прыроды. А калі перашкодаю з'яўляюцца жывыя людзі, тады як назваць такія цяжкасці?

Малашкін нават адрываецца ад работы і думае, думае... Прыроду можна перамагчы дынамітам, тэхнікай, а жывых людзей чым? У гэтым уся сутнасць справы — як і чым? Бо перамагаць трэба для чалавечага заўтра.

Недарма так думае Малашкін. Пасля таго памятнага пленума абкома ён адчуў і зразумеў, што для яго пачалася новая паласа жыцця. Часам аднекуль здалёк залятала ў душу пачуццё небяспекі. Адкуль яно? Можа, ад Гусака, што недзе туляецца ў пагранічных лясах? Не, Гусак не быў небяспекай. Малашкін верыў у сілы народа. На гусакоў так ці інакш прыйдзе згуба. Вядома, гэта само не зробіцца. Але гэта — справа часу. Адчуваецца нешта больш важнае. А што? Вось аб гэтым ужо даўно думае, думае Малашкін. Яго пакінуў добры настрой. Калі ўсміхаўся Малашкін, усміхаліся толькі вусны, а вочы — не. Яны глядзелі, як праз імглу, затоена, з выразам упутранай упартасці. У працэсе працы ўсё ўбіраецца ў душу. Ці ж трэба, каб душа была, як тая марская губка? Можа, варта адмахвацца ад жыццёвых з'яў, праходзіць міма іх, адвярнуўшы галаву ўбок? І тады грудзі твае будуць дыхаць раўнамерна, будзе здавацца, што нічога нідзе не адбылося. Усё спакойна пад сонцам. Няўжо ёсць такія істоты? А калі ёсць, дык як жа яны жывуць? Чым яны цешацца ў жыцці, аб чым гаруюць, каго шкадуюць? Ці можна ім пазайздросціць? Як можна пагадзіцца, напрыклад, з выказваннямі і паводзінамі Чухноўскага, якога прыслалі ў Азярышча з абласнога камітэта партыі на падмацаванне райкома. Працаваў тэхнічным сакратаром у Гугновіча, мае «плячо» ў абкоме, чаго я не маю, і, галоўнае, не імкнуся мець. Нам усім за «плячо» — партыя, яе праўда.

Калі трэба было паехаць у Серадзібор і наогул у вёскі, Чухноўскі нават з ноткаю крыўды адмовіўся ад паездкі, бо яму, бачыце, трэба ўпарадкаваць кватэру для сям'і. Малашкіну хацелася сказаць, што такі адказ раўняецца злачынству, але... відаць, трэба стрымацца, бо што плыве за спіною Чухноўскага, яшчэ невядома. Трэба дакладней прыгледзецца. І Малашкін пайшоў на манеўр і

сказаў абы сказаць: «Вядома, сям'я — гэта, так сказаць, сям'я... Што ж... ты чалавек з вопытам...» А гэты чалавек «з вопытам», з гладзенькай, блішчастай русай прычоскай набок, перакінуў левую нагу на правую, задраў галаву і выпусціў чарговы люлечны дымок. На шчаках у Чухноўскага гарыць румянец, у вачах — бестурботны блакіт. Сапраўдны адкормлены «харашунчык». Безумоўна, «упрыгожваў» прыёмную Гугновіча.

Малашкін адсунуў убок план размеркавання тэхнікі для калгасаў, які памалу праглядаў, бо побач з праглядам наплывалі сваёй раўналеглай плынню яны — настойлівыя думкі, ад якіх адчапіцца нельга.

Аднак хочацца ад іх адпачыць, бо яны часам адводзяць убок. І таму Малашкін устаў, пацёр рукі над сталом, нібы каб у нейкай долі астацца задаволеным сваім роздумам.

Нечакана ўвайшла Саша.

Ён прывык да такога яе ўваходу. Але цяпер... калі нешта асела на душы ад роздуму, Малашкін не хацеў бачыць Сашы. Яе ўваход, здавалася, нечым парушыў яго набытую раўнавагу. Ён хутка, нават ліхаманкава, не даўшы Сашы прамовіць ні слова, спытаўся:

— У чым справа, Саша? Што здарылася?

— Просіцца Банадзюк.

— Банадзюк? Чаго?

— Не ведаю,— нейкім не сваім голасам адказала Саша.

Гэта не прайшло міма ўвагі Малашкіна, але ён нічога не сказаў.

Малашкін задумаўся: прыняць Банадзюка ці не? Што яго сюды прыгнала? Можа, што-небудзь у абарону сябе?

— Няхай зойдзе,— сказаў Малашкін і на момант затрымаў свой позірк на пахудалым Сашыным твары. Да грудзей дабіралася нешта калючае, цёплае... А Саша павярнулася і выйшла.

Зараз жа ўвайшоў Банадзюк.

На галаве яго сядзела, як цюбецейка, вушаначка з шэранькімі стручкаватымі вушкамі. Раскіданае па твары рабацінне было, відаць, кранута марозным ветрам, бо нос, мала большы за напарстак, аблупіўся. Банадзюк загаварыў сваім тонкім голасам:

— Сцяпан Пятровіч...

— Па-першае, сядай,— сказаў Малашкін,— а потым будзеш гаварыць.

Банадзюк сеў не ля стала, а збоку, пры сцяне.

— Ну вось, цяпер расказвай.

— Сцяпан Пятровіч,— нанава пачаў выводзіць Банадзюк,— у мяне да вас просьба невялікая...

— Якая?

— Каб вы мне далі характарыстыку. Ці ж я ў вас не заслужыў?

— Характарыстыку? Гм...

Малашкін прайшоўся ўздоўж стала туды і назад і спыніўся недалёка ад Банадзюка.

— Нашто табе характарыстыка? Хочаш паступіць на работу?

— Хачу,— адказаў Банадзюк,— задумаў паехаць у Мінск. Там жа вядзецца вялікая адбудова. Хачу прыняць удзел у адбудове горада.

— Пахвальная справа,— сказаў памяркоўна Малашкін, няўзнак назіраючы, як Банадзюк падабраў свае губкі, стуліў іх шчыльна і шэрымі вачыма глядзеў «у нікуды», не змаргнуўшы. Што рабіць? Даць яму тую характарыстыку ці не? Дагадкі Агрыпіны Грынчык пра Банадзюка не павінны быць беспадстаўныя. Ці многа грахоў, ці мала — гэта невядома. Як магло здарыцца, што гэты Банадзюк, будучы ў партызанах, атрымаў ордэн Баявога Чырвонага Сцяга? Былі і нейкія заслугі? Незразумела. Можа, сама Агрыпіна яшчэ добра не ведае? Яна казала, што калі паліцаі на чале з Гусаком забілі яе брата, гэта было нейкім чынам звязана з Банадзюком.

Нешта штурхала даць Банадзюку характарыстыку. Не... трэба ўсё ж такі з кімсьці параіцца. Падумаў пра Чухноўскага. Ды што з ім раіцца? Ён жа не ў курсе справы. А ну, раптам скажа: «Трэба даць. Ён жа працаваў у райкоме». З кім жа? Вядома, толькі з Рыбіным. Але яго няма. Недзе ў вёсках. З Харытонам Бабром бескарысна. Той скажа: «Як хочаце... Справа ваша...» Хай пачакае Банадзюк.

— Давядзецца табе, Рыгор, пачакаць. Дзянёк... два... Так складаюцца справы. Разумееш? Ну вось...

Мінула тры-чатыры дні, а Банадзюк у райком не прыходзіў. Затое ўвечары прыехаў з Серадзібора капітан Рыбін і зайшоў да Малашкіна.

Малашкін то чырванеў, то бялеў, калі слухаў расказ капітана пра Банадзюка і наогул пра ўсю тую сустрэчу Агрыпіны, Васіля Чаравакі і Сяргея Паўлёнка з бандытамі, сярод якіх былі Гусак і Банадзюк.

— Што ты кажаш? Што ты кажаш? — увесь час паўтараў Малашкін, а ў галаве яго білася думка: «Я ж яму, нягодніку, траха не даў характарыстыкі. Я ж яго прыняў быў на работу ў райком...»

— Што ж будзем рабіць? — паставіў пытанне Рыбін.— Чакаць няма чаго. Трэба спяшацца...

— Як жа выглядаю я, Пётр Іванавіч? Я ж яго прымаў на работу, нягодніка.

— Прымаў на работу не ты адзін. Прымалі разам. Будзем адказваць разам. Не бядуй. Адзін не астанешся. Дык ён у цябе быў? Значыць, мярзотнік, паспеў пабываць у стане Гусака і вярнуцца, зайсці ў райком і прасіць характарыстыку. Здарава! Рухавасць — нічога не скажаш. А нашто яму характарыстыка?

— Хоча ехаць у Мінск на работу.

Капітан Рыбін уставіўся вачыма на Малашкіна.

— У Мінск? Вось што. Нечаканыя павароты. Смела адчувае сябе гэтая блыха...— Хвіліну падумаўшы, капітан сказаў:— Не можам чакаць ні хвіліны! Банадзюка зараз жа трэба арыштаваць!

— Поўная згода. Дзейнічай,— адказаў Малашкін.

Капітан тут жа ўстаў і на ўвесь свой поўны крок адбахаў да дзвярэй.

Малашкін сеў і, узбуджаны, пачаў запісваць у блакноце і ў настольным календары: «...паставіць на партбюро... Праверыць сям'ю Банадзюка... Усё ж такі выслаць у вёску Чухноўскага — іменна ў Жарабкі...»

Зазваніў тэлефон. Малашкін узяў трубку.

— Слухаю... А, гэта ты, Маня? Што? Абед? Ды не, сягоння нармальна. Прыйду ў тры...

Малашкін палажыў трубку і, падпёршы галаву рукою, пачаў глядзець на брашуру Леніна аб рэнегаце Каўцкім. Нешта ў ёй кранала яго. Па меры таго як глядзеў, заўважыў, што нічога не бачыць. Аловак упёрся ў паперу, нібы гатовы вось-вось запісаць задуманае. Шэрасцю заткала стол — стол, за якім ён, Малашкін, вырашыў нямала спраў і павінен вырашаць далей. За сталом павінна быць яснасць, чоткасць, нават адухоўленасць... Гэта ўсё было і павінна быць далей. Але вось раптам, нібы ўкрадкам, падплыла шэрасць. І стала́ не відаць. Вочы Малашкіна загледзеліся недзе глыбока, як у калодзежны цёмны зруб, дзе ў бляску вады пакалыхваецца яго задумёны твар. Нехта да твару працягвае руку. Чыя ж гэта рука? Хто гэта? Ці хто хоча прыкласці яе да гарачых

скроняў, каб астудзіць іх? Рука набліжаецца павольна, асцярожна, нясмела, з перапынкамі. Вось ужо відзён жаўтаваты рукаў вышэй локця. Малашкін прыкрыў вочы. Так... Гэта тая рука, якую ён узяў быў вышэй локця там... ля акна, праз якое з абломанай сцяны глядзела на іх бярозка. Што рабіць? Адхіліць руку? І адхіліць так, каб больш яна не працягвалася? Пры такой думцы Малашкіна ахапіла пачуццё бяскрайняй пустаты, дакукі, нават бяздомнасці, што здавалася, лепш пайсці на край свету і не вярнуцца назад. «Эх, ты, Саша...» — уздыхнуўшы, прамовіў сам сабе Малашкін, кінуў аловак на стол, ды так, што ён аж падскочыў. Разгарнуў пасяўныя планы па раёне, якія ўчора прынёс Бабёр. Яны яшчэ не раз будуць абмяркоўвацца, перарабляцца. Лісткі перагортваліся, і за кожным лісткам нехта неадлучна следаваў. Часам дзіцячыя ручкі клаліся, заміналі... Усмешка набягала на твар Малашкіна — ён пазнаваў ручкі сваёй «балерынкі» Любкі, за якою стаяла з дакорлівымі, заўсёды мокрымі вачыма, вечна запрацаваная Маня — жонка. Малашкін адчуў, што дакорлівасць Маніных вачэй хоць і трывожыць яго, але не дапякае так, каб ён мог пайсці на шчырасць. Нешта падкошвае цэласнасць Малашкіна-камуніста. Так, быў вось такі камуніст Малашкін Сцяпан, Пятроў сын, з немалым зарадам адпорнасці, наступальнасці. І гэта яму давала крылы, апору... А цяпер адчувае Малашкін, што нешта гнецца ў душы, просіць разрадкі. Як жа гэта здарылася? Як мог папусціцца камуніст Малашкін, каб раніла яго страла?.. Папусціўся, відаць, папусціўся... А ўсё нарабіў гэты малашкінскі гумар, нарабіла жыццярадаснасць, калі да ўсяго прыгожага хочацца працягнуць рукі... Хіба ж гэта грэх? Няўжо камуніст павінен быць сухім, халодным назіральнікам жыцця — з замкнутымі губамі, з вачыма без выразу? Не, душа ніяк не хоча з гэтым згаджацца. Наадварот, камуніст і ёсць той чалавек, які з'яўляецца прапаведнікам і праваднікам радасці жыцця, яго красы.... Дык чаму ж камуніст Малашкін адчувае сябе вінаватым перад чымсьці, што стаіць над ім неадступна? Малашкін хацеў падняцца і сказаць: «А можа быць, пакрыўджаны я?» Але не ўстаў... Можа, хацелася яму сказаць тое самае, што ў свой час сказаў дырэктару вышэйшай партыйнай школы ў Маскве, калі яго сарвалі з курсаў (не далі дакончыць) і паслалі сюды, у Беларусь, узгадняць жыццё вызваленай краіны з рытмам жыцця вялікага сацыялістычнага агулу? А ён сказаў та-

ды, убачыўшы, што яго просьбы, каб далі магчымасць дакончыць курсы, дарэмныя: «Нічога, мы яшчэ паваюем... яшчэ будуць для нас курсы!..»

Ішоў дахаты абедаць так павольна, ціха, што, здаецца, не чуў сваіх крокаў. Адыходзячы, сказаў Сашы звычайным службовым тонам, каб спытала ў Чухноўскага, ці сабраны ўжо ўсе матэрыялы пра зямельнае становішча вёсак раёна. Саша кіўнула сваёю зграбнай галавою і на нейкае імгненне затрымала вочы на Малашкіне. Яна не магла не заўважыць налёту смутку на яго твары.

Павольна, вельмі павольна ўвайшоў Малашкін у сваю кватэру. Доўга ачышчаў боты ад снегу ля парога на кухні. Доўга вешаў паліто, шапку, а потым разгладжваў зборкі ў гімнасцёрцы, слізгаючыся пальцамі па поясе.

Маня адчыніла дзверы з сталовай і, паглядзеўшы, нават спыталася:

— А, гэта ты?.. А я ўжо думала, хто тут так доўга топчацца? Падумала, можа чужы хто...

— Падумала, падумала...— прамовіў Малашкін, як невядома каму, і прайшоў у сталовую. Заглянуў у невялічкую спальню. На ложачку спала, раскінуўшы ручаняты, «балерынка». Малашкін падцягнуў крыху ўверх коўдрачку. Ззаду назірала Маня і шэптам прамовіла:

— Асцярожна, яна толькі што заснула...

Малашкін адвярнуўся, сустрэўся вачыма з Маняй — і раптам адчуў, што душа на момант з чымсьці прымірылася. Пацiснуў Маню за плечы і сказаў:

— Давай абедаць...

Маня абедала разам, расказвала, як муляры абклейваюць квяцістай шпалерай сцены ў кватэры Чухноўскага і пра тое, што работа не ўдалася — холадна, мароз і клей дрэнны, так што адну сцяну давялося пераклейваць.

— Якраз на гэтую няўдаласць,— расказвала Маня,— надышоў сам Чухноўскі і так раскрычаўся на рабочых, называў хамамі, пагражаў не заплаціць за работу. Ну, як так можна крычаць на людзей? Ды яшчэ сакратару райкома? Гэта — ганьба. Гэта ж падумаць...

Малашкін чэрпаў з талеркі бульбяны суп з вермішэллю і маўчаў. Яму хацелася, каб Маня гаварыла пра Чухноўскага больш... больш.

— Адкуль ты гэта ўсё ведаеш? — спытаўся ён.

— Ведаю. Мы з Бабрыхаю знарок хадзілі глядзець гэтую кватэру. Падумаць — пяць пакояў... Нашто яны яму? У іх жа адна толькі дзяўчынка...

— Няхай мае. На здароўе,— адказаў Малашкін,— гэта яшчэ не такая бяда. Ёсць горшыя рэчы...

І Малашкін хацеў расказаць, як адмовіўся Чухноўскі ехаць у сёлы, каб памагчы ліквідаваць гэты пракляты сап. Хацеў расказаць, але раздумаў — ці варта гаварыць жонкам пра службовыя справы?

А Маня вяла гутарку далей — пра жонку Чухноўскага, як яна выглядае, што любіць, чаго не любіць...

Малашкін ускінуў на Маню вочы ўжо з выразам нецярплівасці і спытаўся:

— Адкуль такія весткі? Што гэта за размовы?

— Ужо ведаюць усе, не бойся,— адказала Маня і нечакана дадала:— Цяжка будзе табе з ім працаваць. Пабачыш.

Можа, гэта ёй болей за ўсё і хацелася сказаць. Малашкін зразумеў яе, і ў душу зноў пачаў вяртацца неспакой. «Дурненькая ты жанчына, было б лепш, каб ты не гаварыла пра гэта».

Паабедаўшы, Малашкін адразу апрануўся і пайшоў у райком. У прыёмнай з ходу сказаў Сашы:

— Чухноўскага ка мне!

Энергічнымі, парывістымі рухамі скідаў з сябе паліто, не абцягваў, а тузаў на сабе гімнасцёрку, хацелася тут жа стукнуць кулаком па стале і крыкнуць так, каб аж закалацілася ўсё навокал...

Ужо цямнела ў кабінеце. Малашкін націснуў на выключальнік, і адна-адзінокая лямпка ўспыхнула, як здалося Малашкіну, неяк незвычайна, як феерверк, асвяціўшы ўсе куткі кабінета. Брашура Леніна пра рэнегата Каўцкага ўсё яшчэ ляжала на стале, напамінаючы, што на свеце ёсць розныя здрады — не толькі вялікія, але і малыя.

Малашкін паклаў рукі на стол — чакаў. Чухноўскага не было. У гэты момант Малашкіна бурыла ўжо нянавісць. Ён ківаў галавою і паўшэптам паўтараў: «Бачыш ты яго... Манеры — нішто сабе...»

Малашкін вырашыў наступаць. Мог бы махнуць рукою на такі «послух» другога сакратара, устаць і пайсці, няхай бы ён яго пашукаў. Але не... трэба яго дастаць, трэба яго... Малашкін націснуў на званок. Увайшла Саша і стала ля дзвярэй.

— Чаго стала? Падыдзі бліжэй...

Саша скранулася з месца і ішла павольна да стала, як баючыся.

— Сказала Чухноўскаму, каб прыйшоў?

— Сказала,— прамовіла Саша так, як бы праглынула нешта цвёрдае, даўкае. Кашлянула і дадала:— Але ён нічога не казаў. Толькі кіўнуў галавою. Пісаў нешта.

— Ага... Ідзі скажы яму, што я чакаю ў кабінеце.

Толькі Саша хацела выйсці, як дзверы без ніякага папярэдняга стуку размашыста адчыніліся і ў кабінет увайшоў з люлькай у зубах Чухноўскі.

— Ах, вось дзе я вас застаў! — з ноткаю жарту ўскрыкнуў ён.— Скажу жонцы, скажу, Сцяпан Пятровіч.

— Не валынь, сядай, пагаворым,— сказаў Малашкін, паказваючы на крэсла.— Ты, Саша, скажы Післяку, няхай пазвоніць у райвыканком, даведаецца, дзе Бабёр. А потым няхай скажа мне.

Саша выйшла.

Чухноўскі ўсеўся ў крэсла так, быццам ён тут ужо сядзеў даўно — усеўся разваліста, адкінуўшы плечы і галаву на спінку так, што люлька з простым цыбуком у зубах нават задорна задзёрлася ўверх. Ён часта цмокаў губамі, ад чаго здавалася, што недзе нібы за акном падаюць са страхі шлепакі ў засмечаную лужынку. Чухноўскі трымаў сябе неяк знарок незалежна, развязна, кожным рухам падкрэсліваючы гэта. Як быццам наўмысна, пачаў гаварыць пра звычайныя рэчы — пра тое, што ў магазіне не хапіла шпалераў, каб абклеіць сцены ў кватэры,— давядзецца пад'ехаць у вобласць, там ёсць на выбар, калі дагэтуль не разабралі. Левая далонь у Чухноўскага была злёгку перавязана бінтам. Чухноўскі нечакана загаварыў пра руку.

— Разумееш, над акном тырчаў цвік,— пачаў Чухноўскі нібы ўсур'ёз,— звычайны заржавелы цвік. Ну нашто цвік над акном? Мяне нават узяла злосць. Я схапіў рукою за яго, а ён... бачыш? Чорт ведае, як гэта сталася. І вось драпіна — ды такая пякучая, чорт бы яе пабраў...

Чухноўскі пачаў папраўляць бінт на далоні, а зрэнкі, як мушкі, зыркалі па кабінеце і часам на адно імгненне заглядалі ў вочы Малашкіну.

Малашкін сачыў за гаворкаю Чухноўскага, маўчаў, паступова адгадваў яго тактыку, даволі такі віртуозную. Бо як гэта можна так хутка перакідацца з аднаго на другое? Скончыў расказваць пра далонь і раптам пераскочыў да вераб'ёў. Аказваецца, залез Чухноўскі на гарышча свайго новага асабнячка і знайшоў у падстрэш-

шы старое вераб'інае гняздо. Хіба ж можна дапусціць да таго, каб вераб'і вілі гнёзды ў дамах? Для вераб'ёў існуюць прысады.

Малашкін урэшце сабраўся спыніць гэтую бязглуздзіцу Чухноўскага, ад якой рабілася ўжо абрыдліва. Але як пачаць гаварыць з гэтым харашунчыкам? Хлопец, як відаць, набраўся вопыту «замыльваць вочы».

Думаючы так, Малашкін адчуў, што калі б яшчэ хвілін пяць ён паслухаў Чухноўскага, ад усёй яго, малашкінскай, палкасці нічога б не асталося. «Няўжо ён хацеў праверыць маю цярплівасць?»

— Пакінем, Пракопавіч, пра вераб'ёў. Няхай уюць сабе гнёзды на здароўе, дзе ім падабаецца. У іх ёсць свой густ, як, скажам, у цябе, у мяне. Ты вось, напрыклад, любіш курыць люльку, хоць яшчэ і малады, а я не магу. Ну, але гэта справа твая. Куры на здароўе. Я хачу спытацца ў цябе пра другое. Ты тутэйшы чалавек ці не?

Чухноўскі заморгаў вачыма, як у замяшанні, і цыбук люлькі ўвапхнуў у рот яшчэ глыбей. Заціснуў губы і мармытнуў. Пачакаўшы хвілінку, адказаў:

— Як сказаць? Тутэйшы і не тутэйшы. Нарадзіўся-та я тут, у суседнім раёне. Але мне было шэсць год, калі сям'я выехала ў бежанства ў 1915 годзе. Пражылі шэсць год у Сібіры ў Кургане, а потым пераехалі ў Чэлябінск,— пералічваў Чухноўскі. Спыняўся на момант — ці каб свайму расказу дадаць вагі, ці дзеля таго, каб прыпомніць тое ці іншае са сваёй біяграфіі.

Малашкін слухаў і час ад часу неўпрыкмет нешта вырысоўваў на кавалку паперы.

Чухноўскі распальваў люльку, потым яе раскурваў і цягнуў далей:

— У Чэлябінску пражылі нядоўга... Пераехалі ў Свярдлоўск. Тут пражылі крыху даўжэй. Я тады быў ужо студэнтам педінстытута на гістарычным. Гэта было недзе ў трыццаць першым... Потым пераехалі ў Беларусь.

Чухноўскі ўзяў запалку з карабка Малашкіна, што ляжаў на стале, і стаў калупацца ёю ў люльцы. Што там здарылася з гэтай люлькай? Ніяк не хоча выкалупвацца. Чухноўскі нават заглянуў у люльку, падстаўляючы ямачку пад святло лямпкі,— усё роўна нічога не відаць...

Малашкін цярпліва чакаў. Чухноўскі, наадварот, так заняўся калупаннем, што, здавалася, забыўся пра ўсё і пра тое, аб чым гаварыў. Урэшце Чухноўскі дамогся свайго, пабразгаў люлькай па беражку малашкінскай попель-

нічкі і, узяўшы цыбук у губы, дзьмухнуў праз яго так, што аж нешта ў ім зашыпела. Рука з пустою люлькаю апусцілася на калена. Малашкін закурыў «Беламор» і чакаў. Чухноўскі ў сваю чаргу чакаў ад Малашкіна пытання, хоць самому хацелася, каб яго не было. Некаторы час абодва маўчалі. Малашкін абыякава зірнуў на вокны і нават прамовіў:

— Мароз мацуецца нанач...

Чухноўскі тут жа дакрануўся да лба люлькаю і, быццам нешта ўспомніўшы, пачаў:

— Ага... Пераехалі ў Беларусь... Аселі мы ў Бабруйску... Ну вось, можна сказаць, і ўсё...

— Чым займаўся бацька?

— Чым папала. І боты шыў і бандаркай займаўся... У Свярдлоўску служыў на складзе на чыгунцы. І загінуў пад поездам.

— Чаму? Як?

— Мяшок пацягнуў з прыступак тамбура.

— Ну, добра. Яшчэ адно пытанне — прабач... Кім ты сябе лічыш па сацыяльным паходжанні? Селянін, рабочы, служачы?

— Я пішу — служачы.

— Чаму ты ў сваёй «Асабістай справе» пішаш, што ты пралетарскага паходжання?

— Пралетарскага? Гм? А так, пралетарскага. А якога ж? Зямлі ж у нас не было. Жылі як папала і дзе папала. Вось ніяк больш і не акрэсліш...

— Акрэсліць можна. Але... Добра. Толькі незразумела, чаму ты, які лічыш сябе чалавекам пралетарскага паходжання, называеш рабочых хамамі?

— Дзе? Калі? Каго? — замітусіўся Чухноўскі.

— Тых рабочых, якія абклейваюць сцены тваёй кватэры.

Чухноўскі ўстрывожыўся, але тут жа авалодаў сабою.

— Хто табе мог сказаць пра гэта? Хто?

— Значыць, ты не прызнаешся?

— Чаму я павінен прызнацца? — Збянтэжаны Чухноўскі пацінуў плячыма. Яго чырвоныя шчокі яшчэ больш пачырванелі.

Малашкін устаў. Прыкурыў папяросу, выйшаў за крэсла і абапёрся на спінку.

— Гэта, Пракопавіч, скандальная справа. Як у цябе мог павярнуцца язык, у цябе, у партыйнага работніка, каб

рабочых, сумленных людзей, што табе будуюць жылле, назваць хамамі?

— Ды што ты, Сцяпан Пятровіч? — з ноткай высакароднага абурэння прамовіў Чухноўскі.

— Не хочаш прызнацца, то можам справу паставіць на бюро. Перад бюро паклічам рабочых. Я здзіўляюся, чаму яны не прыйшлі сюды скардзіцца. Вядома, баяцца. Думаюць, што і Малашкін такі самы... не...

— Ды што ты, Сцяпан Пятровіч? Што з табою? Я не магу слухаць.

— А вось паслухай. Павінен паслухаць. Міма такіх рэчаў праходзіць нельга, Чухноўскі! Разумееш?! — павысіў голас Малашкін і замахаў пальцам.— Партыя такіх рэчаў не выбачае!

Чухноўскі ўспыхнуў.

Глянуў з вострай нянавісцю на Малашкіна і пачаў агрызацца.

— Ты мяне партыяй не страш, я сам партыйны,— запнуўся Чухноўскі.— Ды што ты заеўся, не разумею? У канцы канцоў я табе не хлопчык, што можна так мяне тузаць.

Чухноўскі ўстаў. Відаць было, што ён чагосьці баяўся, а з другога боку — амбіцыя кабінетчыка штурхала яго да задзёру.

— Ганьба! — крыкнуў на ўвесь голас пачырванелы Малашкін і ўдарыў далонню аб спінку крэсла.— Паўтараю: ганьба!

— Я не магу... Я не магу... Я магу пайсці...

— Не, сядзі і слухай!

— Я табе не хлопчык...

— Ты скажы, дзе ты навучыўся так грэбаваць людзьмі?

— Ты не поп, каб я табе спавядаўся,— вырвалася ўрэшце ў Чухноўскага.

— Я — камуніст і да таго яшчэ першы сакратар райкома і павінен у цябе, у другога, пытацца пра ўсё.

— Як табе вядома, я сюды прысланы абкомам партыі, а не які-небудзь прыблуда.

— То цябе абком прыслаў сюды называць рабочых хамамі? Так?

— Нікога я не называў... А наогул — я іду...

Чухноўскі, нават не схаваўшы люлькі ў кішэню, выйшаў.

Малашкін з-пад нахмураных броваў правёў яго вост-

рымі вачыма. Бачыў, што Чухноўскі ўсё-такі спаткнуўся наском бота аб парожак і няўклюдна, як не сваімі рукамі, зачыніў дзверы.

Малашкін выпрастаўся і, гледзячы на дзверы, правёў далоняю па сваіх чорных віхрах. Сеў на крэсла, палажыў рукі на стол, адпачываў.

Павольна і востра цікаў гадзіннік на сцяне. За вокнамі маўчала ноч. І хоць на шыбінах паблісквалі марозныя іскрынкі, Малашкіну рабілася душна. Думкі прыціхалі, як тыя птушкі перад навальніцай.

## У ЗАВІРУХУ

Аднак сап не быў ліквідаваны зусім. Праўда, ён не распаўсюдзіўся па раёне — пры агульным стараннi саміх старшынь калгасаў, людзей райвыканкома на чале з Харытонам Бабром былі прыняты ўсе захады, каб яго ізаляваць, задушыць там, дзе ён з'явіўся. Не спускаў з вачэй усёй гэтай справы сам Малашкін. І, можа, асаблівую ролю ў гэтай рабоце адыграў капітан бяспекі Рыбін, які ў гэтыя трывожныя дні сапраўды больш праводзіў часу ў машыне, чым у сябе ў кабінеце.

Вестку аб тым, што ў бацькі Міхася Гойдалы-Гайдалевіча здохла цялушка і чыйсьці конь, нeспадзявана прынесла ў Азярышча Вера Лукашэвіч. Усё ж такі па даручэнню Рыбіна яна з'ездзіла ў Серадзібор. Перш-наперш пагаварыла ў сельсавеце з Карачэняй, каб да вясны дрэва для бальніцы было вывезена з лесу, зайшла ў чайную выпіць шклянку чаю. І там таксама, як тады ўвосень, напаткала старога Несцера, які шукаў яе з тою самаю просьбай — палячыць жонку, старую Тэклю, якой стала горш. Хацеў ужо дзядзька везці хворую ў Азярышча, ды ўсё халады не давалі. А тут якраз прыехала сама дактарыца...

— Моцны раматус у яе,— сказала Вера Ігнатаўна,— трэба ў бальніцу, ванны...

Аднак пайшла, паглядзела старую. Палажыла ёй тэрмометр пад паху, а сама тым часам прайшлася па хаце, паглядаючы на сцены. Даткнулася пальцам да каршуна, што ўзняў пры сцяне крылы да лёту, хвілінку палюбавалася ім, наблізіла да вачэй ручнік, паглядзела на вышыўкі і спынілася перад фатаграфіямі пад агульным шклом у чорнай рамцы. Там яе ўвагу звярнуў малады чалавек,

сфатаграфаваны ля стала. На стале перад акном стаяў вазон кветак. Малады чалавек, аблакаціўшыся на стол, абапёрся шчакою на сагнутую далонь. Побач з акном відзён быў краёчак паліцы з кніжкамі. Чымсьці ўтульным павеяла на Веру Ігнатаўну ад гэтага здымка. Акно сялянскай хаты ў шэсць шыбінак напамінала нешта ад кватэры сельскага настаўніка. Углыбіні, недзе за спіною маладога чалавека, густа цямнеў фікус, што яшчэ больш дадавала гэтаму кутку прывабнай утульнасці.

Вера Ігнатаўна ўжо адзін раз бачыла гэтага маладога чалавека, і пры такой жа нагодзе, што і цяпер. Толькі тады ён абмінуўся з ёю на парозе вось гэтай Несцеравай хаты. А яна правяла яго вачыма...

На фотаздымку Вера Ігнатаўна пазнала Платона Грушку, ён глядзеў з кутка серадзіборскай матчынай хаткі — глядзеў, не змаргнуўшы, спакойна, засяроджана. Вера Ігнатаўна адвяла вочы ад фота і ўспомніла, што трэба дастаць з-пад рукі ў старой Тэклі тэрмометр. Потым яна выстуквала старую, услухоўвалася ў скрыпы, уздыхі зношанага цела.

— Вам трэба ў бальніцу,— сказала Вера Ігнатаўна.

— Ды дзе ж яе ўзяць, саколка? Каб яна была вось тут, у Серадзібары, тады... А да Азярышча далёка — дый холад...

— Я вам прапішу націранне, парашкі... Трохі паможа.

Увайшоў стары Несцер з міскай квашанай халоднай капусты ў адной руцэ, а ў другой з талеркай нарэзанага мёрзлага сала. Паставіў усё на стол і падыбаў назад за коўдравую перагародку, адкуль неўзабаве прынёс хлеб на талерцы і відэлец. Старая Тэкля паварочвала спіну да Веры Ігнатаўны і, хоць вочы глядзелі ў сцяну, раптам крыкнула:

— Талерачкі ў шафачцы ў сенцах! Толькі глядзі не пабі збанка з яечкамі!..

Выслухванне скончана. Вера Ігнатаўна кладзе свае лекарскія прылады ў невялічкі чамаданчык і дастае адтуль самапіску і блакнот. Трэба ж напісаць рэцэпт. Яна прысела ля стала. Адным вокам зірнула на яду, пастаўленую Несцерам, пачала пісаць. З-за перагародкі выйшаў Несцер з запацелай ад холаду бутэлькай зачырвоненай гарэлкі.

— Вы што — відаць, гасцей чакаеце? — спыталася Вера Ігнатаўна.

— Вы ў нас найлепшая госця. Вось перакусіце трош-

кі, чым бог паслаў,— прамовіў Несцер,— кіньце пісаць, напішаце потым.

Вера Ігнатаўна аж пачырванела ад такой неспадзяванкі і пачала адмаўляцца.

— Я не галодная, нядаўна ела ў чайной, дзякую вам вельмі... Не, не...

Але стары Несцер быў няўмольны. А тут яшчэ далучылася да яго і Тэкля. Вера Ігнатаўна адчула, што адмаўляцца далей ужо нельга. Старыя пакрыўдзяцца. Згадзілася. І чарачку адну выпіла. І ела ўсмак капусту і сала. І ўсё хваліла, ад чаго з прыемнасцю пакрэктвала Тэкля, паварочваючыся ў ложку. Вера Ігнатаўна потым разгаварылася пра бальніцу ў Серадзібары. І Несцер сказаў ёй, чаму не хапіла дрэва на бальніцу.

— Міхась Гойдала... ляснік... Яго работа. Усё аддаў Вераб'ю на хату. Так яму патрэбна хата... Яшчэ ў гэтай можна жыць ды жыць... Што ты зробіш, міленькая, з нашымі такімі людзьмі?..

Вера Ігнатаўна слухала, толькі слухала, не хацела выказваць сваіх думак, баялася, каб у чым не прагаварыцца. Каб адвесці гутарку на другое, яна спыталася:

— А дзе жыве гэты Гойдала? У мяне да яго ёсць справа.

— Сам стары, кажуць, захварэў, а сын — ляснік — больш у лесе. Жыве ў лясніцтве.

— А як у вас з сапам?

— Ды, дзякуй богу, мінуў ён нас. Тут прыязджаў і Бабёр і Рыбінаў. Стараліся... Толькі вось днямі ў гэтага самага Гойдалы здохла цялушка, ды пагаворваюць, што ў яго нехта начаваў з канём і што нібы здох і конь... Каб не было тут якога ліха... Выкапалі яму за агародамі, у лесе, а калі закопвалі, хто іх ведае. Гойдала тут у сяле не жыве.

— А дзе? — нібы спалохаўшыся, спыталася Вера Ігнатаўна.

— Ён на адселі, туды, па дарозе да Забівачак.

Вера Ігнатаўна глянула на гадзіннік.

— Мне трэба паспяшацца... ой, ой, як жа я забавілася. Выбачайце... Дзякую за пачастунак.

Вера Ігнатаўна яшчэ раз расказала Тэклі, як прымаць лекі, і звярнулася да Несцера:

— Вы ўсё ж такі хоць трошкі пакажыце мне дарогу да Забівачак. Я праязджала праз іх толькі адзін раз, і то вясною... А цяпер дарогі замяло...

— Я вам не толькі паказаць, але магу і давесці...

Так і прывёў Несцер Веру Ігнатаўну аж да самай Гойдалавай хаты. Пасляабедзенная шэрасць стала гусцець — павольна наплываў вечар. Стары Несцер у хату да Гойдалы не пайшоў, а, тулячыся ля глухой сцяны, падаўся за агароды, к лесу, і там знайшоў засыпаную толькі да палавіны яму. Калі прыгледзеўся прыгнуўшыся, заўважыў высунуты з-пад пяску конскі капыт. «Значыць, праўда, што конь здох... А чый конь? Нават не засыпалі...» — падумаў Несцер, стоячы над ямай.

А ў гэты час Вера Ігнатаўна вяла «дыпламатычную» гутарку з Васілём Гойдалам, які сядзеў, прытуліўшыся спіною да печы.

— Не... Я пачула, што вы захварэлі нейкай заразнай хваробай. Мой абавязак — праверыць, каб хваробу ліквідаваць, каб яна не перанеслася на другіх.

— Не...— аднекваўся Васіль Гойдала,— бог мілаваў, яшчэ ходзім.

І змаўкаў — баяўся больш гаварыць. Вера Ігнатаўна заўважыла гэтую яго боязь, а ў сэрца мімаволі падкрадалася падазрэнне. «Нейкі дзіўны гэты чалавек. Два словы скажа і змоўкне. А ўсё ж такі я яго праверу»,— падумала яна і звярнулася да Васіля Гойдалы:

— Ну, паколькі я зайшла да вас, давайце я вас праверу. Гэта вам не пашкодзіць. Я вам пастаўлю тэрмометр.

Вера Ігнатаўна раскрыла чамаданчык і выняла тэрмометр. Васіль Гойдала дзіка сачыў вачыма за дактарыцай, як чалавек, якога чакаюць пакуты.

Калі Вера Ігнатаўна падышла з тэрмометрам, ён глядзеў на яго, як на страшыдла.

— Не трэба... Не трэба... Я здаровы,— адмахваўся рукамі, адпрошваўся стары Гойдала.

Гойдаліха, якая ляжала на печы, павярнулася са спіны на бок і таксама ўбіла вочы ў цацку, што блішчала ў руцэ дактарыцы.

— Вы ж яго можаце прапароць,— прамовіла яна панура.

— Няўжо вы ніколі не бачылі тэрмометра? — спыталася Вера Ігнатаўна.

— А дзе ж нам бачыць? — прахрыпеў стары.— Нам не было часу на гэта, ды да нас ніхто і не прыходзіў.

— А вось я прыйшла. Хіба гэта дрэнна? Прыйшла палячыць вас. А можа, у вас тыфус? Дайце я гляну на вашу спіну. Можа, там высыпка ёсць?

— Няма ў мяне нічога. Будзеце пэцкаць рукі аб маю скуру.

Вера Ігнатаўна змоўкла і стаяла, апусціўшы рукі, бездапаможная. Пастаяўшы так, яна вярнулася да чамаданчыка і выняла адтуль прылады для выслухоўвання:

— Дык дайце я вас паслухаю...

— Я ж вам кажу, што я не хворы,— сказаў, як адрэзаў, стары Васіль.

— Ну што ж,— развяла рукамі дактарыца.— Калі акажацца, што вы хворы, мецьад мяне ласкі не будзеце. Я вас забяру ў бальніцу нават сілком.

Нахмураная Вера Ігнатаўна паклала свае прылады ў чамаданчык і сказала:

— Правядзіце мяне з хаты на вуліцу.

Васіль Гойдала ўсхапіўся, скочыў да дзвярэй і адчыніў іх. Калі адчыняў дзверы ў сенцах, Вера Ігнатаўна ўбачыла скручаную абы-як чарнаватую конскую шкуру. Шкура на першы погляд здавалася зверам, які скруціўся ў клубок, Вера Ігнатаўна інстынктыўна нават насцярожылася і прамовіла:

— Нейкі звер у вас...

— А... гэты звер не кусаецца,— адказаў Васіль Гойдала і бразнуў дзвярыма ўслед непажаданай дактарыцы.

Вечар насоўваўся на дарогу, раз'езджаную машынамі і саньмі. Вецер павяваў сцюдзёнасцю, выскубваў пылінкі снегу на палянах і між ствaламі сосен у лесе і віхрыў іх у паветры. Відаць, рыхтаваў завею нанач, бо і лес шумеў у вышынях густа, часам пераходзячы ў парывы, пасля якіх наступала на хвілінку зацішша, каб потым перайсці ў раўнамерны прытоены гул.

Вера Ігнатаўна ішла, і яе жаночы роздум пачынаў плысці разам з гэтым гулам. Сцішылася сэрца, вочы ўжо менш глядзелі пад ногі — яны намагаліся ахапіць усю дарогу наперадзе, часам Вера Ігнатаўна спынялася, каб пастаяць пад хвалямі сасновага шуму, што шугаў угары нястрымна. Стоячы пад старою таўшчэзнаю сасною, не магла вытрымаць, каб не абняць яе, каб не прытуліцца шчакою да шурпатай абмерзлай кары. Лягчэй і лягчэй рабілася на душы ад думак, што яна стаіць у гэтай шумнай дрымучасці як дачка яе. Ох, якая ж яна багатая! Як жа добра людзям жыць на зямлі, калі навокал шуміць такая бяскрайняя лясная дрымучасць! Шчаслівы той, хто ўмее яе чытаць, а значыць — і браць ад яе даніну для шчасця. Той цудадзейны майстар, філосаф, паэт, той —

валадар. Ён ведае, аб чым шуміць гэты бор, праз які, не спяшаючыся, ідзе лекарка, якой замшэлы жыхар сказаў: «Будзеце пэцкаць рукі аб маю скуру». І праз завейку, што ўсцілала дарогу, Вера Ігнатаўна бачыла чалавека, які сядзіць за рабочым сталом у старэнькай матчынай хатцы, дзе на палічках стаяць гаршчочкі з пародамі вось гэтай, цяпер прысыпанай снегам, зямлі.

Пры такіх свежых уражаннях Серадзібор здаўся Веры Ігнатаўне яшчэ бліжэйшым. Паплылі думкі пра Азярышча, у якім падчас то той, то другі перашкаджае, і тады Малашкіну робіцца цяжка...

Вера Ігнатаўна не лічыла сябе «палітыкам». Яна любіла савецкую ўладу тою простаю, сціплай любоўю, якая пра сябе не гаворыць, не крычыць. Яна ляжыць у душы як самародак і распаўсюджваецца на ўсіх людзей. І ўсё ж такі, калі пачула пра выскакі Чухноўскага, нечакана абурылася. Адкуль што ўзялося — словы абурэння сталі вылятаць з вуснаў... «Гэта агідна! Гэта — недапушчальна! Як ён пасмеў?..» А потым апамяталася і сціхла.

Перад ёю сядзела Саша Іванкевіч, якая прыйшла да дактарыцы паскардзіцца на бяссонніцу і крыху расказала пра адносіны паміж Малашкіным і Чухноўскім. Дактарыца пачала прасіць у Сашы прабачэння за свой такі запал... А потым дала ёй свае лекарскія парады:

— Выператомлены,— сказала Сашы Вера Ігнатаўна,— вам патрэбен адпачынак. Найлепей было б перамяніць месца жыцця на некаторы час.

Узяўшы рэцэпт, Саша падзякавала Веру Ігнатаўну і адначасова думала, думала сваю няўцешную думу. Вера Ігнатаўна прыкмеціла гэта. Палажыўшы ёй рукі на плечы, адкрыта глянула ў вочы і сказала ласкава:

— Ведаю, што перамяніць месца жыцця вам нялёгка. Ну, тады хоць выхадныя дні праводзьце на паветры. Добра было б на лыжах... Толькі не паддавацца ніякаму смутку. Трэба рухацца — хадзіць, рабіць усё — не толькі ў канцылярыі, але і дома па гаспадарцы.

Вера Ігнатаўна вытрымала паўзу і ўжо бадзёра, з усмешкай ціха дадала на развітанне:

— Нічога, Саша, усё будзе добра...

Саша пайшла, а Вера Ігнатаўна яшчэ стаяла нерухома, шкадавала засмучанай красы... Правяла рукою па сваім ілбе, які пачынаў рабіцца гарачым, і тут жа ачну-

лася ад задумы. Адчыніла дзверы, прамовіла, як кожны дзень:

— Заходзьце...— і запрашала хворага сесці.

Ужо зусім сцямнела, калі Вера Ігнатаўна ўвайшла ў Серадзібор. Ён выглядаў нават пустынна ў імгле лёгкай завейкі, якая пачала прысыпаць каляіны і наносіць гурбачкі. Вера Ігнатаўна стала меркаваць, што рабіць — ці пайсці паначаваць да буфетчыцы Юлі, ці зайсці ў сельсавет да Карчэні, каб даў фурманку. Найлепш было б апошняе — паслязаўтра дэзінфекцыя бальніцы, трэба падрыхтавацца. І Вера Ігнатаўна падалася ў сельсавет.

Але што гэта? У аднастайны посвіст ветру ўварваліся гукі, мацнейшыя за вецер. Ля сельсавета спыніўся газік, залапатаў маторам. З машыны выйшаў капітан Рыбін. Ён выпрастаўся, паправіў шапку, ступіў крок, каб ісці, і тут жа спыніўся. З хвіліну пастаяў, а потым накіраваўся да Веры Ігнатаўны. Ішоў павольна, асцярожна, трымаючы рукі ў кішэнях шыняля.

— Фу ты...— сказаў ён, калі пазнаў Веру Ігнатаўну,— вось нечаканасць, а я, прызнацца, трошкі таго... падыходзіў да вас з падазрэннем. Ну, чаго ж вы тут, мілейшая?

Вера Ігнатаўна ўсміхнулася і сказала вясёлым тонам:

— Хачу ісці ў Азярышча!

— Ісці? Ну, жартуеце... Вас ваўкі запыняць.

— Не, сур'ёзна, хачу дабрацца да Азярышча. Ёсць такая патрэба, каб быць заўтра там.

— Зойдзем на хвілiначку да Карчэні, а потым падумаем, што рабіць.

З вокнаў сельсавета сачылася цьмянае святло. Як толькі зайшлі на падворак, Вера Ігнатаўна спыніла Рыбіна.

— Можа, будзе лепш, калі я вам раскажу тут...

— Слухаю вас...

І яна расказала пра Васіля Гойдалу і пра тое, што ў сенцах ляжала шкура.

— Дзякую, Вера Ігнатаўна, мы, здаецца, на добрай дарозе... Нешта, відаць, упалюем. Значыць, стары Гойдала не хворы? Ну, тым лепш...

— Паўтараю, ён ніяк не даўся паглядзець... Так што...

— Калі сядзеў ля печы ды яшчэ выводзіў вас з хаты, можна думаць, што не хворы. Але мы яго наведаем... Зойдзем, пагрэемся.

У сельсавеце за сталом, на якім не ляжала ніводнай паперкі, сядзеў Карчэня. Ён бязлітасна пацягваў самакрутку. Густы, нават жаўтаваты дым павольна разыходзіўся па пакоі і знікаў недзе пад столлю. Субяседнікам Карчэні быў Верабей. Іх гутарка не мела, як кажуць, афіцыйнага характару. Яны сядзелі і гаварылі пра ўсё і ні пра што. Ці дайшло ў іх да якога толку — невядома. Відаць, не, бо, як увайшлі Рыбін і Вера Ігнатаўна, Верабей кінуў: «Пагаворым заўтра».

— Прымай гасцей, Карчэня,— з ходу кінуў Рыбін,— але ж і накурыў ты... І нават дзвярэй не адчыніш...

Рыбін вярнуўся і адчыніў дзверы насцеж. У другім, агульным пакоі, дзе звычайна сядзеў сакратар, не было нікога.

Рыбін сеў, агледзеў пакой, позірк перавёў на Вераб'я. Відаць, яго ўвагу звярнула Вераб'ёва кубанка, тая нязменная, знаёмая ўсім кубанка з вылінялым верхам і прапацелымі краямі, якія блішчастым абручыкам сціскалі Вераб'ёву галаву.

— Вы, Канстанцін Верамеевіч, зімой і летам — адным цветам,— сказаў Рыбін.

— Гэта вы пра што? — азваўся Верабей.

— А пра тое, што кубанка ўлетку вас халодзіць, а зімою — грэе,— усміхнуўся Рыбін.

Усё гэта сказана толькі так, да слова. А трэба, каб Верабей выйшаў адгэтуль. Але як яго вывесці?

Рыбін закурыў, пачаў пазіраць на гадзіннік, адхінаючы рукаў шыняля, і маўчаў, знарок маўчаў. Думаў, ці дойдзе да Вераб'я змест гэтага маўчання? Чакаў. Бачыў — не даходзіць. Калі ж Верабей нарэшце спытаўся ў Рыбіна, ці мае ён намер начаваць у Серадзібары, і той не адказаў, а звярнуўся паўшэптам да Веры Ігнатаўны, якая сядзела побач,— Верабей, пазяхнуўшы, падняўся. Глянуў на свой гадзіннік пад рукавом чорнага кажуха, сказаў усім «да пабачэння» і выйшаў.

Рыбін устаў, зачыніў дзверы кабінета і тут жа, не чакаючы, звярнуўся да Карчэні:

— Скажы, Карчэня, Рыгора Банадзюка тут не было?

— Ён быў два ці тры дні таму назад. Напісаў заяву ў сельсавет, што аддае сваю хату ў распараджэнне сельсавета аж да таго часу, пакуль не вернецца.

— А куды ён хоча ехаць?

— Недзе ў Мінск ці ў Варшаву.

— У Варшаву? Ты добра чуў, што ў Варшаву?

— Тут нехта казаў. Ці то мне прыдалося?..

Карчэня паціскаў плячыма. Рыбін ужо нешта запісваў у блакноце.

— У каго ён тут бываў?

— Гм?.. Бываў... Нават каня пакінуў Васілю Гойдалу.

Рыбін і Вера Ігнатаўна пераглянуліся.

Справа з Банадзюком з аднаго боку аблегчвалася, з другога — ускладнялася. Пра тое, што Банадзюк хоча ехаць у Варшаву, Рыбін пачуў толькі цяпер...

«Госці» развіталіся з Карчэняй і выйшлі.

— Справы, Вера Ігнатаўна, прымаюць такі паварот, што зараз жа едзем у Азярышча,— сказаў Рыбін.

Услед за імі ішоў і Карчэня. Не ведаў ён, што Банадзюк быў ужо арыштаваны.

Завейка пераходзіла ў сапраўдную завею. Гэта чуваць было з машыны, бо віхравыя хвалі вырываліся з лесу неяк раптам, праносячыся ўгары шумлівым перакатам. Машына, уся жалезная, з брызентавым верхам, высцелена на сядзенні дыванам, і таму з холадам сяк-так можна было мірыцца. І, вядома,— мірыліся — Вера Ігнатаўна ўтулілася ў куток, схаваўшы твар у каракулевы каўнер паліто. Рукі ў чорных суконных пальчатках засунула ў рукавы. Капітан Рыбін сядзеў, упёршыся плячыма ў спінку сядзення, і глядзеў туды, дзе фары асвятлялі свежыя наспы на дарозе, аснежаныя ствалы сосен і кусты на абочынах.

Разам са святлом фар, плывучы панізе, па снезе, плылі і роздумы падарожных. У кожнага — свае. Рыбін адчуваў прысутнасць Веры Ігнатаўны, і гэта паступова абуджала ў ім думкі, якія ў штодзённай, неспакойнай плыні жыцця часам залятаді ў душу як мімалётныя іскаркі і недзе хаваліся, гаслі. «Дзіўная істота — чалавек,— думае Рыбін, намагаючыся аналізаваць самога сябе.— Адкуль і што? Значыць, нічога не прападае ў нетрах душы».

Недзе ў машыне ёсць шчыліны, і вецер свішча ў іх, напявае сваю тонкую мелодыю. Гэтая мелодыя то ўзвышаецца да нейкіх трапяткіх вышынь, і тады вецер б'е, лапоча па сценах машыны, то апускаецца ў тоне амаль да паўшэпту і на нейкую хвіліну заціхае зусім, каб потым узляцець нанава... «Гэтая хада — плаўная, поўная прытоенай сілы,— хада Веры». Яе не раз бачылі капітанавы вочы з акна свайго кабінета. «Гэтыя ціхія, сціплыя позіркі

з-пад броваў... І такая прывабная жаночая незалежнасць...»

Вецер залапатаў брызентам. Рукі капітана нылі, уздымаліся самі, каб дасягнуць яе, што сядзіць вось побач, утуленая ў куток машыны. У зубах апынуўся «Беламор». Папяроса раскурвалася, запалка дагарала, а вока бачыла чорную шапачку, павязаную цёплай вязанай хусткай. Колер яе цяпер не распазнаеш, а там, у Карчэневым кабінеце, яна здавалася злёгку карычневай. І цёмныя шчыліны вачэй на белым твары, закрытым да палавіны каўняром.

Папяроса раскурвалася, як раздзьмуханы вугалёк. Спозненая думка раптам пранізала мазгі. «Ах, які ж я...» — сказаў сам сабе Рыбін і тут жа прамовіў уголас:

— Вера Ігнатаўна, выбачайце, што я закурыў без вашага дазволу.

— Курыце, курыце, завея ўсё развее! — азвалася з кутка Вера Ігнатаўна, ды такім жвавым, свежым голасам, што Рыбін аж здзівіўся. Яму думалася, што яна дрэмле, а тут... «Завея ўсё развее...»

Няўжо яна падслухала яго думкі? Няўжо перадалося ёй біццё — цяжка прызнацца — біццё яго сэрца? А можа, і сапраўды так — завея ўсё развее?.. Дзе ж мяжа паміж сур'ёзным, цвярозым і тым жаданым, наіўным? Усё перамяшалася...

Прышпорыць бы каня і аддацца волі віхру, як гэта бывала тады — у ваенную маладосць. «Відаць, я стаміўся... Даеду да кватэры, добра нагрэю спіну ля кафлянай печкі, пабуджу суседку Мар'ю, яна нагрэе мне чаю...»

Папяроса дакурылася. Цёмна. Толькі там, наперадзе, паўзуць па завейным снезе два промні ад фар. Аднак пра што яна думае? Маўчыць. Часам паварушыцца і глыбей усадзіць рукі ў рукавы.

— Пра што вы думаеце, Вера Ігнатаўна? — крыкнуў, нахіліўшыся да яе, Рыбін.

— Пра вас,— адразу, без надумы адказала Вера Ігнатаўна.

— Пра мяне? — аж зжахнуўся Рыбін і змоўк. Пасля дадаў: — Цікава... Што ж можна пра мяне думаць?

— Што вы нястомны, што вы дбаеце пра ўсё... Пры вашай рабоце можна чакаць жорсткасці. А вы — не жорсткі. Як гэта вам удаецца — не ведаю...

Рыбін глядзеў на светлыя палосы фар, дзе мітусіўся снег, і адчуваў, як нешта адтайвае ў грудзях.

— Не зачаруйце мяне, Вера Ігнатаўна. Я сваю работу лічу натуральнай. Нічога надзвычайнага.

— Вось вы толькі што пагаварылі з Карчэняй і адразу павярнулі ў Азярышча. А вы, відаць, намерваліся ехаць некуды далей,— гаварыла Вера Ігнатаўна.

Рыбін бліжэй нахіляў вуха, пазіраў на шафёра, каб той не падслухаў, чаго не трэба, і час ад часу ўсміхаўся.

— Мне Карчэня, не хочучы, сказаў адну такую рэч, якая змусіла мяне павярнуць назад. Карчэня — павольны ў думанні чалавек, як тая балотная рачулка ў плыні, і просты, як трава. Мой прыезд цяпер быў свайго роду псіхалагічным наскокам на яго. Наскок аказаўся ўдалы.— Рыбін на момант задумаўся і дадаў: — Ну, а потым я вельмі рад, што вязу вас, а так вам прыйшлося б патанцаваць. Хоць...— запнуўся Рыбін,— я завёз у Серадзібор дзвюх жанчын.

— Якіх? — спытала Вера Ігнатаўна.

— Агрыпіну Іванаўну і Сашу. Вы маглі б далучыцца да іх. Яны захацелі правесці ў Серадзібары выхадны дзень.

Вера Ігнатаўна пра ўсё здагадалася, калі пачула пра Сашу.

— Нічога. Я вельмі рада, што еду з вамі. Мне зацішна і не боязна.

— Ну, абы так... А рэшта, усё нічога,— дадаў весела Рыбін і папрасіў дазволу зноў закурыць. У душу прыплыў дабрадушны настрой. Здавалася, што такога настрою ў яго яшчэ не было ніколі.

Над машынаю шугалі віхуры. Калі яна выязджала на шырокі палетак, каля яе чуўся пранозлівы свіст, які потым пераходзіў у глухі перакатны шум. Гэта азначала, што машына ўязджала ў лес. І лясная шумлівая плынь вяла падарожных па сыпкіх сумётах, якія газік разрываў, таптаў, падбіраў пад сябе і няспынна пасоўваўся наперад.

...Локаць у шынельным рукаве пры штуршках машыны датыкаўся да яе локця і не хацеў адрывацца. І ціхая стомленасць клалася на вочы, пераходзячы ў лёгкую дрымоту. Лірыка, мілая лірыка, адкуль ты прыйшла ў непадатлівую душу капітана, якая так старанна адгароджвалася ад цябе? Галава схілілася набок, лягла на плячо... І яно — такое мяккае пад пушыстым паліто...

Вера Ігнатаўна не адхіляла свайго пляча. Яна адчувала і разумела тое, што ў штодзённасці завецца жорсткім словам — «нагрузка». Так, яна — душэўная нагруз-

ка — схіліла галаву капітана Рыбіна ёй на плячо. Блаславёнае знемажэнне! Не шарахнулася ўбок Вера Ігнатаўна, як тая дзікая лань. Не, не шарахнулася...

Пад коламі машыны загрукалі дошкі насцілу на пераездзе чыгункі. Капітан Рыбін ачнуўся, хутка паправіў шапку і спытаўся ў Веры Ігнатаўны:

— Я вам не аддушыў плячо?.. Выбачце...

— Не, не аддушылі. Плячо цэлае...

Не то жарт, не то нешта яшчэ. Дзіўна і нова!

Ён памагаў ёй выйсці з машыны, беражліва трымаў пад руку. Вышэйшы за яе на галаву, прыгінаўся, нясмела заглядаючы ў вочы. Развітаўшыся, з такім жа прыемным адпачуццём ехаў дахаты. І думка гаварыла аб адным: «Аднак якая ж дзіўная істота — жанчына! Неразгаданая, неадгаданая...»

## У ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ

Газік стаяў перад райкомам, гатовы да ад'езду. Шафёр сядзеў за рулём і курыў папяросу. Ён не ведаў, куды паедзе Малашкін. Дзень выдаўся ціхі, немарозны, з чыстым, змякчэлым снегам. Гэта быў выхадны дзень. Людзей на вуліцах не было відно. З комінаў спакойна плылі ў ранкавую цішыню дымы. Малашкін у чорным скураным паліто, у парыжэлай вушанцы, у валёнках з галёшамі спускаўся па сходках ганачка. За ім услед выйшаў трэці сакратар — малады русавалосы хлопец у акулярах Раман Післяк.

— Ну, глядзі, Рамаша, тут,— сказаў яму на развітанне Малашкін,— з Чухноўскім у нас, сам ведаеш, не зусім у парадку... І наогул... Ну, будзь здароў.

Калі ж Малашкін сеў побач з шафёрам, той спытаўся:

— Куды едзем?

— А, куды? — смяяўся Малашкін.— Здарава, селі і без маршруту. Та-ак... Паедзем цераз Жыліны і Жарабкі, трэба праверыць, як там з гэтым нягоднікам сапам, а потым падумаем... Гані!

Газік ірвануў з месца, наплыў насустрач чыстаму, празрыстаму паветру і хутка завярнуў на дарогу, якая вяла ў знаёмыя абрысам бясконцыя палосы лесу, што пайшлі ў абодва бакі ўдалечыню ўздоўж чыгункі. Неба, як перакрытае воўнай, было нерухомае.

Едучы, Малашкін перакідваўся з шафёрам словамі аб

тым аб сім, а найбольш пра такую харошую, проста святочную пагоду. Пахадзіць бы на паляванні або хоць прабегчыся на лыжах па лясных дарогах. Ды ўсё часу няма і няма. Цягучка і цякучка не даюць зрабіць хоць маленькую перадышку. А ў гэтую цягучку і цякучку ўрываюцца плыні збоку, часам нават неспадзяваныя. Хто б мог думаць, што на падмацаванне райкома, на помач яму, Малашкіну, прыедзе такі Чухноўскі?.. Вось і шафёр Вася, што сядзіць побач, нават спытаўся, чаму не едзе па калгасных справах у вёскі Чухноўскі. Значыць, ужо дзе-што прасочваецца за парог. Гэта, вядома, не зусім добра, але... няхай будзе і так. Можа, яно і лепш. Пасля тае вячэрняе праборкі Чухноўскі назаўтра не прыйшоў на працу — прыслаў запіску гаспадынінай дзяўчынкай, што ён хворы... І вось «хварэе» ўжо трэці дзень. Што ж... пацярпім. Няхай пахварэе. Праверым сапы і іншыя справы, падашлем яму лекара. Пабачым, на якую хваробу ён захварэў. Пасля доўгага роздуму Малашкін заключыў: «Не для помачы ён мне прысланы... Не...»

Высокі драўляны крыж стаяў пры дарозе. На ім вісела многа павязаных фартушкоў. А там, на скрыжаванні жэрдак, дзе пад двухсільнай стрэшкай з дошчачак хаваўся металічны Хрыстосік, віселі вянкі з засушаных кветак. Пачыналася вялікая каталіцкая вёска Жыліны.

Яе ў час вайны не спалілі эсэсаўцы, асталася цалюткая. І наогул, як бачна па будынках, яе даўно не наведваў і той выпадковы, звычайны пажар, які часам пустошыў вёскі. На асадзістых хатах замшэлыя саламяныя стрэхі былі цяпер пад снегам. Прысыпаныя прызбы ля некаторых хат даходзілі амаль да вокан. Але паміж старымі хацінамі пракідаліся і новыя, найбольш пад гонтам, з ганачкамі. Сюдтуд у тым ці іншым агародчыку перад вокнамі тырчаў такі, як і пры ўваходзе ў вёску, высокі драўляны крыж — заслона ад усіх напасцяў.

Газік ехаў павольна па шыракаватай вуліцы. Малашкін пільна ўглядаўся ў хаты, у падворкі, успамінаў пра закладзены тут калгас, калі на сход са ста пяцідзесяці гаспадарак прыйшло толькі трыццаць мужчын, і ўсе пад самагонным газам. У цёмных сенцах тоўпіліся жанчыны, час ад часу заглядаючы туды, дзе ў тытунёвым дыме і самагонным водары цьміла лямпа над доўгім сталом. Гэтыя трыццаць мужчын не прыйшлі на першы заклік. Мясцовым дэпутатам доўга прыйшлося пахадзіць, каб прывесці на сход хоць сякую-такую колькасць гаспадароў.

Доўга маўчалі замшэлыя людзі з замшэлых хат. Што скажа ксёндз з амбона? Трэба паслухаць яго. І вось выступае худы селянін з чорнай бародкай, у дзіравым лахмане, нават і шапкі не скінуў. Ён стаў у канцы стала і пачаў гаварыць так хутка, што аж сліна пырскала з губ: «Вы толькі прыслухайцеся, дзе які цуд, што вось дзе ў каго ікона аб'явілася. Вось... нехта сказаў: дзяўчына недзе там уваскрэсла, што немцы забілі... А вы калі ўваскрэснеце, так вашу...» І над сходам павісла ёмкае, важкае, вулічнае. Сход абудзіўся ад маўчанкі і ўспыхнуў смехам. Дзверы з сенцаў прачыніліся шырэй, і некалькі жаночых галоў запоўнілі праёміну. Бліскалі зубы ад усмешак. Адна кабета, старэйшая, адважылася сказаць: «Хоць бы не ругаўся, халера...» Смех зноў пакаціўся па хаце. Маўчанне лопнула. Падыходзілі па адным да стала, бралі паперу на заяву...

Сяло Жыліны было апошнім сялом у раёне, што далучалася да калектывізацыі.

А вось і касцельная плошча. Сярэдзіна сяла. Стары высокі касцёл даўняй архітэктуры, з франтонам, без ніякіх купалоў. Крыж узвышаецца на вежы, дзе павінны вісець званы. Пашарпаныя, абветраныя сцены пацямнелі ад слоты. Шырокая каменная сцяна абгароджвае разам з касцёлам высокія, ужо старыя бярозы, клёны і крыжы. Збоку, пры ўваходзе праз браму, стаіць слуп, на якім вісіць рэйка, што служыць за звон. А там, высока пад крыжам, дзе вычарнела аконная прабоіна, дзе калісьці віселі званы, відаць, назаўсёды пасяліўся страх. Там быў гітлераўскі назіральны пункт з кулямётам. Людзі расказвалі, што прабіты савецкай куляй кулямётчык так і астаўся там са сваёю зброяй. Кажуць, што ён ужо выветраў. Людзі баяцца лезці на званіцу, каб зняць гітлераўскага кулямётчыка. Так ён там і пакутуе за свае грахі.

Праўда, знаходзіліся адважныя, якія прыходзілі да ксяндза, прапанавалі свае паслугі, але ксёндз не дазволіў, сказаў, што гэта справа божая, што толькі бог можа яе вырашыць. Хлопцы сказалі ксяндзу, што, калі так, дык можа яны і ёсць божыя пасланцы. Ксёндз паглядзеў у вочы гэтым двум «пасланцам» у кепках, зухавата схіленых на правае вуха, і сказаў:

— Нешта я вас ніколі не бачу ў касцёле. Ідзеце з богам.

Ля адчыненай касцельнай брамы тоўпіліся людзі, найбольш мужчыны пажылога ўзросту,— у кажухах, саматканых куртках, абутыя ў валёнкі, а найбольш у боты.

Мужчыны, якія падыходзілі, спыняліся, пачыналі гутарку, а жанчыны адразу ішлі ў касцёл. Калі наблізіўся газік, людзі ля брамы замоўклі. Але вось і ён... выйшаў, як нанарок, з свайго дому, што стаіць побач з касцельнай агароджай,— выйшаў ксёндз Рагульскі. Ксёндз ішоў размашыстай хадою, абапіраючыся на блішчасты сукаваты кій, у доўгім чорным паліто, з-пад якога ля ног вузенькім беражком выглядала чорная сутана. Стаўбунаватая шапка дадавала яму яшчэ большага росту, хоць ён і так быў высокі.

Малашкін з цікавасцю разглядаў ксяндза. Па яго размашыстай хадзе ён бачыў, што ксёндз не стары, а наадварот — ва ўсёй сіле і энергіі. Людзі, якія тоўпіліся ля брамы, усё ж такі разгубіліся: не ведалі, на што глядзець — ці толькі на ксяндза, ці і на гэты знаёмы газік, які ідзе павольна і праз акенца якога відзён сакратар райкома. Але... раптам знялі шапкі перад ксяндзом, а ён, энергічна схіліўшыся, прайшоў не спыняючыся і знік за брамаю. Мужчыны надзявалі шапкі на свае пасівелыя галовы і хацелі б, напэўна, пагутарыць з сакратаром. Але газік ужо аддаліўся, і вочы сялян паглядзелі яму ўслед.

Малашкіна ўсё ж такі ўсхвалявала гэтая нечаканая сустрэча і навяла на думкі, што рэчаіснасць яшчэ мае нямала такога, што павінна быць знішчана. Жыццё — гэта барацьба новага са старым у тым глыбокім, карэнным, дзе рухаюцца людзі са сваім духоўным скарбам, прыдбаным праз жыццё. Так, так, так... Ксёндз яшчэ моцны... Нічога не скажаш. Адукаваны, вядома. Абаяльнасць яго для сялян — бясспрэчная. Вось з ім трэба ўступіць у барацьбу за людзей. Ці такія, як Чухноўскі, думаюць пра гэта? Малашкін на момант балюча скрывіўся. «Відаць, бяда немалая нарастае ў нас... Можа, я, Малашкін з пахіленай бярвеністай хаткі на Паволжы, замнога на сябе бяру? Ці, можа, я не маю права думаць так? Няхай думаюць тыя, хто вышэй. Не... і тысячу разоў — не,— цвердзіць сам сабе Малашкін і зноў закурвае «Беламор».— Дык што ж мы супрацьпаставім гэтаму ксяндзу? Вядома — прыгажосць навукі і народнага мастацтва. Гэта ўсё так. Але ахапіць гэтымі прыгажосцямі ўсе масы — колькі ж трэба сапраўдных сіл! Ну што ж... пашлём на першую вылазку нашага Чухноўскага — няхай прачытае моладзі лекцыю, як стварыўся свет — зямля, зоры і гэтак далей. Няхай пакажа сябе».

Праязджаючы праз Жарабкі — вёску, напалавіну мен-

шую, чым Жыліны,— Малашкін доўга прыглядаўся да Баналзюковай хаты, якой ён яшчэ не бачыў. Хата здаровая, вялікая. «Ці не варта ў ёй адкрыць дом культуры?» — падумаў Малашкін і вырашыў, што трэба даследаваць гэтую справу. Заслаць Післяка. Вядома, павінен заняцца гэтай справай і Чухноўскі. Пытанні прыходзілі за пытаннямі: ці добра праведзена дэзінфекцыя ў канюшнях і намогул усюды, дзе трэба? Як дагледжаны хворыя коні? Малашкін глянуў на гадзіннік і сказаў Васю, што добра было б раней прыехаць у Серадзібор. За вёскаю ўехалі ў лес.

У Серадзібары спыніліся перад хатаю старога Несцера.

Хоць вокны ў хаце «сазнацельнага» не зусім адтаялі ад марозу, аднак дзядзька Несцер заўважыў газік і выйшаў насустрач. Зашпіляючы кажух на хаду, ужо махаў рукою, запрашаючы, каб машына заязджала на падворак, і кінуўся адчыняць весніцы. Вася, не доўга думаючы, павярнуў машыну. Выйшаў на парог і Даніла ў адной кашулі.

— Даўненька мы вас чакалі, Сцяпан Пятровіч,— заскакаў Несцер,— ужо думалі, што забыўся на нас сакратар.

— Што вы? Што вы? Хіба я магу забыць сазнацельнага? Ад каго ж пачую пра жыццё ў Серадзібары? Верабей не хоча расказваць, Бабёр таксама. Вось нешта і Даніла не паказваецца на вочы. Як растуць твае камуністы? Як спраўляецца Коля Мілаш?

Многа пытанняў кінуў Малашкін. Нават спытаўся, ці ловяць рыбу з-пад лёду на возеры і што чуваць пра Платона Грушку, што, можа, трэба было б наведаць яго маці — як яна жыве адна. Можа, патрэбна якая дапамога?

Кацярына смажыла сала на прыпеку за коўдравай перагародкай, адна палавіна якой была адхілена ўбок, і, пачуўшы гутарку пра сваю маці, сказала:

— Хварэла нядаўна. І яшчэ як след не выздаравела. Балела горла. Гэта яе даўняя хвароба.

Несцер пачаў расказваць пра Платона Грушку, што ён «прахвесар» ужо, здаў «акзамін на прахвесара». Кляновіч яму дапамог. Пара б ужо і жаніцца Платону, а то жыццё так і пройдзе — за навукай.

— Без яе нельга, Несцер Іванавіч,— сказаў Малашкін.— Спярша навука, а потым і да жаніцьбы дойдзе.

— Ды я не супроць. Я ведаю, што без навукі няма ратунку. Але ўсё нешта надта павольна яна ідзе да нас. Верабей што хоча, тое і робіць. Ніхто яму не ўказ. Вось марозікі стаяць. Трэба ўжо, каб сена вывезлі з-за канала, а ён

яшчэ і не кратаецца. Запытаецеся чаму? Ён вам адкажа, што трэба вазіць угнаенне з Азярышча або торф. Трэба і тое і другое, вядома, але на сена толькі цяпер час. Вось нехта ўжо два стагі забраў. Заўтра забярэ і больш...

— Як — забраў? — перабіў Малашкін.

— Ну, як? Украў нехта, і ўсё...

Малашкін падняўся з лавы і прайшоў да Кацярыны, папрасіў запалак. Прыкурыўшы папяросу і падзякаваўшы, спытаўся:

— І што? Ніякіх слядоў?

Несцер пацінуў плячыма. Адказаў Даніла:

— След пайшоў па лесапілку, туды, на вузкакалейку,— паказаў рукою напрамак Даніла.

— Значыць, дарожкі пратораны... Гм...— адазваўся Малашкін.

— Калі зараз не вывезці, раскрадуць усё сена,— сказаў Несцер.— Цяжка яшчэ меркаваць, хто і што, але без Вераб'я тут не абышлося...

— От, маўчаў бы...— замармытала Тэкля з печы.— Гаворыш, халера ведае што... Ты ж за руку яго не злавіў...

— Цётка Тэкля, не бойцеся, усё ў парадку. Злачынцаў знойдзем.

Гарачая, пахучая патэльня з салам стала на стол. Несцер і Даніла пачалі запрашаць Малашкіна на покуць.

Кацярына перад сваім цесцем паставіла конусавую гранёную старасвецкую чарачку. А ўсім другім дасталіся шклянкі. Несцерава чарачка вылучалася на стале, напаміпала не то перавязаны снопік, не то жменьку палявых кветак ля ручкі сярпа, калі жняя вяртаецца з поля. Словам, нешта далёкае, жніўнае напаміпала чарачка старога Несцера.

І гаворка за сталом пайшла пра жыццё і піццё. Чаму так многа цяпер людзі п'юць гарэлкі? Ці то ад добрага жыцця, ці ад чаго іншага? Даніла сказаў, што вайна навучыла людзей многа піць. Прывыклі. Малашкін маўчаў. Чакаў голасу Несцера. Але Несцер таксама маўчаў. Тады Малашкін адказаў Данілу:

— У тваіх словах, Даніла, ёсць доля праўды, але, памойму, толькі доля. Нейкая другая прычына яшчэ ёсць.

— Дастатку хапае ў людзей — вось і п'юць,— адказаў урэшце Несцер.— Што зарабіў, тое і сцерабіў. Каня, воза, плуга цяпер жа нікому не трэба, гною вазіць на палоску не трэба, падаткаў плаціць не трэба. Кожная хата корміць кабана, прадаюць, сала маюць уволю, на адзежу хапае, за

навуку дзяцей плаціць не трэба... Вось вам і ўсе дастаткі... Дык чаму ж не піць?

Несцер пералічваў яшчэ ўсе «прычыны піцця», а Малашкін ужо рагатаў, прыхінуўшыся да жорсткай абвапненай сцяны, і падтакваў:

— Во, во, во... вось гэта правільна... вось гэта правільна!..

Несцер правіў далей, ужо ўзяўшы ў руку сваю гранёную чарку:

— Во была наша мерка даўней. Адна яна ўвесь стол абходзіла. А цяпер шклянкамі, кубкамі... Зараз будуць піць вёдрамі... Не, гэта... гэта не да ладу... Можа, варта было б вярнуцца да такой чарачкі?

І дзіўна было, калі на падтрымку Несцера ў адзін голас кінуліся жанчыны — Тэкля з печы і Кацярына ад прыпека:

— О, гэта было б правільна, гэта было б добра!

Тэкля прыўзняла галаву і сказала:

— Выбачайце за маё слова. Можа, яно каму не спадабаецца...

— Гаварыце, гаварыце, цётка Тэкля,— падахвоціў Малашкін.

— Я хачу сказаць, што людзі цяпер п'юць не як людзі, а як коні,— сказала Тэкля і палажыла галаву на падушку.

Усе за сталом засмяяліся.

Абед скончыўся. Пасля нядоўгай гутаркі Малашкін глянуў у акно, пасля на гадзіннік і сказаў:

— Вася мой недзе, відаць, загуляў у дружбакоў. Знаеш, Даніла, да вечара асталося яшчэ нямала, дай мне лыжы, пайду прамнуся над каналам. А ўвечары пагаворым аб справах.

* * *

Дарога над каналам, прыбітая машынамі, саньмі, спраўляе таксама свой выхадны дзень. На ёй цяпер пуста, ціха, хоць стань і заслухайся ў яе цішыню.

Малашкін ад'ехаў на лыжах ужо нават далёка за Серадзібор. Лыжы беглі размашыста, гладка. А вось і мосцік, перакінуты цераз канал. За ім пайшла неширокая дарожка цераз сенажатную, цяпер усланую снегам, раўніну ў недалёкі лес. Дарожка праезджана мала, і каляіны паспелі заскарузець. Вочы Малашкіна прыкмецілі нават след лыжаў. Вядома, гэта тутэйшыя людзі, як тыя ўральцы, так-

сама любяць пахадзіць на лыжах. Малашкін глядзеў у даль дарожкі, на цёмную паласу лесу, якая вабіла, клікала ў свае ўтульныя сховы. Азірнуўся навокал і павярнуў лыжы ўлева. Лыжныя палкі пачалі сягаць шырока, і добра было адчуваць, як вецер халодным струменем слізгаўся ля вушэй, як востра грэў шчокі. У лесе стала зацішней. Дзенідзе даводзілася нахіляць галаву пад навіслай аснежанай калматай галінай сасны. Некрануты снег лапамі асеў на зялёных кучмах і ствараў казачнае лясное зацішша. Але вось дарожка павярнула ўправа, і там, дзе яна губіцца ў гушчыні, мільганула постаць. Малашкін спыніўся. Бачыць — нехта, схіліўшыся да ног, штосьці папраўляе. Вось постаць выпрасталася, і Малашкін пазнаў, што гэта — жанчына. Ён націснуў на палкі, і ўзмах за ўзмахам стаў набліжаць яго да невядомай постаці. Жанчына глядзела на яго некаторы час, а потым адвярнулася і ўзялася за палкі. Стала хутка аддаляцца — жанчына ўцякала. Малашкін прыспешыў хаду. Гнала яго ўжо цікаўнасць. Хто ж гэта так яго спалохаўся? Сосны беглі яму насустрач. Паварот-ка направа, і жанчына знікла. Малашкін адчуў расчараванне. Ах, чорт вазьмі! Уцячэ. Лыжы следам паварочваюць направа, і жанчына аказалася бліжэй, чым думаў Малашкін. Відаць, яна спынялася. Жанчына азірнулася і налягла на палкі. Але гэта было ўжо дарэмна. Малашкін, набраўшы духу, крыкнуў: «Стой! Усё роўна даганю!» Жанчына спынілася. Малашкін падышоў і заглянуў у твар. Глянуў і ўжо не адрываў вачэй. Разглядаў ціха і здзіўлена, хоць здзіўленасць хутка знікла:

— Як ты трапіла сюды?

Жанчына не апускала сваіх цёмных, засланых смуткам вачэй і нібы з прыкрытым гневам пазірала на Малашкіна.

Перад ім стаяла яго сакратарка Саша.

— Саша... як жа ты? — хацеў гаварыць Малашкін і не ведаў што. Саша маўчала. Яна то абыякава паглядала на дарожку, то прабягала вачыма па твары Малашкіна і ўсё папраўляла хустку пад падбародкам.

— Ну, паедзем...— урэшце прамовіла яна.

— Пастой, раскажы, як ты апынулася тут?

Яна коратка расказала, што з Агрыпінай Грынчык прыехалі ў Серадзібор на Рыбінавай машыне яшчэ ўчора, у суботу. Вось і ўсё.

— І ўсё? — спытаўся Малашкін.

— І ўсё...— апусціла вочы Саша.
— Не апускай вачэй, Саша... Не апускай... Не трэба.
— Паедзем...— прамовіла яна зноў.

Пачуцці Малашкіна не мелі ніякай яснасці. Ён глядзеў у паружавелы Сашын твар, і жаль да дзяўчыны пачынаў заліваць яго грудзі. Што рабіць? Ці варта, ці трэба раскрыць для яе свае абдымкі? Гэта хочацца зрабіць Малашкіну, але... Ізноў гэтае «але». Яно цягне, ціснe недзе да зямлі, хоча замкнуць душу на замок.

— Паедзем...— паўшэптам ужо сказала Саша і добрымі, спагадлівымі вачыма паглядзела Малашкіну ў вочы. Гэта абдало яго цяплом.

— Ты пакутуеш, Саша?

— А як табе здаецца? — упершыню назвала Саша Малашкіна на «ты». Малашкін адчуў у гэтым наступ яе, жаночы. Ён глядзеў на Сашу ўжо сур'ёзны, нахмураны. Значыць, жартаў няма. Рукі выпусцілі палкі, і яны ўпалі на снег. Ён схапіў яе за плечы і прыцягнуў да сябе.

— Саша...— загаварыў Малашкін ёй у твар.

— Што? — глуха спытала яна і пачала вырывацца ў яго з рук.

— Саша, пачакай... Жыццё...— хацеў нешта сказаць Малашкін, але Саша перапыніла:

— А што гэта такое — жыццё?

— Ты, відаць, знарок не хочаш мяне зразумець? — крыўдзіўся Малашкін. А Саша гаварыла сваё:

— Жыццё — гэта кожны чалавек.

— Разумна гаворыш, Саша, правільна; жыццё — рэч складаная. І мы з табою ідзём у ім як часцінкі агульнага... Толькі табе вальней, лягчэй ісці, чым мне. Разумееш? У мяне многа перашкод на шляху. У цябе іх менш.

— Так, гэта праўда... І можа здарыцца так, што ты адстанеш.

— А ты?

— Не ведаю.

Саша апусціла галаву, задумалася. Малашкін трымаў яе за плечы, глядзеў на яе гладкі прыгожы лоб, на завітушкі валос навокал яго. Аснежаны лес таксама маўчаў, не мог падказаць гэтым двум людзям, як выбрысці з зачараванага кола. Няхай жа лес маўчыць — вусны іх сталіліся ў доўгім пацалунку. Няхай жа лес маўчыць...

Раздзел трэці

# ТРАФЕІ

Мінулі ўжо лютаўскія мокрыя завеі. Па Серадзібары заліваліся пеўні, ад чаго здавалася, што і сонца глядзіць з сіняга, як абмытага, неба мілей і ласкавей. Зямля ачышчалася ад снегу, і свежыя, маладыя ручаіны з вясёлым звонам шумелі па ёй. Гэта была пара палескіх паводак, калі сенажатна-балотныя раўніны ператвараліся ў неабсяжныя азёры, па якіх рыбакі адплывалі ў водныя прасторы, найбольш з астрыгамі, каб у імклівых плынях віруючай вады на ляту прабіваць іх — шчупакоў — і класці ў лодку або човен. Раздолле маладзела ад шуму вады, маладзелі і людзі.

Сакавіцкае сонца прыгравала мацней і мацней. Большымі сталі дні, і з кожным днём яны ўсё даўжэлі, надзяляючы людзей і прыроду цяплом і мяккім ветрам. Серадзіборскае возера выйшла з берагоў і заліло канал, схавала яго пад водамі, а па помач яму паплылі яшчэ снегавыя воды лясных, палявых і сенажатных надканальных прастораў, і ўсё разам, як мора, шумела навокал.

Добра глядзець на такія воды і адчуваць свавольны рух жывой прыроды.

Усё ладзілася ў прыродзе. А сярод людзей складалася сваё — дзе як у каго. Днямі, напрыклад, скасавалі ўчастак міліцыі ў Серадзібары, і Архіп Каўдун астаўся без працы. Людзі кажуць, што вернецца зноў у чайную, каб падпіраць печку спіною і глядзець людзям у рот — хто што есць, п'е. Але ў людзей пра Каўдуна невялікая турбота. Гэта, так сказаць, дзеля смеху, дзеля пацехі.

Другою навіною стала тое, што «Серадзібор» падзелены на дзве брыгады, і брыгадзірам другой брыгады стаў, на нечаканасць усім, Духмуровіч-Куцілоўскі. Знялі ж яго з пасады старшыні калгаса ў Забівачках, нават хацелі аддаць пад суд, але выгарадзілі яго з бяды Васіль Чаравака і Харытон Бабёр. Дый сам Гугновіч сказаў: «Не варта вылазіць з гэтай справай на свет. Няхай лепш будзе ціха». Што ж... ніжэйшае начальства пагадзілася, і на гэтым паставілі кропку. Наадварот, Бабёр з Вераб'ём вырашылі неяк падвысіць пана Габрыэля і, калі «Серадзібор» падзялілі на дзве брыгады, вось тады і прызначылі яго брыгадзірам. Крыўдна было серадзіборскім людзям прымаць гэтага пана ў свой агуль — усе меркавалі, што будзе пры-

значаны Коля Мілаш, важак серадзіборскіх камсамольцаў. Гэта і было б якраз да месца, да справы — хлопец увішны, сумленны.

Становішча ў Серадзібары абвастрылася яшчэ тым, што Верабей, ад'язджаючы па цяляты недзе ў РСФСР, замест сябе, бо намеснік быў хворы, пакінуў Духмуровіча-Куцілоўскага. Гэта зусім пакрыўдзіла брыгадзіра першай брыгады Даніла і яго бацьку Несцера.

— Разбойнік... Зладзюга... Вунь яму хто мілы. Гэтага шляхецкага жываглота прызначыў. Яшчэ, мусіць, не выцадзілі Гойдалавага спірту, накрадзенага на заводзе...— абураўся Несцер.

Даніла маўчаў насуплены, хадзіў па хаце, час ад часу загладжваючы далоняю валасы на патыліцу. Ён заўсёды так рабіў, калі хваляваўся.

— Ну... Што ж ты думаеш рабіць? — усё гаварыў неспакойны бацька.— Няўжо прапусціць, даравацъ? Злыдні лезуць грызці савецкую ўласць, тыя, што немцам пад хвасты падглядалі... А ты сядзі і моргай, як яны камандуюць табою. Бачыш, якія спрытныя. Дык будзь жа спрытны і ты. Не спі ў шапку, не прагледзь гэтага абібока Куцілу.

Так называў Несцер Духмуровіча-Куцілоўскага.

* * *

Даніла стаіць ранкам за сваім гумном, дзе пры сцяне месціўся тапчан і дзе прытулілася да страхі яшчэ голая, без лісця груша.

Гэты канец Серадзібора, дзе жыве Несцер, стаіць на ўзвышанай паласе, і таму возера да гумнаў не дастае. Заліты толькі агароды, што спускам падаліся ўніз. Аднак да вады недалёка. Яна халодная, нават ледзяністая, пераваљваецца наплывам хваляў і пенай шуршыць ля берагоў. Данілу відно возера ў бяскраі, але ён найбольш глядзіць на процілеглы бок, дзе вада плешчацца ля парога лясніцтва. Правей ад яго, за лесам, на Азярышчанскай дарозе, пайшло другое крыло Серадзібора. Тым крылом загадвае ўжо Духмуровіч-Куцілоўскі. Там на ўскраіне жыве Даніла цешча Аляксандра, яна ж і Максіміха. Даніла думае пераплыць на лодцы туды, наведаць цешчу, абнадзеіць яе, што хутка, на днях, будзе аплата працадзён.

Крыўда ўсё ж такі сяды-тады драпае Данілу за сэрца, хоць ён не хоча ёй паддавацца. Больш маўклівы ад прыроды, Даніла можа часам праседзець у кампаніі і не выма-

віць ні слоўца. І смех яго скупы. Што надзяліла яго такою натурай, невядома. Можна меркаваць, што гэтыя рысы перайшлі яму ад яго палескіх продкаў, якія ў змаганні з ляснымі, балотнымі нетрамі навучыліся маўчанню і роздуму, ад непраглядных гушчынь, якія сваёй дрымучасцю, гоманам вяршынь нібы загадваюць маўчаць. Бо маўчанне ў такім акружэнні і ёсць не што іншае, як гутарка з прыродай. У сям'і трошкі недалюблівалі такога залішняга, можна сказаць, маўчання Данілы, і стары Несцер часам толькі казаў, што вось такі маўклівы і пануры быў яго прадзед, значыць, дзед Несцера. Затое ў Данілы было другое, што не кожны меў. Даніла стройны, з правільнымі рысамі смуглявага твару, з вачыма, як выкупанымі ў палескай карычневай вадзе, ці, як кажуць у Серадзібары,— рудзе. Даніла быў добры паляўнічы і рыбак, добры стэльмах. І ў дадатак да ўсяго — выдатны танцор. У выкананні тых ці іншых спраў быў дакладны, сумленны. Асабліва за гэта Малашкін прапанаваў яго ў свой час на сакратара партячэйкі. І вось гэты чалавек, адкінуты Вераб'ём, заменены чалавекам, якога людзі за яго нялюдскасць празвалі «азот».

«Так... мне сапраўды трэба навучыцца больш гаварыць, а то мяне гаваруны зусім абгавораць»,— думае першы раз у жыцці Даніла. Калі быў у партызанах, там гаварыць многа не трэба было. Усё роўна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі і партызанскім медалём. Важна — работа. А ці ж не спадабаўся Кацярыне за танцы? Вядома, што так. А значыць, душа не сухая. Ніхто ж так не скакаў на каня і не сядзеў на ім зухавата, як Даніла. Хіба толькі сам Васіль Чаравака мог пабіць яго ў гэтым казацкім спрыце.

Ветрык ад халодных водаў дзьмуў у твар Данілу, а думкі ўсё роўна цяклі далей. Даніла гаварыў сам з сабою і адчуваў, што сверб стаў адлягаць ад сэрца. Зайшоў за вугал гумна і выцягнуў лодку. Ускінуўшы на плячо вясло і астрыгу, павалок яе да берага.

Лодка калыхалася на глыбокіх хвалях, калі Даніла плыў па возеры. Адшукаўшы напрамак струменю, плывец палажыў вясло ў лодку і ўзяўся за астрыгу. Лодка хоць і суцішыла ход, але плыла ў адным напрамку. Вось бліснула серабрыстая луска,— шчупакова спіна адным імгненнем крутнулася ля паверхні і знікла. Даніла ўсё ж такі пранізаў плывень вастрыём астрыгі, не верачы ў здабытак. Калі ж крутнуў астрыгаю ўверх, яна пацяжэла ў руках — ды так, што амаль не апусцілася назад у ваду. Тады

Даніла напнуўся з усіх сваіх сіл, і галава... вялікая галава азёрнага драпежніка вылезла з вады. Яшчэ адно намаганне, і астрыга ўстала старчаком, а на ёй трапятаўся ў сонцы даўжэзны шчупак з вылупленымі вачыма. Даніла не хацеў усміхацца, але ўсмешка сама мільганула на вуснах, асвятліла твар. Даніла сціснуў пашчакамі і нахмурыўся, хоць у лодцы біў хвастом аб яе сцены серабрысты з цемнаватымі пасмамі драпежнік. Растуліўшы яму жабры і праткнуўшы іх дротам, Даніла ўзяўся за вясло. Лодка натрапіла на плынь, якая віравала, і яе пачало паварочваць у адваротны бок. Разагнаўшы лодку хуткімі ўзмахамі вясла, Даніла зноў узяўся за астрыгу. Мільгалі луской шчупакі. Здавалася часам, што гэта яны муцілі халодную паводкавую ваду. Астрыга ў Данілавых руках то знікала вастрыём у вадзе, то нырала на паверхню. На такога вялікага драпежніка Даніла ўжо не натрапіў. Упалёваныя былі меншыя, хоць таксама немалыя. Нахмураны рыбак, якому вецер віхрыў валасы на скронях, глянуў на ўсю веліч азёрнага прастору — туды, на поўнач, дзе найбольшыя яго ўладанні, і не ўбачыў нідзе ні адной лодкі. Нават падумаў,— чаму так? Самая ж пара на рыбнае паляванне. Але пра гэта доўга не думаў — лодка ўплыла ў затоплены лес і пасоўвалася прагалінай да сяла. Прагаліна — гэта не што іншае, як лясная дарожка, цяпер залітая вадою.

Лодка грукнула дном па сасновых карэннях і зарылася ў зямлю крыху воддаль ад тоўстай сасны. Даніла ў сваіх высокіх гумавых ботах шуснуў у ваду, і лодачны ланцуг забразгаў у яго руках. Прыцягнуў лодку да сасны. Ланцуг абвіўся вакол ствала. Даніла замкнуў яго на замок. Ці браць з сабою вясло? Ці браць шчупакоў? Вось праз ужо разрэджаны лес відны хаты, платы. Не, вясло і астрыгу трэба ўзяць, пакінуць у першай хаце пры дарозе. А рыбу? Хоць торба і ёсць, ды што з гэтага? Самы першынец, даўжэзны, у гэтай торбе не змесціцца. Несці яго на спіне аднаго, гэта значыць склікаць усё сяло і весці за сабою, дый сам шчупак будзе валачыся хвастом па зямлі. Даніла глянуў на сцямнелую ад сасновых ценяў ваду, паглядзеў уздоўж берага і ў аддаленні ўбачыў густую купку маладых елачак, якія скупіліся пры вадзе, быццам баяліся ўвайсці ў яе, як тыя малыя дзеці. Доўга не думаючы, падаўся з рыбаю туды. Закінуўшы галаву першынца за плячо, пацягнуў яго павалакам паміж дрэў.

Калі Даніла ўвайшоў у хату свае цешчы Аляксандры, яна скідала з патэльні апошнія аладкі ў місу, што стаяла

тут жа на прыпеку. Хустка на пасівелых валасах Аляксандры завязана вузлом на патыліцы, і твар, адкрыты для пячнога полымя, расчырванеўся. Даніла, павітаўшыся, палажыў на стол двух шчупакоў.

— Па дарозе да вас папаліся на астрыгу...— сказаў ён.

— Што? Не ішоў, а лодкаю плыў?

— Лодкаю,— сказаў скупа Даніла і пачаў анучаю, што ляжала ля парога, выціраць свае гумавыя боты.

Аляксандра адхілілася ад печы і падала Данілу чысцейшую анучку.

— Распранайся, сядай... зараз паснедаем,— сказала Аляксандра,— ты, можа, яшчэ і не снедаў?

— Яшчэ не снедаў. Кацярына прасіла раней прыехаць, просіць бёрды. Хоча выткаць дыван на падлогу.

— От што задумала... Хату вам трэба новую, тады і дываны. А то — дзе там? Усё вашае жыццё ў адным пакоі...

Цешча паставіла на стол сасмажаныя скваркі, потым аладкі.

— Выбач, Данілачка, што мала сквարак. Гэта я сабе адной. Спяшаюся на работу...

Аляксандра ўсміхнулася і села на табурэтку.

— От, хацела хуценька ўправіцца і ісці...— цягнула гутарку Аляксандра далей.

— Куды ісці? — пасля паўзы запытаўся Даніла.

— Як куды? Прыходзіў новы начальнік... гэты Куціла, і казаў ісці выбіраць бульбу для чайной, ці што... І не вытрываў, халера, схапіў адну скварку з патэльні, дзве аладкі і пайшоў жуючы. Я толькі паспела сказаць услед: «Што гэта за фокусы?» — а ён ужо бахнуў дзвярыма.

Даніла макаў аладкі ў тук і нешта ўсё хмурыўся.

— Значыць, сцягнуў скварку? Яму гэта з рукі... шляхта перад скваркаю і гонар траціць, робіцца свіннёю...— адважыўся высказаць большае Даніла,— а вось пра бульбу...

Даніла пакруціў галавою і еў далей, нічога не кажучы. Невядома было, ці ён будзе гаварыць яшчэ, ці на гэтым спыніцца.

— А што пра бульбу? — асцярожна спыталася цешча.

— Ды тое... што ў плане не было ніякай продажы бульбы чайной. Не ведаю, адкуль гэта ўзялося...

— Ну... вам лепш ведаць, начальнікам... нашае дзела — рабіць. Каб толькі за працадні далі...

— Спісы ўжо гатовы. У кладаўшчыка. Днямі павінны даваць...

Аляксандра ўсхапілася з табурэткі:

— Еш, еш, Данілка...— а сама ўзялася за рыбу. Палажыла шчупака на ўслоне, пачала чысціць.

— Я іх ачышчу, выпатрашу, пакуль што палажу ў ваду, пасалю трошкі... Прыходзь абедаць, насмажу...

Даніла ўсё ж такі расказаў пра свой улоў.

— Удача добрая. Завязі сваю здабычу дахаты, хай там пацешацца, і прышлі мне свайго Пецю, як вернецца са школы, няхай мне тут сёе-тое паможа.

У сенцах пачуліся крокі, і ў кухню ўвайшоў не так ужо неспадзявана, але на гэты час усё ж такі госць — Архіп Каўдун. У паношанай зашмальцаванай ватоўцы, падпяразаны паяском, у кірзавых ботах, у вушанцы, зношанай дарэшты, ён выглядаў вельмі запушчаным: ніхто не сказаў бы, што гэты самы Архіп яшчэ не так даўно насіў міліцэйскую форму.

Архіп даў «добры дзень» у хату і зараз жа папрасіў у Данілы закурыць. Даніла выняў з кішэні капшук і перадаў Архіпу.

— Прысеў бы, Архіп,— сказала гаспадыня.

Архіп сеў, пусціў дым у столь і загаварыў:

— Вы, цётка Аляксандра, жывяце тут з краю, нічога не чулі?

— Не... А што?

Архіп памаўчаў, пусціў дым праз нос і ўрэшце сказаў:

— А Гусачка ўжо злавілі...

Аляксандра перастала чысціць шчупака, спыніла позгляд на Архіпе. Даніла кінуў скручваць папяроску і застыў у маўчанні.

— Гусачка? Якога? Мо Гусака Мацея? — перапытала Аляксандра.

— Яго... Яго самага... Ён ужо ў Азярышчы.

— У Азярышчы? — зноў перапытала Аляксандра.

На твары ў Данілы разлілася радасць. Па яго карычневых вачах было відаць, што яна абняла яго ўсяго, разлілася па жылах і жылачках.

— Калі яго даставілі ў Азярышча? — запытаўся ўрэшце Даніла.

— Толькі што званілі ў сельсавет...— гаварыў Архіп далей і часам скоса паглядаў на патэльню, на якой асталася адна скварка.

Аляксандра ўвіхалася ля рыбы, і пачуццё ўцехі свяцілася ў яе вачах.

— А-ах, такі ж злавілі, зладзюгу... Ну і добра!

— Яшчэ скажу адну навіну,— цягнуў Архіп.

Цешча з зяцем паднялі вочы на Архіпа. Ну і Архіп! Сягоння на яго і злосці не набіраецца. Падумаць, прынёс такую навіну, а тут і яшчэ хоча нешта сказаць.

— Памёр стары Гойдала...— сказаў Архіп.

— Хто — Васіль? — кінула пытанне Аляксандра, як быццам старых Гойдалаў паміж Серадзіборам і Забівачкамі было некалькі.

— Увесь на ранах быў. Нікому нічога не казаў. Баяўся, каб дахтары не прыехалі.

Пры гэтых словах Даніла ўстаў. Схапіў шапку з цвіка.

Хвілін праз колькі Даніла быў ужо ў сельсавеце. Там застаў Колю Мілаша, які паспеў пазваніць ужо капітану Рыбіну, што памёр Васіль Гойдала. Даніла пазваніў Малашкіну пра тое ж самае, што і Коля Рыбіну, і ў дадатак запытаўся, ці праўда, што Гусак злоўлены і што ён ужо ў Азярышчы. Малашкін пацвердзіў, што Гусак злоўлены, але яшчэ знаходзіцца ў вобласці. Відаць, што судзіць яго будуць у Азярышчы. Малашкін сказаў яшчэ адно Данілу, чаго не мог сказаць Архіп,— што разам з Гусаком вылаўлена больш за чатырыста бандытаў...

А Даніла ў сваю чаргу гукнуў у тэлефон Малашкіну:

— Вы злавілі Гусака, а я... шчупака, ды такога — у свой рост!

Далей сказаў, што ў возеры рыбы многа, нагнала яе паводка з розных рэк і рэчак, але нікога не відаць з лодкаю, узброенага астрыгай. Людзі радуюцца, што гітлераўскі галаварэз усё ж такі злоўлены. Ходзяць серадзіборцы з хаты ў хату — адны да другіх — і пераказваюць усё, хто што чуў, а што і не чуў. У ход пайшла свая фантазія. Адны казалі, што Мацей Гусак з'яўляўся ў Серадзібор не раз, што начаваў у Васіля Гойдалы, што выпіваў у Куцілы ў Забівачках. Другія казалі, што бачылі яго, як крužыў наўкол Алесінай хаты, свяціў запалкамі ў вокны. Мусіць, хацеў падпаліць хату, але ўбачыў, што там няма нікога, і пакінуў. Многа чаго гаварылі пра бандыта Мацея Гусака. Дагаварыліся нават да таго, што гэты Гусак выныраў ноччу з возера і што вочы ў яго былі чырвоныя, крывавыя. Апошняе, можа, для большага страху, пацвярджаў нават сам Архіп Каўдун, які тады быў міліцыянерам і часам заходзіў у позні час у лясніцтва да Міхася Гойдалы, бо ведаў, што той не праміне, каб не пачаставаць яго шклянкай самаробнай гáры.

Даніла вырашыў, не адкладаючы, склікаць сваю парт-

арганізацыю. Трэба абмеркаваць падзеі, што і як, а канкрэтнае, што штурханула Данілу да гэтага кроку, былі «мерапрыемствы» Духмуровіча-Куцілоўскага наконт бульбы для чайной. Пасяджэнне адбылося, як заўсёды, у хаце Тацяны Карпец. На пасяджэнні спыталіся ў буфетчыцы Юлі, ці рабіла чайная заказы ў праўленне калгаса на бульбу. Тая сказала, што ёй гэта невядома. Павінен ведаць загадчык сталовай. І таму вырашылі, каб Коля Мілаш узначаліў праверку Куцілавай бульбяной кампаніі. Слабая гэта была яшчэ партарганізацыя. Тацяна Карпец так разышлася супраць Духмуровіча-Куцілоўскага, што сказала, калі сустрэне на вуліцы, то морду яму заплюе. І пачала дакараць Вераб'я, што той, ні ў каго не пытаючыся, прызначыў яго брыгадзірам. То нашто ж тая ячэйка? Нашто ж мы? «Як вернецца Верабей, трэба яму даць такіх штурханцоў, каб яму не падумалася больш так рабіць»,— закончыла Тацяна. З ёю, вядома, усе згадзіліся.

* * *

З'явы дробныя, большыя, вялікія — усе, як ты ні хочаш, завязаны паміж сабою відочнымі і невідочнымі ніцямі. З гэтых узаемасувязей тчэцца жыццё і нашых мілых раёнаў, дзе тыя парасткі, якія мы называем парасткамі сацыялізма ў душах людзей, растуць не так, як грыбы пасля дажджу, а як засеяныя кветкі. Расці ім нялёгка, бо там паміж кветак узыходзіць і тое, што завецца зеллем. Яно сеецца, каб прыкрыцца тымі ж кветкамі, і знаходзіць сабе грунт у глебе, бо тую ж самую страву любіць есці не толькі, скажам, кот, але і воўк. Радасны водгук людзей на тое, што Мацей Гусак злоўлены, і быў водгукам парасткаў сацыялізма ў іх душах, якія зведалі і ведаюць, што сацыялізм — гэта ахова народа, гэта — яго будучыня. А былі ж часы, і не так даўно, што некаторыя пачыналі ўжо траціць надзею, што Гусака зловяць. Махалі рукою — нават прагаварваліся, што Гусак недзе жыве, мае добрую пасаду, і ніякая халера яму не зробіцца. Але нават і тыя «безнадзейныя» недзе глыбока ў сваёй падсвядомасці думалі, што справядлівасць павінна ўсё ж такі прыйсці. Не можа быць інакш. І вось, калі яна прыйшла, кветкі ўспыхнулі, кветкі зардзеліся...

Аднак такі масавы гоман аб перамозе справядлівасці супыніў Духмуровіча-Куцілоўскага, які, як запраўскі хітры скептык, махаў рукою і казаў: «Эт... Гэта яшчэ невя-

дома, ці ён злоўлены... Ого... яго не так лёгка злавіць...» Людзі, чулыя да правакацый, маўчалі. Пан Куціла пайшоў на пахаванне Васіля Гойдалы, каб паспачуваць яго сыну Міхасю, бо з ім у яго інтарэсы бліжэйшыя, чым з серадзіборцамі... На пахаванні будзе Цыпрыян Буйвалоцкі, якога капітан Рыбін выпусціў на волю толькі пасля арыштавання Банадзюка. Толькі тады Буйвалоцкі прызнаўся ў сваёй віне, калі прывялі да яго Банадзюка, як кажуць, на вочную стаўку. Рыбін пусціў у рух сваё майстэрства, і яны пачалі выдаваць адзін другога. Па просьбе Банадзюка Цыпрыян насіў сала ксяндзу Рагульскаму, бо меліся быць у ксяндза нейкія таямнічыя госці, аб якіх Буйвалоцкі не ведаў. На развітанне Рыбін сказаў Буйвалоцкаму:

— Ідзеце і жывеце спакойна. Ніхто вас не кране.

Буйвалоцкі здзіўлена глянуў на Рыбіна,— ці ж праўду ён кажа? Потым вочы палагаднелі. Ён іх апусціў. Не хацелася яму казаць слоў прымірэння, а ўсё ж такі сказаў, як выдавіў:

— Выбачайце, таварыш, за такія турботы, што мы вам нарабілі...— Сказаўшы так, схіліў галаву, на якую зараз жа надзеў шапку. Хутка павярнуўся і выйшаў.

Адчувалі серадзіборцы ці не, што адбываецца ці адбылося ў стане Васіля Чаравакі, а ніці ад іх душ усё роўна цягнуліся туды, у тое вялікае сяло Нівы, якое адным канцом уперлася ў лес, і на гэтым канцы ў самай крайняй хаце вырашыўся лёс Мацея Гусака, вырашыўся не на яго карысць.

У гэтай хаце сядзіць толькі адзін Разумейка Аляксандр. Гэта зразумела — ён жа начальнік штаба і адначасова ад'ютант Чаравакі. Уся гаспадарка на ім. Сам Васіль Чаравака і яго начальнік разведкі Паўлёнак Сяргей паехалі ў вобласць. Паехалі не адны. Пад канвоем байцоў павязлі чатырыста дваццаць былых гітлераўскіх паліцаяў і ўкраінскіх бульбаўцаў. Чатырыста дваццаць першы — серадзіборскі камендант паліцэйскага гарнізона Мацей Гусак. Для яго Васіль Чаравака вызначыў спецыяльную ахову з чатырох чалавек. Ехалі абозам да станцыі на фурманках. Толькі Чаравака і Паўлёнак ехалі верхам на конях — першы наперадзе, другі ззаду. Тры грузавікі пайшлі асобна раней. Усіх бандытаў за адзін раз не набралі — патрэбна было семдзесят фурманак апрача трох грузавікоў. Завезлі іх за два разы.

Мацей Гусак, абветраны, з аблупленымі губамі і з па-

жоўклымі вачыма, уткнуўся ніцма ў салому на пярэдняй фурманцы, вытыркнуўшы звязаныя рукі на спіне, і не ўставаў усю дарогу аж да станцыі. Чаравака час ад часу аглядаўся, думаў часам загаварыць з земляком, але так і не ўдалося.

Разумейку пакінулі канчаць справы — расплаціцца з гаспадаром хаты, прывесці ў парадак усю маёмасць атрада, каб быць гатовым да апошняга ад'езду. І вось ён сядзіць у хаце Івана Хацімчыка і перапісвае свой ваенны інвентар. Ён толькі што вярнуўся з двара, ці, дакладней кажучы, з лясной дарогі, па якой паехаў абоз з бандытамі. Ён праводзіў іх. Даў Паўлёнку папярос на дарогу і махнуў рукою. Паўлёнак свіснуў, і абоз рушыў. Разумейка бачыў, што Васіль Чаравака зухавата сядзеў на кані — у шынялі з пагонамі маёра, з партупеяй, перацягнутай наўскос грудзей да рэвальвера ў кабуры, у шэрай стручкаватай шапцы, заломленай на патыліцу,— ён, здаецца, любаваўся сабою. Даўно яго бачыў такім Разумейка. Нават усміхнуўся яму ўслед. А вось Паўлёнак выглядаў інакш. Нізкарослы, ён быў нібы мала прыкметны на кані. А галоўнае, прыгінала яго крыху левая рука на прывязі. Гэта была рука параненая.

За ўвесь час прабывання ў Нівах толькі адзін раз давялося мець збройную сутычку з бандытамі. Яны ішлі ў напрамку Норава — відаць, на нейкую паважную аперацыю. Ішлі трыма групамі — чалавек па сто ў групе. Толькі тады навочна давялося ўбачыць іх колькасць, што мела потым вырашальнае значэнне для далейшай тактыкі штаба Чаравакі. Іх жа было ў шэсць разоў больш, чым сваіх байцоў. Усё ж такі Чаравака вырашыў іх абстраляць. Лес загаласіла гучная каманда: «Рота справа — агонь!» Застракаталі аўтаматы. Бандыты адразу збіліся ў гурт, але потым астоеліся. Глянулі навокал у лес і нікога не ўбачылі. Усё ж такі глядзелі ў бок байцоў. Пастаялі і, не даўшы ніводнага стрэлу, звярнулі з дарогі і зніклі ў лесе. Вочы Паўлёнка прагна лічылі ворагаў. Іх, вядома, спалохала слова «рота», якое так гучна разнеслася па лесе з вуснаў Чаравакі. А галоўнае, відаць, паблытала ім мазгі каманда «справа», калі стралялася якраз злева ад бандытаў.

Потым было нешта тры пасяджэнні, тры доўгія вечары. Хоць штаб Чаравакі быў невялікі, аднак і тут праявіліся разыходжанні. Разумейка, напрыклад, настойваў запрасіць у вобласці яшчэ пяцьдзесят байцоў і тады, доўга не чакаючы, парашыць з бандытамі. Гэта, як ён казаў, быў

бы самы кароткі спосаб. Чаравака маўчаў, раздумваў. Потым кінуў у адказ:

— Не забывай, што нам іх забіваць не трэба. Нам іх трэба пабраць жывымі.

— Ну, то тым больш. У нас усяго пяцьдзесят байцоў. Як ты з такою групкай пабярэш іх жывымі? Іх жа бачыў колькі?

Чаравака на нейкі момант гатоў быў пагадзіцца з Разумейкам. Але потым загаварыў у душы гонар былога партызанскага камандзіра. Як то? Пяцьдзесят чалавек — гэта ж і ёсць самы сапраўдны партызанскі атрад. Толькі з такім атрадам і можна манеўраваць па лясах, птушкамі пералятаць з месца на месца, раптоўна нападаць, знянацку, можна адвесці ўвагу ворага ад сябе, а дзе і ўступіць у адкрыты бой. Так гаварыў Чаравака. Той усё ж такі вёў сваё:

— Гэта ўсё добра. Ведаем. Але гэта ў тым выпадку добра, калі ворага можна і трэба знішчаць фізічна. А тут у нас такога задання няма. Вось дзе за̀гваздка...

Чаравака панура адказаў, гледзячы недзе за акно на падворак:

— Не дадуць больш... Яшчэ высмеюць, напэўна высмеюць...

— Ну, тады трэба прыдумаць нешта другое,— развёў рукамі Разумейка.— Нашым такім атрадам іх хутка не возьмеш жывымі.

«Нешта такое» прыдумаў начальнік разведкі Паўлёнак Сяргей. Такой «прыдумкі» трэба было чакаць. Бо іншага чаго і не прыдумаеш. Паўлёнак сказаў:

— Трэба паслаць да іх нашага чалавека, як контрразведчыка.

Чаравака і Разумейка зварухнуліся і адначасова глянулі на Паўлёнка.

Ведалі яны, што на свеце ёсць такая разведка, хоць яны ёю не карысталіся. Не ведалі, як кажуць, той інструкцыі, як і што. А калі сярод бандытаў ёсць знаўцы гэтай справы, яны ж могуць хутка запрыкмеціць такога навічка. Ва ўсякім разе, будуць сачыць за ім, правяраць. Калі праваліцца контрразведчая работа, загубім свайго чалавека, і толькі праз тое, што ён не змог да канца правільна сябе паводзіць у стане ворага. І дзе ты знойдзеш цяпер у атрадзе такога? Такога, каб быў разбітны, кемлівы? Усё моладзь, нявопытная моладзь.

Думалі, думалі сябры, нічога не маглі прыдумаць. Толь-

кі пры канцы гутаркі, калі Чаравака хацеў ужо запрапанаваць адкласці пасяджэнне на заўтра, каб кожны падумаў, Паўлёнак, уздыхнуўшы, чамусьці ўзняў руку, быццам ён сядзеў не ў таварыстве двух сяброў, а ў натоўпе. Узняў і прамовіў:

— Прашу слова...

Чаравака здзіўлена адказаў:

— Бяры, кажы... Хто ж табе не дае?

Паўлёнак сказаў трошкі таямніча, гледзячы на Чараваку спадылба сваімі чорнымі вострымі вачыма:

— Я такога чалавека знайду. Ёсць такі чалавек.

— Дзе? Хто? — кінуліся з пытаннямі Чаравака і Разумейка.

— Гэты чалавек у нашым атрадзе. Ён нават належыць да разведчай групы...

— Кажы, хто?

— Пракопа Махаеда сын... Ну, таго Пракопа, якога Гусак зарэзаў разам з яго сям'ёю. Апошні сын Іван тады ж дома не быў, служыў ужо ў арміі і служыць яшчэ і цяпер. Хіба ж вы не ведаеце?

— Ведаць то я ведаю, што апошні сын у арміі, але, што ён тут у нас, я не ведаў,— адказаў Чаравака, даўно гэта ўсё было...

— А я яго зусім не ведаў,— сказаў Разумейка.

— У партызанах ён яшчэ быў дзіцём,— паясніў Паўлёнак,— уся ж сям'я Махаедаў была ў партызанах.

— Трэба падумаць. Ты, Паўлёначак, можа і добра гаворыш. Але вось што... Ці не пазнае яго Гусак, калі мы пашлём да іх Махаеда?

— Чорта ён пазнае... Старэйшых мо пазнаў бы, а гэтага — можна лічыць напэўна — не,— адказваў Паўлёнак.

Чаравака бахнуў далонню па стале і прамовіў:

— Згаджаемся, Паўлёначак, прадстаўляем цябе да ўзнагароды — найлепшай сопкай бульбінай, якую хутка падасць гаспадыня, і найлепшай скваркай. Ты згодны, Аляксандр?

Разумейка ўсміхнуўся і кіўнуў носам:

— Згода,— прамовіў ён,— толькі трэба гэтаму хлопцу ўсё ж такі адпусціць бараду.

— Маскіроўку мы зробім. Усё гэта зробім тады, калі над'едзе наша апякунка Агрыпіна. Без яе рабіць не трэба дый нельга,— заявіў Паўлёнак.

— Усё. Амін,— сказаў Чаравака, і на гэтым пасяджэнне закончылася.

* * *

Гэта былі ўжо тыя дні, калі міналіся маразы. Памякчэла паветра, у лесе шум стаў і тонкі і гусцейшы. Не чувадь у ім было тонаў панурасці, як гэта бывае позняй восенню, і адышла траскучая, марозная сухасць у пасіпелым паветры. Патыхала красавіцкім цяплом.

Але ранкамі яшчэ хрусцеў ужо стаялы сняжок пад нагамі, на які праглядала між вяршынь пагодлівае, ужо злагаднелае, сонца.

Вось такім ранкам Васіль Чаравака ехаў на сваім гнядым кані, разбіўшы свой атрад на групы. Справа ў тым, што паліцаі змянілі тактыку — сталі хадзіць па лесе групамі па чалавек пяць-шэсць. Відаць, абстрэл іх байцамі тады, калі яны ішлі вялікай грамадою, навёў іх на такія змены. Гэта было выразам не толькі манеўрыстыкі, але і разведкі, ці наадварот. Штаб Чаравакі раскусіў такія заходы паліцаяў і прыняў адпаведныя меры. І вось атрад разбіты на групы. Яны пайшлі па лесе раўналегла адна другой у напрамку таго ж, ужо вядомага разведцы, лясніцтва, дзе гуртаваліся паліцаі. Ніякай там канторы лясніцтва, вядома, не было. Пасля вайны ніякія лясныя работнікі туды і не заглядалі. Гэта быў апусцелы за час вайны будынак, пакрыты пашарэлым ужо гонтам, з канцылярыяй і кватэрамі ляснічага і аб'ездчыка пад адной страхою. Ад яго праз густы хвойнік прабівалася дарожка на шлях, а за спіною ў лесе блішчала ў вянку чаротаў і сосен невялікае возера. Адным словам, будынак лясніцтва займаў стратэгічна добрае месца, чаму і квапіліся на яго ваенныя, як свае, так і ворагі. Трэба было выбіць паліцаяў адтуль. А найлепш было б захапіць іх жывымі.

Агрыпіна Грынчык, сувязная абкома, адобрыла план штаба Чаравакі адносна контрразведкі і нават захацела пабачыць маладога байца Івана, сына Пракопа Махаеда, і, так сказаць, пабагаславіць яго на шчаслівую ўдачу. Усё было зроблена, і Іван пайшоў пабочнымі дарогамі, каб падысці да «лясніцтва» з боку, процілеглага сялу Нівы. Калі яго затрымаюць паліцаі, ён будзе казаць, што уцёк з-пад арышту міліцыі ў сваім раённым цэнтры і прабіраецца на Заходнюю Украіну, каб далей быць ад месца жыхарства, каб як найхутчэй замясці сляды. А трапіў ён пад арышт за тое, што ўдзельнічаў у афёры бухгалтарскай групы «Заготзерно» свайго раёна, памагаў фальсіфікаваць бухгалтару квіткі. Яны, такім чынам, набралі нямала грошай.

А потым страслася бяда... Калі ж запытаюць, у якім гэта цэнтры адбылося, можна назваць Азярышча. Гэта прыхіліць да Івана Махаеда забойцу яго бацькі Мацея Гусака.

Усё ж такі доўга не ведалі сябры, ці ўдалося Івану Махаеду дайсці да стану ворага і абаснавацца там. І вось чарговая «прагулка» па лесе групамі ў першыя красавіцкія дні выявіла нешта жаданае, ад чаго абстаноўка стала яснейшай.

Чаравака ехаў па праезджанай прасецы ў перарэз групам, пазіраючы на іх ззаду. Паўлёнак пайшоў недзе з групай самай правай, каб у зручны момант зрабіць абходны паварот і спалучыцца з суседняй групай. Сігналы павінны былі быць свісткавыя.

Конь ішоў жвавою, бадзёраю хадою. Яго рытмічныя крокі, здаецца, гаварылі, што ён чуе пад сабою ездака, вартага каня. Нішто не парушала ранкавай, сонечнай цішыні, калі не лічыць заціхаючых паміж сосен крокаў байцоў. І вось недзе здалёк у напрамку пачуўся рэзкі свіст. Ён паўтарыўся тры разы, што гаварыла аб сур'ёзным становішчы. Чаравака зараз жа павярнуў каня налева, услед байцам, і сам даў камандны свісток — паспяшацца на помач. Тым часам паветра прарэзалі залпы некалькіх аўтаматаў. Праз некаторы час стрэлы пачуліся зблізку. Стралялі ўжо байцы левага крыла, бліжэйшыя да Чаравакі. Трапіўшы на дарожку, Чаравака пусціў каня шырокай рыссю і хутка паміж сосен убачыў сваіх байцоў, якія, тулячыся да ствалоў, мерылі вачыма падножжы дрэў у аддаленні. Там заляглі паліцаі, нагнаныя сюды правым крылом груп. Чаравака загадаў байцам трымаць пазіцыі, а сам нырнуў направа, каб сустрэцца з групамі Паўлёнка.

Так былі абкружаны пяць паліцаяў — першыя жывыя трафеі. Ім запрапанавана адкінуць аўтаматы за сябе ў тыл і ўстаць. Калі не згодзяцца, будуць знішчаны. Чакаць давялося нядоўга. Паліцаі выканалі загад, пасля чаго былі ўзяты ў палон.

На допыце ўсе сказалі, колькі іх у гэтым лесе, сказалі, што дакучае ўжо недаяданне, што паслабла дысцыпліна. Некаторыя радыя былі б з'явіцца да ўладаў, але баяцца... Ёсць і ўпартыя, гатовыя не пакідаць лесу, забіваць савецкіх работнікаў. Да іх у першую чаргу належыць Мацей Гусак.

Усё ж такі ніхто добраахвотна не сказаў, ці трапіў да іх навічок. Чаравака глянуў на зарослыя барадамі падзі-

чэлыя твары гэтых лясных забойцаў, спыніў зрок на самым маладым і сказаў:

— Ты астанься. А гэтых пакуль што патрымаць на кухні.

Разлік быў недарэмны. Маладзён расказаў, што прыстаў да іх нейкі навічок і Мацей Гусак хоча паслаць яго ў Азярышча для разведкі, што сталася з Рыгорам Банадзюком.

Вось і ўсё, што мог сказаць малады паліцай.

...Іван Махаед падышоў да штаба Чаравакі тады, калі на двары злосна зарычаў і пусціўся ў несканчоныя брэхі Рэкс. Тады была густая ноч, спавітая бялёсым туманам. Калі пасля даклада вартавога Іван быў упушчаны ў хату, сябры-штабнікі былі не толькі здзіўлены і ўсцешаны. Яны былі на сёмым небе. Іван, сын Пракопа Махаеда, паказаў сябе сапраўдным партызанам. Іван расказаў, што Мацей Гусак яго не пазнаў. Доўга з ім гутарыў, распытваў пра многае і пра Серадзібор, а ўсё роўна не пазнаў. Здзічэлы і прапіты Мацей Гусак. Калі спіць, то храпе, як звярына. Паслаў мяне ў Азярышча даведацца пра Банадзюка. «Вось я і прыйшоў»,— закончыў Іван і ўсміхнуўся. Потым дадаў:

— На світанні мы павінны быць там... Трэба зняць варту і абкружыць будынкі. Спяць моцна. Разводзячыя таксама спяць, паклаўшы галовы на сталы. Самі вартавыя прыходзяць з паста і патрабуюць змены. Начальнікам, так сказаць, гарнізона сягоння сам Мацей...

...У чараваказўскай казарме была ўзнята трывога, і атрад стаў на ногі. Пайшлі, праціраючы вочы, у туманную, лясную ноч, дзе бязгучна падалі кроплі з цёмных купчастых вяршынь.

Варта была знята па-партызанску — без крыку. Першым увайшоў сам Чаравака ў суправаджэнні Івана. Крыху ззаду ішоў Паўлёнак. Разумейка застаўся сцерагчы з падазёрнага боку.

— Рукі ўверх! — крыкнуў Чаравака так, што аж лямпа, што стаяла на стале, хацела патухнуць.

Мацей Гусак усхапіўся, і рэвальвер адразу бліснуў у руцэ. Выстраліў, відаць, навослеп. Стрэл меўся трапіць у Чараваку, але прамінуў, і куля прабіла руку Паўлёнка вышэй локця.

— Вязаць яго! — крыкнуў Чаравака. І некалькі байцоў схапілі Гусака ззаду за рукі. Ён вырваўся, узравеў, калі ўбачыў, што аўтаматы ўжо разабраны байцамі, ірва-

пуўся так, што нешта трэснула ў рукаве, і захроп пад навалаю байцоў.

У вокнах прабівалася сіняе світанне, у вокнах днела...

* * *

Усё Азярышча, як яно ні вялікае, ходырам хадзіла ў гутарках аб тым, што страхаццё раёна — Мацей Гусак — нарэшце сапраўды злоўлены і што яго прывязуць судзіць іменна сюды, у Азярышча. Ды яно і правільна, ой як правільна! Судзіць яго будуць тыя, каго ён дратаваў, забіваў, рэзаў, не даваў дыхнуць ні дарасламу, ні дзіцяці. Як жа! Толькі тут яго судзіць, і толькі тут!

Праз дні два ці тры пасля гэтай прыемнай для ўсіх весткі экстрана выклікалі ў вобласць капітана Рыбіна. Усе зразумелі, што хутка Мацея прывязуць. У дзень ад'езду Рыбіна Малашкіну пазваніў сам сакратар абкома Гугновіч. Малашкін, у сувязі з такімі пераможнымі падзеямі, якія асабліва датычылі яго раёна, натуральна, чакаў званка ад свайго начальніка. Думаў, што гаворка будзе пра перамогу над бандыцкай занозай, якая дагэтуль тузала вобласць, чакаў харошага, зычлівага тону. І раптам... Раптам Малашкін, трымаючы трубку ля вуха, паморшчыўся, скрывіўся, на нейкі момант чырвань заліла яго твар.

— Што? Я крыўджу Чухноўскага? Што вы, Міхаіл Міхайлавіч? Гэта на мяне непадобна. Я толькі хачу, каб Чухноўскі працаваў, памагаў мне. А ён паводзіць сябе, як яму хочацца... Я магу...

Малашкін змоўк. Слухае Гугновіча. Выслухаўшы, сказаў:

— Я вам напішу пра ўсё дакладна...

І палажыў трубку.

Сеў у крэсла і абняў галаву рукамі. З-пад далоняў горача зашаптаў: «Плячо... плячо... Вось яно! Ужо сябе паказала». Апошнія словы сказаў ужо ўголас.

«Вядома, гэтага трэба было чакаць... Але чаму ж ён, Гугновіч, нічога не сказаў пра Гусака? Гм... Дзіўна. Падазрона. Рыбін жа хлусіць не будзе. Гусак злоўлены. А Гугновіч пра гэта маўчыць...»

Малашкін падумаў, што Гугновіч проста хоча быць канспіратыўным, не хоча крычаць па тэлефоне, як кажуць, «ура». І на гэтым супакоіўся. Трэба канчаць пачатую працу. Перад ім ляжаў накіданы Післяком план агітацыйна-прапагандысцкай работы па раёне на квартал.

Малашкін узброіўся алоўкам і паглыбіўся ў чытанне. Дзе-нідзе ставіў на палях «птушачкі», а то запісваў свае заўвагі асобна на паперы. Побач з гэтай важнай работай раўналегла плыла нейкая другая думка. Яна часам то знікала амаль зусім, то выпірала зноў у свядомасці. І ўрэшце аформілася. Малашкін кінуў аловак і націснуў званок. Увайшла Саша, памаладзелая пасля зімовых перажыванняў, але ў вачах ужо было больш нейкай устойлівасці, што можна б назваць спакоем або ўпэўненасцю ў чымсьці, што стала набыткам душы.

— Што робіць Чухноўскі?

— Гаворыць па тэлефоне з вобласцю.

— З вобласцю? — перапытаў Малашкін, мімаволі абапёрся шчакою на далонь, задумаўся. Нешта крыўднае абуджалася ў яго душы. Нейкім краёчкам даходзіў да розуму сэнс таго, што радасць у жыцці непастаянная. Прапусці момант, недагледзь, і радасць можа згінуць. Хіба ж не варта пазмагацца за радасць так, каб яна свяціла ўсім? Вось гэта і ёсць тое, што...

Малашкін устаў, наблізіўся тварам да Сашы і сказаў з ноткаю ласкі:

— Ідзі, Сашок, рабі свае справы. Глядзі, каб ён нам не падлажыў якой-небудзь свінні. Усе паперы за яго подпісам прынось мне. Трымайся з ім ветліва — так, як і з кожным. Добра?

Саша маўкліва кіўнула галавою. І тут, калі Малашкін пайшоў да акна, гледзячы недзе далёка за шыбіны, Саша павярнулася і пайшла так ціха, як адплыла. Але Малашкін спыніў яе:

— Саша... забыўся сказаць... Павінен прыехаць Аляксей Жарнавік, вось-вось павінен... Калі не сягоння, то заўтра. Я атрымаў ад яго ліст. З ім прыедзе яшчэ нехта... нашы знаёмыя. Помніш Кляновіча, Грушку?.. Ну, вось... Калі заявяцца, адразу запрасі іх да мяне...

— Добра... Добра...— радасна сказала Саша і, абцягнуўшы кофтачку, павярнулася і выйшла.

Малашкін доўга стаяў, трымаючы рукі ў кішэнях штаноў, і глядзеў у акно. З акна відпелася крыло вакзальчыка, цэлае крыло, другое развярнула бомба. Абваленая цэгла так і ляжыць гурбай, адкрыўшы людскому воку пакой колішняй дзяжуркі. Для пасажыраў непадалёку наскара пабудаваны барак. За вакзальчыкам відна палоса цёмнага лесу, пры якой прытулілася лесапілка. Над ёю ў блакіце з высокай трубы чорнаю смугою цягнецца дым.

Знаёмы краявід — ды не толькі вачам, але нават пах яго асеў недзе ў свядомасці. Адчуваюцца рытмы дня — ціхія, павольныя. А там у прасторах — вёскі, вёскі, вёскі. Там зямля і народ. Гэтай маляўнічай зямлі — з пяскамі, гліпамі, падзоламі — патрэбна ўвага чалавека, яго гаспадарскае вока. Накармі зямлю, і тады яна цябе накорміць. Толькі так. Патрэбна садружнасць. Мільганула нешта ў вачах Малашкіна, як іскрынка, потым прагучала ціхае: «Э-э-эхх...» Намерваўся ісці к тэлефону і пазваніць Харытону Бабру, але тут дзверы без стуку адчыніліся і ўвайшоў Чухноўскі. Непажаданы ён быў цяпер, але... увайшоў, мае ж права ўваходзіць без дакладу, без стуку.

— Сядай,— прамовіў Малашкін, паказваючы на крэсла. Потым глянуў на гадзіннік. Набліжалася трэцяя гадзіна, пара абеду.

Напхаўшы люльку, Чухноўскі пачаў гаварыць вясёлым, нават вясёла-крыклівым тонам:

— Разумееш...

Губы цмокалі цыбук. Нарэшце выпусціў дым праз нос і пачаў нанава:

— Разумееш... Гаварыў з Гугновічам. Вось толькі што. Ну, што за чалавек гэты Міхаіл Міхайлавіч! Гэта — золата. Так падрабязненька расказаць, як злавілі Гусака. Гэта... Гэта можа толькі ён...

Чухноўскі пералажыў нагу на нагу і пачаў гаварыць тонам пераканання, думаючы, відаць, што Малашкін не паверыць:

— Ты, Сцяпан Пятровіч, яго не ведаеш... Гэта золата, а не чалавек. Ён жа так дбае аб кадрах, не выпусціць цябе з кабінета, пакуль не даведаецца, што ты сапраўды здаровы. Не дай божа яго падвесці ў гэтым. Тады... Тады... чакай праборкі. Але потым ён і пашкадуе... Ого, каб такіх ды больш!

Малашкін курыў «Беламор» павольна, нібы ў роздуме, і маўчаў.

— Ого, ён табе і жартаўнік харошы,— цягнуў сваё Іван Пракопавіч.— Можа гаварыць з намі, работнікамі, паўдня, і ўсё анекдотамі сыпле, як з рукава. Ён не спяшаецца, каб гэта, як чыноўнік. Скажа толькі — мы для часу ці час для нас? І так сваёй люлечкі і не выпускае з рукі...

Малашкінава папяроса, заціснутая паміж пальцаў рукі, на якую Малашкін абапёрся шчакою, дыміла тоненькім шнурочкам і здавалася вось-вось згасне. Але Малаш-

кін не даваў ёй згаснуць. Ён пацягваў з муштука, і ў смузе дыму твар яго рабіўся то раўнадушна-абыякавы, то сур'ёзна-заклапочаны.

А Чухноўскі заліваўся:

— А калі адзін работнік абкома — ну, там... з фінансавага аддзела, па прозвішчу Сініца — папрасіўся ў Гугновіча, каб ён адпусціў яго з пасады на вучобу ў фінансавы тэхнікум, Гугновіч сказаў... мы доўга пасля рагаталі... ён сказаў: «А рабіць хто будзе — Пушкін?»

Чухноўскі разрагатаўся аж да кашлю, а потым стаў успамінаць нешта, яшчэ не сказанае:

— Ага... Ён тады яшчэ дадаў: «Ты як вывучышся, дык нам усе азёры павыпальваеш у вобласці. Крылоўская сініца некалі ж хвалілася, што можа мора спаліць...»

Урэшце Малашкін паварушыўся ў крэсле, ды неяк памядзведжы цяжка, ажно затрашчала не толькі крэсла, але і стол, і ціха, як нічога не было, спытаўся:

— Ты яшчэ не разглядаў нашага плана агітацыйна-прапагандысцкай работы?

— Што? — збянтэжана адазваўся Чухноўскі.

Малашкін паўтарыў пытанне.

— Што? Што? Якой работы? — павысіў тон Чухноўскі.

— Я табе паўтару трэці раз,— гаварыў знешне спакойны Малашкін і паўтарыў пытанне яшчэ раз.

— Гм... Гм... Не... не бачыў... ну...

— Вось я хачу цябе з ім пазнаёміць.

— Пакінь, Сцёпа, не сягоння...

— Чакаць нельга. Заўтра бюро. Толькі ты адзін з ім не пазнаёміўся.

На твары Чухноўскага адбілася стомленасць.

— У мяне, разумееш, нешта мая Імэла прыхварэла.

— Хто гэта Імэла — жонка ці дачка? — спытаўся Малашкін, хоць ведаў, каму належыць такое імя.

— Ну хіба ты не ведаеш? Дачка...

— Імя цікавае.

— Гэта азначае ў скароце — Інстытут Маркса — Энгельса — Леніна. Імэла.

— Першы раз чую такое імя. Дык вось... забяры план на вечар дахаты і там прагледзіш.

Зазваніў тэлефон. Малашкін зняў трубку.

— Ага-а... Здароў, друг... Прыбываеце? Калі? Ага... Добра... Добра... Дзякуй, брат...

Малашкін палажыў трубку і сказаў:

— Званіў Рыбін з вобласці. Трэба нам падрыхтавацца к прыёму яго бандыцкай вялікасці Гусака.

Бестурботна-прытворныя вочы Чухноўскага пабольшалі.

Ад ідылічнага настрою пры ўспамінах аб Гугновічу не асталося ўжо і следу. Цьфу, прападзі яно пропадам!

І неразлучная люлечка зноў апынулася ў зубах.

— Ага...— нібы што ўспомніўшы, прамовіў Малашкін,— трэба табе заняцца справай крадзяжу стагоў сена ў Серадзібары.

— Я ж не следчы,— пацісnуў плячыма Чухноўскі.

— Што значыць следчы? Ты арганізуй, даручы, каму трэба. Трэба зрабіць як найхутчэй, бо потым будзе позна. Як давядзеш справу да канца, дaложыш мне.

Чухноўскі адчуў, як нейкі цяжар лёг яму на плечы. Ніяк не выкруцішся ад абавязкаў. Праўда, ездзіць у Серадзібор і яму ўжо стала падабацца. Там ёсць такі рухавы чалавечынка, як Духмуровіч-Куцілоўскі, ляснік Гойдала, дый сам старшыня Верабей проста мілы чалавек. І Чухноўскі сказаў Малашкіну:

— Яшчэ Верабей не вярнуўся з цялятамі. Як вернецца, тады. Бо як жа без яго?

— Не, наадварот, трэба ўсё зрабіць без яго. Трэба даведацца ў людзей, хто што ведае пра гэтае злачынства. Без Вераб'я будуць гаварыць смялей.

Чухноўскі апынуўся ў тупіку — ні туды і ні сюды. Не хочацца яму займацца гэтымі праклятымі стагамі.

— Хай гэтым займаецца Бабёр,— нeяк гнеўна адазваўся Чухноўскі.

— Так — Бабёр і ты. Правільна.

Гуллівая ўпартасць Чухноўскага вычарпалася, яна дайшла да бездапаможнасці.

Ён глянуў на схіленую над планам агітпропа кучастую галаву Малашкіна і працягнуў руку, каб узяць план.

— Давай, ад цябе ніяк не адчэпішся,— прамовіў ён.

Ужо стоячы і трымаючы план у руцэ, ён некаторы час глядзеў на Малашкіна зняважлівым позіркам, а потым сказаў:

— Эх, каб ты пабываў у Гугновіча, ён бы цябе...

— Я ў яго яшчэ пабываю, не бойся...

* * *

Апошняй з райкома выйшла Саша. Ужо апранутая ў цёмна-зялёнае паліто, хоць і спяшалася, аднак адкрыла сумачку, выняла адтуль люстэрка і паглянула на сябе — мімалётна зірнула ў свае вочы пад тонкімі бровамі, на свой, як адточаны, носік з лёгкаю курносінкай і спынілася на мяккіх дзявочых, але ўжо сталых, вуснах. Падумала, ці даць ім фарбы? І не дала — толькі абцёрла іх хустачкай. Саша наогул не любіла гэтай, як яна часам казала, «губной мазні». І толькі ў выключных выпадках аддавала даніну гэтай модзе. Урэшце, паправіла хустку на галаве і валасы па скронях і выйшла. Ледзь не спаткнулася на стаража Халімона, які ў чорнай стаўбунаватай шапцы стаяў у калідоры.

Саша выбегла на сонечную вуліцу, па якой спешна не ішлі, а плылі людзі ў напрамку да вакзала. А міліцыянеры... яны ўсё подбегам апераджалі ідучых. Саша глянула на гадзіннік — яшчэ асталося дзесяць хвілін да прыходу поезда — і прыспешыла кроку.

Плошча перад вакзалам імкліва запаўнялася людзьмі — мужчынамі, жанчынамі, маладымі, старымі і дзецьмі. На перон ужо нельга было прайсці — на ім шчыльна плячом к плячу стаялі работнікі розных устаноў Азярышча са сваімі жонкамі. У першым шэрагу стаяў Малашкін са сваімі сакратарамі, і ля іх шпалерам выстраілася міліцыя. Саша прабівалася, як магла. Наткнулася на Несцерава Данілу. Учапіўшыся за яго рукаў, прасоўвалася і Кацярына. Аказваецца, многа прыбыла з Серадзібору. Адзін ратунак астаўся для Сашы — лезці цераз плот. Яна наступіла на ніжнюю жэрдку, і тут падскочыў нехта і падхапіў яе за талію і, можна сказаць, перакінуў цераз плот. Саша, расчырванелая, збянтэжаная, апынуўшыся на пероне, аглянулася, каб даведацца, хто ж такі быў рыцар, што зрабіў ёй такую паслугу? Глянула і аж засмяялася. Па той бок плота стаяў Аляксей Жарнавік — у шэрай кепцы, у ватнай кароткай куртцы чорнага колеру. На грудзях яго вісеў фотаапарат. Праз акуляры паблісквалі Жарнавіковыя вочы,— заўсёды з усмешкай або з задорам.

— Ой, як я вам удзячна, Аляксей Сцяпанавіч! — ускрыкнула Саша.— Каб не вы, я не ведаю... лезьце сюды, я памагу.

— Дзякую, не турбуйцеся. Мне трэба яшчэ пахадзіць тут па гэтым народным моры... Мяне прапусцяць і там, тым бокам.

— Калі вы з'явіліся тут? — пыталася Саша.

— Сягоння ноччу і пасяліліся ў вашай дзесяцiложачнай абіцелі. Толькі Кляновічу адведзен той адзіны пакойчык на аднаго, які ў вас ёсць. А мы з Грушкам побач, у агульным.

— Вядома, зойдзеце да нас у райком. Я, як убачу Сцяпана Пятровіча, скажу, што вы тут.

Жарнавік кіўнуў і пачаў аддаляцца ў натоўп.

Нешта праз хвіліны дзве натоўп на пероне зварухнуўся. Гаманок паплыў з аднаго канца ў другі і заціх. Галовы ўсіх павярнуліся направа. Адтуль набліжаўся поезд. Вось ён маўкліва наплывае здалёк з грывастым дымам, які выдаецца шаўковым у бляску сонца. Пачулася пыхценне, а потым нястрымны, усё роўна як баявы,— гудок. Ён здаваўся свірэпым і бадзёрым, бязлітасна гучным.

У першую чаргу ўсе паядаюць вачыма паравоз, прапускаюць яго чырвоныя, размашыстыя колы і шукаюць вокан з жалезнымі кратамі. Гэта быў чорны вагон, які прайшоў за паштовым.

Увесь поезд забразгаў коламі і стаў. Усе чулі апошняе сіпенне недзе там пад коламі і пачыналі ўжо нецярплівіцца, чаму ніхто не выходзіць з поезда. Але вось з суседняга вагона, што за чорным, выйшлі, як і трэба было чакаць, Васіль Чаравака, за ім капітан Рыбін і трэцяя, завязваючы хустку, выйшла яна — Агрыпіна Грынчык. Усе накіраваліся к чорнаму вагону. Чаравака стукнуў у дзверы нешта тры разы, і яны з грукатам адчыніліся.

З вагона першымі выйшлі Разумейка і Паўлёнак. Потым — чатыры байцы з аўтаматамі. Яны сталі ля дзвярэй — два направа і два налева. На гэтую дарожку, над якой навіслі аўтаматы, пачаў вылазіць ён, віноўнік «урачыстасці», гітлераўскі галаварэз Мацей Гусак у суправаджэнні двух байцоў. Ён толькі адзін раз глянуў на людзей і адразу апусціў галаву. Зарослы рыжаю шчацінай, з аблупленымі губамі, ён усім выдаваўся сапраўднай звярынай.

Міліцыя расчышчала яму дарогу з рэвальверамі ў руках. На пероне яшчэ было ціха, а калі выйшлі на плошчу, натоўп зараўеў. Ён пазнаў яго, забойцу. І адзін за другім пачалі вылятаць ускрыкі: «Смерць кату!» Пад ногі Гусака ўпаў камень, кінуты кімсьці. І раз-пораз раздавалася: «Смерць гітлераўскаму галаварэзу!» Афіцэры міліцыі і сам капітан Рыбін пачалі суцішаць людзей, якія ішлі за катам, перліся наперад, хваляваліся вірам. Байцы і міліцыя

вялі Гусака пад дуламі зброі. За імі пасярэдзіне дарожкі, расчышчанай міліцыяй, наперад ішла тая, чыйго брата Андрэя і сястру красуню Алесю знішчыў ён — ішла пакутніца гітлераўскіх канцлагераў Агрыпіна. Яна ішла роўна, з узнятай галавою, гледзячы толькі перад сабой. За ёю крочылі ў шынялях: Чаравака, Рыбін, Разумейка і Паўлёнак. А ўслед ім — Малашкін, Харытон Бабёр і ўвесь райкомаўскі і райвыканкомаўскі штат. Пад ручку ішлі ў гэтым штаце Вера Лукашэвіч і Саша.

На сходках ганачка аднаго доміка пры вуліцы стаяў высокі, у доўгай сівай куртцы свайго хатняга вырабу, у высокай чорнай шапцы былы гітлераўскі бургамістр Азярышча Мікалай Вайткевіч. Ён пільна правёў вачыма Гусака са звязанымі назад рукамі. Ці ж не падпісваў ён загадаў іменна гэтаму зверападобнаму Гусаку? «Так, падпісваў»,— сцвярджала з ціскам у сэрцы апушчаная ўжо галава былога бургамістра, які не хоча расставацца з думкай, каб быць мясцовым палітыкам.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## Раздзел першы

## ВОСТРАЯ ГАРА

Когда есть какое-нибудь соприкосновение между мечтою и жизнью, тогда все обстоит благополучно.

*Д. І. Пісараў*

Мінуў год. За гэты час стала вядома ўсім не толькі ў раёне, але і ва ўсёй вобласці, што бандыт Мацей Гусак засуджаны на дваццаць пяць гадоў турмы. Нездаволенымі асталіся людзі, асабліва серадзіборцы, такім прысудам. Усе з упэўненасцю чакалі, што бандыт будзе расстраляны.

Але паступова людзі прымірыліся з такім прысудам, хоць доўга яшчэ хадзіла чутка, нібы пракурор падаў апеляцыю ў вышэйшы суд — патрабаваў Гусаку кары смерцю.

Жыццё ўвайшло ў сваё рэчышча. Перамаглося нямала перашкод на шляху да лепшага. Вядома, перашкоды не прывіды, посьбіты іх — жывыя людзі.

Выкруціўся Верабей перад праўленнем калгаса і перад сходам ад такой «напасці», што па дарозе з Мінска прапала пяць цялят. У Мінску дзялілі па калгасах агульны гурт, што прывезлі з Расіі. Вераб'ю дасталося дваццаць цялят, і вось па дарозе пяць прапала.

— Дзе яны дзеліся? — штурмавалі Вераб'я на сходзе.

За сталом сядзелі Харытон Бабёр і другі сакратар райкома Іван Чухноўскі. Верабей стаяў перад сходам і смела, не змаргнуўшы, глядзеў на людзей. Па тонкіх губах сюд-туд прапаўзала ледзь прыкметная ўсмешка. Яна нібы гаварыла:

«Дурненькія вы, чаго вы хочаце? Хочаце, каб я расказаў вам, дзе падзеліся цяляты? Я ж не такі дурны, як вы. Нічога вам не зробіцца без гэтых цялятак...»

Аднак тлумачэнне нейкае даць трэба.

І Верабей стаяў перад сходам і гаварыў, як пад сурдзінку:

— Якія ж вы дзіўныя. Вы думаеце, што мне ў дарозе была яечня, такія выгоды, што, як кажуць, вінаград ірваў-



Піліп Пестрак ля сваёй хаты
ў вёсцы Сакаўцы. *1962 г.*



Піліп Пестрак (другі злева) у час падарожжа
па Волзе на дызель-электраходзе «Ленін».
*1964 г.*

ся і сам у рот клаўся? Не, у вагоне была халадэча, хоць ваўкоў ганяй. А сянца таго — кот наплакаў. Трэ было па жменьцы выдзяляць,— можна сказаць, па каліву. Вось і захварэла пяць...

Тацяна Карпец стаяла наперадзе, уся як у агні, не спускала гнеўных вачэй з Вераб'я.

— Ну і што? Што далей?

— Што? Паздыхалі.

— Што ж ты з імі зрабіў, як яны здохлі?

— Шукаў, каму б іх аддаць. Хацеў паздзіраць хоць шкуры, але ўжо не было часу. Поезд быў на адыходзе. Пабраў іх стрэлачнік сабе ў будку.

Сход маўчаў. Людзі пераглядваліся паміж сабою і ўсміхаліся. Локці Чухноўскага абапіраліся на стол, а ў сціснутых далонях адпачывала пагаслая карычневая люлька. Харытон Бабёр праніклівa ўглядаўся ў людзей. Вочы здаглыбока ўваліліся пад чорнымі шырокімі бровамі і, здавалася, зусім застылі. Ён толькі час ад часу паварушваў локцямі і закідваў непаслухмяную пасму валасоў за вуха.

— Дык што — і на гэтым скончылася? — не адставала Тацяна.— А на якой гэта станцыі было?

— Гэта — ля Стаўбцоў. Нават забыўся, як яна завецца, тая станцыя. Маленькая такая... Ці час быў там яе разглядаць, як завецца?

— Адняло табе памяць, Кастуська,— не сціхала Тацяна.

Загаварыў стары Несцер:

— То, можа, варта было б з'ездзіць туды і забраць шкуркі. Гэта ж пяць шкурак — не абы-што. Можна вырабіць... І няхай былі б на што-небудзь.

Верабей зняважліва, коратка адмахнуўся рукою:

— Э... ці варта?

Нехта з натоўпу крыкнуў:

— Трэба з'ездзіць!

Даніла — парторг — кіўнуў галавою, гледзячы на Чухноўскага:

— Я таксама за тое, каб з'ездзіць.

Тады ўстаў сам Чухноўскі.

— Вы, таварышы, патрабуеце ўжо таго, чаго патрабаваць нельга. Ну дзе ён вам знойдзе тыя шкуркі? Даволі ўжо вам мучыць свайго старшыню.

Пасля такога выступлення больш ніхто не падымаў голасу. Сход перайшоў да наступнага пытання. Верабей з удзячнасцю глянуў на Чухноўскага і сеў. Гэта ж золата,

а не сакратар... Малашкін... не, той бы так не выступіў, той скуру здзёр бы. Няўжо я, Верабей, буду ім казаць, што вагон з цялятамі двое сутак стаяў на запасным пуці, і не ля Стоўбцаў, а ў саміх Стоўбцах. Ці ж у мяне, Вераб'я, там няма знаёмых? Ёсць. Яшчэ па партызанству. Вось уначы і пад'ехаў да вагона грузавічок, і пяць цялятак — як не бывала. Нашто гэта казаць? Што ў мяне — галавы няма, ці што?

Верабей астываў ад атак калгаснікаў, і такія вось думкі праплывалі ў яго галаве. Далей на сходзе пайшла гаворка аб плане веснавой сяўбы. Чухноўскі гаварыў, каб серадзіборцы больш за ўсё пасеялі бульбы і грэчкі, таму жытні клін на серадзіборскім полі найменшы. Такога ў Серадзібары яшчэ не бывала.

Пад'ехаў якраз Платон Грушка і прыйшоў на сход. Узрадаваны стары Несцер пасадзіў яго побач з сабою і пачаў свае «настаўленні»:

— Дакажы ты гэтаму начальству, што мы з торбамі па свеце не хочам ісці. Картопля і грэчка — гэта добра. Але каб усё поле займаць імі — не... Мы астанёмся без поля.

Платон Грушка маўчаў. Рукі яго ў кішэнях чорнага асенняга паліто, ад чаго плечы крыху прыўзняты, цёмнасіні капялюш насунуты крыху на вочы — усё гэта прыдавала яму яшчэ студэнцкі выгляд, хоць Грушка быў ужо не толькі доктарам сельскагаспадарчых навук, але і прафесарам.

Чухноўскі, седзячы за сталом, неяк таямніча глянуў на Грушку, які праціснуўся праз натоўп наперад. Але прывітаўся з ім ветліва. Верабей сціпла апусціў вочы ў стол. Перад ім ляжалі паперы, якія ён перагортваў, відаць, без патрэбы. Паперы слізгаліся аб сухія пальцы, не даваліся перагортвацца. Тады Верабей языком аблізваў спярша вялікі пачарнелы палец, потым указальны і зноў перагортваў, усё чагосьці шукаў.

З прачытанага Вераб'ём плана было відаць, што лесу ў серадзіборскім калгасе ў пяць разоў больш, чым ворнай зямлі, а балот сенажатных і непрыгодных — у тры разы. З ворных земляў — падзолістых, пескавых і тарфяных — вылучаўся клін шэрай супясковай, які складаў чацвёртую частку ўсяго ворнага кліна. Аб ім быў клопат у серадзіборцаў — каб не даць яго пад грэчку, каб тут сеяць жыта, ячмень. А на тарфяніках — лён, каноплі і якую-небудзь культурную траву. Найбольшы клін — пескавы, угноіўшы

торфам, аддаць бульбе, а крыху меншы, падзолісты,— грэчцы.

Так меркавалі серадзіборцы. А Чухноўскі, Бабёр і Верабей камандавалі ўсё поле аддаць толькі пад дзве культуры — бульбу і грэчку. Праўда, Бабёр быў у глыбіні душы згодны з серадзіборцамі, але маўчаў, нават Вераб'ю пабаяўся сказаць пра гэта. Для Вераб'я ж у плане ўсё было ясна. Начальства камандуе, начальства і выручыць, калі што. А маё, Вераб'ёва, ніколі не прападзе.

Доўга гутарылі на сходзе пра гэты план — серадзіборцы ніяк не хацелі яго прымаць.

Даніла сядзеў сумны, апусціўшы галаву, і ўсё камячыў шапку ў руках. Часам вочы яго загараліся. Тады ён падымаў іх, глядзеў на людзей і апускаў зноў. Хацелася яму выступіць супроць плана, але ён парторг, ён, наадварот, павінен гэты план бараніць, падтрымліваць Чухноўскага. Затое выступалі Тацяна Карпец і Коля Мілаш — партыйныя актывісты. Яны ведалі, што лепш, і на гэтым стаялі, лічылі, што гэта і ёсць яна — партыйная праўда.

Чухноўскі бачыў, што «чым далей у лес, тым больш дроў», сход раскалыхаўся не на жарты, нягледзячы на тое, што Верабей, не шкадуючы, стукаў лінейкай па стале. Чухноўскі ўстаў і пастукаў аб стол таксама, але не лінейкай, а сваёю люлькай.

Сход пачаў павoлі заціхаць. Чухноўскі першым чынам накінуўся на Тацяну Карпец, якая ў сваім выступленні сказала, што «мусіць, у тых людзей, што складалі план, клёпкі ў галаве не хапіла».

— Ты языкастая, цётка,— пачаў Чухноўскі, махаючы люлькай.

— Мой язык добра гаворыць,— адказала Тацяна.

— Ціха, ціха! — крычаў Чухноўскі.

Тацяна не здавалася:

— Я ўжо сто свіней выгадавала, як на сваіх руках выпасіла. Вось прашу-прашу старшыню, каб зрабіў падлогу. Ён усё абяцанкамі-цацанкамі корміць. А свінні топяцца ў балоце, бо і саломы няма, чым падаслаць...

Сход ускалыхнуўся, як лес.

Чухноўскі пачаў ужо каяцца, нашто зачапіў гэтую бабу.

— Ціха, зробяць табе падлогу, зробяць,— пачаў залагоджваць Чухноўскі.

Тацяна наляцела як віхор:

— Чаму гэта мне? Хіба ж гэта не ўсіх свінні, не кал-

гасныя? Вось у нас ёсць ячэйка, яна пастанавіла спытацца ў старшыні, нашто столькі картопель прададзена ў чайную, ды якраз напрадвесні, калі трэба берагчы і свінням і цялятам? Картоплі ж не хапіла. А вы ведаеце, колькі свіней здохла? А старшыня хоць бы што — хадзіў з канавалам і дарэзваў яшчэ жывых. Я гэта гавару яшчэ і таму, што я сама член ячэйкі. І старшыня — таксама. Мы яго клікалі на ячэйку, а ён — то хворы, то паехаў некуды, то забыўся.

Тацяна падышла да стала і стукнула кулаком:

— Ужо год мінуў, а старшыня так на ячэйку і не з'явіўся! Вось няхай скажа сам сакратар!

Яна паказала на Данілу.

— Будзе, будзе, даволі. Пра гэта другім разам! — крычаў Чухноўскі.

Тацяна падліла масла ў агонь — сход зашумеў. Недзе аж з парога раздаўся голас:

— Трэба даць слова Платону Грушку!

Чухноўскі спалохаўся не на жарты, бо не ведаў, што скажа гэты вучоны з акуратна прычэсанымі цёмна-русымі валасамі.

— Без вашага загаду абыдземся! Мы ведаем, што рабіць! — сказаў ён.

Сход заціх, насцярожаны.

Тацяна, паказваючы на Духмуровіча-Куцілоўскага, кінула:

— Вось сядзіць асот... Чаго ён маўчыць? Ён жа прадаваў картоплю ў чайную.

Духмуровіч-Куцілоўскі зварухнуўся, крахнуў... Але нічога не сказаў, толькі глянуў на Чухноўскага.

Па людзях ціхком, а дзе і мацней, прарваўся смех. Верабей нават прыўстаў, гледзячы недзе к парогу.

— А чаго вам смешна?

Нехта з моладзі крыкнуў:

— То быў азот, а цяпер ужо асот...

Сход успыхнуў смехам. Коратка засмяяўся нават Платон Грушка, прыгладжваючы валасы; не стрываў і стары Несцер.

— Асот — гэта нават лепш,— сказаў ён.

Слова было дадзена Грушку.

Ён устаў павольна, цяжка. Глянуў на людзей і некаторы час маўчаў. Як толькі дзе-небудзь пачыналіся шэпты, Верабей тут жа пускаў у ход лінейку. Усе чакалі.

— Што ж...— пачаў Грушка,— у вас тут ідуць спрэчкі

па розных справах. Дазвольце мне ва ўсе справы не ўмешвацца. Вы ў іх разбераецеся добра самі. Мяне цікавіць зямля, яе ўклад, і галоўнае — тое, як найлепш яе выкарыстаць для чалавека. Вось з раёна вам дадзены план — засеяць усю зямлю бульбаю і грэчкаю, а вы з ім не згаджаецеся. Правільна робіце, што не згаджаецеся...

Верабей, Чухноўскі апусцілі вочы ў стол. Тое самае зрабіў і Бабёр. Толькі ў Бабра на твар лёг цень нецярпення. Ён не мог яго схаваць і пачаў круціць аловак млынком.

Людзі слухалі ўважліва Грушку і весялелі, бо яго доказы былі іхнімі доказамі.

— Але, нарэшце,— прадаўжаў Грушка,— і такі стан рэчаў, які бароніце вы, канчаткова не вырашае справы. Патрэбны грунтоўныя змены, каб нашу зямлю прымусіць служыць нам. Патрэбна меліярацыя, асушка, трэба акультурыць нашы сенажатныя балоты, замяніць безбялковыя асокі культурнымі раслінамі, трэба пазбыцца безмалочных кароў...

Тройка за сталом павесялела. У апошніх словах Грушкі для іх адкрылася фортка, каб выступіць канчаткова з патрабаваннем зацвердзіць план.

Пасля выступлення Грушкі папрасіў слова стары Несцер.

— Вось тут наш Платон, дзякуй яму, успомніў пра нашыя каровы. Няхай раённае начальства падумае пра гэта. Няхай яно ведае, што да рэвалюцыі, калі мы жылі яшчэ паасобку, кожны з нас меў памногу кароў,— у многіх бывала па пятнаццаць і па шаснаццаць. Але што з гэтага? Малака ж мы не мелі. Усім вядома, што з пятнаццаці кароў мы надойвалі адну даёначку... Ну, колькі там? — Несцер пакруціўся сюды-туды, падбіраючы што-небудзь для параўнання, і ўрэшце сказаў: — Ну, колькі там? Як па-цяперашняму лічаць, не больш трох літраў... Гэта падумаць — ад пятнаццаці кароў тры літры! Адну шкляначку малака давала адна карова! — Стары развёў рукамі, нібы шукаючы ратунку: — А дзе ж яна яго возьме, калі ў гэтай асацэ сокаў няма? З пустога ж не нальеш... Таму вось кароўкі нашы дробныя. Сена накошвалі многа, а толку няма. Калі ў нас цяпер ёсць савецкая ўласць, трэба, каб быў толк.

Кіраўнікі не чакалі такога сур'ёзнага павароту сходу і паспяшаліся яго закончыць. Не далі нават людзям адумацца.

Верабей устаў і пачаў гаварыць наступальным тонам:

— Будзем ставіць план на галасаванне. Калі хто будзе галасаваць супраць, гэта яго справа, але няхай ведае, што ён гэтым ставіць кол у калясо.

Гэта падзейнічала.

— Галасы няхай лічыць Даніла! — сказаў з натоўпу Коля Мілаш.

Яго падтрымалі.

Галасавалі аж тры разы. І толькі за трэцім разам кіраўніцтва дабілася большасці.

Калі Несцер, Грушка і Даніла выйшлі з праўлення, стары Несцер спыніўся.

— Стойце, пачакайце,— прамовіў ён.— Цьфу! Вось завярот галавы. Чаму ж мы пра сена яшчэ не сказалі? Гэта ж столькі стагоў сена прапала, і ніхто нічога і ніхто нікога.

— Будзем па ячэйцы варушыць гэтую справу далей,— сказаў Даніла.

— Дасць вам ячэйку гэты Чухно. Гэта вам не Малашкін,— адазваўся Несцер.

* * *

З блізкіх і далёкіх лагчын плыло дыханне зямлі. Яно плыло сырымі пахамі. У душу залятала лясная прэль, набрынялая тымі адмысловымі сокамі, якія ператвараюць у пажыўную страву раслінам не толькі пахучую ігліцу сосен, елак, не толькі лісце вольх, асін, клёнаў, вязаў і дубоў, не толькі навалу апалага сучча, але і самыя дрэвы, стваліны, што пападалі, аджыўшы свой век. Багатая, цудадзейная прэль! Яе востры пах то на нейкі час адплывае, то зноў дыхне хваляю, перабіваючы іншыя пахі. Гэта — пахі вясновай свежасці, пахі зялёнага моху, змакрэлай кары — сасновай, яловай, дубовай, бярозавай, з вострa-вільготнымі пахамі асін і вольхаў. З балотных прастораў шлюць свае мокрыя ўздыхі лазовыя хмызы, асокі і чароты. А з палёў плывуць тарфяныя перагары...

Сябры стаялі на Вострай гары і, як зачараваныя, доўга маўчалі. Кляновіч, Грушка, Малашкін, Жарнавік, аграном Пяхота... Хацелі ўзяць з сабою на гару і старога Несцера. Але не ўзялі. Адклалі на другі раз, калі будзе гатовы гэты летуценны план — план галоўнага агранома вобласці Кляновіча. Трэба старому земляробу даць гатовае, каб паслухаць яго заўвагі. Так будзе лягчэй і карысней. Павінен быў бы яшчэ быць другі сакратар райкома Чухноўскі, ён жа

вядзе сельскую гаспадарку. Няхай бы паслухаў. Але ён сказаў, што ў такія планы не верыць, што гэта не план, а бясплянавасць і ён да гэтай справы не хоча прыкладаць рук. І вось сябры стаяць на Вострай гары без Чухноўскага. Замест яго стаіць аграном Іван Іванавіч Пяхота, які нядаўна па назначэнню аблза прыбыў у Серадзібор. Гэта сярэдняга росту, год за сорак, асадзісты чалавек з русымі валасамі. З-пад такіх жа броваў глядзелі дапытлівыя шэрыя вочы. Адзнакай агранома Пяхоты былі яго вусы. Яны былі таксама русыя, але з залацістым адценнем, вусы багатыя, нават раскошныя. Верхняй губы, можна сказаць, не відаць пад вусамі, і тоненькі вішнёвы цыбучок маленькай кругленькай, як жалудовы чарапок, люлечкі тапіўся ў вусы, як у пух. Ува ўсіх на нагах былі боты. У Жарнавіка — хромавыя, а так, ва ўсіх — здаровыя, гаспадарскія, юхтавыя боты.

Вострая гара прыкавала ногі сяброў да сваёй вяршыні як магнітам, а вочы не адрываліся ад лясных краявідаў. У лёгкай імгле, што застыла ў далях, купаліся промні сонца, і пад імі ўсплывалі, як міскі, балотныя азярцы. Далёка на ўсход блакітнела нешта большае. Гэта — возера Баравое. Жарнавік, заглядзеўшыся туды праз бінокль, прамовіў:

— Шышкінскія лясныя далі.

Бінокль пайшоў па руках, і ўсе з усмешкай адзначалі падабенства серадзіборскіх лясных даляў да тых на карціне — Шышкінскіх. Даволі глянуць на захад, каб убачыць серадзіборскае возера. А там, за Серадзіборам, паблісваючы змяінкай, паміж нахіленых лазнякоў адплывае ў лясную далеч стары канал. Уздоўж яго працягнуліся серадзіборскія палі. Туды і накіравалі свае позіркі сябры.

Доўга на гэтыя палі глядзеў Кляновіч. Ужо каторы раз ён глядзіць на іх. Глядзеў блізка, а цяпер праз бінокль з Вострае гары. Падзолы, пяскі, тарфянікі. Адно чаргуецца з другім. А далей на захад па канале — забалочаныя асокі з чаротамі і непралазнымі хмызамі. Усё гэта патрабуе работы — меліярацыі. У гэтым уся сутнасць праблемы, бо ў гэтым будучыня Серадзібора. Чухноўскі, напрыклад, не хоча пра гэта і слухаць. Асушаць можна, але толькі ў менш забалочаных месцах, а ў такія непралазныя нетры, дзе жыве адна заедзь і гадаўё,— хто ж туды палезе? Хто туды грошай дасць? Хлеба хопіць і без гэтага. Ёсць Украіна, Кубань, Дон — няхай яны даюць хлеб, а тут... бульбу і грэчку. А для іх хопіць такой зямлі, якая ёсць.

— Чулі мы гэтыя казкі, таварыш Чухноўскі,— сказаў тады Кляновіч.— Гэта гутарка людзей, якія не хочуць звязваць сваіх рук з цяжкасцямі, або тых, хто не разумее і не хоча разумець сацыялізма. Да якіх вы належыце, я не ведаю...

— Я належу да тых, да якіх і вы,— да партыі,— адказаў дэманстратыўна Чухноўскі.

— Гм... так... да партыі — гэта правільна...— не хочучы болей гаварыць з Чухноўскім, сказаў Кляновіч.

Ідэя стварэння ўзорнай гаспадаркі ў Серадзібары стала для Кляновіча такою ідэяй, якая вырасла з роздумаў сярод дзіўнай, першабытнай прыроды тутэйшага краю, з гутарак са старым Несцерам, з навуковых спрэчак з маладым вучоным Платонам Грушкам. Леташняе асенняе падарожжа па вобласці разам з Грушкам, які толькі што абараніў сваю дысертацыю, і па некаторых іншых мясцінах Беларусі наогул было прысвечана іменна пошукам месца для ўзорнай гаспадаркі. Пасля такіх пошукаў спыніліся ўсё ж такі на Серадзібары. Бо як жа інакш і думаць? Калі ехалі, напрыклад, праз мала аблесеную Віцебшчыну, вачам вучоных — старэйшага і малодшага — адкрываліся прасторы класічна марэннага краю, дзе каменнем усыпаныя палі нагадвалі быццам нядаўняе старажытнае пабоішча. Ніхто не кранае каменняў на гэтай зямлі, і яны дрэмлюць пад сонцам у сваёй першабытнасці. Яны расколваюцца, драбнеюць, рассыпаюцца, выветрываюцца і пад навальніцамі і грымоты з шумнымі водамі рэжуць глыбокімі ярамі пласты зямлі, змываючы з яе чалавечыя жаданні. Вучоныя назвалі гэта эрозіяй. Кляновіч з Грушкам з жудасцю глядзелі на страшэнную работу руйнуючай сілы вады. Што ж будзе далей, калі не прыкласці рук? Будзе сізіфава праца, значыць, будзе таптанне на месцы або і горш.

Калі ж прадоўжылі падарожжа праз Маладзечаншчыну аж да Гродзеншчыны — усюды бачылі марэнны край — зямлю, ад вякоў усыпаную каменнем. Глядзелі і задавалі сабе пытанне: «Як тут маглі людзі гаспадарыць, калі не было дзе плуга ўваткнуць?» І вось у адным месцы заўважылі, што няма не толькі вялікіх каменняў, але нават і маленькіх. У чым жа справа? Гэта ж таксама марэнная зямля. Нават спыніліся, выйшлі з машыны, прайшліся па зямлі, нагіналіся, бралі яе ў рукі, разглядалі. Ну што ж, зямля як зямля — беларуская, шэрая, а значыць — супесчаная. Дзе ж каменне? Вось за рэчкаю віднеецца вёсачка, праз якую толькі што праязджалі. Там зямля ўсеяна ка-

меннем так, што і самой зямлі не відаць. А колькі вострых, як абломкі скал, старчакоў тырчыць з зямлі? А тут — чысціня. Падумалі і пад'ехалі да будынкаў на ўзгорку, каб распытацца, пагаварыць аб гэтай зямлі. Пад высокімі вязамі і ліпамі туліўся дом былога памешчыка Біспінга, цяпер кантора, дзе месцілася праўленне калгаса; трошкі ў аддаленні — жыллё для былых парабкаў, цяпер калгаснікаў. Вышэй пайшлі свірны, канюшні, кароўнікі — і ўсё пабудавана з каменя. У праўленні калгаса расказалі, што «пан Біспінг павызбіраў каменне са свайго поля да адненькага даўно і набудаваў з яго хлявоў, гумнаў, многа прадаў на пабудову дарог». Пасля гэтага Кляновіч і Грушка прайшліся па полі нават далёка і нідзе не ўбачылі нават маленькага каменьчыка. Здзіўляліся і цешыліся. Калі глянулі туды, за рэчку на вёсачку, то не маглі не падумаць: чаму яна, гэтая вёсачка,— ды не толькі яна,— не магла ўзяць прыкладу з памешчыка Біспінга, не ачысціла сваіх палосак ад камення? Прычына, відаць, была не адна, тут і бездапаможнасць, і забабоннасць — што зроблена богам, перарабляць нельга.

Ці ж можна на такіх землях засноўваць узорную гаспадарку з найменшаю затратай сродкаў і сіл, каб яна была універсальнай: палявой і жывёлагадоўчай; агароднай і садовай; пчалярскай і рыбнай; лясной і ягадна-грыбною; гаспадаркай птушкаводства; гаспадаркай усебаковага сельскагаспадарчага промыслу — вырабу цэглы, тары і іншага. Там такой гаспадаркі не пабудуеш. Там патрэбна вывучэнне рэльефа, каб спыніць руйнуючыя водныя патокі эрозіі і палявыя буры сухавеяў. Там патрэбны лясы, каб прызямліць пяскі і потым ператварыць іх у глеба-структуру...

Так, Грушка ехаў з Кляновічам па марэнна-пескавых прасторах і на свае вочы бачыў сваю дысертацыю, прысвечаную тэме пераўтварэння пескавых глебаў. Такою і толькі такою павінна была быць дысертацыя, якая закранае шматмільённагадавыя вынікі руху зямных пластоў і водаў і ролю расліннага царства ў ім. На Палессі таксама многа пяскоў. Яны ў адных месцах рассцілаюцца далёкасяжнымі хвалістымі раўнінамі, а ў другіх — узгоркамі, курганчыкамі. І даволі падзьмуць ветру, як адразу ж пачынаецца віравая круцёлка навокал курганчыкаў. Яна адшліфоўвае іх па-майстэрску. Гэта прамыўныя пяскі — вынік водных віроў і патокаў, як паверхневых, так і грунтовых, на працягу тысячы стагоддзяў.

Кляновіч, чытаючы дысертацыю Грушкі, нават адчуў,

што ён і для сябе ў ёй здабыў нешта новае — можа адыход ад таўталогіі, ад навуковай сухасці і яшчэ штосьці, што можна было б назваць непасрэднай непасрэднасцю ў поглядзе на з'явы зямлі, на ўвязванне іх з бытам народу. Апошняе, відаць, самае важнае. Слухаючы дысертацыю Грушкі, гэта адчуў і рэктар сельскагаспадарчай акадэміі Фёдар Капля і таму не мог не выступіць і не сказаць аб «комплекснай канструктыўнасці дысертацыі», якая побач з асвятленнем праблем адных ставіць на парадак дня праблемы новыя для навукі і практыкі.

Так вось дысертацыя прывяла Кляновіча і Грушку на Вострую гару.

## ВАВЁРАЧКА

На стале гарыць лямпа пад жоўтым палатняным абажурам. Другая, што вісіць пад столлю ў матавым шары, не гарыць. Яе патушыў сам Кляновіч. Не любіць ён, калі перашкаджае нават святло. Яно лезе ў вочы неяк напорыста. А вось жоўты абажур, адзін, без пабочных перашкод, кладзе навокал мяккія ўтульныя цені і, здаецца, хавае самога Кляновіча ад чыйгосьці нядобрага вока.

Ціха ў кабінеце. Задумна і неяк мудра глядзяць на Кляновіча стэлажы з рознымі пераплётамі кніг. Прыціхлі ў адной клетцы кенар з канарэйкай, а ў другой — шчыглы. А там, высока над стэлажамі, пад столлю, на сапраўднай галіне сасны, прыціхла вавёрачка. Але яна не спіць. Яна толькі часам пагладзіць лапкамі сваю мордачку і зноў прысядзе патаемна, прытульна, быццам слухае шум неўгамоннага бору.

Не спіць і сам Кляновіч. Ён разгарнуў папку, і вочы яго застылі на зорным акне, дзе ўпоцемках плыве вялікае жыццё і зямлі і ўсяго, што над зямлёю. Рука не адважваецца дакранацца да паперы. Там накоплена многа — усё, аб чым ведае толькі ён сам, Кляновіч, і больш ніхто на свеце. Таўкучыся ў канцылярыі свайго аблза, ён кожны дзень гадаваў у душы нешта такое, што ў плыні афіцыяльнай работы лічыў самым галоўным.

Пасля вячэры сказаў сваёй Пелагеі, каб яна яго нічым не трывожыла. Калі хто будзе званіць, няхай скажа, што няма дома. Ён увайшоў у кабінет і замкнуўся на ключ. Зараз жа схапіў папку са стэлажа і сеў за стол. Адкрыў

яе і вось застыў. Рукі неяк раптам нібы самлелі, і ён аблакаціўся на свае дарагія паперы, абняў твар далонямі і пачаў сачыць, як за акном высока па Млечным Шляху плылі зоры. Яны іменна плылі ў вачах Кляновіча і вялі душу недзе ў нязведаныя далі. Здавалася, што недзе там далёка, у светлых далях, жыве зразуменне і вырашэнне з гадамі набалелых спраў, якія датычаць толькі гэтай красуні-зямлі, якая круціцца навокал сонца, падстаўляючы яму то адзін свой бок, то другі. А на гэтай зямельцы ёсць адна мясціна, якую на карце можна закрыць,— дзе далонню, а дзе нават і пальцам. І завецца яна з давён-даўна — Белая Русь. Гэтая мясцінка найбліжэйшая сэрцу, як тая матчыная зрэбная або кужэльная сарочка. І таму вось аб ёй з гадамі расце клопат. Хочацца яе росквіту, красавання. Яна ж столькі тоіць у сабе хараства. Хлеба, хлеба і хлеба! Таго вякамі ўшанаванага хлеба, якому загарэлыя, стомленыя ад працы і тугі земляробы гатовы былі заўсёды маліцца. Маткі цалавалі яго на вялікдзень і з урачыстай святой любоўю дзялілі галодным дзецям. Яны зажыналі яго з малітвай і слязьмі...

Зоры ўсё плылі і плылі за акном. Ад роздуму абудзіла Кляновіча тая ж гуллівая вавёрачка, якая заўсёды зайздросна сочыць за ім. Калі сумна Кляновічу, яна прыцішае, хмурнее, а калі весела — вавёрачка са стэлажа скача на стол, потым яму на плячо і зноў на стол.

Што ж... Трэба пачынаць.

Пра каго ж гаварыць пасля сённяшняй гутаркі з Зашчамілам па тэлефоне? Яна не была сумбурная з боку Кляновіча — яна была прадуманая, пераканаўчая. Зашчаміла таксама гаварыў прадумана, хоць драпежна, але прадумана...

— Я лічу,— гаварыў Кляновіч,— трэба паспяшацца ўводзіць севазвароты. Каму не зразумела, што севазвароты — гэта аснова асноў земляробства. Не трэба думаць і трактаваць, што гэта — агульшчына. Не... Для кожнай глебавай зоны свой севазварот. Трэба ўсё распрацоўваць на месцы канкрэтна.

Зашчаміла слухаў у трубку, і чуваць было па дыханню, што ўсё нешта хацеў сказаць, перапыніць Кляновіча, але Кляновіч не спыняўся ні на хвілінку, і гэта дало яму магчымасць сказаць, што хацеў.

— Няхай мы ахопім пакуль што дзве вобласці на год або хоць адну. І гэта добра. Трэба браць на першы агонь пескавыя, дзярнова-балотныя вобласці, каб адпаведным

пладазменам захаваць структуру глебы, каб забяспечыць ураджайнасць.

Што ж адказваў Зашчаміла? Кляновіч слухаў праз трубку гугнявы голас, які часам прарываўся ў гарлавы крык. І ўсяму спадарожнічаў гэты вульгарысты рэфрэн — «слыш... слыш...».

— Ты мне свае анцімоніі не заварочвай,— гаварыў Зашчаміла,— філосаф знайшоўся... Севазвароты... Ты слухай, што табе гавораць...

Кляновіч збіраўся ў працэсе гутаркі для прыкладу сказаць нават пра мясціны ў сваёй вобласці, дзе які трэба ўводзіць пладазмен-севазварот: дзе пяцізменны, дзе сямі, а дзе нават і дванаццаці. Для дванаццаці культур, каб яны змянялі адна другую кожны год, патрэбна выбранае, найлепшае поле. Гэта ўжо справа агранома, яго мастацтва.

Пра ўсё гэта хацеў сказаць Кляновіч. Але пасля такога адказу, калі сур'ёзную турботу аб зямлі Зашчаміла палічыў за анцімоніі, Кляновіч хацеў палажыць трубку. Зашчаміла, відаць, гэта зразумеў, бо адразу крыкнуў:

— Эй, слыш... На тваю вобласць мы можам спусціць толькі бульбу і грэчку... Слыш... Толькі етыя культуры... Можаш нам яшчэ дзякаваць за ета. Ета ж ты правядзеш гуляючы... А ты яшчэ ўпіраешся... Слыш... без ніякіх там выдумак. На іншыя вобласці лягла большая нагрузка... Зразумеў?

Кляновіч насупіўся і падумаў: «Яму абы збыць з рук. За зямлю, за яе ўраджайнасць ён не турбуецца». Урэшце сказаў:

— Я вам за гэта не дзякую. Любы аграном, які лічыць сябе аграномам, вам дзякаваць за гэта не будзе. Ну што ж... будзем рабіць, як кажаш ты. Трэба ж улады слухацца. Але ўсё роўна не можам не працаваць над увядзеннем севазваротаў. Я буду пісаць дакладную ў Савет Міністраў.

— Мы ведаем, што ты добры пісака. Ужо дапісаўся раз, што паляцеў уверх тармашкамі. Пішы... пішы, дапішашся.

І раптам зноў:

— Эй, слыш... тэлефануй аб выкананні!

Кляновіч нічога не адказаў і, гнеўны, палажыў трубку. Адкінуўся ў крэсле. Думкі гаварылі сваё: «Ну як жа я буду глядзець на поле, калі там, дзе можна сеяць пшаніцу, я вымушаны сеяць грэчку? Для мяне ясна, што паўднёвую палавіну вобласці можна адвесці не толькі пад пшаніцу, буракі, але нават у некаторых месцах і пад такую мала-

развітую культуру ў Беларусі, як кукуруза. У гэтай палавіне можна пабудаваць цікавы, багаты севазварот, дзе можа заняць сваё месца нават і грэчка.

Для мяне гэта ясна, а для Зашчаміды — не...»

Кляновіч сядзіць цяпер дома, у кабінеце, і, гледзячы праз акно на зоры, прыпамінае, як пасля яго гутаркі з Зашчамілам у кабінет увайшоў намеснік і палажыў на стол паперку з міністэрства, у якой гаварылася аб плошчах бульбы і грэчкі і маленькіх клінах збожжавых.

Кляновіч прагледзеў, зморшчыўся, як ад болю. Хоць да канца рабочага дня было яшчэ дзве гадзіны, ён схапіў капялюш з вешалкі, ускінуў лёгкае шэрае паліто на плечы і выйшаў. Ідучы на калідоры да выхаду, усё нацягваў і нацягваў капялюш на лоб. Шчокі яго гарэлі. Выйшаўшы, сеў у машыну, сказаў шафёру везці на кватэру.

У кватэру ён не ўвайшоў, а ўляцеў. І адразу ў кабінет. Жонка нават падазрона правяла яго вачыма. Ну што ж, можа што трэба па рабоце.

З кабінета Кляновіч выскачыў з дубальтоўкай і патранташам. Жонка спыталася:

— Куды?

— На паляванне.

— А есці? А абед?

— Дай у сумку кавалачак хлеба і вяндліны.

Так Кляновіч памчаўся на поўдзень — туды, дзе шумяць палескія чаротавыя гушчы. Шафёр гнаў машыну і часам позіркам пытаўся: далей? Кляновіч ківаў галавою — далей... На ўзлессі Кляновіч выйшаў з машыны, адаслаў шафёра дахаты, сказаўшы, каб праз гадзіны дзве прыехаў на гэтае месца, дзе дарога, упіраючыся ў лес, дакраналася да каморніцкага слупа і ныряла ў лазовыя хмызы і цёмны ельнік.

...Другая палавіна красавіка. Самы шум прадвесня. Усе жывёлы і птушкі пачынаюць свой танец любві. І таму час не для палявання. Па праўдзе кажучы, Кляновіч прыехаў у лес не на паляванне. Ён прыехаў «пагаварыць» з лесам, нібы параіцца з ім, перадумаць усё і знайсці пункты апоры, з чаго пачаць далей, каб Зашчаміла і яму падобныя не мелі послуху ў нашым жыцці, не загароджвалі дарогі да зямлі. Кляновіч доўга хадзіў па лясных дарожках. Дубальтоўка патрэбна была яму толькі для прыліку. Нельга ж паляўнічаму хадзіць у лесе без яе. Калі ж выйшаў на прасторы балот, пачуў, як да лясных шчэбетаў далучаліся адзінокія пошумы чаротаў і шорахі траў. Гэ-

та — вострыя асокі, разложыстыя, жорсткія: у руку вазьмі, дык паранжаш. З іх вылятаюць шэрыя дзеркачы, маляўнічыя даўганосыя ўдоды. Тут хаваюцца дзікія козы і закінутыя незнаёмыя сцяжыны дзікіх кабаноў. Чароты, асокі жывуць самі сабою, і чалавек губіцца сярод іх, як бездапаможны... Недзе хлюпала паводкавая вада. Добра так стаяць і слухаць гукі прыроды, у якіх затоены сакрэт нейкіх спрадвечных законаў непераадольнага жыцця. Ці яно плыве так ідылічна, як плыве гэтая прадвесняя цішыня, у якую прагна ўслухоўваецца галоўны аграном вобласці, нібы забыўшыся на ўсё? Ён іменна думае пра гэта. Калі падняў галаву, каб паглядзець на чыстыя прадвячоркавыя ўжо нябёсы, на вочы наплыў недзе з патаемных лясных вяршынь, распластаўшы крылы, ястраб. Ён пачаў кружыць павольна над чаротамі, нібы ўпіваючыся раскошай паднябеснага прастору, то аддаляючыся ад вачэй, то, зрабіўшы круг, набліжаючыся зноў. Што ён высочвае? Вядома, здабычу. Можа, высачыў гняздо бяскрыўднай кнігаўкі на купіне сярод вільготнай асакі, гняздо птушкі, якая сваім крыкам скардзіцца не толькі, відаць, на сваю, але яшчэ і на чыюсьці нядолю?

Кляновіч не спускаў вачэй з крылатага драпежніка, які кружыў па той жа самай прасторы і не хацеў адлятаць далей. Ён, відаць, зараз кінецца на ахвяру...

Адно імгненне — і дубальтоўка ўзяла на прыцэл.

Стрэл у першабытнай цішыні — гэта аглушальны стрэл. Калі птушыны шчэбет дагэтуль шумеў у гушчарах, то пасля стрэлу анямела ўсё. А вочы Кляновіча павольна сачылі, як, калыхаючыся ў паветры, пераварочваючыся з боку на бок, апускаўся ў чароты крылаты драпежнік...

...Кляновіч, седзячы за сталом, стуляў вочы і бачыў яшчэ раз, як павольна апускаўся ястраб у прыцішэлыя вастралістыя чароты. Усміхнуўся. Адкінуўся на спінку крэсла, адпачыў. Тады рукі пацягнуліся да папкі, і галава нахілілася над ёю. У папцы ляжала запаветная дысертацыя.

Кляновіч адкрыў першы лісцік і прачытаў ужо даўно нячытаную назву сваёй працы: «Магчымасці ўраджайнасці глебаў Беларусі» і скрывіўся. Адразу адчуў, што назва не тая, якая трэба. Час робіць сваё, час шліфуе ўсё, шліфуе і душу чалавека. Нараслі новыя адценні, выплылі новыя нявысветленыя пытанні... Справа патрабавала кан-

крэтнасці, толькі канкрэтнасці. Цудоўная рэч канкрэтнасць! Гэта — карэнні ісціны. Рука схапіла пяро, перакрэсліла гэтую назву і адразу напісала другую: «Прынцыпы севазваротаў». Такая, больш канкрэтная, назва пацягнула за сабою перагляд усёй дысертацыі.

Прытаіліся змрокі па кутках кабінета. Драмалі птушкі ў клетках. Адна вавёрачка паглядала з вышыні адным вокам, гатовая ўздрамнуць. Кляновіч адчуваў гэтае вочка сваёй пяшчотніцы, ён нічога не меў бы супраць, каб яна села тут жа, на яго стол, зараз. І ён тады выняў бы з шуфляды некалькі лясных арэшкаў...

Усё драмала ў кабінеце — і змрокі па кутках, і птушачкі ў клетках, задрамала нарэшце і вавёрачка. Не дрэмле толькі гаспадар кабінета, ён перагортвае сваю гутарку з зямлёю, з людзьмі, ставіць алоўкам значкі на ўзбоччы, надпісвае думкі. Ён да іх яшчэ вернецца.

Перагортванне дысертацыі скончана. Кляновіч з асалодай прытуліўся да спінкі крэсла, уздыхнуў з палёгкай, нават выцер хустачкаю лоб.

І тады маланкаю бліснула думка: не чакаць ні хвіліны, пакуль не аслаб дух, пах дысертацыі — накідаць тэзісы для дакладной у Савет Міністраў.

Рука мігатліва пісала, адкладала ўбок напісанае. Лісты кладліся адзін на адзін бесперастанку.

Але чым далей, усё павольней кладуцца думкі на паперу. І калі дайшло да таго, што трэба сказаць, чаму так цяжка ідзе ўпарадкаванне зямлі, хто і што перашкаджае, галава ўпала на паперу...

За акном сваім шляхам плылі зоры. Здавалася, яны плылі над схіленай галавою гэтага вернага землялюба.

...Нешта заказытала шчаку — так мякка, асцярожна. Кляновіч павярнуў галаву, расплюшчыў вочы і раптам выпрастаўся. Здзівіўся самому сабе і ўсміхнуўся. Перад ім сядзела яго апякунка — вавёрачка і, здавалася, таксама ўсміхалася. На небе бляклі зоры. За акном днела. Кляновіч уставіўся вачыма на сваю пяшчотніцу і толькі сказаў: «Ах ты, забаўніца...», адчыніў шуфляду ў стале і, узяўшы адтуль жменю арэхаў, набраных увосень у лясной густой ляшчыне, сыпнуў іх на стол сваёй красуні.

# МАЛАДЫ ВУЧОНЫ

Што найбольш перабівала ўсе пахі ў наваколлі сельскагаспадарчай акадэміі — гэта пах бэзу. Густымі застарэлымі кустамі бэз тут усюды звісаў над алеямі і аддаляўся ў глыбіню саду. У ім можна было згубіцца, ап'янець.

Вядома, студэнцкая моладзь заўважала гэта хараство, цешылася ім удзень, асабліва ўвечары, начамі. Надыходзілі майскія ночы са свежым, здаецца, пахучым месяцам на чыстым блакітным небе. Усім было бачна, што месяцчараўнік ніяк не хоча адплываць ад лугавой даліны. Ён рассейваў сваё таямнічае святло па ўсіх алеях, яно іскрылася прывабна і там, дзе перакінуўся мосцік над рачулкай, што схавалася ў кустах між дрэў, у непралазнай зелені траў, кветак, густой крапівы. Рачулка пад мосцікам асабліва шуміць, бо яе стрымлівае застава, якая па нейкай сваёй мерцы прапускае ваду ў азярцо, выкапанае пасля вайны па суботніках самімі студэнтамі і выкладчыкамі. З яго пацякла па шырокай лугавой даліне ў палявую далячынь ужо большая рэчка, якую нельга было не назваць Студэнцкай. Па левым баку схілу цягнуўся паркавы лес з таполяў, елак, клёнаў, а найбольш — з бярозы. Направа па такім жа схіле аддаляўся ў блакітнае поле батанічны сад. Па ўскраінах пралягалі алейкі з лавачкамі. Студэнцкая рэчка...

Калі ўдзень у кустаўі шумела птаства, то вечарамі і ўначы тут шумела моладзь. Але рэдка можна было тут бачыць Платона Грушку. Ён нядаўна стаў не толькі доктарам навук, але і прафесарам. Выкладаў у акадэміі так, як і раіў рэктар Капля, глебазнаўства і фізіялогію раслін. Апошняя вельмі адказная дысцыпліна — яна не можа выкладацца без нагляднага вопыту, можна сказаць, ні адзін дзень. І таму Грушка мае нагрузкі аж надта дастаткова. Праўда, ён жыве са сваім другам Аляксандрам Пакацілам, якога Грушка і надалей часам заве «сынам Македоніі». Пакаціла працуе ў лабараторыі, падрыхтоўвае свайму аднакашніку Платону ўсе прылады — усялякія шклянкі, колбы, шкляныя дудачкі для чарговага доследу. Так, ці не так, няма часу пайсці ўвечар пад залаты месяц на рэчку, дзе яшчэ ў росным лісці не перасталі заліваццa салаўі.

Пакаціла... той свядома не хоча ісці. Ён чытае. Ён шукае вялікіх ідэй у першую чаргу сярод расліннага царства, вывучае гатункі пшаніцы. Пакаціла пачынае быць

падобны да бабыля. Валасы падстрыгае, відаць, у год раз, калі яны пачынаюць сапраўды надакучаць ужо яму самому. На заўвагі Грушкі махае рукою і кажа:

— Ідзі скажы пра гэта Мендзялееву і ўсім разначынцам разам з Чарнышэўскім.

Грушка смяецца і чамусьці яшчэ больш набірае сімпатыі да свайго бескарыслівага сябра, які проста па-пурытанску ігнаруе гэтыя, як ён кажа, жыццёвыя дробязі. Грушкаву працу пра пяскі Пакаціла лічыў непатрэбнай, бо яе, маўляў, не зразумее і не захоча зразумець ні свет вучоных, ні свет невучоных.

— Лепш бы ты ўзяўся за пшаніцу,— гаварыў ён.

— А на чым ты будзеш яе сеяць? Спярша трэба падрыхтаваць зямлю.

— Для вопыту, даследавання зямлі хопіць, якая ёсць за батанічным садам... Бяры колькі хочаш. Я ж там сабе аблюбаваў такі прыгожы кавалачак, хоць ты яго цалуй.

— Для мяне гэтага мала,— адгаворваўся Грушка і далей заглыбляўся ў кніжку.

— Ну вядома, ты Платон,— ужо мармытаў Пакаціла, пераварочваючыся на ложку з спіны на жывот, і ўсё чытаў пра батанічнае царства, час ад часу непрыкметна для сябе згінаючы ногі, як малы, лежачы на зялёнай мураве.

Так і праседжвалі месячныя майскія ночы Грушка і Пакаціла. Калі вочы зліпаліся ад стомы, хлопцы выходзілі на ганачак праветрыцца. Пакаціла тады бязлітасна курыў, каб хапіла аж да ранку. Адзіным днём, калі Грушка, а часам і Пакаціла выходзілі ўвечары на Студэнцкую рэчку,— была субота. Яны хадзілі ўдвух, абміналі парачкі, ды не толькі маладых, але і прафесараў са сваімі жонкамі. Часам спыняліся на мосце, далучаліся да каго-небудзь — ці то прафесараў, ці студэнтаў,— і гутарка заўсёды не выходзіла за круг навукі аб зямлі.

Не толькі нагрузка стрымлівала Грушку ад Студэнцкай рэчкі. Амаль кожны вечар ён накідваў алоўкам на паперу вядомыя толькі яму думкі-меркаванні, прапановы. Перад вачыма з'яўляўся Кляновіч з заклапочаным, нават натхнёным тварам. Яны разам усе стаялі на той дусерадзіборскай Вострай гары і, гледзячы ў лясныя далі, душою планавалі пераробку дрымучага жыцця прыроды і людзей.

Мары... Ну, што ж... няхай будуць і мары...

Грушка працаваў над планам узорнай гаспадаркі.

Але вось аднаго разу, прачнуўшыся ранкам пазнава-

та, ён убачыў, што Пакацілы няма. Заўсёды ж будзілі адзін аднаго, а цяпер...

Грушка як мага хутчэй памыўся, накінуў капялюш на нязграбна прычасаныя валасы і выбег з партфелем у руцэ на вуліцу. Глянуў сюды-туды: з комінаў цягнуліся ціхія дымы, цёплая, мяккая шэрасць атуліла неба, зямлю. Лёгкі туманок хаваўся ў кустах, ад чаго глухлі гукі. Дзе ж шукаць Пакацілу? У лабараторыі яго цяпер не будзе, яшчэ рана. Відаць, паплёўся на сваё вопытнае поле. Усё ж такі трэба падысці ў лабараторыю. Пакаціла павінен падрыхтаваць сёння прылады, каб паказаць студэнтам, што расліны сапраўды дыхаюць.

Лабараторыя была замкнёна. Можна было ўвайсці толькі ў сенцы, дзе ў цагляным зрубіку блішчала крынічная вада. Ішоў далей, прабіраючыся праз markdownрознае кустаўё, і набрыў на будыначак пры рэчцы, пабелены вапнай. Гэта была пральня акадэміі. Грушка спыніўся. Яму ўспомнілася, што Пакаціла сяды-тады трапляе сюды, і ён адчыніў дзверы.

Так і трапіў Платон Грушка ў невялікі будынак, падобны да барака, у пакойчык да дзвюх дарослых дзяўчат, работніц пральні. Дзяўчаты якраз снедалі. На століку дымілася ў місцы бульба, а ў другой місцы блішчалі ўжо старыя салёныя агуркі, побач ляжала пачатая буханачка хлеба... Толькі паспеў Грушка спытацца пра Пакацілу, як дзяўчаты, адказаўшы, што яго тут не было, спыталі ў адзін голас:

— А вы ўжо снедалі?

— Прызнацца, яшчэ не,— нічога не падазраючы, адказаў Грушка.

— Паснедайце з намі,— звярнулася мажная чырванашчокая Марыя і падсунула яму табурэтку, запрашаючы сесці.

— Не, не, дзякую...— прыкладаючы руку да грудзей, адмаўляўся Грушка.

А яны, сакатухі, і слухаць не хацелі:

— Не, мы вас не пусцім...

Грушка сеў. Марыя лёгенька зняла капялюш з яго цёмна-русай галавы, павесіла на вешалку, «адабрала» партфель і з пашанай палажыла яго на засланы ложачак, сарвала са сцяны ручнік і паслала яму на калені, дала лыжку і запрасіла:

— Бярыце, ешце...

Гэта ўсё адбылося ў адзін момант. Гэты «адабраны»

партфель, што так ласкава лёг на ложачак, і ручнічок, што спачываў на каленях, неяк раптоўна кранулі Грушку. Ён быў поўны ўдзячнасці да гэтай ружовашчокай дзяўчыны, поўнай здароўя, натуральнай красы.

І другое — па праўдзе сказаць, то гэтая бульба з агуркамі такога ўмелага, добрага пасолу, што яны да вясны захавалі свае прысмакі, свежы хлеб, некалькі скварак на патэльні — усё гэта праймала душу і выклікала нават пэўную расчуленасць. Якія ж харошыя гэтыя дзяўчаты — такія свае, блізкія. Як добра халасцяку, а тым больш такому, як Платон Грушка, апынуцца вось у такім цяпле, сярод такой прыхільнасці!

Яны абедзве селі на адну табурэтку насупраць Платона... Марыя часам апускала свае празрыста-шэрыя вочы, асабліва калі брала бульбіну з міскі. Такое неспадзяванае для Грушкі адведанне дзяўчат — работніц пральні — нечакана дало пачатак таму ветру, які заляцеў у яго ціхі прыстанак. Гэта не значыць, што да яго істоты не даляталі тыя, падчас гарачыя, подступы «тамлення духу», пачуццё невядомай, неасвядомленай тугі, але іх пабівалі другія патрэбы. На дне душы хавалася шкадоба да сваёй зямлі, запушчанасць якой ён рана зразумеў — яшчэ студэнтам. У гэтай шкадобе хавалася любоў да свайго Палесся, да роднага Серадзібора, да сваёй маці ў старэнькай утульнай бацькаўскай хатцы, дзе ў яго так лёгка нараджаліся свае патаемныя думкі.

Думкі крэплі, сталі клікаць да дзеяння.

І вось у гэтую плынь уварваўся іншы вецер. Ён чамусьці хвалямі наплывае ў душу і апякае. Не, гэта не павінна паўтарацца. Мала там што... Майскія вятры. Трэба вось напісаць пісьмо Кляновічу, каб ён рыхтаваў грунт для наступу на Серадзібор. Няхай піша ў Савет Міністраў. У нас павінна мара спалучацца з рэальнасцю, і наадварот. Гэта ж вядучая ісціна Кляновіча, якую ён часам называе сутнасцю сацыялізма ў яго пераможным поступе. Пакаціла ўсё ж такі раз-пораз прасіў Грушку пайсці з ім у поле і паглядзець яго вопыты. І аднаго разу Грушка паддаўся ўгаворам свайго сябра, і яны пайшлі. Па дарозе Пакаціла забег у прадуктовы магазінчык. І Грушка пайшоў пакуль што адзін.

Дарога праз вішняк і бэзавыя кусты вяла да масціка. Як толькі Грушка ўзышоў на яго, пачуў за сабою паспешлівыя крокі. Аглянуўся. Ішла Марыя. Яна прайшла міма так, што аж дошкі ўвагнуліся на масціку пад яе нагамі.

Кіўнула яму маленькім кіўком. Несла на плячы вялікі кошык бялізны.

Спусцілася з моста ўніз да таго доўгага каменя, які, як тапчан, ляжаў на пясчаным беразе, адным канцом пагружаны ў ваду. Марыя ля яго паставіла кошык . І пачалася ўвішная работа ўвішнай дзяўчыны. Мускулістыя рукі, аголеныя да локцяў, упэўнена хапалі з кошыка бялізну, акуналі ў ваду, закручвалі вірам, і потым пранік — лясь-лясь — дакончваў работу.

«Колькі сілы, хараства...» — думаў малады прафесар, гледзячы на яе работу. А яна, зрабіўшы перадышку, узялася ў бокі і звярнулася да яго, маўклівага:

— Што гэта вы, Платон Максімавіч, не заходзіце да нас?

— Няма часу, Марыя Дзям'янаўна...— не знайшоў ён іншага для адказу.

— Нябось, каб хацелі, то знайшлі б.

— Можа, калі і зайду...

Гэтае «можа» праз некаторы час спраўдзілася. Але ён з'явіўся не ў той пакойчык у пральні, а сюды, на Студэнцкую рэчку, куды Марыя Дзям'янаўна прыходзіла заўсёды з кошыкам бялізны.

У акадэміі ішоў спектакль, наладжаны драматычным гуртком студэнтаў. На сцэне ставілі п'есу Астроўскага «На пороге к делу». Трэба сказаць, што гэтая п'еса потым моцна ўвайшла ў рэпертуар гуртка, стала любімай п'есай студэнтаў. Нейкая выпадковасць надарыла так, што Грушка спазніўся і сеў на вольнае крэсла, што першае трапіла на вока. Нечы локаць крануў яго руку. Але Грушка не звярнуў на гэта ўвагі,— ён глядзеў на сцэну, і толькі на сцэну.

Мінула першая дзея. Заслона апала. Успыхнула святло. Грушка павярнуў галаву налева і неспадзявана для сябе ўсміхнуўся, а потым і пачырванеў. Ля яго сядзела Марыя. На яе русых валасах, зачэсаных набок і крыху ўзбітых хвалькамі, была павязана шэрая празрыстая хустачка. Пад белаю кофтаю з сінімі кветкамі прыгожа вырысоўваўся бюст. Грушка моргаў вачыма, а найбольш адводзіў іх убок. Ён адчуваў сябе падаўленым неймавернай сілаю, якая дыхала ад гэтай прыгожай дзяўчыны.

А Марыя, наадварот, была спакойная. Яна ціха, сціпла сядзела, як чужая, сярод студэнцкага акружэння, паклаўшы рукі на калені.

— Марыя Дзям'янаўна, выбачайце за маю такую сле-

пату, някемлівасць,— прамовіў Грушка,— вось сяджу і не бачу, хто сядзіць са мною побач.

— Гэта бывае. Бяды ў гэтым няма,— адказала Марыя і адзін раз глянула ў твар Грушку. Адразу ж паправіла хустачку на галаве, падцягнула вузялок пад барадою. Бела-ружовыя рукі яе пры святле цягнулі Грушку да сябе як магнітам.

Што за сіла спакусы? Ці ж не адведаў яе Грушка ніколі за сваю вучоную маладосць — гэтай наймацнейшай і найпрыгажэйшай прывабнасці? Ужо ж больш трыццаці кладзецца на карак. Вядома, былі яны — спакусы. Самая моцная была ў часе вайны ў Омску, дзе ён канчаў свой апошні практычны год навукі ў сельскагаспадарчым інстытуце. Яна была студэнтка таго ж самага інстытута — дзіўная тунгусачка Тамара. Яна даверліва тулілася да Платона, і вузкія чорныя вочы-шчылінкі з доўгімі чорнымі веямі пад вострымі бровамі неяк глыбока, павольна пазіралі ў вочы Грушку. Ад гэтай дачкі вечных снягоў і маразоў зыходзіла такое мяккае ветлівае цяпло, што падкупала Грушку.

Тунгусачка была больш маўклівая. У яе душы таілася задума зімовай тундры і яе кароткі вясняны трэпет, поўны багацця кветак і шумлівага птаства. Тамара канчала інстытут для тундры і тайгі...

Няхай жа прызнаецца сам сабе Платон Грушка, што ён туліў тунгусачку да сваіх грудзей, любіў яе. Падумваў нават астацца ў Омску. Але выклік сваёй беларускай акадэміі перарваў іх дружбу. Грушка развітаўся з Тамараю на вакзале, прытуліў яе апошні раз. Яна сказала:

— Пішы...

— Буду,— стрымліваючы хваляванне, адказаў Грушка.

Праўда, перапісваўся нешта каля двух год, пакуль тунгусачка не пакінула Омска. Яна выйшла замуж. Напісала пра гэта Грушку цёпла, па-таварыску. Ласка не пагасла. Але жыццё... прадыктавала сваё.

Калі ўспаміналася мінулае, Платон не мог не прыпомніць тых вершаў, якія вычытаў у Омску ў нейкім сібірскім часопісе:

От моей юрты до твоей юрты
Горностая следы на снегу —
Обещалась вчера навестить меня ты,
Я дождаться никак не могу.

З таго часу душа маладога Грушкі неяк закамянела. Увесь час пачала забіраць навука.

І вось цяпер у зале акадэмічнага клуба на спектаклі сядзіць побач з ім беларуская дзяўчына.

Пасля спектаклю яны пайшлі па бэзавай алеі... Ён ішоў, заклаўшы рукі назад, нясмелы, поўны ветлівай пяшчотай, далікатнасці. Бліснула лужынка наперадзе. Ён схапіў Марыю за руку, мяккую, пахучую руку, і ўжо больш яе не выпускаў. Так дайшлі да масціка, спусціліся да рэчкі, зайшлі па дарожцы далёка к полю і селі на лавачцы пад бярозай. А месяц сачыў, вёў іх разам з сабою. І калі яны селі на лавачку, ён ахутаў іх сваім цяністым святлом...

Назаўтра рана Марыя прыбегла да Грушкі на кватэру, узяла брудную бялізну, шкарпэткі, кашулі, гальштукі, агледзела касцюмы і забрала на рамонт.

У руках у Марыі ўсё гарэла.

Нейкі свежы струмень уварваўся ў жыццё Платона Грушкі, свежы і адначасова цяжкі.

Праз два тыдні Марыя Бярозавік, дзяўчына з Магілёўшчыны, ажаніла на сабе маладога вучонага Платона Грушку.

Ён быў пасіўны ў гэтых вясельных зборах, не ведаючы, як і да чаго прыкласці рукі. Усё рабіла яна — Марыя. Грушка, калі сустракаўся з ёю на адзіноце, з нейкай нібы набожнасцю цалаваў яе рукі вышэй локця, глядзеў у твар на блакітныя вочы, на пухлыя губы пад курносым носам і не смеў наблізіцца да іх сваімі вуснамі. Марыя гэта разумела і, не зважаючы ні на што, абвівала яго шыю моцнаю рукою і набліжала яму свае цёплыя вусны, туліла яго галаву да сваіх грудзей.

Грушка п'янеў ад гэтых абдымкаў, а яна, не забываючы, што за акном яшчэ дзень, што ў пральні многа працы, ускоквала з крэсла і казала:

— Трэба ісці. Бялізна запарана. Пара вымаць.— Спыніўшыся ля дзвярэй, дадавала: — Шукай кватэркі, тады паселімся разам. Нам хопіць аднаго пакойчыка.

Загадчык гаспадарчай часткі, як ні цяжка было, знайшоў для Грушкі невялічкі пакойчык з адным акном. Хоць там і не было ні печкі, ні пліты, маладажоны, не зважаючы ні на што, пасяліліся ў ім. Купілі ў мястэчку трошкі звычайнай мэблі і сталі жыць. У кутку на табурэтцы з'явіўся прымус, дзе Марыя цярпліва гатавала чай і вячэру. Абедаць хадзілі ў студэнцкую сталовую.

Вядома, такое жыццё можа быць толькі часовым. Чакалася на лепшае. Яно павінна было прыйсці праз гады тры. Пачыналася будаўніцтва нейкіх новых карпусоў, пра якія Грушка не меў, як кажуць, ніякага ўяўлення.

З Акадэміі навук, з Мінска, прыехаў новы выкладчык па глебазнаўству. Грушку асталася толькі адна дысцыпліна — фізіялогія раслін. Па сваёй душэўнай арыентацыі Грушка бліжэйшым для сябе лічыў глебазнаўства. Фізіялогію раслін ён выкладаў у парадку, як любілі гаварыць тады, дадатковай нагрузкі, па просьбе самога рэктара Фёдара Каплі.

Грушка крыху задумаўся, нават засумаваў. Засумаваў, безумоўна, па глебазнаўству, у якім ён, чытаючы лекцыі, адкрываўся студэнтам як выдатны знаўца гэтай дысцыпліны, як яе паэт. І таму аднаго разу ўвечары напісаў пісьмо Кляновічу, у якім расказаў яму пра сваё становішча і пра свой настрой. Аб тым, што сышоўся жыць з Марыяй, прамоўчаў.

Кляновіч хутка адказаў. Напісаў, што пастараецца, каб яго, Грушку, перавялі ў Акадэмію навук у Мінск для навуковай працы. Гэта ўцешыла яго. І калі надышоў ліпень, Грушка ўзяў акадэмічны водпуск і паехаў з Марыяй у Серадзібор да свае маці. Думаў, што ў водпуску займецца адукацыяй сваёй Марыі. Да гэтага штурхануў яго адзін выпадак. Марыя, якая ўжо не працавала ў пральні, задумала схадзіць у мястэчка — сёе-тое купіць. І таму, адыходзячы, напісала запіску Платону і палажыла на яго стале. Ключ ад пакоя пакінула ва ўмоўленым месцы.

Грушка вярнуўся з лекцыі і, калі заўважыў запіску на стале, паднёс яе да вачэй. Чытаў, і адразу нешта, да болю непрыемнае, прабегла па яго твары. У запісцы алоўкам каракулямі было напісана: «Мне треба на ринок і я пайшла. Куплю цібе кошулку з варатнічком у клетачкі. Штоб ты быв красівы. Маня».

Грушка паціснуў плячыма ў нейкім яшчэ нязнаным яму дагэтуль недаўменні і з грымасаю на твары паглядзеў у акно. Пачаў хадзіць па пакоі, задумаўся. Яшчэ раз глянуў на запіску. Пасля нядоўгага роздуму ў душу пачала прыплываць блізкасць яе, Марыі, поўнай свежага здароўя і, вядома, адданасці яму. Пачуццё не то штоапрымірэння, а нейкай трывожнай турботы пачало валодаць Грушкам. «Ну што яна вінавата? Трэба яе вучыць, абавязкова вучыць... І я гэтым займуся».

Грушка адчыніў шафу, каб пашукаць сабе насавой

хустачкі, і ўбачыў Марыіны плацці, кофты, спадніцы, якія акуратна віселі на вешалках, і ўявіў сабе яе — дужую, як тады, на тым спектаклі... На душу пачаў сыходзіць спакой, хоць недзе на глыбіні асталося ледзь адчувальнае пачуццё пратэсту.

Грушка не хацеў гаварыць пра гэта самой Марыі. Ну, як жа казаць? Толькі што пажаніліся — і казаць... Няёмка, не да ладу.

Справа ў тым, што Марыя, устаўшы рана, пакідала Платона ў ложку і, ходзячы па пакоі, страшэнна бохала нагамі аб падлогу, ад чаго траслося ўсё: лямпа з абажурам на стале, глухім гукам адклікалася шафа з адзежай, за паркалёвай перагародкай пазвоньвалі на палічцы талеркі. Грушка хаваў галаву пад коўдру і думаў, ці яна здагадаецца калі, ці не. Яго абдавала яшчэ яе цяпло і не давала яму адвагі падняць галаву і сказаць, каб яна хадзіла крыху асцярожней, цішэй. Ён баяўся яе пакрыўдзіць.

## ВУЗЕЛ ПАЧУЦЦЯЎ

Радасць напаўняе дактарыцу Веру Ігнатаўну. У Серадзібары скончана нарэшце будаўніцтва бальніцы. Пабудавана яна з моцнага палескага бярвення. Майстры дакладалі рукі па-сапраўднаму. Бярвенне гладкае, бо пагаблёвана, свеціцца на сонцы як золата. Паміж бярвеннямі не звісае мох. Усе шчыліны заканапачаны пакуллем — ды так добра і гладка, што люба воку глянуць. Аб усім гэтым стараўся не хто іншы, як сама Вера Ігнатаўна. Яна прапанавала ў райвыканкоме стварыць камісію, якая б назірала за будаўніцтвам бальніцы, сцерагла, каб ніхто не расцягваў дрэва і каб майстры ўжо крыху спяшаліся, бо тэрміны і так даўно прайшлі.

У камісію трапіў стары Несцер (яго выбралі старшынёю), і гэта ў многім памагло.

Бальніца стаяла гатовая. Нават трэскі і ўсякае смецце пазбірана навокал яе. Абгарадзілі бальніцу плотам са штыкетаў, парабілі алейкі, абклалі абочыны цэглай, як зубцамі. Надыдзе восень — будуць пасаджаны дрэўцы, а вясною — кветкавыя кусты. Што ж рабіць усярэдзіне? Тынкаваць яшчэ нельга. Трэба пачакаць наступнага года, каб за гэты час добра асеў, ушчыльніўся гэты доўгі, зігза-

гавы зруб пад шыферным дахам. Вера Ігнатаўна часта прыязджала ў Серадзібор, каб падштурхнуць справы. Аж да плачу даводзіў яе Верабей сваімі абяцанкамі ў помачы.

І вось Вера Ігнатаўна едзе ў Серадзібор у выхадны дзень. Гэта была сонечная пара красавання жыта, пара лёгкіх цёплых вятроў, буйных росаў ціхімі ранкамі ў наплыве зары і тых ласкавых ночаў, поўных пахаў траў і кветак. Зоркі, здаецца, любуюцца і Азярышчам, і серадзіборскімі лясамі, азёрамі і рэчкамі, прытоеным, асцярожным шэптам чаротаў над старымі каналамі ў вянках кучаравых лозаў.

Едзе яна не адна. У машыне сядзяць: капітан Пётр Рыбін, Агрыпіна Іванаўна і Саша.

Вера Ігнатаўна сядзіць побач з шафёрам. Праз сеткавы, злёгку сінняваты шаль прасвечваюць акуратна прычэсаныя цёмныя валасы. Белая кофта з адкінутым каўнерчыкам прыемна паказвае яе зграбную шыю. На каленях ляжаць неадлучны партфель і шэры жакецік.

Рыбін непрыкметна для другіх сачыў за Верай Ігнатаўнай. Ён баяўся глядзець на яе доўга, хоць хацелася глядзець. Акуратна паголены, у новым капітанскім мундзіры, Рыбін выглядаў молада, свежа, хоць на скронях валасы лёгкім інеем укрыла ўжо сівізна. Гэта — заслужаная сівізна. Гэта тыя бяссонныя ночы ў шалёнай пагоні за ліхам, ночы і дні жорсткіх спраў і ласкавых думак. Рыбін знайшоў верных людзей, і яны памаглі яму ахоўваць народнае жыццё ў раёне. Ён хапаў усё на ляту, тут жа рабіў высновы і па іх знаходзіў сляды ворага. Агляднасць, праверка... каб не памыліцца. Рыбін быў упэўнены, што ён, працуючы ў Азярышчы, яшчэ не памыліўся. Чаму? Яму памагалі сумленныя людзі. Для яго яны былі самым дарагім на свеце. Яны — гэта ж і ёсць сам народ.

Але ў сваёй пільнай, засяроджкаванай душы Рыбін не мог не адчуць, што з прыходам у райком Чухноўскага павеяла чымсьці, што супярэчыць таму, што рабіў Малашкін, ён і іншыя — Агрыпіна, Саша і, вядома, вось гэтая ў сеткавым шалі, што сядзіць побач з шафёрам. Ад некаторага часу адчуванне небяспекі не пакідала Рыбіна. Пра гэта ён ужо часта вёў гутаркі з Малашкіным. І цяпер, седзячы побач з Агрыпінай і слухаючы жарты другіх, думаў пра гэта. Гусак злоўлены, асуджаны, Банадзюк са сваёй хеўрай выкрыты, ізаляваны. Цяпер нарастаюць новыя супярэчнасці... Супярэчнасці, як кажуць, унутранага характару. Малашкіну, Рыбіну гэта ўсё зразумела.

Рыбін едзе з жанчынамі ў Серадзібор на адкрыццё бальніцы. Следам павінны прыехаць Малашкін, Жарнавік, а можа, і яшчэ хто-небудзь.

Будзе і Харытон Бабёр, але невядома, ці прыедзе Чухноўскі.

Машына спынілася каля сельсавета. Там ужо чакалі: стары Несцер, Таццяна Карпец, Коля Мілаш і сам старшыня сельсавета — Карчэня. Гэта члены бальнічнай камісіі. Пятым членам была сама дактарыца. Ля плота чайной стаяў натоўп людзей, найбольш моладзі.

Пасажыры выйшлі з машыны, павіталіся з членамі камісіі і адразу накіраваліся да бальніцы. Яна, пафарбаваная аліфай, грэлася на сонцы, чыстая, прывабная. Сябры, ідучы за Несцерам і Верай Ігнатаўнай, падняліся на ганак з чатырма слупамі, нібы калонамі. Несцер выняў ключ з кішэні.

З другога боку бальніцы, ад лесу, рабочыя ачышчалі дно студні, і ўзгорачак жвіровай мокрай зямлі ўжо тырчаў ля яе. Недалёка ад студні ўзвышаўся бляшаны рэзервуар. Туды будзе пампавацца са студні вада, а потым разыходзіцца па трубах па ўсёй бальніцы.

Камісія разам з раённымі ўладамі павінна вырашыць, ці ўжо можна бальніцу, як часта кажуць у служылым асяроддзі, пусціць у эксплуатацыю.

Вера Ігнатаўна меркавала, што — можна, хоць ёсць яшчэ немалыя недаробкі. Самае крайняе крыло (правае, калі лічыць ад вуліцы) яна адвяла пад аптэку, і першая партыя медыкаментаў ужо ў дарозе. Гэта адно. А другое — Міністэрства аховы здароўя паведаміла, што набор медперсаналу ўжо намечаны і ў хуткім часе сёй-той павінен пад'ехаць. Трэба быць падрыхтаваным. Кватэрнае пытанне пакуль што вырашыць густы Серадзібор. Ёсць прасторныя домікі пад местачковы лад, з ганачкамі, верандамі, з вокнамі на возера. А там далей — будзе відаць. Вера Ігнатаўна рада. Гэтая бальніца — яе важная пасляваенная перамога. Можна лёгка ўздыхнуць. І Вера Ігнатаўна — вясёлая, маладая, з бляскам у вачах — хадзіла па фарбаванай падлозе калідораў і пакояў. За ёю неадступна тупаў стары Несцер і ўсё казаў, што трэба, не адкладаючы, пабудаваць дрывотню і на ўсякі выпадак хлеўчык пры ёй. А ну ж — спатрэбіцца. Бо дзерава асталося, хопіць на гэтыя будынкі.

Вера Ігнатаўна ўсміхалася і ўсё казала:

— Добра, добра... Вядома, трэба...

Калі канчаткова агледзелі бальніцу, камісія разам з Малашкіным і Жарнавікам спынілася на нараду, на якой вырашылі, што бальніца ў аснове гатова, але адкрыць яе можна толькі тады, калі прыйдуць медыкаменты і прыедзе медперсанал.

Госці з Азярышча селі ў машыны, і Агрыпіна Іванаўна запрасіла ўсіх да сябе, у тую бацькоўскую хату, у якой яна цяпер жыла.

Жыла яна ціха, нібы адпачываючы ад вялікай цяжкай дарогі, поўнай цярпення і ўсякіх зняваг. Яна дасягла свайго — адпомсціла ворагу, і на душы стала лягчэй. Там, нарэшце, запанавала раўнавага.

Агрыпіна акапала яблынькі, вішні перад вокнамі, заарала агарод за хлявамі, насадзіла там, апрача бульбы, усялякай гародніны і кожны дзень прыкладала да яе рукі. То палола, то палівала, падвязвала памідоры. Нават вяргіні і мальвы пасадзіла ля сцяны між вокнамі ад вуліцы і старанна, з нейкім задумным хваляваннем хадзіла ля іх.

Каля вяргінь раслі астры, настурцыі, гваздзікі. Калі букеткі расцвіталі, яна амаль кожную нядзелю ішла з букетам на могілкі, там клала іх на магілы Андрэя і Алесі, душою гутарыла з імі і ўцірала адзінокую ціхую слязу.

Хатка была прыбрана — пабелена, на вокнах віселі фіраначкі, на покуце зелянеў стары Алесін фікус. Мяккія цені ахутвалі куткі і гаварылі аб адзіноце гэтай жанчыны з апаленым сэрцам, у якім цяпер пасялілася гордасць за свой лад, за сваіх людзей, за самую сябе. Ёй хацелася абняць увесь свет разам з сонцам і сказаць аб непераможнасці чалавечага шчасця.

Госці ўвайшлі ў хату, дакладней кажучы, у сенцы. Агрыпіна памагала зняць — каму плашч, каму шапку, каму жакецік. Ёй усіх хацелася любіць. Жартаўліва ўзяла Рыбіна пад руку і ўвяла ў пярэднюю палавіну.

На здзіўленне ўсіх, хата не была пустая. Там увіхалася буфетчыца Юля. Яна збірала, ставіла на стол — абстаўляла яго пачастункамі.

Агрыпіна рассаджвала гасцей, бо госці сапраўды блыталіся, не ведаючы, дзе стаць, дзе сесці. У канцы стала яна села сама і побач з сабою пасадзіла Малашкіна. Па правы бок стала пасадзіла Жарнавіка з Сашай, а па левы — Рыбіна з Верай Ігнатаўнай. У другім канцы прысела Юля, гатовая кожную хвіліну скочыць за перагародку да прыпека па чарговы пачастунак.

Пачалася бяседа. Агрыпіне здавалася, што яна гэтай

бяседы чакала даўно, чакала, як у нейкім ціхім, панадным сне. І вось яны, любімыя сябры, сядзяць за сталом, і душа для іх у яе адкрытая. Як добра дыхаецца сярод такіх, сапраўды сваіх людзей! Яны перажывалі з ёю яе гора, якое стала іхнім горам. Агрыпіна, агледзеўшы ўсіх добрымі, радаснымі вачыма, адчула, можа больш чым калі, што іх яднае, вядзе па адным рэчышчы, да адной мэты — да шчасця для ўсіх людзей на зямлі.

— Ну, Сцяпан Пятровіч, будзь гаспадаром,— звярнулася яна да Малашкіна,— пачастуй нас і самога сябе.

І радасны Малашкін, правёўшы пальцамі правай рукі, як грэбенем, па сваіх чорных віхрах, устаў — плячысты, зграбны, моцны, у знаёмым усім цёмна-карычневым касцюме, у белай кашулі. Ён падняў чарку «за гэтую сялянскую хатку, у якой жыве наша дарагая Агрыпіна Іванаўна, за хатку, якую трэба назваць не інакш, як хаткаю герояў».

Чокнуліся ціха, з павагаю, з прытоеным захапленнем — ад душы. Можа, і не чакалі ад Малашкіна такога лірычнага і разам з тым сціплага па свайму тону тосту, бо ўсе глянулі на яго з сімпатыяй і тою ўнутранай згодаю, якая гаворыць: «Вось якраз гэтага мы і чакалі».

Настала кароткае зацішша. Агрыпіна Іванаўна запрашала частавацца — і селядцом з цыбуляю, і бульбай, і вяндлінай, катлетамі, каўбасою, сырам і іншымі прысмакамі сялянскай кухні.

Пры другой чарцы яна сказала слова за ператварэнне смуткаў у радасці.

— Гэта — цярністая, цяжкая работа, самая асноўная, гэта стрыжань самога чалавечага жыцця — ды гэта і ёсць само штодзённае жыццё...

Калі выпілі, Малашкін усміхнуўся і сказаў:

— Цябе, Агрыпіна Іванаўна, трэба паслаць у Мінск, у партыйную школу, прачытаць лекцыю на тэму — якімі шляхамі смуткі ў нас ператвараюцца ў радасці. Гэта было б геніяльна. Ці няпраўда?

— Такая лірыка была б нядрэнная! — прамовіў Рыбін.

Праз некаторы час Агрыпіна непрыкметна адышлася ад стала за печку-грубку. Выйшла адтуль з гітарай і з-за пляча Жарнавіка нечпадзявана палажыла яму яе на калені. Той спахапіўся. Вочы бліснулі пад акулярамі. Ён сціснуў гітару ў руках і толькі прамовіў:

— Даўно іграў... Даўно... Апошні раз недзе ў Прусіі. Зайшлі ў пусты пасёлак. Немцы збеглі. І ў адным доміку

быў пакінуты раяль, а на сцяне вісела гітара. Я не думаў, Агрыпіна Іванаўна, што вы — гітарыстка.

— Трошкі...— адказала Агрыпіна.

Жарнавік крыху адсунуўся ад Сашы і пачаў настройваць гітару. Рабіў ён гэта ўпэўнена, імгненна. І неўзабаве прагучаў першы акорд. А потым палілася мелодыя. Струны гучалі бадай што як у бандуры. Усе зразумелі песню і падхапілі «Взяв бы я бандуру тай зайграв, що знав...».

Жарнавік іграў па-майстэрску. Калі апускаў пальцы на ніжнія лады, то гукі ад струн іскрыліся залатым россыпам. А ўсе падпявалі:

За тэ карі очі душу б я віддав.

У каго ж тут за сталом такія вочы, што пясняр гатоў за іх аддаць усю сваю душу? Блішчалі з лёгкім карым адценнем Сашыны — вочы, як вугалькі.

А насупраць глядзелі сціплыя цёмна-шэрыя вочы з маладым бляскам. Гэтыя вочы то цямнелі, то святлелі.

Гэта вочы Веры Ігнатаўны. Яна трымалася незалежна — перастаўляла талеркі з ядою, каб прасторней было на стале, гулліва прапаноўвала свайму суседу аднначасова некалькі страў. І сусед тушаваўся, ледзь паспяваў сказаць: «Дзякую, дзякую, дзякую...» А белыя зграбныя рукі то з'яўляліся на стале, то знікалі... Рыбін усміхаўся і неяк унутрана нават пакрэкваў — ну і атака прыйшла на яго...

Агрыпіна, седзячы побач з Малашкіным, адчувала настроі свайго застолля. Яна ведае прыкрытую штодзённымі клопатамі трагедыю, калі можна так назваць,— чыю? Ці адной Сашы? Ці аднаго Малашкіна? Ці абаіх разам? Яе думка то раздвойваецца, то зліваецца ў нешта адзінае, што яе заспакойвае. Але спакой адыходзіць зноў, і думка шукае выхаду ад супярэчлівых парыванняў.

Агрыпіна любіць Сашу, як сваю родную — ці то сястру, ці дачку. Саша ўжо даўно прызналася ёй у сваіх душэўных сакрэтах, хоць і не ва ўсіх, бо ёй, Сашы, было цяжка. Ёй нялёгка і цяпер, але ўжо не так, як раней, бо яна нешта адваявала для сваёй любві. Яна не дала Малашкіну збегчы ад сябе, і ён баіцца думаць, які ж будзе фінал іх адносін. Цяпер, седзячы за сталом Агрыпіны, Малашкін ураўнаважаны, вясёлы. Хочацца яму размахнуцца шырокім жэстам, разрагатацца, як тады зімою, калі пераганялі адно аднаго на лыжах у серадзіборскім лесе.

Агрыпіна хоча знайсці нейкія дзверы, праз якія можна было б Малашкіну і Сашы выйсці з тупіка. Але... не

знаходзіць. І часам нават мучыцца праз гэта, бо яна ім абоім жадае толькі шчасця. За плячыма Малашкіна ходзіць тая, першая, на руках у якой шчабеча «балерынка» і цягнецца ручкамі да таты, які любіць, здаецца, усіх дзяцей на свеце... Цяжка пераковуваць смуткі ў радасці — ой, цяжка...

А Саша час ад часу ўзмахне сваімі веямі і абдорыць Малашкіна моцным, упэўненым паглядам, у якім няма ні кроплі трывогі. Няўжо няма? А можа, захавана глыбока? Бо ўсё ж такі як ні стараецца Саша трымаць сябе свабодна, нейкая ўнутраная звязанасць выяўляецца нечакана, і тады вочы апускаюцца, глядзяць у стол або спакваля прабягаюць па ўсіх, нават па Юлі, якая больш ходзіць за перагародку, чым сядзіць за сталом. Толькі на які момант прысядзе, утрэ фартушком свой носік, які нібы хаваецца паміж пухлых чырвоных шчок, забегае чорнымі вочкамі і зараз жа схавае іх пад веі. Яна, вядома, нешта мяркуе па-свойму. Усміхаецца толькі тады, калі гляне на Жарнавіка, які з лірычнае бандуры перайшоў на прыпеўкі:

Чаго ж ты, мая бярозка,
Няма ветру — ты шуміш,
Чаго ж ты, маё сярдзечка,
Мілы тут, а ты баліш?

Ніяк не ўтрымаецца Юля, каб не ўсміхнуцца пасля такіх слоў. Аж пачырванее ад усмешкі і абдорыць гэтага жартуна — Жарнавіка, ласкавым, удзячным позіркам і тут жа прыкрые твар фартушком, быццам ведае аб чымсьці, быццам закахалася яна ў гэтага майстра-гітарыста Аляксея.

Агрыпіна перакідваецца словамі з Малашкіным, з Сашай. Гутарка найбольш ідзе пра Чухноўскага, чаму ён не прыехаў у Серадзібор. Малашкін з Сашай кажуць, што збіраўся ехаць на рыбалку і, відаць, паехаў. Ды без яго зацішней і больш пэўна. Капітан Рыбін і Вера Ігнатаўна аб чымсьці нават горача загаварылі, але іх словы тонуць у звоне гітары. Відаць, загаварылі аб вернасці ў любві, аб яе складаных, разумных і неразумных сцежках-дарожках, нават, калі хочаце, і нетрах?

Агрыпіна, гутарачы з Малашкіным, час ад часу ўскідвае вокам на гэтую пару дарослых, але маладых, поўных сілы людзей. Маладосць так і б'е з вачэй Веры Ігнатаўны. Сеткавы шаль атуліў шыю, і канцы яго ляжаць на грудзях. Рыбін з расчуленай пашанай часам ускідвае вочы

на іх, і тады яму хочацца крыху адсунуцца ад Веры Ігнатаўны, каб, можа, сваёю блізкасцю не абразіць гэтай раскошы.

Агрыпіна ўсё гэта бачыць і думае: ці любіць Вера Ігнатаўна капітана Рыбіна? У пачуццях Рыбіна яна не сумняваецца. Гэты салдат, верны сваёй справе, ліпне душою да жанчыны, якую асіраціла вайна, але не адабрала красы. А яна? Зразумець нельга. Відаць, заняла нейкія выпчакальныя пазіцыі. Яна, можа, і не дала б ганьбы Рыбіну, але гэта ўжо будзе залежаць ад яго. Пад ляжачы камень...

Дзень за вокнамі хіліўся на вечар, хоць сонца яшчэ вісела над лесам. Можа, варта было б падумаць, каб вярнуцца ў Азярышча?

Гэтую думку хацеў падаць Малашкін, як раптам за вокнамі мільганулі цені — прайшло некалькі чалавек. Усе насцярожыліся. Жарнавік перастаў іграць. Агрыпіна выйшла да парога. У хату ўвайшло трое: Чухноўскі з жонкаю і Малашкіна Маня.

— А мы пра вас успаміналі... А мы пра вас гутарылі... А чаму гэта іх няма, думаем... Ну і добра, што прыехалі... Лепш пазней, чым ніколі...— пачуліся воклічы.

Чухноўскі павесіў сваю шапку з дыяганалю ахоўнага колеру, якую ён насіў «па-маладзецку» на правае вуха, абцягнуў такога ж колеру гімнасцёрку і, прыгладжваючы рукою блішчастую, як ад масла, прычоску, увайшоў за жанчынамі ў пакой.

Усе ўсталі, каб прывітацца. Малашкін заморгаў вачыма і на момант сціснуў зубы — аж заварушыліся пашчакі, але хутка авалодаў сабою. З усмешкаю з-пад броваўназіраў за сваёю Маняю. Госці тоўпіліся ў канцы стала, але падышла Агрыпіна. Крыкнула на гасцей, чаго яны стаяць. Госці селі.

— А цяпер рассадзім і вас, дарагія,— прамовіла яна.

З Юляю ставілі крэслы. Маню адразу пасадзілі побач з Малашкіным, а Чухноўскіх паміж Рыбіным і жонкай Малашкіна, каб такім чынам покуцевы канец стала дастаўся крыху і Чухноўскаму. Ён жа другі сакратар. Рыбін з Верай Ігнатаўнай адсунуліся к другому канцу стала. Ля іх села сама Агрыпіна.

Бяседа пачалася быццам нанова. Малашкін маўчаў. Папытаўся толькі ў жонкі пра сваю «балерынку». Маня, паводзячы вачыма па людзях, моўчкі кіўнула, даючы знаць, што ўсё ў парадку. Так разглядаючы, яна адным кароткім позіркам прыхоплівала і Сашу і тут жа адвароч-

вала галаву ў другі бок. Саша вяла гутарку з Жарнавікам. Яна адчувала сябе няёмка. Быў адзін такі момант, што ёй хацелася ўстаць, развітацца з усімі і выйсці, пацягнуўшы за сабою Жарнавіка. Але не была ўпэўнена, што той захоча ісці. Потым нахмурылася, і ўсё ў ёй напружылася, гатовае да адпору на той ці іншы напад. Чырвань на шчоках пачала паволі знікаць. Жарнавік напаўголас расказваў анекдоты, і Саша смяялася...

Жонка Чухноўскага, Фядора Антонаўна, жанчына незвычайнай таўшчыні, крыху ўжо з сівінкай на прычэсаных па-простаму валасах, яшчэ аддыхвалася з дарогі, абмахваючы сябе хустачкай, і паўтарала:

— Уф, уф... вось гарачыня... Уф, не магу.

Так абмахваючыся, увесь час штурхала локцем у пляччо Рыбіна і не спускала вачэй з Сашы. Дагэтуль яна бачыла яе толькі здалёк або мімаходам. Яе мутнавата-шэрыя вочы нібы гаварылі: «Дык гэта вось яна, тая прывабніца-зладзейка... Ага, дык гэта вось яна якая... Добра... Добра...» Рыбін, як мог, ухіляўся ад яе штуршкоў, нахіляючыся да пляча Веры Ігнатаўны. Потым яна аглядала фікус, пазірала на сцены, дзе віселі макеткі з рознымі вышытымі кветкамі, і ціха казала свайму Ваню:

— Проста ажур... ажур, ажур... я так даўно не была ў сельскай хаце, што проста не думала, што можа быць такі ажур...

Малашкін каманду над сталом перадаў Чухноўскаму:

— Вядзі, брат, ты са свежымі сіламі.

Чухноўскі не адмаўляўся. Ён устаў, пазваніў люлькаю аб графін і папрасіў напоўніць чаркі. Малашкін наліў жонцы поўную чарку, а сабе — палавіну. Супраць гэтага Маня запратэставала.

— Не, трэба ўсё пароўну. З другімі п'еш пароўну, а са мной не хочаш.

Малашкін утуліў галаву ў плечы, нібы баронячыся ад удару, усміхнуўся і дапоўніў чарку:

— На, на, калі ласка...

«Грозныя» аганькі ў Маніных вачах пагаслі.

Чухноўскі тым часам падняў тост — і хто мог падумаць:

— За залатога чалавека, за гаспадара нашай вобласці Міхаіла Міхайлавіча Гугновіча.

Малашкін лёгенька ўсміхнуўся, глянуўшы на Рыбіна, на што Рыбін толькі паціснуў плячыма. Твары ў гасцей парабіліся нежывыя. Адна Фядора Антонаўна не шкада-



Пiлiп Пестрак з унучкай Волечкай.
*Мінск, 1968 г.*



Дэлегаты V з'езда пісьменнікаў СССР.
*Справа налева:* П. Пестрак, І. Шамякін, А. Макаёнак.
*Масква, 1971 г.*

вала чарак — чокалася так моцна, што ўсе баяліся, каб якая з іх не пабілася. Пасля тосту ўсе прыціхлі.

Агрыпіна з сур'ёзным, заклапочаным тварам, быццам хто ёй у чымсьці перашкодзіў, адышлася да палатнянай заслоны ў перагародцы і сказала Юлі: «Нясі сваю жароўню...»

І на стале з'явіліся кіпучая смажаніна сала з каўбасою і яечкамі. Чухноўскі хацеў закурыць люльку, але палажыў яе ў кішэньку гімнасцёркі. Браў відэльцам закуску жонцы і сабе. Але, калі пачалі есці, жонка адразу адабрала ад мужа два кавалкі каўбасы сабе на талерачку і пачала раскашавацца прысмакам на поўную губу. Перад ёю стаяла, як кажуць, асушаная ўжо да кроплі сямідзесяціпяціграмовая чарка.

Малашкін раздумваў. З'яўленне тут жонкі было неспадзяваным і, па ўсім відаць, не так сабе. Адна яна б не адважылася на такую паездку. Гэта ж не пяць кіламетраў. Гэта — не так сабе. Гэта работа Чухноўскага. Нешта весела і развязна ён выглядае — жартуе, нават анекдоты расказвае. Але госці не смяюцца. Так толькі, трошкі — для прыліку. Гэта не важна — у Чухноўскага і ад гэтага «прыпрыліку» твар выглядае, як у трыумфатара. Ён ужо закурыў люльку і папыхвае дымком, фанабэрыста трымаючы яе ў зубах.

«Гэта, вядома ж, не так сабе»,— думае Малашкін і на ўсякі выпадак проста, каб што-небудзь сказаць, запытаўся:

— Слухай, Ваня, калі ты думаеш паехаць у Жыліны прачытаць лекцыю?

— Ну што ты, Сцяпан Пятровіч, дай адпачыць. Сягоння выхадны дзень. А ты ўсё нейкія справы знаходзіш.

— Добра, не буду. Правільна, сёння дзень для адпачынку. Бабра не бачыў?

— Як не бачыў? Мы ж разам прыехалі. Ён паехаў з жонкаю да Вераб'я. Сюды заязджаць не захацеў.

— Ну, гэта яго справа...

Становішча стала больш высвятляцца. Найлепш было б развітацца з гаспадыняй і паехаць дахаты. Бо тут, здаецца, канца не будзе. Ці варта злоўжываць гасціннасцю гаспадыні?

У хаце набралася тытунёвага дыму. Вера Ігнатаўна прапанавала адчыніць акно. Чухноўскі даў ёй слова для тосту.

— Я не ўмею гаварыць тостаў. Давайце вып'ем за жанчын, каб ім добра паводзілася ў жыцці.

І Вера Ігнатаўна пачала пералічваць усіх жанчын, што сядзелі за сталом. Што яна мела на мэце, падымаючы такі тост, невядома. Можа, хацела папярэдзіць тыя ці іншыя сямейныя непаладкі. А выйшла наадварот. Паднялася Марыя Пятроўна, жонка Малашкіна, і сказала сустрэчны тост:

— Так... Я згодна з гэтым тостам. За жанчын...— Хваляванне не давала ёй гаварыць.— Але дадам... за жанчын, якія... якія ў жонак не адбіваюць мужоў,— з сілаю сказала яна і, збялелая, асунулася на сваё месца, пачала хустачкаю выціраць вочы, лоб, над якім невялічкай пасмаю кучаравіліся дробныя русыя валасы. І ўся яна была ніжэй пляча Малашкіна — тоўсценькая, кароткая.

На нейкую долю секунды гасцямі авалодала замяшанне.

— Юля! — крыкнула на ўвесь голас Агрыпіна.— Дзе ты там?

— Я тут, тут... Зараз...— тонкім галаском адказала з-за перагародкі Юля.

Саша сядзела спакойна, толькі ў вачах праблісквалі іскры.

Яна ведала — пальчатка кінута. Падняць яе ці не? Яна падняла б яе адразу, каб ён, Малашкін, не быў сакратаром райкома. Можна папсаваць яго рэпутацыю, даць козыры вось таму з люлькай, у вачах якога гарыць уцеха — уцеха абмежаванага чалавека.

А гэты «абмежаваны», калі на стале з'явіліся аладкі, залітыя салам, задаволены сваёй роллю тамады, даў слова іменна Сашы.

Рыбін, Вера Ігнатаўна і Жарнавік імгненна пераглянуліся. Яны зразумелі ігру Чухноўскага.

Вядома, зразумела яе і Саша. Яна адкінула сваю залацістую пасму за вуха, устала і глянула на ўсіх. Усе глядзелі на яе. Адны баяліся, каб яна часам не нагаварыла чаго недарэчнага, каб не супрацьставіла сябе Марыі Пятроўне. Другія — як сам Чухноўскі, яго жонка, жонка Малашкіна — думалі і чакалі, што Саша спатыкнецца на нечым, праваліцца. І гэта будзе яе ганьбай.

— Я не чакала, што Іван Пракопавіч выкліча мяне на слова. Дзякую,— пачала Саша.

Яна ўжо не глядзела на прысутных. Яна глядзела недзе далёка і з вялікай унутранай натугай пачала гаварыць:

— Я таксама згодна з тостам Веры Ігнатаўны — за жанчын...— Саша крыху павысіла тапацыю, голас пачаў набіраць упэўненасць.— Я згодна і з Марыяй Пятроўнай, што можна не піць за жанчын, якія ад жонак адбіваюць мужоў. Бо, мне здаецца, хто адбівае, той не любіць. Хто адбівае, той разбойнік. Яны адбіваюць для нейкай карыслівасці. У гэтых адбівачак ці адбівачоў ёсць пагоня за мімалётным ласункам. Як той матыль... смактануў кветачку і паляцеў да другой... За іх, вядома, можна не піць...

Агрыпіна ледзь-ледзь усміхнулася. Яна прыгладзіла свае з сівінкай валасы і нават з удзячнасцю паглядзела на Сашу, якая стаяла, поўная маладосці і зграбнасці. Поўныя пругкія грудзі пад жаўтаватай кофтай уздымаліся ад хвалявання.

— Што я яшчэ хацела сказаць? — задумалася на хвілінку Саша і злёгку зноў прыгладзіла свае валасы.— Ага... усё вырашае сіла, якую людзі называюць любоўю...

— Ах,— ціха прыпляснула ў далоні Фядора Антонаўна, хоць палавіна аладкі тырчала з зубоў. Яна жавала яе і не спускала вачэй з Сашы.

— Так, вось гэтая сіла...— паўтарыла Саша,— і таму давайце ў першую чаргу мы, жанчыны, вып'ем за тых мужчын, якія шукаюць прытулку на свеце, бо ім у жыцці не павялося...

Саша працягнула чарку да першай Марыі Пятроўны.

— Будзьце здаровы, Марыя Пятроўна!

Тая ўзяла чарку і паставіла зноў... Глядзела на суседзяў, чакала слова ад Чухноўскага, якога ў свой час асуджала разам з мужам.

Саша трымала чарку над сталом, накіраваную да Марыі Пятроўны.

Малашкін штурхануў жонку локцем:

— Ну, чаго ж ты? Так нельга, Маня...

І Маня ціха дакранулася да Сашынай чаркі.

За сталом усе разам уздыхнулі.

Чаркі з другога канца стала пацягнуліся да Сашы. Фядора Антонаўна, працягваючы сваю поўную, салідную, як сама, чарку, не пераставала жаваць. На твары яе было такое — не то недаўменне, не то наогул здзіўленне, якое гаварыла: «Вось чартоўка... Вось яна якая... Бачыш ты яе... Выкруцілася, шэльма...»

Праз некаторы час Малашкін папрасіў слова ў тамады і, палучыўшы яго, устаў. Чухноўскі пачаў так дыміць люлькаю, што аж хаваўся ў дыме. Ніхто не еў — толькі

адна Фядора Антонаўна дажоўвала аладку і бесцырымонна цмокала губамі.

— Мне здаецца, таварышы, што нам час ужо збірацца дахаты. Вып'ем яшчэ за здароўе нашай гаспадыні Агрыпіны Іванаўны, падзякуем ёй за такую багатую гасціннасць. І адпачасова пажадаем самі сабе, каб мы ўмелі добра працаваць і ўмелі таксама добра адпачываць.

— Правільна! — гукнуў Жарнавік, у якога ўжо, як кажуць, дыміла пад чупрынай. Зазвінелі пад пальцамі струны гітары, і з першага акорда з вуснаў Жарнавіка палілася песня:

Мой костер в тумане светит,
Искры гаснут на лету...

Фядора Антонаўна замерла, гледзячы на Жарнавіка, і слухала, быццам яна першы раз у жыцці чула ігру на гітары. Агрыпіна, Рыбін, Вера Ігнатаўна і Саша падпявалі Жарнавіку. Покуцевы ражок стала маўчаў.

У дзвярах раптам грукнула, і знянацку, як ламавік, уваліўся Васіль Чаравака.

— Чэсць чэснай кампаніі,— кланяўся ён, зняўшы абсмалены сонцам саламяны капялюш.

Чаравака кланяўся і размахваў капелюшом, быццам падмятаў падлогу. Усе зразумелі, што Чаравака «пад мухай», і нават не малой. Агрыпіна паставіла яму табурэтку побач з сабой і запрасіла сесці. Ён сеў і пачаў цалаваць Агрыпіну.

— Наш партызанскі інспектар... Дарагая Агрыпіна Іванаўна, з табою жыць і паміраць. З вострава свайго еду і іду. Наплакаўся там, пагуляў з дзядзькамі на беразе. Рыбкі паелі ўсмак. На востраве толькі тры вярбы, тры вярбы, як сіраты...

— Выбач, Васіль Пятровіч, гарэлкі ўжо няма, выпілі. Трэба было раней. Ды ты ўжо недзе набраўся.— Агрыпіна ўзяла яго за чуб і патрасла.— Хочаш, я пасцялю табе ў сенцах. Ляжаш, выспішся.

— Спаць? Не... Дзе Сцяпан Пятровіч? Пайду да яго.

— Вася, Вася, ідзі ляж...— упрошваў Малашкін.

— Іду, іду... цябе паслухаю... Ах, гэта Саша... «Плакала Саша, как лес вырубали...»

І Чаравака пацалаваў і Сашу ў шчаку. Прабраўся, спатыкаючыся, да выхаду, і Агрыпіна павяла яго ў сенцы. Калі яна вярнулася, госці ўсталі і пачалі развітвацца. Агрыпіна шапнула Сашы астацца. І Саша, выйшаўшы ра-

зам з усімі, недзе знікла. Жарнавік сказаў Агрыпіне, што пойдзе да маці Платона Грушкі і там заначуе. Павінен днямі прыехаць Платон.

Фядора Антонаўна, выходзячы, усё галёкала, хапалася рукою не за Чухноўскага, а за капітана Рыбіна.

— Ох, падаю!.. Пётр Іванавіч, Пётр Іванавіч, ратуйце! Ох!

Чухноўскі трымаў яе пад руку, а яна ўсё вырывалася ад яго і цягнулася да Рыбіна. А Рыбін вёў пад руку Веру Ігнатаўну. Яны ішлі спакойна і аб чымсьці ціха гутарылі. Машыны рушылі. Агрыпіна памахала ўслед. Праязджаючы паўз хатку Платона Грушкі, убачылі чорнага колера машыну ля весніц. Малашкін пазнаў машыну Кляновіча і пашкадаваў у душы, што ён едзе ў Азярышча.

Ужо сцямнела зусім, калі прыехалі дахаты. Машына Малашкіна пайшла да кватэры, а Рыбіна спынілася ля ўпраўлення. Рыбін і Вера Ігнатаўна выйшлі з машыны.

— Дазвольце правясці вас?..— сказаў Рыбін.

— Калі ласка,— адказала Вера Ігнатаўна.

Яны ішлі да доміка, дзе ўнутры падворка над ганачкам звісала плакучым голлем бяроза. Там спыніліся. Трэба развітвацца. Першая руку падала Вера Ігнатаўна, сказаўшы:

— Дзякую, што правялі...

Рыбін трымаў яе руку ў сваёй доўга, гаварыў абы-што, а потым наблізіў да сябе гэтыя раскошныя грудзі і прыпаў да іх. Вусны шукалі яе вуснаў. А яна трапяталася ў яго руках, як злоўленая птушка, вырывалася, аж пакуль ён не саступіў на адну сходку ганачка ніжэй і не махнуў ёй шапкаю на развітанне...

## АГЛЯД НЯВЕСТКІ

Кляновіч урэшце набраўся рашучасці і паехаў у Мінск — штурмаваць.

Ён у свой час заходзіў да міністра сельскай гаспадаркі — высокага танклявага чалавека з сялянскім тварам — і выкладаў яму свае планы пра Серадзібор. Міністр сказаў, што ён у прынцыпе не супраць намераў Кляновіча, але для гэтага яшчэ не наспелі ўмовы. Кляновіч адказаў, што, каб здзейсніліся яго планы, трэба толькі згода міністэрства, урада і ЦК. Рэшту зробяць чалавечыя рукі. Накіраваўся ён да міністра і цяпер.

Міністр паціскаў плячыма і маўчаў. Потым скрывіўся, нешта шукаючы ў шуфлядзе стала, і прабубніў:

— Падыдзеце да Зашчамілы. Узгодніце з ім. Справаю севазваротаў, угнаеннем глебы, як вам вядома, займаецца ён.

Кляновіч да Зашчамілы не пайшоў, а накіраваўся адразу да новага старшыні Савета Міністраў. Гэта быў чалавек сярэдніх год і сярэдняга ўзросту, з зачэсанымі назад чорнымі валасамі, інтэлігентны і вельмі ветлівы, што Кляновіча адразу ўзрадавала.

Гаварылі нават доўга. Кляновіч выкладаў свае прынцыпы севазваротаў у Беларусі, свой план узорнай гаспадаркі ў палескім сяле, якое завецца Серадзібор.

Кляновіч выняў з бакавой кішэні касцюма глебавую карту сваёй вобласці і разгарнуў перад старшынёй.

Пасля разгляду карты старшыня падняў галаву і, пазіраючы на Кляновіча, спытаўся:

— Добра... А што для гэтага трэба?

— На першы пачатак — два экскаватары і гідраінжынер.

— Гм...— задумаўся старшыня і пасля прамовіў: — Што да інжынера, то ў гэтым цяжкасцей не будзе, а вось экскаватары... не ведаю. Але перш трэба пагаварыць з сакратаром ЦК.

І старшыня зняў трубку.

Ён падрабязна расказаў пра ўсе меркаванні Кляновіча, а потым маўчаў — слухаў адказ.

Паклаўшы трубку, старшыня сказаў:

— Вам пашанцавала. Сакратар ЦК поўнасцю на вашым баку. Ён ведае вас, вашу справу з мінулых год, чаго, дарэчы, я яшчэ не ведаю, і кажа: абы толькі была хоць найменшая магчымасць, трэба падтрымаць такія мерапрыемствы. Для Беларусі гэта асабліва важна. Экскаватары можна ўзяць у балотнай станцыі. Яны стаяць пакуль што без работы. Гідраінжынера мы вам дамо. Аграном, кажаце, там у вас харошы... Ды яшчэ маеце мясцовага вучонага... Вось так...— старшыня ўсміхнуўся і накідаў самапіскай распараджэнне міністру сельскай гаспадаркі. З распараджэннем у руках, з лёгкай душою пайшоў Кляновіч да міністра.

Штат міністэрства сельскай гаспадаркі яшчэ поўнасцю не быў укамплектаваны. І таму аддзел механізацыі сельскай гаспадаркі вёў той жа Зашчаміла.

Калі міністр пазваніў яму, каб выдаць Кляновічу два экскаватары, той адразу адказаў:

— Гэтага не было і не будзе. На забаўкі тэхніка не даецца. А меліярацыю мы правядзём без Кляновіча.

Міністр зноў пазваніў і пасля новай спрэчкі сказаў, што ён дзейнічае на аснове распараджэння старшыні Савета Міністраў і што копія распараджэння зараз будзе даслана.

Зашчаміла адказаў, што распараджэннем можа Кляновіч любавацца, колькі ён захоча, а ён, Зашчаміла, пойдзе да старшыні Савета Міністраў і даб'ецца ліквідацыі загаду.

Міністр сказаў Кляновічу.

— Ідзіце ў ЦК, да другога сакратара, а я пазваню старшыні Савета Міністраў.

Так Кляновічу давялося разам з другім сакратаром ЦК пабываць у першага. Першы сакратар змусіў Зашчамілу зараз жа выдаць у распараджэнне Кляновіча два экскаватары.

І вось Кляновіч сядзіць у Серадзібары, у невялічкай, нядаўна адноўленай гасцініцы, і чытае меліярацыйную літаратуру. Ён мог бы жыць у Платона Грушкі, але нязручна: хата невялікая, і Грушка прыехаў з жонкаю. К таму ж там пасяліўся Жарнавік, якому адвялі ложак у каморы.

* * *

Над Жарнавікам навісла небяспека — могуць выключыць з рэдакцыі. І Кляновіч, і Грушка, і ён, Жарнавік, прысутнічалі ж на абароне дысертацыі Зашчамілам. Быў і рэктар сельскагаспадарчай акадэміі Фёдар Раманавіч Капля. Сядзелі і слухалі, як Зашчаміла гнусавым голасам чытаў: «Партыя і ўрад і асабіста таварыш Сталін вельмі многа ўдзяляюць увагі жывёлагадоўлі, у прыватнасці каровам. Партыя і ўрад вельмі прыглядаюцца да гэтай справы і накіроўваюць нашу думку на яе дэтальную распрацоўку. (Зашчаміла выпіў крыху вады з шклянкі.) Сярод многіх пытанняў з гэтай вобласці немалаважнае месца займае такое, як «Заканамернасці каровячай жвачкі». Такая тэма маёй дысертацыі».

«Дзіўны лёс анатоміі ўсякай жывёліны,— працягваў чытаць Зашчаміла,— а асабліва жывёл малочных, а тым больш такой жывёлы, як карова, якая корміць, гадуе нашых дзяцей — будучыню нашага народа. Вось чаму пар-

тыя, урад і асабіста таварыш Сталін так многа аддаюць увагі каровам». (Зашчаміла зноў выпіў крыху вады са шклянкі і кашлянуў.)

«Дык вось,— працягваў Зашчаміла,— мне ў працэсе працы над дысертацыяй мае сябры паднеслі кніжачку Дзікунса — «Клуб Піквіка». (Нехта крыкнуў з залы — «Дзікенса»!)

— А я як сказаў? — спытаўся Зашчаміла,— я ж так і сказаў.

— Вы сказалі — «Дзікунса»! — паўтарыў той жа голас. І гэта быў голас Жарнавіка.

— Магчыма... Ну, што ж,— памыліцца можна — значыць, Дзіканса. Добра, паправім, дзякую... Вось у гэтай кнізе Дзіканса гаворыцца, як адзін вучоны гэтага клуба тварыў тэорыю «скоку жабы». Скоку жабы! — падкрэслена крыкнуў Зашчаміла. У Англіі ўжо ў дзевятнаццатым стагоддзі былі вывучаны заканамернасці нават скоку жабы, а царская Расія не змагла дабрацца да такой важнай жывёліны, як карова, каб вывучыць заканамернасці яе ж жвачкі... (Зашчаміла з пагрозаю памахаў пальцам у паветры.)

Кляновіч, Грушка, Жарнавік падняліся і выйшлі з залы. Крыху пачакаўшы, выйшаў і рэктар Фёдар Раманавіч Капля. Ён не выходзіў пасярэдзіне залы, як тыя трох папярэдніх, а ішоў пры сцяне, крыху ў цень, бо ведаў, што розныя вочы будуць глядзець на яго — не толькі спрыяючыя, але і наадварот.

Уся канферэнц-зала акадэміі навук была перапоўнена. Гэта нават цешыла Зашчаміла, казытала яго самалюбства. Калі ж ён, прыўзняўшы голас, сказаў з пафасам, і зноў махаючы пальцам у паветры, «што ў нашай краіне кожнаму адкрыты ўсе дзверы для навукі, якая здольна і здолее вывучыць не толькі заканамернасці каровячай жвачкі, але і заканамернасці жвачкі свінні, курыцы, вераб'я і нават таго чарвяка, што поркаецца ў зямлі і разрыхляе нам глебу», нехта ў зале ляснуў у далоні, хацеў падняць зал на шумныя воплескі, якія павінны былі выразіць захапленне эрудыцыяй Зашчамілы. Зала, як загіпнатызаваная, маўчала. І ў гэтым маўчанні нехта мітусліва паўтараў: «Свіння, курыца — гэта ж не жвачныя жывёліны... Што ён пляце?» А другі адказваў: «От, маўчы...»

Хто ж гэта там так захапіўся нязведанымі нетрамі эрудыцыі Зашчамілы, што аж запляскаў у далоні? Усе людзі ў зале павярнулі галовы ў бок плесканіны і ўбачылі каму знаёмага, каму не, з салодзенькім тварам, са жвавымі шэ-

рымі вачыма супрацоўніка сельскагаспадарчага інстытута акадэміі па прозвішчу Цярусілка. Хто яго ведаў, адразу сказаў: «А, гэта Цярусілка... Зразумела...» Ён, аказваецца, павінен выступіць апанентам.

Ніхто не выходзіў з залы. Усіх ужо цікавіла, што скажа гэты Цярусілка. І хутка дачакаліся.

Цярусілка, узышоўшы на трыбуну, перш за ўсё выняў з кішэні вялікую насавую хустачку і ўзмахнуў ёю над трыбунай, а потым, як наогул прыстала работніку акадэміі, ачысціў нос, ды так гучна, што ўсім здалося — недзе рыпнулі рассохлыя вароты. Схаваўшы хустачку ў кішэню, Цярусілка храбра ўзняў галаву, і слухачы пачулі з вуснаў апанента пранізлівы крык. «Ну, і галасок,— пайшлі перашэпты ў зале,— як пажарная труба».

Цярусілка ў расшпіленым касцюме гаварыў, паварочваючы сваё тулава то ў адзін бок, то ў другі і амаль увесь час не адымаў рукі ад акуляраў.

— Падумайце ж, якая адвага! Якая эрудыцыя! Каб дайсці нават да такой тэмы, як заканамернасці каровячай жвачкі! Такая адвага спадарожнічае не кожнаму. Гэтая праблема, узнятая Фёдарам Арцёмавічам, яшчэ не выплывала ў нашым інстытуце на парадак дня. А трэба сказаць, што гэта, разумееце... разумееце... важная праблема...

Тут Цярусілка матнуў галавою, выпучыў грудзі і змоўк, гледзячы на залу, каб схапіць, якое ўражанне зрабіла яго гарластае выступленне.

— Мы можам... разумееце...— Цярусілка раптам суцішыў голас, які гучаў ужо саладжава,— мы можам толькі дзякаваць Фёдару Арцёмавічу за тое, што ён узбагаціў нашу навуку новым, няведаным дагэтуль, даследаваннем, якое будзе... разумееце... будзіць... (Цярусілка аж прысеў і тупнуў нагою.) Так, будзіць! Нашу творчую навуковую думку!..

Цярусілка скончыў. Адразу пачаўся шум. Людзі ўставалі і наступам выходзілі з залы.

Калі дагэтуль буфет акадэміі быў пуставаты, то пасля выступлення Цярусілкі ён запоўніўся амаль што да краёў і шумеў рознагалоссем па ўсіх кутках. Кляновіч, Грушка і Жарнавік сядзелі пры сцяне за асобным столікам. Недалёка ад іх пры гэтай жа сцяне сядзеў Фёдар Раманавіч Капля. Спярша ён сядзеў адзін, неяк невясёла паглядаючы ў акно. Калі падышла да яго дзяўчына падавальшчыца, ён сказаў: «Шклянку чаю і больш нічога».

Жарнавік усё ж такі адарваўся ад сяброў, пакінуўшы

свой партфель на крэсле, і, стоячы ў дзвярах, слухаў выступленне Цярусілкі. У цішыні дыкцыя яго гарластага голасу была настолькі моцнай, што Кляновіч, Грушка і рэктар Капля чулі амаль усё, седзячы на сваіх месцах. Слухаючы, Кляновіч, Грушка пераглядваліся між сабою і зняважліва ўсміхаліся. Рукі рэктара Каплі былі лакцямі абапёрты на стол, і ён час ад часу з непакоем паціраў іх адна аб адну так, як быццам мыў іх пад кранам. Здавалася, што ён зараз сарвецца з крэсла, пабяжыць у залу і крыкне: «Не смець крыўдзіць і апашляць навуку! Не смець!»

Але рэктар з пасярэбранаю галавою не зрываўся. Толькі часам крыху ёрзаў у крэсле, і Кляновіч з Грушкам чулі скрып гэтага крэсла. Прыляцеў Жарнавік, распалены на шчоках, грохнуўся ў крэсла і абхапіў галаву рукамі. Потым выпрастаўся і прамовіў:

— Не магу! Душыць! На ваніты бярэ!..

Дзяўчына прынесла ім бутэльку каньяку, а потым закуску. Думалі, ці запрасіць рэктара, ці не. Усе разумелі, што абставіны не дазваляюць на гэта. Але Грушка ўсё ж такі падняўся, падышоў да Фёдара Раманавіча і пакланіўся.

— Фёдар Раманавіч, можа вы рады былі б пабыць з намі за адным сталом? Ад імя ўсіх запрашаю.

— Дзякую, голубе. Дзякую, Платон Максімавіч. У другім месцы — з ахвотай. А тут — устрымаемся. Не непакойцеся, я разумею ўсё... Дзякую.

Грушка пакланіўся і адышоў. Хутка да рэктара Каплі падышлі з папкамі пад рукамі два вучоныя і, прывітаўшыся, занялі месцы. Між імі пачалася ціхая гутарка.

...Буфет шумеў. Дзяўчаты падавальшчыцы, як сарокі, peралятaлі з аднаго канца ў другі, абслугоўвалі гасцей. Усе былі заінтрыгаваны вынікам галасавання адукацыйнай камісіі. Ці пройдзе Зашчаміла са сваёю жвачкай у кандыдаты, ці не?

Кляновіч і Грушка, ведаючы склад камісіі, былі ўпэўнены, што пройдзе.

Галасы ў буфеце раптам прыціхлі і замест іх пачуліся моцныя шэпты: «Ідуць... Ідуць...» А потым: «Прайшоў...» Жарнавік падскочыў да недалёкага стала і там сеў побач са сваім супрацоўнікам з рэдакцыі, ад якога і даведаўся, што Зашчаміла сапраўды прайшоў, але толькі большасцю на адзін голас. Жарнавік вярнуўся і сказаў пра гэта Кля-

новічу і Грушку. Жарнавік адышоўся назад да свайго супрацоўніка, каб пачуць сякія-такія падрабязнасці.

Там вось і здарылася тое няшчасце для Жарнавіка. На ліхую бяду, недалёка сеў сам Зашчаміла, усхваляваны, распалены, як пасля лазні. З ім сеў Цярусілка і яшчэ нейкі нізкі чалавечак з чорнымі валасамі.

Жарнавік са сваім супрацоўнікам бачылі, як хутка падышла да іх падавальшчыца і як хутка паставіла ім на стол бутэльку каньяку і закуску. Сяброўская зашчамілаўская тройка пачала частавацца. А потым, неспадзявана для Жарнавіка, Зашчаміла звярнуўся да яго:

— Эй, газяцёр! — крыкнуў ён і махнуў рукою ў бок Жарнавіка.

Жарнавік спачатку не зразумеў, да каго звяртаецца Зашчаміла, і таму спытаўся:

— Гэта вы да мяне?

— Так, так, да цябе...

— У чым справа?

— Вы там апішыце ў газеце як найлепш, а то вы ўмееце заварочваць.

Жарнавік усміхнуўся.

— Добра, апішам, на тое мы ёсць. Пакрытыкуем вас трохі...

— Што? Пакрытыкуем? Гэта, здаецца, Жарнавік?

— Так, Жарнавік...

— Ты знаёмы ўсім за свой язычок. Глядзі, каб па хвасце не палучыў.

Жарнавіку хацелася сказаць, каб ён яго не тыкаў, але падумаў — чорт з ім — гэта таўстаскурая істота, нічога з ёю не зробіш. Замест гэтага сказаў:

— Не бойцеся, таварыш Зашчаміла... Мы вас трохі пад'языкуем. На ўсё ў нас мера...

— Ты шчанюк, каб мяне пад'языкоўваць. Ідзі пад'языкуй сваю бабку...

Шчокі Жарнавіка ўспыхнулі, і ён устаў.

— Я прашу вярнуць вашы словы назад! — на ўсю моц свайго голасу сказаў Жарнавік.

— Вунь чаго ён захацеў... Вярнуць назад. Як гэта цябе трымаюць дагэтуль у рэдакцыі, бадзягу такога...

Людзі ў бліжэйшым наваколлі прыціхлі і пачалі сачыць за перапалкай паміж Зашчамілам і Жарнавіком.

— Я не бадзяга! Як вы пасмелі?

— Бачылі, як ён ерапеніцца? — паказаў сваім сябрам на Жарнавіка Зашчаміла,— сапраўдны галапуп.

І Зашчаміла засмяяўся.

Ніхто не чакаў наступнага павароту справы. Не чакаў і сам Жарнавік. Рукі схапілі талерку гарачага супу, што стаяла перад яго супрацоўнікам, і талерка ў адно імгненне перавярнулася ўверх дном над галавою Зашчамілы. Адначасова людзі пачулі крык: «Ты ашуканец, а не вучоны!» Струменьчыкі з бульбаю, крупою пацяклі па валасах, па носе, сцякалі на плечы, на касцюм нованароджанага дысертанта. Зашчаміла кінуўся ў бок Жарнавіка з кулакамі, але сябры — Цярусілка і нізкі чалавечак з чорнымі валасамі — схапілі яго за рукі вышэй лакцей і пасадзілі на крэсла. Некалькі бульбінак, прыліплых да валос, яшчэ ляжалі на сярэдзіне галавы. Цярусілка выняў сваю вялікую насавую хустачку, хацеў абцерці Зашчамілаву галаву, але тут падаспела падавальшчыца і пачала белай палатнінкай прыводзіць Зашчамілу ў нармальны выгляд.

Жарнавіка ў буфеце ўжо не было. Ён паехаў у рэдакцыю, узяў камандзіроўку на месяц у свой раён і адразу пайшоў на вакзал. Недзе на сярэдзіне дарогі, ужо ўвечары, ён выпадкова сустрэўся ў поездзе з Кляновічам, Грушкам. Апошні ехаў з жонкаю. Такім чынам, разам з імі Жарнавік дабраўся да свайго Азярышча.

Яшчэ звечара, як толькі прыехаў Платон Грушка, яго маці Аляксандра няўзнак прыглядалася да жонкі свайго сына — Марыі — і часам пацiскала плячыма. Статная то статная, грудастая — усё як след. Але... чагосьці не хапае. Нешта ў вачах не тое, што трэба было б яму, Платону,— ды не толькі яму. Як гэта назваць, Аляксандра не магла прыдумаць.

У сенцах стаяў амаль поўны мяшок старое бульбы — уся рэшта, выбраная з ямы. Трэба было паставіць мяшок на лаўку, і Аляксандра бачыла, як Марыя падняла яго адной рукою, як, скажам, вядро вады, і паставіла. Потым пачала набіраць бульбу ў кошык. Аляксандра нават хацела пляснуць у далоні ад здзіўлення. Яна ўсё ж такі не змоўчала і сказала:

— Ці ты здурнела — падымаць адна? Ды яшчэ адной рукою? Хіба няма каму памагчы? Можаш падарвацца.

— Ат,— махнула Марыя рукою,— мне гэта ані кальвечка не цяжка...

Свякроў і нявестка селі на ўслончык на падворку і пачалі чысціць бульбу на вячэру.

Аляксандра думала пра такую сілу Марыі і захаплялася. Але нейкае «але» ўсё ж яе пасцярожвала. Платон кво-

лы, заняты ўвесь час навукамі, а яна, мусіць, малапісьменная, нічога не ведае і ведаць не хоча. Вось бы ёй на зямлі працаваць, дзе такая сіла магла б цуды рабіць. А Марыя ўжо нідзе не робіць,— вядома, жонка вучонага.

Платон з Кляновічам пайшлі яшчэ недзе з абеду на возера і раскашуюцца ў лодцы з вудамі. Павінны хутка прыйсці. Жарнавік пайшоў у Жыліны па сваіх карэспандэнцкіх справах. Можа там і заначуе, бо знаёмых у яго ўсюды хапае.

Аляксандра з Марыяй згатавалі вячэру багатую і смачную. Гэта нібы мелася быць вясельная бяседа ў гонар Платона і Марыі. Прыйдуць — стары Несцер, Даніла з Кацярынай, а можа, нават і сама Тэкля. Прыйдзе аграном Пяхота з жонкай. Трэба ж, відаць, паклікаць і Вераб'я. Ён жа старшыня. Хай будзе, ліха з ім. Калі падвернецца Бабёр, і яго трэба паклікаць.

Так меркавала Аляксандра, гатуючы вячэру, і шкадавала, што няма Малашкіна. Быў жа вось учора, але размінуўся з Платонам і Кляновічам. А можа, і ён пад'едзе?

Ночы былі ўжо кароткія, і таму «вясельная бяседа» пачалася завідна. Многа смяяліся, жартавалі, толькі ўсім кінулася ў вочы, што маладая не жартуе, нешта невясёлая. Толькі калі Верабей сказаў «горка», маладажоны змушаны былі два разы пацалавацца. За пацалункамі сачыла сама Аляксандра і запрыкмеціла, што яе Платон не ўмее як след цалавацца. Падумала: «Ну, што ж, вучоны... Дзе яму там да тых пацалункаў?» І зноў душу заскрэбла нешта неспакойнае.

Марыі — хоць бы што. Толькі весялела з твару і добра ела. Яе моцныя прыгожыя рукі, голыя да локцяў, прыкоўвалі ўвагу ўсіх. У Вераб'я ўжо салавелі вочы. Гэта заўважыла Сцепаніда і пачала хмурыцца.

Стары Несцер вёў гутарку з Кляновічам і адным вокам назіраў за Марыяй. «Моцная, ладная дзяўчына,— меркаваў ён,— але ці здолее Платон з ёю жыць? Боязна, каб не было, як у той прымаўцы,— хто ў лес, а хто па дровы».

Калі ўжо добра сцямнела, Сцепаніда падняла свайго Вераб'я на ногі, падзякавала за сябе і за яго і пацягнула за парог — дахаты. Услед за імі, крыху пачакаўшы, пайшлі стары Несцер і Даніла з Кацярынай. Разам з імі, закурыўшы сваю адмысловую люлечку, падаўся і аграном Пяхота са сваёй ціхай, непрыкметнай жонкай Аленай, у якой быў такі выраз смуглявага твару, быццам яна ўвесь час збіралася прасіць у кагосьці прабачэння.

Усе, адыходзячы, жадалі маладым шчасця і дзякавалі гаспадыні-маці.

Хацеў ісці ўжо і Кляновіч, але Грушка яго затрымаў, сказаўшы, што яшчэ рана, што ёсць аб чым пагаварыць. Заўтра трэба праехаць далёка па канале на ўсход і праверыць лясныя паляны, каб наладзіць там летнія стойлы каровам. Пра гэта гаварылася даўно, але забылася. І вось Грушка хоча напомніць.

Адчынілі шкляныя дзверы на ганак, каб праветрыць хату, і самі выйшлі падыхаць свежым паветрам. Было ціха, цёпла. За белымі хмарамі блукаў сонны імглісты месяц. Добра было сядзець на лавачцы сярод серадзіборскага зацішша, поўнага месячных ценяў і лясных пахаў.

...Спіць Платонава маці Аляксандра і чуе праз сон, што недзе нехта таўчэ крупы ў ступе або кавалі б'юць далёка ў кузні. Стукі то сціхаюць, то пачынаюцца зноў. І хатка, гэтая старая хатка, проста трасецца. Ды сон пасля ўчарашняй вячэры, дзе прыйшлося «патанцаваць», бярэ сваё, і Аляксандра зноў нічога не чуе. Але стукі не сціхаюць, падыходзяць блізка і нанова будзяць Аляксандру. І ўрэшце збудзілі зусім. Утульнае адзінокае акенца, якое глядзела на вуліцу, іграла ценямі ад бярозы і таполі, што шумелі за хляўцом. На іх пырснулі раннія праменні сонца і кінулі на пясчанай вуліцы халодныя цені наўскасяк.

Аляксандра ўжо з расплюшчанымі вачыма слухала стукі. Нехта хадзіў з пярэдняй палавіны хаты на кухню і назад — бох, бох, бох...

Аляксандра ўстала са сваёй «вечнай» ляжанкі і расхінула каляровую заслону. Марыя збірала са сталоў пакінуты ўчора посуд і насіла на кухню.

Аляксандра выйшла, памылася ля вядра. Уціраючыся ручніком, спыталася ў Марыі, дзе Платон.

— Паехалі ўжо з Кляновічам...

— Мусіць, ты яго збудзіла. Але і ходзіш ты, галубка, як той салдат,— як мага лагодней сказала Аляксандра.

— Хаджу так, як ужо мне бог даў,— адказала Марыя і пабохала зноў браць посуд.

У адказе Марыі ўсё ж такі адчуваліся ноткі крыўды.

— А ты, Марыйка, не крыўдуй. Ведаю, у сяле вырасла. Бог, дзякаваць яму, здароўем цябе не пакрыўдзіў. Можа, і нічога, калі яшчэ па глінянай падлозе, а па драўлянай — бачыш, як усё трасецца.

— У нас, праўда, была гліняная падлога ў хаце.

— А на кані верхам ездзіла?

— О, яшчэ як!
Абедзве — свякроў і нявестка — засмяяліся.
— Дай я табе памагу,— сказала свякроў.
— Не, не трэба, я сама ўсё зраблю.
— Рабі, а я пайду пасяджу крыху на прызбе, нешта ў мяне галава баліць.
Яна выйшла, села і, абапёршыся шчакою на руку, глыбока задумалася.

## Раздзел другі

## ПАЧЫНАННІ ВУЧОНЫХ

Нарэшце ў Серадзібор з грукатам, лязгам з'явіліся яшчэ нябачаныя тут дзве жалезныя дзюбатыя машыны — два экскаватары. Пасля іх неўзабаве прыехаў разам з Малашкіным жвавы малады чалавек — гідраінжынер Грыбавец Аляксандр. У адной руцэ ён трымаў партфель, а ў другой — штаціў для тэадаліта. Сам тэадаліт ляжаў асобна ў скураной сумцы, якая вісела ў інжынера цераз плячо.
Пры такой для Серадзібора — ды не толькі для яго — падзеі павінен быў бы прыехаць і Чухноўскі, але ён паехаў у Жыліны чытаць сялянам лекцыю аб дыялектычным матэрыялізме.
Малашкін перад ад'ездам папрасіў у яго тэкст лекцыі — прачытаць. Чухноўскі абурыўся:
— Ты што — мне не давяраеш? Я так працаваць не магу.
— Лепш бы ты расказаў людзям, што ўжо зроблена ў раёне пасля вайны, колькі сем'яў перайшло з зямлянак у новыя хаты, як асвойваюцца землі, як развіваецца жывёлагадоўля, якія калгасы вылучаюцца, ідуць наперадзе, а якія слабыя, нядужыя, аб перспектывах раёна расказаў бы. З гэтага напэўна быў бы толк. А так... будуць пазяхаць і спаць на тваёй лекцыі.
— Ты наперад не забягай... Як яно што будзе...
— Звязваць цябе не буду. Пераканаешся сам. Будзь пэўны, што ад тваёй лекцыі аўтарытэту для райкома не прыбудзе. Трэба нам варушыць моладзь, актывізаваць камсамол. Трэба падумаць пра семінар на тэму аб прыро-

дазпаўстве, аб атэізме. Падумаць аб падборы лектараў, адкуль іх узяць, каб выкладалася як найбольш проста, папулярна...

Малашкін гаварыў, седзячы за сталом, і бачыў, што Чухноўскі слухае яго толькі для прыліку, але, не гледзячы ні на што, гаварыў далей,— роўным, спакойным тонам:

— Я буду наконт гэтага раіцца ў абкоме. Вядома, у абкоме згодзяцца са мною, памогуць. Трэба нам Колю Мілаша и Серадзібора ўвесці ў апарат райкома камсамола. Хлопец харошы, вытрыманы, нават і начытаны крыху. З яго можа выйсці толк. Ён нам многа памог у барацьбе з ворагам, з паліцаямі і наогул у станаўленні калгаса. Цяпер ён там брыгадзір па нарыхтоўках угнаенняў. Гэта важная праца, і аграном Пяхота вельмі задаволены ім. Яны разам з Несцерам выбралі дзесяць гектараў зямлі і засеялі яравой пшаніцай, якая ніколі не сеялася ў Серадзібары.

— І правільна. Гэта — марнаванне зямлі. Палучыце пачастунак ад абкома,— сказаў Чухноўскі і дадаў: — Але я да гэтага сваіх рук прыкладаць не хачу.

— А я табе раджу, Пракопавіч, усё ж такі пачытаць крыху агранамічнай літаратуры. Не пашкодзіць. Мяне заразілі ёю Кляновіч і Грушка. Я і цяпер яе чытаю.

— Ты мяне не вучы, што чытаць. Я не хлопчык.

Малашкін устаў.

— Вось так. Рыхтуйце свае меркаванні наконт семінара для моладзі, а я паеду па раёне. Прабуду, можа, два, тры дні. Экскаватары прыйшлі ўжо. Трэба ехаць.

Потым звярнуўся да Післяка:

— Ты, Рамаша, пастарайся накідаць план семінара. Вярнуся — разгледзім. Ну, пакуль што...

Так, экскаватары прыйшлі. Памаглі гутаркі Малашкіна па тэлефоне з абкомам і нават з ЦК. Бо нехта ў Мінску ўсё ж такі «націскаў на тармазы». Аднаму Кляновічу было вядома, хто.

Кляновіч, Грушка, гідраінжынер Грыбавец селі ў Кляновічаву машыну, а Малашкін узяў з сабою старога Несцера і агранома Пяхоту. Так і паехалі ўздоўж канала на захад, насустрач плыні. Хацелі ўзяць з сабою і Вераб'я. Ён жа старшыня калгаса. Але Сцепаніда сказала, што яго няма дома, невядома, дзе падзеўся. Брыгадзір першай брыгады Даніла даўно пайшоў пехатою да тых далёкіх непраходных хмызоў, якія сваёй дрыгвою зусім знявечылі канал.

Уся задача задуманай асушкі заключалася ў тым, каб ад старога канала пракапаць канал на поўдзень да рэчкі Пагулянкі, якая за кіламетраў пяць-шэсць цячэ ў тым самым напрамку, што і канал. А потым адначасова прачысціць і гэты стары канал, праведзены яшчэ экспедыцыяй генерала Жылінскага. Тады вада сойдзе з вялікіх прастораў, што зараслі хмызамі, і сотні гектараў тарфяной зямлі стануць прыгоднымі для апрацоўкі. Важна зведаць рэльеф мясцовасці — ці пацячэ вада па новым канале на поўдзень. Калі рэльеф пакажа, што вада пацячэ наадварот, на поўнач, давядзецца стары канал прачышчаць глыбока, бо тады нейкая частка вады паплыве з Пагулянкі ў яго. Прыйдзецца абодва экскаватары спярша паставіць на канал. Трэба праверыць, прайсці пехатою аж да Пагулянкі. Як прайсці, каб не ўваліцца ў дрыгву, пакажа стары Несцер. Ён гаворыць інжынеру, што вада па новым канале паплыве на поўдзень, бо рэчка Пагулянка цячэ ў лагчыне. Інжынер толькі адказаў: «Не, бацька, без праверкі нельга. Вядзіце».

* * *

Гідраінжынер Грыбавец па праверцы сцвердзіў тое самае, што казаў стары Несцер. Грыбаўца называюць проста меліяратар. Спрошчваюць, вядома. Грыбавец мае вышэйшую гідраінжынерную адукацыю. У яго ўжо дзе-нідзе пракінуліся серабрынкі на скронях.

Ён хоча праверыць узровень серадзіборскага возера і разабрацца, чаму стары канал Жылінскага, уліўшыся ў возера, не панёс ваду далей, а павярнуў управа і пацёк на паўднёвы ўсход?

Грыбавец плаваў на лодцы па возеры і апускаў меркі да самага дна. Возера, дзе ўпадае канал, вельмі заіленае. Дно ўсходняга берага, куды з узвышша спускаюцца агароды, пескавое і неглыбокае. Калі ж Грыбавец вылез з лодкі і пайшоў па канале далей на паўднёвы ўсход і ўбачыў, што налева цягнуцца палеткі і баравыя лясы, а направа мокрыя балотныя сенажаці, яму стала ўсё зразумела. Ён прызнаў інжынераў генерала Жылінскага кампетэнтнымі і радаваўся за іх. Ён у прысутнасці Малашкіна, Грушкі глядзеў на поўдзень, на неабдымныя прасторы мокрых сенажацей, і ўрэшце сама рука паднялася і зняла з галавы капялюш перад веліччу першабытнага царства прыроды. Тут хацелася сказаць: «Добры дзень, зямля!

Мы вітаем цябе ў тваіх маладых абрысах, якія выклікаюць захапленне, задуму і радасць за твой заўтрашні дзень!»

— Дайце карту на мінутку! — звярнуўся Грыбавец да Грушкі.— Пакажыце мне гэтую мясціну.

Ён глянуў на карту, правёў у адным месцы пальцам і са здзіўленнем падняў галаву.

— Куды ж плыве гэтая ваша рэчка Пагулянка? — запытаўся ён.

— Плыве аж у Прыпяць, робіць, пятляючы, больш трохсот кіламетраў,— адказаў Грушка.

— Хо-хо-хо... Там, дзе экскаватар, яна чорная, зміяная, у вечным ценю дрэваў, непралазнага кустаўя, абвітая травамі, як ліянамі. Маленькая Амазонка. Але тут вось яна ўжо далёка ад канала. Цяпер вам яшчэ цяжка прабіцца каналам да яе. Сенакосы былі б тут цудоўныя.

— Ведаем, Аляксандр Аляксандравіч,— адказаў за ўсіх Малашкін,— цераз пару гадкоў...— Памаўчаўшы, дадаў: — Ну што ж, няхай цяпер павядзе нас Платон Максімавіч у свае лясныя гушчары.

Усе селі на машыны і рушылі ўздоўж канала.

Калі скончыліся палі, пачаўся сухі пескавы лес. Спыняліся ў тых месцах, дзе лес быў рэдкі, стары, з добраю травою-круглінай пад ценем кроністых сосен і на палянах. Аблюбавалі месцы стойлаў для кароў. Па ўсіх паказчыках Серадзібор можа быць гаспадаркай пераважна жывёлагадоўчай. Падумаць: лесу калгас мае ў пяць разоў больш, як ворнай зямлі, а сенажацей — у тры разы. Толькі каровак няма, адна разнамасцевая драбнота — ні малака, ні мяса.

Сябры разумелі, што для універсальнай гаспадаркі аднаго Серадзібора недастаткова — у ім мала ворнай зямлі. І думкі плылі ў самае палявое сяло Жыліны з Жарабкамі і, вядома, Забівачкамі. Вось каб усё разам. Хоць гэта была і рэальная мара, але ўсё ж такі яшчэ мара. Праўда, Малашкін сказаў, што такія думкі прабіваюцца «не толькі ў нас», але і ў другіх раёнах. Можна думаць, што і ў Мінску пра гэта пагаворваюць. Такія меркаванні, відаць, ідуць з Масквы.

Дарога ўсё больш і больш паварочвала ўлева ад канала, і ўрэшце сябры пакінулі яго і заехалі ў густы сасновы лес. Ён не быў малады. Выносныя сосны, як струны, цягнуліся да белых хмарак, а понізу ў густых травах кусты ляшчынніку мяшаліся з крушынаю, воўчым лыкам, лазою. А там, дзе сосны дружылі з бярозамі, рос ягаднік-чарніч-

нік аж па калені. На ім ужо чарнелі ягады. У сяброў была нават думка спыніцца і паласавацца ягадамі, але трэба было завідна паспець да возера Баравое, на радзіму Васіля Чаравакі.

Дзень хіліўся на вечар. З лесу, з бакавых дарог і дарожак пачалі выходзіць касцы: у лазовых лапцях, мокрыя па калені, загарэлыя, стомленыя. Яны вярталіся з лясных балотных далін. Косы паблісквалі ў іх на плячах. Машыны павольі міналі касцоў, набліжаліся да возера.

Лес пачаў радзець. Сярод старых сосен пракідаліся дубы.

Перасеклі невялікую вёску, якая будавалася, бо немцы спалілі ўсё. Спыніліся на скрыжаванні пескавой вуліцы з дарогай і спыталіся ў пастушка, ці далёка да возера. Хлопчык з пабялелымі ад сонца валасамі адказаў:

— Не, недалёка... будзе якія вярсты чатыры.

— Эх ты, вярста...— прамовіў Малашкін і сказаў Васю ехаць далей. Хацелася зараз агледзець новыя хаты — скончаныя і няскончаныя, але ўсе пагаблёваныя, жоўтыя, накрытыя дзе дранкай, а дзе і гонтамі. Але прыйдзецца адкласці на заўтра, бо цяпер позна.

Дубы ўсё больш і больш пракідаліся сярод сосен. Значыць, бераг будзе сухі.

* * *

Зоры патанулі ў спакойных цёмных тонях і быццам там, на глыбінях, пераглядаюцца, перашэптваюцца паміж сабою. Пад разложыстым старым дубам палае вялікі агонь. Высокае полымя асвятляе нават недалёкія прыбярэжныя чароты направа, крыху ў воддалі. Яны патанулі ў вадзе і стаяць непарушна, не скалыхнуцца. А далей — лясістая, травяная, цёмная глуш пад зорамі. Адтуль толькі птушка часам падасць свой голас і хутка змоўкне.

Навокал агню і дуба насцелена многа асаковага сена, каб мякчэй было адпачываць касцам. Тут жа стаяць два буданы, зробленыя з чароту — слой на слой, мяцёлкамі ўніз, як у хатняй страсе. Шэсць касцоў аблюбавалі тут сабе месца. Іхнія сенажатнія дзялянкі недалёка.

Усе — і касцы, і госці ляжаць пры агні. Госці больш слухаюць, чым гавораць. Гідраінжынера Грыбаўца пачынае адольваць дрымота — разбірае цяпло. Грыбавец толькі цяпер прызнаўся, што ён таксама паляшук — нарадзіўся ў маляўнічым Мазыры.

— Але я сын больш пескавога Палесся,— закончыў Грыбавец.

І вось ён падрэмвае ўжо, сагрэты агнём і закалыханы расказам касца.

А касец расказвае старую быль, як на Палессі паявіліся першыя параходы.

— Гэта было, вядома, даўно, яшчэ далёка да цара Мікалашкі... О, далёка...

Аказваецца, што параходы пабудавалі адразу два купцы. Касец для параўнання і большага ўражання гаворыць:

— Пабудавалі ў адзін час, так, як, скажам, баба блізняты родзіць.

Васіль Чаравака сядзіць, прыпёршыся спіною да дуба, і курыць. Ён усё ж такі не вытрымаў, каб не ўставіць сваё:

— Здорава ты, брат, загнуў... Давай далей.

І касец вёў расказ далей — ужо аб тым, як людзі баяліся садзіцца на параходы, як купцы кінуліся заахвочваць людзей садзіцца. Адзін даваў дваццаць капеек, а другі да капеек дадаваў яшчэ па булачцы.

Параходы стаялі, набіралі людзей — адзін і другі купец стараўся набраць як найбольш.

— Тут ужо ў іх у занос пайшло — ці я цябе, ці ты мяне,— устаўляе дзядзька.

І калі ў другога купца не хапіла булачак, людзі сталі сыходзіць з парахода, а першы купец выкарыстаў гэта і па Піне паплыў у Кіеў. Так і даплыў. Хоць булачак не даваў, а першае месца ўзяў.

Нехта з касцоў адазваўся:

— Бачыш, хітрасць такі мацнейшая за булачкі. Не дурны быў купец.

А хлопец, год васемнаццаці, спытаўся:

— Ну, а што другі купец потым?

— От, гавары дурню. Што — можа, лёг спаць, так як ты спіш, што цябе ўранку хоць бодкаю пары...

Касцы паднялі хлопца на смех.

Усе на момант прыціхлі. Зоры і далей расквечваліся ў глыбінных тонях возера. У набярэжных гушчарах хаваліся туманы, тонкай паволокаю застываючы над водамі.

— Гэта ўсё агітацыя! — крыкнуў другі касец, пераварочваючыся ■ жывата на бок.

— Што — агітацыя? — перапытаў Чаравака.

— А тое, што купцы рабілі,— гэтыя капейкі і булачкі.

— Няхай будзе і агітацыя. Што табе да гэтага? — не змаўкаў Чаравака.

— А тое, што вось да нас кожны дзень у абед прыходзіць агітатар Зося, газету нам прыносіць, чытае. Тут пасля абеду хочацца адпачыць якую гадзінку, а яна табе... абавязацельствы ды абавязацельствы. Там той выканаў, той перавыканаў.

— От, прычапіў кабыле хвост — што і да чаго? — адазваўся першы расказчык.— Што? Хочаш, каб табе Зося булачкі прыносіла?

Каля дуба нехта хіхікаў, баючыся засмяяцца ўголас. Усмешкі застылі і на тварах гасцей. Усе чакалі адказу ад дзядзькі з чорнаю няголенай барадою. Дзядзька адмахнуўся рукою ад першага расказчыка і пачаў гаварыць аднаму Малашкіну:

— Я так думаю, таварыш сакратар, што ў гэтым мала праўды. Вельмі ўжо ўсё лёгка робіцца, як у тае бочкі, што пацілася па дарозе і крычала пра сябе, што яна поўная віна, хоць на самым дзеле...

— А вы што? Супраць агітацыі? — перабіў касца Малашкін.

Той сумеўся, быццам не ведаючы, што сказаць.

— Ды не-е... Чаму проціў? Я толькі за тое, каб яна на нас уліяла. А то — ніякага ўлияння. Зоська як заладзіць пра адны гэтыя абавязацельствы, хоць ты ўцякай... Каб калі хоць прачытала, як дзе людзі жывуць, як дзе праўда на свеце...

Касец з барадою хацеў сказаць пра многае, але яму не хапіла слоў.

Малашкін сказаў:

— Трэба самому чытаць...

— А хлеб хто будзе рабіць за нас? У тым-та і справа. Так што, таварыш сакратар, памажэце — хай Зоська прыходзіць або перад абедам, калі мы...

Чаравака з-пад дуба накінуўся на барадача:

— Ці ж вы самі з Зоськай не можаце дамовіцца?

— Гаварылі. Думаеш, не гаварылі? А то з гэтым агітатарам можа быць так, як некалі з нашым нябожчыкам Пракопам,— не суніМаўся дзядзька.

Малашкін маўчаў, хацеў пакінуць гутарку на заўтра. Змоўклі ўсе. Але Грыбаўцу хацелася ўсё ж такі ведаць, што сталася з нябожчыкам Пракопам, і ён запытаўся пра гэта.

Расказчыка не трэба было прасіць.

— Ого, наш Пракоп ваяка быў немалы. Ён жыў некалькі год у Амерыцы, яшчэ пры цары, і там нахапаўся нейкага нархізму.

— Анархізму,— паправіў Васіль Чаравака.

— Ну, няхай будзе і так,— чорт яго там ведае. Адным словам, Пракоп зненавідзеў папоў і ўсю гэту рэлігію. Як толькі вярнуўся з Амерыкі, кожны дзень угаворваў людзей, каб не ішлі ў цэркаў. У нашым сяле, у другія сёлы хадзіў і ўсё гаварыў адно і тое самае, што гэта ашуканства, нашто слухаць таўстапузых, валасатых. І яму думалася, што ўжэ ён усіх угаварыў. Даволі... людзі не пайдуць у цэркаў. Ну, можа, там бабы...

Усе слухалі дзядзьку з увагай. А ён увайшоў у сваю ролю і гаварыў, не збіваючыся.

— Аж вось надышла сёмуха. Усё помню як цяпер. Мне тады было трынаццаць год. Гэта было недзе ў трынаццатым годзе. Была раніца. Людзі з усіх сёл выязджалі на гасцінец, каб дабрацца да царквы ў Серадзібор. І Пракоп выйшаў на гасцінец, спыняў кожную фурманку і крычаў, каб не ехалі. «Куды ты едзеш, дурны? — крычаў Пракоп.— Крыжа цалаваць? Каб заразіўся! Лепш падымі сваёй кабыле хваста да ў с... пацалуй. Яна цябе хлебам корміць!»

Касцы зараўлі ад смеху. Госці ўткнуліся тварамі ў асаковае сена, і доўга трэсліся іх плечы. Смяяўся і Малашкін і, нарэшце, устаў на ногі.

— Вось якая моцная была Пракопава агітацыя,— сказаў ён,— майстра, адным словам...

— А ўсё роўна, таварыш сакратар, яго не паслухалі. Паехалі ў цэркаў. Вось так і наша Зоська. Хоць дзе ёй да Пракопа...

— А вы цяпер у цэркаў ходзіце? — пытаўся Малашкін.

— Не, даўно не хаджу. Даўно пазнаў, яшчэ на вайне, што гэта ашуканства.

— Значыць, усё роўна вам і Пракопава агітацыя памагла. Вы не забыліся яе і ніколі не забудзецеся. Наша рэвалюцыя, вядома, не адкінула і такой агітацыі. Але... Давайце будзем адпачываць. Дзякуем за гутарку. Спакойнай ночы!

Грыбавец не пайшоў спаць у машыну, астаўся пры агні, Васіль Чаравака таксама згарнуўся пад дубам, накрыўшыся кажушком.

Нехта з касцоў крыкнуў:

— Галаван! Падкінь дроў у агонь!

І малады касец скочыў у бок, дзе ляжалі назапашаныя дровы.

## ПАДЗЕІ НЕ ЧАКАЮЦЬ

На ранак у гэтую надазёрную вёску, якая называлася Баравікі, на спадарожным грузавіку прыехаў Аляксей Жарнавік.

Спадарожны грузавік быў з рыбнай базы, якая мясцілася ў недалёкай вёсцы пры шляху. Там жа праходзіў і той галоўны стары канал. Так што грузавік давёз Жарнавіка блізка да берага, а тады павярнуў направа і пагрукатаў па карэннях глухой узбярэжнай дарогі да рыбацкіх буданоў, каб там нагрузіцца рыбай.

Малашкінская група, без Васіля Чаравакі, стаяла на беразе, ля самай вады, і глядзела, як далёка ў тумане ныралі рыбацкія лодкі і як сонца паволі пачынала кідаць на іх праменні. Воддаль, бліжэй да левага берага, вынырнула і расцягнулася на вялікую даўжыню шырокая палоса зямлі. Гэта і быў востраў Васіля Чаравакі. Ён парос буйною травою і маладымі лазнякамі. Вылучаліся тры гарбы ў высокім бур'яне. Гэта — папялішчы ад спаленых хат, і пры кожным з іх, відаць, на былых агародах, серабрылася высокая разложыстая вярба.

Касцоў у табары не было. Яны на самым світанні пайшлі, пабраўшы свае тарбінкі, каб размахнуцца косамі на росных асоках. Снедаць адтуль яны пойдуць ужо дахаты. Сягоння нядзеля, права на адпачынак аж да заўтрашняга ранку. А дзе ж Васіль Чаравака? Няўжо і ён пайшоў касіць? Не, не можа быць. Трэба пачакаць.

Неўзабаве з'явіўся Чаравака. Ён выйшаў з надбярэжнага гушчару ў гумавых ботах, аброшаны па пояс, з рэчавым мяшком за плячыма. У мяшку трапяталася жывая рыба. Гэта быў падарунак рыбакоў.

Чаравака запрасіў Малашкіна да сябе, у сваю новую, яшчэ недаканчаную хату. А пасля снедання былі агледзіны вёскі, дзе калгаснікі гаварылі Малашкіну аб сваім жыцці і нават паскардзіліся на Чухноўскага, што ніколі не пагаворыць з імі, не спытаецца, як яны жывуць. Адзін старшыня калгаса ў яго чалавек, а гэты старшыня робіць у калгасе што хоча. Многа загінула грэчкі на полі — зазімавала, многа жыта памокла. А ён нас усё пёр

у лес рэзаць дзерава, нібы на школу, а потым палавіну пабраў сабе на хату,— казалі Малашкіну калгаснікі. Шмат чаго гаварылі яны сакратару. Малашкін сказаў ім, што хутка пакліча старшыню ў райком.

* * *

Малашкін пасадзіў Жарнавіка побач з шафёрам, а сам сеў ззаду. На душы ў яго ляжаў цяжар чагосьці нявырашанага. Хацелася адзіноты. Таму ён, на ўсякі выпадак, сказаў Жарнавіку і Васю, што хоча крыху падрамаць, бо спалася ўначы не зусім добра. І ён прытуліўся да сцяны машыны, заплюшчыў вочы і нават прыкрыў шчаку каўняром плашча.

Машына едзе па свежай пескавой дарозе ўсё лесам і лесам. Малашкін расплюшчыць вока — і ўбачыць кучаравую зелень нейкага нязнанага краю. Вочы стуляюцца зноў, а зелень не знікае. І Малашкіну пачынае здавацца, што там, у яе гушчары, ходзіць адна-адзінокая Саша... Можа, збірае ягады ў лазовы зялёны кошычак, а можа ідзе праз лес, ідзе і ідзе...

...Саша, Саша... Ты мяне захапіла і ўразіла сваімі словамі за сталом. Дзе ты ўзяла такія думкі, ад якіх я апомніцца не магу? Я не знаходзіў выйсця з тупіка, а ты — знайшла.

Нейкі другі голас ціха даносіў соннаму Малашкіну: «Жыццё не чакае... Жыццё — гэта грамадства і ўсё, што ў ім робіцца. А гэта — рух. Там жывуць і незадаволенне, і зайздрасць, і каварства... Раўнасць таксама...»

Малашкін толькі апошняму — раўнасці — дае права на існаванне.

...Так, так, Саша... Мы яшчэ пагаворым... Пагаворым...

Грукат абудзіў Малашкіна ад яго напаўдрымотнай задумы. Пераязджалі чыгунку і спыніліся на шашы, нагрэтай сонцам. «Скінулі» Жарнавіка, які дабярэцца да Азярышча, а потым да свайго Падлесся. Хочацца яму паглядзець новыя хаты — сваёй маці, сястры Ганны і наогул сваё роднае наваколле.

* * *

Не ў лягчэйшым становішчы, чым Малашкін, быў і капітан Рыбін.

Вось толькі што выйшаў з кабінета начальнік райміліцыі Івашка, таксама капітан. Расказаў, як да яго прый-

шоў ксёндз Рагульскі з Жылін і заявіў, што нехта абакраў касцельную касу. Івашка паслаў сваіх людзей для абследавання. Аказалася, што ўзлому ў касе няма. Незгаралка ў касцельнай сцяне адамкнёна ключом — зусім нармальна.

— Ну і што? — спытаўся Рыбін.

— Ёсць падазрэнне, што грошы забраў сам ксёндз.

— Што ж вы зрабілі?

— Мы затрымалі ксяндза.

Рыбін устаў, правёў рукою па валасах і захадзіў уздоўж стала.

— М-м, та-ак... Падумаць трэба, Івашка. Ці не перагнулі вы тут палкі? Я далучаюся да вашага падазрэння, што ксёндз мог касу абабраць сам. Можа, дзе, скажам, спатрэбілася некаму з ксяндзоў дапамога.

— Я згодны, Пётр Іванавіч. Яно так і будзе.

— Але ж патрэбны доказы. І другое важна. Сяло Жыліны адсталае. Ёсць нямала фанатыкаў. Калі не зможам даказаць народу віноўнасці ксяндза — гэта нам не на карысць.

— То што ж рабіць, Пётр Іванавіч?

— Колькі часу вы ўжо трымаеце ксяндза?

— Адны суткі.

— На маю думку, яго трэба выпусціць, каб астудзіць фанатыкаў, якія могуць нарабіць нам нямала непрыемнасцей. Там калгас яшчэ слабы. Могуць яго падарваць зусім. Ксяндза трэба выпусціць, але сачыць за ім.

Рыбін адкрыў партсігар, пачаставаў папяросай Івашку, закурыў сам і дадаў, паціснуўшы плячыма:

— Што ты зробіш? Іншага выхаду няма. Згодзен?

— Згодзен, Пётр Іванавіч...

— Няма якраз Малашкіна. У Чухноўскага быў?

— Не.

— Трэба падысці, пагаварыць,— і з Бабром таксама. Перадасі Чухноўскаму маю думку і, вядома, сваю.

— Добра,— адказаў капітан Івашка, узяў пад казырок і выйшаў.

Пасля абеду Рыбін дапрашваў былога бургамістра Мікалая Вайткевіча. Узнікла неабходнасць выклікаць яго. Банадзюк... Маленькі Банадзюк становіцца косткаю ў горле...

— Дык вы больш нічога не можаце сказаць, грамадзянін Вайткевіч? — пытаецца невядома каторы раз Рыбін.

Вайткевіч паціскае плячыма. Чырванее, ніяк не можа схаваць сваёй боязі. Цесна яму сядзець у крэсле. Ён выцягвае ногі, а калі згінае, то калені лезуць пад бараду.

— Не, не... таварыш начальнік... Я ж кажу. Калі паліцыя пайшла ў яго вёску па сваіх справах, то бачыла Банадзюка дома. Нібы хворы быў... А ці хворы напраўду, чорт яго ведае...

Рыбін, час ад часу спакойна пазіраючы на Вайткевіча, нешта запісвае.

Ціха. Пяро ў руках Рыбіна бегае хутка. Вайткевіч хоча глянуць, што ён піша, але баіцца. На нейкі час выцягвае ногі ў цяжкіх ботах-скрабунах і чакае новых пытанняў.

— Мм... Так. Значыць, невядома, ці быў ён хворы ці не? Падумайце, грамадзянін Вайткевіч, можа прыпомніце, хворы ён быў у гэты дзень ці не?

Нешта заскрэбла ўсярэдзіне. Вайткевіч усім тулавам павярнуўся да Рыбіна. Такога паўторнага пытання ён не чакаў. Думаў, Рыбін адчэпіцца ад яго, але — не...

— Вы можаце спытацца ў яго сястры. Ён тады якраз быў у яе,— натужным голасам адказаў Вайткевіч.

— А вы думаеце, што мы не пыталіся? Нам важна вашае паказанне, як былога бургамістра.

Зноў на хвіліну задумаўся Вайткевіч.

Рыбін, не чакаючы, пытаўся далей.

— А што, у гэты дзень Банадзюк не піў самагонкі з вашымі паліцаямі?

— Гэтага ніяк не магу сказаць. Я сам няп'юшчы...

— Ніяк не можаце? А пра тое, ці быў у той дзень здаровы ці хворы, не скажаце? Чым жа вытлумачыць, што ў гэты самы дзень паліцэйская засада напала на групу Андрэя Грынчыка ля самага Чорнага Лесу? У групе меўся быць і сам Банадзюк, бо яго функцыя пастаяннага сувязнога паміж Грынчыкам і атрадам у лесе ўжо канчалася. Група ішла ў лес, каб уключыцца ў атрад. А ён не пайшоў, астаўся ў сяле. Узнікае падазрэнне — ці не ён наслаў паліцаяў на групу Андрэя Грынчыка?

Вайткевіч глядзеў сабе ў калені спалоханымі вачыма, маўчаў.

— Я вам вельмі раджу памагчы нам у імя справядлівасці. Вы чалавек пісьменны, з вопытам, і гэта зразумееце. Мы ведаем, што дзе-ндзе вы змаглі памагчы на-

роду, асабліва перад адыходам немцаў, і за гэта пра вас людзі думаюць добра. Хоць і не ўсе. Памажыце ўнесці яснасць у справу Банадзюка.

— Банадзюк быў у мяне два разы, прасіў памагчы, каб і яму гебітскамісар даў некалькі яблынек-саджанцаў. Немцы прывезлі аднекуль саджанцаў і раздавалі паліцаям, а непаліцаям — па маіх запісках.

— Ага, усё ж такі быў у вас?

— Што быў, то быў — я не ўтойваю.

— Банадзюк напаіў сапнога каня ў карыце ў Жарабках, чым заразіў калгасных коней. Потым гэты конь здох у хляве ў Васіля Гойдалы-Гайдалевіча і самога пацягнуў з сабою ў яму. Вам гэта вядома?

Зноў нейкі подступ. Ну і капітан... Вайткевіч, як са сну, падымае галаву і кажа:

— Вядома, трошкі вядома. Людзі гавораць...

— Даю вам тэрміну, грамадзянін Вайткевіч, два дні, каб вы мне прынеслі даведку, што вам вядома аб правакатарскай дзейнасці Банадзюка. Добра?

— Я ж нічога... Я ж нічога...

— На гэтым гутарку з вамі закончым.

Вайткевіч устаў. Зноў прыкладаў руку да грудзей і, заікаючыся, казаў:

— Я ж... Я ж... таварыш начальнік...— нібы папярхаючыся, хацеў нешта сказаць Вайткевіч, але так і не сказаў. Пакланіўся і выйшаў.

Рыбін хадзіў па кабінеце і адчуваў, як неспакой паступова асядаў у душы. Але ж ён кіруецца дзяржаўнай праўдай, стаіць на яе варце. Шкада — няма Малашкіна, хацелася б пагутарыць.

Перад ім паўстала Вера з яе цёмна-шэрымі вачыма. Усміхнуўся з палёгкай і неяк засаромеўся самога сябе.

Глянуў на гадзіннік. Пяць хвілін да канца рабочага дня. Надзеў шапку, абцягнуў гімнасцёрку, паправіў партупею і выйшаў.

Павольна ішоў пад галінамі яблынь, бяроз, не ведаючы куды.

Прайшоў ужо больш як квартал, калі пачуў: «Таварыш капітан!» Аглянуўся: бяжыць яго памочнік. Падбег і працягнуў тэлеграму. Яна была з Мінска: «Не пазней 25-га з'явіцца ў МДБ — следчы аддзел». Далей подпіс міністра.

Энергічным крокам вярнуўся ва ўпраўленне. Забраў патрэбныя паперы ў партфель. Пабег на кватэру ўзяць

чамаданчык, плашч. 25-га — гэта заўтра. А поезд прыходзіць праз паўгадзіны. На машыну не сеў. Пайшоў. Можа, сустрэнецца... Бохаў ботамі на ўсю шырыню крокаў і на павароце амаль што не збіў яе з ног.

— Куды вы так?

— Тэрмінова еду ў Мінск. Тэлеграма... Толькі што палучыў. Спяшаюся на поезд.

Яна разгублена глядзела яму ў твар, нібы сціскала ў сабе жаласць.

— Ой, Пётр Іванавіч...— глянула туды-сюды.— Правяла б вас, але іду таксама тэрмінова... Іду да хворага...

— Ідзіце, ратуйце хворага! — сказаў ён з націскам.— Дайце пацалую вашу ручку...

Ён пайшоў. Вера Ігнатаўна ўстрывожана паглядзела яму ўслед. Ах, нашто так раптам? Думала,— можа, азірнецца.

Капітан Рыбін не азірнуўся.

Праз тры дні пасля ад'езду капітана Рыбіна ў кабінет да Малашкіна ўвайшоў невялічкі, сярэдняга веку чалавек у мундзіры капітана, з маленькім тварам, з кірпатым, нібы надламаным, носам і з русымі бровамі над шэрымі вачыма.

Працягваючы руку Малашкіну, адрапартаваў:

— Капітан службы МДБ Занозін,— і паказаў свае дакументы.

Малашкін, разгледзеўшы іх, спытаўся:

— Вы прыбылі на месца капітана Рыбіна?

— Так точна.

— А Рыбін — што? Астаўся, відаць, у Мінску? Павышэнне палучыў?

— Не!.. Рыбін адпраўлены на працу ў Сібір. Ён тут у вас нахамутаў здорава,— сказаў тонкім, нейкім свісцячым голасам Занозін і ціха ўсміхнуўся. Спакойна, нібы вобмацкам, браў назад паперы. Доўга клаў іх у бакавую кішэню кіцеля, не зводзячы вачэй з Малашкіна.

Малашкін замыкаў на ключ шуфляду свайго стала і абыякава глядзеў у акно.

— Ну што ж... Заўтра пагаворым з вамі больш падрабязна. Прыходзьце пасля двух.

— Добра.

— Вы сямейны?

— Так. Жонка і двое дзяцей. Ну... можа, цераз тыдзень я іх перавязу сюды.

— Добра...

Капітан Занозін пакланіўся і выйшаў.

Малашкін павольна ўставаў са свайго крэсла, дачытваючы нейкую паперку, пасля адвёў вочы і ўздыхнуў:

— Эх... Пётр Іванавіч... друг... разумнік...

І ківаў галавою. Потым кінуў аловак на стол, захадзіў па кабінеце, заклаўшы рукі назад.

Малашкін адчуваў сябе яшчэ стомленым пасля падарожжа па раёне. Вярнуўся ўчора ўвечары. А тут ужо без яго адбыліся, як відаць, немалыя змены. Рыбіна няма, прыехаў Занозін. Перад Занозіным прыходзіў капітан Івашка і гаварыў пра ксяндза Рагульскага, не мог не расказаць, як Чухноўскі патрабаваў не выпускаць з-пад арышту ксяндза. Ледзь яго ўгаварылі — і Рыбін, і Бабёр.

Малашкін хадзіў па кабінеце і то абураўся, то смяяўся. Гм... Чухноўскі патрабаваў арыштаваць ксяндза. А калі чытаў сваю недарэчную лекцыю ў Жылінах, то ксяндзу руку паціскаў. Ого! Гэты ксёндз не дурны...

Калі Малашкін у сваім рэйсе па раёне даехаў да Падлесся, там Жарнавік яму расказаў, як Чухноўскі чытаў лекцыю.

Чытаў ён з напісанага, не даючы ніякіх тлумачэнняў,— словам, чытаў, як рэпу грыз. На задняй лаўцы сядзеў ксёндз Рагульскі і слухаў. У клубе, былой старой, счарнелай карчме з праваленай страхою, была не толькі моладзь, але і пажылыя дзядзькі. Яны пачалі хутка драмаць. Потым пачала пазяхаць і моладзь.

Жарнавік, седзячы ў цяньку пры сцяне, недзе за спіною ксяндза, запісваў свае думкі. За яго акулярамі паблісквам смех. Чухноўскі Жарнавіка не заўважаў.

Калі ж скончылася лекцыя, ніхто не ляснуў у далоні. Людзі ачомаліся ад сну. Адзін дзяцюк адважыўся ўстаць і спытацца: «А што гэта такое дзілічаскі матаралізм?» Чухноўскі, набіваючы люльку, зрабіў выгляд, што ён гэтага пытання не чуе. Тут жа падскочыў ксёндз і пачаў гаварыць, што яму вельмі спадабалася лекцыя, што пан сакратар эрудыраваны, яшчэ нешта цадзіў праз моцныя белыя зубы і, развітваючыся, пакланіўся Чухноўскаму.

Чухноўскі падзякаваў ксяндзу за такую прыемную ўвагу і не ведае сам, як працягнулася яго рука, якую ксёндз злёгку падхапіў.

Ходзіць Малашкін па кабінеце і то абураецца, то смяецца.

«Ці зразумеў Чухноўскі, чаму прыйшоў ксёндз на

лекцыю? — думае Малашкін.— Трэба было б усё-такі пазнаёміцца з тэкстам».

Перад Малашкіным стала пытанне — што рабіць з Чухноўскім? Паводзіць ён сябе не па-партыйнаму.

Напісаць Гугновічу аб усім? — Не, гэта дарэмна. Можна наклікаць на сябе гнеў, могуць абвінаваціць у паклёпніцтве. А, з другога боку, калі нічога не зрабіць, усе грахі Чухноўскага будуць прыпісаны не каму іншаму, а самому Малашкіну... Адным словам, становішча...

Не паспеў Малашкін сесці за стол, як увайшла Саша.

— У чым справа, Саша?

— Я не магу тут больш працаваць, Сцяпан Пятровіч. Прашу мяне вызваліць.

— Чаму? У чым прычына?

Саша захліпнулася, і слёзы пырснулі з вачэй.

— Гэта Чухноўская разносіць усякія брудныя плёткі. Мая мама ўчора аж заплакала і сказала, каб я кінула тут працаваць.

Саша выцірала слёзы хустачкай.

— Саша... друг... не плач.— Падышоў да яе блізка.— У доме партасветы няма загадчыцы. Выехала зусім. Згодна туды?

Саша глянула ў твар Малашкіну так, нібы выпытвала, ці ён той самы Малашкін, які быў да нядаўняга. А можа не? Нешта дужа лёгка выбраў ёй пасаду.

— Ці ты спецыяльна для мяне рыхтаваў гэтую пасаду?

Малашкін паглядзеў у яе бліскучыя вочы і сказаў:

— Саша... мілая... Не падумай чаго дрэннага. Я ведаю ўсё, галубка... Гэта раблю для цябе, каб асадзіць брахню тых, хто брэша. Ты не крыўдуеш на мяне за гэта?

— Не... Не... Дзякую табе...

Малашкін, поўны душэўнага ўздыму, памкнуўся дакрануцца да яе...

Саша гэта зразумела і стрымала яго.

— Пайду пісаць заяву,— сказала яна і пайшла да дзвярэй.

Праз некалькі хвілін прыйшоў Чухноўскі. Нічога не кажучы ён сеў, як звычайна, ля стала і выняў люльку. Малашкін, пачакаўшы, сказаў, што ён стомлены з дарогі.

— Адпачываў бы, хто ж табе не дае,— адказаў Чухноўскі.— Ведаеш, Сцяпан, у мяне да цябе сур'ёзная справа.

— Якая?

— Вось у цябе працуе сакратаркай Саша. Сягоння маці гэтай Сашы спыніла на вуліцы маю жонку і стала лаяцца невядома за што.

— Ну і што? — спытаўся абыякава Малашкін.

— Тут ёсць твая віна...

— Якая?

— А такая віна, што яны — Саша і яе маці — адчуваюць апору ў табе, калі накідваюцца на жонку сакратара райкома.

— Гаварыць можна ўсё. А хіба твая Фядора Антонаўна нікога часам не пакрыўдзіла?

— Па-мойму, не,— паціснуў плячыма Чухноўскі,— я не дапускаю, каб яна...

— Вось іменна пакрыўдзіла. Давай спынім гэтую недарэчную гутарку. Скажы сваёй Фядоры Антонаўне, што Саша падала заяву, каб яе вызвалілі ад працы ў райкоме, і я даў згоду.

— Так?

— Так.

Чухноўскі разгубіўся і, пачакаўшы, пачаў пра другое.

— Гм... Ну і добра. Хачу табе сказаць, што ты дарма мяне адгаворваў выступаць з лекцыяй у Жылінах. Лекцыя прайшла добра. Спадабалася.

— Каму? Ксяндзу?

Чухноўскі здзіўлена ўтаропіў вочы ў Малашкіна.

— Чаму ксяндзу? Адкуль ты ведаеш?

— Я думаю, Іван, ты больш не паедзеш чытаць лекцыі пра дыялектычны матэрыялізм. Будзе хутка семінар моладзі. Вось тут ты можаш сказануць і пра матэрыялізм, але зноў-такі ўмела. Дарэчы, пакажы мне сваю лекцыю, ад якой паснулі слухачы.

— Калі ты так гаворыш, я не дам табе лекцыю. Я магу толькі паскардзіцца на цябе за твае нетаварыскія адносіны.

Малашкін нахмурыўся. Глянуў скоса на расчырванелы твар Чухноўскага і спытаўся:

— Каму хочаш скардзіцца? Гугновічу? Вядома, ён цябе паслухае. Але ці будзе гэта сумленна з твайго боку? Падумай... Я цябе нічым не крыўджу, я толькі патрабую партыйнай работы. А ты замест работы, якая патрэбна ў народзе, псуеш справы.

— Гэта ты сур'ёзна?

— Не жартую нікольki. Падумай, Іван, і перастань крычаць на людзей.
— Дзе? Як? Што? — закідаўся Чухноўскі.
— Усюды...— адказаў панура Малашкін і ўстаў, даючы зразумець, што гутарка скончана.— Хадзем... Мне вось трэба ісці на лесазавод — выступіць перад рабочымі. А ты куды цяпер? Са стагамі разабраўся? Свае меркаванні аб плане агітработы даў? Нічога ты, Іван, не зрабіў. Хадзем, будзем рабіць.

Чухноўскі, расчырванелы, абяззброены, толькі сачыў вачыма за Малашкіным, які апранаўся, і напружана маўчаў.

## АГРАНОМАВА ПШАНІЦА

Калосіцца жытні клін. Побач з жытам дзесяць гектараў пшаніцы. Яна кліча да сябе ўсіх серадзіборцаў. Бо гэта не пшаніца, а дзіва. Высокая, каласы, як цапы, павіслі пад сваім цяжарам, глядзяць у зацянёную матухну-зямлю. Пшаніца спее, пад сонцам яна як вылітая з медзі. Глянь вокам на палетак — разлітая медзь. Цяжка ветру зварухнуць яе. А калі і паплывуць хвалі, то яны цяжкія, павольныя, не спяшаюцца наганяць адна адну.

Сюды любіць прыходзіць стары Несцер. Асабліва ранкам, калі на свеце толькі сонца купаецца ў росах і ў лесе шчабечуць птушкі. І больш нічога і нікога. Яго сюды ніхто не пасылае. Ён як быццам яшчэ не йме веры, што пшаніца сапраўды вырасла такая ўдалая. Нічога не казаў стары, калі агроном Пяхота на праўленні прасіў аддаць яму гэтых дзесяць гектараў пад пшаніцу. Верабей ніяк не хацеў, але агранома падтрымалі Даніла і Тацяна Карпец. Верабей падумаў: «Ну, няхай... Колькі там тае зямлі... Можа, прагарыць... Тым лепш. А то яшчэ адна назола на маю галаву...»

Несцер маўчаў, бо не хацеў падтрымліваць Вераб'я, хоць у душы сумняваўся, ці можа вырасці на серадзіборскай, нават найлепшай, зямлі пшаніца. Ніколі ж яе не сеялі...

І бачыце — вось яна, быццам сам бог яе пасеяў і даглядзеў. Не, не бог. Кіраваў апрацоўкай зямлі Іван Пяхота і памагаў яму брыгадзір па ўгнаеннях Коля Мілаш. Усю зіму рабілі кампосты — мяшалі гной з торфам — для яе, для пшаніцы.

Стары Несцер ходзіць па мяжы, не можа адарваць вачэй ад гэтага залатога палетка, і на сэрцы такое шчасце, што ажно плакаць хочацца. Ці хто думаў, што ў нашай пескавой, балотнай няўдаліцы ды можна зрабіць з полем такое дзіва? Залатыя людзі ёсць на свеце і залатыя ў іх рукі.

Так думаў Несцер і браў колас і клаў, не зрываючы, на сваю жорсткую далонь земляроба і разглядаў яго, любаваўся. Потым адпускаў: расці, налівайся, спей...

І адзін раз заўважыў Несцер такое, што аж ускрыкнуў, прыгнуўшыся. Грудасты верабей — шэрая птушка-абжора — сеў на колас, і сцябліна не зламалася. Шэры зладзейчык сядзеў на тоўстым коласе, калыхаўся нават, і хоць бы што.

Калі падышоў сам Пяхота, Несцер паказаў яму вераб'я на сцябліне. Пяхота выняў сваю люлечку з пушыстых вусоў і застыў ва ўсмешцы.

І невядома, чым любаваўся аграном,— ці сцяблінкаю, што не згіналася, не падала, ці гэтым шэрым жулікам-фыркачом, што з-пад лапак выдзёўбваў па зярнятку?

Аграном Пяхота, як толькі стала каласіцца пшаніца, перастаў ранкамі хадзіць на рыбу — у тую кустовую, аблюбаваную завадзь, дзе цішыня парушаецца толькі ўсплёскам краснапёрак. Ён спяшаўся да пшаніцы. Ведаў, што не пад нос старшыню Вераб'ю было яго такое дасягненне. А Верабей і сапраўды мармытаў сам сабе, калі часам даходзіў да пшанічнага палетка: «Бачыў ты яго... Гэты вус... І дзе ён гэтага набраўся? Ну, вядома, насенне яму даў Кляновіч. Адна хеўра. Гэта ўсё ад насення...»

Малашкін пазваніў аб серадзіборскай пшаніцы самому сакратару абкома Гугновічу і прасіў яго на бліжэйшую нядзелю прыехаць і паглядзець. Бо ўраджай можна чакаць да трыццаці цэнтнераў з гектара, калі не больш.

— Колькі цэнтнераў? — перапытаў Гугновіч. Пачуўшы адказ, сказаў: — Што ж... Казак многа на свеце, а гэта яшчэ адна. Не замыльвай мне вачэй, Малашкін. Лепш упарадкуй сваё жыццё. А ад палескіх земляў мы такіх ураджаяў не чакаем. Няхай едзе Кляновіч, ён любіць фантазіі. Мы — рэалісты і думаем імі быць. Бывай здароў...

Малашкін палажыў трубку і з пачуццём крыўды паківаў галавою. Абцягнуў гімнасцёрку нервова, дзёрзка, нібы хацеў абтрэсціся ад чагосьці непатрэбнага, што назаляе. Зараз жа пазваніў Кляновічу, каб той запрасіў на агле-

дзіны пшаніцы самога міністра сельскай гаспадаркі. Добра было б, каб хто прыехаў з ЦК.

— Я не магу гаварыць з ЦК цераз галаву Гугновіча. А Гугновіч не верыць у нашу пшаніцу і прыехаць не хоча,— гаварыў Малашкін.

Кляновіч адказаў, што ён пастараецца ўсё зрабіць і з міністэрствам і з ЦК.

І той чаканы дзень надышоў напярэдадні жніва. Жыта ўжо жалі. Роснымі ранкамі хадзіла жняярка навакол палетка — толькі адна-адзіная жняярка.

Прыехалі — міністр — чалавек з добрым ціхім тварам і нясмелай усмешкай, з ім — Зашчаміла і другі сакратар ЦК. Хацеў прыехаць нават першы, але нейкія справы яго затрымалі. З вобласці прыехаў толькі Кляновіч. Гугновіча не было, не было і Чухноўскага — паехаў па раёне і нават на нядзелю не вярнуўся.

Пры аглядзе пшаніцы ўсе маўчалі. Ішлі, спыняліся, маўчалі і ішлі далей. Толькі Зашчаміла зрываў колас за коласам, чаго не дазвалялі сабе ніколі ні стары Несцер, ні аграном Пяхота, ні Грушка. Усё ж такі сакратар ЦК, чалавек сярэдніх год, са спакойным тварам, адзін раз агледзеўся на Зашчамілу, сказаў:

— Ну перастань жа ты ўрэшце...

Зашчаміла больш не рваў. Затое пачаў бубніць, нашто расце лубін па пшаніцы. Што гэта за выдумка? Хапіла б адной пшаніцы, а то яшчэ лубін. Ён жа ніякай карысці не прынясе. Яго зрэжа жняярка.

Аграномы гутарылі з міністрам і сакратаром ЦК і быццам не чулі звяглівай гутаркі Зашчамілы. Калі абышлі ўвесь пшанічны палетак, спыніліся ў ляску на нараду. Прапанавалі зжаць зараз жа квадратны метр плошчы (бо пшаніца ўжо гатовая для жніва), абмалаціць і зважыць, потым палічыць вагу на гектар. Так і зрабілі. Стары Несцер насіў гэтую мерку і серп за поясам.

У свірне абмалацілі гэты «квадратны» снопік, зважылі зярняты, потым памножылі на гектары. Палучылі лічбу сапраўды казачную: трыццаць цэнтнераў з гектара. Начальства застыла ад захаплення. Зашчаміла змоўк, стуліўшы губы, і пачаў пералічваць нанова, не верыў. Толькі адзін Пяхота спакойна набіваў сваю маленькую люлечку і гаварыў:

— Тут, таварышы, усё зразумела. Угнаенне, апрацоўка, догляд. Не спускалі з яе вока ні на адзін дзень.

Усе пацiснулі руку Пяхоту. Зашчаміла потым адклі-

каў яго ўбок і сказаў прыехаць у Мінск, у міністэрства, для асобнай гутаркі з ім, Зашчамілам.

Потым Пяхота затрымаў усіх «на хвілінку» і пачаў гаварыць:

— Там, на полі, калі мы аглядалі пшаніцу, таварыш Зашчаміла сварыўся: навошта расце лубін па пшаніцы? Ён расце ў нас і па жыце. Гэта наша выдумка, хоць яна недзе і раней бытавала ў практыцы. Але потым пра яе забыліся. Лубін сеецца па жыце тады, калі жыта красуе, і лепш яго сеяць пад дождж. Тады ён хутка бярэцца за зямлю. Па пшаніцы сеецца крыху пазней. Калі надыходзіць час жаць, лубін ужо на вышыні пожні або і ніжэй, так што тут няма ніякай небяспекі, што ён будзе зрэзаны, знішчаны. Як сажнецца збожжа, лубін пачынае расці хутка. А на зіму яго прыворваюць. Такім чынам, да вясны мы маем у зямлі пэўны запас азоту. Вось і ўся арыфметыка.

Зашчаміла зайздросна глядзеў на Пяхоту, нібы хацеў сказаць: «І адкуль узяўся такі сукін сын?.. Ведае тое, чаго другія не ведаюць».

Міністр і сакратар ЦК зацікавіліся расказам Пяхоты пра лубін і раілі прадаўжаць гэтую практыку далей.

Разам з групай хадзіў і намеснік Вераб'я — Кірыла Баркун — сівы, стары, здаецца, вечна маўклівы чалавек. У яго задуменных вачах свяцілася турбота, каб дзе што не ўпала, не разбілася. Ён, ідучы ззаду ўсіх, увесь час аглядаўся, каб ведаць, ці ўсё ў парадку навокал. Старому Кірылу семдзесят год.

На пасяджэннях праўлення калгаса ён заўсёды маўчыць. Гаворыць толькі тады, калі ў яго што-небудзь запытаюць. Капялюш у яго саламяны, сваёй работы, усё роўна як медны. Старыя сынавы лейтэнанцкія штаны галіфэ, ужо зношаныя, з вялікімі чорнымі латкамі на каленях і ў іншых месцах, шчыльна аблягаюць яго лыткі, якія боўтаюцца ў шырокіх халявах кірзавых ботаў.

Боты ён надзеў толькі для начальства. А так ходзіць у лапцях-лазовіках, якіх у яго не бракуе.

Міністр спытаўся ў Кляновіча пра Кірылу — што гэта за чалавек? Калі дазнаўся, падаў яму руку і захацеў з ім пагутарыць.

— Ну, як працуецца?

— Што? — перапытаў Кірыла.— Я не дачуваю.

— Ён глухаваты,— сказаў Кляновіч і спытаўся ў вуха Кірылу сам:

— Колькі сена накасіў?

— Сена? А ўжэ... ужэ тысячу стагоў... Там яшчэ трохі дакошваюць.

— Ого! — гукнулі міністр з сакратаром ЦК.

Яны зацікавіліся Кірылам, з усмешкаю глядзелі на старога, якому было ўсё роўна, ці глядзяць на яго ці не.

— А ты багаты, дзядзька! — грымнуў Запчаміла ў вуха Кірылу.— Столькі сена!..

Кірыла сумна ўсміхнуўся і махнуў рукою.

— Багаты... Калі не пакрадуць зімою, то кароўкам хваціць.

Начальства засмяялася.

— А хіба крадуць? — спытаўся міністр.

— А як жа,— адказаў Кірыла.— Гэтай зімою дзесяць стагоў укралі...

— Хто? — спытаўся міністр.

Кірыла развёў рукамі:

— А хто ж можа ведаць? От, робім, робім, а нехта крадзе.

Міністр і сакратар ЦК пераглянуліся і пачалі гаварыць з Кляновічам, адышоўшы крыху ўбок.

Вераб'ю не спадабалася такая Кірылава гутарка, ён нават ужо і спалохаўся: а ну ж як начальства пачне яго дапытваць, хто і што?

А міністр пытаўся ў Кляновіча:

— Што, не маглі маладзейшага знайсці на намесніка? Старому можна даць якую лягчэйшую работу.

Кляновіч пацiснуў плячыма:

— Мясцовыя, свае справы кожны робіць, як яму выгадней.

Міністр задаў пытанне Вераб'ю.

Той пачаў апраўдвацца.

— Ён добра ходзіць ля кармоў. Робіць ад ранку да вечара і ні на што не скардзіцца. Найраней за ўсіх устае ў сяле — ці то ўлетку ці зімою.

— Ага...— у адзін голас неакрэслена прамовілі і міністр і сакратар ЦК — нешта ім усё ж такі не было зразумела.

Верабей, безумоўна, усяго і не сказаў. Ён павінен быў бы сказаць, што Кірыла Баркун — не толькі стары, але яшчэ і глухі. Гэта ж вельмі добра. Ён сабе робіць, як конь, цэлы дзень і маўчыць, а я, Верабей, тады раблю што хачу. Ніхто мне не замінае. Ці ж гэта дрэнна? Толькі вось сёння ён перад начальствам не тое... падгадзіў, стаў

гаварыць чорт ведае што... Што ж... стары ўжо, з розуму выжывае.

Малашкін хацеў павесці сакратара ЦК і міністра на каналы, да экскаватараў, ужо без Вераб'я, як няведама адкуль з'явіўся Жарнавік, прывітаўся з усімі агульным паклонам і адразу звярнуўся да Малашкіна:

— На каналы ездзілі?

— Не. Зараз едзем. Сядай у маю машыну.

Пры аглядзе працы экскаватараў Зашчаміла, зірнуўшы на неабсяжныя прасторы хмызоў, зазвягаў на ўвесь голас:

— А хто вам гэтыя хмызы павырывае? Іх жа тут непраходная пушча. Дарэмная ўся гэта работа! Нашто мы згадзіліся даць тэхніку?

Кляновіч і Пяхота вялі гутарку з сакратаром ЦК і міністрам і рабілі выгляд, што не чулі звягі Зашчамілы.

— Рабіце, рабіце, мы вас падтрымаем,— гаварыў сакратар ЦК,— я далажу пра вашы пачынанні ў ЦК, і, думаю, прыедзе сюды і наш першы сакратар.

Весялела на душы ў Малашкіна. «Ого, каб людзі з ЦК зацікавіліся гэтай нашай серадзіборскай справай, пайшло б усё інакш».

Многае сказалі і Кірылавы тысяча стагоў сена. Гэта ж размах для паважнай гаспадаркі.

Вядома ўсім, што стары, ужо глухі Кірыла павёў за сабою на асаковыя балотныя сенажаці пяцьсот касцоў з запасам яды на два тыдні. Такія вось размахі работы на палескіх сенажацях!

Безумоўна, Пяхота накіраваў машыны начальнікаў па надканальнай дарозе, туды да серадзіборскіх сенажацяў, перад якімі не раз у задуме праседжваў Кляновіч і перад якімі не мог не зняць капелюша гідраінжынер Грыбавец.

Цяпер там стагі і стагі — аддаляюцца на поўдзень аж пад белыя купчастыя воблакі.

Не маглі не любавацца стагамі і людзі з Мінска. Яны стаялі і ў захапленні маўчалі, аж пакуль сакратар ЦК не сказаў Малашкіну і аграномам:

— Абяцаю вам, таварышы, што справы вашага Серадзібора стануць на бюро ЦК. Пішыце ў ЦК, ка мне, у міністэрства, у Савет Міністраў аб усіх пытаннях, патрэбах.

Ах, як добра, як цёпла стала на душы. Толькі каб не надышлі якія неспадзяваныя змены.

І тут жа вырашылі, што гэтую ўдалую пшаніцу, каб найменш было страт, зжаць сярпамі. Тым больш што плошча невялікая.

Вяртаючыся назад, павольна ехалі міма возера. Кляновіч не прамінуў намякнуць пра рыбны завод. Думалі, маўчалі. Усё ж такі і сакратар ЦК і міністр нешта сабе занатавалі ў кніжках.

Перад праўленнем калгаса Кляновіч і Пяхота выйшлі з малашкінавай машыны, а трое мінскіх, развітаўшыся, на «Пабедзе» падаліся па дарозе на Азярышча.

Кляновіч і Пяхота, задаволеныя такім візітам начальства, пайшлі да прафесара Грушкі, каб расказаць яму аб усім.

* * *

Да Платона падышла яго Марыя з нейкім шытвом у руках і села побач на прызбе. Платон якраз быў заняты чытаннем аграхіміі Пранішнікава і алоўкам адзначаў збоку патрэбныя яму месцы.

Ужо некаторы час неяк самацёкам побач з іншымі думкамі ў яго ўзнікала пытанне аб месцы культурных траў у севазвароце такіх мясцін, як Серадзібор. Інтуітыўна не хацелася займаць травамі, скажам, нават асушаныя асаковыя сенажаці. Трэба нешта багацейшае на бялок, вітаміны. Грушка, гледзячы і на пясчана-камяністыя прасторы Беларусі і на дзярнова-балоцістыя, упіраўся ўрэшце ў адно: замала ворнай зямлі на Беларусі, каб можна было сеяць травы, як на стэпавых неабсяжных бязлесных прасторах. Там зямля не мела для людзей такой вартасці, як на Беларусі, дзе ў царскія часы селянін кожны прыдбаны кавалачак зямлі гатоў быў апоўзаць на каленях. Ну дзе яму думаць аб травах? Яму думалася аб хлебе, а трава збіралася на розных лугах, балотах. Нека-лі, у пачатку дваццатага стагоддзя, у больш даходлівых сялян з'явілася на полі канюшына. Яна лічылася вялікім накладам, бо патрабавала ўгноенай зямлі. А гною было шкада, бо на гэтым траціў жытні клін, траціў сам хлеб.

Так гаварыла гістарычная практыка. І Грушка стаў думаць аб гэтай праблеме, якая ў агранамічнай літаратуры займала такое немалое месца. Ён заўважыў, што ў гэтай літаратуры падтэкставай і адкрытай плынню плыве арыентацыя на вялікія земельныя прасторы: Паволжа, Украіна, Дон. А ў Беларусі што ні ступі — калі не

лес, то пералесак, і таму трэба лічыцца з такім зямельным ладам, дзе чаргуюцца між сабою поле, лес, балота.

Грушка рыхтаваўся пісаць артыкул «Аб рацыянальным асваенні дзярнова-падзоліста-балотных глебаў». Учора запытаўся ў Кляновіча, якой ён думкі аб траваполлі. Той над пытаннем Грушкі думаў нядоўга. Сказаў:

— Не, для нас гэта не падыходзіць. Калі будзем забаўляцца травамі, ды яшчэ ў такіх маштабах, якія меў на ўвазе мой настаўнік, застанёмся без хлеба. Пакуль дачакаемся ад траў гэтай структурнасці глебы, пра якую так падрабязна піша Вільямс, будзем жыць на чужым хлебе. Дармаедамі будзем. Анаэробны працэс вельмі павольны. Трэба гной, торф, твой азёрны іл, аб якім ты марыш для сваіх пяскоў... Ага, дарэчы... Трэба нам паспрабаваць затрымаць гэтыя экскаватары — можа, яны дастануць нам ілу з возера?

Грушка ўсё ж такі спытаўся пра траваполле яшчэ:

— Ну, а ў стэпах як? Можа, і там непатрэбна траваполле?

— Траваполле — лягчэй за ўсё, пасеяў і лезь на печ. А які з гэтага прыбытак? Вядома, малы, ніклы. Трэба нешта другое і ў стэпах, каб павысіць ураджайнасць. Патрэбен азот... Хімія... Будучыня належыць ёй...

Пасля гэтай гутаркі Платон Грушка пачаў пераглядаць «Асновы хіміі» Мендзялеева і потым сеў грунтоўна чытаць Прянішнікава.

Ціхае цёплае паветра над хаткай Аляксандры Максімíхі супакойвала, лагодзіла душу, і думкі над кнігай клаліся спакойна, без ніякіх перашкод. Сонца ўжо абышло свой паўднёвы шлях і апускалася над лесам.

Локаць адчуў дотык чыйгосьці локця. Побач села Марыя. Яна паспела загарэць па-вясковаму, і яе гэта ніколькі не непакоіла. Пазаўчора Платон палюбаваўся ёю даволі. Яна жала пшаніцу і выжала сваю дзель, роўную з усімі, хутчэй за ўсіх. І без ніякай натугі, спешкі. Яе зграбная дужая постаць згіналася лёгка, так жа лёгка рухаўся пры зямлі серп, і рука імгненна набірала жменю за жменяй. Паклаўшы жменю, яна плявала сабе ў правую далонь, каб ручка сярпа не слізгалася, і жала далей.

Падышла Аляксандра з сярпом, захацела ўспомніць сваю маладосць — пажаць, памагчы. Але як пабачыла работу нявесткі, то не магла адарваць вачэй. Пачала вязаць снапы. Бачылі жніво Марыі і стары Несцер, і Даніла, якому па намаганні Пяхоты даручана ўборка гэтай уда-

лай пшаніцы. Бачыла і цешылася Тацяна Карпец. І Верабей прыходзіў і ўсё пстрыкаў пальцамі і цмокаў губамі. Жнеі, вяртаючыся з поля, спыняліся перад Марынай дзеллю. Марыя пакінула іх ззаду. І зайздрасць брала жанчын і захапленне.

Увесь Серадзібор гаварыў пра Марыю-жняю.

Учора рана Платон, толькі ўстаўшы, сеў за стол накідваць тэзісы для артыкула. Рабіў выпіскі з кніжак. Калі яго паклікалі снедаць на кухню, ён папрасіў, каб яму прынеслі што-небудзь з яды на яго стол. Яму не хацелася перарываць плынь думкі. Ён будзе есці і адначасова накідваць тэзісы або перачытваць патрэбныя старонкі з кнігі.

Марыя прынесла яму ў невялічкай місачцы смятаны, гарачыя аладкі ў скавародцы і, не разглядаючыся, паставіла на раскіданыя збоку лісты тэзісаў. Скавародка адразу зрабіла на гэтых лістах чорны круг, а ад місачкі са смятанай прасачыўся тлушч.

Платон быў заняты чытаннем і не бачыў гэтай «аперацыі». Калі адарваўся ад кнігі і глянуў на посуд з ядой, ускочыў, успыхнуў:

— Што ты нарабіла?! Што ты наогул робіш?

Словы налятапі, заміналі адно аднаму. Платон, здаецца, ніколі не быў так абураны. Былі падобныя выпадкі і там, у акадэмічным катушку. Але цяпер... так абгадзіць важную работу? І, наогул... наогул, што гэта такое?

Прыйшла маці, паглядзела і, нічога не сказаўшы, адышла на кухню.

Марыя пачала апраўдвацца:

— Ну што я там такое зрабіла? Паперку запэцкала... Дык можна другую ўзяць. Паперы ж цэлы куток.

І пачала мяшаць пойла парсюку.

Такая знявага да яго работы яшчэ больш абурыла Платона. Ён ужо не мог працаваць. Насунуў на галаву капялюш і выйшаў, захапіўшы з сабою том Пранішнікава. За бальніцай над каналам сярод сосен расце стары дуб. Пад ім Даніла зрабіў столік і лавачкі, зрабіў для Грушкі і для ўсіх, хто яму спрыяе. Туды накіраваўся Платон.

Маці выбегла ўслед і паклікала:

— Ты што? Снедаць не будзеш?

— Не магу цяпер. Я хутка прыйду.

— На, вазьмі з сабою ў кішэню.— І маці падала нешта, закручанае ў газету.— Павучы ты яе трошкі. Ты ж

нічога ёй не гаворыш. Я з ёю пагаварыла, дык ужо не так бохае ў падлогу. Але ўсё роўна бохае...

Платон нешта падумаў, апусціўшы галаву, і не змог нічога сказаць. Махнуў рукою і пайшоў.

Добра сядзець пад ластаўчынымі гнёздамі, што туляцца пад страхою матчынай хаткі. Нідзе, здаецца, не можа быць такога мілага спакою, такой душэўнай раўнавагі, як тут. І думкі Пранішнікава пачынаюць успрымацца без натугі.

Прафесар Грушка бачыць, як за плотам, ад якога агародная, а потым лугавая сцежка вядзе да іскрыстага возера, пасецца прывязаная вяроўкай да слупка чырвоная цялушка. Яе часта пасе Данілаў хлопец — Пеця. Абы толькі прыйшоў да бабкі Аляксандры, яна яго добра пачастуе, потым пакладзе ў торбачку хлеба і сала або нават і кавалачак кумпяка, вешае яму торбу цераз плячо і наказвае пасвіць цялушку. Пеця жыве ў бабкі тыднямі, і яна яго будзіць разам з усходам сонца. Не хочацца ўнуку ўставаць. Устане і спіць, седзячы. Ведае бабка, што дзіцячы сон салодкі, але трэба, каб прывыкаў, каб не вырас гультаём, каб працу любіў, стараўся. Нічога, вырасце на полі — дужэйшы будзе. «Уставай, унучак, уставай. Чуеш, як кароўкі рыкаюць. Ужо Архіп пагнаў». Нічога не зробіш — бабка добрая, але і патрабавальная. Яна ўнуку і ваду на рукі палівае, і кажа, каб хоць шыю сабе апаласкаў, бо яна ад загару і пылу стала чорная як зямля. Потым дасць шклянку малака з лустачкаю хлеба. Усё гэта трэба есці хутка, бо час не чакае. Торбачка за плечы, пуга ў рукі, і Пеця гоніць, гоніць бабчыну цялушку далёка, аж пад лес, бліжэй да возера, дзе можна паспаборнічаць у свісце з птушкамі.

Так выхоўвае Аляксандра ўнука і часам спрачаецца са сваёй Кацярынай, якая заступаецца за сына, папракае маму, што тая ўжо вельмі такі налягае. А Даніла маўчыць, Даніла згаджаецца з цешчай. Толькі маўкліва пасміхаецца.

Прафесару Платону Грушку, які адпачыў у матчынай хаце, захацелася вярнуцца да пастухоўства. Нават сказаў адзін раз:

— Мама, дазволь папасвіць тваю цялушку. Калі Пеці не будзе, буду пасвіць я. Добра?

— Яшчэ чаго не хапала. Ты сваё ўжо адпасвіў. Ідзі рыбу лавіць, можаш па канале на лодцы ў ягады плыць. Ды ў цябе работы цэлы кут.

Седзячы і Марыяй пад страхою, убачыў прафесар цялушку за плотам і сказаў:

— Не дае мне мама папасвіць цялушкі, а хочацца.

— Цялушку пасвіць — трэба ў боты абуцца, у старыя штаны адзецца, у які-небудзь парваны каптан. Ты ж гэтага не захочаш,— адказала Марыя.

Платон раптам перакінуўся на другое, што насіў у сабе даўно і рыхтаваўся сказаць Марыі.

— Слухай, Марыя, скажы ты мне, якую ты маеш асвету?

— Асвету? Ніякай,— адказала Марыя.

— Як ніякай? Пісаць жа ты ўмееш? Як там пішаш — гэта іншая справа. Але ўмееш.

— Скончыла тры класы... Калі захварэла маці, я пакінула вучыцца. Трэба было ў хаце рабіць. А потым ужо і не вярталася.

— Чаму?

— А таму, што брата забралі на ваенную службу. Ён старэйшы за мяне. Маці была слабая. Тата наш даўно памёр. Пайшла я на торф на заробкі. Потым у калгасе рабіла, а потым у лесе метры ставіла. І вось, калі гэтая кадэмія наймала бульбу капаць, пайшла і я. І з таго часу там асталася.

— Кадэмія... Гм? Можа, акадэмія? — перапытаў нахмураны Грушка.

— А як я сказала? Я ж сказала — кадэмія...

— Не кадэмія, а акадэмія!

— Ну, няхай будзе а... а... акадэмія,— зачырванелася Марыя.— Я ж не вучоная... Чаго ты ад мяне хочаш?

— Марыя... Трэба трошкі падвучыцца. Хочаш, я буду даваць табе ўрокі — кожны дзень па два ўрокі. Чытанне — першы ўрок і граматыка — другі. Пачакаўшы, дадамо арыфметыку.

Марыя нічога не адказала. Памаўчалі абое. Марыя шыла — вяла дробненькую строчку на рубчыку, Платон глядзеў на яе прыгожыя рукі. Яе грудзі і наогул уся постаць гавораць аб сваёй лёгкасці і сіле. А ў твары, асабліва ў вачах,— няма бляску інтэлекту. А гэта ж для Грушкі, які ў маладым веку ўжо стаў прафесарам,— стрыжань адчування хараства, яго глыбінная крыніца.

— Ну, то як, Марыя? Згодна?

— Ой, хто яго ведае... Я ж ужо немаладая, каб займацца навукамі.

— Значыць, не хочаш? То не стаў мне, калі ласка, на

кніжкі, на паперы скавародак. Няўжо гэта ты робіш знарок?

— От, так і знарок...— пакрыўдзілася Марыя, а потым дадала:— Ідзі купі мне селядца. Ужо другі дзень вельмі хочацца. Я маўчала, думала — перахочацца. Ажно — не...

— Селядца? Што гэта табе ўзбрыло ў галаву? Не разумею.

З сенцаў пачуўся смех Аляксандры, а потым і голас.

— Ой, божа ж мой, жыць на свеце і нічога не ведаць!

— Ну нашто табе селядзец? — дапытваўся Грушка.

А маці ў сенцах ужо рагатала.

Марыя разгладзіла рукамі плацце на бёдрах і паказала на свой жывоцік:

— Бачыш? Ужо расце... Хоча селядца.

Грушка ўставіўся вачыма ў зямлю, думаючы, што гэта такое, а потым глянуў на Марыю і пачырванеў.

— Калі тут у чайной няма, то, можа, заўтра або паслязаўтра павінна прыехаць Чухноўская. Яна мне прывязе,— казала Марыя.

— Што цябе цягне да гэтай Чухноўскай? Тады, як ехалі разам з Мінска сюды, да мамы, цябе нельга было адарваць ад яе. Так пакуміліся.

— Чаго?... Яна харошая. Ведае, як пашыць, дзе ў якім магазіне што купіць. Для яе ўсюды ўсе дзверы адчынены.

— Табе так патрэбны гэтыя дзверы...— сказаў Грушка і дадаў: — Значыць, з навукай у нас нічога не выйдзе? Ну, тады давядзецца табе пайсці на якія-небудзь курсы. Пры акадэміі хутка адкрыюцца курсы па садоўніцтву і гародніцтву. Павінна будзеш выбраць або тое або другое.

— Хіба ў цябе грошай не хопіць на сябе і на мяне, што я яшчэ пайду там на нейкія курсы?

З дзвярэй выглянула маці і сказала:

— Годзе ўжо вам... А то яшчэ пасварыцеся. Марыйка, хадзі сюды, пакажу табе нешта.

Марыя пайшла. Грушка задумаўся. Па душы пачалі праплываць хвалі смутку, нейкай яшчэ не зразумелай адзіноты.

Вечарэла. Ад возера патыхала лёгкім халадком.

Раздзел трэці

# АСОТ

Калі серадзіборскі Архіп з міліцыянера зрабіўся пастухом, то Духмуровіч-Куцілоўскі з азоту стаў асотам. Аднавяскоўцы, такім чынам, не пазбавілі яго свае ўвагі. Далі яму тое, што ён заслужыў. І гоман і смех пачаўся быццам нанова.

Нават сам Верабей абурыўся сваім паплечнікам. Паклікаў да сябе ў кабінет і давай яго «браць за жабры».

— Я ж табе казаў дагледзець жыта. А ты што зрабіў? Нічога. Каб не было начальства, то чорт яго бяры. Але — начальства бачыла і потым дапякала мяне, што многа спор у жыце.

Духмуровіч-Куцілоўскі маўчаў, потым стаў бараніцца: гэта ж немагчыма ўсе споры павыбіраць з жыта.

— А ты і не браўся. Начальства бачыла! Зразумей! Што ты думаеш — мяне пагладзяць за гэта па галоўцы? Гэты ж акулярысты быў... пісар... як яго?

— Жарнавік,— падказаў Духмуровіч-Куцілоўскі.

— Ужо, кажуць, ёсць у газеце. Я яшчэ не бачыў. Усё гэты новы бухгалтар забірае газеты. Там расхвалілі пшаніцу і далі партрэт Пяхоты. Вось, брат, як! А пра жыта сказалі, што больш спор, чым зярнят. Вось што ты нарабіў! А чаму б табе не сабраць хлопцаў, дзяўчат? Яны за дзень ачысцілі б.

— Ты ж сам ведаеш, дзе я быў. Ездзіў з Гойдалам у лес выбіраць месца для апарата...

— Знайшлі час, калі ездзіць... Ах, ох...— хваляваўся Верабей.— Калі абыдзецца толькі стацейкай, гэта яшчэ будзе паўбяды.

Нешта пачало рвацца ў Вераб'я. Дагэтуль неяк усё ішло гладка. Хоць што людзі і ведалі, маўчалі, не хацелі браць клопату на сябе. Асабліва прыціхлі, калі на сходзе з'явіўся Чухноўскі. А цяпер у Вераб'я адна непрыемнасць за другою. Вось гэты глухі Кірыла — і той падвёў. Бухнуў як з моста ў ваду. «Калі не пакрадуць...» Старое — дурное. А гэты «сазнацельны» з сынам?

— Ведаю...— адказаў пасумнелы Духмуровіч-Куцілоўскі.

Напамінак быў пра Данілу і яго бацьку. Верабей не захацеў сказаць, што Даніла ўсю пшаніцу звазіў у гум-

ны за адну ноч. Даніла не меў намеру вазіць ноччу, а тым больш Верабей. Падказаў бацька Несцер. Трэба, сказаў ён, звазіць ноччу, тады менш асыплецца зерня, бо пшаніца будзе вогкая. Заўсёды — ад дзядоў і прадзедаў — серадзіборцы вазілі жыта валамі толькі па начах.

Даніла не злазіў з каня ўсю ноч, паддаваў людзям ахвоты. Казаў, куды везці, дзе складаць. Увесь спатнелы, заскокваў на хвілінку на падворак дахаты, і Кацярына выносіла яму кубак вады — напіцца.

Трэба было на наступную ноч таксама вазіць і жыта, якога было пасеяна сто гектараў. Духмуровіч-Куцілоўскі пайшоў аж у Жыліны пазычаць машын або коней і астаўся там на цэлыя суткі. Знайшоў сабе хеўру і заначаваў.

Лежачы на сене ў чымсьці гумне, Духмуровіч-Куцілоўскі пачуў пагрымванні. Нейкая цемра на свеце, а можа ноч яшчэ не скончылася, бо праз шчыліны гумна не прабіваецца ні аднаго праменьчыка. Зноў нешта пагрымвае, але далёка. Пачуўся голас: «Хутчэй запрагайце, можа паспеем!» Духмуровіч-Куцілоўскі вылез з берлагу, глянуў у шчыліну варот — ужо дзень, божы дзень як мае быць. Людзі бегаюць на падворку і на вуліцы, кудысьці спяшаюцца. Але сонца няма. Насунулася над наваколлем нешта ціхае, парнае. Трэба спяшацца ў Серадзібор. Грымнула зноў, але таксама далёка: калі надыдзе яна — навальніца,— будуць табе і машыны, і коні — абяцалі даць толькі назаўтра.

Духмуровіч-Куцілоўскі прытуліўся да варот каля шчыліны і пачаў разглядаць сябе ў люстэрка. Адну шчаку, другую, лоб. Здаецца, усё ў парадку, калі не лічыць чырвонай плямы на лбе, блізка ля валасоў. На нешта нароўся ўчора, відаць, тады, калі ўжо ноччу ўсёй хеўрай захацелі ісці да ксяндза пытацца, якая розніца між нядзеляй і васкрасеннем і чаму ў ксяндзоў валасы падстрыжаны, а ў папоў доўгія. Спатыкнуўся Габрыэль ля ксяндзоўскіх варот і ўпаў ілбом на нейкую абламаную бадыляку. І тады на ўсю моц старога ахрыплага горла забрахаў ксяндзоўскі сабака. Ісці не асмеліліся...

Духмуровіч-Куцілоўскі памацаў балячку і падумаў: «Э, нічога... пад кепкаю не будзе відаць...» Ён зашпіліў каўнер кашулі, сяк-так зачасаў валасы і надзеў кепку, як заўсёды, крыху набакір. Агледзеў сябе ў люстэрка яшчэ раз і асцярожна прыадчыніў вароты, каб не рыпнулі, прасунуўся і хуценька павярнуў за вугал — за гумно, у поле. А там хутка лес, і ўсё будзе добра.

Грымнула на захадзе мацней і неяк злавесна. Маланка перасекла чорную, нібы сажа, хмарку, якая выпаўзла з-пад небасхілу. Пакуль дайшоў да лесу, хмарка вырасла ў хмару і паўзла бясконца, усё ўверх і ўверх. Пан Габрыэль дадаў кроку.

А хмара не плыла, а ляцела. І вось яна ўжо вісіць над галавою Духмуровіча-Куцілоўскага. Страх, дый годзе. Хутка будзе лесу канец, пачнецца першы серадзіборскі палетак з пастаўленымі няўлад, рассыпанымі, накрытымі і ненакрытымі снаповымі шапкамі бабкамі жыта, дзе, як напісаў гэты акулярысты чорт Жарнавік, больш спор, чым зярнят. І яшчэ дадаў, халера, што гэта ўсё сталася па віне брыгадзіра Духмуровіча-Куцілоўскага, бо не дагледзеў. Неспадзявана над галавою ляснула так, што Духмуровіч-Куцілоўскі, аглушаны, пляснуўся тварам у разору. Па спіне яго цяжкімі кроплямі забубніў дождж, а потым хлынуў лівнем.

Лівень пачаў сціхаць. Духмуровіч-Куцілоўскі ўстаў, абтрос далоні ад гразі, падцягнуў гальштук і штаны. Падняў каўнер пінжака і пайшоў па лужынах. Хмары ляцелі адна за адною, набіраліся моцы. Далёка, недзе за каналам, над тою тысячаю Кірылавых стагоў, грукатала грымотлівае рэха і глухла ў лясных вяршынях.

Апошняя хмара нагнала Духмуровіча-Куцілоўскага ўжо блізка ля Вераб'ёвай хаты. Бегчы ў свае Забівачкі... дзе там! Не хопіць ужо ні сілы, ні адвагі. Цёмна было над Серадзіборам — навальніцы над палескімі прасторамі любяць пашумець доўга, любяць неспадзявана біць пякельнымі маланкамі, пасля якіх, здаецца, развальваецца неба.

Па шыбінах акон Вераб'ёвай хаты плылі буйныя струмені. Ніхто не пачуў, калі парог кухні пераступіў Духмуровіч-Куцілоўскі, спэцканы, прамоклы да ніткі.

Ні Верабей, ні Духмуровіч-Куцілоўскі па змакрэлым жыце не гаравалі. Але нягледзячы на нядзелю, дзень адпачынку, на поле пайшлі аграном Пяхота, Грушка, Тацяна Карпец, стары Несцер, Даніла і намеснік Вераб'я Кірыла Баркун. Яны павялі за сабою сваіх серадзіборцаў — ратаваць жыта. Услед за старэйшымі Коля Мілаш прывёў хлопцаў і дзяўчат. Пачалася работа пад ціхім добрым сонцам. Усе сталі расстаўляць снапы, каб яны не задыміліся ад парнасці.

Людзі ўбачылі нават Архіпа, статак якога хадзіў недалёка ў кустах.

...Над ручаінай, якую людзі звалі Ясенка, у глухім

утульным месцы, дзе над буданом нагіналі сваё веццe ясені, клёны, бярозы, а ў воддалі шумелі сосны, жыве, як вядзьмар, серадзіборскі вусаты канавал Пратасавіцкі. Ён выконвае тут незвычайную работу: пад яго ўмельствам з «мудрага» задымленага апарата дзень і ноч капае ў бутыль кропля па кроплі чарадзейная вадкасць...

Прыйшлі яе адведаць сам Верабей, Духмуровіч-Куцілоўскі і патайны жыхар з-пад возера Міхась Гойдала-Гайдалевіч.

## АРТЫКУЛ ПРАФЕСАРА ГРУШКІ

Пішучы свой артыкул «Аб рацыянальным выкарыстанні дзярнова-падзоліста-балотных глебаў», Грушка меў на ўвазе гаспадарку Серадзібора. Гаворачы аб рацыянальнасці, мэтазгоднасці гэтай гаспадаркі, ён на чале ўсяго ставіў жывёлагадоўлю. Толькі гэтая галіна павінна быць тут вядучай — нават тады, калі б і далучыць да Серадзібора багатыя зерневым клінам Жыліны.

Кляновіч паехаў у вобласць з думкаю, што трэба шукаць кароў чырвонай пароды. Ён праз усё сваё пасляваеннае жыццё марыў аб ёй. Ведаў, што нейкія рэшткі можна знайсці толькі ў заходніх абласцях Беларусі, у паасобных сялян. Гэтую чырвоную пароду кароў навука называе заходнеславянскай жывёлай.

Чырвоная парода кароў прыстасавалася да ўмоў Беларусі і дае вельмі тлустае малако. Яе прыкметамі сталі: трываласць і ўсяяднасць.

Кляновіч, ад'язджаючы, сказаў Грушку:

— Вось толькі цяпер я дакладна пачынаю адчуваць, што па майму пісьму ў Савет Міністраў будуць прыняты меры.

Прыехала Фядора Антонаўна Чухноўская і пасялілася ў Грушкаў. Платону зусім немагчыма стала працаваць у хаце. Мала бесцырымонных гутарак і на кухні і на прызбе, Марыя ўсё некуды спяшалася — ногі яе неміласэрна бохалі па падлозе. Чухноўская і Марыя сталі неразлучныя. Дзверы заўсёды зачыняліся з бразгатам, Платон аж падскокваў з крэсла. Пагружаны ў сваю работу, ён цярпеў гэты тупат, стараўся быць спакойным, засяроджаным. Калі ж Марыя забразгала ў акно і сказала, што яны з Фядорай Антонаўнай ідуць да Вераб'іхі, Платон Грушка

ўскочыў з крэсла і больш ужо не мог сесці. Захадзіў па хаце хутка, нервова. Што гэта такое творыцца? Што яе можа звязваць з гэтай Чухноўскай?

Платон Грушка не стараўся адгадваць такіх паводзін Марыі. Нейкае меркаванне часам залятала ў душу, як матылёк, і знікала. Яго выцяснялі думкі, якія мелі сваю пастаянную плынь, логіку. Яны чапляліся адна за адну, як звенні ланцужка, і вялі да тайнікоў з'яў прыроды, да глыбінь навукі. А для гэтага патрэбны цішыня і яшчэ нешта, што можна было б назваць цёплым дыханнем, ласкай. Гэта, здавалася часам Платону, павінна калі-небудзь аднекуль прыйсці...

«Але ж працаваць не магу. Здалі нервы. Што рабіць?»

Потым нейкая шчаслівая думка праясніла твар. «Пайду туды...»

Схапіў папку з пачаткам артыкула, надзеў абы-як на галаву капялюш і выйшаў. Адышоўся некалькі крокаў ад парога, вярнуўся. Замкнуў хату і ключ палажыў ва ўмоўленае месца, як гэта робіць мама, і тады пайшоў заспакоены.

Ціха, асцярожна пашумліваў разгалісты дуб над Платонавай галавою. Ён — разумны, гэты дуб, ён тут ахоўвае лясы і вунь тыя навакольныя паляны, сярод якіх туляцца ў кустаўі стагі. Адзін раз на іх зірнеш і ўжо адпачнеш. Рука пісала: «Дзярнова-падзоліста-балотныя глебы — гэта вынік доўгай барацьбы (можа, мільёны год) лугавых траў з лясамі. Гэта — перамога траў...»

Галава пасвяжэла. Часам подых ветрыку абдасць твар і заварушыць валасы. Словы за словамі спакойнай плынню кладуцца на паперу.

І ў гэтым спакоі Грушка раптам адчуў, што на стол, на яго паперы, на яго напісаныя словы глядзіць не ён адзін, а яшчэ нехта. Грушка падняўся.

Перад ім стаяла ў белым саламяным капелюшы з сумачкай у руцэ незнаёмая яму жанчына.

— Я вам перашкодзіла? — спыталася яна.— Выбачайце...

— Не, не...— сумеўся Грушка,— калі ласка, сядайце. Давайце пазнаёмімся. Я не знаю, хто вы...

— Я — тутэйшы ўрач. Вера Лукашэвіч. Чулі пра такую?

— Нядаўна чуў ад мамы. Дазвольце пацiснуць вам руку і падзякаваць за вашы таблеткі. Яны мне памаглі... Сядайце...

Вера Ігнатаўна працягнула сваю руку і асцярожна прысела на лавачку.

— Вам яшчэ няможна сядзець тут. У вас было лёгкае запаленне вярхоў бронхаў, Платон... як вас па бацьку?

— Максімавіч...

— У гэтую пару, Платон Максімавіч, пакуль сонца, яшчэ сяк-так, а ўвечары вам нельга выходзіць ні на возера, ні на канал. Таксама і ранкам. А то хвароба можа ўскладніцца.

— Слухаю вас...— ужо ўсміхнуўся Платон,— больш не паплыву з Данілам на рыбу. Плавалі з ліхтаром. Даніла — майстар лавіць рыбу астрыгай. Вы ведаеце Данілу?

— Ведаю. Я тут многіх ведаю. І старога Несцера ведаю. І яго жонку Тэклю.— Яна падумала.— Цудоўная тут мясціна,— пасля азірнулася, глянула ўздоўж па каналу і сказала: — Я чула, што тут капаюць новы канал. Я хацела пайсці туды паглядзець.

— Калі вы не супроць, хадземце, я вам усё пакажу і раскажу.

— З прыемнасцю.

Яе спакойныя крокі, спакойная, упэўненая гутарка былі прыемныя Платону. Ён глядзеў на мяккі профіль гэтай жанчыны і адчуваў, што яму хочацца глядзець на яго даўжэй.

...Калі ён вяртаўся дадому ўжо адзін, у галаве плыла адна і тая ж думка: «Як жа прыемна было гутарыць!» Прыйшоўшы дахаты, ён адчуў сябе свежым і прыемна ўзбуджаным. Пагладжваў часта валасы і думаў над новаю для яго загадкай. У чым жа тут справа? Калі ён сядзеў з Марыяй там на спектаклі ў клубе акадэміі, усю яго істоту цягнуў да яе нейкі магніт. Там было нешта ад сілы непасрэднасці прыроды. А тут? Тут адкрыўся перад ім нязнаны свет, дзе пачуцці мігцяць вясёлкамі ў нейкім тонкім блакітным змроку. Чые пачуцці? Вядома, яго, Грушкі, і яе — што павольна ішла побач.

Платон стаяў адзін у матчынай хатцы і пільным зрокам глядзеў праз акно на пясчаную рассыпістую дарогу, якая вяла за канал,— туды, у яшчэ і дагэтуль казачныя лясы. Ён жыве іх дыханнем, ён піша пра іх. Ён раскажа пра іх узнікненне і сілу. Пачуцці аселі нясцерпным свербам у душы. Яны пасадзілі яго за стол. Рука пачала пісаць. Думка сягала ў глыбіні пластоў зямлі, туды, дзе фармавалася ўсё.

Старанна запаўнялася старонка за старонкай такім не-

звычайным зместам — расказам аб зямлі. Навокал ляжалі ў беспарадку тэзісы, цытаты... Ён часам прыўставаў і, прыжмурыўшыся, глядзеў на сваю бібліятэчку. Рука нацэльвалася — выхоплівала адтуль патрэбную кнігу...

Так працуючы, Платон урэшце адчуў, як дала аб сабе знаць стома. Паклаў самапіску, выпрастаў спіну і рукой дакрануўся да лба — ён быў гарачы, нават крыху спатнелы.

Час мінаў ужо далёка за абед. Цень паволі паплыў па сталі — за акном мільганула постаць маці.

Абедалі толькі ўдваіх. Марыя з Фядорай Антонаўнай не прыйшлі.

Пасля абеду Платон прылёг і сам не помніць, як заснуў. Сон быў глыбокі, спакойны і нядоўгі. Калі прачнуўся і ўстаў, адчуў сябе лёгка, бадзёра. Памыўшы твар халоднай вадою, схапіў са сцяны гітару і выйшаў на падворак. Выходзячы, запытаўся ў маці, якая чысціла маладую бульбу, ці не прыйшла Марыя.

— Не, не прыйшла,— адказала маці,— загасцявалі там...

Платон крыху пастаяў, падумаў і выйшаў. Сеў на прызбе, праплыў пальцамі па струнах і ўпаўголаса, як сам сабе, заспяваў: «Сяду я за стол да падумаю...»

Голас ліўся ціха, прамаўлялі струны з адценнем душэўнага суму. Паволі, нібы крадком, асядалі змрокі і ахутвалі наваколле мяккімі ценямі.

Выйшла маці і села побач з ім. Відаць, яе паклікала сюды песня, чымсьці дайшла да сэрца. Яна слухала, і калі Платон скончыў, некаторы час маўчалі абое.

Урэшце маці ўздыхнула і нясмела сказала:

— Я не ведаю, сынок, як вы будзеце жыць...

Платон глянуў на маці, нібы хацеў спытацца, пра што гэта яна.

— Жыць? Гм... Будзем жыць як набяжыць,— пажартаваў Платон.

— Не ўломіш ты яе... Яна ж тваёй работы, тваіх гэтых кніжак аніяк да душы не бярэ. Яна мне сказала, як толькі вы прыехалі: «Ой, божа ж ты, і тут столькі кніжак? І нашто іх столькі?» І там, кажа, і тут...

Платон усміхнуўся.

— Без працы, сынок, яна зусім сапсуецца. І пачне падурному камандаваць табою. Пабачыш.

— Пабачым, мама. Так здарылася. Каб толькі яна мне не перашкаджала ў працы.

— А пра што ж я кажу? І ты маўчыш.

— Ат... Я ж не хачу яе крыўдзіць. Скажы, а яна возьме ды пакрыўдзіцца. Ну якая з гэтага карысць?

— Так-то яно так. Але казаць усё роўна трэба. Я з ёю перад ад'ездам пагавару.

Да ад'езду сапраўды ўжо асталося мала дзён. І таму трывога за лёс сына не давала Аляксандры спакою.

## ВЕРАСНЁВЫЯ ПОДЫХІ

Грэчка ўжо амаль пачарнела. Але жаць яе ранавата: яшчэ не даспела, не сцвярдзела зерне. Таксама ранавата яшчэ і бульбу капаць. Бульбянішча зелянее, хоць вялае ўжо, але яшчэ зелянее. Толькі дзе-нідзе пракідаюцца понізу пры зямлі пажоўклыя лісточкі. І больш на палях ужо нічога няма.

Прырода пачынае насцярожвацца, чуючы набліжэнне восені. Ветры не сцелюцца плаўнай плынню пры зямлі. Гэта будзе пазней. Яны праносяцца кароткімі парываннямі і раптам заціхаюць, прытаіўшыся. І таму лес загойдаецца, шугане вяршынямі, як спрасонку, а потым сціхне.

Толькі грэчка і бульба асталіся на серадзіборскіх палях. Было дваццаць пяць гектараў ільну. Яго вырвалі, і ён, пастаўлены ў кучкі, грэе свае пацямнелыя галоўкі пад сонцам апошніх жнівеньскіх дзён. Яго хутка павяжуць у таўшчэзныя кулі і павязуць пад гумнавыя стрэхі на такі для абмалоту.

Тое самае зрабілі натруджаныя рукі калгасніц і з каноплямі.

Многа работы каля льну і канапель, ручной, упорыстай работы. Пасля абмалоту трэба мачыць у канале, потым сушыць, церці... І ўсё пакуль што рукамі. Але гэта нішто, гэта знаёмае, прывыклае ад пакалення да пакалення. Каб толькі не скруцілі гэты Верабей са сваім асотам працадзён. Гэта ўсім вядомыя круцялі. І вот жа жывуць, ніякая халера ім не робіцца. Вунь Піліпчыха хадзіла да рахункавода — пыталася, колькі ж яна мае працадзён.

Той паглядзеў у паперы і сказаў: «Сто пяцьдзесят, цётка». А яна ж непісьменная, і то стала, прылажыла палец да губы і пачала лічыць у галаве. Адкладала, адкладала налічанае і сказала рахункаводу: «Дзе ж мае працадні? Гэта ж вельмі мала?» Рахункавод сказаў, што ён запісвае тое, што кажа брыгадзір. Гэта — асот. А хто не

скажа, што Пілінчыха, мусіць, найбольш мае працадзён за ўсіх. Яна ходзіць дзень у дзень на работу — і ўлетку, і ўзімку. Гэтай зімою нават па сена ездзіла за канал. Воз сена накладзе лепш за якога мужчыну...

Расце трывога аб працаднях. Ды, можа, не пакрыўдзяць гэтыя дзяўчаткі — звеннявыя — Тацяніна Ніна і Несцерава Люба. Павывучваліся ўжо. Але ўсё роўна яны здаюць свае запісы асоту. Нікуды ад яго не ўцячэш.

Росы яшчэ ападаюць — і таксама буйна, як вясною, летам. Яны яшчэ доўга будуць ападаць. Толькі яны ўжо не такія свежыя, маладыя. На іх ранкамі кладзецца тоненькі сіняваты іней, як пылок. Асабліва гэта відаць на тых гектарах лубіну, што засеяны аграномам Пяхотам па жыце тады, калі яно красавала, а пазней і па пшаніцы. Лубін расце на ўцеху ўсім серадзіборцам — густы, мяккі, як шоўк, і перад вачыма ўжо мігцяць рэдка-рэдка, як паўтыканыя па полі, яго сінія кветачкі. Кожны добра думае пра агранома Пяхоту — гаспадар ён харошы і чалавек харошы. Толькі вось нешта выклікаюць яго ў Мінск. Можа, хочуць забраць куды-небудзь у другое месца? І ўсё трывожацца, каб не забралі з Серадзібора Пяхоту. Хто ж без яго выгадуе такую ўраджайную пшаніцу? А пачакайце гадок-другі, які ён тут парадак навядзе.

Росы ападаюць не толькі на Пяхотаў такі незвычайны лубін. Ападаюць на кусты па сенажацях, на лясы. Яны не мінаюць і Несцеравага старога ясеня, што высокай і шырокай кронай навісае над старой страхою, ужо дзе-нідзе амшэлай. Ясень — самавіты, упэўнены, паважна красуецца ў праменнях сонца, абліты колерамі рос, увесь поўны шумлівага птаства. І якіх там толькі няма галасоў, шчэбетаў. Высокі ясень — прынада для птушак, і яны ляцяць з-за канала, з лясных і балотных гушчынь.

Дзверы ў сенцах Несцеравай хаты адчынены насцеж — там дзве Пяхотавы звеннявыя: Ніна — па льну, Люба — па каноплях. Ніна рыхтуецца ехаць у Мінск разам з Пяхотам. Нініна маці — Тацяна — едзе на нараду свінаводаў. Яна ніколі не была ў Мінску і крыху пабойваецца ехаць адна. Папрасіла сваю дачку, ужо грамацейку, паехаць з ёю, каб было смялей і, вядома, весялей. Для Ніны ёсць і другая прычына ехаць у Мінск. З імі едзе Коля Мілаш здаваць экзамен у электратэхнікум.

Несцеравай Любе было неяк нават сумнавата, што

вось едзе ў Мінск яе сяброўка Ніна ды наогул столькі серадзіборцаў, а яна астаецца. Хочацца быць разам. Але няма прычыны для паездкі. Затое яна, стоячы ў сенцах насупраць Ніны, наказвае, каб тая купіла ёй і кніжак аб каноплях, і рознакаляровых нітак для вышывання, і круглае настольнае люстэрка, і шалік, і яшчэ нейкія дзявочыя дробязі. І ўсё паўтарае: «Глядзі, каб не забылася. А я тут пагляджу і за льном тваім».

Птаства ўсё яшчэ шумела на Несцеравым ясені, шумела ядрана, бадзёра. З комінаў серадзіборскіх хат і домікаў плылі свежыя кучаравыя дымы.

## ЗАПАВЕТНЫ ПЕНЬ

Ішлі да старога Несцера, каб развітацца. Думалі ісці ўтраіх, думалі, што, можа, Чухноўская пакажа свой такт і астанецца ў хаце. Дзе там. Яна нават памыла свой круглы, з двума падбародкамі, тлусты твар, пабялілася пудрай і, узяўшы сумачку, села на прызбе — чакаць.

Учора, седзячы на гэтым самым месцы з Марыяй, яна гаварыла ёй то пра кітайскія кофты, то пра капелюшы з пер'ем. Скардзілася на нейкую швачку з Азярышча, што дрэнна пашыла ёй плацце, не па фігуры, так што няма ніякага ні выгляду, ні формы — толькі матэрыял сапсавала.

Потым, гладзячы свой жывот, пыталася ў Марыі:

— Ну ці ж я ўжо такая таўстая? Паглядзі, Маня...

Марыя скоса кідала вокам на гэтую «гару» і казала:

— От... Трошкі...

— А яна ж мне, чартоўка, усё згадзіла.

Расказваючы пра свае розныя бліскучкі, Чухноўская ўсюды канчала адным і тым жа словам: «Ажур, ажур, ажур...»

Потым перайшла на шэпты, уводзячы Марыю ў нязнаныя жаночыя сакрэты. Час ад часу дакраналася да Марынага жывоціка і пыталася ў вуха гарачым шэптам:

— Няўжо ты будзеш раджаць? Яшчэ ж маладая. Пагуляй...

А цяпер вось Фядора Антонаўна сядзіць на прызбе і чакае, калі выйдуць з хаты Грушкі, каб разам з імі пайсці да Несцера.

Ішлі па вуліцы павольна. Маглі б ісці хутчэй, але Фядора Антонаўна пераварвалася з нагі на нагу, нібы качка. І, вядома, сапла. Дзе ж ты тут паспяшаешся? Аляк-

сандра пачынала ўжо злавацъ, але маўчала, сціснуўшы губы.

Нейкі бог пашкадаваў заклапочаную Аляксандру. Ззаду пачуўся гудок. Усе аглянуліся — іх даганяла машына. Яна спынілася, і з яе выглянуў гідраінжынер Грыбавец.

Ён ехаў з Мінска, каб праверыць работу экскаватараў. Вёз пісьмо ад Кляновіча Грушку.

Папрасілі яго падвезці хоць бы адну жанчыну. Селі дзве — Аляксандра і Фядора Антонаўна. Больш месц не хапіла. Тады выйшаў сам Грыбавец, і на яго месца побач з шафёрам села Марыя. Грыбавец і Грушка пайшлі пехатою.

* * *

Прафесару Грушку было неяк не па сябе. І ён пад гоман застолля выйшаў у сенцы, нікому нічога не сказаўшы. Хацеў запрасіць з сабою Грыбаўца, але перадумаў, тым больш што малады гідраінжынер вёў з Несцеравай Любай, відаць, цікавую гутарку, нават не заўважыў, як Грушка выйшаў.

Душэўны стан Грушкі быў нейкі незразумелы для яго самога. Гэта стан, калі думка закранае тое ці іншае пытанне і адчувае, што вырашыць яго будзе цяжка.

Ногі павялі на канал — туды, да Кірылавых стагоў. Перад касавіцай ён, Грушка, з чародкаю школьнікаў на чале з Данілавым Пецем у гумавых ботах вандраваў па тых неабдымных сенажацях, выбіраючы каштоўную траву на насенне. Школьнікі нанеслі яму бярэмечкаў. Іх вязалі ў снопікі, неслі вязанкамі на плячах. Потым сушылі на падворку. Сухое ў мяшках насенне Грушка перадаў пад апеку аграному Пяхоту і сваёй маці.

У душы Грушкі тлела надзея на чарговы канал, які асушыць гэтае балотна-сенажатнае раздолле. Яно тады дасць не тысячу стагоў, а, можа, у дзесяць разоў больш. Ці Грушкава надзея-мара адчувала пад сабою які-небудзь грунт? Вядома, адчувала, хоць канкрэтных абрысаў яшчэ не мела. Грунт адзін — гэта сацыялістычны лад. Павароту да старога няма нават у апошняга з апошніх — серадзіборскага Архіпа.

...Пень, шырокі сасновы пень над каналам даўно празвалі Кляновічавым пнём. Ведалі ўжо ўсе серадзіборцы, што Кляновіч любіў дайсці да яго, пасядзець. Тут ён адкрываў душу гэтай першабытнай прыродзе. Тут ён вёў

гутарку са старым Несцерам, Малашкіным, не гаворачы пра Грушку. Сюды прыходзіў на паляванне з Данілам. Адыходзіў адгэтуль, заўсёды поўны новых думак, унутраных рашэнняў, вясёлкавай радасці.

Платон Грушка доўга сядзеў на гэтым пні — не помніць колькі. Ён забыўся, што трэба ехаць у Азярышча, а там далей, у Мінск. Ён пераедзе ў Мінск, будзе працаваць у акадэміі. Няхай будзе і так, хоць у душу закралася боязь, каб не страціць дарма часу, каб не адолела яна — рутына, гэты моль навукі. На плечы кладзецца цяжар, невядома як назваць яго. Наперадзе ўзнікае многа задач...

Што ж трэба чалавеку, які выйшаў на жыццёвую дарогу, поўны светлазорых намераў і надзеі, каб ён не зламаўся пад цяжкасцямі жыцця? Грушка думае, што патрэбна гартаванне душы ідэямі вялікіх людзей, якія ўсё сваё жыццё аддалі барацьбе за шчасце чалавецтва. Гэта так. Але ці хопіць гэтага? Так, хопіць, павінна хапіць...

Грушка думае, думае і дадае, як адгадку для сябе: «Але для гэтага патрэбна яна».

Так... Без яе... А дзе яна? Ён хацеў бы яе сустрэць сярод гэтых маляўнічых стагоў, як казку, паспавядацца перад ёю. Аб гэтым, відаць, карціць душа. Але яе няма.

Грушка ўстаў. Глянуў навокал, пазнаў, што блізка вечар, што трэба ісці. Пайшоў. У душы адчуваў палёгку, нібы сапраўды паспавядаўся кімсьці.

Надзея... надзея... Яна таксама сіла, калі яе не траціць.

## У ГОРАДЗЕ

Яшчэ ніяк не можа астыць Тацяна Карпец ад хвалявання, якое ёй давялося перажыць на нарадзе свінаводаў у тэатры імя Янкі Купалы. Ды наогул можна сказаць, што Тацяна ўвесь час хвалюецца ў гэтым шумным вялікім горадзе Мінску, якога яна раней ніколі не бачыла.

Але там, на трыбуне, Тацяна, храбрая ў Серадзібары, думала, што яе сэрца лопне. Яно білася ў грудзях, і ногі млелі, падгіналіся. І хто гэта выдумаў, каб яе выклікаць за гэты невялічкі столік, падобны да століка ў царкве, дзе царкоўны стараста прадае свечкі? Значыць, ведаюць Тацяну, якая ў сваім Серадзібары нічога не папусціць не толькі Вераб'ю, але і самому Чухноўскаму.

А тут, за гэтым столікам, ой як жа цяжка гаварыць,

проста няма куды дзецца. Але ж тут гаварылі пра свінні, колькі іх у каго і нават колькі мае быць на наступны год. Вось як! Трэба нават ведаць, колькі іх будзе на другі год. Ого!

Бледнасць сышла з твару Тацяны, і яна пачала гаварыць:

— Я і не ведала, што можна адгадаць, колькі прыбудзе парасят на другі год... Я ўжо чацвёрты год гадую свіней у сваім калгасе, і такое загадкі сабе не задавала. Будзе добры дагляд — будуць і парасяты, а як не будзе, то мне здаецца... я не ведаю...

Тут Тацяна глянула налева, на стол прэзідыума, дзе сядзелі сакратары ЦК і розныя старшыні — адным словам, начальства. Тацяна глянула на іх з такім выразам твару, быццам прасіла дазволу — казаць ці не... Першы сакратар ЦК у акулярах глянуў на Тацяну і зразумеў яе.

— Кажэце, кажэце,— ветліва, з усмешкай сказаў ён Тацяне.

Гэта «кажэце» і такая зычлівая ўсмешка сакратара дадалі Тацяне адвагі, і яна, ужо спакайней глянуўшы на залу, сказала, на хаду паправіўшы хустку:

— ...бо ці ж ад здохлай свінні можа быць які прыплод?

Зала выбухнула смехам. Тацяна неяк здзівілася такому смеху і сваімі чорнымі распаленымі вачыма зірнула па зале, быццам хацела праверыць, ці ўсе смяюцца. І спыніла позірк крыху на сваёй доньцы Ніне, якая сядзела ў нейкім чацвёртым ці пятым радзе, з краечка ля праходу.

Тацяне палягчэла. Яна крыху падумала, апусціўшы вочы, і гаварыла далей:

— Усё, дарагенькія, усё было б добра, каб у нас быў лад у нашым начальстве...

У зале стала ціха, ціха і вельмі напружана. Ніна зморшчыла лоб. Што ж яна скажа далей?

А Тацяна ўжо горача гаворыць:

— Гэта ж не жарты — прасіла, два гады прасіла старшыню, каб зрабілі падлогу ў свіной сталоўцы, а ён усё — «зробім, зробім». Свінні па жываты тапіліся ў гразі... Я аж плакала...

Сена накошваем многа. А зімою стог за стогам прападае. Хто крадзе? Старшыня кажа: «А адкуль я магу ведаць?» Ды яшчэ прыбедніцца, хоць ты яго малюй на ікону. Па цяляты паехаў — пяць не давёз, праглынуў. Картоплі напрадвесні прадаў у чайную, і многа свіней здохла з голаду... Калі я пра гэта сказала на сходзе, то сакратар

з раёна — падумайце — сказаў, што мне трэба язык падрэзаць. За што?

Зала грымела ад смеху. Твар у першага сакратара ЦК стаў сур'ёзны, заклапочаны. Ён нешта гаварыў са сваімі суседзямі. А Тацяна ўжо звярталася не да залы, а да прэзідыума.

— У нас ёсць людзі добрыя — у сваім сяле і прыязджаюць — аграном Кляновіч і наш Грушка. Ён таксама аграном. У нас і ячэйка ёсць, я сама член ячэйкі... Каб не яны, калгас ужо пайшоў бы з ветрам.

Пры апошніх словах увесь прэзідыум глянуў на Тацяну. Павесялеў першы сакратар.

— Калі вы... дарагія начальнічкі, выбачце мяне, бабу няграматную, калі вы не паможаце нам, як прагнаць гэтага злодзея старшыню, які нішчыць нашае дабро, то мы не вытрпім — збярэмся і, дальбог, утопім яго ў нашым возеры!

— Прагонім! — сказаў першы сакратар.

Тацяна асцярожна сыходзіла па сходках. Шукала позіркам сваю дачку, і ўсе-ўсе праводзілі яе вачыма.

Першы дзень нарады скончаны. Да вечара асталося яшчэ многа часу.

— Ніначка, хадзем дзе пашукаем вады, бо ў роце, у горле перасохла, што аж душыць.

Ніна глянула наўкол.

— У тэатры ёсць буфет. Хадзем.

Сядзелі ў буфеце ў кутку. Тацяна дапала да вады і выпіла адразу шклянку.

— Хадзем, донька, у той дом... як яго? Усё забываюся.

— У гасцініцу,— падказала Ніна.

— Ага, у гасцінец.

Ніна ўсміхалася, але папраўляць маці не стала.

— Перакусіць нам трэба трошкі. Бо ўжо і есці хочацца,— гаварыла па дарозе Тацяна.

Яду Тацяне купляць не трэба. Узялі з сабою ў дарогу кавалак кумпяка, сыр, некалькі яек, круглую буханку хлеба сваёй выпечкі. Ніна купіла паўкіло цукру, бо ў гасцініцы ёсць кіпяток.

Ішлі па праспекце. Тацяна не магла глядзець на новыя дамы. Падніме вочы і тут жа апускае. Вельмі ж дамы ўжо высокія, панскія. Але паноў няма, значыць, жывуць у іх свае людзі. Ну і дзякаваць богу.

І Тацяна неяк нават выпросталася і ўжо смялей паглядала навокал.

— Ой, донька, як усё хораша... Чаму ж ты нічога не скажаш, як я гаварыла? Добра ці не?

— Добра, мама, добра. У прэзідыуме ўсім спадабалася.

— А каму і не спадабалася, то што мне — дзьмухаць на яго, ці што? Я праўду казала.

Тацяна сціхла на момант, а потым панізіла голас і спыталася ў Ніны, як нешта запаветнае:

— Як ты думаеш, донька, нашага Вераб'я скінуць ці не, калі дойдзе ўсё да раёна?

— Калі дойдзе, павінны. Сам жа сакратар сказаў...

— Ой, каб то ж, каб то ж... А то робім, робім, а гэты злыдзень...

Мінулі камсамольскі бульвар з помнікам Дзяржынскаму, прайшлі некалькі крокаў за яго, як злева раптам падышоў да іх Коля Мілаш. Усе трое сышлі ў бок да сцяны доўгага высокага дома з гадзіннікавай вежай.

— Як у цябе там, Колечка? — запыталася Тацяна.

— Добра. Сёння здаў матэматыку. А заўтра яшчэ адзін экзамен. І ўсё.

Ніна глядзела на Колю, усміхалася. І ён паглядаў на яе. Тацяна гэта заўважыла.

— Можа, хочаце пагаварыць, то ідзіце он пад ліпы, а я тут вас пачакаю.

Коля пастаяў бы яшчэ, можа, для прыліку, але Ніна, перадаўшы маці сетку-торбачку, кіўнула яму, і яны пайшлі.

Тацяна паглядзела ім услед, а потым азірнулася туды-сюды і прыперлася да падаконніка вялікага акна, над якім з белых літар чыталіся два словы: «Сокі-воды».

Стаіць Тацяна і праводзіць вачыма людзей, якія ўсё ідуць і ідуць. Усе хораша адзетыя, у капелюшах, асабліва жанчыны. Вядома... горад. І Тацяну нейкая крыўда кальнула ў сэрца. Забылася, што і есці хочацца. Але ўсё ж такі голад напомніў сваё. Ніна нешта забавілася. Тацяна намацала ў торбачцы-сетцы і выняла адтуль белы даўгач-булку, адламала палавіну і пачала есці. Людзі, што ўсё ішлі і ішлі міма, пачалі кідаць позіркі на Тацяну. А няхай глядзяць, сваё ем, не чужое. Няхай прыйшлі б у Серадзібор і паглядзелі б, як гэты хлябок дабываецца. Пачарнелі б іх рукі і насы. Тацяна пачынала ўжо больш глядзець на жанчын. Некаторыя ёй падабаліся, асабліва тыя, што неслі дзяцей на руках. Дый дзеткі такія ўбра-

ненькія, чысценькія. Што ж ты зробіш? — Горад. Ці ў сяле зможаш такую чысціню захаваць, калі ты, дзе ні павярніся, у пяску, у балоце? Трэба ж і свіней дагледзець, і каровак, і курачку. Перад вайною хацелі лазню зрабіць у Серадзібары, ды так і не зрабілі. Вайна перахапіла. А цяпер нашаму старшыні сельсавета Карчэню не ў галаве лазня, бо ён сам толькі тады мыўся, калі нарадзіўся. Увесь закарэлы і затабаканюханы. От, знайшлі каго за старшыню! А ўсё гэта дружок Вераб'я — Бабёр.

Тацяна ўжо даядае палавіну белага даўгача. Жуе на поўны рот. А людзі ўсё ідуць і ідуць. Некаторых яна аглядае востра, нібы хлёстае бізуном. Думае — маладая, а ўжо зямля гнецца пад яе нагамі. Як тая Чухноўская ў Азярышчы. Няхай прыйшла б такая ў Серадзібор, ільну пацерла б. Ножкі ва ўсіх у панчошках, ды такіх празрыстых, што ногі як голыя — не пазнаеш. Праўда, Пятро Іванавіч Рыбін часта гаварыў, што сёлы будуць такімі, як гарады. І Малашкін... Ой, калі тое будзе? Ой, ой... далёка. Цяпер добра, што хоць кіншчык часам прыедзе ды маладзёж павесяліць трохі.

Белы даўгач даедзены. Тацяна абтрэсвае фартух і ўжо думае пра Ніну, што нешта яе доўга няма. Устае, глядзіць у бок бульвару, ужо заклапочаная, неспакойная. Думае,— можа, пайсці і пашукаць. Але пабаялася, каб не размінуцца з дачкой у гэтым людскім патоку. Прыперлася зноў і ўжо на людзей не глядзела. Думала пра Ніну.

А Ніна і сапраўды загаварылася з Колем. Але вось і яна ідзе, аж подбегам. Так і стала яна перад сваёй маці — з расчырванелымі шчокамі, чарнавокая, з русымі валасамі. Статная Ніна — ростам бог не пакрыўдзіў і станам зграбная. І ў дадатак да ўсяго ў Ніны з вачэй глядзіць спакойная ўдумлівасць. Не кідаецца Ніна вельмі ў смех — так, каб зубы бліскалі ўвесь час.

— Доўга ж вы там дамаўляліся,— пачала гаварыць Тацяна сваёй Ніне без дакору,— я аж есці захацела.

— Пойдзем, мама, у сталоўку...

— Ой, калі ж грошай шкада, донька. Хадзем лепш у той гасцінец. Там жа ёсць у нас што есці. Я вось капусты кіслай з'ела б. Але ж тут яе, мусіць, няма. Ідзі ты, донька, адна. Завядзі мяне ў той гасцінец і ідзі.

Пайшлі. І калі па дарозе ўбачылі сталовую, Ніна ўсё ж такі ўпрасіла сваю маму зайсці.

* * *

Кожны па-свойму праводзіць час у Мінску. Пяхота Тахацеў бы пабываць на нарадзе свінаводаў, паслухаць Тацяну з трыбуны, але загад ёсць загад, і ён пайшоў адразу да Зашчамілы. Ідучы, думаў: ну нашто выклікае яго Зашчаміла? Рознае прыходзіла ў галаву, але ўсё адкідалася як беспадстаўнае. Можа, хто што набрахаў?

Зашчаміла прыняў Пяхоту без затрымкі. Адразу ж.

— Сядай, герой, сядай,— вольным жэстам запрасіў ён Пяхоту, але рукі не падаў. Пасля з-пад попельных броваў востра ўставіўся на Пяхоту мутнымі вачыма і маўчаў. Маўчаў і Пяхота.

— Пшаніцу пажалі, змалацілі? — не мяняючы позы, запытаўся ўрэшце Зашчаміла.

— Усё зрабілі.

— Гм... Здорава. Колькі ж цэнтнераў у канцы канцоў на гектар? Менш, чым трыццаць, ці больш?

— Больш...— прамовіў Пяхота.

Зашчаміла раптоўна паставіў локці на стол і яшчэ мацней уставіўся на Пяхоту.

— Бо-ольш? Ого!..— ускрыкнуў ён і адкінуўся на спінку крэсла.— То-то-то-то... Вось гэта Пяхота. Маршыраваць можаш...

Наступіла маўчанне. Пяхота папрасіў дазволу закурыць і сказаў, што пшаніцы на гектар аказалася трыццаць два цэнтнеры.

— Закурвайце, закурвайце,— Зашчаміла з «ты» перайшоў на «вы» і запытаўся: — А дзе ж ты гэтаму ўсяму навучыўся? — вярнуўся ён зноў на «ты».

— Аб гэтым доўга гаварыць, Фёдар Арцёмавіч. Пачынаў у Горацкай сельскагаспадарчай школе. А канчаў...— Пяхота спыніўся, быццам раздумваў — казаць ці не. І ўсё ж такі дадаў:— Канчаў на вайне.

— На вайне? — вытарашчыў вочы Зашчаміла.— Не разумею вашага адказу. Як то можна на вайне школы канчаць.

— Трэба хацець. У нашай часці быў паручнік, якога афіцэры празвалі — паручнік з лагарыфмам, а мяне празвалі — паручнік-землякоп.

Пяхота расказаў, што паручнік канчаў гімназію ў акопах, рыхтаваўся ва універсітэт, а сам Пяхота «капаўся ў зямлі» — чытаў, возячы і носячы з сабою агранамічныя

кнігі. Чытаў іх дзе толькі прыйшлося — у зямлянцы пры свечцы, ліхтарыку, на прывалах, у сялянскіх хатах.

— Вось так... Коратка...— закончыў Пяхота.

— І больш не вучыліся? — пераходзячы на «вы», пытаўся Зашчаміла.

— Не. Здаваў экзамен экстэрнам па спецыяльнасці палявода ў Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі ў дваццаць другім годзе.

— Ага...— вымавіў Зашчаміла,— зразумела...

Ужо гутаркі не было, а Зашчаміла ўсё паўтараў: «Ага... Ага... Ага...»

Ён устаў. Прайшоўся туды і назад уздоўж стала, нешта думаючы.

— Так вось, слыш, што я табе скажу,— спыніўся перад Пяхотай Зашчаміла,— спяваеш ты добра, і нам спевакі патрэбны. Хачу табе прапанаваць адну рэч...

— Слухаю,— адказаў Пяхота.

— Гм... Як бы вам памякчэй сказаць... Мне б хацелася, каб ты пакінуў Серадзібор...

Зашчаміла спыніўся і зірнуў Пяхоту ў вочы. Пяхота доўга не глядзеў на Зашчамілу — пачаў набіваць люлечку тытунём, змяшаным з вішнёўнікам. У душы варушылася трывога.

— Ну, як? — наступаў Зашчаміла.

— Пакуль што я не маю намеру пакідаць Серадзібор,— адказаў Пяхота і чакаў, што скажа Зашчаміла далей.

— Не маеш? Серадзібор — гаспадарка яшчэ слабая. Што табе там пацець? Ведаеш саўгас «Буракова»?

— Ведаю.

— Не пайшоў бы ты туды?

— Не. З Серадзібора нікуды не хачу ісці. Серадзібор мае вялікую будучыню. Патрэбны толькі розум, рукі і крыху на пачатак дзяржаўнай дапамогі.

— Усе вы любіце выязджаць на гэтых дапамогах. Так, значыць, не хочаш?

— Не,— цвёрда адказваў Пяхота.

— Я ведаю,— працягнуў гнусава Зашчаміла,— там у вас хеўра. Кляновічаўская хеўра. Робіце што хочаце. Няма для вас ні абкома, ні ўрада, ні ЦК. Вы ўсё самі. Ну, што ж, рабіце, пабачым, чым вы скончыце.

Пяхота маўчаў. Вырашыў не паддавацца на ніякія спакусы.

А Зашчаміла, прайшоўшы ўздоўж стала, раптам крут-

нуўся на адной назе і ўжо ціха загаварыў да Пяхоты, нават абапёрся на стол, нахіліўшыся, каб быць да яго бліжэй:

— Слыш... Дзівак вы, ей-богу, само шчасце табе ідзе ў рукі, а ты адмаўляешся. У «Буракове» і зарплата вышэйшая, і ордэнчыкі могуць быць і прэміі... А там што? У етым тваім Серадзібары?

Пяхоту ўжо забрала за жывое. Каго ён мае перад сабою?

Удумлівыя шэрыя вочы яго бліснулі. Пяхота нячутна засоп, пераводзячы дух, і спакойна, сур'ёзным тонам адказаў:

— Я так не выхаваны, Фёдар Арцёмавіч, каб хапацца за ордэны. Я хапаюся толькі за зямлю і хачу, каб яна мяне ўзнагародзіла. Гэта, па-мойму, самае важнае.

— Бачыш ты які...— з тонам дакору сказаў Зашчаміла,— ордэны, па-твойму, гэта пустата... так сабе... цацачкі? Га?

— Не, гэта не цацачкі. Няхай яны даюцца тым, хто іх заслужыў. І каб не палучалі тыя, хто іх не заслужыў. Вось і ўсё.

— Ты глядзі, мудрэц, каб табе часам не перапала,— памахаў пальцам на Пяхоту Зашчаміла.

— Фёдар Арцёмавіч, я прашу мяне не палохаць.

— Вунь што заспяваў... Выбачайце, выбачайце, таварыш Пяхота. Пакрыўдзіў вас, пакрыўдзіў.

Пяхота паціснуў плячыма і маўчаў.

Зашчаміла таксама памаўчаў, махнуў рукою, выцер хустачкаю нос і сказаў:

— Як хочаш. Бачу, што з табою кашы не зварыш. Я табе добрае, а ты...

— Усё? Магу ісці? — спытаўся Пяхота.

— Можаш,— панура прабурчаў Зашчаміла і націснуў на званок.

Увайшла сакратарка.

— Аформіць яму дарожныя,— ткнуў пальцам у Пяхоту Зашчаміла.

Пяхота злёгку пакланіўся і выйшаў.

Атрымаўшы дарожныя, Іван Іванавіч апынуўся на вуліцы ў людскім патоку. Ён ішоў проста, як напралом, а гарачыя думкі гаварылі: «...Хам... Хам, ды яшчэ які...»

— Грамадзянін! Будзьце асцярожны! Што з вамі? — крыкнуў нейкі чалавек у капелюшы, з кіем у руцэ.

Пяхота спыніўся з разгону і нахмурыў бровы.

— Тысячу прабачэнняў, грамадзянін,— сказаў ён, прыкладаючы руку да грудзей,— я вельмі спяшаюся.

Пайшоў ужо цішэй, аглядней, але душа яшчэ гарэла, патрабавала выказацца.

* * *

Сустрэліся ў невялікім новым рэстаране «Жніво», пабудаваным з дошчак і пафарбаваным у салатавы колер. Усім прыемна было сесці ля адчыненага акна, якое глядзела ў гушчыню парку. Першыя прыйшлі Пяхота і Грушка, хутка надышоў Жарнавік. Не было яшчэ Кляновіча. Нешта яго затрымала. Сябры нічога не заказвалі — чакалі яго. Гаварылі тое-сёе, хоць кожны меў расказаць пра сябе нешта такое, што можна было б назваць нават незвычайным. Кожны бярог яго да прыходу Кляновіча. Пазіралі на гадзіннікі. Мінула паўгадзіны, мінула і больш, а яго няма. Жарнавік пайшоў у канцылярыю рэстарана — пазваніць. Вярнуўся хутка і сказаў:

— Не ўцякайце, Кляновіч хутка будзе.

Усе ажывіліся. Жарнавік натрапіў на яго ў прыёмнай Зашчамілы.

Кляновіч уляцеў у рэстаран спатнелы, у расхрыстанай белай кашулі, энергічна пацiснуў рукі сябрам і бухнуў на крэсла.

— Выбачце мне... не мая віна... Ён жа, сукін сын, трымаў мяне ў прыёмнай аж тры гадзіны. Другіх прапускаў, а мяне трымаў.

— Недарма Зашчаміла...— сказалі сябры.

— А я ўсё ж такі, як мне ні было крыўдна, рашыўся чакаць. Што ты зробіш? Мы грызліся, як ваўкі. Я яго клікаў ісці ў ЦК. Ён хацеў забраць экскаватары ў Серадзібары, а я патрабаваў, каб пакінуць іх на наступны год. Я сказаў, што не пайду з кабінета, няхай кліча міліцыю, пакуль ён не дасць сваёй згоды. Ён хацеў выйсці з кабінета, я сказаў, што пайду зараз у ЦК і раскажу пра ўсе яго махінацыі. Я ўжо ішоў на гэта... Ён спыніўся і занокаў: но, но, но, но, не вельмі... І сеў. Як сеў, так і здаўся, хоць форсу траціць не хацеў, бо пачаў крычаць: «Што ты хочаш? Што?! Ты хочаш мяне з сядла выбіць?» Я яму вылічыў, што мне патрэбна, і сказаў, што буду біцца за гэта да апошняга. Так...

Кляновіч перадыхнуў і гаварыў далей:

— Значыць, экскаватары астаюцца ў Серадзібары на

другі год... Другое — для трох калгасаў вобласці выдадуць пазыкі для закупкі кароў чырвонай пароды. Гэтых кароў многа асталося на Гродзеншчыне. Між іншым, пра гэта я хачу пісаць спецыяльна ў ЦК, як аб праблеме. Зашчаміла слухаў, разявіўшы рот, не верыў. Я яму назваў нават вёскі, дзе яны ёсць. У ліку гэтых калгасаў фігуруе і Серадзібор. Так што, Іван Іванавіч...— звярнуўся Кляновіч да Пяхоты,— трымайся.

Кляновіч адкінуўся на спінку крэсла і агледзеў сяброў, поўны невядомай для іх, загадкавай радасці.

— Яшчэ скажу вам... Чым я прыбіў Зашчамілу... Чым? Адгадайце.— Пачакаўшы, сказаў: — Я сказаў Зашчамілу, што ў Серадзібары на наступны год адкрыецца меліярацыйная станцыя.

Гэтая навіна зварухнула ўсіх.

— А каб вы ведалі, як збянтэжыўся Зашчаміла,— расказваў Кляновіч.— «Як? Хто? Што? Хто дазволіў? Чаму я пра гэта не ведаў?» — крычаў ён.

Тром слухачам стала ўсё зразумела і ясна. Нарэшце Кляновіч падміргнуў і сказаў шэптам, што рэпутацыя Зашчамілы, відаць, падмочана. Нешта такое чуецца... Так што...

Абедалі ўсмак. Цешыліся паркавым паветрам, што плыло да іх стала. Кляновіч, пачакаўшы, сказаў:

— Ну, я сваё скончыў. Кажэце, што з вамі здарылася ў Мінску.

Пачаў Пяхота і расказаў пра свае прыгоды ў Зашчамілы. Калі дайшло да саўгаса «Буракова», Кляновіч насцярожыўся. Чаму Зашчаміла цягнуў Пяхоту іменна ў «Буракова»? Жарнавік заморгаў вачыма, ён вось-вось хацеў нешта сказаць, але... маўчаў. Пяхота таксама не мог адгадаць, чаму ў «Буракова». Адно можна прызнаць — і гэта напэўна,— ён хоча падарваць ініцыятыву Кляновіча ў яго серадзіборскіх пачынаннях.

У Жарнавіка вочы за акулярамі разгараліся. Ён урэшце вырашыў сказаць пра тое, пра што хацеў прамоўчаць... Але тут перабіў яго Кляновіч. Ён ужо даўно хацеў спытацца пра нешта, але не дазваляў сам працэс гутаркі. Выхапіўшы хвілінку, спытаўся ў Жарнавіка:

— Ну, а як з талеркай супу, якою ты збамбардзіраваў Зашчамілу?

Жарнавік паглядзеў з момант у вочы Кляновічу, пырснуў кароценькім смехам і... уздыхнуў.

— Панізілі ў чыне...

— Як-то панізілі? Няўжо што цяжкае?

— Пераводзяць у абласную газету. На маю просьбу ў сваю вобласць. Так што, Павел Кандратавіч, будзем сустракацца часта. Вось што нарабіла талерка.

— Такую ўладу абліў. Вядома... Махнём на гэта рукою.

— Ды я...— узмахнуў рукамі ў бакі Жарнавік,— і не вельмі смуткую. Праца мая пры мне.

— Ну, і добра... Ад Зашчамілы можна чакаць усяго. Ён хоча ўсякімі сродкамі прабрацца ўверх. Але... цяжка яму будзе.— Пачакаўшы, звярнуўся жартаўліва да Пяхоты: — Дык вось, Іван Іванавіч, куды ён вас хацеў зацягнуць... Хацеў адабраць серадзіборскія ўраджаі. Стратэгія — нішто сабе...

Грушку ўспомнілася адно серадзіборскае слоўца, і ён нечакана, стукнуўшы рукою па стале, ускрыкнуў:

— Гэта — асот. Так... гэта ён — асот!

Усе глянулі на яго і засмяяліся.

## ПАЛЕСКІ ПАЯЗДОК

Малашкін выйшаў ад сакратара абкома Гугновіча нібы апырсканы гразёю.

Гугновіч не даваў нават слова сказаць Малашкіну, адразу перабіваў і гаварыў сам. І ўся яго гаворка складалася з адных папрокаў: ён, Малашкін, развёў у калгасах такую дэмакратыю, што калгаснікі не слухаюцца сакратара райкома Чухноўскага, нападаюць на сваіх старшынь нават з трыбуны ў Мінску. (Ого! Дай ім волю!) А потым спытаўся:

— А як у цябе ў сям'і?

Малашкін пацiснуў плячыма і адказаў:

— Усё ў парадку.

— У парадку? Гм... Сігналы моцныя плывуць... Уносіш разлад... Можаш страціць усё, што маеш. Падумай...

— Дазвольце сказаць...

— Ну?..

— Я знаю, хто піша на мяне. Вы яму верыце і ніколькі не хочаце верыць мне. Патрэбна праверыць усю дзейнасць Чухноўскага — хто ён — і вывесці яго з райкома, каб ён не кампраметаваў райком.

— Вывесці, кажаш? — бліснуў цьмянымі вачыма Гугновіч.— Глядзі, каб мы цябе не вывелі!

— Што ж... Як бы яно ні было, для партыі я заўсёды буду карысны, я ад партыі не адыду.

Гугновіч увесь час хадзіў за сталом, трымаючы патухлую люльку ў руцэ, а пры апошніх словах Малашкіна спыніўся.

— Ого, які партыец знайшоўся! — пагардлівым тонам загаварыў Гугновіч.

— Міхаіл Міхайлавіч, паўтараю яшчэ раз, можаце рабіць са мною што хочаце, але такіх, як Чухноўскі, трэба гнаць з партыі. І чым хутчэй, тым лепш! — выпаліў Малашкін.

— Бач, які храбрэц! Чухноўскі не заводзіць любоўных шашняў у райкоме, як ты! Замнога знаеш...

— У мяне шашняў няма.

Гутарка перарвалася. Гугновіч снаваў уздоўж стала, не раўнуючы, як у клетцы, потым сеў і стаў набіваць люльку тытунём. Па твары праходзілі цені. Гугновіч раздумваў, зрэдку пакашліваючы. Узяўшы люльку ў зубы, змёў крошкі тытуню са стала ў скрынку і закурыў. Выпусціўшы воблачка дыму, сказаў ужо тонам памяркоўным, у якім чуліся нават фамільярныя ноткі:

— Дык вось што, Малашкін, рыхтуйся ў ЦК. Цябе хочуць паслухаць аб становішчы ў раёне.

— На калі? — спытаўся Малашкін.

— Палучыш выклік...

Малашкін, едучы ў абком, на ўсякі выпадак падрыхтаваў пісьмо на імя Гугновіча аб становішчы раёна і разам з тым напісаў аб паводзінах Чухноўскага. Але цяпер, паколькі прыйдзецца быць у ЦК, Малашкін вырашыў пісьма не даваць.

На гэтым і развітаўся Малашкін з Гугновічам.

Поезд адыходзіць заўтра на світанні. Часу дастаткова. Куды сябе дзець? Хацелася б сустрэць каго-небудзь знаёмага — пагутарыць, заняць час. Знаёмых не сустракалася. Малашкін пайшоў у гасцініцу, разуўся, лёг на ложак.

Ён заснуў, чагосьці не дадумаўшы. Прыснілася Волга. Яна плыла перад ім сярод стэпавых, нават пустынных берагоў. Толькі там, далёка, за шырынёю плыні, на тым беразе, відзён зялёны лугавы лес, з вяршынь якога выглядае лёгкай сінню вежа царквы з пазалочаным крыжам. Малашкін загледзеўся туды. Так хочацца пераплыць. Там жа павінны быць сляды яго дзіцячых ног. Там роднае сяло. Глянуў Малашкін уздоўж крутога берага, каб выбраць

месца для спуску, і заўважыў — недалёка сядзіць адна-адзінокая дзяўчына. Ён падышоў і глянуў ёй у твар. У яго сціснулася сэрца. Гэта сядзела Саша, яго былая сакратарка. «Гэта ты, Саша? Ты прыйшла сюды? Дык паплывём?» Саша глядзіць яму ў вочы, потым знікае, і пустата звініць у вушах. «Саша!» — крычыць Малашкін. І рэха губіцца, вяртаецца пакутлівым уздыхам. «Саша!» — яшчэ раз крыкнуў Малашкін і прачнуўся. «Уфф... чорт вазьмі...» Прыклаў руку да сэрца, а яно аж калацілася...

Калі ціхі надвячорак пачаў ахінаць гарадок у залатой лістоце разложыстых каштанаў, клёнаў і ліп, Малашкін выйшаў з гасцініцы і бязмэтна пабрыў па вуліцы — туды, куды-небудзь у горад, дзе рознакалёрныя шыльды ўпрыгожваюць магазіны, майстэрні, цырульні.

Ён ідзе, і ў галаве точыцца адно: сон пра Волгу і... Сашу. «Няўжо гэта ў мяне сапраўды так сур'ёзна?» — пытаецца Малашкін. Іншы раз неяк сорамна робіцца за самога сябе.

Вось ужо блізка канец горада. Направа адчынена жалезная брама, над якою на белай шыльдзе значацца словы: «Гарадскі парк». Малашкін ніколі не быў у ім. Ён увайшоў у цяністую цэнтральную алею. Ідучы па ёй, урэшце неспадзявана выйшаў на ціхую, у прозалаці дрэў, раку. Пайшоў па ўзбярэжнай алеі і на заломе ракі спыніўся. Пачаў закурваць. За спіною ў яго нехта сядзіць на лавачцы — не то сталая жанчына, не то маладая дзяўчына — і чытае кніжку. Малашкін, ідучы, не звярнуў увагі на яе. Ён стаяў і курыў. Дым ад папяросы воблачкам заставаў у паветры, не хацеў расплывацца. Воблачка адплыло ад Малашкіна і павісла над ціхаю плынню ракі. Малашкін доўга сачыў за воблачкам, аж пакуль яно не растала ў паветры.

Нехта ціха кашлянуў ззаду. Гэты гук здаўся Малашкіну такім раптоўным у цішыні, што ён агледзеўся, і вочы яго адразу застылі. Ці не прывід гэта? Малашкін ад такой раптоўнасці не рухаўся з месца. Пачакаўшы, асцярожна, ціха выгукнуў:

— Саша, гэта ты?

Саша, як зачараваная, моўчкі кіўнула галавой. На запытанне, як і чаму яна тут, адказала, што прыехала ўчора ў абком па кнігі для дома партасветы і што жыве ў абкомаўскай гасцініцы.

— Мне сказалі, што там няма месца,— азваўся Малашкін.

— Цяпер няма. Правільна.

— А я падумаў, можа, Гугновіч што-небудзь навара-жыў... Што чытаеш?

— Перачытваю яшчэ раз Максіма Горкага.

Саша, ці то пад павевам гэтай залатой цішыні, ці ад штодзённых роздумаў, выглядала неяк дзіўна абыякавай, нібы нейкая крыўда абяззброіла яе. Толькі праз сумнава-тыя вочы прабівалася горыч перажыванняў. Яна слухала Малашкіна, разумела, што ён гаворыць, але адказвала ко-ратка, без увагі. На апошняе пытанне Малашкіна яна па-вярнула галаву і глянула, як хворая, і зноў стала глядзець на ціхую плынь ракі, пасярэдзіне якой плыў адзін-адзіны жоўты лісточак бярозы. Яна сачыла за ім невідушчымі вачыма.

— Саша... Саша... Ты ж сама прыгажосць...— шаптаў Малашкін, гладзячы руку Сашы,— з табою жыць і памі-раць. Чаму ты дагэтуль не выйшла замуж?

— Чакала Данка,— сказала з іроніяй Саша.

Малашкін на адзін момант адчуў сябе збітым з тропу, збянтэжаным.

Што з ёю? Адкуль такія нечаканасці? А потым, пера-могшы замяшанне, спытаўся:

— Ну і што? Знайшла Данка?

Саша доўга маўчала. Папраўляла шалік і глядзела на раку. Пасля сказала:

— Так, знайшла.

Яна глянула на яго вялікімі вачыма, і Малашкін пры-туліў яе галаву да грудзей.

— Што ты... Як непрытомная... Саша... мілая Саша... У цябе такая гарачая галава.

Саша заплюшчыла вочы, сядзела ціхая, застылая.

— Я не забуду тваіх слоў, Саша,— «за мужчын, якім не павялося ў жыцці»,— сказаў Малашкін.

Саша падняла галаву і глянула яму блізка ў твар. Ма-лашкін не адводзіў сваіх вачэй. Саша сказала:

— Пацалуй мяне...

І Малашкін пацалаваў. Потым прытуліў да сябе моц-на, горача.

Саша стрымана смяялася, уткнуўшыся тварам у яго грудзі. Пачуцці іхнія сціхлі, прытаіліся, як гэтая плынь ракі. Хацелася б плыць разам з ёю, плыць у вечнасць ся-род вечных прысад.

Саша адняла галаву ад грудзей Малашкіна, глянула цераз раку і ціха сказала, паказаўшы рукою на той бераг:

— Бачыш... сонца ўжо заходзіць... Можа, нам пара?

І ўстала. Абцягнула сваю светла-шэрую куртачку. Зашпіліла яе на грудзях, паправіла шалік і стала перад Малашкіным, гатовая ў дарогу, зграбная, моцная ў сваёй постаці. Малашкін абхапіў яе рукамі.

— А скажы,— спыталася Саша,— у Серадзібары тыя машыны яшчэ капаюць?

— Капаюць. І на той год будуць капаць.

— І праўда, што Серадзібор будзе багатай, прыгожай гаспадаркай?

— Павінен быць. Будзе.

— Як гэта добра...— ціха, з уцехай прамовіла Саша, потым прыцягнула кучаравую галаву Малашкіна і ціха пацалавала ў лоб і ў губы. А пасля пыталася зноў:

— А скажы, ці гэта праўда, што цябе ў Азярышчы не будзе?

— Адкуль ты ўзяла? Не гавары так, Саша...

— Рада б не гаварыць, але... я гэта бачу па табе. І што? Астанецца Чухноўскі?

— Калі мяне і не будзе, Саша, ёсць сілы, якія не дадуць зямлі ў крыўду.

— Цяжка ёй будзе без цябе...

Яны ішлі па ўзбярэжнай алеі, пакуль не згубіліся ўпоцемках навіслых дрэў.

...Палескі вузкакалейны паяздок пачынае свой гучны рух ад Азярышча, з таго месца, дзе на вялікім агароджаным пляцы поўна рознага дрэва. Гэта — падарункі палескіх лясоў. Тут ляжыць не толькі сасна, елка, тут навалены ярусы дубу, адборнай, без сучкоў, альхі для фанерных фабрык, бярвенні бяроз для дошчак, асін на бандарную клёпку. А потым — дровы на апал.

Кожны дзень зранку тут дыміць паравозік. Ён імчыцца потым праз пескавыя палеткі, акаймаваныя лесам, урываецца ў глухі сасновы бор, і машыніст без патрэбы часам дасць гудок — толькі для таго, каб паслухаць раскацістае, бясконцае рэха. Бывае і так, што ў гарачыя летнія дні запрацаваны паяздок спыніцца сярод неабсяжных чаротавых балот, што парнасцю імгляць пад сонцам, і ў знаёмай крыніцы зачэрпне вады, напоіць сябе, каб потым рухава было і гладка прабірацца не толькі праз лазовыя хмызы, але і ля сустрэчных вёсак, перасякаць некаторыя з іх, спішыўшы ход, а часам і спыніцца, каб падабраць пасажыраў.

Такімі пасажырамі найчасцей бываюць касцы і леса-

рубы. Асабліва касцы. Яны натоўпам стаяць ля вузкакалейкі. Ля коссяў на плячах прывязаны абмотаныя ў анучку адклёпаныя косы. За плячыма вісіць клунак, а ў ім — бохан хлеба, кавалак сала, корчыкі свежай цыбулі з градкі і бульба. У некаторых побач з клункамі вісіць вязанка новенькіх лазовых лапцей.

Старым звычаем праводзяць касцоў у касавіцу жанкі-маладзіцы, дочкі, маці. Яны нясуць клункі, каб хоць гэтым аблегчыць касцоў у дарозе, калі трэба будзе ісці пехатою ў балотныя нетры.

А некаторыя дочкі едуць з бацькамі, сёстры з братамі, і лес грабель калышацца над іхнімі галовамі. Дзяўчаты запаўняюць платформы, як разнапёрае шчабятлівае птаства, і смеху, гоману няма канца.

У гэтую серадзіборскую восень паяздок павёз у Азярышча незвычайны груз. Пачыналася халоднае світанне, калі Даніла званіў з канцылярыі праўлення калгаса на лесапільны завод і прасіў, каб паяздок надаўжэй спыніўся ля Серадзібора. Там, далёка за хатаю Грушкавай маці Аляксандры, дзе распасцерлася шырокая надазёрная пойма, расце калгасная капуста, растуць агуркі, буракі, расце яшчэ цыбуля. Там у разоры ляжаць старшыня калгаса «Серадзібор» Кастусь Верамеевіч Верабей і яго брыгадзір Духмуровіч-Куцілоўскі. Яны ляжаць і маўчаць, бо моцна звязаны вяроўкамі. Раса ўжо апала ім на насы, хоць звязалі іх нядаўна. Побач стаяць два грузавікі. Адзін поўны агуркоў, другі да палавіны. Каля іх у разоры ўзвышаецца пачатая горка крамяных агуркоў, выбраных учора з град калгасніцамі.

Арганізатарам варты над агуркамі быў Даніла. Пяць хлопцаў заляглі ўночы ў кустах непадалёку ад агарода. Да іх пазней прыйшоў і сам Даніла. Яны бачылі, як перад світаннем пад'ехалі два грузавікі. Адтуль саскочылі людзі і пачалі грузіць агуркі. Вартавыя адразу не хапіліся «да бою», далі магчымасць зладзеям упэўніцца, што навокал няма ніякай небяспекі.

У Данілы ў руках дубальтоўка. Ад яе стрэлу шафёры адразу збеглі. З імі збег і нехта трэці. Вераб'я і Духмуровіча-Куцілоўскага скруцілі без аднаго гуку. З Азярышча на матацыклах павінна прыбыць міліцыя. Нарэшце яна прыехала.

І вось паяздок на серадзіборскім прыстанку загудзеў у світальнай цішыні так, што, здаецца, апошнія зоры ўзварухнуліся на блакітна-бялёсым небе, і рушыў з мес-

ца з вострым ляскам і грукатам. На адной платформе, дзе звычайна пагружаліся дровы, ляжалі, насунуўшы на вочы кепкі, звязаныя Верабей і Духмуровіч-Куцілоўскі, а над імі пры сваіх матацыклах сядзелі два міліцыянеры. На платформы з дровамі, бярвеннямі пасела многа серадзіборцаў, пераважна жанчын. Яны едуць у райком скардзіцца на Куцілу, што пакраў іх працадні. Сярод іх едзе і Піліпчыха, якая мае працадзён найбольш за ўсіх і якую так абрабаваў Куціла. Едзе і Даніла з маладым бухгалтарам. Апошні вязе ведамасці. Адна напісана паводле запісаў Духмуровіча-Куцілоўскага, а другая — па запісах Данілы.

Так, едуць у райком. У райвыканком ехаць не хочуць, бо гэты Бабёр кожнага, хто ні прыходзіў са скаргаю на працадні, адсылаў да Вераб'я. І ў дадатак да ўсяго пайшла чутка, што трэці чалавек, які ўцёк з шафёрамі з агарода, быў шафёр Бабра.

Малашкін сышоў з поезда і хацеў ісці проста на кватэру. Перасякаючы вуліцу, глянуў налева і ўбачыў, што ў адным месцы стаіць натоўп людзей. Спыніўся і гадаў, што б гэта магло значыць. Людзі стаяць перад райкомам. Накіраваўся туды.

На ганку райкома стаяў Чухноўскі і ўгаворваў серадзіборцаў вяртацца дахаты, што на працадні будзе ўсё выдадзена, што ў райкоме разбяруцца, і хто будзе вінаваты, таго пакараюць.

— А хто нам гэтыя працадні выплаціць? — крыкнула Таццяна Карпец.

Чухноўскі ўглядаўся ў натоўп нахмурыўшыся, хацеў убачыць, хто гэта крычыць. І пазнаў.

— А, гэта ты, цётка? Знаёмыя, знаёмыя... Нічога, нехта выдасць.

— Калі нехта выдасць, то мы адгэтуль не пойдзем! А я вам, сакратарык, не цётка. Я была ў Мінску, там мяне грамадзянкаю звалі.

Чухноўскі зрабіў выгляд, што не чуе апошніх слоў, і ўсё паўтараў: «Выдадуць... Выдадуць...» Ён раздумваў, што б тут такое сказаць, каб разышліся людзі.

— Мы хочам ведаць, хто нам верне працадні! — крычала ўжо некалькі галасоў.

— Калі сказана, што вернуць, значыць, вернуць! — ужо злосна гаркнуў Чухноўскі.

Невядома, чым бы ўсё скончылася, каб за натоўпам не пачуўся голас:

— А гэта што тут робіцца?

Усе аглянуліся і ўбачылі Малашкіна з чамаданам у руцэ.

Малашкін праціснуўся наперад да ганка і сказаў:

— Таварышы, што з вамі? Нельга ж тут стаяць натоўпам перад райкомам. Ідзіце ў клуб, я зараз прыйду, і разбяромся з вашымі справамі.

Усе павалілі ў клуб, апрача Данілы і бухгалтара.

Малашкін паклікаў іх у кабінет. Разабраўшыся ў справах у прысутнасці Чухноўскага і Післяка, Малашкін выказаўся за тое, каб Вераб'я і Духмуровіча-Куцілоўскага вызваліць з-пад арышту. Паколькі Верабей член партыі, разабрацца з ім на чарговым бюро. Абвінаваўчага матэрыялу на абодвух больш чым дастаткова. Працадні лічыць па запісках Данілы, бо відаць, каму гэты шляхтун напрыпісваў лішніх. У адной Піліпчыхі ўкраў семдзесят працадзён. Усё сыходзіцца. У каго прыбывае па запісках Данілы, у таго на столькі ж працадзён убывае па запісках Куцілы. Трэба праверыць, што гэта за людзі, якім прыпісаў Куціла.

Чухноўскі нічога не сказаў адносна працадзён, а толькі настойваў, каб Вераб'я і Духмуровіча-Куцілоўскага вызваліць з-пад арышту, што следства можна весці і без арышту, што нельга так ставіцца да калгасных кадраў, нават калі яны і памыліліся ў чым.

Малашкін з Післяком не пагадзіліся з Чухноўскім. Урэшце выказаліся, што справа вырашыцца на бліжэйшым бюро. Малашкін яшчэ дадаў, што на бюро павінна стаць пытанне аб паводзінах Бабра. Міліцыя павінна заняцца і яго шафёрам.

— Мы не можам дапускаць такога здзеку з калгаснай гаспадаркі, такога марадзёрства. Калі будзем папускацца, калгасаў мы не пабудуем. Народ адвернецца ад нас,— гаварыў Малашкін. Ён пазваніў яшчэ раз Бабру. З райвыканкома адказалі, што Бабёр захварэў.

— Ага... Захварэў...— ледзь чутна сказаў Малашкін, але ўсе пачулі і пераглянуліся паміж сабою.

— Тады, Пракопавіч, паедзеш у Серадзібор ты, бо і Бабровага намесніка няма,— звярнуўся да Чухноўскага Малашкін,— возьмеш з сабою двух міліцыянераў, бо дружкі гэтага Куцілы, якім ён напрыпісваў працадзён, напэўна, падымуць голас.

— Ты мяне ў такую кашу не пасылай. Трэба вярнуць Вераб'я, і ён усё зробіць сам, без нас. Нашто нам падмя-

няць старшыню калгаса і ісці на павадку розных крыкух. Ого! Дай ім толькі волю, яны і з карку не злезуць!

— Замест Вераб'я ўсё зробіць Даніла. Ён справіцца... І яшчэ. Ты працуеш у райкоме і вядзеш сваю асаблівую лінію. Гэта ўжо вядома даўно. Больш тваёй лініі цярпець нельга. Яна ідзе ўразрэз з лініяй партыі!

— Мы самі з вусамі, Сцяпан Пятровіч, і тваёй дэмакратыі прызнаваць не маем намеру.

— Мая дэмакратыя — гэта дэмакратыя партыі! — ускіпеў Малашкін, збіраючы паперы ў папку.— Пойдзем да калгаснікаў! Нічога, мы з усім разбяромся!

Выйшлі. Выйшаў і Чухноўскі, але ў клуб не пайшоў.

* * *

Малашкін едзе з Мінска. Справаздача яго ў ЦК прайшла, можна сказаць, нават паспяхова. Малашкін многа гаварыў пра Серадзібор, даваў свае прапановы, пераконваў, што з Серадзібора можа быць выдатная універсальная гаспадарка, такая, што калгасныя дэлегацыі будуць прыязджаць паглядзець яе з усяго Савецкага Саюза: што ёсць навуковыя сілы, якія вельмі зацікаўлены стварэннем у Серадзібары такой гаспадаркі, і што яны працуюць над гэтым пытаннем, асабліва ўраджэнец Серадзібора малады вучоны-глебазнаўца Грушка, загадчык аблза аграномам Кляновіч. Хіліцца вельмі да Серадзібора гідраінжынер Грыбавец. Ён хацеў бы пасяліцца там і праводзіць меліярацыю. Пачаткі ўжо ёсць. Два экскаватары канчаюць невялікі канал, ён будзе злучаць рэчку са старым каналам, які таксама ачышчаецца. Гэта дасць чатырыста гектараў асушанай плошчы. Знойдзены ўжо месцы на лясных палянах для летніх выпасаў і стойлаў кароў. Загадчык аблза Кляновіч падаў у райвыканком спіс кольласці кароў чырвонай пароды і месцы, дзе іх можна купіць. Хутка атрымаюць ссуду і купяць. Серадзібор будзе гаспадаркай жывёлагадоўчага напрамку, і хацелася б прылучыць да яго дзве вёскі — Жыліны і Жарабкі з вялікім палявым клінам. Гэта поўнасцю забяспечыла б калгас збожжам. Бо сена ў Серадзібары аж занадта. Там ужо сёлета мяркуюць прадаць пяцьсот стагоў, бо ўсіх накошана тысяча з лішнім. Але ў калгасе яшчэ не так многа кароў, і таму хопіць ім сена, можа, менш, як пяцьсот стагоў. Гэта будзе ідаць. У Серадзібары ёсць вялікае возе-

ра, багатае на рыбу, што дае перспектывы для стварэння рыбнай гаспадаркі.

Шмат чаго яшчэ гаварыў Малашкін — аб тым, што ў Серадзібары патрэбна дзесяцігодка, патрэбна пошта, што пачалі ўжо будаваць дарогу з Азярышча да Серадзібора паралельна вузкакалейцы, што крыху пазней, калі падрасце гаспадарка, варта было б адкрыць сельскагаспадарчы тэхнікум. Вясною пачнуць будаваць гасцініцу на пяцьдзесят месц.

— Чаму так мала? — спытаўся першы сакратар.— Гэта мала, давайце хоць бы на сто для пачатку.

Такая рэпліка сакратара была як бальзам на душу Малашкіна. Значыць, першы сакратар прыхільна думае пра Серадзібор. Як гэта добра!

Бюро ўважліва слухала справаздачу Малашкіна. Па выразу твараў можна было пазнаць: усе былі задаволены, што вось недзе ў рэспубліцы робіцца такое харошае.

Калі Малашкін скончыў і сеў, першы сакратар агледзеў усіх і запытаўся, можа, хто хоча што сказаць. І выступіў другі сакратар. Ён аказаўся малайчынай. Малашкін зразумеў, што гэта ён тут папрацаваў для Серадзібора. Сакратар гаварыў аб рэальнасці планаў адносна Серадзібора, што ў ім можна хутка падняць гаспадарку, бо на гэта ёсць усе падставы, усе магчымасці. У заключэнне ён выказаў такую думку, што варта было б ЦК адведаць Серадзібор разам з камісіяй ад сельскагаспадарчай акадэміі.

— Абавязкова адведаем,— сказаў першы сакратар,— вось правядзём пленум і тады пад'едзем.

Потым сказаў другому сакратару, каб падрыхтаваў склад навуковай камісіі.

Бюро ахвотна згадзілася з такімі прапановамі.

Здаецца, скончана. Зараз усе ўстануць і разыдуцца. Некаторыя памкнуліся нават устаць. Сакратар знакам рукі спыніў гэты рух.

— Таварышы, яшчэ не ўсё. Пачакайце,— сказаў ён і звярнуўся да Малашкіна:

— Вось... таварыш Малашкін... мы ўхваляем вашу справаздачу. Гэта добра. Але на вас плывуць у ЦК непрыемныя сігналы.

— Якія? — спытаўся Малашкін.

Сакратар кіўнуў загадчыку аддзела партыйных органаў. Той устаў і пачаў дакладваць:

— «Малашкін стварыў групку ў Серадзібары, з якою

п'е гарэлку. Малашкін тэрарызуе другога сакратара Чухноўскага. Малашкін абмінае абком і робіць усё сам. Малашкін знюхаўся з Кляновічам, і яны абодва хочуць падарваць аўтарытэт першага намесніка міністра сельскай гаспадаркі таварыша Зашчамілы Фёдара Арцёмавіча». Сігналы з абкома: «Малашкін загадаў арыштаваць старшыню калгаса «Серадзібор» Вераб'я Канстанціна Верамеевіча і брыгадзіра Духмуровіча-Куцілоўскага Габрыэля Станіслававіча, загадаў звязаць іх вяроўкамі, хоць яшчэ невядома, ці вінаваты яны ў крадзяжы агуркоў...»

Здаецца, усё. Не, яшчэ адзін сігнал. Загадчык парторганаў зачытвае пісьмо Мані, жонкі Малашкіна, у якім яна абвінавачвае мужа ў здрадзе ёй і просіць ЦК вярнуць Малашкіна з сям'ёю на сваю радзіму, на Паволжа, бо іншага выхаду няма. Знюхаўся са сваёй сакратаркай Аляксандрай Андрэеўнай Іванковіч, якая цяпер працуе ўжо загадчыцай дома партасветы, і няма жыцця ў сям'і. Пераводзіць Малашкіна ў другі раён — гэта бескарысна, усё роўна яны будуць сустракацца, і жыццё і далей будзе не жыццё, а катарга. Яшчэ Маня піша, што яна не можа зносіць тутэйшага клімату, і таму так ці інакш трэба вяртацца на Паволжа.

Першы сакратар, а за ім і ўсе, глянулі на Малашкіна, які ўжо стаяў. Ён зірнуў на сакратара, вочы якога застылі пад акулярамі. Што там у тых вачах — ласка ці нялaска, розум ці абыякавасць? Не, сакратар павінен быць разумны, і ён такі і ёсць. Жарнавік не памыліўся: сакратар харошы. Што ж ён, Малашкін, можа сказаць? А сказаць трэба, сакратар чакае. Чакаюць усе. І ён сказаў, звяртаючыся да сакратара:

— Максім Іванавіч, матэрыялы падтасаваны, дзевяноста дзевяць працэнтаў хлусні. Дазвольце даць мне адказ у пісьмовай форме.

— Добра. Давайце.

І бюро на гэтым скончылася. Толькі не скончылася яно для Малашкіна.

У гасцініцы Малашкін доўга хадзіў па пакоі, стаяў ля акна і думаў, як лёгка можна навесці на чалавека паклёп. Як бараніцца супроць гэтага павуціння?

З усіх сігналаў на яго Малашкін прызнаваў толькі адзін. Гэта — пісьмо Мані, хоць і тут не абышлося без хлусні. Выдумала: клімат! Вядома, нехта нагаварыў. Ён багатоў быў расказаць пра ўсё гэта каму-небудзь даверанаму, але няма каму. І справа астаецца нявырашанай,

можа, на ўсё жыццё. Астаецца адно з двух — або ісці на ахвяры... Для каго і для чаго? Вядома, для мілай разумніцы Сашы, для поўнага дыхання на жыццёвым шляху. Малашкін, падумаўшы пра гэта, адразу сказаў: «Задзяўбуць... у першую чаргу сігналісты...» У бакавой кішэні пінжака, ля сэрца, не будзе ляжаць партбілет. Значыць, астаецца другое — забыць Сашу і вярнуцца да Мані. Ці магчыма гэта цяпер? Вядома, павінна быць магчыма, хоць на вясёласць не спадзявайся. Будзе абед у тры гадзіны, будзе сарочка, хоць з адарванымі гузікамі,— гэта няважна. Будзе нявыпрасаваны касцюм — няважна, абы касцюм. Будуць пытанні, будзе многа плётак: хто як ходзіць, як сядзіць, стаіць, хто да каго заляцаецца. І вечныя скаргі — то на мышы, то на куры. А ў выхадны — густа напудраны носік і запрашэнне: пойдзем гуляць. І гулянка размяклая, сонная, адны і тыя ж гутаркі. І кіно не ўплывае на яе, кіно — гэта забаўка. А Саша? Ого, Саша... Саша — гэта заўтрашні дзень.

Малашкін сеў за стол і, як раздумваў, стоячы ля акна, так і напісаў пісьмо — з усёй адкрытасцю. Калі прынёс пісьмо ў ЦК, у аддзел парторганаў, яму сказалі, што ён можа ехаць дахаты, што хутка палучыць рашэнне аб сваім лёсе.

Ды што там лёс? Ён ужо сам вызначыць яго сабе.

Адзіны выхад — трэба ехаць на Паволжа і там знайсці заспакаенне ў працы... працы... працы... Саша астанецца толькі марай...

Сядзіць Малашкін у купэ, шчыльна прытуліўшыся спіною да сцяны, і не хочацца яму нічога ні думаць, ні чытаць, хоць у чамадане ляжыць «Анна Карэніна» Талстога. Саша яе чытала, а ён толькі пачаў. Але сядзець яму так добра з цішынёю ў душы — Малашкін адчувае сябе вельмі стомленым. Непрыкметна надышла дрымота, тым больш што галава ўпоцемках, пад навесам верхняй лаўкі, і так лёгка пакалыхваецца поезд, што толькі адчуваецца, як усё цела адпачывае, апускаючыся ў салодкае забыццё.

Поезд ціха падыходзіў да станцыі Азярышча. Малашкін стаяў на калідоры, ужо апранены, і глядзеў у акно. Перад ім праплывала ўсё Азярышча з вулачкамі, домікамі, садамі і садкамі. Узвышалася над імі сярэдняя школа ў два паверхі, пафарбаваная ў салатавы колер. Гэта першая малашкінская турбота з першых свабодных дзён

сорак пятага года. Там Саша збірала бібліятэку, была яе загадчыцай. А потым прыйшла да яго.

Поезд, як знарок, паціху сунуўся ўздоўж стракатага Азярышча. А вось пачатак вузкакалейкі, і на ёй дыміць, гатовы да ад'езду, паравозік. Гэтая пявучая «кукушка» паднятая была ў свой час з партызанскага адхону ў лесе, ужо апутаная травою. Гэта была другая пасля школы малашкінская турбота — арганізаваць людзей на рамонт вузкакалейкі. Азярышчанскі каваль, які цяпер працуе кавалём у лесапільні, аднавіў паравозік, за што нават палучыў прэмію ад райвыканкома. А вось і пераезд дарогі на Серадзібор. Паабапал яе ляжаць гурбы камення. Пачалі брукаваць. Гэта — яго трэцяя турбота. Дарога хутка павінна павясці за сабою слупы, па іх працягнуцца металічныя жылы і панясуць па тэлефоне, тэлеграфе чалавечыя думкі, жаданні, а потым і бляск «лямпачкі Ільіча» — у Серадзібор. Усё так ці інакш кранала за сэрца, клікала ісці, ляцець да старых і ўжо новых на папялішчах вёсак, дзе зямля і людзі ўсё больш і больш знаходзяць сябе на новым, сацыялістычным шляху.

А гэта хто ідзе так рана абочынай чыгункі, апрануты ў чорнае асенняе паліто, з чамаданам у руцэ? За ёю цупае дзяўчынка-падростак і нясе невялікі чамаданчык. Малашкін пазнае Веру Ігнатаўну. Следам за ёю ў аддаленні (вочы адразу пазналі) ідзе Саша таксама з чамаданчыкам, але невялічкім. Саша... Саша... Толькі вось так я і магу цябе правесці цяпер. Услед за імі райкомаўскі вартаўнік Халімон нясе два вялікія чамаданы.

Малашкін здагадаўся — яны ідуць на паяздок. Вера Ігнатаўна назначана галоўным урачом Серадзіборскай бальніцы. А Саша едзе, відаць, да Агрыпіны Іванаўны на выхадны. Ніякавата зрабілася Малашкіну, стала на момант чагосьці неймаверна шкада. Ідуць на паяздок... Маглі б заехаць на машыне без турбот. Маглі б... Але няма Малашкіна ў райкоме, а да Чухноўскага яны не пайшлі. І як яно будзе далей, Малашкін не мог нават уявіць сабе.

* * *

Мерна пастуквае паяздок сваімі коламі на стыках рэек. Па-асенняму разлілася навокал соннасць. Толькі тамсям каровы гуртамі выйшлі на пашу. Выгналі іх сонныя пастухі.

На адной з платформ паяздка стаяць, як на парадзе, канапы, крэслы, сталы сярэдняга памеру і высокія круглыя трохногія столікі для кветак. Стосам ляжаць побач настольныя цыраты. Гэта мэбля для серадзіборскай бальніцы. На ёй размясціліся Вера Ігнатаўна з дачкою і Саша.

На другім канцы платформы, ля кучы бочак, старых і новых, прадукцыі мясцовага райпрамкамбіната, купленых таксама для бальніцы, шуміць вялікая група серадзіборскіх хлопцаў і дзяўчат. Яны ўчора пабывалі на азярышчанскім рынку. Дзяўчаты распрадалі вязанкі сушаных баравікоў, мяшочкі ягад і арэхаў, яйкі, сыры, масла і накуплялі сабе ўбораў. Хлопцы папрадавалі лазовыя і ракітавыя кошыкі, каробкі розных памераў, сплеценыя з арэхавых лык, і вязуць хто гумавыя, хто скураныя боты, куртку суконную, а хто і касцюмчык. Звычаем стала — браць у паездку на гэты багаты рынак гарманіста. І ён сядзіць на бочцы і «рэжа» вальсы, полькі. Моладзь танцуе.

Збоку, крыху адасоблена, сядзяць старыя — мужчыны і жанчыны. Мужчыны кураць — хто люльку, хто цыгарку, і вядуць свае гутаркі, у якія ўмешваюцца і жанчыны.

Але вось моладзь пачынае нешта падобнае на спектакль. На «сцэну», з дазволу Веры Ігнатаўны, пастаўлены стол, ля стала крэсла. На крэсле сеў хлопец з завязанай шчакою. Кепка надзета так, як носіць Верабей,— чубком уверх. Перад ім стала чырванашчокая красуня ў жоўтай хустцы з малінавымі кветкамі. Яна ў такт гармоніку стукнула нагою, узяўшыся ў бокі, і пачала:

Я прыйшла да старшыні,
Што прыйшла, не каюся.
— Дзе прапалі працадні? —
Я яго пытаюся.

А старшыня з завязанай шчакою адказвае звяглівым тонам, як хворы:

— Я ж працую не адзін,
Можа, знае брыгадзір,
Можа, знае путавод —
Гэта наш рахункавод.

Красуня зноў тупнула нагою і ад задору аж перагнулася назад, з вышыні азіраючы старшыню:

— Так гаворыць, старшыня,
Заяц у капусце,—
Як не знойдзеш працадня,
Ў камунізм не пусцім.

А ўвесь вялікі гурт пасля кожнай прыпеўкі падтрымлівае хорам:

Брыгадзір вянчаецца,
Сэрца разрываецца;
Брыгадзір вянчаецца,
Сэрца разрываецца...

А на суседняй платформе за стосам скруткаў толі сядзеў Верабей сапраўды з завязанай шчакою. Яму балеў зуб. Побач хроп п'яны Духмуровіч-Куцілоўскі. П'яны быў і Верабей, але заснуць яму не даваў зуб. Ён толькі падрэмваў і пахістваўся ў такт перастуку колаў паяздка.

Іх выпусцілі з-пад арышту. Чухноўскі з абкома пазваніў начальніку раймііліцыі Івашку — выпусціць затрыманых да асобага загаду. Пасля ад'езду Малашкіна ў ЦК Чухноўскі адразу паехаў у абком і, вядома, дабіўся свайго.

Праязджаючы праз густы бор, паравозік, як заўсёды, даў той «непатрэбны» гудок, і ён рассеяўся прыглушаным рэхам, абвяшчаючы лясным прасторам, што палескі паяздок вязе з сабою маладосць Серадзібора.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## Раздзел першы

### ПРАЗ ГАДЫ

Год праходзіць за годам, і з імі разам, не адстаючы, крочыць Аляксей Жарнавік. Як абветраны падарожны з кіем, ідзе ён шляхамі і дарогамі Беларусі, поўны роздуму на адзіноце. Хочацца яму зразумець, асэнсаваць, што робіцца на палях, у хатах, а значыць, і ў душах людзей. Часам здаецца яму не ўсё ясным, зразумелым, асабліва калі ён спыняецца ў вёсцы, у хаце. Там наслухаецца столькі гутарак аб калгасах, што аж цёмна стане ўваччу...

«Прыязджае,— кажуць,— які-небудзь маладзён з раёна і адразу на сходзе, не пытаючыся ні ў кога, загадвае, што садзіць, што сеяць. А ці ж можна план складаць без земляробаў? Так вось і сеем, і садзім, а толку ўсё няма. Калі і бывае добры ўраджай, то на ўборцы страты. Жніво пройдзе добра — дажджы на полі ўраджай змалоцяць. Бо ніхто не хоча далажыць рук па-сапраўднаму.

А працадзень? Ён гіблы, худзенькі, як былiначка...»

Жарнавік не можа забыць аднаго выпадку. Ён спыніўся нанач у нядаўняга брыгадзіра, дзе гаспадыня і вячэраць наварыла, і на стол падала, але ўсё моўчкі і моўчкі. Падумаў Жарнавік пачаць з ёю гутарку і адмовіўся. Вельмі цяжкою заклапочанасцю павявала ад гэтай, яшчэ не старой жанчыны. Цяжка глядзець на затужаную жанчыну ў хаце.

А гэтая жанчына акуратненька паслала Жарнавіку, разгладзіла сяннік, накрыла прасцінoю, узбіла падушку і, адвярнуўшыся ад ложка, спыталася, ці ён любіць спаць, каб высока было пад галаву ці нізка. І ўсяго было слоў за ўвесь вечар.

Раздумна і невясёла рабілася Жарнавіку на сэрцы. Пачаў сціскаць грудзі камень тугі, нейкай даўно знаёмай, але прызабытай. Гэта туга з тых дзіцячых год, калі трывожна, цяжка рабілася пад хатняй страхою, калі маці была ў задуме. Гэтае маўчанне...

Жарнавік лёг на ложак, накрыўся ватнай коўдраю. Пагасла святло, і змрок напоўніў куткі. І здавалася яму,

што там стуліўся нехта і думае ў цішыні цяжкую думу. З-за хмар хутка праясніўся месяц, і перад Жарнавіковымі вачыма, за акном, заварушыліся галіны бярозы. Ці хто яшчэ глядзіць на гэтыя галіны, ці толькі ён, Жарнавік, якога не бярэ сон, хоць гаспадыня далажыла рук і паслала яму так добра, што нідзе нічога не муляе? Відаць, не толькі ён адзін. На асенніх палях цяпер прасторна — усё пажата, у добрых старшынь паважана, асталася на полі толькі бульба, а ў нядобрых — грэчка не зжата, асыпаецца, салома не застагавана, гародніна псуецца ў буртах. Вось аб чым задумалася гаспадыня!

Жарнавіка закалыхала тая галінка бярозы, што не пераставала ківацца за акном. Ён не помніць, калі заснуў.

Сон Жарнавіка быў неспакойны. Амаль праз усю ноч ён адчуваў пад галавою не сваю падушку. Заснуў добра недзе пад світанне і, нягледзячы на такі позні сон, прачнуўся рана. Расплюшчыў вочы і адразу ўбачыў, пазнаў, што гаспадыня ўжо выпаліла ў печы. Па хаце расплывалася цяпло разам з пахам смажанага сала. Брыгадзіра ўжо не было — ён пайшоў да сваіх, такіх ранніх абавязкаў. Жарнавік не хоча, каб заўважыла гаспадыня, што ён ужо не спіць. І таму глядзіць на хату праз прыплюшчаныя вочы і бачыць, што гаспадыня стаіць тварам да перадпечнага акна, захіляючы яго сабою, і ў гарачай вадзе мые лыжкі, міскі, стары ўжо апалонік, бліснулі два відэльцы, калі яна іх клала на паліцу. Яна мые не спяшаючыся, гледзячы ў акно ў такім роздуме, быццам акна і не бачыць. Яна не глядзіць на сваю работу, але адчуваецца спрыт у руках, гібкія навыкі ў рухах. І ў Жарнавіка пад ціхі, як прытоены, рытмічны плёск вады ў вялікай місцы стуляюцца павекі да сну.

Жарнавік устаў, прывітаўся з гаспадыняй. Яна спытала, ці добра спалася. І змоўкла на паўслове. Адчыніла дзежачку, што стаяла на лаве, і стала ўглядацца ў яе, нібы даючы гэтым знаць, што «ў вас сваё, а ў нас — сваё».

Увайшоў брыгадзір Сцяпан і прынёс з сабою бадзёрую свежасць восені. На хаду скінуў куртку, шапку, адным махам усё павесіў на гвозд і крыкнуў: «Марыля, давай снедаць!» З грукатам прысунуў табурэтку да стала і сеў, запрашаючы да сябе Жарнавіка. А Марыля выйшла ў сенцы па нешта і забавілася. Брыгадзір дастаў з-за іконы вязанку лістоў і сказаў:

— Вось паслухайце, якое я пісьмо пішу брату ў Ка-

наду. Пішу і ўсё ніяк не скончу... Брат мой паехаў у Канаду ўжо даўно, яшчэ пры Польшчы. Толькі нядаўна прыйшло першае пісьмо. І вось што я яму пішу.

Брыгадзір пачаў чытаць:

— «Дарагі брат Апанас! То ж даўненька не чулі мы твайго голасу. Думалі, што, можа, ты там заглух зусім. Мы рады, што ты жывы і здаровы, і шлём мы табе наш брацкі, савецкі паклон. Каб ты, Апанас, паглядзеў, як мы цяпер жывём, то тады даў бы веры, а так — можа, і не паверыш, бо ў вас там хватае гаўкачоў. Але ты ім, браце, не вер. Вер мне, як свайму брату. Помніш, як мы гадаваліся і жылі ў дзедаўскай хаце. Як цесна было і цёмна і ўсё адны недастачы. А цяпер зацірki поснай не ямо, у лапцях не ходзімо, на негаблёваных дошках не спімо, калючымі дзяругамі не акрываемся, ёсць ужо ў нас ватныя і іншыя адзіялы, ёсць ложкі гарадскія, блішчаць у нашых хатах падмаляваныя. Прыедзь і паглядзі... Ёсць у нас і радзіво, скора электрыка будзе...»

Увайшла Марыля, палажыла кавалак белага сала на палічку і падышла да стала, перагнулася цераз плячо свайго чалавека і стала слухаць.

А чалавек чытаў далей:

— «Каб ты ведаў, Апанас, што парасят у хаце мы не кормім, як гэта было яшчэ пры табе, сала ямо ўволю і малака хватае. Адзежу купляем у магазіне, ужо мая Марыля кроснаў не тчэ, у тонкіх спадніцах ходзіць...»

Марыля перабіла.

— Ой-й...— працягнула яна,— нашто ты гэта пішаш? Каму там патрэбна ведаць, у чым я хаджу.

А ў самой адчувалася глыбока захаваная ўсмешка, якую яна ўсімі сіламі трымала ў сабе. У Жарнавіка аж ад сэрца адлягло. Марыля хутка ўцерлася фартухом, каб згладзіць сваё хваляванне. А потым зноў перагнулася цераз плячо свайго чалавека і сказала:

— То напішы ўжо, што я зубы ўставіла...

— А што ты думаеш, што я не напісаў?

— То дзе ж яно?

— А ты не перабівай,— адбіўся муж і чытаў далей:

— «А помніш, Апанас, нашага суседа Петруся дачку Марылю, якая яшчэ падлеткам была пры табе? Помніш, як кабыла выбіла ёй тры зубы капытом? Я ж яе замуж браў шчарбатую...»

Марыля ціха ўцерла слязінку і слухала далей. А брыгадзір чытаў:

— «А цяпер, Апанас, яна з зубамі. Як засмяецца, то бліскаюць, як у тае пані Пагарэльскай некалі...»

Марыля таўханула свайго Сцяпана ў плячо і адышла да печы. Адтуль гукнула:

— Даволі! Давайце снедаць. А то час праходзіць!

І ў голасе чулася заспакоенасць. Відаць, усё прыйшло да нормы.

А Сцяпан канчаў:

— «Аб адным мы просім сакратара райкома як бога, каб ён нам прыслаў добрага старшыню калгаса, а то які ні прыйдзе, усё не да рук. Адзін любіць многа спаць, другі — многа піць, а трэці — браць, што дзе нядобра ляжыць. А цяпер у нас такі старшыня, што любіць усё разам — і спаць, і піць, і браць. Такога паміж ваўкоў у лесе не спаткаеш. А фамілія ў яго, як у маленькай птушачкі,— Верабей. Усё добра было б, каб не блыталі нас з сяўбою розныя разумнікі. Але думаем, што і ў гэтым хутка будуць змены на лепшае, што лепшы будзе догляд зямлі».

Снедалі, вялі ўжо жвавую гутарку, як быццам усе беды на свеце адышлі ў нябыт. Добра, калі ёсць каму выказацца, не аглядаючыся,— хоць бы нават і брату за акіян.

Кідаецца Жарнавік, як кажуць, ва ўсе бакі і не можа знайсці сабе спакою. Піша нарысы пра жыццё калгасаў падвойныя — адны экземпляры рэдакцыі газеты, а другія — сабе. Ведае, што гэтых апошніх ніхто друкаваць не будзе. Але галава дыктуе, рука піша. І такім чынам ствараюцца запісы, хоць не рэгулярныя — проста як бы на ляту. Ды яно інакш і не можа быць.

## *З запісаў Жарнавіка*

...Учора прысутнічаў на бюро Азярышчанскага райкома. Стаяла пытанне, каго паслаць за старшыню калгаса ў Серадзібор. Аказваецца, кандыдат ужо быў падрыхтаваны. Чухноўскі загадаў паклікаць яго з прыёмнай. Увайшоў малады яшчэ мужчына з непрычэсаныміваласамі. А можа, яны не хочуць слухаць грэбеня? Прозвішча — Судакоў. Правaліў работу ў леспрамгасе. Мне даводзілася займацца гэтай справай. Чухноўскі пасылае яго ў калгас, як на кару. Хацелася заступіцца за Серадзібор, але ўсе маўчалі, толькі падтрымаў Чухноўскага Занозін і, як ні дзіўна мне, рэдактар мясцовай газеты. У Серадзібор трэба сур'ёзнага чалавека.

* * *

Навіна. У Мікалая Вайткевіча, былога нямецкага бургамістра ў Азярышчы, пасяліўся малады, нікому не знаёмы ў гэтай ваколіцы, чалавек. Гэта нібы меліяратар, будзе абмерваць рэчку Балачанку, што працякае за агародамі Вайткевіча. Але людзі чамусьці яго пабойваюцца.

* * *

Нічога не разумею... Зашчаміла дзейнічае... Ён ужо не намеснік міністра, а дырэктар балотнай станцыі і, вядома, пастараўся забраць экскаватары з Серадзібора. І што цяпер будзе? Паеду да Гугновіча.

* * *

Адбылося ўзбуйненне Серадзібора. Да яго далучаны Даяк і трэба было чакаць, Жыліны і Жарабкі... Ну чаму Даніла Падкова не старшыня? Дзе галава ў гэтага Чухноўскага? Усім вядома, што Даніла — гэта адна чэснасць...

* * *

Бачыўся з Кляновічам. Ён быў у ЦК. Там яму сказалі, што «пакуль што спынімся з серадзіборскім эксперыментам». Паколькі да Серадзібора далучаны палявыя сёлы, то трэба ўжо на гэтай базе змагацца за ўраджайнасць. Тое самае я чуў ад Гугновіча. Ці ж «серадзіборскі эксперымент» можа пашкодзіць агульнай справе калгаса і наогул? Ну... можа, я сапраўды ўсяго не разумею? Значыць, асушка ў Серадзібары спынена на паўдарозе. Шкада, вельмі шкада... Ну і Зашчаміла! І меліярацыйная станцыя асталася недакончана...

* * *

Усё ж такі адваявалі серадзіборцы ў Чухноўскага Данілу. Стаў намеснікам старшыні. А Судак страшэнна запіваецца, самадурнічае. Нарады з брыгадзірамі робіць па начах. Ну што гэта за выдумкі?

* * *

Мінае ўжо два гады ад таго часу, як няма Малашкіна, а ён яшчэ ўсё на вуснах у людзей. Усе, хто яго ведаў, бачылі ў ім сапраўднага партыйца, чалавека з партыйным

розумам, душою... А цяпер Чухноўскі, калі зойдзе гутарка пра дзе якія недахопы, усё звальвае на Малашкіна. Вакзал недаканчаны — вінават Малашкін, клуб у Серадзібары недаканчаны — вінават Малашкін. У тым, што спынены асушальныя работы ў Серадзібары, аказваецца, таксама вінават Малашкін. Бачыце, «не трэба было пачынаць»,— гаворыць Чухноўскі. Нашто такая работа? Я пытаўся ў Гугновіча, за што ўсё-такі зняты быў Малашкін? Гугновіч адказаў, што зняты па просьбе самога Малашкіна. Праз хвіліну дадаў: «Ды ён упарты, непаслухмяны, фантазёр...»

Нешта мая душа не хоча з гэтым пагадзіцца. Выправіць усё, відаць, толькі час. Адным словам, цяжка.



* * *

Мне хочацца напісаць пра гэтага чалавека нават апавяданне. І, відаць, напішу. Гэта гідраінжынер Грыбавец. Прыехалі мы да яго з Кляновічам. Добра, што мне якраз патрэбна было наведацца да касцоў — напісаць пра іх. Мы засталі ў Грыбаўца Грушку і дактарыцу Веру Ігнатаўну. Пасля надышла Несцерава Люба. Грыбавец — гэта натхнёны гаспадар. Гадуе пышны агарод. І чаго там толькі няма! Не хопіць пальцаў на руках і нагах, каб пералічыць усе культуры, якія растуць, квітнеюць на яго агародзе. Не будзем гаварыць пра такія прыгажосці, як мак, як тычкавая фасоля, што цвіце чырвоным цветам, як віецца на тычкі цукровы гарох, як разаслалася па градках агурэчная зелень, кусты суніц. У Грыбаўца растуць і паўднёвыя расліны — лаўровы ліст і абрыкосы. Бульбу Грыбавец пасадзіў адмыслова: адна баразна засаджана позняй бульбай, а другая, побач,— скараспелай, трэцяя — іншым гатункам. І так — цераз баразну. Таксама пасаджаны памідоры, цыбуля. І духмяны ўкроп упрыгожвае ўсё, Недаканчаную меліярацыйную станцыю абкружаюць найбольш мальвы. У гэтай станцыі, якая, мусіць, заўсёды будзе пахнуць смалою, Грыбавец зрабіў акварыум... Калі мы прыйшлі, ён стаяў на ганачку і глядзеў за канал, прыклаўшы руку да лба казырком. За каналам зелянелі кусты, а далей цямнела невялікая паласа лесу. Закасаныя рукавы кашулі агалялі загарэлыя рукі Грыбаўца, дый сам ён быў загарэлы. Ён кожны дзень робіць далёкія балотныя падарожжы з тэадалітам, вывучае рэльефы. І таму з ног былі яшчэ не знятыя гумавыя боты, аблепленыя тарфяной рудою. Грыбавец пасля балотных падарожжаў крэс-

ліць карты... Ён адзін тут вартавы недакончанай сваёй меліярацыйнай станцыі, поўны цярплівасці, хоча дачакацца, каб яе скончылі будаваць.

У пустым пакоі яшчэ без акон у кутку стаіць некалькі вудаў, якімі Грыбавец ловіць рыбу. Часта па гаспадарцы памагае яму Несцерава Люба. А ў кабінеце, які ён абсталяваў сабе пад халастяцкую кватэру, на сцяне вісіць дубальтоўка, з якою ён разам з Данілам ходзіць на паляванне.

Нам добра было сядзець на верандачцы пры самай надканальнай дарозе і піць Грыбаўцоў сунічны чай. І хоць гутарылі на розныя тэмы, аднак сюд-туд успаміналі пра недакончаны канал і наогул пра Серадзібор. Падхопліваў Кляновіч, і тады пачыналася нешта накшталт нарады. Як зацікавіць новага сакратара ЦК Серадзіборам? Усклалі дагрузку на Грыбаўца, каб ён пісаў кваліфікаваныя дакладныя куды толькі можна.

Купаліся. Грушка, відаць, закаханы ў Веру Ігнатаўну, бо ад яе не адыходзіць.

* * *

Адведаў Агрыпіну Іванаўну. Расказаў ёй тое, чаго яна яшчэ не ведала. Пра Банадзюка следства спынена. Ён, відаць, ужо на волі. Агрыпіна Іванаўна аж застагнала ад гэтай весткі. Што рабіць? Цяжка мне было глядзець на яе — такую суровую ў сваёй пакуце. Вайткевіч прыносіў Занозіну свае звесткі пра Банадзюка, але Занозін не прыняў іх. Цікава... Чаму гэта?

* * *

І зноў я ў сваім Падлессі. Калі раней вёскі называлі шэрымі, то цяпер ёсць нямала вёсак, якія можна назваць белымі. Да іх належыць і маё Падлессе. Хата ў хату, новыя, адгабляваныя. Мая маці мала нацешылася новаю хатай,— ужо год, як памерла. Учора хадзіў на могілкі адведаць. Калі вяртаўся, раптам з жыта выйшаў малады чалавек у ахоўнага колеру шапцы і ў такім жа плашчы. Кватарант Вайткевічаў. Спытаўся ў мяне: «Гэта вы, таварыш Жарнавік, на магілу маці хадзілі?» Я адказаў: «Так, хадзіў, а што вам да гэтага?» Ён паціснуў плячыма і, апусціўшы вочы ў зямлю, прамовіў: «А так... нічога... Вось хачу дабрацца да хутара карацейшай дарогай...» Сказаў і палез у жыта. Я ішоў з пачуццём крыўды. Пытаўся

сам сябе: «Што гэта? Нашто гэта?» Пачало здавацца ўсякае: «Ці не шчупальцы Зашчамілы працягнуліся аж сюды?»

* * *

...Нічога не будзе. Зраблю ўрэшце тое, аб чым даўно думаю — падамся на навуку ў партыйную школу...

## ДАРОЖКІ ЛЮБВІ

Калі прафесар Платон Грушка, пераначаваўшы першую ноч у новай кватэры на трэцім паверсе, выйшаў рана на лесвіцу, то ўбачыў насупраць сваіх дзвярэй не каго іншага, як самога Зашчамілу. Гэта было так неспадзявана, што Грушка стаяў, як прыбіты, і загадкава ўглядаўся ў Зашчамілу — ён гэта ці не? Урэшце, гэта быў ён — сапраўдны Зашчаміла, і Грушка — хочаш не хочаш — кіўнуў яму галавою. Зашчаміла стаяў у чорным, пацёртым ужо скураным плашчы і ў чорнай кепцы, з-пад казырка якой таксама ўглядаўся ў Грушку, але без здзіўлення, з прытоенай усмешкай, якая нібы гаварыла: «Мне даўно было вядома, што ты тут паселішся». Ён адказаў Грушку ледзь прыкметным кіўком і тут жа апусціў галаву, нешта абдумваючы. Рукі, засунутыя ў кішэні плашча, чагосьці там шукалі.

Грушка выйшаў узяць пошту і пачаў адмыкаць скрынку, адвярнуўшыся ад Зашчамілы.

— Дык, значыць, тут пасяліліся?

— Але, учора ўвечары,— не адварочваючыся ад скрынкі, адказаў Грушка.

— Што ж... суседзямі будзем.

— Відаць, што так — будзем,— адказаў Грушка, разглядаючы пошту.

Настала кароткая паўза. Грушка ўжо ўзяўся за ручку дзвярэй, каб ісці, як раптам Зашчаміла кінуў у спіну Грушку:

— Дабіліся... наеліся... Ешце!

— Што такое? У чым справа? — спытаўся Грушка, адвярнуўшы твар.

— Ведаеш ты добра. А яшчэ пытаешся,— зняважліва працягнуў Зашчаміла і пайшоў па сходках уніз.

Грушка ламаў сабе галаву і не мог здагадацца, у чым справа. Хадзіў па кабінеце, чухаў патыліцу і ні да чога не мог дадумацца. Глянуў на гадзіннік. Трэба ісці ў ака-

дэмію. І толькі там Грушка пачуў, што Зашчамілу, гэтаму блатмайстру, не пашанцавала — на атэстацыйнай камісіі ў Маскве правалілася яго «жвачка». Трагедыя для Зашчамілы, вядома, немалая. І ён пайшоў на работу азызлы, з калючымі вачыма, якія непавідзелі кожнага прахожага на вуліцы. У галаве складаліся новыя планы аб лёгкай здабычы, чаго хочаш, абы толькі гладка ўдавалася. «Яшчэ будуць захапляцца госці, будуць сакатаць: «Фёдар Арцёмавіч... Фёдар Арцёмавіч... Ты ў нас усемагутны...» — думае на злосць усім Зашчаміла.

«Мне чалавек зручны патрэбен. І я яго знайду, вядома, знайду...» Аб гэтым і думае ўсемагутны Зашчаміла, ідучы на працу. Ён сатрэ ў парашок гэтых Грушкаў, Кляновічаў, ён яшчэ сваё дакажа. Звесці са свету Зашчамілу — ого! Рукі кароткія...

А Грушку такая неспадзяваная сустрэча з Зашчамілам — проста лоб у лоб — неяк папсавала настрой. Навадзіла на роздум, чаму іменна тут, насупраць зашчамілаўскай кватэры, далі кватэру яму, Грушку? Невялікая гэта прыемнасць — сустракацца з ім кожны дзень.

Грушка ўжо год, калі не больш, жыве адзін, і кватэру яму далі на два пакоі з куханькай. Што ж, аднаму хопіць. Сям'і ж у яго няма — ні дзяцей, ды ўжо і жонкі няма. Разышоўся Грушка з Марыяй яшчэ калі жылі на старой невялічкай драўлянай кватэрцы на ўскраіне Мінска. Такога бунту, які давялося перажыць там, Грушка не меў за ўсё сваё малапрыкметнае жыццё.

Калі настала восень, час збору плёнаў на палях, агародах і садах — восень таго мядовага для Платона і Марыі года, як вярнуліся ад мамы з Серадзібора, Марыя раптам захварэла, злягла ў пасцель. Грушка запрасіў гінеколага, і жанчына-ўрач пасля агледзін сказала Грушку на адзіноце, што Марыя — скінула... З таго часу пачаліся пакуты і бунты.

— Што ты нарабіла?! — крычаў Грушка, лётаючы па кароткім пакоі як віхура.— Хто цябе навучыў такому злачынству? Дзе ж тваё пачуццё мацярынства?

Яна маўчала, кідаючы часам адно і тое:

— Гэта ж не апошняе... Чаго ты крычыш?

Грушка спыняўся і гаварыў, як адсякаў:

— Вось іменна, што можа быць апошнім! Жыць з такою жанчынай я не магу, якая, хаваючыся ад мяне, губіць самае дарагое.

А Марыя сваё:

— Вядома, ты граматны, вучоны... Дзе табе жыць са мною? Табе пані патрэбна.

— Не, не пані! — крычаў Грушка.— Мне чалавечнасць патрэбна!

Марыя зрабіла такое злачынства пад уплывам азярышчанскай Фядоры Антонаўны Чухноўскай. Паміж ёю і Марыяй завязалася перапіска, і ў пісьмах Чухноўская і далей павучала Марыю, як жыць «па-гарадскому». У выніку гэтай навукі ў Марыі ў шафе з'явілася пяць капелюшоў розных форм і колераў. Грушка даводзіў Марыі, што капелюшы ёй непатрэбны, што яны ёй не да твару, што Марыя найпрыгажэй выглядае ў хустцы, у шалі або і зусім без нічога. Гэтыя довады былі Марыі як той гарох аб сцяну. Яна доўга стаяла перад люстрам, дабірала капялюш і ўрэшце надабіралася. Платон сказаў, што не будзе хадзіць з ёю ў кіно, калі яна будзе надзяваць капялюш. Калі Марыя аднаго ранку прынесла з рынку двух гіпсавых катоў, расфарбаваных чырвонымі і белымі палосамі, і паставіла на пісьмовы стол у кабінеце, Платон, прыйшоўшы з акадэміі, з нечаканым для сябе выбухам эмоцый схапіў гэтых катоў за шыі, вынес на кухню і кінуў у памыйнае вядро. Потым доўга наводзіў парадак у паперах, якія ў «творчым беспарадку», нечапаныя, пакінуў на стале, а Марыя палічыла патрэбным скласці іх у стос.

Марыя за каты пакрыўдзілася і не гаварыла з Платонам два дні. Нягледзячы на гэта, не пераставала па-свойму тэрарызаваць гасцей Грушкі і яго самога выціраннем ног ля парога. Абы толькі дзверы стукнулі, Марыя ўжо крычала ці то з кухні, ці са сталовай: «Ногі выціраць! Ногі!» і бегла да парога. Тыкала пальцам у падлогу і неадступна паўтарала свой загад. Госці адказвалі на такую абразу якім-небудзь жартам з усмешкай. А Грушка пачаў сварыцца з Марыяй і за гэта.

І аднойчы Марыя, палучыўшы чарговы ліст ад сваёй апякункі — азярышчанскай мадамы, сказала, што больш не можа жыць з Грушкам.

— Мы з табою, Марыя, у загсе не запісваліся, так што табе пакінуць мяне вельмі свабодна. Я цябе не пакрыўджу на дарогу. Раю табе ехаць у калгас і стаць работніцай на ферме. І яшчэ адна табе парада — спыніць перапіску з гэтай Фядорай. Гэта — злы дух...

На зіму прыехала маці, каб аблягчыць жыццё свайму вучонаму сыну.

* * *

Батанічны сад сельскагаспадарчай акадэміі быў садам ужо старым, як і сама акадэмія. Можна з асалодаю загубіцца тут — асабліва ў шэры ветраны асенні дзень, калі ў густым шуме дрэў па-асенняму шырока маўчыць зямля. Тады ясені-гіганты на алеях гнуцца, туляцца верхавінамі адзін да аднаго і ў сваіх парываннях, як спрасоння, сыплюць завірухай лісця не толькі на алеі, кветнікі, але і на самы белы будынак акадэміі.

Так было і ўчора, калі прафесар Грушка, толькі што прыехаўшы з Мінска, з партфелем у руцэ спяшаўся на аграномічны факультэт, каб там прачытаць некалькі лекцый на тэму: «Уздзеянне чалавека на глебатворчы працэс». Гэтую лекцыю павінны слухаць і слухалі студэнты ўсіх факультэтаў акадэміі. Слухалі і прафесары. Гэта па сутнасці ўрывак з новай кнігі Грушкі — «Слова аб зямлі», у якой геалогія і глебазнаўства, фізічна-хімічныя працэсы гавораць аб таямніцах нашай матухны-планеты, якую мы, людзі, так любім. Для Беларусі ў ёй адведзена спецыяльнае месца. Аўтар кнігі «Слова аб зямлі» хоча, каб яна квітнела ўраджаямі ўсякіх культур — палявых, лугавых, лясных і водных, каб чалавечы розум адшукаў яе падземныя скарбы. Аўтар называе сваё «Слова» песняю аб камунізме, дзе людзі павінны быць і будуць моцныя і прыгожыя душою і целам.

Змакрэлыя лавачкі туліліся ля ствалоў ясеняў, якія, каб не іх шырокія кроны ўгары, можна было б палічыць здалёк за пірамідальныя таполі.

На гарбатых алеях свяціліся лужынкі ў слядах розных туфляў, галёш і вялікіх рабочых ботаў. Гэта пасля ранішняга імжыстага дажджу. Грушка пакідаў тут і свае сляды.

Скончыўшы лекцыю, прафесар Грушка выйшаў на ганак акадэміі, крыху пастаяў, паслухаў шум дрэў і накіраваўся ў батанічны сад.

Дарога праз высокі вішняк, кусты бэзу, язміну павяла да мосціка цераз шырокі стаў. Усё ж такі даўно не быў тут прафесар. Некалі ён напаткаў тут жанчыну... Яна, Марыя, сядзела з ім на спектаклі, як кімсьці яму прызначаная, ці што... Вось на гэтым мосце прайшла тады Марыя міма яго, несучы кошык бялізны на плячы. Здаецца, ужо даўно гэта было...

За мосцікам пайшла ўзвыш і хутка лагодным загібам

павярнула направа прывабная здалёк пясчаная дарога. Яна нырнула ў гушчар батанічнага саду.

Барбарысы, глог і іншыя прадстаўнікі флоры танулі тут у высокай траве, памешанай з крапівою, хоць на кожным кусце вісела новая драўляная дошчачка — этыкетка з напісанай назвай расліны на ёй.

Дарожка выйшла, здавалася, на чыстае поле. Але гэта толькі так здавалася, ды яшчэ здалёк. Пры набліжэнні пазнаваліся невысокія расліны з прывязанымі да іх белымі дошчачкамі. Гэта — плошча ружаў. Гітлераўцы не змаглі знішчыць калючых кустоў розных раслін. А вось такую далікатную, як ружа, знішчылі. Тое, што аглядаў Грушка, гэта ўжо новая пасадка. Ён сюд-туд нагінаўся, чытаў назву на дошчачцы і ішоў далей. А назвы ружаў усё больш французскія, нямецкія, ёсць і англійскія. І раптам сярод такіх назваў, як «Этуаль дэ Франс», «Мадам Жюль Бушэ», «Глэн Дэйл», прафесар убачыў назву і з усмешкай выпраставўся. Назва чыталася: «Дабрыня Нікіціч». Гэта здавалася сюрпрызам. І далей — сярод розных імён прынцэс і прынцаў заяўляла аб сабе наша сучаснасць: ружа «Масква», «Прывет Ленінграду» і іншыя.

Дарожка пераходзіць у алею сярод рослых бяроз, якія лісток па лістку скідаюць сваё задумнае, залацістае адзенне. Па такой алеі можна ісці і ісці або, наадварот, стаяць нерухома. Прафесар Грушка ішоў. Яму трэба дайсці да паваротні, выйсці на дарожку ў царства яблынь — розных, розных яблынь. Яны ўжо дарослыя — пасляваенныя гадаванкі, раскінуліся на вялікай плошчы правільнымі радамі. Рады і рады... Прафесар Грушка мінае іх і, непрыкметна для сябе, прыспяшае хаду. Ён ідзе ў самы канец саду, глядзіць направа. Воддаль ад дарожкі на шырокай ускраіне стаіць адна яблынька. Ёй трэба было б стаяць пры дарозе, а яна ўцякла туды, на сярэдзіну паляны, і стаіць адна-адзінюткая.

У гэтым была воля самога прафесара Грушкі.

Ён шырокім крокам ішоў да яе. Пажоўклая трава шарсцела пад нагамі, як скошаная пожня. І вось яна — разгалістая, зграбная — стала перад прафесарам. А ён нават дакрануўся рукою да капелюша, думаў зняць яго, але... рука затрымалася. На задумны твар прафесара набегла лёгкая чырвань. Не то сорам, не то што... А можа, ашуканства зроку? Бо за яблынькай, як імгненне, мільганула белатварая, знаёмая постаць са жменькай кветак у руцэ...

І ўспаміны павялі Грушку ў недалёкае мінулае.

Ужо год, як яблынька стаіць тут па волі прафесара Грушкі. Яна і напомніла яму аб адной незвычайнай для яго падзеі, якая адбылася там — у глушы роднага Серадзібора, дзе людзі сябравалі і цяпер сябруюць з лесам. Лес і завёў Грушку тады ў свае нязнаныя сховы.

Прабіраючыся на лодцы тым старым каналам, прафесар думаў паглядзець такія месцы сярод балот і лесу, дзе, калі не зусім, то вельмі рэдка трапляе чалавек. Як жа там жыве прырода сама сабою... са сваім царствам птушак, звяроў і ўсякай заедзі. Але Грушку перад усім тады цікавіла флора, пачынаючы ад дуба і канчаючы блакітнымі маленькімі кветачкамі, што, як зорачкі, мігцяць на пахмурных куп'істых балотах.

Лодку ўрэшце запынілі травы і чароты. Яна ткнулася носам у тарфяны бераг. Грушка выскачыў і пацягнуў яе за сабою. Прывязаўшы, пайшоў пратоптанаю да чарнаты сцежкаю сярод высокіх чаротаў. І там, у лесе, дзе канал гінуў сярод гушчару навіслых лозаў, Грушка пакінуў сцежку і пайшоў лесам без дарогі. Бярозавы і іншы навал у высокіх травах не раз клаўся перад ім перашкодай. І Грушка то лез цераз яго, як цераз плот, то нагінаўся, як пад жэрдку. Камарыная заедзь успыхвала з-пад ног і абляпляла ўсяго. Ці хутка будзе тая прадуха, праз якую павінна праглянуць ці то паляна, ці балота? Ее няма. Грушка паспявае глянуць на пароды дрэў, каб акрэсліць глебы. Дуба няма. Пераважаюць бярозы, менш сасны, і ўсюды доўгая, зляжалая гадамі, густая трава. Яна хутка будзе выжываць лес. Яна ўжо мацнейшая за яго. «Недарма так многа навалу»,— думае Грушка на хаду і прадзіраецца далей, найбольш праз травы. Якая ўчэпістасць, якая хцівасць у гэтых траў! Яны пнуцца ўверх і абкручваюцца па ствалах дрэў, як трапічныя змеі ці смокі. Яны душаць, смокчуць усю паласу лесу, даўжыні якой Грушка яшчэ не ведае.

Пачаўся ляшчыннік, і травы амаль што зніклі. Зямля пад нагамі стала менш вогкая, больш цвёрдая, нават карэнні ўжо мулялі пад ботамі. Праз паласу ляшчынніку Грушка выйшаў на круглую сонечную паляну. Нават прафесару глебазнаўства было дзіўна бачыць такі цуд, як жывое сведчанне навукі аб шматгадовых працэсах барацьбы сярод раслiннага царства. Навокал паляны рос пераважна ляшчыннік, быццам лес узброіўся ім перад наступам вось гэтых густых траў пад нагамі ў Грушкі, з якіх вытыркаліся празрыстыя сціплыя званочкі, павернутыя

сваімі лісточкамі да сонца, чырвоныя пеўнікі, сапраўды як грабяні пеўняў, жоўты сарочын лён, махрастыя, як воўначка, стаўбунчыкі казачкоў з лёгкай просінню па белым. А понізу тырчала шчоткаю дзярновая трава, аб якую пальцы можна рэзаць і косы тупіць. На паляне асталося два кусцікі крушыны, заглохлыя ў высокай траве, у кветачках, падобных да вішнёвых. Іх геалагічныя «дні» дахоДзяць да канца.

Грушка бязмэтна ішоў па прагрэтай сонцам паляне, апусціўшы галаву. Калі дайшоў да сярэдзіны, глянуў налева і больш не ішоў — застыў на месцы. Крыху воддаль, бліжэй да ўскраіны, стаяла яблынька — уся ў цвеце, як у вясельным вэлюме дзяўчына.

Грушка пайшоў да яе амаль подбегам, нават усхваляваны. І вось яна стаіць перад ім у сваім урачыстым цвіценні. Толькі адны пчолкі цалавалі яе далікатныя, белыя з ружовінкай пялёсткі. Прафесар стаяў, і ў душы было такое, што хоць ты ўпадзі перад ёю на калені. А навокал маўчала пусташ, адзінокая, як сон...

Прафесар браў галінку ў руку, нюхаў кветачкі, пяшчотна распраўляў зялёны лісточак, аглядаў яго з абодвух бакоў. І, як быццам нешта мяркуючы, пайшоў навокал ствала. Гледзячы ўніз, пазнаў сляды дзікоў і недаедкі леташніх яблык, пагніўшых, утаптаных у траву. «Яблынька корміць дзікоў»,— падумаў прафесар і ўсміхнуўся. Не хацелася адыходзіць ад гэтага красавання, нічым не парушанага, нічым не палоханага. Грушка задумаўся, слухаючы цішыню сярод некранутага царства, дзе толькі птушкі з неўгамонным шчэбетам стараліся ля сваіх гнёздаў. Жыццё прыроды палаініла сваёю песняй бесперапыннага тварэння. Гэта плыве ад сонца і да сонца...

Але... трэба ісці, па-першае, абследаваць раслінное багацце паляны, каб разгадаць яе век. З гэтай думкай Грушка адвярнуўся і застыў...

Перад ім стаяла Вера Ігнатаўна — у шэрым лёгкім жакеце з накінутым на галаву празрыстым шалем жаўтаватага колеру. У руках Вера Ігнатаўна трымала невялічкі пучок кветак.

— Прызнаюся... толькі вас не хапала тут. Я хаджу адзін, загублены тут. І вось... Выбачце мне за маю такую юнацкую тыраду.

— От, знайшлі за што прасіць прабачэння, як быццам юнацтва загана.

— Не... Вы як з неба скінутая на гэтую паляну! — за-

хапляўся Грушка.— Вядома, як жа быць без жанчыны сярод такой прыроды? Падыдзіце бліжэй да яе.

Грушка ўзяў пад руку Веру Ігнатаўну і падвёў пад яблыньку.

— Станьце вось тут, а я пагляджу на вас.— І ён, адступіўшы два крокі, паглядзеў, а потым прамовіў: — Няхай гэта будзе не пустою ільсцівасцю... Між яблынькай і вамі няма розніцы...

І абое засмяяліся.

— Я вас яшчэ не бачыла ў такім ружовым настроі,— сказала Вера Ігнатаўна.

— Сярод прыроды адкрываюцца ў чалавеку розныя тайнікі, якія ў штодзённых турботах не маюць магчымасці праявіцца. Хіба вы гэта не адчуваеце?

— Не ведаю... Можа...— запнулася Вера Ігнатаўна,— цікава пра гэтыя тайнікі, якія праявіліся ў вас.

Грушка падступіў бліжэй да Веры Ігнатаўны, доўга глядзеў ёй у вочы.

Яны паблісквалі, на момант хавалі бляскі, каб зноў адкрыць іх вачам зачараванага маладога прафесара.

— Прырода і вы цяпер для мяне адзіны,— прамовіў ціха Грушка, стрымліваючы сваё натхненне. Рукі абвілі стан Веры Ігнатаўны, і час застыў над палянай.

У вушы выразна ўрываўся птушыны шчэбет.

— Платон Максімавіч... Платон Максімавіч... Хадзем на маю сцежку. Я з гэтай яблынькай знаёма ўжо другі год. Мяне прывяла сюды ў свой час незнаёмая мне дарожка.

— А яна мне толькі цяпер стала знаёмай. Хадзем на вашую дарожку...— гаварыў узрушаны Грушка.

І яны пайшлі па некранутай траве, па кветках. Грушка пачаў расказваць гэтай жанчыне адну з казак зямлі...

...Ужо мінуў год, як па волі прафесара Грушкі яблынька стаіць у батанічным садзе. Калі, пасадзіўшы, задумаліся, як жа яе назваць, прафесар сказаў:

— Назавіце яе «Незнаёмка»...

Так пасля лекцыі ён і прыйшоў адведаць яе і ўбачыць тую, з кім заручыўся пад гэтай яблынькай.

* * *

Рознымі дарожкамі-пуцявінкамі ходзіць па зямлі любоў. І ніхто не ведае, калі і дзе яна заступіць чалавека на дарозе. Так вось ціхім, непрыкметным struменьчыкам падплыла яна і да сэрца Аляксея Жарнавіка. У віры жыц-

ця, у пагоні за праўдай не адна іскарка залятала ў душу, ад якой пачынала рабіцца і цёпла і радасна. Але ж трэба рухацца далей, бо жыццё кліча сваімі гудкамі-сігналамі на розныя свае станцыі. І Жарнавік спяшаўся, часам аж засопшыся. І толькі ў гадзіны роздуму, душэўнай цішыні, найчасцей у поездзе, пачынаў варушыцца каля сэрца гэты цёплы струменьчык. Ён то набліжаўся да сэрца, то, як нясмелы, аддаляўся. І Жарнавік не мог сабе нават уявіць, адкуль ён плыве, ад каго. Усё раптам засцілалася імглою, і ўвага ўжо аддавалася з'явам і рэчам рэальным.

Рука абмацвала свой падарожны партфель, вымала блакнот і запісвала, што надышло ў галаву,— як з тым калгасам, як з другім?

Там, у райкоме, у родным раёне, была калісьці Саша. Яна заўсёды выклікала ў Аляксея нейкую чыстую задорную весялосць, таварыскую жартаўлівасць. Жарнавік і Саша ў сваіх узаемаадносінах адчувалі сябе як даўнія знаёмыя. Усё было ім зразумела, адкрыта, нічога не прыхавана. Але ніколі ў Жарнавіка не нараджалася думка пазаляцацца да яе. Усё па-свойму, па-хатняму, усё з жартам і таварыскім поціскам рукі. Жарнавік хадзіў подбегам, вечна спяшаўся — ці то на які, як кажуць, вытворчы аб'ект, ці на станцыю.

І цяпер, калі няма Малашкіна, нейк знікла з увагі, з памяці і Саша. Дзе яна? Ці працуе яна загадчыцай дома партасветы, ці пакінула? Яе песня з Малашкіным перарвалася. Ну, і што цяпер?

Гэтае пытанне ўзнікла ў Жарнавіка, калі ён ужо вучыўся ў партыйнай школе. Ужо непатрэбна было спяшацца на паязды, а потым у калгасы, саўгасы, на лесапільні, да лесарубаў. Пазбыўся Жарнавік штодзённай мітусні. Вось ужо другі год ён у школе, а яму яшчэ ўсё здаецца, што яго нервы ўсё адыходзяць ад таго вечнага напружання, быццам асядаюць недзе на дно, як, скажам, у скаламучанай вадзе крыштальныя пясчынкі.

Лежачы на ложку ў інтэрнаце ў вольныя ад заняткаў хвіліны, ляцеў Жарнавік думкамі ў сваё даўняе і нядаўняе мінулае. Думкі найбольш кружыліся ля свайго раёна. Як там? Што там? Што натварыў Чухноўскі? І які лёс Сашы, калі Малашкіна няма? Ці не крыўдзіць яе Чухноўскі? Ад такіх пытанняў узнікала жаданне даведацца пра Сашу. Яшчэ не ўсведамляў Жарнавік па-сапраўднаму сваёй трывогі, якая стукалася ў сэрца.

Аднаго разу Жарнавік, працісхаючыся праз вячэрні

людскі натоўп, калі ад ліхтароў падаюць на твары палосы святла, нешта знаёмае заўважыў у адной маладой жаночай постаці. Азірнуўся, пасляшыў за ёю. І вось няма ліхтара, і стала цёмна. Постаць знікла.

Жарнавік спыніўся ў роздуме. Людзі абыходзілі яго, штурхалі, а ён стаяў як сам не свой. Потым махнуў рукою безнадзейна і пайшоў сваёй дарогаю ў адваротны бок. Надышлі ўжо сумнівы: «Чаго Сашы тут быць? Не... гэта проста подман зроку...» Але падумаўшы так, Жарнавік міжволі ўсё ж такі ціха ўздыхнуў, пашкадаваў у душы чагосьці, што вось так прывабна прамільгнула і знікла.

«Можа, папрасіцца ў дырэктара школы на некалькі дзён дахаты?» — нясмела падумаў Жарнавік.

* * *

Сярод кастрычніцкіх дзён, пераважна імжыстых, прасідаюцца і сонечныя, пакуль бясконцыя хмары зноў не зацягнуць неба цяжкаю, панурай павалокай. Сонечныя ранні ў такі час багаты звонкім паветрам, якое, здаецца, патрэсквае ў ледзь кранутых прымаразкам дрэвах з яшчэ не зусім апалым лісцем. Сонечныя дні ў кастрычніку, лістападзе прыносяць і месячныя ночы, поўныя халоднага, бадзёрага спакою і празрыстай, нічым не зацененай яснасці.

Аляксей Жарнавік, ужо гарадскі бывалец, ходзіць па горадзе з сельскай лірыкай у душы — душы хоць і маладой, але ўжо стружанай. Ён любіць прайсціся па вуліцах Мінска іменна ў такія вечары і хадзіць часта аж да позняй ночы, каб з плошчы Волі агледзець Мінск у месячным бляску, калі здалёк яшчэ даносіцца спознены голас рэпрадуктара, напяваючы беларускага гумарыстычна-непаўторнага Мікіту:

Мікіта, Мікіта,
Так і гэтак Мікіта...

Нязначным, невялікім гарадком быў Мінск у сваёй неспакойнай мінуласці, калі не раз ад мяча і пажару гінулі на гэтым гістарычным скрыжаванні дарог здабыткі пакаленняў.

Вось стаіць абгарэлая ратуша з гадзіннікавай вежаю пры ёй, скалечанай гітлераўцамі. Гадзіннік некалі адбіваў час для гараджан, і звон з высокай гары даходзіў да слыху

кожнага, напамінаў, што дні і ночы праходзяць для таго, каб будучыня была лепшай. «Добра было б, каб гарсавет размяшчаўся вось тут, у гэтай ратушы, і каб на ёй развяваўся чырвона-зялёны сцяг, як сведчанне народнай улады. Сцяг з гэтай гары быў бы відзён кожнаму ў Мінску»,— думаў не раз Жарнавік.

Жывое сярэдневякоўе размясцілася ў даліне, пачынаючы ад Нямігі і даходзячы да Старажоўкі, дзе некалі княжацкія ўлады мелі галоўнай вуліцай Красную, назва якой дайшла і да нашых дзён, як Красная плошча ў Маскве. Над абароннаю ракою Свіслач, у тым кутку, дзе ўпадае рака Няміга, стаяла Замчышча. Цяпер, сярод мінскіх руін, там распачаліся археалагічныя раскопкі, і гарадская гамана гаворыць, што майстры выкапалі княгіню высачэзнага росту...

Любіць Жарнавік гісторыю, любіць аглядаць і чытаць яе помнікі, адгадваць «земли родной минувшую судьбу». Для яго гісторыя — гэта самы дарагі скарб для народа, дзе, як сведчанне барацьбы пакаленняў за лепшае заўтра, асталіся маякі, да якіх прыходзяць сучаснікі пакланіцца за іх душы шырокія і ласкавыя, за іх народалюбства. Жарнавіку заўсёды ў такіх выпадках прыходзіць на памяць залатая чэшская Прага, у якой давялося пабываць у часе вызваленчага паходу Савецкай Арміі ў апошняй вайне. Гэта — горад помнікаў, пачынаючы недзе з дзевятага стагоддзя, помнікаў розных: домікаў, каплічак, касцёлаў, помнікаў людзям, сярэдневяковых кафэ, старых вулачак, горад новых вуліц дзевятнаццатага і дваццатага стагоддзяў. Горад, як велізарнейшы музей, са сцягам прэзідэнта над Пражскім Градам, а значыць, і над усім горадам, а значыць, і над усёй краінай.

Многа, многа дум напаўняла душу Жарнавіка, калі ён стаяў у Празе перад помнікам Яна Гуса, ахопленага языкамі полымя на інквізітарскім агні... Жарнавік хацеў бы, каб у Мінску выраслі помнікі народным героям, пачынаючы хоць бы ад Скарыны, вялікага прагрэсіўнага дзеяча — асветніка ў часы змрочнага сярэдневякоўя, і аж да герояў нашых дзён... Жарнавік марыць... У месячным бляску сузірае, як з руін вырастаюць новыя сцены, карпусы — паверх за паверхам. Хочацца яму адгадаць твар будучага Мінска. Хочацца яму, каб ён быў для народа зразумелы, каб ён у сацыялістычным бляску быў свой, свой...

І вось аднаго разу, калі Жарнавік стаяў на плошчы Волі і марыў сярод ціхай месячнай ночы, нехта невідоч-

ны, падышоўшы ззаду, крануў яго за плячо. Жарнавік устрапянуўся...

— Хто вы? Пакажэцеся на святло...

Твар павярнуўся да святла і засмяяўся. Гэта быў твар Сашы Іванковіч.

— Саша... Саша...— зашаптаў ад хвалявання Жарнавік.

Яму хацелася прытуліць яе, але ж, вядома, яна можа пакрыўдзіцца.

— Ах ты, Саша, Саша,— прамовіў, паківаўшы галавою, Жарнавік. А потым, апомніўшыся, дадаў: — Ну чаго мы стаім? Пойдзем сядзем, Саша...

Вядома, не ведала Саша, што першыя словы Жарнавіка былі як бы рэхам яго не так даўніх роздумаў і намераў. І яму хацелася яшчэ раз сказаць: «Ах ты, Саша, Саша...»

Яны селі пад навесам каштана, які губляў апошнія лісты. Глянулі адно на другога і засмяяліся.

— Адкуль і як вы ў такі час? — пытаўся Жарнавік.

— Я вас ужо не раз бачыла, але не адважвалася падысці.

Пасля гэтых слоў Сашы ў Жарнавіка прамільгнула ў галаве: «Так... Тады ў натоўпе ўвечары была яна...» І Жарнавік спытаў:

— А што? Вы ўжо даўно тут?

— Ужо з верасня,— адказала Саша і спыталася: — А вы?

— Я? Таксама з верасня... Але толькі з мінулага. Вось і верасНёўцы мы абое.

— Вучаніцай стала, Аляксей Сцяпанавіч,— хачу быць фельчарам.

— Гэта ўсё Вера Ігнатаўна, відаць?..

— Яна... Яна мой доктар на ўсе хваробы.

— А я ў партыйнай, Саша... Гляджу, як будуецца Мінск, і прыходжу часам сюды падыхаць старыною, падумаць, як жылі, як гаравалі нашы продкі.

— Я ведаю. Вы гісторык, вас цягне да гэтага.

— А вас — не?

— Чаму не? Ды я не ўмею так адкрываць яе, як вы. Вось, напрыклад, ну што гэта за царква — ні царква, ні касцёл, ні тое ні сёе...— паказала Саша ўбок.

— Вось вы і правільна прачыталі. Гэта ні тое ні сёе. Гэта уніяцкі сабор з шаснаццатага стагоддзя, а цяпер — царква. Калі рымскі папа не змог узяць у лоб праваслаў-

ных душ нашых продкаў, ён выдумаў унію як пераходны этап да каталіцтва.

Яшчэ шмат чаго гаварыў Сашы Жарнавік, прыхільна заглядаючы ёй у твар. Успаміналі Азярышча, Серадзібор, але больш апошні, думалі, ці будуць працягвацца там пачынанні Кляновіча і Грушкі. І Саша, між іншым, сказала, што на восень намечана сваімі сіламі дакапаць той канал, які не змаглі дакончыць экскаватары. Гэтая навіна ўзрадавала Жарнавіка.

Прыйшоў на памяць ён, і ў сэрца злёгку кальнула, як бы нешта прыплыло здалёк і даткнулася. Саша ўспомніла пра Малашкіна. Але гаварыць пра яго не хацела. Няхай жыве памяць аб ім ціха, толькі для сябе. Так думаюць людзі пра пахаваных. І замест таго, каб успомніць што-небудзь пра Малашкіна, Саша сказала:

— Прыязджаў Кляновіч, Грушка, і разам з Грыбаўцом угаманілі Судака... Ой, які ж гэта агідны тып... А Грыбавец і Люба старога Несцера, мусіць, пабяруцца...

Абое змоўклі, як быццам пазайздросцілі чужому шчасцю. Жарнавік сказаў:

— Няма Сцяпана Пятровіча. Ён бы ўжо трыумфаваў. І лягчэй было б усім нам. А так... хто ведае, што яшчэ выдумае гэты Чухноўскі.

Саша нічога не сказала, толькі схамянулася, быццам хацела ўстаць. Гэтая хвіліна нагадала ёй хвіліну іншую, калі ў гасціне ў Агрыпіны пасля тосту жонкі Малашкіна ёй хоць на момант захацелася затуліцца за гэтага вось, што сядзіць цяпер побач, устаць і павесці яго за сабою. Яна не ўстала тады, бо не верыла, што Жарнавік пойдзе за ёю. А цяпер, калі ўспомнілі пра Малашкіна, а потым пачулася прозвішча — Чухноўскі, Саша таксама хацела ўстаць, але не ўстала, для таго, каб затуліцца вось за гэтага акулярыстага добрага таварыша, а сэрца падказвала — і друга.

Саша зірнула на профіль Жарнавіка з цеплынёю ў вачах, і на душы стала добра, зацішна, а ад гэтага і радасна.

Маўчаў і Жарнавік, нібы ўслухоўваючыся ў маўчанне гэтай неспадзяванай сягоння сяброўкі. І ўрэшце сказаў:

— Якая цішыня, Саша, над руінамі... Быццам адны мы сярод іх не спім.

— Паэт з вас...— уставіла Саша,— але апрача паэзіі ёсць проза.

— Проза? — перапытаў Жарнавік.— Гм... проза таксама паэзія, толькі для вока нябачная...

— Добра, добра, згода... Але пара мне ісці, Аляксей Сцяпанавіч, у нас была ўнечарговая лекцыя, прыязджаў прафесар з медінстытута, і таму я спазнілася... Жыву я... Ёсць такі бедненькі завулачак, завецца — Камароўскі... Вось там...

— Ведаю... Сапраўды ён бедненькі...

— Жыву па пратэкцыі Веры Ігнатаўны... Мая гаспадыня яшчэ па мужу знаёмая ёй...

— Дазвольце, я вас правяду...

І яны пайшлі ўніз між былых манастырскіх будынкаў, зацененых старымі бярозамі.

З таго часу пачаліся іх сустрэчы, якія адзначаліся паходамі — то ў кіно, то ў тэатр. А аднаго разу Жарнавік прывёў Сашу нават у партыйную школу — паслухаць даклад пра міжнароднае становішча. Пасля даклада запрасіў яе ў інтэрнат, дзе ён жыў у пакоі на дзве асобы. Саша, агляную́шы пакой халасцякоў, спыталася, як Жарнавік спраўляецца з бялізнаю.

— А от — сяк-так, Саша... Аддаю прыбіральшчыцы.

— Можа, цяжка, я магу памагчы...

Жарнавік спыніў позірк на Сашы. А яна паўтарыла:

— Не дзікуйся, свае людзі... Магу памагчы.

Яны ўжо гаварылі на «ты».

У той вечар Жарнавік арганізаваў вячэру з чарачкай віна, надарыў Сашу кніжачкай у папулярным выкладанні пад назваю «Што такое гістарычны і дыялектычны матэрыялізм?». А потым правёў сяброўку да парожка доміка на Камароўскім завулку. Знаёмая ўжо гэта была для яго дарожка...

* * *

Чухноўскі звоніць у Серадзібор. Адтуль яму адказваюць, што палучка авансу калгаснікамі ў поўным разгары. Калі Серадзібор палучыць аванс, ды яшчэ к святу, гэта будзе трымаць на ўзроўні ўвесь раён. Гэта заслоніць усе так званыя недахопы. Чухноўскі, сказаўшы шафёру пад'ехаць пазней да кватэры, сам скора падаўся туды, каб прывесці ў парадак сваю хатнюю гаспадарку.

Выходзячы рана, пакінуў сваю Фядору Антонаўну яшчэ ў ложку. Ну, вядома, Імэла нічога ж не зробіць. Ужо месяц, як пакінула работніца — не ўжылася з Фя-

дорай Антонаўнай. Адзін раз, збіраючыся ісці на рынак, работніца завязала хустачку гаспадыні. Гэтага было даволі, каб Фядора Антонаўна дала ёй адыходную.

І вось ён не прыйшоў, а прыляцеў дахаты. Калі ўбег у спальню, Фядора Антонаўна яшчэ ляжала ў ложку. Ела яблыкі і чытала тоўстую кнігу «Граф Монтэ-Крыста». Чухноўскі імя Фядора лічыў імем грубым і таму называў жонку па-свойму, як ён лічыў найбольш ласкава:

— Чаго ж ты, Фядуня, ляжыш да гэтай пары? Як табе, мілачка, не брыдка?

— Зараз, Ваня, устаю, вельмі зачыталася... Ой, якая ж цікавая кніжка. Ці ёсць яшчэ такія цікавыя?

— Фядунечка, уставай... уставай...

Магутна скрыпнуў ложак. Гэта паспрабавала паварушыцца Чухноўская Фядуня...

Чухноўскі выбег на падворак з міскай ячменю. Адчыніў дзверы ў хлеўчыку. Адтуль выбегла нешта дзесяць курыц з грабяністым пеўнем. Чухноўскі сыпаў ячмень... На ганачку ўжо стаяла ў чорным паркалёвым плацці з чырвонымі кветкамі сама Фядора Антонаўна і час ад часу кідала сваё:

— Ой, Ванечка, больш ужо гэты хам цябе не дзяўбе. А мяне... Абы я толькі ля яго павіхнулася... дык жыцця мне не дае.

Пеўня яны даўно празвалі хамам.

Чухноўскі, кінуўшы міску, хуценька пабег да другіх дзверцаў хлеўчыка. Там хрукаў парсючок. Адчыніў, глянуў і зноў зачыніў. І ўсё подбегам і подбегам. А на ганачку, павольна водзячы рукою, прычэсвала сваё беднае валоссе Фядуня... А муж ужо нёс парсючку вялікую міску хлебных, размочаных у вадзе, недаедкаў. І ўсё подбегам. Потым Чухноўскі кінуўся да трэціх дзверцаў. Там жылі трусы. Ён прыгнуўся, каб увайсці, але, спяшаючыся, замала прыгнуўся, і шапка, што сядзела бакерам на правае вуха, зляцела і пакацілася па зямлі. Нават куры перасталі дзяўбці і пазіралі, як Чухноўскі, задыхаўшыся, лавіў сваю шапку. І Фядуня, скончыўшы прыхарошвацца, неяк не ў лад усміхнулася і потым зжалілася з свайго Ванечкі.

— Пакінь, Ваня, я сама... я сама...

— Нічога, Фядуня, нічога... Я сам... Я сам...

І ўсё подбегам і подбегам.

Муж скочыў на ганачак, каб увайсці ў кватэру, і раптам заўважыў, што плацце Фядуні збоку абпэцкана засохлым цестам.

— А гэта што? — запытаўся Ванечка.

І пачаў адціраць хуткімі, энергічнымі рухамі.

— Ванечка, я сама... я сама...— упрошвала Фядуня.

Чухноўскі ўскочыў на кухню, уключыў плітку і паставіў чайнік. Глянуў на гадзіннік і пачаў галіцца тут жа пры чайніку. Увайшла дзяўчына год пятнаццаці з распушчанымі валасамі, вельмі падобная на Чухноўскага.

— Тата, хутка будзе гатоў чай?

— Хутка, Імэла, хутка... Зараз... А ты чаму не ў школе?

— А сёння будзе ўрок батанікі. Ты ж ведаеш, што я яе не вучу і вучыць не буду,— адказала дачка, а потым, скрывіўшыся, як ад плачу, заенчыла:— Ну калі будзе той чай? Я хачу чаю...

Напаіўшы чаем сваіх зняможаных ад чакання жанчын, Чухноўскі ўрэшце сеў у машыну. Але пакрасавацца яму перад калгаснікамі ды яшчэ з люлькаю ў зубах, пры выплаце працадзён у Серадзібары не прыйшлося па той простай прычыне, што не паспеў,— спазніўся. Цікавым аказаўся сам пачатак выплаты, бо ўвагаю ўсіх цешылася Піліпчыха, калгасніца, якая найбольш выпрацавала працадзён. Ад яе і пачалася выплата. Квіткі ў свіран кладаўшчыку даваў Даніла. Ён глянуў у спіс і выклікаў Ганну Вядзёрка, якую ўсе прывыклі называць імем яе мужа — Піліпчыхай.

Яна стаяла недзе з самага заду, ля парога, і на Данілаў голас доўга праціскалася да стала, усхваляваная такою пашанай. Усе моўчкі праводзілі яе вачыма і паціху адступілі ўбок, даючы ёй дарогу. І вось Ганна Вядзёрка, яна ж і Піліпчыха, стала перад Данілам — жанчына невялікага росту, з ціхім паглядам чорных вачэй, ахутаная на плячах шэраю зношанаю хусткай, якую яна сцягвала рукамі на падбародку. Пры выдачы авансу ўлічвалася колькасць сям'і. Такое было рашэнне праўлення. Для мнагадзетных давалася больш адпаведна заробку. І таму Даніла спытаўся:

— Колькі ж у цябе дзяцей, Ганна?

— Вядома колькі... Чацвёра ад мужыка, што загінуў на вайне, і двое байстручкоў...

У цішыні недзе пырснуў смех, але тут жа абарваўся. Даніла з лагоднай усмешкай, нечакана здзіўлены, утаропіўся на Піліпчыху, быццам не верачы сваім вушам.

Усім на момант здалося, што ў твары дыхнуў сонечны ветрык недзе з шырокіх каласістых палёў...

Раздзел другі

## НОВЫЯ НАМАГАННІ

Зашчамілаўскія ўплывы маюць свае вытокі. Іх павуціннне можа быць не толькі густым, але і моцным. Гэта хутка адчуў на сабе прафесар Платон Грушка. Наколькі доўгая зіма, дык амаль кожны вечар у кватэры Зашчамілы шумна ад гасцей. Не раз здаралася бачыць, як па сходках падымаюцца мужчыны ў капелюшах, кепках, валасатых вушанках, у паліто, габардзінавых плашчах і жанчыны з напудранымі тварамі. Зашчаміла мае сваю аўдыторыю, і хоць зняты з пасады намесніка міністра сельскай гаспадаркі, усё роўна адчувае сябе гаспадаром становішча. Звысоку глядзіць на Грушку, ледзь ківаючы галавою пры сустрэчах на сходах. На яго шырокім твары заўсёды нейкая нервовая незаспакоенасць. Усё яму перашкаджае, усё яму нешта не так. Ён у першыя гады пасля вайны апоўзваў магазіны з чорнага ходу, ён іх апоўзвае і цяпер, калі магазінаў стала многа. Ён ездзіў на паляванне на зайцоў у забаронены для гэтага час. Калі на паляванні не шанцавала, ён дапускаўся да таго, што страляў качак і гусей у калгасных ставах. І ўсё гэта было мала, усё яму мала...

Грузавікі аднекуль прывозілі Зашчамілу мяшкі каўбасы, вёдры масла, скрынкі свіной тушонкі, і ўсё гэта збывалася на рынак. І гэта рабілася тады, калі людзі жылі па картачках. Не, Зашчамілу і гэтага было мала.

У склепе, якім карысталіся сумесна Зашчаміла і Грушка, нешта за месяц апусцелі дзве Грушкавы пасудзінкі: бочка агуркоў і бочачка капусты.

— Фёдар Арцёмавіч, нам трэба мяняць замок у склепе, а то нехта спакусіўся на мае агуркі і капусту,— сказаў Грушка пры сустрэчы.

— Падбрылі цябе, кажаш? Гэта бывае, бывае...

Зашчаміла зарагатаў. У яго смеху чулася нешта д'ябальскае...

А ўвечары аднаго разу, калі Грушка вяртаўся з акадэміі, яго на падворку затрымаў дворнік, стары пасівелы дзядзька, і шэптам пачаў гаварыць, што прыходзіў нейкі яшчэ малады чалавек у цывільнай вопратцы і пытаўся, як жыве Грушка, хто да яго ходзіць, куды ходзіць ён сам і ці наогул ходзіць ён у госці да каго-небудзь у гэтым доме.

Грушка слухаў і сваім вушам не верыў. Каму гэта

патрэбна і нашто? І што гэта за асоба, якая так цікавіцца яго жыццём?

Увайшоўшы ў кватэру, адчуў сябе вельмі адзінокім, быццам глушыня зашумела навокал. Сеў пісаць ліст Кляновічу.

Кляновіч прыехаў хутка. Ліст сабрата па навуцы не толькі заінтрыгаваў Кляновіча, але нават і занепакоіў.

І калі ўжо сядзелі ў кабінеце Грушкі, Кляновіч дабрадушна смяяўся з маладога прафесара.

— Я збіраюся падаць заяву ў партыю,— гаварыў Грушка,— і тут вось такі табе падарунак... Выпытваюць у людзей пра мяне, як пра ворага. Што рабіць?

— Што? Баяцца гэтага? Не... Наадварот, трэба ісці ў партыю і там заняць месца на трыбуне, каб узмацняць партыю.

Сябры змоўклі, задумаліся. Кожны па-свойму ўзважваў цяжкасці бягучага часу — Грушка больш інтуітыўна, Кляновіч — больш асэнсавана.

— Так... Гэта ўсё не лёгка,— прамовіў урэшце Кляновіч,— але жыць — значыць ісці глыбей у жыццё. А ісці глыбей — значыць змагацца...— Кляновіч паклаў руку на плячо Грушку і патрос яго.— Іншага выхаду, студэнт і акадэмік, няма,— сказаў ён, нахіліўшыся да вуха Грушкі.

Кляновіч хадзіў па кабінеце Грушкі, аглядаў кніжкі на стэлажах, потым партрэцікі карыфеяў навукі ў акуратна аздобленых рамках — побач з Ціміразевым Маркс, побач з Леніным Радзішчаў, на стале — статуэткі Пушкіна, Талстога. Ад усяго павявала вялікасцю патрэб жыхара гэтага кабінета. Толькі адно невялічкае фота ў тоненькай пазалочанай рамцы стаяла на стале, крыху збоку. Адтуль глядзеў жаночы твар з гарачымі вачыма. У вачах ігра маладога бляску. Характэрная прычоска з праборам на баку. Фота рабіла ўражанне, што гэтая жанчына вось толькі што адняла руку ад валос і тады глянула на кагосьці і задумалася. За правым плячом звісала іглістая галінка сасны. Вось такое мастацкае фота работы Жарнавіка пакінула ў свой час на стале Грушкі Вера Ігнатаўна.

Кляновіч даўно заўважыў гэтае хараство на стале, але рабіў выгляд, што яго не бачыць. А калі пачаў аглядаць кнігі на стэлажах, мімаходзь паказаў пальцам на яго з вышыні свайго росту і спытаўся як мага абыякавым тонам, хоць усмешка прасілася на вусны:

— Як... Яна трошкі гутарыць з табою?

Грушка блісвуў вачыма, нібы злоўлены на чымсьці, зірнуў на Кляновіча і адказаў:

— Так, гутарыць... Што ж... табе можна сказаць... Нават сумую па ёй.

— Веру. Баюся кранаць твайго смутку, а толькі скажу, што ёсць па чым засумаваць. Серадзібор тут для цябе таксама не паскупіўся,— гаварыў Кляновіч і добразычліва ўсміхаўся.

Грушка адказваў, што Серадзібор памог яму скончыць сваё «Слова аб зямлі», якое цяпер чытае рэктар Капля. Яно абдымае тэарэтычныя і практычныя праблемы не толькі нечарназёмнай паласы...

Вырашылі тут жа напісаць пісьмо акадэміку Каплі і расказаць усю сваю тугу пра Серадзібор, вырашылі запрасіць яго туды ў летні час.

## ЦЕНІ

Банадзюк Рыгор прыехаў у Азярышча ўначы. Гэта было ў красавіку, калі пад нагамі ў сонечныя дні ўжо хлюпала вада. Дарога да Жарабкоў вядзе праз Вялікія Жыліны. Як жа туды дабрацца? Банадзюк мог бы пачакаць крыху і пад'ехаць на спадарожным грузавіку. Яму гэтага не хочацца. Ён хацеў бы, каб яго ніхто не бачыў. Ён добра ведае, што навакольныя людзі не паверяць у яго зайнявіннасць. Выпушчаны з мінскай турмы, Банадзюк зайшоў да знаёмага яшчэ па партызанству, які і даў яму пратэкцыю ў адну з друкарняў, дзе і пачаў Банадзюк працаваць. Хутка ён палучыў ліст з Польшчы, ад свайго аднавяскоўца, камандзіра паліцэйскай групы, якому ўдалося ўцячы перад надыходам Савецкай Арміі і спыніцца недзе ля Варшавы. Гэты аднавясковец паміж прывітаннямі і апісаннямі свайго становішча пісаў: «Перадай прывітанне брату і скажы яму, што хутка ўсё палепшае». Таму Банадзюку патрэбна, абавязкова патрэбна, каб яго ў Азярышчы ніхто не бачыў. Праўда, апрануты ён так, што землякі могуць яго і не пазнаць,— чорны касцюм, цёмна-сіні прагумаваны плашч, на дробнай галоўцы з дробнымі, крыху рыжаватымі валаскамі асеў па вушы чорны капялюш. Пасыпаны рабаціннем носік Банадзюка зусім гінуў пад напускам капелюша. Але гэтаму верыць нельга. Можа неспадзявана сустрэцца такі, што пазнае.

І тады ні сюды ні туды. Ён жа павінен з'явіцца не да каго іншага, як да самога ксяндза Рагульскага. Ксёндз Рагульскі і ёсць тым, якому ён, Банадзюк, павінен перадаць прывітанне. Але як жа дабрацца да таго ксяндза? Банадзюк думаў, думаў, прытуліўшыся да сцяны ўжо новага вакзала Азярышча. І ўрэшце вырашыў як-небудзь перабіцца да ранку ў вакзале і потым пайсці і сесці на паяздок, дабрацца да Серадзібора пад ахову Гойдалы-Гайдалевіча. Адтуль зрабіць вылазку ў Жыліны будзе лягчэй.

Возера надувалася, набірала паўнаводдзя ў ціхім раннім тумане пад шэрым небам, калі Банадзюк падышоў да бязлюднага, быццам усімі пакінутага, лясніцтва. Навокал абступаў лес, нібы хочучы сапхнуць яго ў возера, якое сапраўды набліжалася. Стук у акно быў такі, што здалёк можна было падумаць — гэта стукае дзяцел.

На другі дзень увечары Банадзюк ужо быў у ксяндза Рагульскага. Ён проста прыехаў да яго на фурманцы ў мужыцкім падраным кажусе (гэта быў кажух нябожчыка — бацькі Гойдалы) і ў скамечанай прапацелай вушанцы. Ён спакойна праехаў праз Жарабкі, паглядзеў на сваю хату, у якой яшчэ пры Малашкіне размясціліся бібліятэка і клуб. Там паблісквaў агонь. Да ксяндза, як вядома, прыязджаюць людзі з рознымі патрэбамі — каму да хворага спавядацца, хто дзіця хрысціць, а хто заказвае шлюб. Так што прыезд да ксяндза замаскаванага Банадзюка ні ў кога не можа выклікаць падазрэння.

Ксёндз, прапусціўшы Банадзюка ў плябанію, першым чынам уціхамірыў сабаку, які ахрыплым басам патрасаў паветра. Тады вярнуўся ў дом. Банадзюк, азіраючыся па цёмных кутках, падаў ксяндзу ліст. Ксёндз адразу запрасіў Банадзюка ў свой кабінет, абстаўлены кнігамі. На сцяне вісеў чорны крыж, пад якім стаяла канапа. Аканіца зачынена шчыльна, таму сталовая лямпа можа гарэць на поўны агонь.

Ксёндз Рагульскі дачытаў ліст, але не спяшаўся яго ні класці на стол, ні, скажам, у кішэню. Ён украдкам назіраў за Банадзюком.

— Калі я не памыляюся, вы працавалі ў райкоме?

— Так, працаваў... Арыштавалі мяне па падазрэнню ў заражэнні коней сапам... У Жарабках,— крыху блытаючыся пад поглядам ксяндзовых вачэй, гаварыў Банадзюк.

— Ведаем... Чулі...— гаварыў ксёндз,— ну і што з гэтага выйшла?

— Гэта ўсё не даведзена... І таму — выпусцілі. Жыву ў Мінску, працую ў друкарні ўпакоўшчыкам кніжак.

— Вельмі добра, вельмі добра...— не спускаючы вачэй з Банадзюка, гаварыў ксёндз.— Вас тут ці ў Азярышчы хто-небудзь бачыў?

— Не, ніхто, апрача Міхася Гойдалы-Гайдалевіча, у якога я начаваў і які мне даў фурманку.

— Гм-гу...— працягнуў ксёндз,— вельмі добра. Шчырая вам падзяка за гэтую вестку ад пана Савіцкага. Што патрэбна было б ад вас, паколькі вы працуеце ў Мінску? Патрэбна, каб вы там знайшлі добрых, правераных знаёмых два чалавекі.—Ксёндз спыніўся, паслухаў акно, сцены, паводзячы носам навокал, і яшчэ цішэй сказаў: — Ад гэтых людзей мала будзе патрабавацца, вельмі мала. Гэтыя людзі для аднаразовых дзеянняў...

— Ці то абавязкова павінны быць людзі з Мінска, ці...— спытаўся Банадзюк.

— Не. Гэта ўсё роўна. Важна, каб яны жылі ў Мінску. Трэба такім забяспечыць працу.

— Два чалавекі з Серадзібора збіраюцца выязджаць у Мінск на сталае жыхарства... Гэта...

Ксёндз перабіў Банадзюка:

— Я не хачу іх ведаць. Мне хопіць вас. Гэта — справа ваша. Згода?

— Згода,— адказаў Банадзюк.

Ксёндз прашаптаў: «У імя айца і сына і святога духа — аман»,— і перахрысціўся.

За аканіцаю, як нешта жывое, варушыўся вецер, то сціхаючы, то зноў абураючыся з шорахам. Гутарка, здаецца, была скончана. Але Банадзюк, каб больш абнадзеіць ксяндза ў сваёй вернасці, пачаў гаварыць:

— Вось ужо мінула больш за месяц, як памёр Сталін. Чуваць, што будзе амністыя для многіх. Так што магчыма і наш Гусачок вернецца. Так я чуў у Мінску. Тое, што выпусцілі мяне, якраз, відаць, пра гэта і гаворыць.

Ксёндз закруціў галавою:

— Не, пане Банадзюк, такіх, як Гусак, бальшавікі не выпусцяць, вельмі многа гусакі маюць на сабе...

...Калі Банадзюк вярнуўся да Гойдалы, яны разам аж за поўнач пісалі знарочыстым курыным почыркам ананімку на імя капітана дзяржбяспекі Занозіна. У ананімцы намагаліся давесці, што брат Агрыпіны Грынчык — Андрэй — быў правакатар...

* * *

Чухноўскі сустрэў Агрыпіну ветліва. Словы запрашэння проста заскакалі: «Калі ласка, калі ласка, Агрыпіна Іванаўна...» Потым, раскурыўшы люльку, ён сядзеў і, пацмокваючы, высакадумна, з вялікай цярплівасцю слухаў расказ Агрыпіны пра Банадзюка. Агрыпіна гэты свой, здаецца, вечны для яе, расказ вяла Чухноўскаму не ўпершыню. Чухноўскі збываў набалелыя турботы Агрыпіны абяцаннем, што ўсё будзе добра. І калі Агрыпіна сказала: «Ёсць чутка, што Банадзюк у Серадзібары», то ўбачыла, што гэтыя словы не зрабілі на Чухноўскага аніякага ўражання. Ён не выняў люлькі з зубоў, не ўставіўся вачыма на Агрыпіну, як трэба было чакаць.

Агрыпіна змоўкла. Маўчаў і Чухноўскі, задумна адвярнуўшы галаву да акна. Урэшце цмокнуў апошні раз і выняў люльку з зубоў. Кінуў кароткі позірк на Агрыпіну і пачаў выбіваць попел з люлькі. Потым загаварыў павольна, спакваля:

— Мушу вам сказаць, Агрыпіна Іванаўна. Банадзюк нам не страшны.

— Чаму? — спытала Агрыпіна.

— А таму, што ён не вінават у тым, што вы яму закідалі. Наадварот, у нас ёсць весткі аб тым, што якраз ваш брат Андрэй быў правакатарам.

Агрыпіна войкнула і схапілася за твар рукамі.

— Выслухайце да канца, Агрыпіна Іванаўна, майце цярплівасць. Я ведаю, што вам гэта нялёгка...

Агрыпіна, уцёршы слязу, слухала, апусціўшы галаву.

— Ёсць матэрыялы пра гэта, Агрыпіна Іванаўна.

— Я б хацела іх бачыць...

Чухноўскі ўзяў трубку і паклікаў Занозіна.

— Севасцян Севасцянавіч, захапіце матэрыялы пра Банадзюка і Андрэя Грынчыка.

Такім чынам, Агрыпіне была паказана ананімка, у якой гаварылася, што Андрэй, брат Агрыпіны, вывеў групу ў лес не ў той дзень, калі было дамоўлена, а днём пазней, што і забяспечыла паліцаям напад на групу з засады. Пры гэтым трэба думаць, што Андрэй быў смяртэльна паранены выпадкова.

Агрыпіна слухала, цярпела, напружвалася ўсёй сваёй істотай, каб не паддацца роспачы. Ведала, што ад гэтых людзей яна ратунку мець не будзе.

Яна ўстала, падзякавала, параіла адшукаць Банадзю-

ка ў Серадзібары і праверыць яго почырк, бо ананімка «гэта яго работа»...

— Я... колькі мне асталося жыць... усе свае сілы аддам, каб давесці справу да канца — выкрыць правакатара Банадзюка...— сказала Агрыпіна і выйшла.

Увечары яна села на поезд, каб дабрацца да Мінска. У гэты ж поезд селі яшчэ тры асобы з Серадзібора: Рыгор Банадзюк, Міхась Гойдала-Гайдалевіч і Габрыэль Духмуровіч-Куцілоўскі.

## СЯРОД ЦЯНЁТАЎ

Агрыпіна ехала ў Мінск у плацкартным вагоне, у масе пасажыраў, бачыла ў іх вачах не то роздум, не то падаўленасць. Людзі неахвотна гутарылі. У кожнага плылі свае думкі ў душы, думкі, вядома, пра лёс неабдымнай краіны, якая будуе новы лад для шчасця людзей. І як яно пойдзе далей? Як гэта цяжка, трудна і як хочацца, каб хутчэй наперад, каб цяжкасці пакінуць за сабою. Нейкія цянёты блытаюцца навокал ног, ірвуцца і зноў блытаюцца.

Агрыпіна, раздумваючы, ужо каторы раз уздыхала і сама сабе сказала: «Дарагі Пётр Іванавіч, хто цябе забраў ад нас? Чыё варожае вока нацэлілася на цябе?»

Поезд спыніўся ў Мінску ў бляску ранняга сонца. Агрыпіна выйшла на прывакзальную плошчу і стала — думала, куды ісці. У Міністэрства дзяржбяспекі яшчэ рана, а чакаць пачатку рабочага дня даўгавата. Ёсць, праўда, адзін адрас, ды, можа, і туды ранавата. Няхай Жарнавік яшчэ адпачывае. Зайшла ў вакзальны буфет і, сеўшы пры сцяне за столік, папрасіла чаю. Пададзены чай стаяў, дыміўся некрануты. Агрыпіна пільна глядзела некуды ў адзін бок. А потым раптам пачала хутка мяшаць чай лыжачкай і піць. На твар набегла ўпэўненасць і гнеў. Так, гэта яны. Серадзіборская тройка ворагаў... сядзела таксама пры сцяне ў аддаленні і піла гарэлку.

Яна не ўстала, а сарвалася з крэсла, і, абхутаўшы твар хусткай, пайшла. Адышоўшыся за калону, аглянулася. Знаёмцы сядзелі, стуліўшы галовы, як змоўшчыкі. Агрыпіне падумалася, што яны баяцца глядзець на залу. Што тут Банадзюк, гэта зразумела, а чаго гэтыя паліцаі? Агрыпіна думае і ніяк не можа вытлумачыць сабе іх прысутнасці. Адышла за дзверы з цяжкай галавою. Ужо ахватней

стала думаць, каб убачыцца з Жарнавіком. Ехала тралейбусам, потым ішла вуліцай Янкі Купалы ў напрамку Опернага тэатра. Недзе там, за тэатрам, загубіўся Камароўскі завулачак, дзе людзі жывуць яшчэ ў невялічкіх хатках, на невялічкіх дворыках, завешаных бялізнаю на шнурках. З акенцаў выглядаюць, як затужаныя дзеці, кветкі ў вазонах. Двуногія лавачкі прытуліліся да сцен хатак. Камароўскі завулачак вузенькі, і таму машыны тут не ходзяць. Ціха ў гэтым завулачку, і неба над ім сваё, не такое, як над цэнтральнымі вуліцамі і плошчамі. Яно нізкае, як столі ў гэтых хатках, і лёгка блакітнае, як сукенкі ў дзяўчат, што сядзяць вечарамі на лавачках, вядуць ціхую гутарку, перарываючы яе смехам, які адбіваецца, растае ў ціхім небе. Камароўскі завулачак свеціць сваёю ўскраіннай беднасцю мінскіх рамеснікаў, лужамі, пакрыўленымі ганачкамі, апушчанымі стрэхамі. А горад камяніцамі пайшоў наперад, абмінуў яго і недалёка ўпёрся проста ў шыльду драўлянага дома на вуліцы іншай. На шыльдзе красаваліся жоўта-зялёныя словы: «Упраўленне балотнай даследчай станцыі».

Агрыпіна адчыніла веснічкі і ўвайшла на змакрэлы яшчэ падворачак. Толькі сцежачка да парога высыпана жоўтым пяском. Сенцы былі адчынены. З іх выглядала адна белая курыца.

На стук Агрыпіны дзверы ў пакой Жарнавіка неспадзявана для яе адчыніла... Саша. Агрыпіна аж ахнула ад здзіўлення і радасці. Абняліся і доўга не выпускалі адна другую з абдымкаў.

— Сашачка, дык даўно гэта вы?

— Не вельмі, Агрыпіна Іванаўна... Нешта тры месяцы, як жывём з Аляксеем.

Саша, расчырванелая ад радаснага ўсхвалявання, раскручвала хустку з Агрыпіны, скідала паліто, потым саджала яе на крэсла. У пакойчыку ўсё было невялічкім і чыстым, усё пастаўлена акуратненька на сваё месца. На сцяне вісеў павялічаны, Жарнавіковай работы, партрэт Сашы. Адно акенца глядзела на невялічкі агарод, і праз яго непрыкметна праплывалі мяккія цені па пакойчыку, па яго кутках, па глухой сцяне кафлянай печкі, падзеленай на палавіну з гаспадыняй хаты.

— Дзе ж твой Жарнавік? — пыталася Агрыпіна.

— У школе. Я хаджу на другую змену, а ён зранку. У гэтым годзе канчаем абое. Куды нас панясе жыццё, невядома.

— Куды? Як куды? У Серадзібор. Толькі туды. Ёсць свая бальніца, дык чаго ж яшчэ што думаць? Прывітанне табе ад Веры Ігнатаўны. Яна цябе чакае...

— Дзякую. Ды я з ахвотай туды, Агрыпіна Іванаўна. Толькі вось з Аляксеем невядома як...

— Уладзіцца і з Аляксеем... Пабачым...

Паснедаўшы, Агрыпіна пайшла ў Міністэрства дзяржаўнай бяспекі. Там прабыла больш як паўдня. Прыйшла стомленая, незадаволеная. Палкоўнік сказаў ёй, што справа варта разгляду, што няхай прыйдзе заўтра, тады гутарка будзе больш канкрэтная.

...Калі Агрыпіна вярнулася ў Азярышча і зайшла да Занозіна, ён сказаў ёй, што ксёндз Рагульскі арыштаваны.

Агрыпіна змоўкла на хвіліну, падумала: «Справа ідзе на добры лад...» і тут жа запыталася:

— А пра Банадзюка вы нічога не палучылі?

— Не, нічога. А што? Што-небудзь павінна быць?

— Здаецца, павінна. Банадзюк — правакатар і таму...— сказала і спынілася Агрыпіна. А потым усё ж такі дадала: — І таму ён павінен быць пакараны.

— Якія будуць указанні, так і будзем рабіць,— адказаў суха Занозін.

## ВАСІЛЬ ЧАРАВАКА

Васіль Пятровіч Чаравака быў задаволены, што яго выбралі старшынёю райвыканкома. А настаяў на гэтым новы другі сакратар райкома Булавін Андрэй — шыракаплечы, павольны ў рухах чалавек гадоў недзе пад шэсцьдзесят. За што ён трапіў у апалу да Гугновіча — невядома, бо працаваў намеснікам старшыні аблвыканкома і вось прысланы ў раён да Чухноўскага.

У вачах Булавіна свяціўся розум, развага. У выказваннях адчувалася імкненне, каб вырашыць пытанне як найлепш. Ведалі людзі з абласнога апарату, што Гугновіч не любіць такіх людзей, і таму да танклявага харашунчыка Чухноўскага ён даў саліднага Булавіна, чалавека з пачуццём уласнай годнасці, каб яго Чухноўскі, так сказаць, крыху «патрапаў», каб з яго выветралі ўсякія там высокія намеры. Любіў такія прыёмы Гугновіч, каб чалавека нечакана кінуць зверху ўніз. Сёй-той называў такія прыёмы зігзагамі Гугновіча.

Як гэта ні цяжка было Булавіну, чалавеку з русай, пасівелай ужо галавой, ён прыняў гэты лёс — усюды праца для народа і партыі. І таму, як толькі прыехаў у Азярышча, доўга не чакаючы, пачаў ездзіць па калгасах, знаёміцца з раёнам. І такім чынам у адзін вясновы дзень з'явіўся ў новай да апошняй хаты вёсцы Баравікі, дзе жыў забыты Васіль Чаравака. Знаёмства было настолькі харошае, што Булавін даў слова Васілю Чараваку пры першай магчымасці ўспомніць пра яго ў райкоме.

Васіль Чаравака не забыўся свайго, зараслага травою, вострава, які калыхаў яго маленства і юнацтва. Ён пабудаваў там прасторны будан з чаротавых тоўстых мат, перавязаных моцнымі канаплянымі шнуркамі. Накрыў яго чаротам так, як крыюць хаты. І чаго не бывае ў буданах, услаў падлогу і зрабіў адно акенца. Дзівіліся людзі выдумцы Васіля, але і цешыліся, ахвотна прыплывалі вечарамі да яго вогнішча. Адтуль ляцелі ў азёрныя далі і лясныя гушчы песні хлопцаў і дзяўчат, але найчасцей хлопцаў. Васіль пачаў касіць на востраве, накошваў стагоў пяць — колькі мог адолець. І яму здавалася, што разам са свістам касы ў роснай траве косіць з ім яго маладосць. Рукі набрыньвалі сілай, спіна выпроствалася ў поступе насустрач азёрным хвалям. І будан Чаравакі, абкошаны вакол, апынаўся ўрэшце сярод стагоў, з якіх сонечнымі ранкамі серабрыстым клёкатам віталі яго буслы. А Чаравака выходзіў з будана, ішоў да лодкі, каб адплысці ў ціхую завадзь і выцягнуць венцеры, поўныя ўсялякай рыбы.

Андрэй Булавін пераначаваў з Чаравакам у будане. Увечары варылі і смажылі рыбу на вогнішчы, вячэралі пад ціхім небам і вялі бясконцую гутарку, тэмай якой было — камунізм на Палессі.

— А цяпер ты, Васіль Пятровіч, сапраўдны Рабінзон Круза,— гаварыў Булавін і дабрадушна смяяўся.— Нічога, мы яшчэ з табою нешта выдумаем для твайго цудоўнага вострава, куды толькі і трэба прыязджаць адпачыць чалавеку ад людской таўкатні.

— Што? Можа, пра санаторый думаеш? — кінуў Чаравака.

— А што? І гэта можа быць. Такі востраў! Князі некалі замкі будавалі на астравах. Колькі ж казак асталося пра іх... А мы мацнейшыя за князёў, бо мы — народ.

Такі жаданы час, які абяцаў Булавін, для Чаравакі надышоў. Харытон Бабёр пакінуў пасаду па сваім улас-

ным жаданні. А сапраўднаю прычынай былі, вядома, тыя вераб'ёўскія агурочкі дый сам Верабей. Перабраў Кастусёк меру, і вось на́ табе — патрэбна было развітацца з Серадзіборам, такім удалым месцам, дзе ўжо і хата хвацкая была — новая, з пакоямі. Давялося прадаць яе — і каб хоць якому добраму чалавеку, а то самому праўленню калгаса. І ўсё ад таго страху, што нагналі агурочкі. Бо Верабей пачынаў пабойвацца, каб не адкрылі справы і пра хату — іншымі словамі, каб не спыталіся: «А за якія сродкі ты пабудаваў гэтую хату? Ці ж людзі не ведаюць, як Міхась Гойдала-Гайдалевіч аддаў табе лес, што прызначаны быў на бальніцу! Ці ж людзі не ведаюць, што тыя стагі сена, накошаныя пад кіраўніцтвам глухога Кірылы, праглынала тваё, Вераб'ёва, горлачка — праглынала, кольні хацела, колькі хапала табе часу на п'яныя здзелкі начамі з рознымі заготсенаўцамі, рознымі прайдзісветамі...» І Верабей, параіўшыся з Бабром, палічыў патрэбным як найхутчэй пазбавіцца хаты. У ёй, па прапанове Данілы на ячэйцы, адкрылі сваю серадзіборскую пошту. Бо дагэтуль пры сцяне праўлення калгаса вісела адзінокая паштовая скрынка. А цяпер будзе не толькі паштовая скрынка, але і тэлефонная станцыя, і тэлеграф, і ў дадатак — ашчадная каса. Старшыня калгаса будзе гаварыць са сваімі брыгадзірамі па тэлефоне. Бо ў Серадзібары, нягледзячы на тое, што адабралі экскаватары, не зніклі патрыёты намераў, якія пасеялі Кляновіч, Грушка, стары Несцер са сваім удумлівым, маўклівым сынам Данілам. Серадзіборцы не пашкадавалі сіл і недакончаны экскаватарамі канал дакончылі самі, так што дарма баяўся Чухноўскі...

Ён баяўся прымаць на пасаду і Васіля Чараваку. Калі Булавін, не спяшаючыся, пасля доўгіх меркаванняў сказаў, што, можа, варта было б успомніць пра Чараваку, Чухноўскі без ніякіх доказаў адкінуў яго кандыдатуру і на пытанне: «Чаму?» — доўга маўчаў. Усе чакалі адказу. Калі ж Булавін паўтарыў пытанне яшчэ раз і нават прыгнуўся над сталом Чухноўскага, заклаўшы рукі назад, рука харашунчыка з люлькай апусцілася на стол. Ён урэшце намерыўся нешта сказаць. І ён сказаў:

— Ведаеце... Я не схільны браць мясцовых людзей на такія пасады...

У кабінеце стала ціха. Булавін як быў прыгнуты над сталом знакам запытання, так і астаўся. Запозін зрабіў толькі тое, што паклаў нагу на нагу і паглядзеў у столь.

Песляк апусціў галаву, уставіўшыся на свае рукі на каленях.

Булавін павольна выпрастаўся, засунуў руку за борт свайго ахоўнага колеру фрэнча і глядзеў на Чухноўскага пе сваімі вачыма. Ці не памыліўся ён, можа, не так пачуў?

— Я цябе, Чухноўскі, не разумею. Дзіўна мне слухаць такое ад сакратара райкома. Ты гэта сур'ёзна?

— Сур'ёзна...— кволым голасам адказаў Чухноўскі.

— Як жа ты, камуніст, можаш так думаць? Я тры гады працаваў першым сакратаром райкома тут, на гэтай зямлі, толькі ў другой вобласці, і я вылучаў мясцовых. Якія гэта залатыя работнікі! Я радуюся цяпер, што раён абапіраецца на іх. Яны не падвядуць!

Булавін выказваўся яшчэ не раз у абарону сваіх поглядаў, якія ён лічыў партыйнымі. Чухноўскі даводзіў адсталасць, недасведчанасць мясцовых людзей і казаў: невядома, што яны думаюць.

Булавін смяяўся і казаў: такое выказванне даводзіць, што лепш, вядома, ляжаць на печы і нічога не рабіць. Так рабіў чэхаўскі чалавек у футляры. А ну ж тое, а ну ж другое? Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць.

І Булавін перамог — на яго бок схіліліся ўрэшце не толькі Песляк, які і спачатку быў за Булавіна, але і Занозін. Апошні сказаў, што трэба паспрабаваць, а там будзе відно.

Так вось і стаў Васіль Пятровіч Чаравака старшынёю райвыканкома. Перараджэнне яго ў лепшы бок як-ніяк адбылося. Не было ўжо ў Серадзібары Міхася Гойдалы-Гайдалевіча, які апошнія часы і не прыставаў да Васіля Чаравакі, не цягнуў яго на тыя ці іншыя п'янкі, бо ўжо нельга было яго выкарыстаць для якіх-небудзь нячыстых камбінацый, як гэта было ў мінулыя часы. Гэта і было адной з першых прычын пэўнага ўнармавання Чаравакі. А другая прычына — праца ў калгасе, касьба на востраве вярнулі яму гаспадарскія нормы, пачуцці, зацягнулі ў круг працы, зацікавілі штодзённымі патрэбамі.

А што датычыць другога кампаньёна — Духмуровіча-Куцілоўскага, то яго Васіль Чаравака ніколі не лічыў вартым чалавекам. Ён мог быць цярпімым толькі пры боку Міхася Гойдалы — праніклівага, спрытнага і на язык і на работу, але глыбока несумленнага, затаіўшага пад усмешкаю і таварыствам варожасць да ўсяго савецкага.

Такога ўраджаю ярыны, як некалі той першы на дзесяці гектарах, у наступныя гады Пяхота не сабраў. Сеяў на дваццаці гектарах і больш пятнаццаці цэнтнераў з гектара не сабраў. Прычыны такога спаду ён ведаў — недастатковае ўгнаенне і падупалая якасць насення. Спрабаваў сеяць азімую пшаніцу — была малая ўсходжасць, і Пяхота набіраў пераканання, што для серадзіборскай зямлі патрэбны свой гатунак пшаніцы, вывядзеннем якога ён і заняўся на некалькі год.

Затое адводзіў душу на тых асушаных прасторах сенажаці, дзе касцы пад камандай глухога Кірылы накошвалі ў свой час тысячу стагоў. Цяпер можна накошваць больш, але... Пяхота адзін год перайначыў гэты працэс — заняўся акультурваннем сенажаці. Загадаў правесці па ўсім узбуйненым калгасе збор попелу. І як толькі сышоў снег, па яшчэ мёрзлай сенажаці былі пушчаны бароны, каб вырваць мох. За баронамі ішлі граблі, не толькі конныя, але хлопцы і дзяўчаты ўвіхаліся з ручнымі — зграбалі мох у гурбы. І тады па ачышчанай ад моху прасторы пайшлі сейбіты з попелам. І ўлетку ўсе ішлі глядзець, як на ўсім вялікім лузе зацвітала густая дзяцеліна, як мала асталося асокаў. Атавы не касілі, бо не было сіл — моладзь усё больш і больш адыходзіла ў горад. Па атаве пускалі кароў.

Сядзіць Пяхота на Кляновічавым пні, любуецца, як пад сонечным ветрыкам хвалямі пераліваецца густая высокая трава, ільсніцца сонечнымі бляскамі, і думае, як жа будзе яе скасіць? Трэба спецыяльны захад перад райвыканкомам, перад Чухноўскім адносна аплаты працадня. Можна ж у канцы канцоў аплаціць і сенам. Людзі пойдуць і на гэта. Адкуль у Чухноўскага стварыўся такі погляд, што нельга «балаваць калгаснікаў», а то інакш яны папсуюцца? Пяхота паціскае плячыма і такое стаўленне да калгаснікаў называе антысацыялістычным. Не, трэба прыходзіць нарэшце да такога парадку, каб народ і зямля былі адзіны, каб свядомасць чалавечая падымала культуру зямлі для чалавека. Інакш сельскай гаспадарцы пагражае правал.

Калі Пяхота вярнуўся дахаты, яго «мілачка» дала яму тэлеграму. У тэлеграме гаварылася: «Выязджаем з Мінска 20/VI. Прывет. Кляновіч. Грушка».

Твар агранома праясніўся. Нешта пачынаецца. Час добры, час добры...

* * *

Чорная бліпчастая машына спынілася ля хаткі Грушкавай маці. З машыны выйшаў толькі адзін Грушка. Рэктар Капля, сакратар ЦК, Кляновіч паехалі ў гасцініцу. Час быў пазнаваты, і стомленым пасажырам хацелася адпачынку. Усё ж такі ля гасцініцы чакалі гасцей аграном Пяхота і гідраінжынер Грыбавец.

Назаўтра пачалі агляд калгаса з пасяўнога кліна. Пасля абеду аглядалі сенажаці. На Кляновічавым пні сядзеў рэктар Капля, і захапленню яго тым, што бачыў, не было канца.

— Гэта ж першабытны край! Мне сняцца тут геалагічныя эпохі! — ускрыкваў Капля і ад задавальнення ляпаў сябе па каленях.

Калі ж паехалі ў лес і ён убачыў стойла для кароў, для дабранай чырвонай пароды, сказаў:

— Гэта ўжо... пачаткі таго, што трэба...

Нават і пасечку паглядзелі блізка ля грэцкага поля. Там гаспадарыў стары Несцер.

— Толькі што пачынаем разводзіць,— паясняў аграном Пяхота,— маем толькі пятнаццаць вулляў.

Вяртаючыся з пасекі, спыніліся ля возера, і там адбылася першая нарада, на якой прыйшлі да адзінага вывала, што Серадзібор мае сапраўды ўсе кампаненты для універсальнай гаспадаркі. Іван Іванавіч Пяхота запісваў пад дыктоўку рэктара, Кляновіча, што патрэбна на першы пачатак для Серадзібора, каб пачаць ужо ажыццяўляць гэты вялікі план. Усе адразу сказалі, што трэба скончыць меліярацыйную станцыю.

— Я думаю, што трэба адкрыць тут сельскагаспадарчы тэхнікум. Трэба адразу каваць кадры,— сказаў рэктар,— тэхнікум павінен быць пашыранага профілю. Ён павінен даць не толькі спецыяльныя сельскагаспадарчыя веды, але і выхоўваць новага чалавека. А значыць, павінны выкладацца палітычныя навукі і мастацкая літаратура, спевы, музыка. Да гэтага трэба дадаць экскурсіі.

За тэхнікумам прыйшла прапанова пабудаваць харошы клуб-тэатр з дадатковай залай для мастацкай самадзейнасці і курсаў самаадукацыі. Гэта для дарослых.

— З усяго відаць, таварышы,— пачаў гаварыць сакратар ЦК, той самы сакратар Івановіч, які ў свой час аглядаў пшаніцу Пяхоты,— што нам прыйдзецца выдзеліць спецыяльныя фонды на закладку гэтай гаспадаркі

і, безумоўна, умела, разумна рэгуляваць іх. Вернемся ў Мінск, паставім пытанне на бюро ЦК, і думаю, што вырашым дадатна.

К вечару пад'ехалі Чухноўскі і Булавін, і ў гасцініцы адбылася другая нарада, на якой Чухноўскі напросту спалохаўся такіх перспектыў Серадзібора.

— Мы надарвёмся з такім Серадзіборам,— гаварыў ён.

А вось Булавін, наадварот, узрадаваўся, гаворачы, што такія пачынанні выведуць Серадзібор на шырокую дарогу росквіту і што ўсе расходы акупяцца.

Пасля сакратар ЦК, Чухноўскі і Булавін ад'ехалі ў Азярышча, а рэктар па просьбе Кляновіча і Грушкі астаўся. Іхнім намерам было агледзець больш дальнія мясціны навокал Серадзібора, каб падрыхтаваць арыенціры для глебазнаўчай экспедыцыі, якая намячалася з боку сельскагаспадарчай акадэміі.

Па запрашэнню Грушкі і яго маці ўсе згадзіліся правесці вечар у «матчынай хатцы». Рэктар Капля, высокі і плячысты, здавалася, ледзь змяшчаўся ў ёй. Але ўсё агледзеў, пачынаючы з куханькі, зазірнуў нават у печ, у якой патрэскванне дроў выклікала ў яго ўсмешку.

— Люблю, матухна, калі патрэскваюць дровы ў печы,— гаварыў ён Аляксандры Максімаўне,— гэта, матухна, цэлая музыка, як струны ў цымбалах.

Пад столлю за бэлькай тырчала многа ўжо засушаных пучкоў рознага зелля, і на гэта звярнуў увагу рэктар.

— Дык вы, матухна, чараўніца... Вось дабярыце мне травіцу такую, каб памаладзець. Старым ужо раблюся.

— Ды ў нашых тут лясах, балотах, можа, і яна ёсць,— адказала Аляксандра, крыху саромеючыся гэтага вучонага мужа.

— У вашых лясах і балотах усё ёсць. Не толькі воды, травы розныя. Людзей харошых у вас многа.

Увайшла Вера Ігнатаўна.

— Вось і наша знаёміца. Барацьбіт за здароўе серадзіборскага народа. Таксама чараўніца.

— Жартуеце, жартуеце, Фёдар Раманавіч,— усміхнулася Вера Ігнатаўна.

— Ды дзе ж пажартаваць, як не тут,— у вас усё спрыяе жартам.

Пры аглядзе Грушкавай бібліятэкі рэктар раптам адвярнуўся ад стэлажоў і спытаўся ў маладога прафесара:

— Слухайце, бацюхна, а вы арыгінал сваёй дысертацыі здалі ў архіў акадэміі?

— Не, Фёдар Раманавіч, не здаў. Усё забываюся.

— Зараз жа знайдзіце яго.

Грушка пачаў шукаць чарнавік дысертацыі там, дзе ён быў калісьці паложаны яго рукою,— на другім стэлажы ад столі. Там было пустое месца, а на трэцім стэлажы знайшлася толькі апошняя старонка дысертацыі. Трывога ахапіла Грушку. Ён сягнуў да шуфляды ў стале — няма. Перабраў паперы на стале — няма. Глянуў, разгублены, на столь, але там нічога не вісела. Больш няма дзе шукаць. Пайшоў на кухню пытацца ў маці. Маці ўцерла спатнелы лоб адваротным бокам далоні і задумалася.

Вера Ігнатаўна, захінуўшыся фартухом, памагала рыхтаваць вячэру — мыла сухія грыбы для квасу.

Аляксандра папрасіла яе паглядзець за скаварадой з аладкамі і пайшла з сынам да стэлажоў. Спыталася, дзе ляжала тая дысертацыя. Сын паказаў. Маці глянула на свайго Платона і дакорліва паківала галавою.

— Сынок, сынок... недарма ж я казала табе не займацца з гэтым чалавекам...

— Пра каго ты думаеш, мама?

— А помніш, як ты прыязджаў з Марыяй, і ўвечары тут ля кніжак сядзеў Гойдала. Бачыла я, як ён гробся тут, браў кніжкі, паперы. Я хацела табе сказаць тады... Але забылася... Ён... гэта яго кіпцюры тут пахадзілі.

Грушка вырашыў заўтра ж напісаць пісьмо ў Мінск у рэдакцыю «Шляху» на імя Міхася Гойдалы-Гайдалевіча, хоць у душы лічыў гэта дарэмным. Трэба прымаць нейкія іншыя захады.

Грушка караў сябе ў душы за такую сваю нядбайнасць. Цяпер шукай ветру ў полі.

## ПЕСНЯ СТАРОГА НЕСЦЕРА

Мінула ўжо два гады, як стары Несцер стаў ўдаўцом. Гэта было яшчэ тады, калі канчалі новую хату. Дні ішлі насустрач радасці, а тут раптам адзін удар за другім напаткаў старога Несцера. Памёр старэйшы сын Сцяпан, палкоўнік, інжынер-хімік. Ездзіў Даніла ў Маскву і прывёз адтуль урну з прахам Сцяпана. Адбылося незвычайнае для Серадзібора пахаванне праху сярод дзедаўскіх магіл.

А хутка памерла і старая Тэкля.

Нягледзячы на гэта, стары Несцер не пакідаў сваёй рупнасці і ў адну з нядзель узышоў на Вострую гару ў нейкай не то роспачы, не то злосці, бо жыта асыпацца пачало, а яшчэ ні аднаго снапа не зжата. Даніла быў на месячных курсах старшынь калгасаў у вобласці, агранома Пяхоту якраз выклікалі ў Мінск у міністэрства, і не было з кім заняцца хлебнымі справамі.

Вострая гара заўсёды была для мясцовых людзей свайго роду душэўным арыенцірам. Многа падзей адбывалася за жыццё серадзіборцаў навокал гэтай гары. Сюды ўзлазілі ваенныя штабы з біноклямі: нашы — рускія, і не нашы — нямецкія. І тады біноклі накіроўваліся ў далёкія надлесныя прасторы.

А ў жыцці звычайным бывала ўсяк. Калі, напрыклад, жонка ўцякала ад раз'юшанага мужа, то людзі казалі, што забегла аж на Вострую гару; сілачы, падвыпіўшы ў карчме, ішлі дужацца на Вострую; калі сунуліся па дарозе жабракі, спыняліся тут ля вялікага каменя адпачыць. А ў часы партызанства ўжо не толькі штабы, а найчасцей маці з дзецьмі ўзыходзілі сюды, каб паглядзець, ці не набліжаюцца гітлераўскія галаварэзы...

Так Вострая гара ў той роспачны час пацягнула да сябе і старога Несцера. І ён стаяў там, высока, бачыў палеткі са збожжам, як паласкаліся ў іх ветраныя хвалі, і стукаў сябе ў грудзі, прыгаворваючы: «Мяне старшынёю зрабіце! Мяне!»

І гэта ўсё адышло ў нябыт. Паляпшэннем павеяла ў Серадзібары. Чаму? Бо Кляновіч стаў намеснікам міністра сельскай гаспадаркі. Споўнілася тое, што гаварылася пры аглядзе Серадзібора камісіяй з акадэміі — каб увесці такога намесніка. Вядома, гэтае месца толькі Кляновічу — барацьбіту за перадавое. Пра гэта і загаварылі серадзіборцы. З пачуццём палёгкі яны спадзяюцца, што іх справы цяпер пойдуць як трэба.

І вось надышоў час для Несцера — зрабіць, можа, апошняе ў сваім жыцці — справіць вяселле свайму апошняму дзіцяці — Любе. Ужо даўнавата пазналіся Аляксандр Грыбавец і яна. Людзі пачалі ўжо наракаць, дакуль яны будуць хадзіць не пабраўшыся.

Усе, хто міл душы старога, запрошаны на вяселле — нават Булавін Андрэй Ягоравіч, другі сакратар райкома. Пазнаў у ім Несцер разумнага, добрага чалавека. А вось Чухноўскага не запрасіў. Няхай крыўдзіцца,— ён жа

столькі крыўды нарабіў Серадзібору. Вельмі ўжо настойвала і настаяла, каб не запрашаць Чухноўскага, Тацяна Карпец, якая на вяселлі будзе ў ролі маці Любы. І стары Несцер паслухаўся яе.

Такім чынам, прыехалі: Павел Кляновіч, Платон Грушка, Аляксей Жарнавік, які ўжо скончыў партыйную школу. Саша скончыла сваю лекарскую навуку, і яны абое — Аляксей і Саша — прыехалі ў Серадзібор, можна сказаць, на сталае жыццё. Вера Ігнатаўна даўно чакала Сашу.

Версія аб невіноўнасці Банадзюка, нягледзячы на паездкі Агрыпіны ў Мінск, яшчэ жыла. І жыў сам Банадзюк, які ўвайшоў у кантакты з Зашчамілам з таго часу, як пры помачы аднаго свайго саслужыўца забяспечыў працай у балотнай станцыі Духмуровіча-Куцілоўскага.

На помач Агрыпіне прыйшоў сам былы азярышчанскі бургамістр Мікалай Вайткевіч. Ён даў ёй поўную спраўку аб нячыстай дзейнасці Банадзюка ў партызанах, што баяўся даць у свой час Рыбіну. Паказанні Вайткевіча абасноўваліся на гутарцы з сястрою Банадзюка.

Другой вялікай помаччу для Агрыпіны былі паказанні маладога Махаеда. Іван Махаед сам пайшоў да Занозіна з пісьмом, у якім апісаў гісторыю свайго адведвання лагера паліцаяў у лесе ў якасці контрразведчыка, будучы ў атрадзе Чаравакі. Дадалі яшчэ свае даведкі, таксама заверания Занозіным, як і першыя, штабісты Васіля Чараваі — Паўлёнак і Разумейка. Да іх далучыўся і сам Васіль Чаравака.

З такімі паперамі Агрыпіна паехала ў Мінск і дабілася арыштавання Банадзюка. З такою перамогай вярнулася яна з Мінска і прыняла запрашэнне старога Несцера на вяселле. Прыехаў у Серадзібор і сам Вайткевіч, каб давецца ў Агрыпіны аб выніках яе паездкі ў Мінск, і тут быў затрыманы Несцерам.

Вайткевіч наогул пачуў, што ў Серадзібары пачынаецца нешта новае, гаспадарскае. Абы толькі гаспадарскае, каб пакончылася з гэтым марнатраўствам, на якое вочы не могуць глядзець. Вось у райкоме з'явіўся другі сакратар Булавін, ад якога Вайткевіч у захапленні, як некалі ад Малашкіна. З разумнымі людзьмі можа быць толк.

І Вайткевіч, стары мясцовы палітык, задаволены запрашэннем старога Несцера. Шэрыя вочы яго бліпічаць, смяюцца, рука працягваецца да сустрэчных, якія спыняюцца, каб з ім пагаварыць. А старому Несцеру ён кажа: «Што было дрэннага, Несцер, няхай мне выбачаць людзі.

Я ўсё зрабіў, што мог, каб лепш было...» І усё ж такі заставалася нейкая недамова, ад якой, здаецца, нікуды не схаваешся. Хто ж будзе суддзёю? Час і праца. Вайткевіч і кажа Несцеру, што быў бы рад пасяліцца ў Серадзібары, калі б прынялі яго за садоўніка. Развёў бы вялікі сад, развёў бы пчол. Несцер яму адказвае: «Можа яно, Мікалай, так і будзе... Савецкая ўласць — яна вялікая. Можа прыцягнуць і цябе. І трэба табе, Мікалай, прыхіліцца да яе...»

«Я нічога кепскага не думаю пра Савецкую ўласць. Каб толькі гаспадарка была на зямлі, будзе і Савецкая ўласць. Сам ведаеш, я за добрую гаспадарку...»

...Вяселле было ў поўным разгары. Гідраінжынер Грыбавец і звеннявая Люба вылучаліся сярод усіх кветкамі. Белыя пялёсткі туліліся да зялёных лісткоў і гаварылі аб маладосці, аб сіле.

Сталоў было нешта шэсць. За асобным сталом пры акне сядзелі старыя сябры: Платон Грушка з Верай Ігнатаўнай, Агрыпіна, Аляксей Жарнавік з Сашай, Коля Мілаш з Нінай, да іх далучыўся і Булавін Андрэй Ягоравіч. Несцер запрашаў яго сесці за галоўны стол, але ён, падзякаваўшы, адмовіўся. Ля яго сеў і Вайткевіч.

За галоўным сталом Несцер з покуці, як старасвецкі бог, благаслаўляў кожную страву. Побач з ім сядзелі аграномы: Кляновіч, Пяхота з жонкаю, а з другога боку — Таццяна Карпец, ля якой азірала стол удумлівымі спакойнымі вачыма маці Грушкі Аляксандра. Тут жа туліліся і Даніла з Кацярынай — прыбраныя, вясёлыя. На другім канцы стала завіхаўся з чаркаю Васіль Чаравака і побач з ім Судакоў, якога ніяк не абмінеш, хоць душа Несцера ніяк да яго не хілілася.

За другімі сталамі сядзелі розныя сваты, сваццi, паўбраты, паўсёстры — уся радня. Там час ад часу ўзнікала песня, свая, народная...

Хадзіла паванька
Па высокай гарэ,
Губляла пер'ечка
Па шаўковай траве...

Або іншыя:

Ой, лета, маё лета,
Не пажата маё жыта.
Каб жа мне другое лета,
То пажала б сваё жыта.

Стары Несцер пазіраў у той бок, слухаў песні, і пад сівымі вусамі прабягала ўсмешка. Знаёмае, далёкае сту-

калася ў душу і хацела таксама вырвацца. Калі сціхлі музыкі на двары за акном, дзе гуляла моладзь, стары Несцер устаў са сваёй старасвецкай чаркай у руцэ і сказаў:

— Дарагія госці!

І пачаў гаварыць аб маладосці, што трэба шанаваць маладосць, бо старасці клікаць не трэба. Яна прыйдзе сама. А для маладосці гады нічога не азначаюць — можна мець многа год і быць у душы маладым.

— Вось аб якой маладосці я часта думаю. Ёсць такая песня ў нашых людзей, дзе добра гаворыцца пра маладосць і пра старасць, і я, каб адным бабкам не было сумна запяваць, вам яе праспяваю. Гэта мая даўняя песня.

І стары Несцер пачаў:

Ой, валы мае, валы,
Чаго не гарэце,
Леты мае маладыя,
Чаго ж марна йдзеце?

Сівая галава яго паднялася ўверх, і мелодыя стала гучнейшай.

Запрагайце, запрагайце
Коні вараныя,
Ды паедзем даганяці
Леты маладыя.

Усе слухалі, а Несцер тонка выводзіў сваё, фальклорнае, што пад шумы лясныя вырасла ў народзе.

Ой, дагналі ж тыя леты
На каменным мосце,
Вярнецеся ж, мае леты,
Хоць да мяне ў госці.

Прыўзнятая Несцерава галава не апускаецца, і два зубы відаць з-пад вусоў. Жалем заліваецца песня, бо локаць не адчувае локця другога, локця Тэклі, з якою жыццё пражылося, і пражытаму павароту назад няма. І гэтым канчаецца песня старога Несцера.

Не вернемся, не вернемся,
Бо няма да чога,
Бо не ўмелі шанаваць
Лета маладога.

Яшчэ раз блiснулі два зубы з-пад сівых вусоў, і песня на высокай ноце сумна змоўкла...

Лодка плыла ціха пад лёгкімі штуршкамі вясла ў руках Платона Грушкі. Насупраць яго на папярочнай лавачцы ў месячным бляску і яго ценях сядзела Вера Ігнатаўна. Адцянялася бель твару, на якім вырысоўваліся

чорныя лініі броваў. Азёрная гладзь вяла іх усё далей і далей ад серадзіборскай дугі — туды, дзе лес акунуўся і застыў у бяздоннай цішыні водаў, усеяных зорамі. У іхніх сэрцах таксама яснелі зоры. Яны маўчалі і ў маўчанні сузіралі іх. Нішто не перашкаджала, каб яснасць разгаралася і свяціла далей. Гукі музыкі даносіліся з-пад страхі Несцеравай хаты і тонкімі тонамі рассціляліся па воднай шыры і звінелі далёка, далёка...

Калі вярнуліся назад і выйшлі з лодкі, селі пад страхою старога Несцеравага гумна на тым гаспадарскім тапчане, дзе заўсёды жылі зацішак і прытульнасць, а для вачэй — неаглядная даль возера.

Платон Грушка прытуліў да сябе яе, жаданую, лепшую, самую прыгожую на свеце.

## ЭПІЛОГ

Мінула год, як да кожнай сям'і ў горадзе і вёсцы дайшлі рашэнні слаўнага XX з'езда КПСС. Яны сталі сцягам новага гістарычнага зруху ў развіцці краіны сацыялізма.

XX з'езд сказаў, сфармуляваў тое, што ў кожнага патрыёта наспела ў душы, на з'ездзе яны ўбачылі саміх сябе.

Пленумы ЦК КПСС, у цэнтры якіх набатным звонам гудзела трывога аб сельскай гаспадарцы, былі прэлюдыяй з'езда, як тыя пагрукванні грому перад навальніцай.

XX з'езд пасеяў вясёлкавыя настроі і ў душах калгаснікаў, наблізіў іх да зямлі, сказаў, каб самі планавалі свае пасевы. У Серадзібары стаў гаспадаром Іван Іванавіч Пяхота, які выбірае месца пад азімую пшаніцу, які будуе трывалы севазварот у гэтай невычарпальнай гаспадарцы, якая мае ўсе кампаненты быць універсальнай.

У Серадзібор вярнуліся экскаватары і сталі на сваю вахту. Людзі сустрэлі іх і праводзілі на балоты радаснымі вачыма і ўспаміналі, з якім сумам некалі яны праводзілі іх з Серадзібора.

А Чухноўскі знік з Азярышча — яго знялі за акругленне лічбаў, за ліквідацыю працадзён у калгасах раёна і за тое, што не змог правільна паставіцца да кадраў і таму ўвесь час крыўдзіў людзей, такіх, як Тацяна Карпец, сваімі пагрозамі. Ходзяць чуткі, што ён паехаў у Кіславодск на лячэнне. З абкома, як у нас любяць казаць, паляцеў Міхаіл Міхайлавіч Гугновіч, за тое, што не вывеў

вобласць з адсталасці, што адарваўся ад народа, што абюракраціў апарат, што здзекаваўся з разумных чэсных работнікаў і кідаў іх у «апалу». Такім быў Булавін Андрэй Ягоравіч, які пасля XX з'езда стаў першым сакратаром райкома і вабіць да сябе Жарнавіка з Серадзібора на другога сакратара. Але адносна яго ёсць і другія меркаванні,— каб ён сумясціў у адно і пасаду парторга і старшыні сельсавета, бо Карчэня адыходзіць, як чалавек, у якога няма адчування новага часу. Па ўсім відаць, што пераможа другое меркаванне. Усе калгаснікі вельмі хочуць, каб у Серадзібары было харошае начальства. І ў дадатак ківаюць яшчэ на тое, што такая прыгожая Саша, фельчарыца, нарадзіла сына,— ну, і куды ж Жарнавіку адрывацца ад яе?

За паўтара года пасля спецыяльнага рашэння ЦК аб Серадзібары многа зроблена ў ім. Даканчана меліярацыйная станцыя, дзе гідраінжынер Грыбавец, ходзячы за экскаватарамі ў гумавых ботах, камандуе жыццём балот — абмервае іх удоўж і ўглыбіню, перамервае і не можа налюбавацца непаўторнаю красою прыроды. І ў дадатак да ўсяго ён піша кнігу аб дрэнажнай асушцы — каб асушка балот была трывалай на многа год, яна павінна быць дрэнажнай. Разам з гэтым у гідраінжынера Грыбаўца кладуцца на паперу цікавыя думкі аб рэльефнасці Палескай нізіны. Можа кожнага здзівіць, зацікавіць хоць бы такі факт, што возера Выганаўскае, якое мае адзінаццаць кіламетраў у даўжыню і пяць-шэсць у шырыню, па сваёй рэльефнасці знаходзіцца на ўзроўні вежы кафедральнага касцёла ў Пінску. І тут Грыбавец дае волю сваёй экскурсіі ў гісторыю Агінскага канала, вядзе гутарку аб майстэрскіх шлюзах пры возеры Выганаўскім, якія падтрымлівалі ўзровень вады ў ім, каб яно было суднаходным. Шлюзы знішчаны гітлераўцамі і не адноўлены, і стары водны шлях «з варагаў у грэкі» застыў, пачаў зарастаць быллём.

Пад страху новага будынка, у якім хутка адкрыецца сельскагаспадарчы тэхнікум, пераехаў з Мінска прафесар Платон Грушка, назначаны дырэктарам. Тэхнікум з чырвонай чарапічнай страхою стаіць над каналам, глядзіць вокнамі на поўдзень. На падворку раскінуўся той разгалісты дуб, пад якім у свой час Даніла зрабіў столік «для Грушкі і для ўсіх тых, хто яму спрыяе». Сасновыя бярвенні ў кабінеце пахнуць жывіцай, і Грушку хочацца пакінуць іх іменна такімі, без ніякіх штукатурак і фарбаў, як які-небудзь унікум сярод бору.

Грушка гутарыць з Данілам, старшынёю калгаса, аб пабудове цагельні на глінах, знойдзеных ім яшчэ даўно, у часе сваіх навуковых вандровак па серадзіборскіх прасторах.

Грушка пакуль што будуе бібліятэку, праглядае спісы кніг, намячае сам для закупкі новыя. У хатцы маці ён ужо не жыве. Ён жыве ў доміку, дзе вокны глядзяць на возера, дзе Вера Ігнатаўна чакае яго на абед, на вячэру. Яны часта любяць пасядзець пад дубам, потым прайсціся па канале да тых асушаных і ачышчаных ад хмызоў чатырохсот гектараў, дзе Пяхота завёў сваю гаспадарку, дзе побач з іншымі культурамі пачынае культываваць кукурузу, амаль што не сеяную ў Беларусі. Там на сотню гектараў шумяць каноплі. Яны не толькі шаўкавістыя, яны такія высокія, што чалавек на кані мог бы ў іх схавацца. Там расце лён-даўгунец, каласіцца высокае жыта, кусціцца кармавая бульба. Буракі таксама ёсць, але на іх страшэнна нападае зелле. Пяхота, каб паказаць усім эфектыўнасць свайго эксперыменту, сее не толькі лубін па жыце ў час яго красавання, але пасеяў некалькі гектараў мешанкі ячменю з аўсом і ўраджай мае выдатны. Абедзве расліны, спаборнічаючы за глебу, за сонца, даюць высокую салому і доўгія зярністыя каласы. Пасыпка свінням, цялятам забяспечана.

Пяхота прапануе на будучыню, калі правядзецца асушка ўсіх серадзіборскіх прастораў, адводзіць плошчы пад сланечнікі, мак, хмель і, безумоўна, пад боб і гарох. Апрача таго, ён кажа, што не трэба пакідаць серадзіборскіх традыцый і культываваць часнок. Пяхота рады, што старшынёю калгаса Даніла Падкова. Судакоў зняты.

Многа чаго хоча ўвесці аграном Пяхота, пра якога людзі пачынаюць гаварыць: «Гэта ж нейкі чараўнік... Гэта ж не жарты — у яго і ў бутэльках агуркі растуць...» Гэта ўсё праўда. Адзін парнічок у яго на сотках чаго варты. І пад яго камандай, як галоўнага агранома калгаса (бо прыехала яшчэ аграном-дзяўчына), пароблены парнікі на агародным надазер'і. Пяхота хутчэй чакае адкрыцця тэхнікума, каб там быць настаўнікам, прывіваць вучням любоў да чэснай працы на зямлі, любоў да прыроды. Ужо яго «мілачка» не сварыцца за тыя пшанічныя квадрацікі, якія ён хаваў пад плотам ад людскога вока, а цяпер перанёс на поле.

Платон Грушка і Вера Ігнатаўна таксама мараць аб будучыні Серадзібора, асабліва калі аглядаюць гэтыя ча-

тырыста гектараў асушаных тарфянікаў. Яны марацъ аб ім як аб культурным цэнтры, дзе ўсе людзі будуць пісьменнымі, свядомымі, закаханымі ў сацыялізм, камунізм, дзе не будзе ні вераб'ёў, ні духмуровічаў-куцілоўскіх, ні зашчамілаў і, вядома, такіх унтэрпрышыбеевых, як Чухноўскі, дзе ўпрыгожаннем чалавека будзе яго разумная праца, дзе змогуць радасна жыць і такія любімцы працы, як стары Несцер. Яму калгас даручыў глядзець за каналамі — гэта значыць абкошваць іх, каб не зарасталі, і платаю яму за гэта — накошанае сена. І адкуль у яго бяруцца сілы? Ён робіць з ахвотаю, стараннем.

Платон Грушка з Верай Ігнатаўнай не мінаюць старога Несцера. Ідуць па новым канале да яго, калі ён размахвае касою або зграбае ўжо сухое сена. Прафесар Грушка вядзе Веру Ігнатаўну пад руку, вядзе беражліва, з пашанаю. Гэта зразумела — Вера Ігнатаўна нясе ў сабе тую таямніцу жыцця, да якой прафесар мае такую вялікую пашану.

Яны пытаюцца ў старога Несцера пра пчолы. Ён ім расказвае пра іх і кажа, што пасекі кідаць не будзе, хоць галоўным пчаляром стаў усё ж такі Мікола Вайткевіч. Толькі са старым Несцерам яму жывецца найпэўней — іх спалучае лад думак, тая старая гаспадарская супольнасць, пры якой пражылі дзяды і бацькі, і Несцерава памяркоўнасць, якая можа многа выбачыць для добрай будучыні. Могуць жа прыйсці, як невядома адкуль, неспадзяванкі, якія, як магнітныя стрэлкі, даткнуцца да хворых месц душы і выявяць хваробу, пакажуць яе людзям.

Падобная чыясьці неспадзяванка наведала нечакана прафесара Платона Грушку. Калі ён сядзеў рана ў сваім бярвеністым дырэктарскім кабінеце, увайшоў Архіп з раменнай торбаю цераз плячо, напханаю пераважна газетамі, і падаў Грушку пакунак, перавязаны накрыж шнурком, і ў дадатак — звычайны ліст.

Архіп зноў знайшоў сабе «даходную стацыю», стаў лістаношай, бо тут таксама лёгка выкарыстоўваць для сябе пасаду. Хто Архіпу паднясе чарачку горкай і кавалачак сала з хлебам, таму ён спяшаецца прынесці газеты ў пару, а хто не, то газеты таго могуць паляжаць да вечара або нават і да заўтра.

Схіліўшыся над сваёй поштай, Грушка прачытаў на штампе «Омск» і паціснуў плячыма. Ад каго можа быць пошта з Омска, незразумела. Хто выслаў? Ага... Пётр Іванавіч Рыбін — знаёмы чалавек. Рукі ліхаманкава пачалі

развязваць пакунак. І вось ён ляжыць перад Грушкам, і вочы чытаюць: «Пяскі і супескі на Беларусі і іх пераўтварэнне». Дысертацыя! Дысертацыя! Арыгінал! А ён, Грушка, нерастаў ужо яе аплакваць, палічыў, што загінула. Ах, дарагі капітан Рыбін! Твая разумная пільнасць цябе не пакінула і там, куды ты трапіў для ўсіх нас неспадзявана. Усе ў нас цябе шкадуюць і цяпер.

Грушка распячатаў ліст. Ён быў кароткі. Каб ён не канчаўся словамі — «прымеце прывет з найлепшымі пажаданнямі», то яго можна было б палічыць лістам службовым. У ім пісалася: «Паважаны таварыш Грушка! Перасылаю Вам вашу дысертацыю. Яна знойдзена пры вобыску ў знаёмага Вам Міхаіла Васільевіча Гойдалы-Гайдалевіча, які намі затрыманы на месцы злачынства». А далей — прывет і подпіс.

Каб Грушка ведаў, пры якой акалічнасці затрыманы ў Омску Міхась Гойдала-Гайдалевіч, то думаў бы яшчэ вастрэй, яшчэ больш непрымірэнча. Гойдала сядзеў у рэстаране ўвечары з двума работнікамі мясцовай газеты, бо ён прыехаў у Сібір па камандзіроўцы газеты адведаць у першую чаргу будаўніцтва электрастанцый. Крыху воддаль сядзеў Рыбін, значна пасівелы, з жорсткім, абветраным тварам, і змеціў, пазнаў Міхася Гойдалу-Гайдалевіча.

Ён доўга такі сачыў за ім. А потым устаў і падышоў. Глянуў у вочы Гойдалу і сказаў, нахіліўшыся:

— Мы, здаецца, знаёмы...

Гойдала маўчаў, сумеўшыся. Было відно, што для яго такая сустрэча тут, у Сібіры, была поўнай неспадзяванкай.

— Міхаіл Васільевіч...— звярнуўся зноў Рыбін,— няўжо не пазнаеце капітана Рыбіна з Азярышча? Вы ж Міхаіл Васільевіч Гойдала-Гайдалевіч? Я думаю, што не памыліўся?

— Не...— прамовіў нясмела Гойдала,— вы, відаць, памыліліся, капітан.

— Не можа быць... Тады я вас змушаны запрасіць з сабою. Няўжо мая зрокавая памяць прытупілася?

Гойдала, стрымліваючы сваю збянтэжанасць, цяжка ўстаў, злёгку пакланіўся сваім субяседнікам і пайшоў наперадзе капітана да выхада.

Разведчыя пошукі Рыбіна ўстанавілі, што Міхась Гойдала-Гайдалевіч завязаў кантакты с Омскім сельскагаспадарчым інстытутам і быў ужо запісаны ў чаргу на абарону дысертацыі.

Ад работнікаў рэдакцыі мясцовай газеты Рыбін даве-

даўся, што Міхась Гойдала-Гайдалевіч змяніў прозвішча, выдаваў сябе за нейкага Бульбіча.

Ніці ад Міхася Гойдалы-Гайдалевіча плылі ў Мінск да пана Духмуровіча-Куцілоўскага, які стаў праваю рукою ў дзейнасці Фёдара Зашчамілы. Духмуровіча-Куцілоўскага часта можна было бачыць пры двух грузавіках на розных рынках Беларусі — больш у абласных цэнтрах. У грузавіках найбольш людское вока вабілі крамяныя агуркі і паўнакроўныя памідоры, выгадаваныя і сабраныя дбайнай рукою работнікаў двух зашчамілаўска-забеспячэнскіх пунктаў: першы — саўгас «Буракова» і другі — Балотная даследчая станцыя.

Але ўсяму бывае канец. Надышоў канец і аферысцка-зладзейскай дружбе Зашчамілы і Духмуровіча-Куцілоўскага. Адной месячнай ноччу, калі горад пахнуў свежым расцветам ліп, Духмуровіча-Куцілоўскага, разамлелага ад выпітай гàры, таксі вазіла па ўсім Мінску ў пошуках яго ўласнай кватэры. Шафёр па адрасах, сказаных панам Габрыэлем, вазіў яго, і ўсюды гэты дрэмлючы пан уздымаў такую лаянку, што шафёру здавалася, ці не чорт які сядзіць побач з ім. Пасля доўгіх пошукаў шафёр вымушаны быў вярнуцца на Прывакзальную плошчу і чакаць з дрэмлючым ягамосцем невядома чаго. Надарыліся два міліцыянеры, якія, ідучы сваёй службовай дарогай, зазірнулі ў акенца адзінокага таксі, якое знаходзілася ў стане, як кажуць,— ні тпру ні но. І тады шафёр кінуўся на апошні ратунак і запытаўся: «Скажыце, таварышы міліцыянеры, можа, вы знаеце гэтага грамадзяніна? Вось важу, важу па горадзе, а ён усё не прызнае сваю кватэру. Калі ж я ўрэшце спытаўся ў яго: «Дзе ж вы жывяце?», ён мне адказаў: «У с...цы!» Што гэта за жыхар — я не ведаю...»

Міліцыянеры засмяяліся і папрасілі «патомка княжацкага роду» з сабою. Не хацеў вылазіць з машыны гэты патомак, усё тарочыў аб нейкім праве і, горка ўздыхаючы, звешваў галаву, нешта мармычучы. Тады міліцыянеры селі ў машыну і загадалі шафёру везці да ўчастка.

Цераз месяц пасля такога незвычайнага здарэння з Духмуровічам-Куцілоўскім па горадзе пранеслася чутка, што ўсемагутны Фёдар Зашчаміла выключаны з партыі.

Хутка пасля гэтага дайшла да людзей другая навіна,— што Зашчаміла будзе аддадзены пад суд.

У душах работнікаў — партыйных і беспартыйных — прасвятлела. Усяму бывае свой канец, і добра, калі ён справядлівы.

Гоманам, наперабой, загаварылі людзі пра балячкі, якія спарадзіў у партыі і наогул у грамадстве перыяд культу асобы. Вядома, усе, каму дарагія інтарэсы партыі і народа, справы будаўніцтва камунізма, радаваліся, што гэты злавесны «культ» выкрыты партыяй перад усім светам.

Вестка аб такой «пядолі» Зашчамілы даляцела і да Серадзібора. Данёс яе Кляновіч у пісьме да Грушкі. Вестка напоўніла душы ўсіх, хто ведаў і не ведаў Зашчамілу, пачуццём, якое падымае гордасць нашай улады, падымае годнасць чалавека — напоўніла пачуццём справядлівасці ў абароне народнага жыцця.

У канверце, у якім Кляновіч прыслаў пісьмо Грушку, было яшчэ адно пісьмо — далёкае і жаданае. Пісьмо ад Малашкіна. Кляновіч просіць Грушку даць прачытаць яго сябрам. І чыталі і радаваліся, што Малашкін жывы, што працуе парторгам вялікага саўгаса над самай Волгай. Не хавае Малашкін і таго, што па прыездзе з Беларусі доўга прахварэў. Але... паправіўся. Стаў на ногі, пайшоў да працы. Ён просіць напісаць пра Серадзібор,— як з ім, што з ім,— і кажа, што ён над Волгаю будуе свой Серадзібор. Не абмінуў, каб не спытацца пра Гугновіча, пра Зашчамілу. Ён вітае ўсіх з дваццатым з'ездам партыі і шкадуе, што не дажыў да яго ў Азярышчы. Пісьмо Малашкіна талковае, таварыскае, цёплае... Але пра Маню сваю нічога не піша...

Усе чыталі пісьмо Малашкіна, радаваліся і смуткавалі, і кожны захацеў напісаць яму пісьмо. Саша, жонка Жарнавіка, сказала, што таксама напіша — па-першае, аб тым, што нейкая немалая доля супольных мар збылася — Серадзібор пачынае расці, пачынае шумець...

На баравую і бярозава-залацістую восень першага года пасля XX з'езда КПСС рыхтавалася ў Серадзібары першая выстаўка. Яна будзе размешчана ўздоўж надканальнай дарогі пад аховаю сосен і дубоў. На адкрыццё яе прыедуць прадстаўнікі ЦК, урада, абкома, райкома і райвыканкома. Сярод іх будзе і рэктар сельскагаспадарчай акадэміі Фёдар Раманавіч Капля. Пяхота запросіць лепшых аграномаў з вобласці. На выстаўцы калгас «Серадзібор» будзе ўзведзены ў ранг саўгаса. Адкрые выстаўку ўсім тут знаёмы і паважаны цяпер ужо міністр сельскай гаспадаркі Павел Кандратавіч Кляновіч.

*1959—1962 гг.*

# КАМЕНТАРЫІ

Чацвёрты том Збору твораў Пiлiпа Пестрака складае раман «Серадзiбор».

Друкуецца па тэксту апошняга прыжыццёвага выдання (Зб. тв. у 4-х тамах. Мн., «Беларусь», 1971. Т. 4. Серадзiбор. Раман.) [1].

Пры ўстанаўленнi асноўнага тэксту i напiсаннi каментарыяў выкарыстаны наступныя матэрыялы:

1) Полымя, 1961, № 1, 2; 1962, № 10, 11; 1963, № 3;

2) выданне Серадзiбор, 1963 [2];

3) Лiт. i мастацтва, 1960, 11 кастр.; 1961, 22 жн.;

4) архiў сям'i П. Пестрака. Аўтарызаваныя машынапiсы:

а) першадрукаванага тэксту з праўкамi аўтара. На вокладцы папкi памета: «№ 3 Няпоўны тэкст да друку ў «Полымi», не хапае некалькi лiсткоў эпiлога»;

б) выдання Серадзiбор, 1963 з шматлiкiмi праўкамi i ўстаўкамi аўтара. На вокладцы папкi памета: «№ 1-а Пачатковы друк (поўнасцю)»;

в) выдання Серадзiбор, 1971 з нешматлiкiмi праўкамi аўтара. На вокладцы папкi памета: «№ 1 Першы перадрук».

У Цэнтральным Дзяржаўным архiве лiтаратуры i мастацтва БССР (ф. № 57, воп. № 1) захоўваецца аўтограф рамана, якi напiсаны сiнiм, зялёным i фiялетавым чарнiлам на стандартных лiстах белай нелiнаванай паперы i, таксама, на лiстках з вучнёўскага сшытка i пiсчай паперы. Аўтарскiя праўкi на старонках аўтографа нешматлiкiя.

Раман «Серадзiбор» — буйны, шматпланавы твор П. Пестрака. У iм аўтар расказвае аб жыццi i справах людзей пасляваеннай заходнебеларускай вёскi, што загубiлася сярод палёў, азёр i бароў. Адсюль i назва рамана — «Серадзiбор». Вядучая тэма твора — пасляваеннае аднаўленне сельскай гаспадаркi, калгасаў, наладжванне мiрнага жыцця. «У рамане,— адзначаў сам пiсьменнiк,— пастаўлена прынцыповае пытанне (тым больш аб зямлi беларускай) — Ча-

[1] У далейшым — Серадзiбор, 1971.

[2] Пiлiп Пестрак. Серадзiбор. Раман.— Мн.: Дзяржвыд БССР, 1963.—455 с.

лавек і Зямля. Калі ты, чалавек, не авалодаеш зямлёй ва ўсіх навуковых аспектах, тады... прагрэсу, а значыць і твайму існаванню пагражае небяспека перад жыццём, сучаснасцю»[1].

Раман з'яўляецца важнай вяхой у мастакоўскім развіцці пісьменніка. Твор адразу звярнуў на сябе ўвагу, атрымаў высокую ацэнку грамадскасці і літаратурнай крытыкі. 30 снежня 1964 г. за раман «Серадзібор» П. Пестраку была прысуджана літаратурная прэмія імя Якуба Коласа.

Упершыню асобнымі часткамі раман друкаваўся ў часопісе «Полымя». Першая кніга — у № 1 і № 2 за 1961 г. Амаль праз два гады былі апублікаваны другая і трэцяя кнігі. Другая была змешчана ў № 10, трэцяя — у № 10 і № 11 за 1962 г. Неўзабаве была надрукавана і апошняя, чацвёртая кніга — у № 3 за 1963 г.

Дарэчы, падзел рамана на часткі з падзагалоўкам да кожнай «кніга» захаваўся толькі ў першадруку. Пачынаючы з выдання Серадзібор, 1963 і ва ўсіх наступных аўтар замяніў слова «кніга» на «частка», што, безумоўна, больш адпавядае іх памеру і зместу.

Дата напісання рамана, пазначаная аўтарам ва ўсіх прыжыццёвых выданнях — 1959—1962 гг. Дакладная дата заканчэння, пастаўленая ў аўтарызаваных машынапісах,— 15 мая 1962 г.

Фактычныя дадзеныя даюць падставу меркаваць, што пачатак працы над раманам прыпадае на больш ранні час, а менавіта на 1958 г. У канцы гэтага года ў часопісе «Беларусь» (№ 11) быў змешчаны невялікі ўрывак пад назвай «Серадзібор». У ім расказваецца, як аграном Іван Іванавіч Пяхота вясеннім ранкам прыехаў да сакратара райкома партыі Малашкіна Сцяпана Пятровіча са сваімі турботамі — не ладзіць аграном са старшынёй калгаса.

Хаця тэкст гэтага ўрыўка не ўвайшоў у раман, але месца дзеяння, дзеючыя асобы і іх прозвішчы ў творы захаваліся.

Па нашых меркаваннях, ва ўрыўку «Серадзібор» адлюстраваны найбольш ранні этап працы пісьменніка над раманам, і таму ён уяўляе пэўную цікавасць для высвятлення гісторыі яго напісання.

Варта адзначыць, што жанр свайго твора П. Пестрак спачатку вызначыў як аповесць. Аб гэтым сведчыць памета пад загалоўкам названага ўрыўка: (урывак з аповесці). Але ў працэсе працы над творам жанр яго істотна змяніўся.

Аўтограф урыўка «Серадзібор» (с. 1—10) захоўваецца ў архіве сям'і пісьменніка. Ён напісаны сінім чарнілам на стандартных лістах неліянаванай паперы. Там жа захоўваецца і аўтарызаваны машынапіс гэтага ж урыўка (с. 1—7) з праўкамі аўтара і датай пад тэкстам: 29 жніўня 1958 г.

Да часу поўнай публікацыі рамана ў перыядычным друку былі змешчаны некаторыя яго ўрыўкі.

Урывак «У запаветным кутку» быў надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1960, 11 кастрычніка. Ён увайшоў у другі раздзел першай часткі рамана пад той жа назвай з нязначнай стылістычнай праўкай і невялікімі тэкставымі дапаўненнямі. У архіве сям'і пісьменніка захоўваецца таксама аўтарызаваны машынапіс гэтага ж урыўка, але пад назвай «Ці ж не ў запаветным кутку?!» (с. 1—12). Пад тэкстам дата: чэрвень — 1960 г.

---

[1] Пестрак П. Слова да чытачоў.— Газ. «Новае Палессе», 1965, 20 сак.

Урывак «У дарозе» быў надрукаваны ў газ. «Літ. і мастацтва», 1961, 22 жніўня. Пад назвай «У завіруху» ён увайшоў у другі раздзел другой часткі рамана з нязначнай стылістычнай праўкай і невялікімі тэкставымі дапаўненнямі.

У архіве сям'і пісьменніка захоўваюцца аўтарскі сшытак, блакнот і нататкі на асобных лістах, якія даюць нямала цікавага матэрыялу для раскрыцця працэсу творчай працы пісьменніка над раманам. У іх ён занатоўваў некаторыя жыццёвыя факты, падзеі, запісы-«нарыхтоўкі» да асобных частак і раздзелаў, творчыя думкі і меркаванні адносна далейшага развіцця сюжэта і кампазіцыі, пералічваў дзеючых асоб будучага рамана.

Вонкава даволі неаднастайныя і фрагментарныя, гэтыя запісы ўсё ж даюць магчымасць прасачыць, як выспявала паэтычная ідэя, як выношваўся той ці іншы вобраз, і, акрамя таго, выяўляюць агульную накіраванасць творчай думкі пісьменніка.

Вось некаторыя з гэтых запісаў:

1. *Жыхары Серадзібора, калі заснаваўся калгас, не хацелі прымаць назвы калгаса, якую прапанавалі райкомаўцы разам з райвыканкомаўцамі. Прасілі пакінуць назву старую. Пытанне назвы калгаса засталося адкрытым.*

(Гэта адзін з накідаў да сцэны зацверджання сходам назвы калгаса. У пашыраным і стылістычна дапрацаваным выглядзе ўвайшло ў раман.)

2. ...*Зліваецца ў адно лёс чалавечы і лёс народны.*

(Гэта як бы фармуляванне той унутранай тэмы, якая праходзіць праз увесь раман.)

3. *Цётка Тацяна-свінарка ў Мінску. Сядзіць на падаконніку магазіна «Сокі-воды» і сухама есць булку. Сама босая. Прабівае ўсіх праходзячых жанчын вачыма.*

(У перапрацаваным і пашыраным выглядзе ўвайшло ў раман.)

Запісы даюць таксама магчымасць прасачыць пошукі аўтарам прозвішчаў і імён для персанажаў рамана.

Ніжэй прыводзяцца толькі тыя дзеючыя асобы, прозвішчы, імёны або імёны па бацьку, якія былі ў рамане заменены на іншыя.

4) *Падкова Несцер Сідаравіч — калгаснік, у мінулым — бедны серадняк.* (У рамане — Падкова Несцер Іванавіч.)

5) *Хрысціна — жонка Несцера.* (У рамане — Тэкля.)

6) *Кірыла Заводзька — намеснік старшыні.* (У рамане — Кірыла Баркун.)

7) *Духмуровіч-Куцілоўскі Казімір Казіміравіч, старшыня калгаса ў вёсцы Забівачкі.* (У рамане — Духмуровіч-Куцілоўскі Габрыэль Станіслававіч.)

8) *Гойдала-Гайдалевіч Антон Антонавіч — былы кулак,ляснік і яго бацька на хутары.* (У рамане — Гойдала-Гайдалевіч Міхась Васілевіч.)

9) *Архіп Каўдун — гультай у калгасе, ходзіць, каб у каго выкастраваць свіней.* (У рамане — лежабока, гультай, які кожны дзень прыходзіць у чайную і стаіць ля печы, залажыўшы рукі за спіну.)

10) *Даніленчык Ігнат Андрэевіч — былы хутаранін.* (Прозвішча і імя па бацьку закрэслена і надпісана Вайтовіч Мікола; у рамане — Вайткевіч).

11) *Трусілка Палумей Барысавіч — кандыдат сельскагаспадарчых навук* (Прозвішча закрэслена і надпісана Зашчаміла. У ра-

мане — Зашчаміла Фёдар Арцёмавіч кандыдатам сельскагаспадарчых навук не стаў, бо атэстацыйная камісія ў Маскве не зацвердзіла яго дысертацыю.)

12) *Баравы Аляксей Сцяпанавіч — журналіст-карэспандэнт.* (Прозвішча закрэслена і надпісана Жарнавік; пад гэтым прозвішчам дзейнічае ў рамане.)

Трэба адзначыць, што пісьменнік творча ставіўся да сваіх запісаў: у адных выпадках спіслы, фактычны запіс у рамане ператвараўся ў мастацкую карціну, у другіх — падрабязны пераказ той ці іншай падзеі ператвараўся ў адну-дзве фразы мастацкага тэксту, а ў трэціх — аўтар пераносіў запіс у тэкст рамана амаль без змен.

Раман «Серадзібор» перапрацоўваўся і рэдагаваўся аўтарам пры перавыданнях. Найбольшую перапрацоўку твор зведаў пры падрыхтоўцы да асобнага выдання ў 1963 г. Аб кірунку і характары працы пісьменніка над першадрукаваным тэкстам пры падрыхтоўцы яго да выдання Серадзібор, 1963 мы можам меркаваць, супаставіўшы часопісны варыянт з тэкстам Серадзібор, 1963.

Параўнальны аналіз тэкстаў сведчыць, што аўтарская праўка не змяніла колькі-небудзь істотна ні ідэйнага зместу, ні вобразнай сістэмы твора ў цэлым. Яна толькі ўдасканаліла моўна-вобразную фактуру, стыль твора ў вузкім значэнні гэтага тэрміна. Прычым праўка ў рамане была даволі раўнамернай амаль па ўсіх раздзелах.

Асноўная сюжэтная схема таксама не змянілася. Перапрацоўка закранула толькі адну сюжэтную лінію — лінію Мацея Гусака.

У першадруку Мацей Гусак, камендант паліцэйскага гарнізона ў вёсцы Серадзібор, у час вайны, пры гітлераўцах забіваў, катаваў сумленных савецкіх людзей. Нават у Дзень Перамогі над фашысцкай Германіяй ён выразаў амаль усю сям'ю Пракопа Махаеда. За свае жахлівыя злачынствы Гусак быў засуджаны на 25 гадоў турмы. Але праз некаторы час ён быў вызвалены па амністыі і вярнуўся ў Серадзібор. Сын Махаеда, Іван, які служыў у Савецкай Арміі, даведаўшыся, што Гусак вярнуўся, прыязджае ў вёску і забівае Мацея Гусака.

Пры падрыхтоўцы да выдання Серадзібор, 1963 аўтар некалькі перабудаваў гэту сюжэтную лінію: Мацей Гусак не амнісціраваны і дамоў не вяртаецца. Амністыя гітлераўскага галаварэза была ў рамане зусім не матывіравана, і таму, відаць, П. Пестрак змяніў гэтую сюжэтную лінію. Такія эпізоды, як вяртанне Мацея Гусака ў вёску, абурэнне Васіля Чаравакі з выпадку амнісціравання Гусака, самасуд Івана Махаеда над звераладобным Гусаком, суд над Іванам Махаедам у Азярышчы — усё гэта поўнасцю было выключана пры перапрацоўцы.

Кампазіцыя твора таксама не зазнала змен, калі не лічыць, што колькасць падраздзелаў другога раздзела чацвёртай часткі паменшылася на адзін (адсутнічае падраздзел «Шумеў, як лес...»), а першапачатковая назва падраздзела другога раздзела «А яны жывуць...» заменена на «Цені». Зняцце падраздзела «Шумеў, як лес...» прадыктавана перапрацоўкай сюжэтнай лініі Мацея Гусака.

Кампазіцыя рамана своеасаблівая. У творы лёгка выдзяляюцца як бы паасобныя навелы. У прыватнасці, падраздзел «Алеся» прысвечаны былой партызанцы, красуні Алесі; «Асенняе павуцінне» — доктару Веры Лукашэвіч, «Маладыя вучоны» — прафесару

Платону Грушку і г. д. Але ад гэтага раман не рассыпаецца, не страчвае зладжанасці і мастацкай цэласнасці.

Акрамя перапрацоўкі сюжэтнай лініі Мацея Гусака, аўтар, рыхтуючы першадрук да перавыдання, ачышчаў тэкст ад неістотнага, што перашкаджала выразнасці думкі, маляўнічасці карцін і персанажаў.

Зазірнуўшы ў творчую лабараторыю пісьменніка, мы бачым яго пошукі больш дакладных моўна-стылёвых сродкаў у мэтах большай прастаты і яскравасці.

Спашлёмся на некалькі прыкладаў:

| Часопісны тэкст Полымя, 1961, № 1 | Серадзібор, 1963 |
| --- | --- |
| Расказ Кляновіча набіраў цікавасці, вялікага гарэння за праўду-матку (с. 42). | Расказ Кляновіча набіраў цікавасці (с. 7). |
| ...у якой ён служыў на фронце як ваенны карэспандэнт (с. 45). | ...дзе ён служыў ваенным карэспандэнтам (с. 11). |
| І не раз развважае сам сабе (с. 86). | Ён думае (с. 76). |

У некаторых выпадках праўка выяўлялася ў скарачэнні або выключэнні ўрыўкаў тэксту. Праўкамі такога роду пісьменнік дасягаў большай сцісласці і мастацкай выразнасці.

Дапрацоўваючы першадрукаваны тэкст да выдання Серадзібор, 1963, пісьменнік, акрамя стылістычнай праўкі і скарачэнняў, месцамі рабіў значныя ўстаўкі. Гэта датычыцца ў найбольшай ступені чацвёртай часткі рамана.

Прывядзём прыклады.

Серадзібор, 1963, с. 404—405, радкі 31—6, тэкст: Учора хадзіў ~ сюды?» — адсутнічае ў першадруку (Полымя, 1963, № 3, с. 94).

Серадзібор, 1963, с. 436, радкі 27—38, тэкст: ...і думае ~ правал,— адсутнічае ў першадруку (Полымя, 1963, № 3, с. 114).

Моўная тканіна твора — пабудова сказаў, лексіка, а таксама такія сродкі маляўнічасці, як метафары, параўнанні, эпітэты зазналі некаторыя змены ў кірунку большай выразнасці і лаканізму.

| Часопісны тэкст Полымя, 1961, № 1 | Серадзібор, 1963 |
| --- | --- |
| ...у насунутай на лоб кубанцы, якая ад заношанасці выглядала на галаве здалёк, як каструля... (с. 64). | ...у насунутай на лоб кубанцы, якая ад заношанасці выглядала на галаве здалёк, як тое цёрла, у якім труць мак... (с. 41). |
| ...бо аглушаныя перамогай забівачкаўцы... (с. 79). | ...бо ўсхваляваныя перамогай забівачкаўцы... (с. 65). |

Наступнае выданне — Серадзібор, 1971 — апошняе прыжыццёвае, найбольш аўтарытэтнае. Характар унесеных змен сведчыць аб тым, што, працуючы над тэкстам твора да названага выдання, пісьменнік імкнуўся пераадолець некаторую неразгорнутасць, схематычнасць сюжэтнай лініі Мацея Гусака. Устаўкамі цэлых эпізодаў, пашырэннем тэксту пісьменнік уносіў у гэтую лінію рамана

большую паглыбленасць і драматызм. Так, напрыклад, для выдання Серадзібор, 1971 напісаны занава эпізоды, у якіх расказваецца аб затрыманні Мацея Гусака і дастаўцы яго на суд у Азярышча.

У апошнім прыжыццёвым выданні больш разгорнута пададзены і вобраз Зашчаміла (занава напісаны эпізоды абароны кандыдацкай дысертацыі Ф. Зашчамілам і яго сутычкі з А. Жарнавіком).

Што датычыцца стылістычна-лексічных правак, то яны нешматлікія і не даюць матэрыялу для якіх-небудзь істотных тэксталагічных абагульненняў.

С. 13. *...як нейкая Пампея.*— Пампеі, антычны горад у Італіі непадалёку ад Неапаля, каля падножжа Везувія. У 79 н. э., у час вывяржэння Везувія, засыпаны 7—9-метровым слоем попелу і вулканічных парод.

С. 32. *Аблог* — даўно не воранае поле, звычайна пакрытае дзірваном, травой.

С. 40. *Гебітскамісарыят* — нямецкая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка на часова акупіраванай фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі СССР у Вялікую Айчынную вайну.

С. 52. *Раз'ятрыць* — тут — прычыніць маральныя пакуты.

С. 56. *...статуі прывезены ў свой час з Чанстахова...*— Чанстахова — горад у Польшчы з манастыром на Яснай гары, дзе знаходзіцца польская каталіцкая святыня — цудатворны абраз маткі боскай Чанстахоўскай.

*...ехаць у «пілігрымку»...*— ехаць на багамолле.

С. 57. *...заломы ў жытах* — заламаць заломы — зблытаць і заламаць на чым-небудзь полі пук жытніх сцяблоў з мэтай наклікаць бяду на гаспадара поля (з павер'я забабонных людзей).

С. 58. *...калі пілсудчыкаўскі ўрад пачаў праводзіць хутарызацыю...*— У Заходняй Беларусі ўрад Пілсудскага ажыццяўляў аграрную палітыку камасацыі — высяленне на хутары з мэтай узмацнення кулацтва як сацыяльнай апоры польскай буржуазіі ў беларускай вёсцы. Хутарызацыя была выгадна толькі заможным сялянам і кулакам, вяла да разарэння працоўнага сялянства, раз'ядноўвала і палітычна аслабляла яго. У пераважнай большасці хутарызацыя праводзілася прымусова, што выклікала хваляванні на вёсцы.

С. 83. *Паняверка* — пакуты, нягоды.

*Асвенцім* — горад у Польшчы, паблізу якога ў 1940—1945 гг. знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер, дзе загінула звыш 4 млн. чалавек.

С. 89. *Падзол* — бедная солямі глеба шаравата-белага колеру.

С. 92. *Дакучаеў Васіль Васільевіч* (1846—1903) — рускі вучоны-прыродазнавец, заснавальнік навуковага глебазнаўства.

С. 95. *Венцер* — рыбалоўная сетка ў выглядзе мяшка, нацягнутага на абручы.

С. 112. *...як «рыцэжэ тысёнц золнезы заваявалі»...* (польск. з дыялектн. асаблів.) — ...як «рыцары тысячы салдат заваявалі»...

С. 125. *«Восень на свеце — восень на сэрцы...»* — Радкі з верша Я. Купалы «З асенніх напеваў» (1905—1907):

Цяжанька марнеці
У жыцця паняверцы;
І восень па свеце,
І восень на сэрцы.

С. 138. *Гонта* — дахавы матэрыял у форме невялікіх дошчачак, вострa саструганых з аднаго боку і з пазам — з другога.

С. 154. *Элада* — назва Грэцыі па грэчаскай мове.

*Платон* (428 або 427 да н. э.— 348 або 347) — старажытнагрэчаскі філосаф-ідэаліст. Тут — у іранічным сэнсе.

*Македонія Старажытная* — рабаўладальніцкая дзяржава па Балканскім паўвостраве ў 5—2 стст. да н. э.

*Македонскі Аляксандр* (356—323 да н. э.) — палкаводзец і дзяржаўны дзеяч старажытнага свету, цар Македоніі з 336 г. Тут — у іранічным сэнсе.

С. 157. *Костычаў Павел Андрэевіч* (1845—1895) — рускі вучоны, адзін з заснавальнікаў агранамічнага глебазнаўства.

С. 166. *...на падворак Базыльянскіх муроў...*— муры манастыра Базыльянаў у Вільні. Базыльяне — члены аднаго са старажытнейшых хрысціянскіх манашанскіх ордэнаў. У Вялікім княстве Літоўскім першы манастыр Базыльянаў заснаваны ў канцы 15 ст.

С. 237. *Бёрды* — частка ткацкага станка ў выглядзе грэбеня.

С. 276. *Пранік* — тут — плоскі драўляны брусок з ручкай для выбівання бялізны пры мыцці.

С. 310. *Сёмуха* — царкоўна-хрысціянскае свята, якое адзначаецца на сёмым тыдні пасля вялікадня (у пятніцу).

С. 326. *Пранішнікаў Дзімітрый Мікалаевіч* (1865—1948) — савецкі вучоны ў галіне аграхіміі, фізіялогіі раслін і раслінаводства, заснавальнік рускай і савецкай школы аграхімікаў. Акадэмік АН СССР, УАСГНІЛ. Вучань К. А. Ціміразева. Лаўрэат прэміі імя У. І. Леніна, Дзяржаўнай прэміі СССР.

С. 327. *Вільямс Васіль Робертавіч* (1863—1939) — савецкі глебазнавец. Акадэмік АН СССР, АН БССР, УАСГНІЛ. Лаўрэат прэміі імя У. І. Леніна. У 1968 устаноўлены залаты медаль імя В. Р. Вільямса.

С. 385. *Гус Ян* (1371—1415) — мысліцель, заснавальнік і ідэолаг ранняй чэшскай Рэфармацыі, герой чэшскага народа.

С. 394. *Плябанія* — тут — дом, у якім жыве плябан.

*Плябан* — пробашч (ксёндз), які кіруе вясковай парафіяй.

*Парафія* — тут — акруга, тэрыторыя, якая адносіцца да аднаго касцёла і падпарадкоўваецца аднаму ксяндзу.

С. 411. *...да кожнай сям'і ў горадзе і вёсцы дайшлі рашэнні слаўнага XX з'езда КПСС.*— XX з'езд Камуністычнай партыі СССР праходзіў з 14 па 25 лютага 1956 г. у Маскве.

С. 412. *...возера Выганаўскае, якое мае адзінаццаць кіламетраў у даўжыню і пяць-шэсць у шырыню...*— Выганаўскае возера знаходзіцца ў басейне рэк Шчары і Ясельды, на мяжы Івацэвіцкага і Ляхавіцкага раёнаў Брэсцкай вобласці. Дакладная даўжыня возера 7 км, найбольшая шырыня 4,8 км, сярэдняя — 3,7 км.

*Агінскі канал* — частка былога Дняпроўска-Нёманскага воднага шляху. Злучае Ясельду (прыток Прыпяці) і Шчару (прыток Нёмана). Будаваўся ў 1767—1783 гг. па ініцыятыве слонімскага магната М. Агінскага.

*С. Забродская*

Як грамадзянін і як творчая індывідуальнасць Пілip Пестрак фарміраваўся на барыкадах класавага змагання. І ў літаратуру ўвайшоў перш за ўсё як песняр барыкад, стваральнік мужных вобразаў змагарных людзей, чыё жыццё і дзейнасць падначалены высокім мэтам грамадзянскага служэння справе народа і рэвалюцыі. Сюды найперш трэба аднесці палымяную паэзію даверасеўскага перыяду, шырокамаштабнае мастацкае палатно «Сустрэнемся на барыкадах», незавершаны раман «Лесавічанка».

Раман «Серадзібор» ад гэтых двух твораў розніцца не толькі праблематыкай, але сродкамі і прыёмамі мастацкага спасціжэння рэчаіснасці. Тут пісьменнік (першым подступам былі апавяданні) імкнецца асэнсаваць мірны пасляваенны час, малюе вобразы звычайных «будзённых» людзей, сфарміраваных у асоб умовамі працоўнага жыцця з яго неабходнасцямі, значнымі, а часам і не такімі пільнымі ўжо клопатамі. Асобныя з персанажаў «Серадзібору» бралі ўдзел у змаганні з ворагам, аднак, за адзінкавымі выключэннямі, гэта не адклалася ў іх вызначальнай дамінантай характару, што так уласціва мастацкім вобразам у «Сустрэнемся на барыкадах» і «Лесавічанцы». Станоўчым героям гэтых твораў характэрна рэвалюцыйная акрыленасць, яны жывуць і дзейнічаюць, кіруючыся высокімі меркамі грамадзянскіх ідэалаў, нясуць у сабе вышэйшы, прыўзняты над побытавымі паводзінамі «звычайнага» чалавека, сэнс.

Да напісання рамана «Серадзібор» Пілip Пестрак ужо меў значны вопыт празаіка, набыты перш за ўсё пад час працы над раманам «Сустрэнемся на барыкадах». Аднак пераход да чарговага маштабнага твора з'явіўся для пісьменніка новым выпрабаваннем на творчую сталасць. Як бы там ні было, а мірнага пасляваеннага жыцця, узятага ў яго абсяжнай ахопленасці ад вёскі да горада, ад працы земляроба да навукоўца, ён, мабыць, усё ж не мог так дасканала ведаць, як рэвалюцыйна-вызваленчую барацьбу, непасрэдным удзельнікам якой быў на працягу многіх гадоў.

У свой час, пасля з'яўлення ў друку, твор гэты выклікаў да сябе цікавасць найперш з боку чытача. Па раману праводзіліся канферэнцыі, ішлі ажыўленыя дыскусіі. Лепшае, што было напісана пра раман адразу ж пасля часопіснай, а потым і выдавецкай публікацыі асобнай кнігай — гэта рэцэнзія Міхася Стральцова. І сёння яна ўспрымаецца жывым, шчырым і прапікнёным словам аднаго пісьменніка пра твор другога. З уласцівымі яму прафесійнай тонкасцю і душэўным далікацтвам М. Стральцоў паглядзеў на «Серадзібор» як на выяўленне якасцей характару аўтара, як на люстра душы пісьменніка.

Крытыкаў, мабыць, тады ў першую чаргу цікавілі творы, у якіх найбольш ярка і выразна выяўляліся тэндэнцыі, абуджаныя ў літаратуры гістарычнымі рашэннямі XX з'езда КПСС. Усё, што ішло пад сцягам рашучага адмаўлення ранейшых догмаў, канонаў і схем, наватарскага абнаўлення формы, вострай сацыяльнай праблематыкі, непрымірымасці да недахопаў,— падтрымлівалася і захвочвалася. «Серадзібор» жа хутчэй за ўсё ўспрымаўся як твор традыцыйны, пазбаўлены яркай адметнасці ў форме і вострай праблемнасці ў змесце.

Але сёння, калі мы зводдалі часу ацэньваем літаратурны працэс, бачна і, можна сказаць, адваротнае тагачасным уяўленням: цяжка ў беларускай прозе знайсці яшчэ адзін такі твор, у якім бы так відочна і непрыхавана выявілі сябе тэндэнцыі пераходнага

перыяду ў развіцці нашай літаратуры, а ў нейкай меры і грамадства.

Лёгка сёння гаварыць — «пераходнага». Аднак зусім не лёгка было кожнаму пісьменніку ўнутрана перабудоўвацца і адпаведна пераарыентоўваць сваю творчасць.

Піліп Пестрак таксама, мабыць, не ўнік пэўных перажыванняў. Набыць раўнавагу душы паспрыяла, безумоўна, блізкасць да першаасноў жыцця, здаровы народны аптымізм, цвярозы сялянскі погляд на рэчы, вера ў праўду і справядлівасць. Пісьменнік не мог не бачыць, што працэсы, якія адбываліся тады ў грамадстве, якраз і былі скіраваны на карысць чалавеку, той справы, за якую сам аўтар у маладзейшыя гады так самаахвярна змагаўся.

Але аднаго разумення і нават пераканання тут мала. Неабходна было ўнутраную перакананасць ператварыць у своеасаблівую ідэйна-эстэтычную саманастройку. Дасягнуть гэтага, калі мець на ўвазе непасрэднасць і арганічнасць таленту, П. Пестраку было вельмі і вельмі няпроста.

Улічваць трэба таксама і тое, што ў аснову «Серадзібору», у параўнанні з папярэднім раманам «Сустрэнемся на барыкадах», клаўся новы жыццёвы матэрыял, які патрабаваў новых падыходаў, новых сродкаў мастацкага ўвасаблення і, думаецца, у першую чаргу большага псіхалагізму ў раскрыцці персанажаў. На месца рашучых мазкоў павінны былі прыйсці паўтоны, нюансы, бо на месца барацьбы па розныя бакі барыкад, дзе было дакладна вядома, хто твой сябар, а хто вораг, прыходзіла, калі карыстацца сучаснай палітычнай тэрміналогіяй, мірнае суіснаванне людзей, якія супольна ладзяць жыццё ў агульным доме.

Не, не ўсё, аднак жа, спакойна ў гэтым жыцці. І пісьменнік не толькі не замоўчвае, не згладжвае яго, але, наадварот, імкнецца шырока паказаць, драматызуючы такім чынам дзеянне, робячы яго фабульна цікавым чытачу.

Тады, у шасцідзесятыя гады, наша літаратура ўжо не магла і не хацела задавальняцца агульна-прыблізным паказам зла. Яна імкнулася разабрацца ў яго вытоках і сутнасці, дайсці да першапрычын, зразумець матывы паводзін адмоўных персанажаў, іх псіхалогію, ідэйна-палітычныя погляды, іх антымаральную сутнасць.

Паралельна з іншымі лініямі ў рамане даволі шырока распрацоўваецца гумарыстычна-сатырычная. Межы яе вызначаюцца сацыяльна-класавымі, маральна-этычнымі антыпатыямі пісьменніка. Ён, кіруючыся ўжо вядомымі нам поглядамі на выхаваўчае прызначэнне літаратуры, імкнецца ўсіх адмоўных персанажаў і звязаныя з імі з'явы і тэндэнцыі жыцця высмеяць, паказаць іх пікчэмнасць.

П. Пестрак належаў да тых пісьменнікаў, якія непасрэдна ішлі ў літаратуру ад жыцця, чэрпалі сілу ў ім і бачылі сваё мастакоўскае прызначэнне перш за ўсё ва ўздзеянні словам на рэчаіснасць.

Тое, што апісваецца ў рамане «Серадзібор», у прынцыпе пісьменнік ведаў пяблага, бо і тут перад намі жыццё, ад якога П. Пестрак ніколі не адварочваўся, не замыкаўся ў цесных сценах творчага кабінета.

Справа, аднак, не толькі ў жыццёвым вопыце і асаблівасцях таленту мастака, але яшчэ і ў адметнасцях развіцця пасляваеннага літаратурнага працэсу, у якім і пад моцным уздзеяннем якога фарміравалася празаічная манера пісьменніка.

Відаць, раман у значнай меры задумваўся ў палемічным пе-рыняцці аблегчанага паказу пасляваеннага жыцця са свядомым замоўчваннем і прыхаваннем праўды, са знароклівай ідэалізацыяй, што было характэрным для творчасці многіх пісьменнікаў.

На пачатку твора, калі П. Пестрак ад вайны пераходзіць да паказу мірнай працы, аднаўлення разбуранай вайной гаспадаркі, ён вуснамі першага сакратара райкома партыі Малашкіна паведамляе пра цяжкае становішча вызваленага ад фашысцкага нашэсця краю:

«У раёне было сорак вёсак, асталося дзевятнаццаць, дваццаць адна спалена. Коней маем пятнаццаць, не лічачы серадзіборскіх, кароў — трыццаць адну, свіней яшчэ менш — толькі пятнаццаць. Калёс таксама пятнаццаць, асталося трыццаць працэнтаў аблож-най задзірванелай зямлі, а дзе парослі і кусты. Гітлераўцы разбурылі гідратэхнічную сістэму нашага галоўнага канала. Уся зямля паранена-перакопана акопамі, траншэямі, перарыта танкамі, пасыпана асколкамі, патронамі і г. д. Нам трэба на такой зямлі пачаць здабываць хлеб, зямля чакае чалавечых рук — нашых рук, таварышы...» [1]

Які спрыяльны для эстэтычнага ўвасаблення жыццёвы грунт накрэслены тут! Ён даваў магчымасць пісьменніку паказаць не толькі цяжкасці, але і тое, як у іх пераадоленні выяўлялі сябе, гартаваліся па-сапраўднаму герaічныя характары мужных працавітых людзей, якія адраджалі жыццё з руін і попелу, наноў абжывалі скалечаную ворагам зямлю.

У рамане створаны досыць праўдзівыя і па-мастацку пераканаўчыя вобразы селяніна Несцера Падковы, яго сына Данілы, Насці Карпец. Аднак многія ўчынкі персанажаў, як, скажам, вельмі няпростае для пасляваеннага жыцця рашэнне Алесі Грынчык пакінуць працу ў буфеце, якая гарантавала ёй надзейны заробак, і пайсці даглядчыцай на ферму, дзе можна было не столькі зарабіць, колькі прарабіць, трэба браць чытачу на веру. Гэта асабліва відочна выяўляецца, калі раман П. Пестрака параўнаць з лепшымі творамі беларускай прозы, напісанымі на матэрыяле вясковага жыцця. Заўважым, што аднясенне «Серадзібору» да гэтага тэматычнага пласта досыць умоўнае, паколькі вёска тут не столькі з'яўляецца самамэтным аб'ектам аўтарскай увагі, колькі фонам, на якім і ў адносінах да якога выпрабоўваецца маральна-этычная сутнасць кіраўнічых кадраў раённага і абласнога маштабу, вывяраецца дзейнасць навукоўцаў.

Вобразы кіраўнікоў П. Пестрак імкнецца абмалёўваць усебакова, паказвае іх рэальнымі жывымі людзьмі, якія выяўляюць сваю сутнасць не толькі ў грамадска-вытворчай, але і ў пабытавай, сямейнай сферы, у тым ліку і ў інтымных узаемаадносінах. Смелым для свайго часу было ўвядзенне лініі, звязанай з «грэшным» каханнем першага сакратара райкома партыі Малашкіна да сваёй сакратаркі Сашы. Сітуацыя тут не надуманая, ■ рэальная, жыццёвая.

Мабыць, калі мець на ўвазе сённяшнія дасягненні літаратуры, пісьменніку варта было заглыбіцца ў перажыванні герояў, знутры раскрыць духоўны свет і душэўны стан і Малашкіна, і яго жонкі,

[1] Піліп Пестрак. Серадзібор. Зб. тв.: У 4-х т. Мн.: Маст. літ., 1971, т. 4, с. 35. У далейшым спасылкі робяцца па гэтым выданні з указаннем у дужках старонак тэксту.

і каханай. Але, незалежна ад гэтага, старонкі, па якіх апісваюцца іх ўзаемаадносіны, асвечаны пошукавасцю аўтарскай думкі, чытаюцца з добрай увагай і цікавасцю, успрымаюцца цалкам верагоднымі. Ці не ў першую чаргу дзякуючы ім вобраз сакратара райкома ажывае, набліжаецца да нас і па-чалавечы хвалюе.

Паказваючы «грэшнае» каханне Малашкіна, пісьменнік не запазычае колер, прызначаны дзеля абмалёўкі адмоўных персанажаў — наадварот, імкнецца сцвердзіць думку, што такое выяўленне пачуццяў цалкам законнае для нармальнай, духоўна развітай асобы.

Да гонару аўтара трэба аднесці і тое, што канфлікты знешні і ўнутраны ў гэтай сітуацыі пераплятаюцца, а асобныя староні, як, напрыклад, тыя, на якіх паказваецца нечаканае з'яўленне жонкі Малашкіна ў кампанію, дзе яе муж сядзіць побач з Сашай, напісаны жыва, непасрэдна, з сапраўдным драматычным напружаннем.

Адзін з цэнтральных вобразаў рамана — Грушка. Характар гэтага персанажа, таксама як і характар Малашкіна, празаік імкнуўся «ачалавечыць», зрабіць жывым, выклікаць да яго не толькі пачуццё замілавання, павагі, але і суперажывання, спачування ва ўсіх адносінах сімпатычнаму чалавеку, у якога, аднак, няўдала складваецца сямейнае жыццё. Але калі вобраз Малашкіна, які перажывае праўдзівую жыццёвую драму, выклікае сімпатыю, то тут паказваюцца ўзаемаадносіны апантанага навуковым пошукам, пазбаўленага бытавой хваткі маладога вучонага з будучай жонкай, якая, у адрозненне ад яго, аж занадта прыземлена, у нейкай меры нават знарок прымітызавана.

Малюючы характар Грушкі, пісьменнік, хутчэй за ўсё, меў досыць прыблізнае, шмат у чым стэрэатыпнае ўяўленне пра вучонага, цалкам паглынутага навуковай працай, які жыве ў свеце кніг і дрэнна арыентуецца ў рэальным жыцці, прынамсі, не можа цвяроза ацаніць сутнасць чалавека, з якім збіраецца паяднаць свой лёс на ўсё жыццё. І ўвогуле цяжка, амаль немагчыма з пэўнасцю сказаць, якія матывы ўскалыхнулі Грушкаву душу, калі ён наважыў ажаніцца з абсалютна далёкай і нават чужой яму па інтарэсах і схільнасцях дзяўчынай. Усё адбываецца раптоўна — прасвятленне ж таксама наступае хутка, але пасля жаніцьбы. У тым, што Марыя і ён — антыподы, аўтар стараецца нас пераканаць шмат якімі прыкладамі. Марыя адразу ж трапляе пад уплыў мацёрай мяшчанкі Чухноўскай і пачынае жыць па яе праграме.

Змест гэтага вобраза ілюструе тэзіс, згодна якому невуцтва, нізкі ўзровень культуры з'яўляюцца спрыяльнай глебай для мяшчанства.

Сучасная проза імкнецца да глыбокага спазнання чалавека незалежна ад таго, што ён сабой уяўляе з пункту гледжання нашых ідэйных, палітычных і маральна-этычных вартасцей.

Адносіны ж П. Пестрака да адмоўных персанажаў часцей за ўсё падмяняюцца шаржыраваннем, плакатнасцю і камікаваннем.

Камедыйнасць у рамане суіснуе побач з публіцыстычнасцю, утвараючы ў агульнай рэалістычнай плыні твора дзве досыць аўтаномна-самастойныя лініі.

Пілiп Сямёнавіч, па сведчанню тых, хто яго добра ведаў, быў ад прыроды чалавекам усмешлівым, меў бясспрэчныя задаткі гумарыста.

Калі гаварыць пра жыццёвую першааснову твора, то трэба

зазначыць, што яна аб'ектыўная: не было кадраў, на кіраўнічыя пасады часта назначаліся выпадковыя, без спецыяльных ведаў і прафесійнага вопыту, людзі, у гаспадарцы панавалі разладжанасць і неўсталяванасць. Да гонару П. Пестрака скажам, што ён быў адным з першых, хто пра негатыўныя з'явы павёў па-грамадзянску смелую і прынцыповую гаворку.

Адна з асноўных праблем рамана — узаемаадносіны кіраўніка з падпарадкаванымі яму людзьмі, метады і стыль кіраўніцтва. Праблема гэтая, дарэчы, з'яўлялася актуальнай не толькі для пасляваеннай рэчаіснасці, але застаецца такой і ў нашы дні. І вельмі многае з таго, што закрануў і смела вынес на людзі ў «Серадзібары» П. Пестрак, далёка яшчэ не рэалізавана нашай прозай да цяперашняга часу. Шчыра, без усякай аглядкі, прытворства і хітравання расказвае ён нам пра вельмі вострыя, складаныя, а то і балючыя моманты ва ўзаемаадносінах як паміж самімі кіруючымі работнікамі, так і паміж імі і простымі людзьмі, пераважна сялянствам.

«Серадзібор», відаць, задумваўся ў традыцыях рэалістычнага сацыяльна-бытавога рамана. Аўтар стварае праўдзівую атмасферу пасляваеннага жыцця, праз трапныя дэталі дазваляе ўбачыць карціну разбуранага, скалечанага вайной побыту, адчуць душу чалавека, якому давялося перажыць трагічныя абставіны ваеннага часу. Людзі адвыклі ад мірнай працы, выпрацаваўся новы псіхалагічны тып, новыя маральна-этычныя вартасці. У сюжэт рамана арганічна ўплятаецца лінія, звязаная з лёсам былога паліцэйскага Міхася Гойдалы, які перад самым вызваленнем перайшоў да партызанаў і цяпер, ужо ў мірны час, заклапочаны тым, каб удала ўладкавацца ў гэтым жыцці. Праз такую дэталь — Міхась з напакаванай салам і самагонкай торбай падпільноўвае ў нішчымнай сталовай патрэбных яму людзей з начальства — трапна прыгадваецца пасляваенная атмасфера. Усмешка, з якой аўтар падае гэты вобраз, ніколькі не дысгарманіруе з агульнай рэалістычнай плынню жыцця.

Камедыйнасць у рамане даволі ўдала спалучаецца з прыгодніцтвам, якое галоўным чынам звязана з адлюстраваннем тэмы бандытызму — рэальнай для пасляваеннага жыцця з'явы. Абедзве гэтыя лініі — камедыйная і прыгодніцкая — з'явіліся своеасаблівым адступленнем ад строга рэалістычнай.

Ужо на пачатку рамана зроблена заяўка на вельмі сімпатычны і разам з тым рэальны вобраз беларускай жанчыны Алесі, якая перажыла ў вайну вялікую трагедыю, але не счарсцвела душой, не стала абыякавай да людзей і той справы, якой яны займаюцца ў мірны час. У рэзкім кантрасце з ёй малюецца характар забойцы яе брата — Мацея Гусака. У ім увасабляецца штосьці крайне змрочнае, жорсткае, бяздушнае, што цяжкім каменем кладзецца на шляху ў людзей, якія з верай і надзеяй глядзяць у будучыню.

Сюжэт рамана разгортваецца натуральна і нязмушана, у аснове яго — само жыццё, дзе знаходзіцца месца і радасцям, і смутку, і спадзяванням на лепшае. Дзякуючы ўменню мастака ахапіць шырокую панараму рэчаіснасці, яго здольнасці пераключацца з аднаго на другое, і ствараецца ўражанне рухомасці сюжэта, твор пазбаўляецца апісальнасці, характары персанажаў паварочваюцца да нас новымі гранямі.

Скразнога канфлікту ў рамане, праўда, не атрымалася. Аднак ён ёсць, ён існуе паміж аўтарскім ідэалам і рэчаіснасцю, якая да-

лёка не адпавядае гэтаму ідэалу. Адсюль так шмат паказаных негатыўных праяў жыцця, такая заселенасць рамана персанажамі адмоўнага плана. Але ўражання змрочнасці, тым больш безвыходнасці пры чытанні твора не ўзнікае. І выратоўвае яго не аптымістычна-ружовая канцоўка, напісаная ў тоне шырока распаўсюджанай у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе тэорыі бесканфліктнасці, а святло аўтарскай душы, шчырасць у адносінах да жыцця і людзей, глыбокая зацікаўленасць у тым, каб усё змянілася на лепшае, перакананасць, што хоць і шмат яшчэ адмоўнага ў пасляваеннай рэчаіснасці, але ўсё ж навакольны свет мяняецца і перайначваецца ў лепшы бок.

Разам з тым думаецца, што такога агульнага падыходу да канфлікту паміж ідэалам і рэчаіснасцю было недастаткова, каб твор атрымаўся цэласным, дынамічным, мэтаімкнёным і цікавым чытачу. І пісьменнік, мабыць, гэта адчуў. Аднак ён не пайшоў па лініі сутыкнення цэнтральных персанажаў у грамадска значным, скразным для рамана канфлікце, а пачаў белетрызаваць дзеянне за кошт незвычайных падзей, экстрэмальных сітуацый, прыгодніцтва, звязанага з барацьбой супраць бандытызму.

Аўтара менш турбуе псіхалагічнае вытлумачэнне матываў дзеянняў і ўчынкаў персанажаў, іх стан пад час здзяйснення злачынства, а больш эфектнасць у падачы матэрыялу. Буйным планам, як у сучасным дэтэктыўным кіно, паказваецца, напрыклад, расправа Мацея Гусака з сям'ёй аднавяскоўца-бедняка. Дзесьці з разлікам на эфект апісваюцца спробы Мацея завалодаць Алесяй. Аднак забойства яе ўяўляецца абсалютна неапраўданым з пункту гледжання сюжэтнай цэласнасці — заяўка аўтара на вельмі цікавы народны характар, сімпатычны вобраз беларускай жанчыны-патрыёткі так і засталася па-мастацку да канца нерэалізаванай. Вобраз Алесі выкарыстоўваецца аўтарам дзеля патрэб прыгодніцка-дэтэктыўнай лініі. Персанаж амаль цалкам пазбаўляецца напаўнення, духоўнасць і маральнасць пры яго раскрыцці падмяняюцца функцыянальнасцю. Прыгодніцтва, мабыць, падагравалася ўспамінамі аўтара пра нядаўняе рэвалюцыйнае мінулае, пра свой удзел у нацыянальна-вызваленчай барацьбе, дзе ўсяго было, у тым ліку і самых неверагодных прыгод.

Тое, што надае «Серадзібору» прывабнасць, а ў значнай ступені і мастацкую цэласнасць — гэта шчырасць аўтарскага голасу. Празаік не імкнецца падладжвацца пад «высокую» літаратуру, не займаецца імітацыяй, не канструіруе рацыянальна свой твор, а піша яго непасрэдна, шчыра і проста. Якасць гэтая надзвычай важная для літаратуры і яе творцаў. І чым далей кожная літаратура развіваецца, чым больш у яе існуе небяспека залітаратурвання, тым вастрэй адчуваецца страта першароднай і нічым незаменнай рысы.

У гэтым плане раман «Серадзібор» уяўляе сабой цікавую з'яву. Твор напісаны са шчырай душэўнай аддачай і сёння абуджае да сябе жывую зацікаўленасць чытача.

*Яўген Лецка*

# ЗМЕСТ

## Частка першая

*Раздзел першы*
Выпадковая сустрэча . . . . . . . . . . . . . 5
У шуме аднаўлення . . . . . . . . . . . . . 13
Алеся . . . . . . . . . . . . . . . . . . 34
Дзень надышоў . . . . . . . . . . . . . . 52
*Раздзел другі*
Незвычайны пленум . . . . . . . . . . . . 63
Дым... . . . . . . . . . . . . . . . . . . 81
Ціхае рэха . . . . . . . . . . . . . . . . 83
У запаветным кутку . . . . . . . . . . . . 86
*Раздзел трэці*
Нечаканыя подступы . . . . . . . . . . . . 96
Асенняе павуцінне . . . . . . . . . . . . 109
Аб давер'і . . . . . . . . . . . . . . . . 117
Сцежкамі разведкі . . . . . . . . . . . . 125
Тры хаты . . . . . . . . . . . . . . . . 141
Бярозка на сцяне . . . . . . . . . . . . 147
Сябры . . . . . . . . . . . . . . . . . . 151
Нешта на пачаканні . . . . . . . . . . . 165
Выяўленні і рашэнні . . . . . . . . . . . 174

## Частка другая

*Раздзел першы*
Марозным ранкам . . . . . . . . . . . . . 180
Аб «гарачых падэшвах» і гарачых слядах . . 186
*Раздзел другі*
У палоне роздуму . . . . . . . . . . . . . 201
У завіруху . . . . . . . . . . . . . . . . 213
У выхадны дзень . . . . . . . . . . . . . 224
*Раздзел трэці*
Трафеі . . . . . . . . . . . . . . . . . . 233

## Частка трэцяя

*Раздзел першы*
Вострая гара . . . . . . . . . . . . . . . 256
Вавёрачка . . . . . . . . . . . . . . . . 266
Маладыя вучоны . . . . . . . . . . . . . . 272
Вузел пачуццяў . . . . . . . . . . . . . . 280
Агляд нявесткі . . . . . . . . . . . . . . 293
*Раздзел другі*
Пачынанні вучоных . . . . . . . . . . . . 303
Падзеі не чакаюць . . . . . . . . . . . . 311
Аграномава пшаніца . . . . . . . . . . . 320

*Раздзел трэці*
Асот . . . . . . . . . . . . . . . . 332
Артыкул прафесара Грушкі . . . . . . . 335
Вераснёвыя подыхі . . . . . . . . . . . 339
Запаветны пень . . . . . . . . . . . . 341
У горадзе . . . . . . . . . . . . . . 343
Палескі паяздок . . . . . . . . . . . . 353

## Частка чацвёртая

*Раздзел першы*
Праз гады . . . . . . . . . . . . . . 368
Дарожкі любві . . . . . . . . . . . . 375
*Раздзел другі*
Новыя намаганні . . . . . . . . . . . 391
Цені . . . . . . . . . . . . . . . . 393
Сярод цянётаў . . . . . . . . . . . . 397
Васіль Чаравака . . . . . . . . . . . 399
Рэктар . . . . . . . . . . . . . . . 403
Песня старога Несцера . . . . . . . . 406
Эпілог . . . . . . . . . . . . . . . 411
Каментарыі . . . . . . . . . . . . . 418

*Филипп Семенович Пестрак*

Собрание сочинений в пяти томах

ТОМ 4

СРЕДИБОРЬЕ

*Роман*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар А. А. Сляпцова. Мастак Г. Р. Малышаў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Карэктар Т. М. Собалева*

ІБ № 2196

Здадзена ў набор 14.02.85. Падп. да друку 29.08.85. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 23,10. Ул.-выд. арк. 25,13. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1184. Цана 1 р. 90 к..

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.